# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ПЯТАЯ—ШОСТАЯ*

МЕНСК—1939

*МАСКВА, КРЭМЛЬ*

# Таварышу Сталіну

## *ДАРАГІ ІОСІФ ВІСАРЫЁНАВІЧ!*

Калі над краінай твой голас прарочы
Узняўся з сусветнай трыбуны—Крэмля,
Панікді пачвары і прывіды ночы,
І слухала, дух затаіўшы зямля;

І сэрцам гарачым былі мы з табою
І крочылі ў мыслях за мудрым услед,
З вышынь недасяжных, што ўзялі мы з бою,
Тваімі вачамі глядзелі на свет.

І думка ляцела над светам, як сокал,
За межы радзімы. Там з краю ды ў край
Мы бачылі цемры шаленства навокал.
Мы бачылі гора людского адчай.

Мы бачылі—кроўю залітыя прасторы,
Дзе свастыкі чорныя цені ляглі,
Мы бачылі трупаў знявечаных горы,—
Шакалы фашысцкія іх сцераглі.

Імглістыя хмары над светам навіслі,
Удушлівым дымам прасякнута цьма,
Няма там прыпынку для творчае мыслі,
Разумнаму слову прытулку няма.

Забойцы, патомкі майстроў інквізіцый,
Там зноў аднаўляюць малюнак стары.
Пагромшчык гуляе па плошчах сталіц іх,
Кат геніяў творы нясе на кастры.

Глядзіць на нас Захад, як восень уночы,
Ды чорныя цені снуе па зямлі.
Там ходзіць трывога, там стогне рабочы,
Куюць там кайданы вайны кавалі.

Крывавыя цені, як слугі няшчасця,
Выходзяць з фашысцкіх пячорын і нор.
Разявіўшы прагна звярыныя пасці,
Разбойнікі ладзяць зладзейскі згавор.

Крывавай расою акроплены пожні
Іспанскіх узгор'яў, кітайскіх далін,
У заўтрашнім дні там не ўпэўнены кожны,
І дзень гэты ўсходзіць з-за чорных руін.

Ты нам растлумачыў законы галечы,
Дзікунства і гвалту. Мы шлем ім праклён
І славім адзіны закон чалавечы—
Леніна—Сталіна мудры закон.

* * *

Акінуўшы вокам шляхі і дарогі,
Што кованай сталлю за намі ляглі,
Мы бачым прасторы, мы бачым разлогі
Магутнай, дзівоснай Совецкай зямлі.

Над ёю шатрамі бяскрайняе шыры
Ірдзяцца ясноты вясёлкавых дзён,
Дзе творчая воля, пасланніца міру,
Еднае дзесяткі і сотні плямён;

Дзе сіла народаў адзіным патокам
Імклівіць няспынна да мэты адной —
Разумнай, праўдзівай, як сонца высокай —
Да брацтва народаў крыніцы жывой.

Дзе ў роўнай ступені рабочы, вучоны,
Паэт і калгаснік, мастак і актор
Атулен увагай, ахован законам,
Дзе творчым парывам расчынен прастор;

Бязмежныя шыры, бяскрайнія далі,
І творчае працы ясноты-шляхі
Адкрыў перад намі ты, мудры наш Сталін,
Наш бацька, настаўнік і друг дарагі!

* * *

Маўчала ў зняменні загнанае слова
Пад панскім прыгонам, пад царскім ярмом.
Ляжала над краем маўклівасць сурова,
Адна толькі скарга хадзіла цішком.

Маўчалі паэты ў маўчанні зацятым
І марна гібелі ў глушы мастакі,
Ды сумныя песні снаваліся ў хатах
Пра гора людское праз годы, вякі.

Над любай калыскай схілялася маці
З трывогай у сэрцы і пела ўначы,
Як злую нядолю рыхтуюць дзіцяці
Цары-крывасмокі, паны-крумкачы.

Але не ўмірала надзея народа,
І вера не гасла ў цудоўныя дні,
І тлелі вякамі праз цяжкія годы
Народныя сілы і праўды агні.

Прышла яна, праўда, у громах змагання,
На крыллях агністых кастрычніцкіх бур,
І радасны золак, прадвеснік світання,
Разліў па зямлі беларускай пурпур.

І канула ў вечнасць былое закляцце,
Апалі аковы няволі з бядой,
І ты, правадыр, у сям'ю яго брацкую
Заклікаў народ наш усёй грамадой.

У часы-ж навалы, у грознай прыгодзе,
Як родны наш бацька, ты нас ратаваў
І добрую памяць аб нашым народзе
Дагэтуль у сэрцы сваім захаваў.

З увагай штодзённай і з клопатам дбалым
Не зводзіш з нас вока і росціш народ.
Узняў ты высока наш край заняпалы
І нашаму слову даў творчы палёт.

Бязмежныя шыры, бяскрайнія далі
І творчае працы ясноты-шляхі
Адкрыў перад намі ты, родны наш Сталін,
Наш бацька, настаўнік і друг дарагі!

Ты нам паказаў сваім словам прарочым
Дарогу да шчасця, дарогу ў вякі.
Па гэтай дарозе з народам мы крочым —
Паэты, артысты, пяўцы, мастакі.

* * *

Мы службы не знаем больш слаўнай, пачэснай,
Як зліцца з народам у працы сумеснай
І зорнай дарогай тваёй, правадыр,
Нясці ўсяму свету і волю і мір.

Пра нас ты сказаў — і сардэчнае слова
Натхняе да працы вялікай і новай.
Мы вернымі будзем народу свайму,
І сілы, і веды, і песні — яму!

Магутнасць Антэя—у дружбе з зямлёю,
А наша — ў еднанні з народнай сям'ёю.
Крыштальны твой шлях, як крыніца ў лугах,—
Народа настаўнік, народа слуга!

Няхай наша творчасць, заўсёды жывая,
І сэрцы і думы людзей акрыляе,
Хай кожная песня і кісці узмах
Нам радасць прыносіць, а ворагам—страх!

Уславім зямлі раскаванае ўсходы,
Уславім арлоў — гадаванцаў народа,
У песнях, што нашыя сэрцы складуць,
Хай вечна героі народа жывуць!

Бацькі, што ў баях баранілі краіну,
Шчасліва ўсміхаюцца роднаму сыну —
Ён гучную скрыпку трымае ў руках,
Іграе пра вольна-адчынены шлях.

Ён першы між першых на конкурсах свету, —
На гонар, на славу краіны Саветаў.
Пад сталінскім сонцам, ласкавым заўжды,
Расце нашых талентаў сад малады.

Ці восенню ціхай, ці раннім прадвеснем,
Звініць у прасторах свабодная песня.
Найлепшая мара прыносіць нам плод.
Шчасліва жыве беларускі народ.

Збіраемся мы на вяселлі, на святы,
І чуецца песня: «Жывіце багата!».
Мы словам паэта і песняй сваёй
Радзімы любімай пільнуем спакой.

У скарбніцу перлы прыносілі людзі,
Яе вартавымі надзейнымі будзем.
Заззяюць ярчэй над савецкай зямлёй —
Чайкоўскі і Пушкін, Рэмбрандт і Талстой.

Як дар залаты, мы нясем тыя творы
У гушчы народа, у нашы прасторы.
Хай геніяў голас натхнёны гучыць,
Людзей навучае змагацца і жыць!

Мы партыі нашай магутную зброю —
Навуку марксізма, глыбока засвоім.
І вольнаму люду, як ззянне зары,
Яе панясуць мастакі, песняры.

Мы помнім гісторыі ясны наказ.
Ключы чалавечага шчасця у нас.
Каб свет комунізма хутчэй збудавалі,
Будзем як Ленін,
Будзем як Сталін!

* * *

Шчаслівыя мы сваёй роляй пачэснай,
Што вызначыў ты мастаку, песняру.
Мы першыя ў свеце з натхнёнаю песняй
Выходзім спаткаць комунізма зару.

Сагрэў ты, як сонца, лясы і дубровы
Бацькоўскаю ласкай, наш друг дарагі.
Праходзіць прасторамі гоман вясновы,
Красуюць узгоркі, палі і лугі.

І з песняй дзяўчына ідзе да крыніцы,
І з песняю хлопец свой трактар вядзе,
Пад песню праходзяць палкі ля граніцы,
Пад песню эскадра плыве па вадзе.

У слова мы ўклалі любоў да радзімы —
Яна нашым вобразам сілу дала,
Любоў да цябе, правадыр наш любімы,
Палёт нашых думак у высь паднята.

Мы цемры спрадвечнай пракляцце скрышалі,
Мы творым на славу совецкай зямлі —
Мы слова твайго залатыя скрыжалі
Над светам як сцягі мастацтва ўзнялі.

Жыццё чалавека зрабіў ты прыгожым,
Каб зоркаю кожны свяціў між людзей,
Мы справамі славім твой велічны розум,
Мы імем тваім называем дзяцей.

Бо сталінскім сонцам развеяны змрокі,
Шырокія ўсюды шляхі пралеглі,
Ідуць нашы дзеці упэўненым крокам
Па нашай, па сонцам залітай, зямлі.

Зямля, што агнём прамяністым сагрэта,
Што цёпла дыміцца вясной з-пад плугоў,
Пад сцены крэмлёўскія ў жніўнае лета
Нясе табе ў хвалях жытнёвых любоў.

Народнай любві залатыя зерняты
Збіраем мы ў лепшыя песні свае,
Мы з імі выходзім на людныя святы —
Народ іх пад сцягам чырвоным пяе.

Наказы твае паўстаюць перад намі,
І мы абяцаем, наш бацька, табе,
Што вернымі будзем Радзімы сынамі
У працы сваёй, у сваёй барацьбе.

У сталінскай дружбе красуюць народы,
З'ядналі іх дружбаю большэвікі,
Для нас яна роднаю будзе заўсёды,
Мы горда яе пранясем у вякі.

Мы чуем: вайны набліжаюцца буры,
Мы, сіл не шкадуючы, будзем штогод
Народ уздымаць да вышыняў культуры
І словам мастацкім узбройваць народ.

Клянемся табе, правадыр і настаўнік,
Як толькі вайна загрыміць над зямлёй,
Са зброяй і песняй суровай мы станем
На абарону Радзімы сваёй.

У бойцы смяротнай, праклятым фашыстам
Прысуд мы напішам магутнай рукой.
Пад Леніна—Сталіна сцягам агністым
Жыць будуць народы адзінай сям'ёй!

Няхай-жа красуе краіна Советаў
Працоўным на радасць, фашыстам на страх,
Хай вечна гарыць, палымнее над светам
Сцяг працы, наш ленінска-сталінскі сцяг!

Красуйся-ж і ты, правадыр наш любімы,
Як сонца з вышынь, асвятляй нам шляхі.
Наперад вядзі нас для шчасця радзімы,
Мы сэрцам з табой, правадыр дарагі!

*Пісьмо склалі:*

*ЯКУБ КОЛАС, К. КРАПІВА, А. КУЛЯШОЎ, Э. АГНЯЦВЕТ, М. КЛІМКОВІЧ*

Прынята на агульным сходзе работнікаў літаратуры і мастацтва г. Менска

*М. Паслядовіч*

# ПАУСТАННЕ

Што датычыць настрояў беларускіх сялян за франтоваю паласою, дык, па нашых вестках, там адбываюцца суцэльныя паўстанні, працуюць партызанскія атрады, якія разбураюць тыл праціўніка, спальваюць склады і знішчаюць памешчыкаў.

*І. В. Сталін*

(З артыкула, надрукаванага ў газеце 16 арміі „Чырвонаармеец“ 15 чэрвеня 1920 года).

1

Дзесятага жніўня тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года верасняннцы, нарэшце, убачылі тое, чаго баяліся ўжо на працягу некалькіх дзён, пра што бясконца гаварылі ў кожнай хаце.

Першым прывёз страшную вестку ў Верасніцу Майсей Жаркевіч, старшыня бедняцкага камітэта. Ён быў выбраўся ўзараць пад жыта атрыманы на памешчыцкай зямлі надзел. Але вярнуўся гадзіны праз дзве, нават не дацягнуўшы да полудню, і, увесь пачарнелы ад нейкага смутку і трывогі, пачаў павольна адпрагаць каня перад варотамі, сярод вуліцы. Такая дзікая неўважлівасць адразу кінулася ўсім на вочы. Таму каля Жаркевічавай хаты неўзабаве сабраўся цэлы натоўп. Людзі збягаліся як на пажар. Невядомае і таямнічае—заўсёды прыцягвае цікаўных, як магніт.

Майсей Жаркевіч не заўважаў ні таго, што ён робіць, ні натоўпу, які моўчкі і ў страху пазіраў на яго павольныя і задуменныя рухі. Нехта быў тоненька хіхікнуў, але яго зараз-жа супакоілі злым шыканнем. Здавалася, што натоўп хацеў як мага далей працягнуць гэтую недарэчную і жахлівую ўрачыстасць, або чакаў, пакуль загаворыць сам Жаркевіч.

Тымчасам Жаркевіч рассупоніў хамут, адвязаў падпінак. Вызваленая ад гужоў аглабля груканулася аб зямлю. Тады Жаркевіч уздрыгануўся, нібы ад гарматнага стрэлу. І толькі цяпер агледзеўся дзе ён і што робіць. І ўсе пачулі яго ўзлаваную, шалёную лаянку.

У гэтую хвіліну з хаты выскачыла Жаркевічыха. Не бачучы з-за людзей, што робіцца ў сярэдзіне натоўпу, але адчуваючы штосьці нядобрае, яна прабілася локцямі да мужа і схапіла яго за руку.

— Майсей?! Што ты робіш? Ці не звар'яцеў?! Хіба не бачыш?

Майсей Жаркевіч плюнуў, зноў падняў аглаблю. Хутка воз, у суправаджэнні натоўпу, апынуўся на двары. Аднекуль прыбег Віктар, сын. Бацька адступіўся ад каня і сказаў, нібы ні да каго не звяртаючыся:

— Маёнтак занялі палякі... Нашы адступаюць за Бярозу...

І ўсе нібы аселі ад гэтай весткі, зрабіліся ніжэйшымі, пагорбіліся. Стары Мікола Верабей няўцямна падняў каўнер жакеткі усёроўна, быццам яму раптам зрабілася холадна ў гэты цёплы, лагодны дзень.

А дзень быў спакойны і ціхі. Ніводнай хмаркі не плыло ў густым сінім небе. Унізе, за гародам, паблісквала паміж стагоў і лазовых зараснікоў Свіслач. Яна пераліваласяпад сонцам як трапяткое жывое срэбра. Бесклапотна шчабяталі, снуючы над ліпамі, стаі маладых ластавак. У празрыстай зіхатлівай парнасці плавала доўгая цёмная града Вецярэвіцкай пушчы. Туды, у гэтую грозную цяпер далячынь, пазіралі вераснянцы. І ад таго, што нічога яшчэ не бачылі, ад таго, што вялікім спакоем і цішынёю дыхала зямля, страшна ўсім зрабілася ад Жаркевічавых слоў.

— А, можа... яны да нас не дойдуць?—дрыглівым голасам прамовіў Мікола Верабей.—Можа яны пабаяцца далей ісці? Не паспелі аддыхацца ад немцаў, дык на во табе!.. Была свабода—і няма яе, была зямля — і няма яе. Э-эх!.. Людзі, людзі!

Ён разбіў вішнёвым кійком камяк засохлай зямлі каля сваіх ног і, унурыўшы галаву, пацёгся павольна з жаркевічавага двара. За ім следам хутка рушылі і астатнія. На двары асталіся толькі Жаркевіч з жонкай і сынам.

— Ну, вось, цяпер каму-каму, а табе будзе за старшынства,— прамовіла жонка.—Казала не слухацца, калі пачнуць выбіраць у камітэт! Другім што: яны панскай зямлі не дзялілі, рэквізіцыі не памагалі. З'есць цяпер нас пан Свяніцкі, з'есць Корбут!..

І яна загаласіла яшчэ мацней, чым на вуліцы. У кожнай нечаканай падзеі яна мела, як і ўсе жанчыны, прывычку бачыць толькі нядобрае. А тут яшчэ муж не адказваў нічога, не супакойваў яе. Стаяў сярод двара хмурны і маўклівы. Над густымі калматымі брывамі сабраліся вострыя, каляныя зморшчыны. Значыць, сам адчувае, што насоўваецца вялікая, няўхільная бяда.

— Б-бо-жа-ж мой!..—не сціхала жонка.—Што рабіць будзем?

— Завяла,—разняў, нарэшце, моцна сціснутыя губы Жаркевіч.— Невядома яшчэ, ці дойдуць паны да нашай вёскі. Можа яны і ў маёнтку не патрымаюцца. Ну, заскочылі пярэднія часці, разведка, можа...

— А шмат іх там?—запытаўся ў бацькі Віктар.

— Чорт іх лічыў. Можа дваццаць, а можа і сорак. Конныя ўсе.

Віктар вышаў на вуліцу. Там і сям каля хат стаялі групкі мужчын і жанчын. Многія з іх заходзілі ў хаты, але заставаліся там нядоўга: здавалася, што людзі не знаходзілі сабе месца ў гэты поўны трывогі час. Хутка да Жаркевічавай хаты пачалі збірацца члены камітэта беднаты.

Прайшоў каля Віктара дзед Верабей. Ён ужо аціх і паспакайнеў.

Ён яшчэ лёгка нёс сваё кастлявае васмідзесяцігодняе цела. У шэрых вачах яго паблісквалі ледзь улоўныя іскры зведанага і перажытага.

— Вот, дзед Верабей,—гукнуў з бліжэйшай прызбы Мікола Поташ, чорны, як цыган, мужчына.—Усяго ты пабачыў на свеце, а таго, што будзе—не бачыў.

— Таго, што будзе, не бачыў і ты, хлопча,—адказаў прыпыніўшыся каля яго дзед.—І ніхто яшчэ, хлопча, не бачыў таго, што будзе.

Мікола Поташ сагнаў з прызбы хлапца, каб даць дзеду месца сесці.

— А я толькі збіраўся па авёс на памешчыцкай зямлі,—сказаў ён, калі дзед сеў.—Цяпер баюся ехаць. Яшчэ застрэляць у маёнтку.

— І ўправы нідзе не знойдзеш,—хуценька адказаў нізенькі Зміtрок Буйневіч, якога на ўсю воласць ведалі за трапнае перайманне голасу жывёлы.—Цяпер паны і лес прыпомняць.

І ўсе мімаволі азірнуліся на будынкі.

А паглядзець тут было на што. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі вераснянцы хутка разбагацелі на дрэва. Бадай, кожны выстраіў сабе новы дом. Зашчыткі былі ўпрыгожаны выгабляванымі дошкамі ў «елачку», вокны—жоўтымі вакяніцамі. У тых, хто не паспеў паставіць новай хаты, ляжала па-падстрэшшу нарыхтаванае бярвенне. Некаторыя, у каго было па двое коней, паспелі нацягаць дрэва на дзве хаты, на гумны, на свірны. І ніхто на іх за гэта не крычаў і нікога не трэба было баяцца. Аб'езчыкі і ляснікі як праз зямлю праваліліся. Стаяць цяпер хаты, як званкі, жоўтыя, смольныя. Здаволена ўсміхаліся вераснянцы.

— Дурні былі раней, ды ўсё. Лес пад бокам, пушча гэтакая! Дарэмна гібелі мы ў альховых халупах. Даўно трэба было гэтай буржуазіі даць пад зад.

А вясною пачалі дзяліць і засяваць панскую зямлю.

Было чаго цяпер устрывожыцца і задумацца вераснянцам. Кастрычніцкая рэвалюцыя дала ім свабоду, зямлю, лес, усё, чаго яны не мелі спрадвеку. І вось зноў прыедзе пан Свяніцкі (добра было-б, каб ён дзе-небудзь здох за гэты час!—думаў кожны) і зноў пачнецца стары прыгон. Адна думка пра гэта наганяла жаху на вераснянцаў.

— Чорт яго ведае,—нібы разважаючы сам з сабою, паціху прамовіў Поташ.—А можа прарвуся да аўса? Не больш возу асталося...

— Альбо, альбо,—адказаў востры на слых дзед.—Тады ўжо лепш не ехаць.

— А калі яны тут навекі астануцца? То што: прападаць майму аўсу, пакідаць чорту лысаму? Для пана я сеяў, ці што?

— Немцы, таксама, мусіць думалі навек астацца,—зірнуў на Поташа яснымі вачамі Верабей.—Ды не вышла ў іх. Шведы сюды прыходзілі, Напалеон. Мала што каму думаецца і хочацца. А ці ўтрымаліся яны тут? Бачылі капцы-курганы над ракою? Вось што ад іх засталося! і няма тут гэтых ваякаў. Тое і з панамі будзе.

— Пакуль будзе, дык абяруць да ніткі, як і немцы!

— Абы душа засталася ў целе. Душа даражэй за ўсё. А яе ніхто адабраць не можа.

Пакуль адбываліся такія гаворкі сярод дарослых, хлапчукі, якіх і страшылі і разам з тым цікавілі гэтыя падзеі, паўзбіраліся на азяроды і ліпы. Бацькі, занятыя раптоўным сумным клопатам, не звярталі на іх увагі. Некаторыя нават панабіралі за пазуху каменняў, каб па-геройску адбіць панскую атаку на Верасніцу. Самае цікавае было для дзяцей у тым, што даўно заціхла далёкая гарматная страляніна, а яшчэ не было відаць не толькі белапалякаў, але і адступаючых чырвонаармейцаў. Можа, дзядзьку Жаркевічу здалося, што ў маёнтак паехалі паны? Хлапцы напружана пазіралі з азяродаў у бок маёнтка. І раптам убачылі, як выскачылі адтуль некалькі коннікаў у ніколі нябачанай форме і, адстрэльваючыся, шпарка паімчаліся ў бок пушчы, на захад. Але неўзабаве зноў павярнулі назад: нехта пачаў страляць па іх з невялікага альховага зарасніку. Два жаўнеры паляцелі з коней на зямлю.

— Куды вас халера паўзганяла!—крыкнуў знізу на хлапцоў Поташ, які, задыхаўшыся, прыбег на гумнішча.—Зараз-жа злазьце! Можа хочаце, каб забіла?! Ах, вы...

Поташ не скончыў. На захад ад Верасніцы, адразу-ж за высокай гарою, раптам сурова і ўрачыста грымнуў гарматны стрэл. У адказ яму, як аддаленае рэха, пачуўся выбух снарада. Яшчэ раз разлёгся за ўзгоркам зацяжны пяруновы ўдар гарматы. Тады недзе далей і правей гары, як жалезны гарох па бляшаным даху, забарабаніў кулямёт. Яшчэ праз некалькі хвілін з-за ўзгорку паказаўся абоз. Дарога закурылася густым цяжкім пылам. І нельга было разабраць: нашы гэта едуць, ці наступаюць чужыя, свая гэта б'е гармата і сакочуць кулямёты, ці страляе нахабны і дзёрзкі вораг.

Усе верасняцы рынуліся на агароды, каб схавацца ў густыя каноплі, каб ушыцца ў барозны град. Многія пазалазілі ў ямы і паграбы, дзе ссыпалася на зіму бульба. Калі калёсы загрукацелі па вуліцы, калі пачулася гаворка—храбрэйшыя адважыліся высунуць галаву са сховішчаў і ўбачылі, што едуць свае. Так патроху зноў павылазілі ўсе.

На некаторых вазах ляжалі і стагналі параненыя чырвонаармейцы. Байцы былі ўкрыты шэрым пылам, на загарэлых і стомленых тварах паблісквалі адны вочы. Калі абоз нечага прыпыніўся на момант, жанчыны кінуліся ў каморы. Яны выносілі чырвонаармейцам хлеб, сала, збанкі малака. Усхвалявана падавалі ўсё гэта на вазы, адварочваліся на момант, каб сцерці рукавом раптоўныя слёзы.

— Ешце, дзеткі!.. Можа, і мой дзе так...

— Нічога не зробіш, мамаша,—прамовіў ахрыплым голасам чырвонаармеец, па адзнаках камандзір.—Пакуль што адступаем. Насядаюць сволачы з новенькімі французскімі пушкамі і вінтоўкамі. За іх спіною ўся Антанта, уся сусветная буржуазія. Каб не рваўся Дзенікін да Масквы, каб не Калчак, не Юдзеніч, дык мы-б гэту шляхту раздушылі, як гніду. І раздушым! Во, чуеце,—крыкнуў ён, павярнуўшы твар у бок гары,—гэта нашы трохдзюймовачкі садзяць! Беглым агнём.

Зямля дрыжэла і стагнала. Лопаліся і вылятаді з акон шыбы. Абозныя заспяшаліся і рушылі далей. Не паспела апошняя фур-

манка пераехаць цераз мост, як над Верасніцай пругка шургануў снарад і ўпаў на сенажаці, узняўшы ўгару чорны слуп гразі і дыму. Польская батарэя пачала абстрэл Верасніцы. Бой цягнуўся да заходу сонца. Потым наша батарэя знялася і пераехала цераз мост. Замоўклі і польскія гарматы. Затое яшчэ доўгі час не сціхала шалёная кулямётная і вінтовачная страляніна.

Схаваўшыся за таўшчэразным ствалом ліпы на Вераб'ёвым агародзе Віктар устрывожана пазіраў на агонь, які лютаваў над Паташовым гумном. Яно загарэлася ад чацвертага польскага снарада. Ужо насунуўся на зямлю змрок. Вялізнае крывавае зарава гойдалася над сялом. Потым змоўклі кулямёты. Толькі час ад часу чуліся рэдкія вінтовачныя стрэлы з таго ці другога боку. Віктар бачыў, як прабіраліся да мосту апошнія групы чырвонаармейцаў. Калі на гэтым баку ўжо не засталося ніводнага байца, мост узняўся ўгару ад страшэннага выбуху. Яшчэ некаторы момант мільгалі па той бок ракі асветленыя водбліскамі пажару асобныя постаці чырвонаармейцаў. Потым і яны зніклі.

І разам з гэтым у Віктара ў грудзях як штосьці абарвалася, нібы ён назаўсёды страціў самае блізкае і дарагое.

Ён асеў на зямлю і заплакаў.

II

Белапалякі занялі Верасніцу раніцою, калі ўзышло сонца. Агледзеўшы гумны і хлявы, увесь час трымаючы на спагатове грамаздаватыя французскія вінтоўкі з прымацаванымі да іх цесакамі, яны нарэшце рушылі да хат.

Здаравенны, з чыста выбрытым шырокім тварам, падхарунжы ўварваўся ў сенцы Майсея Жаркевіча. За ім, скоса паглядаючы па баках, нетаропка ўвайшло пяцёра салдат.

— Давай большэвіка, пся маць!—зароў падхарунжы на Віктара, які тоўк секачом бульбу ў карыце.—Гдзе ест зброя?

У гэты момант у сенцы ўваходзіў даўгі хударлявы жаўнер. Яго падвешаная на плечы вінтоўка гулка ўдарылася цесаком аб смольную шапку вушака. Жаўнер ускрыкнуў ад нечаканасці і скочыў з парогу на двор, нібы ўбачыў перад сабою роту чырвонаармейцаў. Астатнія жаўнеры, пачуўшы за сваёй спіною спалоханы воклiч кампаньёна і, не ведаючы яшчэ ў чым справа, таксама рынуліся да дзвярэй. Падхарунжы ад усяго гэтага перапалоху націснуў на спуск і куля ўедліва жыгнула разам з агнём каля Віктаравых вушэй.

— Ах вы, тхужы пшэкленты!—грымнуў падхарунжы на сваіх напалоханых жаўнераў, якія кінулі яго аднаго ў сенцах.—Абяцаю імем маткі боскай чэнстахоўскай, што я выб'ю з вашых брыдкіх душ гэтую хлопскую баязлівасць! Напшуд, пся маць ваша!

Узахвочаныя гэтым воклічам жаўнеры зноў уляцелі ў сенцы. Доўгі, скочыўшы на кубел, пачаў узбірацца на гару. Астатнія, адапхнуўшы ў бок Жаркевічыху, якая ледзь жывая ад страху выскачыла з хаты, рушылі ў камору.

— Кажы, дзе схаваны большэвікі?—Дзе вінтоўкі?—усё больш люцеючы, трос падхарунжы збялелага Віктара.—Дзе старшыня рэўкома?

— Паночак!..—загаласіла жанчына.—Гэта мой сын... Ён яшчэ дзіця. Ён нічога не ведае...

— Што-а?—павярнуўся да яе падхарунжы.—Дзіця? Такія дзеці каля Менску з кулямётаў па нас стралялі! Кажы, дзе схаваны комуністы?

Ён шырока ступіў да кубла. Яго тоўстая гладкая шыя аж гарэла ад злосці. Скінуўшы на падлогу века, ён перагнуўся і пачаў корпацца ў кубле, паволі цішэючы, як звер, што, нарэшце, дабраўся да даўно чаканае спажывы. Доўгі жаўнер, убачыўшы, што на гары няма ніякага большэвіка, саскочыў уніз і асцярожна наблізіўся да занятага кублам падхарунжага.

— У пакой!—не чакаючы яго рапарту і не паварочваючыся, махнуў рукой начальнік.—Шукаць!

— Паночку! .. Паночкі! ..—стагнала Жаркевічыха, дрыжучы ад страху і крыўды, што так груба і нахабна гаспадарацъ з яе дабром, якое вялося ад першых дзён замужжа. Нават ад таго часу, калі яна была яшчэ дзяўчынай і з вялікай любоўю ткала гэтыя палотны, адбеленыя пасля на цёплых росах. Цяпер адна за адною выляталі на падлогу трубкі дарагога, як памяць, кужэлю. Паляцеў і загойдаўся ў паветры папяровы абраз божай маткі з дзіцем на руках. З гэтым абразом яна ішла пад вянец дваццаць год таму назад.

Яна чакала, што зараз грымне над хатаю пярун і абложыць на месцы дзёрскага, прышоўшага з далёкага чужога краю, святататца. Яна закрыла твар рукамі і павольна загойдалася з боку на бок, як у цяжкім і жахлівым сне. Але ўсемагутны бог не паслаў сваёй кары.

Падхарунжы, дабраўшыся да дна і не знайшоўшы там ніводнага ворага, спрытна падхапіў і апусціў у сваю кішэню невялічкі звонкі вузялок, у якім было чатыры рублі сорак капеек срэбра. Жаркевічыха стаяла ўжо ў немым адрантвенні.

Тым часам з каморы вышлі астатнія жаўнеры. Падхарунжы выпрастаўся і хціва зірнуў на іх кішэні. Здавалася, ён хацеў прапаліць сваім позіркам цёмнае сукно, каб толькі ўбачыць, якая здабыча трапіла жаўнерам. Але вочы ў салдат былі самыя нявінныя. З самым нявінным выглядам адзін выносіў у зялёным кошыку дзесяткі два яек, а другі трымаў на жываце перад сабою кубельчык з салам.

— У пакой!—загадаў падхарунжы жаўнерам.—У пакой!—махнуў ён жанчыне і яе сыну.

Доўгі жаўнер, які быў спалохаўся ад грукату сваёй зброі, сядзеў ужо за сталом і гартаў кніжкі. І Віктар пашкадаваў цяпер, што не аддаў гэтыя кніжкі Антону Токараву. Паны могуць парваць іх, кінуць у гарачую печ і тады яму сорамна будзе перад тым, хто іх яму пазычыў.

— Большэвіцкія?—вочы ў падхарунжавага рабіліся круглымі, калі ён паказваў рукой то на адну, то на другую кніжку.

Што гэта ёсць?

— Скажы-ж, а то будуць біць!—шапнула маці да Віктара.—Каб іх на крук скруціла...

— Гэта Спартак!—ледзь выдыхнуў Віктар.—Раман...

— Маўчаць!—гаркнуў падхарунжы.—А гэта што ёсць?

Ён гаварыў так, як часта гаварылі нямецкія акупанты. Можа і гэты быў з тае самае банды? Такі-ж чырвоны, самаздаволены і ахайны твар, круты гладкі карак. Тая-ж вопратка, толькі замест круглай бесказыркі—шапка з дзіўным чатырохкутнім верхам. Над казырком прымацаваны бляшаны белы арол. Рухі і паводзіны падхарунжага былі дакладна нямецкія. Так рабілі і нямецкія акупанты, калі ўварваліся на Беларусь. Напэўне гэты падхарунжы прайшоў добрую нямецкую школу.

— Гэта што ёсць?—ужо з нейкім шыпеннем паўтарыў падхарунжы, нядобра паглядаючы на Віктара.

— Гогаль. Страшная помста.

— А-а, пся мацьl Чытаеш большэвіцкія кніжкі!

— Гогаль не быў большэвіком,—адважыўся прамовіць Віктар і адразу асеў на лаву з пацямнеўшым позіркам, бо падхарунжы штурхануў яго ў грудзі.

Перавярнуўшы ўсё ў хаце, агледзеўшы ўсе куткі і падпечча, паны, нарэшце, стаміліся і загадалі згатаваць ім яешню і насмажыць сала. Жаўнеры паселі каля стала, зняўшы з сябе і паклаўшы на лаве падсумкі з патронамі, ранцы. Толькі падхарунжы ўсё лятаў па хаце. Ён то лез на печ, то корпаўся на паліцы. Адзін час унутры Віктара ўсё змярцвела, калі гэты нахабны марадзёр пачаў пільна прыглядацца да палавіц каля грубкі. Віктару здавалася ў гэту хвіліну, што ў шчылінах нацярушаны не жоўты пясок, а тырчаць назольна і па-здраднiцку цэлыя гурбы свежай зямлі... Загадае гэты грозны начальнік жаўнерам узадраць паласу і тады... Няўжо хто данёс?.. Гэта бачылі толькі Давід Верабей, сын старога Вераб'я, і Сідар Тоцька. Дык іх-жа ў вёсцы няма! Яны адступілі разам з чырвонаармейцамі. Але падхарунжы адвярнуўся, пачуўшы як сквірчыць сала на скавародзе...

Ачысціўшы разам з жаўнерамі дзве скаварады, падхарунжы крыкнуў, каб Жаркевічыха прынесла салодкага малака. Аднаго збана не хапіла. Жаркевічыха сказала, што больш няма. Тады падхарунжы, які быў трохі аціх, зноў зароў, як звер:

— Павінна быць! Ты яшчэ, пся крэў, не ведаеш добра пана Струся! Ах, холера! Дык слухай. Пан Струсь, гэта значыць я,—паказаў ён на сябе,—загадвае табе вывесці карову з хлява і даіць яе перад вокнамі, каб мы бачылі!

— Што ён кажа?—запыталася Жаркевічыха ў Віктара.—Я нічога не разбяру.

І задыхаючыся ад нянавісці да гэтай тупой свінячай морды, ледзь стрымліваючыся, каб не схапіць чаго-небудзь цяжкага і—што там ужо ні будзе—жарнуць па галаве падхарунжага. Віктар прамовіў:

— Ён хоча... ён хоча, каб вы даілі карову на двары... каб ён бачыў...

— Ціха, дзіцятка!—устрывожылася за сына маці.—Чаго ты такі? Яны пад'ядуць ды пойдуць... Няхай ім наша малачко колам у горле стане... Я зараз...

Яна схапіла даёнку і выбегла на двор.

У другіх хатах адбываўся тое-ж самае. Шмат чаго не знайшлі

вераснянцы ў сваіх шафах, шуфлядах і куфрах пасля таго, калі іх агледзелі паны. Паны шукалі большэвікоў нават у лыкавай сумцы пастуха Давіда...

* * *

А гэтым часам некалькі коннікаў у афіцэрскіх мундырах пад'ехала да варот Корбутавага хутара. Адзін з салдат, якія іх суправаджалі, спешыўся і пачаў адчыняць вароты. Аж кладучыся ад лютага брэху на зямлю, зазвінелі ланцугамі два чорныя сабакі. На ганак выскачыў Корбут. Згледзеўшы коннікаў у афіцэрскіх мундырах, ён на момант сумеўся, не ведаючы, што рабіць. Потым, мусіць падумаўшы, што трэба крычаць на сабак, пачаў крычаць на сабак. З'едліва, але паціху, каб не зняважыць гучным голасам паноў афіцэраў.

— Сціхніце, каб вы падохлі!—шыкаў і сіпеў ён, і яго чорная, круглая бародка, здавался, перабягала з боку на бок.—Як вазьму зараз паляняку... Ці-сс...

— Як жывеш, суседзе?—пачуў Корбут, калі сабакі, на якіх ён кінуў некалькі пален, крыху супакоіліся. Павярнуўшыся, ён убачыў перад сабою чалавека са стомленымі вачамі і светлымі кучаравымі валасамі. Але тонкія энергічныя губы шавяліліся ганарыста і жорстка. Пад седаком не стаяў на месцы порсткі англійскі скакун.

— Не пазнаеш?—усміхнуўся краем губ коннік.—Рана ты пачаў забывацца на сваіх суседзяў!

Сабакі зноў выскачылі з будак і забрахалі яшчэ больш люта.

— Божа мой!—заенчыў Корбут.—Ах, каб на вас вады нагрэлі, воўкараззё чортава! Вон пашлі!

— Ці пазнаю?—прашаптаў ён, нібы сам сабе, аглядаючы палкоўніцкія адзнакі, пазіраючы на астатніх афіцэраў, якія стаялі воддаль. І раптам аж заенчыў:—Б-бо-жа-ж мой... Ды ці не вяльможны пан Свянціцкі?

— Ён,—коратка адказаў афіцэр.

— Б-бо-жа-ж мой!.. Галава мая дурная,—Корбут схапіў каня за аброць і падаў афіцэру руку, каб дапамагчы злезці.

Але той адвёў яго паслужлівы жэст і лёгка саскочыў на зямлю.

— Прымай гасцей, пане Корбут,—зноў усміхнуўся краем тонкіх губ палкоўнік.—Напэўне не чакаў?

— Што вы кажаце, пане Свянціцкі! Я дзень і ноч маліўся богу, каб як найхутчэй прычакаць вашу міласць! Мне гэтыя большэвікі былі што нож на горле.

— Цяпер іх няма. І не будзе ўжо навекі. Ад мора і да мора—скрозь прызначана панаваць вялікай дзяржаве польскай,—урачыста прамовіў афіцэр.

— Дай божачка, дай божачка!—аж заходзіўся хутаранец, не ведаючы, што рабіць далей: весці раней у хлеў панскага каня, ці кінуць яго сярод двара і запрашаць гасцей у хату. Выбавіў з гэтага становішча дзяншчык пана Свянціцкага, які забраў ад Корбута повад.

— У хату прашу, у хату прашу, дарагія госці. Як-жа здаровейка вашага таты? Мамы як? Ці здаровенька панна Геля?

— Дзякуй пану, усе здаровы і ў хуткім часе вернуцца ў маёнтак.

— А-я-яй, ах, што *яны* зрабілі з панскага маёнтку, што *яны* з панскага лесу зрабілі!—ледзь не плакаў Корбут.—Колькі дабра парасцягалі, колькі пянькоў засталося ў пушчы! Хіба гэта па закону рабілася ўсё? Хіба ёсць дзе на свеце такое самаўпраўства?

І ён ужо з ганку скоса зірнуў у канец гароду: ці не будуць відаць з хаты два дзесяцівяршковыя дубы, якія ён таксама не сцярпеў, каб не сцягнуць з панскай пушчы (трэба было нарабіць хлуду на калодзеж). Глянуў і паспакайнеў: калоды былі схаваны за градою густога маку.

— Цяпер гэтага не будзе,—адказваў на ўсё пан Свянціцкі.— Цяпер гэта не дазваляецца нашым законам.

— Распусны стаў народ, ох, які распусны,—не кідаў свайго Корбут.—Панюхалі людзі свабоды, дык цяпер яму з калом у горла не ўлезеш. Нават самы няшчасны пастух і той набраўся ад большэвікоў гонару. Кажа, што было, таму не вярнуцца.

Пан Свянціцкі адказаў коратка:

— Такіх мы будзем вешаць і расстрэльваць.

— А то што-ж рабіць? Іначай, мой панечка, і не выходзіць. Нейкая строгасць павінна быць. Ёсць мяжа—і не ткніся. Ах, ах! Каб пан ведаў, каб пан бачыў. Быў у мяне бычок такі, пералетак, Гэта ад бурай каровы. Я яшчэ ў вашага таткі прасіў, каб ён пусціў да яе свайго бугая. Памятаеце можа, пане, галяндэра з адным рогам?

Пан Свянціцкі нездаволена нахмурыўся ад такіх падрабязнасцей.

— Не памятаю,—адказаў ён суха.

— Няўжо не памятаеце?! Шкада. Такі быў бугай! Дык вот таго бычка ад таго вашага галяндэра пастанавілі ўсім сялом на мяса аддаць для Чырвонай Арміі. Як я ні прасіўся, як я ні кленчыў—не дапамагло! Забралі! У цябе, кажуць, яшчэ чатыры каровы астаецца. А? Чулі? Усёроўна, як яны мне гадавалі іх!..

Заўважыўшы, як у злой нецярплівасці ад гэтых бясконцых нараканняў таргануўся твар палкоўніка Свянціцкага, Корбут затрапятаў. Астатнія афіцэры ўжо ўсе згрудзіліся на ганку, чакаючы, калі гэты мужык скончыць і дасць ім дарогу ў хату.

— Вой, вой, што гэта са мной робіцца! Даруйце, пане палкоўнік, даруйце пане афіцэры! Калі ласачка, заходзьце! Прашу!

І як, вымуштраваны лакей, ён шырока расчыніў дзверы і замёр каля вушака, пакуль не перацягнуўся цераз парог белы палаш апошняга афіцэра.

## III

Корбут не адразу адказаў на запытанне пана Свянціцкага.

Перад яго вачамі паўстаў ва ўсіх сваіх дэталях учарашні вечар, час, калі пасля доўгіх грымот бою настала зацішная, але вельмі пакутлівая ў сваёй невядомасці хвіліна. Седзячы ў склепе разам з усёй сваёй сям'ёй, ён раптам пачуў, як шалёна забрахалі сабакі. А яго сабакі яшчэ ніколі не абзываліся ўпустое. Хутаранец — за доўгі час добра вывучыў характар іх голасу і ў момант пазнаваў,

брэшуць яны на чалавека, ці ўчулі асцярожлівую ходу начнога звера за агародам. Цяпер сабакі брахалі на чалавека, які быў блізка каля іх, можа, нават прабіраўся ў хату, каб, скарыстаўшы цемру і перапалох, што-небудзь украсці. Ад такой думкі яго твар і шыя адразу ўгрэліся, а рукі схапіліся за дзверы. Прыадчыніўшы іх, ён высунуў галаву і ўбачыў на ганку чалавека ў кароткай суконнай жакетцы. Думаючы, што гаспадар сядзіць у хаце, чалавек грукаў у дзверы.

— Што табе трэба?—крыкнуў яму Корбут, вылятаючы са склепу.—Чаго ты шнырыш такою парою?

Чалавек адразу павярнуўся на яго голас і скочыў з ганку.

— Вас я шукаю,—адказаў ён, шпарка ідучы да Корбута праз абліты крывавым заравам ад верасніцкіх пажараў двор.

— А на што я табе?—ужо зацікаўлена запытаўся Корбут, пазнаўшы чалавека.

— Каб зрабіць вам добрае. Каб перасцерагчы вас ад бяды.

Корбут затросся і акінуў трывожным позіркам будынкі, увесь, як можна было згледзець праз гэты ходкі чырвоны змрок, хутар. Значыць, падбірацца і да яго двара няшчасце, можа сцеражэ дзе, стаіўшыся за доўгім гумном ці высокім прасторным свірнам! А ён ужо думаў, што гэтая бяда праляціць над яго хутарам так высока, як пралятаЛі белапольскія снарады, што рваліся у Верасніцы...

— Чаго ты марудзіш? Кажы!—крыкнуў ён у злосці на чалавека.—Можа за гэты час... Можа паспеем як-небудзь выратавацца? Бо-жа-ж мой!..

— Суцішцеся. Адыйдзем у бок.

— Чаго мне адыходзіць? Я і тут пачую!

— Не, адыйдзем!

— Вот табе на! Божа мой, чаго ты марудзіш!

Ён скоса і насцярожана зірнуў на засунутыя ў кішэню рукі чалавека. Ліха яго ведае, з якім намерам прыбег ён поначы на яго двор. Яшчэ абложыць дзе ў цёмным кутку і нідзе не знойдзеш канцоў. Гатовы кожную хвіліну кінуцца зноў у склеп або ўчапіцца за горла неспакойнага чалавека, ён адыйшоў ад склепа крокаў на дзесяць і стаў, паказваючы усёй сваёй позай, што далей ён і не падумае крануцца.

— Нашы пакуль што адступілі,—у невымоўным смутку прамовіў чалавек.—Можа быць, што паны зноў пачнуць панаваць.

— Ну, ну?—нецярпліва падагнаў яго Корбут.

— Паны, вядома, як і немцы, захочуць уведаць тое-сёе. Ну, можа, пра тое, якім быў пры совецкай уладзе той альбо другі чалавек.

— Навошта ты мне гэтае кажаш? Навошта мне ведаць, хто што думае?

— Каб не было бяды,—адказаў чалавек.—Вы можаце па злосці нагаварыць на каго.

— Дык ты прышоў сказаць мне пра гэта?

— Так.

— Божа мой! Такое шчанё думае мяне вучыць! А ў мяне ўжо ўсё закалацілася ў грудзях. Ідзі і не дуры маёй галавы!

— Дык як будзе?

— А так, як выпадзе.

— Можаце нават тое-сёе сказаць?

— А на мяне сароміліся гаварыць?

Чалавек азірнууся, мусіць для таго, каб упэўніцца, што нікога поблізу іх няма. Потым імкліва падаўся да хутаранца.

— Тады ўжо не кайцеся, дзядзька Корбут!—прашаптаў ён пагрозна.—Калі хоць адзін волас спадзе ў каго праз ваш язык, тады не жыць і вам! Дык падумайце добра, дзядзька Корбут! І думайце не так, што, вот, прышоў адзін малакасос і страшыць. Не так гэта, дзядзька Корбут. Мяне могуць нават забраць, і другога забраць, і дзесятага. Ну, расстраляюць, павесяць. Але застанецца адзінаццаты, застанецца дванаццаты. Усе тыя, што ведаюць дзе я ў гэтую хвіліну і з кім я гавару. І яны з'явяцца на ваш двор, альбо, калі вас не застануць дома, то падпільнуюць дзе-небудзь у дарозе, на сенажаці, на полі, у гародзе. Могуць падпільнаваць не толькі вас, але і дабро ваша... Дык як вы, дзядзька Корбут, думаеце рабіць? Ну, скажам, вернецца пан Свянціцкі і захоча ўведаць, хто дзяліў паміж бяднейшымі яго коней, кароў, зямлю?

— А я хіба бачыў? Хіба мяне запрашалі ў камісію?

— Ну, і ўсё. Бывайце здаровы, дзядзька Корбут.

І чалавек павольна рушыў у бок Верасніцы. Корбут доўгі час пазіраў моўчкі на яго постаць, якая, здавался, не толькі не змяншалася, а павялічвалася яшчэ больш на агромністым чырвоным фоне пажару. Апамятаўшыся крыху ад гэтай нечаканай размовы, што нашчэнт разбівала яго патаемныя жаданні і прагу да помсты, Корбут злосна крыкнуў сваім у склеп:

— Вылазце, каб вас халера пабрала! З такой вашай руплівасцю могуць расцягнуць усё наша дабро. Бадзяюцца тут усялякія прайдзісветы па хутары...

Таму, калі Вацлаў Свянціцкі паўтарыў запытанне, Корбут адказаў ціха:

— Адкуль-жа мне, вяльможны пане, ведаць, хто дзяліў ваша дабро? Сяджу я тут на хутары, як той тхор у сваёй нары. Божа мой, толькі выйдзі з дому, дык возьмуць ды падстрояць якую цацу! А ваш татка ведаюць, як яно, дабро гэтае, мне даставалася...

І не толькі бацька Вацлава ведаў, але і сам Вацлаў чуў, што месяцы праз тры пасля эвакуацыі Порт-Артура Корбута арыштавалі і пасадзілі ў турму за прапажу грошай з палкавой касы. І нельга было высвятліць, дзе падзеліся грошы, бо двух канваіраў, якія суправаждалі разам з Корбутам касу, знайшлі мёртвымі. Корбут плакаў, бажыўся, што іх забілі японцы, што ён сам ледзьве выратаваўся. Ад яго адабралі ключы, стралялі па ім. Ён усім паказваў прабітую куляй мякаць левай рукі, паказваў парваны шынель... Праз два гады яго выпусцілі з турмы. А яшчэ праз год ён купіў тры валокі зямлі ў аднаго згалелага фальваркоўца, побач з маёнткам пана Свянціцкага...

Нізенькі, з вузкім і доўгім тварам, капітан, начальнік штаба, падняў вочы ад талеркі з вянглінай і выпрабавальна зірнуў на Кор-

бута. Ад гэтага позірку, вострага і калючага, хутаранец затрапятаў і адвярнуўся.

— Вы нешта хацелі сказаць, пане Марушэчак?—звярнуўся Свяніцкі да капітана.

— Я хацеў сказаць, пане палкоўнік, што ўсё гэта вырашыцца з цягам часу. Усё, што хто думае, будзе вядома вам, калі не сёння, дык заўтра. Калі не скажа адзін, дык скажа другі. Я яшчэ не развучыўся размаўляць з тымі, якія самае малае глупства лічаць за святую таямніцу. Бізун і шомпал выклікаюць вялікую ахвоту да шчырасці ў гэтага грубага быдла. Дарэмна нам турбаваць пана Корбута. Ён можа і не ведаць таго, што нам трэба.

Корбут аджыў ад гэтых слоў і ўдзячна зірнуў на пана капітана. Але, не зважаючы на спагадныя словы, позірк у Марушэчка быў такі, што Корбут адчуў, нібы па яго горле нехта павёў халодным лязом брытвы.

— Мы прызначаем вас за войта, пане Корбут,—сказаў Свяніцкі хутаранцу.—Гэта ганаровая пасада. Ваш абавязак глядзець за парадкам, дапамагаць нашым часцям, якія будуць рушыць і рушыць на ўсход праз гэту воласць. Тут праходзіць важнейшая дарога. Майце гэта на ўвазе. І воласць ад гэтага часу будзе называцца гмінай. Напішыце новую шыльду.

Корбут быў задаволены такім вялікім давер'ем, але, ўспомніўшы, што тады яму не будзе часу займацца гаспадаркай, заенчыў:

—Божа мой! Пане Свяніцкі! Я стары чалавек, хто мяне будзе слухацца? Хто будзе дома ўпраўляцца?

— Пан Корбут гаворыць глупства,—перарваў яго пан Свяніцкі.—Не паслухаюць вас, дык паслухаюць бізуна. Кажаце, гаспадарка? Але на пенсію, якую будзеце атрымліваць, вы можаце наняць яшчэ двух парабкаў. У Верасніцы і астатніх вёсках прызначце надзейных солтысаў. Усё.

Ён устаў з-за стала. За ім падняліся і астатнія афіцэры.

— Дзякую за снеданне, пане Корбут. Сабярыце неадкладна сход у Верасніцы. Я хачу павіншаваць насельніцтва з новым дзяржаўным ладам. Пане капітан, зрабіце адпаведныя захады.

* * *

Праз гадзіну ўсе мужчыны і жанчыны Верасніцы былі сагнаны на пляц перад царквою. Каля агарожы стаяла некалькі запрэжаных фур з белапольскага абозу. У натоўпе салдат, выконваючы загад капітана Марушэчка, мітусіўся падхарунжы Струсь. Яго налітая чырванню шыя мільгала то каля аднае, то каля другое фуры.

— Пра што тут яны будуць гаварыць?—пыталіся адзін у аднаго верасняпцы.—Мусіць нешта важнае, калі нікога дома не пакінулі.

— А хіба ты забыўся, пра што на такім сходзе гаварылі немцы? Даць кароў, даць хлеба, падводы.

— А дзе іх узяць? Хіба яно тройчы на год нарастае?

— Калі прыставяць цясак к горлу, дык і з калена выламіш, а дасі!

Над неспакойным гаманлівым натоўпам сялян разлёгся грымотны голас падхарунжага Струся, які ўзабраўся на фуру.

— Ціха, пся ваша скура! Зараз прыедзе пан палкоўнік і прачытае вам маніфест.

— А пра што будзе той ваш маніфест?—смела гукнуў нехта з сярэдзіны натоўпа.

— Што-а?!—зароў падхарунжы.—Маўчаць! Абяцаю маткай боскай чэнстахоўскай...

Падхарунжы не скончыў і саскочыў з фуры. І ў гэты час усе верасьнянцы ўбачылі некалькі афіцэраў, якія выляцелі з таго боку царквы. Капітан Марушэчак узяў пад казырок і аддаў рапарт пану палкоўніку.

І ўсе верасьнянцы ахнулі, пазнаўшы ў палкоўніку сына памешчыка Сьвяціцкага. Не злазячы з каня, пан палкоўнік павярнуўся да насцярожанага натоўпу. У гэты час капітан Марушэчак махнуў рукой. Фуры ад'ехалі ад агарожы, выявіўшы два кулямёты, каля якіх застылі на спагатове жаўнеры. Тады пярэднія з натоўпу хутка павярнуліся і пачалі прабівацца ў сярэдзіну каб не бачыць гэтых маўклівых пагрозных дул. За імі павярнуў другі рад, за другім трэці. І хутка ўвесь натоўп рынуўся-б на ўцёкі, каб яго не спаткаў пан Струсь з узброенымі жаўнерамі.

— Стойце, пся ваша маць!—роў ён, нацэльваючыся вінтоўкай то на аднаго, то на другога верасьнянца.—Абяцаю маткай боскай чэнстахоўскай... А ты куды?—учапіўся ён за каўнер старога Вераб'я, які ўжо быў прарваўся праз ланцуг жаўнераў і рушыў у вёску.— Назад!

— Землячок, пусці!—Верабей схапіў яго за руку і стараўся вызваліць свой каўнер.—Я глухі. Я нічога не пачую...

— Што?! Зямляк? Ідзі да д'ябла, старая халера! Назад!

— Эй, вы!—звяртаючыся да натоўпу крыкнуў палкоўнік Сьвяціцкі.—Падыйдзіце бліжэй.

Ніхто не зварухнуўся з месца. Палкоўнік Сьвяціцкі памаўчаў хвіліну і прадаўжаў:

— Абвяшчаю вам, што ад сёньняшняга дня зноў устанаўляецца добры стары парадак. Хто што меў да большэвіцкай рэволюцыі, той будзе мець і цяпер. Вы павінны радавацца такому закону. Фабрыкі і маёнткі зноў варочаюцца старым гаспадарам. Ура! Ну?

З тае прычыны, што ні ў кога з верасьнянцаў не было да рэволюцыі ні фабрык, ні маёнткаў, у многіх не было нават дзесяціны зямлі—ніхто не крыкнуў ура. Стаялі моўчкі, скоса і насцярожана паглядаючы на памешчыцкага сына і чакаючы, што скажа ён далей.

— Холера ценжка!—вылаяўся пан палкоўнік, і раптам, нібы ўспомніўшы нешта неадкладнае, звярнуўся да Марушэчка:—Пане капітан, ці справілі той кулямёт?

— Ёсць, пане палкоўнік.

— Паспрабуйце.

Пан капітан падаў знак праваму кулямёту. Жаўнер прыгнуўся да ручак і паўз натоўп жугануў нябачны смяротны лівень куль.

— Хопіць,—абсек рукою кулямётную чаргу пан Сьвяціцкі.— Чуеце вы, хто мае грэх за сваёй душою? З таго, хто ўзяў што з

маёнтку раней, здзярэм з жывога скуру. Памятайце гэта! Хто цяпер палезе ў лес, на панскую зямлю—расстраляем на месцы. Завезці ў маёнтак усё, што забралі адтуль. Праз тыдзень я вярнуся з паходу паглядзець, ці стаяць у хлеве каровы, ці ёсць на стайні коні. Усё. А цяпер капітан Марушэчак прачытае вам загад.

І пан капітан пачаў чытаць загад пана палкоўніка: на працягу двух гадзін Верасніца павінна даставіць часці пана Свянціцкага дваццаць коней, дзесяць кароў, дзвесце пудоў аўса, дзесяць пудоў сала...

Змітрок Буйневіч стаяў побач Віктара, уклаўшы рукі ў кішэні, якраз насупроць капітана Марушэчка. Такая незалежная поза, відаць, не спадабалася ганароваму польскаму афіцэру. А можа, ён пабаяўся, каб Змітрок Буйневіч не дастаў чаго з кішэні і не грымнуў яму ў лоб. Кінуўшы чытаць загад, ён падляцеў да Буйневіча.

— Рукі з кішэні!—зашыпеў капітан, ашчэраваючы дробныя частыя зубы.—Трымаць па швам!

Буйневіч павольна апусціў рукі. У гэтую хвіліну твар яго ўзгарэўся ад пякучага ўдару.

— Усім трымаць рукі па швам! Я навучу вас, як слухаць панскія загады! Паўтараю тое, што сказаў пан палкоўнік: каб праз тыдзень у яго маёнтку было столькі ўсяго, колькі было да рэвалюцыі...

Марушэчак акінуў натоўп шпаркім позіркам і застанавіўся на Змітраку Буйневічу. Нейкая новая думка прышла ў галаву капітану, калі ён згледзеў у вачах селяніна спапяляючую нянавісць.

— Ага,—пачаў зноў начальнік штаба.—Зброя ў вас ёсць?

Натоўп маўчаў.

— У каго ёсць зброя?—паўтарыў капітан.—Здаць зараз-жа. За няздачу, калі знойдзем, адна кара: смерць! Вінтоўкі і саблі, патроны і гранаты—усё павінна быць тут праз поўгадзіны. Ах, пся ваша крэў!

Капітан Марушэчак лаяўся-б, магчыма, і далей, але да яго раптам падбег падхарунжы Струсь і прашаптаў нешта на вуха. Вочы капітана ўзгарэліся, як у паляўнічага, якому нечакана паведамілі пра блізкую і лёгкую здабычу. Адразу забыўшыся на сялян, ён павярнуўся і паціху далажыў пра нешта пану палкоўніку.

— Зрабіце!—коратка загадаў Свянціцкі.—Але раней разганіце па хатах гэтае быдла,—грэбліва зморшчыў ён губы, паказваючы бізуном на маўклівы насцярожаны натоўп.

Праз хвіліну, ратуючыся ад бізуноў і прыкладаў, некаторыя верасняйцы ўбачылі групу жаўнераў, якая на чале з капітанам Марушэчкам шпарка рушыла да папоўскага дому.

## IV

Што далей адыходзіў цягнік ад Варшавы, то ўсё больш пустэльнай і знявечанай выглядала мясцовасць. Замест вёсак—валяліся чорныя, абмытыя дажджамі галавешкі, сярод якіх недарэчна тырчэлі закураныя дымам печы. Міналі адну станцыю, другую (часта—збітыя з дошчак і фанеры), а нідзе не трапляла на вока жылая буды-

ніна. Па ўзгорках цягнуліся яшчэ не зарослыя травою акопы, жоўтыя ад іржы загарожы калючага дроту. Чарнелі вялізныя яміны, вывернутыя снарадамі. На невялічкай станцыі перад Баранавічамі Гэлена выглянула з акна і ўздрыганулася: крокаў за дзвесце ад вадакачкі яна ўбачыла вялізнае поле, усё ўстаўленае крыжамі. І ад таго, што гэтых крыжоў было тысячы і што ўсе яны былі падобны адзін на аднаго, здавалася, былі зроблены адным майстрам і на адну мерку. Яна ў жаху заплюшчыла вочы і адвярнулася.

— Чаго вы, панна Гэлена, спалохаліся?—устрывожыўся яе візаві, тоўсты чалавек, у шэрым касматым касцюме, у чорных акулярах на круглым, як бульбіна, носе.—Што там такое?

Ён усхапіўся з лаўкі і выглянуў праз акно. Але, не ўбачыўшы нічога такога, што магло быць прычынай перапалоху яго суседкі, зноў сеў.

— Супакойцеся, панна Гэлена,—прамовіў ён гугнявым голасам.—Чаго вы так расхваляваліся?

— Я не магу...—нарэшце прамовіла паненка.—Вы бачылі, колькі там крыжоў?!

— Глупства, панна Гэлена! Супакойцеся. Хіба вы першы раз бачыце брацкія магілкі?

— Але тут... вы ведаеце...—плечы панны Гэлены ўсё яшчэ ўздрыгвалі ад нутранога холаду.—На самым віду... Гэта нагадвае нейкую недарэчную фабрыку смерці... Які жорсткі гэты свет, якія звяры людзі!

— У вас вельмі чулы характар, панна Гэлена. Вы мала бачылі трупаў, крыві (ад гэтых слоў плечы панны Гэлены зноў уздрыгануліся). Прабачце, што я так сказаў. Але такія вынікі сусветнай вайны. Гэта магілы рускіх салдат. А на той, што праехалі, станцыі былі нямецкія магілкі.

— Вайна... кроў... Для чаго ўсё гэта? Божа мой! Калі я ўспомню, што Вацлаў на перадавой лініі, што і яму пагражае небяспека... Учора я чытала яго пісьмо, а можа сёння...

— Якія чорныя думкі ў панны Гэлены! А я веру, што пан Свяніцкі шчасліва дойдзе не толькі да Бярэзіны, але пройдзе і далей Смаленска і вернецца дахаты жывы і здаровы. Спамяніце маё слова!

— Дзякую вам, пане Гамулька, за добрае слова. Будзем спадзявацца на лепшае.

Панна Гэлена патроху супакойвалася. Цягнік рушыў далей. Пан Гамулька пабліскваў акулярамі то на панну Гэлену, то на акно. Раптам ён усклікнуў нібы весела:

— Зірніце, калі ласка, на гэты гасцінец. Па ім праехалі сотні тысяч бежанскіх сем'яў. Уцякалі ад немцаў.

Панна Гэлена выглянула і нічога асаблівага не заўважыла, апрача разбітай калёсамі дарогі і паасобных крыжоў уздоўж яе.

— Ну, вось бачыце,—з нейкай злавеснай усмешкай прамовіў Гамулька.—А уся справа, ведаеце, у канцэнтрацыі. Вы не звярнулі ўвагі на гэтыя паасобныя магілы. А іх усіх уздоўж гасцінца не менш, як на тых магілках. Хіба вы не бачылі, калі эвакуіраваліся з Беларусі разам з немцамі?

— Не спамінайце мне пра немцаў!—крыкнула панна Гэлена.— Я ненавіджу гэтых самаздаволеных швабаў! Яны, як жывёлу, пасадзілі нас у таварны вагон. Вы разумееце, як мне было балюча!

— Які жах!—выпучыў вочы пан Гамулька.—Такія далікатныя людзі і—зрабіць такую подласць!

— Так, так. У апошні час нямецкія салдаты зусім не слухаліся афіцэраў. Усё гэта праз рэволюцыю, якая пачалася ў Германіі. І мы вымушаны былі аж да самай Варшавы ехаць у брудным цёмным вагоне.

Да іх падсеў пан у жоўтым паліце з абвіслымі кішэнямі і з кійком, на якім была выразана раззяўленая пашча гадзюкі. Не чакаючы пакуль скончыць паненка, ён пачаў сваё:

— Прашу прабачэння ў панны. Але я амаль да самай Варшавы ўцякаў ад большэвікоў пяшком. Немцы пся іх скура, нас нават да вагонаў не падпусцілі! Чулі вы такое! Ну, але затое мы абадралі гэтых грубіянаў, як ліпку.

У голасе новага суседа чулася здаволеная помста за зняважаны польскі гонар.

— А пан сам адкуль?—запыталася панна Гэлена.

— З-за Бярэзіны. Там у мяне невялікі маёнтак на дзве тысячы дзесяцін. Чулі пра Бжазінскіх? А паненка, прашу прабачэння, далёка едзе?

Панна Гэлена сказала маёнтак і прозвішча. Пан у жоўтым паліце заківаў радасна галавою.

— Дык я ведаю тату панны і ведаю яе брата. Гэта адзін з лепшых нашых афіцэраў! Ён нідзе не спыніцца перад большэвікамі. А пан адкуль?

Пытанне гэтае тычылася пана Гамулькі, суседа панны Свянціцкай. За Гамульку адказала чамусьці панна Гэлена.

— Ён міністр нацыянальнага беларускага ўраду і едзе ў Менск з вельмі адказнай місіяй. Перад ад'ездам пан Гамулька быў на прыёме ў пана Пілсудскага.

Пан Бжазінскі ўставіўся на Гамульку сваімі шырока адкрытымі, няўцямлівымі ў гэтую хвіліну вачамі: які яшчэ можа быць інакшы ўрад, апрача польскага, на заваяванай панамі тэрыторыі? І якая праграма ў гэтага нацыянальнага ўрада?

— О, халера!—вылаяўся нарэшце успацеўшы, ні то ад напружанай неразгаданай задачы, ні то ад духаты ў вагоне памешчык.— Прашу прабачэння ў панны... Можа пан міністр будзе ласкавы сказаць, што гэта за ўрад і як ён глядзіць на прыватную ўласнасць? Як глядзіць на ваш урад пан Юзеф Пілсудскі?

— Пан Пілсудскі—ініцыятар стварэння нашага ўраду,—прагугнявіў Гамулька.—Што датычыцца праграмы, дык яна дакладна тая-ж, як і ў Польшчы. Захаванне прыватнай уласнасці ў поўнай меры. Змаганне з усякімі праявамі рэволюцыйнага руху. Прасоўванне ідэі польскай дзяржаўнасці, як мага далей на ўсход. Павінен з удзячнасцю зазначыць, што ўсе мерапрыемствы беларускага нацыянальнага ўрада фінансуюцца з польскай казны.

Пан Бжазінскі паспакайнеў і ганарыста ўзняў галаву. У купэ, дзе адбывалася гэтая гутарка, патроху набіралася людзей. З мно-

гімі панна Гэлена паспела пагаварыць. Апрача памешчыкаў, ехалі ў свае маёнткі буйныя фальваркоўцы, аканомы, ляснічыя. Варочаліся ўсе тыя, якія пры немцах адпомсцілі рабочым і сялянам за рэвалюцыю і разам з немцамі ўцяклі з Беларусі, асцерагаючыся суровай кары з боку насельніцтва. Варочаліся багатыя домаўласнікі, фабрыканты. Ехалі гандляры, каміваяжэры сусветных фірм, усе тыя, каго Кастрычніцкая рэвалюцыя вымела за борт, або не паспела пусціць у расход. У вагоне ўвесь час чулася ажыўленая гаворка, заключаліся ўмовы на продаж збожжа, лёну, лесу. Усе гэтыя купцы былі ў такім запале, што гандлявалі нават тою маемасцю, якая знаходзілася на тэрыторыі, занятай чырвонай арміяй.

У суседнім купэ, якое займалі лодзінскі гандляр гатовым адзеннем і агент амерыканскай кандытарскай фірмы «Бетсі і Джэк», раптам пачулася п'яная лаянка. Бжазінскі шпарка ўстаў і, цягнучы за сабою кій з ашчэранай пашчаю гадзюкі, накіраваўся да буянаў.

— Ці не можна, панове, крыху цішэй? Свята святам, але тут побач сядзіць маладая панна.

— Ідзі да д'ябла, з сваёю паннай, старая галёша!—гукнуў яму па польску адзін з пасажыраў купэ.—Проша замкнуць дзверы... з таго боку!

Твар памешчыка пачырванеў у момант нібы яго аблілі варам.

— Пан разумее, што ён гаворыць?—крыкнуў ён у шаленстве.— Пан мне адкажа за знявагу!

— Ідзі да д'ябла, старая галёша!—меланхалічна паўтарыў пасажыр, наліваючы шклянку віном.—Вып'ем, містэр Вільбур, за здароўе гэтага ведзьмара і няхай ён згіне з нашых вачэй.

Амерыканец згодліва бліснуў злітаю гушчынёю стальных зубоў і падняў сваю шклянку.

— Ол райт!

Потым лодзінскі купец цяжка ўзняўся, падышоў да ўзгневанага памешчыка і, выпхнуўшы яго з купэ на калідор, замкнуў дзверы.

Бжазінскі вярнуўся ў купэ панны Гэлены. Губы яго трэсліся ад лютай злосці.

— Чулі вы пра гэтых лайдакаў!—крыкнуў ён, часта міргаючы чырвонымі хваравітымі павекамі.—Як толькі прыедзем у Менск, я зараз-жа патрабую ад каменданта станцыі, каб іх арыштавалі! Гэты лодзінскі анучнік добра ўведае, як зневажаць гонар польскага двараніна! Калі не дапаможа камендант, я здолею пагаварыць з самім панам Шэптыцкім!

Пан Гамулька павярнуўся ў бок Бжазінскага.

— Я дзесьці чуў гэта імя. Але цяперака ніяк не магу прыпомніць. Хто ён такі?

Памешчык паглядзеў на Гамульку, як на вар'ята.

— Станіслаў Шэптыцкі цяпер камандуе літоўска-беларускім фронтам,—адказала панна Гэлена, якая ведала пра генерала з размовы брата пра польскіх афіцэраў.—Яму цяпер больш як пяцьдзесят год. У тысяча дзевяцьсот чацвертым і пятым годзе ён быў аўстрыйскім ваенным аташэ пры рускай арміі ў Манчжурыі. У тысяча дзевяцьсот чатырнаццатым годзе—начальнік штаба 2-га ар-

мейскага корпуса аўстра-венгерскай арміі. У 1916 годзе ён камандваў польскімі легіёнамі па назначэнню аўстра-венгерскага камандвання. А ў 1917 годзе—генерал-губернатар тэрыторыі, акупіраванай аўстра-венгерскімі войскамі...

— І будзьце спакойны,—перарваў гаворку панны Гэлены памешчык.—Пан генерал навучыўся на Ўкраіне ўціхамірваць бунтароў!

— Я знаёмы толькі з генералам Даўбор-Мусніцкім. Ён пераловіць і перавешае іх усіх да аднаго!—выціраючы хустачкаю пот з тлустага твару, прагугнявіў беларускі міністр.

— Пан знаёмы з гэтым марадзёрам? Шкада, шкада! Ён не варты быць нават дзяншчыком пана Шэптыцкага!

— Чаму пан так кажа? У пана ёсць падстава?

— Вядома! Хіба вы не ведаеце, што ён разам са сваім штабам распрадаў за два месяцы запасы абмундыравання і прадуктаў Бабруйскай крэпасці? А гэтых запасаў было не менш, як на год і для цэлай арміі! Цяпер-бы ўсё гэта спатрэбілася для нас. Усе грошы пашлі ў яго кішэню. А ён быў прызначаны за начальніка корпуса легіёнаў не для таго, каб спекуляваць, а—знішчаць у корані рэвалюцыйны рух на Беларусі.

— На маю думку,—прамовіў Гамулька,—ён не даваў патачкі бальшэвікам. У чым другім, а ў гэтым пана генерала нельга папракнуць.

— Вы так кажаце, бо ён, напэўна, ваш сябра. А я ведаю, што калі сяляне наляцелі на мой маёнтак, дык пан генерал і пальцам не пашавяльнуў, каб прысласць карны атрад. Далей бабруйскага павета ён баяўся вткнуцца. А я ведаю і такі факт, што калі глускія камуністы разбілі адзін яго карны атрад, дык пан генерал ад перапалоху пачаў быў эвакуацыю з Бабруйска ўсяго свайго корпуса... Хіба ганаровы паляк павінен адступаць перад бальшэвікамі? Я сам калісьці быў афіцэрам царскай арміі і крыху разбіраюся ў вайсковых справах.

Бжазінскі утаропіў свой позірк на чалавека, які стаяў у калідоры, насупроць акна. Быў гэты чалавек у цёмным бастонавым касцюме, у сінім з чырвонымі крапінкамі гальштуку. Стройны, з прыгожа падстрыжанымі вусікамі, ён зацікавіў неспакойнага памешчыка.

— А пан куды едзе?—нарэшце звярнуўся Бжазінскі да незнаёмага.—У пана вялікі маёнтак?

Незнаёмы холадна, амаль з нянавісцю зірнуў на памешчыка і нешта прамармытаў па французску. Неўзабаве яго ўжо не было ў гэтым вагоне.

— Якая ў яго злосць у вачах?—прамовіў памешчык да Гамулькі.—Якая пагарда! Пся мацъ. Хто-б гэта мог быць?

Але ніхто ў вагоне не ведаў, хто такі гэты чалавек і куды ён едзе.

Цягнік мінуў Баранавічы і насустрач яму зноў пабеглі вёскі. Сюды не паспеў дакаціцца агнявы і руйнуючы вал сусветнай вайны. Пасажыры прыліплі да акон. Некаторыя пачалі здымаць з верхніх паліц чамаданы. Яны вылазілі на бліжэйшых станцыях.

— А ці ўсё падрыхтавана да вашага прыезду? Ці спаткае хто

вас?—запытаўся Гамулька ў панны Гэлены.—Хочаце, я вас давязу да самага маёнтка?

— Дзякую, пане Гамулька, што дапамаглі мне дабрацца да Менска. У вас дзяржаўныя справы. Вам нельга траціць дарагі час. Пакуль Вацлаў прывядзе ў парадак наш дом, я спынюся ў сям'і Чапскіх. Яны выехалі з Варшавы тыдзень таму назад. Маёнтак графа недалёка ад Менска.

## V

У сумятні, якая пачалася на вуліцах Верасніцы пасля першых разрываў польскіх снарадаў, ніхто апрача Майсея Жаркевіча не заўважыў свайго старшыні рэўкома—Антона Токарава. Ён прымчаўся з мястэчка на невялічкім гнядым кані (даўгія ногі Антона Токарава ледзь не звісалі да самай зямлі), запылены ад галавы да ног, так што яго чорная скураная куртка стала папяловага колеру. Пашарэлі даўгія вусы і круглая запушчаная барада. Распытаўшы ў чырвонаармейцаў абоза, дзе іх камандзір, ён рушыў уздоўж вуліцы. Знайшоўшы патрэбнага яму чалавека, ён адазваў яго ў бок і хвілін дзесяць размаўляў з ім сам-на-сам. Пасля адвязаў ад сядла і аддаў яму запячатаны сургучом мяшок, у якім шуршэлі паперы.

— Дык вы, таварыш Токараў, застаецеся?—запытаўся камандзір.

— Такое рашэнне партыйнага камітэта. Забірайце майго каня. Ён мне больш не патрэбны.

— Жадаю шчасця! Удачнай працы!

— Дзякую. Давай руку.

Яны абняліся моцна і пацалаваліся.

Камандзір, падаўшы знак абозу рушыць далей, ужо збіраўся ад'ехаць сам, калі Токараў раптам пацягнуў яго за рукаў.

— Хвілінку. Высыпай усе свае патроны ад маўзера. Яны нам тут спатрэбяцца.

— У мяне сорак штук...

— Ды ў магазіне дванаццаць. Высыпай усе.

— Можа гранаты патрэбны?

— Дзякую, што напомніў. Згрузі скрынкі дзве...

— Што?! Я думаў, штукі дзве, чатыры... Хочаш, каб мяне ў рэўтрыбунал пацягнулі?

— Скажы каму і для чаго даў—не пацягнуць!

— Таварыш Токараў. Адну скрынку магу... Богам прашу.

— Ладна. Згрузі хоць адну. Будзем у паноў пазычаць. Скажы таварышам, каб занеслі на той двор да Жаркевіча,—паказаў ён рукою і пайшоў на загуменне.

— Таварыш Тоцька, дзе Давід Верабей?—запытаўся камандзір у рыжага чырвонаармейца, які сядзеў на гружаным возе.

— Развітваецца з сям'ёй, таварыш камандзір.

— Пакліч. Занясіце скрынку гранат вунь у тую хату. Толькі хутчэй!

— Ёсць занесці скрынку гранат,—ухмыльнуўся рыжы і на момант замяўся.

— Ну што такое, таварыш Тоцька?—здзівіўся камандзір.

Рыжы загаварыў лісілівым голасам:

— Я хацеў-бы вас папрасіць, таварыш камандзір, каб вы дазволілі і мне забегчы развітацца з сям'ёю. Невядома, ці давядзецца больш пабачыцца.

— Далёка дзе жывуць бацькі?

— Ды не. Вярсты чатыры адсюль. Бадай, што па дарозе.

— Ладна. Ну, хутчэй,—даў загад камандзір.

Узрадаваны такім дазволам Тоцька адзін падхапіў скрынку і пацягнуў да Жаркевічавай хаты. У Верасніцы, куды ён неаднойчы прыходзіў на вечарынкі, Тоцька ведаў амаль усіх жыхароў.

Майсея Жаркевіча Токараў застаў на гумне, каля чоўна.

— Што, думаеш на раку цягнуць?—гукнуў Антон задуманаму Жаркевічу.—Зямлю пан адбярэ, дык зноў трэба з рыбарства жыць. Валяй, дружок, валяй!

— А як-жа іначай? Жызня наша такая, каб яна скрозь зямлю правалілася! Толькі пачнеш станавіцца на ногі—новая бяда абваліць.

— Жызня, дружок, ад самога сябе ідзе... Ну, але цяпер не час займацца гаворкаю. У цябе знойдуцца лапці?

Жаркевіч здзіўлена зірнуў на старшыню рэўкома.

— Лапці, штаны, світка. Мне трэба пераапрануцца і з'ездзіць у Менск... Пагасцяваць... Даўно бачыў сваю сям'ю.

— А ты што: не ідзеш разам з чырвонай арміяй? Табе тут зразу вяроўку на шыю начэпяць!

— А можа вяроўка гнілая будзе... Нямецкая не вытрымала. Думаю, і панская не мацнейшая... Прынясі што ў цябе знойдзецца з адзежы ў гумно.

Жаркевіч рушыў дахаты. Неўзабаве ён вярнуўся, але адзежы не прынёс.

— Там адзін чырвонаармеец занёс і пакінуў для нечага скрынку з гранатамі,—прашаптаў ён азіраючыся.—Стаіць у сенцах на лаве.

— А-а, добра,—адазваўся Токараў.—Гэта я сказаў камандзіру.

— А што мне рабіць з ёю?—запярэчыў Жаркевіч.—Хочаш, каб паны мяне расстралялі?

— Гэту скрынку трэба завезці ў пушчу і схаваць на смалярні. Нам будзе патрэбна яшчэ не адна скрынка гранат... Ну, пайшлі. Мне трэба пераапрануцца.

Скрынку гранат яны вырашылі схаваць пакуль што ў хаце пад падлогай. Калі ўсё паспакайнее, Жаркевіч завязе яе ў пушчу.

Пакуль яны ўзадралі палавіцы, пакуль зноў, схаваўшы гранаты, клалі іх на месца—ужо сцямнелася.

У гэты якраз момант у поташавым гумне грымнуў, разадраўшы на-двое страху, польскі снарад. Хутка чырвоныя языкі агню рупліва забегалі па ўскамлычанай рудой саломе.

— Хутчэй!—крыкнуў Токараў Жаркевічу.—У каго тут добры склеп?

— У папа.

І яны рынуліся з хаты.

Седзячы ў склепе, яны вырашылі, як толькі сціхне страляніна, астацца ў паповым доме, схавацца на гары. Папоў дом стаяў пусты. Пасля таго, калі рэўком арыштаваў і пасадзіў за контррэволюцыю гаспадара, папіха з дзецьмі некуды з'ехала. Нядаўна на сходзе беднаты пастанавілі забраць прасторны шматпакаёвы будынак пад школу. «А калі знойдзецца добры, сумленны поп,—сказаў на сходзе Жаркевіч,—які не будзе мяшацца ў верасьнянскія справы, дык ён можа пажыць і ў невялічкай хаціне, дзе да гэтага часу была школа».

Раніцою яны вылезлі са склепа і ўзабраліся на гару, усю закіданую старым ламаччам і рыззём. На вяроўцы віселі дзве даўгія зрэбныя расы, якія забылася папіха, выбіраючыся з дому.

Токараў усцягнуў за сабою лесвіцу і накрыў дзірку дошкамі.

— Вот якая яна, наша жызня, каб яна пропадам прапала,— у злым смутку прамовіў Жаркевіч, падышоўшы да зашчытка, каб выглянуць праз невялічкае акенца на двор.—Падумаць толькі: дзе тая Варшава, Пазнань, дзе той Берлін—а нам ад іх няма спакою. Пішчом лезуць, на злом галавы пруцца. А што мы ім благое зрабілі? Што я—забіў каго, зарэзаў, што як той адрынуты павінен туліцца на чужой гары да абсмыленага коміна.

Антон Токараў усміхнуўся.

— А хіба ты не ведаў, што паны зазлавалі на цябе? Ты забыўся?

— За што?—механічна запытаўся Жаркевіч, выціраючы павуцінне і пыл на шыбіне акенца.

— А за тое, што ты, калі дзяліў маёнтак, выдзяліў і Свяніцкім дзве дзесяціны і не ў самым маёнтку, а за пушчай на пясках.

— Дык хіба я да рэволюцыі больш меў? Хіба больш меў мой бацька, дзед? А яны, памешчыкі Свяніцкія, шасцю тысячамі дзесяцін запраўлялі? На кожную душу ім прыпадала паўтары тысячы дзесяцін! Што: у іх пуза большае, кішкі грубейшыя? А ў Верасніцы на сто пяцьдзесят сем'яў толькі пяцьсот дзесяцін было з шкодаю і невыгодаю.

— Ціха!—шапнуў моцна Антон Токараў, пачуўшы глухі конскі тупат за домам:—Паглядзі, што там робіцца.

Яны прыніклі да акенца. Неўзабаве па дарозе паказаўся коннік у цёмна-шэрым адзенні. Перад сабою, на сядле, ён трымаў куртаты карабін. За ім ехаў другі, трэці. Хутка ўся дарога закурылася цяжкім ранішнім пылам.

— Дык гэта-ж немцы!—узрушана павярнуўся Жаркевіч да Токарава.—І тыя-ж у такой форме!

— А зоркі на шапкі.

— Шапкі?.. Шапкі, здаецца, трохі інакшыя... Я трохі не дабачу пасля нямецкага газу каля Баранавіч. А вунь пяхота па загуменню валіць... Вот каб хватануў адсюль з кулямёта!

Жаўнеры расцякаліся па дварах. Сабакі, якіх у Верасніцы было не мала, узнялі страшэннае і лютае выццё, нібы ў вёску ўварвалася цэлая воўчая гання. То там, то сям грымелі каля хат вінтовачныя стрэлы: палякі пачалі біць неадчэпных сабак.

І раптам Жаркевіч уздрыгануўся: ён выразна пачуў, як бразнулі ў паповым доме ўваходныя дзверы, дзвынкнулі шпоры. Дайшліся прыглушаныя галасы чужой гаворкі. Твар Антона Токарава пабляднеў. Пазіраючы неадрыўна на закрытую дошкамі дзірку, праз якую быў ход на гару, ён дастаў з-пад жакеткі маузер і шчоўкнуў засцерагальнікам.

— Не варушыся!—шапнуў ён Жаркевічу.—Каб не трэснула столь. На, трымай наспагатове гранаты...

Пад імі грымелі дзвярмі і зброяй жаўнеры. У пустым доме лятала гулкае рэха. Жаўнераў і затоеных аддзяляў ад смерці толькі дашчаты насціл столі... Потым жаўнеры зноў загрукалі ў калідоры. Антон замёр у маўклівым напружанні. Зараз знойдуць другую лесвіцу і пачнуць лезці на гару...

— Пуста... гэта школа...—даляцеў да іх чужы голас з калідора. Следам за гэтым усё ў доме сціхла. Толькі зарыпелі вароты на вуліцу. Жаўнеры пайшлі.

Антон Токараў засунуў зноў маузер за пояс і ўзяў у Жаркевіча гранаты.

— А капсулькі пакуль што няхай пасядзяць. Можа паны заглянуць яшчэ раз,—прамовіў ён заклапочана-спакойным голасам.—Каб усё было падрыхтавана для прыёма.

Жаркевіч не вытрымаў і прамовіў у роспачы:

— Ну яго к чорту! Будзеш сядзець тут пакуль цябе, як тую мыш, не заколюць цесаком. Лепш памерці на сваім двары. Злезу я. Што будзе, то будзе!

— Як хочаш. Толькі я раю табе не ісці ў вёску. Чуеш, які там лямант? Там узяліся гаспадарыць... Могуць забіць пад гарачую руку.

Жаркевіч асцярожна адклаў дошкі і нячутна апусціў лесвіцу. Антон Токараў чуў, як ціха рыпнулі за Жаркевічам выходныя дзверы. Падышоўшы да акна, Токараў пачаў пазіраць на вуліцу. Мінула адна хвіліна, другая... Жаркевіч не выходзіў з двара. Да царквы, крокаў за дзвесце ад паповага дома, пад'ехалі тры фуры. Жаўнеры згрузілі з іх кулямёты і ўстанавілі каля агарожы. Заправілі істужкі з патронамі.

Токараву захацелася паглядзець, ці ёсць хто на паповым двары. Ён накіраваўся да другога зашчытка, дзе было выбіта акенца. Па твары яго хвасянула задрыпаная пала чорнай папоўскай расы. Антон гідліва зморшчыўся і плюнуў. Раса патыхала вострым конскім потам. Поп любіў ездзіць верхам на кані, ездзіць без сядла.

На двар было пуста. За будынкамі недалёка ад прырэчных лазовых кустоў, якія цягнуліся аж да пушчы, бадзялася пустапаснае цялё. Паміж парыжэлых стагоў паблісквала рака. Там, дзе ўчора быў мост, тырчалі пачарнелыя ад выбуху палі. Кружыліся над імі ад веку неспакойныя кнігаўкі, крычалі несціхана і тужліва...

— Антон!—пачуў Токараў гарачы шэпт знізу.—Антон!..

Ён высунуў галаву з акенца і ўбачыў Жаркевіча, які стаяў каля сцяны.

— Ну?—шэптам запытаўся Токараў.—Ты яшчэ тут?

— Злазь адтуль. Бачыў, што робіцца ля царквы? Сагналі ўсю

Верасніцу! Кулямётаў наставілі. Будуць расстрэльваць... Злазь. Прабярэмся садам, а там да пушчы рукою падаць...

У гэтую хвіліну каля царквы загрукацеў кулямёт. Токараў выхапіў маузер і рынуўся да другога акенца. У вушах яго шалёна зашумела ад раптоўна ахапіўшай злосці. Хутчэй разбіць шыбіну і...

Пакуль ён падбег да акна, кулямёт сціх. Натоўп сялян стаяў у нейкім нямым адрантвенні перад групкай коннікаў. Наперадзе быў чалавек, відаць, афіцэр. Ён нешта крычаў, размахваючы бізуном. Другі афіцэр, нізенькі і вёрткі, бегаў каля самага натоўпу. Вось ён размахнуўся і ўдарыў аднаго вераснянца па твары. Токараў ужо збіраўся выціснуць шкло, каб нацэліцца ў афіцэра, калі раптам убачыў, што да афіцэра падбег жаўнер і нешта шапнуў яму на вуха... А яшчэ праз хвіліну салдаты разагналі натоўп, нізенькі афіцэр паказаў групе салдат на папоўскі дом і першы рушыў у яго напрамку.

Антон Токараў сцяў зубы і адступіўся ад акенца. Хвіліна смерці набліжалася...

---

— Холера ценжка!—шыпеў капітан Марушэчак, пільна паглядаючы то на аднаго, то на другога жаўнера.—Хто аглядаў гэты дом?

— Я, пане капітане,—вінавата адрапартаваў Струсь, забягаючы наперад Марушэчка.—Але там было пуста...

— Пуста?! Большэвіцкі камісар для вас пусцякі?! Эй, вы,—крыкнуў Марушэчак на жаўнераў, якія па меры набліжэння да паповага дома трацілі сваю храбрасць і адставалі...—Наперад! Акружыць дом!

Яны ўжо ўваходзілі ў двор, калі дзверы дома раптам адчыніліся і адтуль кулем выляцеў даўгі поп у чорнай расе і саламяным капялюшы. Паказваючы дрыглівай рукой у сенцы, ён крыкнуў:

— Панове, хутчэй! Да мяне забраўся большэвік! Ён мяне ледзь не забіў... Ён на гары! Камісар!.. Бог мяне выратаваў...

Поп пачаў шырока хрысціцца, узняўшы ўгору благачэсцівыя вочы.

— Ідзіце адсюль і не перашкаджайце,—загадаў перапалоханаму папу Марушэчак.—А мы яго хутка дастанем. За мною!

Яны ўляцелі ў сенцы.

— Ну і папёр!—хіхікалі храбрыя жаўнеры, якіх Марушэчак пакінуў вартаваць на ганку.—Нагнаў на яго камісар страху. Глядзі, глядзі, як дае.

Поп, дабегшы да кустоў, сарваў з сябе расу і апынуўся ў звычайнай жакетцы. Нешта вывалілася ў яго з-за пояса. Ён нагнуўся і падняў. На сонцы бліснула сіняя сталь маузера.

Вартавыя кінуліся ў сенцы.

— Пане капітане! Пане капітане!..

— Што там яшчэ такое?—зароў Марушэчак.

— Той поп—не поп, пане капітане... У яго зброя...

— Што-а?! Зараз-жа затрымаць!

— Яго ўжо няма, пане капітане!

## VI

Майсей Жаркевіч вярнуўся ў Верасніцу толькі праз два дні пасля таго, калі полк пана Свяцніцкага рушыў далей на Ўсход.

Ціхая месячная ноч панавала над вёскай. Асцярожна, нібы злодзей, прыслухоўваючыся да кожнага шолаху, прабіраўся Жаркевіч да сваёй хаты. У белым вільготным змроку лятали трывожныя пахі гарэлага дрэва. Там, дзе нядаўна стаяла поташава гумно, чарнела груда вугалля. Агонь змёў і некаторыя хаты. Недарэчна і дзіка выглядалі на папялішчы белыя печы. На прыпяку адной з іх яшчэ і да гэтага часу стаяў цаган, парыжэлы ад полымя.

Ціха і маўклiва было ў вёсцы. І ад гэтага цяжка і трывожна рабілася на душы у Майсея Жаркевіча. Яму здавалася, што за кожным вуглом, за кожным дрэвам яго сцеражэ жаўнер, пастаўлены панам Свяцніцкім. Праўда, Жаркевіча папярэдзілі, што ў вёсцы ўжо няма ніводнага белапаляка, што яны, спяшаючыся хутчэй дайсці да Масквы, выступілі з Верасніцы ў той-жа дзень, але мала што могуць гаварыць людзі! У Верасніцы магла спыніцца другая часць, другі батальён, альбо нават дзесятак паноў. І кожная з гэтых груп, і кожны з гэтых жаўнераў мелі за правіла распытваць і выведваць, ці не астаўся тут дзе большэвік, комуніст. Вядома, пад комуністамі яны разумелі не толькі людзей з білетамі компартыі, але і тых, хто слухаў гэтых комуністаў, хто дзяліў панскую зямлю, панскі лес, дапамагаў праводзіць рэквізіцыю ў кулацкіх гаспадарках. Нарэшце, комуністамі паны лічылі і тых, хто проста збудаваў сабе пасля рэволюцыі новую хату з панскага дрэва... Гэтае Жаркевіч добра ўведаў у часе нямецкай акупацыі, калі разам з немцамі прыехалі ў маёнтак і паны Свяцніцкія...

Жаркевіч асцярожна пастукаў у акно і замёр, напружана прыслухоўваючыся да таго, што робіцца ў хаце. Нібы пачуўшы гэты бразгат, шалёна забрахалі сабакі на Корбутавым хутары. Іх брэх што далей, то ўсё больш мацнеў. І раптам у гулкую пустату начы ўдарыў кароткі вінтовачны стрэл. Сабакі залемантавалі яшчэ мацней. Цяпер да іх далучыліся рознагалосыя вясковыя дварнягі.

— Хто там?—нарэшце пачуў Жаркевіч голас Віктара з сянец.

— Я. Майсей... У хаце чужых няма?

— Няма. Дзе гэта стрэлілі?

— Каля Корбута...

— На хутары? А-а... Ён, мусіць, спрабуе вінтоўку, якую яму далі паны для абароны.

— Каму паны далі вінтоўку?—запытаўся Жаркевіч ужо ў хаце.

— Корбуту. Яго пан Свяцніцкі прызначыў за войта.

Жаркевіч цяжка асеў каля стала. Жонка пасля некалькіх трывожна узрадаваных воклічаў пачала чыркаць запалкамі каля печы. Пальцы яе дрыжэлі ад таго вялікага хвалявання, якое звычайна бывае ў блізкіх людзей, што ўжо стаміліся ад трывогі за жыццё адзін аднаго, але нарэшце спаткаліся. Яна пра гэтае і гаварыла:

— Божа мой! Колькі тут было страху! Казалі ты схаваўся ў паповым доме. Разам з Токаравым. Я ведала, што вы не маглі далёка адысці... Божа мой...

— Ты агню не палі,—прачула прамовіў Жаркевіч,—яшчэ могуць падглядзець... А ў хаце і так відна ад месяца.

Яна ўздрыганулася і зараз-жа патушыла запалку.

— Не паліць?.. Дык-жа іх у сяле няма! Паляцелі, каб ім удавіцца на першай асіне, паламаць ногі аб першы камень. Ты, мусіць, добра выгаладаўся? Чаго табе даць з'есці? Ты, Віцька, хоць пасвяці мне, пакуль я дастану гаршчок з печы! Ай, што тут без цябе рабілася! Поруцца дзе хочуць, бяруць, што хочуць. Нібы яны не людзі, а нейкае дзікае звяр'ё. Што мы ім зрабілі такое благое? Божа мой!.. А тут пасля страляння яны папоў дом абкружылі. У мяне ўсё ў грудзях пахаладзела. Ногі, як нежывыя, рукі—незварушныя. У вачах усё пацямнела... А тут і за Віцю боязна. Яшчэ ўзгарыцца, ускруціцца... Усякая брыдасць у галаву лезе. У сяле раней людзі адзін аднаму галовы разбівалі за перахвачаны пракос, за адну скібу. А ты-ж цэлы маёнтак раздзяліў! Сабе таксама ўзяў пяць дзесяцін. Хату такую выстраілі з панскага лесу! Корбут яшчэ падасць за рэквізіцыю. Ды і граматы пад падлогай. Я ўся абвяла проста, калі яны пачалі вобыск... Корбут...

— Корбут не адважыцца,—урачыста прамовіў Віктар.—Ён пабаіцца.

Бацька і маці прапусцілі гэтую заўвагу сына. Маці прапусціла таму, што ў другі раз яна перажывала тую страшную хвіліну, калі, па суроваму закону вайны, людзей забіваюць як мух, альбо за адно толькі слова, альбо па аднаму слову забіваюць без суда, без лішніх допытаў, нічога не хочучы бачыць у чалавеку, апроч небяспечнага ворага. Жаркевіч не звярнуў увагі на словы Віктара таму, што яны былі неакрэсленыя. У дадатак, ён, як і ўсе бацькі, лічыў, што сын яго яшчэ дзіця, якое трэба вучыць паслухмянству, а не слухацца яго. Магчыма што праз апошняе і вышла пазней такая нечаканая для Віктара сутычка за яго ініцыятыву.

Слухаючы ўсхваляваную гаворку жонкі, Жаркевіч адпачываў. Пасля ўцёку з паповага дома, пасля бадзяння ў лесе, бяссоннага начлегу ў смалярні, яму прыемна было пачуць, што тут пра яго думалі, хваляваліся за яго.

Два дні прабыў ён разам з Токаравым каля смалярні ў пушчы. Увесь гэты час яны напружана прыслухоўваліся да грукату гармат. Часамі ім здавалася, што бой, які аддаляўся на ўсход, раптам зноў мацнеў і набліжаўся ў бок захаду. Яны тады ўсхватваліся з зямлі, дапытліва пазіраючы адзін на аднаго. У гэту хвіліну ім прагна хацелася, каб на змену стомленым чырвонаармейцам прышлі добра ўзброеныя свежыя часці, якія-б змялі і пагналі назад гэту фанаберыстую панскую арду.

Але мінала адна хвіліна, другая. Раскаты далёкай артылерыйскай кананады слабелі і нарэшце зусім заціхалі. Толькі бор—цёмны маўклівы строй векавых сосен і елак—паволі шавяліў сваімі кашлатымі галінамі. Няўлоўны глухі шолах лятаў у густых вершалінах.

Цяжка было Жаркевічу слухаць гэтыя трывожныя шэпты дрэў! Што цяпер дома? Ці не нарабілі там паны такой бяды, пра якую нават страшна падумаць. Немцы расстрэльвалі сялян за адзін зной-

дзены ў іх хаце баявы патрон. А тут у Жаркевіча не патрон, а, можна сказаць, цэлы парахавы пограб пад падлогай!

І вот цяпер, седзячы ў сваёй хаце, ён трохі паспакайнеў.

Віктар падрабязна расказаў яму, як зганялі верасняцаў слухаць панскі маніфест, як стары Верабей хацеў уцячы, але яго злавіў падхарунжы. Як польскі афіцэр ні за што, ні пра што збіў Буйневіча.

— Цяпер самае лепшае не задзірацца,—па філасофску прамовіў Жаркевіч.—Зачэпіш—загінеш. Яны дужыя толькі таму, што ў іх ёсць зброя. Але самае страшнае для нас цяпер не паны, а падпанкі, усялякія падбрэхічы і даносчыкі. Іх больш як паноў і яны ўсё робяць паціху. Гэта яны данеслі панам, што мы з Токаравым хаваліся ў паповым доме. Цяпер Корбутаў трэба сцерагчыся больш, як паноў.

— Корбут і пальцам нас не кране,—зноў прамовіў Віктар.— Ён нават у абоз нам не загадаў ехаць. Усіх, каго заспеў з канём учора, пагнаў, а нас абмінуў... Ён нас не кране...

Толькі цяпер звярнуў Жаркевіч увагу на словы сына.

— Чаму ты думаеш, што не кране?

— Пабаіцца.

— Пабаіцца? Хто-ж гэта яго так настрашыў?

І ў невымоўным гонары за свой учынак Віктар прамовіў:

— Я!

— Ты?

— Так!

У хаце на некаторы час запанавала цішыня. Бацька ледзь зводзіў дух ад здзіўлення. Сын сядзеў на табурэтцы, якраз насупроць акна. Бледнае святло месяца роўнай фарбай укрывала яго твар, ледзь улоўна паблісквалі адны толькі вочы. Таму Жаркевічу цяжка было пазнаць—жартуе сын, ці кажа праўду. Нарэшце ён запытаўся ў Віктара:

— Як-жа ты яго настрашыў? Ты з ім гаварыў?

— Гаварыў. Я сказаў, што калі хоць адзін волас спадзе ў каго праз яго, Корбута, язык, дык не жыць і яму самому...

— Калі ты яму сказаў?

— У той вечар, калі нашы адступілі, а палякі яшчэ не занялі Верасніцы...

— Што ты нарабіў! Што ты нарабіў!..

Віктар ускочыў. Табурэт з грукатам адляцеў у бок. Бацька нават не зварухнуўся. Ён толькі загаварыў сурова-ціхім голасам, але словы яго падалі нібы кроплі расплаўленага свінца на жывую душу Віктара.

— Хто цябе прасіў ісці да яго ў такую пару? Нам трэба цяпер быць перад ім цішэй вады, ніжэй травы. Думаць што хочаш думай, а не аскірзайся. Яго цяпер трэба гладзіць, як скулу. А так—усе загінем. Чаго табе мяшацца ў гэту справу? Даволі таго, што мне аднаму давядзецца расплачвацца, дык ты захацеў, каб маці сохла яшчэ і па табе... Табе мала, што бацька стаў баяцца зайсці ў сваю хату... Ты хіба не чуў, што Корбут, каб разбагацець, зарэзаў двух чалавек, нібы авечак? Цяпер, каб утрымаць сваё багацце, ён гатовы перарэзаць цэлы свет. Ты яшчэ не пабачыў, як лёганька гінуць

людзі! Ты думаеш яшчэ дзіцячым розумам... Што ты нарабіў! Што ты нарабіў!

У грудзях у Віктара гарэла. Не памятаючы сябе, ён крыкнуў:

— Нічога я не нарабіў!

— Нічога?!

— Ага. Няхай ён толькі паспрабуе хоць слова пікнуць.

— А хто данёс, што мы хаваемся ў паповым доме? Ён не такі чалавек, каб даравацць рэквізіцыю, каб даравацць абразку зямлі... Думаеш, паткнуліся-б сюды палякі, каб не ведалі, што знойдзецца сволата, якая іх падтрымае?

— Сволату трэба біць!

— Біць?

Дзікая ўпартасць усё больш і больш апаноўвала Віктара. Ён не мог стаяць на месцы. Ён захадзіў па хаце: ад стала да дзвярэй, то ад грубкі да сцяны, нібы шукаў і не мог знайсці ў змроку выхаду з гэтай хаты, у якой яму стала душна.

Ён абвінавачваў бацьку ў баязлівасці, ён абвінавачваў у баязлівасці ўсіх вераснянскіх мужчын. Трэба было кінуцца на паноў ля царквы ўсім гуртам. Захапіць кулямёты, разбіць усю гэтую марадзёрскую зграю, якая прышла грабіць мірную працу, насміхацца і здзекавацца з чалавечай годнасці.

Нарэшце Віктар выдыхаўся. Усё, што ў яго накіпела на сэрцы, ён выказаў. Бацька не перыпыняў яго ні разу. Толькі маці час ад часу шаптала. «Віцька, ну чаго ты? Ну сціхні ты! Не крычы, дзіцятка... Яшчэ пачуюць з двара...»

— Ты нагаварыўся?—запытаўся Жаркевіч у сына, калі той зноў сеў.

— Нагаварыўся,—нездаволена буркнуў Віктар.

— Дык вот што я табе скажу, чалавеча,—прамовіў бацька суровым апякунскім голасам.—Каб я апошні раз чуў ад цябе такія словы. Не вытыркайся, сынок, раней бацькі. Усё гэта ад таго, што ты залішняе начытаўся ўсякіх раманаў. А жызні ты не ведаеш. Не ведаеш, чалавеча, жызні. Ты хочаш вучыць людзей, якія па чатыры гады не вылазілі з акопаў, якія вытрымалі нямецкія газавыя атакі. Над табой яшчэ не свісталі чужыя кулі...

— Свісталі,—успомніў Віктар бацьку польскую «спробу» кулямёта каля царквы.

Бацька нібы і не чуў яго слоў.

— І вот,—прадаўжаў ён далей.—Паспрабуй цяпер куды палезці без майго спросу! Паспрабуй, не падумаўшы, брахнуць што-небудзь перад людзьмі!.. Не так, братка, ваююць, як ты вычытаў у сваіх раманах!.. Дык запомні, што я табе сказаў!

## VII

З упартымі баямі пасоўваўся полк Вацлава Свянціцкага далей на ўсход. Па меры набліжэння да ракі Бярэзіны, супраціўленне Чырвонай арміі нарастала ўсё больш і больш. Кожную вёску, кожны маёнтак, нават невялічкі пералесак трэба было браць прыступам. Свянціцкага здзіўляла і азлабляла тая самаахвярная стойкасць,

якая не пакідала чырвонаармейцаў ні на адзін дзень, ні на адну хвіліну. Аднойчы раніцою полк рушыў па вузкай гарлавіне між двух вялікіх непраходных балот. Чырвонаармейцы сустрэлі акупантаў жахлівым вінтовачным і кулямётным агнём. Жаўнеры рвануліся назад, пакідаючы на полі забітых і параненых.

Не адчуваючы таго, як люта забушавала ў ім кроў, Свянціцкі рынуўся да начальніка штаба.

— Хто камандаваў раз'ездам, дзе была разведка?—крыкнуў ён у шаленстве.

— Разведка была гадзіну таму назад, пане палкоўнік. Яна праехала амаль да самага маёнтка і вярнулася, нічога не заўважыўшы.

— Я ў вас пытаюся, хто камандаваў раз'ездам, пане капітан?— Свянціцкі ледзь стрымліваў знароўленага вінтовачным грукатам каня.

— Паручык Ольгерд Свіда, пане палкоўнік.

— Зараз-жа адпраўце гэтага нягодніка ў тыл чысціць прыбіральні! Эй вы!—крыкнуў ён на групу жаўнераў, якія, прыгнуўшы галовы, уцякалі ад страшнай засады.—Стойце, пся ваша маць!

Некалькі куль жугнула над яго галавою, але Свянціцкі не звярнуў на гэта ніякай увагі. Выхапіўшы з кабуры браўнінг, ён кінуўся уцякаючым наперарэз.

— Назад! Праклятыя баязліўцы! Пастраляю, як сабак!..

Жаўнеры спыніліся, нібы перад імі вырасла з зямлі непраходная сцяна. У жывёльным страху, азіраючыся навакол і ўбіраючы галаву ў плечы, яны ціс093нуліся адзін да аднаго.

— Які ўзвод? Дзе ваша зброя?

Ён гарцаваў перад імі на порсткім англійскім скакуне, увесь барвовы ад гневу, гатовы кожную хвіліну выстраліць у лоб таму, хто пасмее адступіць у тыл хоць на крок.

Жаўнеры неахвотна павярнулі назад.

Тры разы кідаўся Свянціцкі ў атаку і тры разы адступаў перад смяротным ліўнем куль. І кожны раз усё больш радзелі яго роты і большая апатыя і стомленасць апаноўвала тых, што заставаліся жывымі. Гэта, калі кінуць полк яшчэ раз на ворага, магло прывесці да катастрофы. Рукі яго дрыжэлі, калі ён аглядаў у бінокль пагрозна-таямнічыя кусты, бугры, за якімі былі кулямётныя гнёзды, за якімі хаваліся людзі з чырвонымі зоркамі на шапках. Усё цяпер там было непарушным і маўклівым, і ні адкуль не вылятаў кароткі блакітны дымок. Здавалася, што нікога там няма, і гэтыя недарэчныя шэрыя мяшкі на зялёнай траве—трупы яго салдат—толькі жахлівы і непаўторны сон. Але такім мірным і нявінным выглядала большэвіцкае ўмацаванне перад кожнай атакай... Пачыналася атака, і ўся зямля гарэла пад нагамі жаўнераў... Адно, што можа дапамагчы яму разбіць гэты агнявы рубеж працаўніка—артылерыя. Свянціцкі аддаў адпаведны загад начальніку штаба і пачаў аб'езд узводаў і рот, якія пасля такіх няўдалых атак прытаіліся па хмызняках і лагчынах. Пакуль пачнецца артылерыйская падрыхтоўка, Свянціцкі лічыў неабходным пагаварыць з жаўнерамі.

— Усе нашы храбрыя жаўнеры,—гаварыў ён ціхім праніклёным голасам,—засталіся на полі бою, забітыя гэтымі варварамі-боль-

шэвікамі. Святая кроў забітых прагне помсты, прагне доказаў, што тыя, якія засталіся жывымі, не трусы. Вялікая дзяржава польская чакае гераічных самаафярных учынкаў ад сваіх жаўнераў. Слаўная польская армія робіць цяпер вялікую гістарычную справу. Усяго некалькі гадзін аддзяляюць яе ад ракі Бярэзіны. Яны дойдуць да яе і на плячах гэтых трусаў-бальшэвікоў перабяруцца на той бок. Там недалёка Смаленск, за Смаленскам—Масква, адкуль ідзе ўсё зло веры і людзям. Бальшэвікі хочуць зруйнаваць вялікую рэч паспалітую, зрабіць нехрысцямі ўсіх палякаў, зруйнаваць боскія дамы-касцёлы... Трэба ратаваць ад гэтых бальшэвікоў веру і айчыну, ратаваць матку боску чэнстахоўску. Яны павінны заваяваць усю зямлю, каб зрабіцца багатымі і шчаслівымі. Гэта не толькі яго, Свянціцкага, голас. Гэта голас галоўнага начальніка Юзефа Пілсудскага, голас усяго польскага народа, благаслаўлёнага на гераічны ўчынак самім папежам рымскім...

Голас палкоўніка то дрыжэў вялікім гневам, то зніжаўся да тужлівага шопату, калі ён успомніў пра тое, як уцякалі жаўнеры. Ён то лаяў іх самымі апошнімі словамі, то сарамаціў іх і дакараў здрадай, якую яны зрабілі перад непераможным сцягам жэчы паспалітай. Ён гаварыў пра ганьбу, якая пала не толькі на іх галаву, але падзе і на галовы іх бацькоў, іх братоў і сясцёр, на каханых імі дзяўчат. Каб гэтае не здарылася, каб выкупіцца з вялікай віны якую яны прынялі на сваю душу агіднымі ўцёкамі, яны павінны змагацца, як ільвы. Смерць баязліўцам! Ганьба баязліўцам! Няхай жыве вялікая жэч паспаліта ад мора і да мо...

Свянціцкі не скончыў. Страшэнны выбух скалануў зямлю. Гулка шоргаючы ў паветры, праляцеў высока над галавою нябачны снарад. Зямля, дзе ўмацаваліся чырвонаармейцы, узвіхрылася ў сіняе неба слупам чорнага дыму.

— Цяпер не ўтрымаюцца,—прамовіў Свянціцкі Марушэчку, калі яны выязджалі на ўзгорак.—Праз гадзіну мы пройдзем без ніякіх афяр. Напалеон заўсёды браў артылерыяй там, дзе не дапамагаў нават шалёны гераізм яго камбатантаў.

Ён паднёс бінокль да вачэй. Снарады ўсё часцей і часцей крамсалі непрыступную зямлю, якая не хацела скарыцца. У круглым фокусе то з'яўляліся, то знікалі маленькія фігуркі людзей.

— Яны шукаюць спакайнейшага месца,—ухмыльнуўся Марушэчак, не адымаючы бінокль ад вачэй.—Павінен прызнацца, я не чакаў такога супраціўлення. Асабліва ад людзей, у якіх няма адукаваных афіцэраў. Ім даводзіцца самім браць ініцыятыву.

— Гэта для нас самае страшнае... Вы праверылі людзей?

Марушэчак апусціў бінокль і дакрануўся двума пальцамі да казырка.

— Так, пане палкоўнік. У другой роце забіта трыццаць пяць чалавек і ранена пяцьдзесят чатыры. Першая рота страціла дваццаць чалавек. Хто з іх забіты, а хто ранены—невядома, бо ўсе засталіся ляжаць на полі.

Губы пана палкоўніка сударгава скрывіліся.

— Перадайце на батарэю, каб узмоцнілі агонь!—крыкнуў ён пршпорваючы каня.—Няхай хутчэй канчаюць!

Свянціцкі прыпомніў загад генерала Шэптыцкага, у якім гаварылася, што з набліжэннем да Бярэзіны паны-афіцэры павінны ўзмацніць націск, каб не даць бальшэвікам магчымасці пераправіць сілы на той бок ракі. Справа гонару кожнага афіцэра унікнуць афяр у сваім палку і нарабіць як мага больш страты бальшэвікам. Задача—разграміць праціўніка, не даць яму ўмацавацца на тым баку. Справа гонару кожнага афіцэра—першым дайсці да Бярэзіны, першым пераправіцца на той бок.

Свянціцкі зноў накіраваў у бой першую роту. Яшчэ рваліся ў гарлавіне снарады, мяшаючы ўсё жывое з мёртвым, яшчэ плаваў у паветры чорны дым і пыл, а першыя групы жаўнераў ужо набліжаліся да таго месца, дзе некалі былі спехам зробленыя ўмацаванні. Цяпер на месцы ўмацаванняў чарнелі адны варонкі, стаялі абсмаленыя агнём кусты. Ніводзін ліст ужо не трапятаўся на замерлым на век голлі. Вялізныя смольныя пні абапал дарогі павыварачвала з карэннем. Здавалася, што не засталося тут ніводнай цэлай казяўкі, а не то, што чалавека! А батарэя біла ўсё часцей, пераносячы агонь далей па меры таго, як жаўнеры пасоўваліся наперад пад заслонай полымя і дыму ўзрываў.

І тады здарылася тое, чаго ўжо не спадзяваўся ні адзін белапаляк. То, там, то сям падымаліся ім насустрач людзі у чорных ад зямлі і гразі шынелях і гімнасцёрках. Яны выбягалі з-за смяротных віхрыстых слупоў яшчэ жывыя, каб прыняць апошні рашаючы бой. Некаторыя з іх хісталіся, адурманеныя гэтым забойчым грукатам, параненыя асколкамі снарадаў. Але, перш чым прыпасці да зямлі ўжо навекі, яны яшчэ выстрэльвалі ў ворага апошнія патроны, закідвалі яго астатнімі гранатамі. Калі не было чым страляць, яны кідаліся ў штыкавы бой—неўгамаваныя страшныя адзінкі.

Вацлаў Свянціцкі, які ў вялікім хваляванні назіраў праз бінокль за гэтым жудасным боем, загадаў спыніць гарматны абстрэл: ашалелыя ад упартага супраціўлення легіянеры маглі трапіць пад агонь сваёй батарэі.

— Пашліце на дапамогу трэцюю роту,—кінуў ён ад'ютанту.— Першая рота пасля бою спыніцца ў маёнтку, а трэцяя павінна заняць мястэчка. Рабіце.

Заціхла гарматная страляніна. Толькі час ад часу шчоўкалі адзіночныя вінтовачныя стрэлы. Дым і пыл над гарлавінай паволі развейваліся ветрам. Тады Свянціцкі ўбачыў разрозненыя групы жаўнераў, якія няўхільна пасоўваліся наперад.

— Усё скончана, пане палкоўнік,—праспяваў Марушэчак.—Дарога на Бярэзіну вольная. Чакайце, што гэта? Што такое?

Жаўнеры, якія ўжо набліжаліся да выхаду з гарлавіны, раптам пачалі падаць на зямлю. Яшчэ адзін кароткі момант, і вецер данёс да вушэй Свянціцкага прыглушаны далячынёю грукат кулямёта.

— Гэтаму не будзе канца! Яны зноў зараз пабягуць назад!— Зароў пан палкоўнік і, рвануўшы каня за повад, паімчаўся наперад. Марушэчак кінуўся следам за ім.

Але пакуль Свянціцкі даляцеў да перадавой лініі, усё ўжо было

скончана. Палянка перад невялікім курганам была ўся ўсеяна трупамі жаўнераў з першай роты, а на кургане ляжаў тварам да зямлі чырвонаармеец-кулямётчык. Левая рука яго была падкурчана, а ў правай ён сціскаў «наган».

Марушэчак саскочыў з каня і тауханўў нагою нерухомы труп. Галава чырвонаармейца павярнулася тварам угору і Свянціцкі ўздрыгануўся ад нечаканасці. Нешта знаёмае было ў кароткіх светлых вусіках чырвонаармейца, у моцна сцятых смерцю губах... І раптам праз невялікую ранку каля правага вуха хлынуў на жоўты пясок кургана кароткі струмень крыві...

— Ён застрэліўся сам, пане палкоўнік,—прамовіў чорны, як цыган, паручык.—У кулямёце не засталося ніводнага патрона.

— Ён крыкнуў «няхай жыве комунізм»!..—прашаптаў нехта з жаўнераў.

Марушэчак шпарка азірнуўся. Вочы яго ўзгарэліся шалёным агнём.

— Што-а? Паўтары яшчэ раз!

Ніхто не адважыўся паўтарыць тое, што сказаў.

— Абшукайце забітага,—коратка кінуў Свянціцкі... І пакуль чорны паручык пароўся ў кішэнях кулямётчыка, ён стараўся прыпомніць, дзе бачыў гэтага чалавека, які раней чым загінуць, нарабіў столькі страт яго палку. «Сорак шэсць забітых, дваццаць паранеых, пане палкоўнік»,—шапнуў яму на вуха Марушэчак.

«Якая страшная нянавісць жыла ў ім»,—зноў зірнуўшы на нерухомы твар чырвонаармейца, падумаў Свянціцкі.

Прозвішча Верабей, імя Давід, па бацьку Мікалаевіч,—чытаў паручык знойдзеную у чырвонаармейца вайсковую кніжку.

Свянціцкі ўстрапянуўся.

— З якой мясцовасці?

—Вёска Верасніца, Ігуменскага павета, Менскай губерні.

— Хопіць! Перадайце дакументы капітану Марушэчку. Я з імі азнаёмлюся пасля.

Свянціцкі ўспомніў. Давід Верабей працаваў да рэволюцыі на пільні яго бацькоў.

## VIII

Нарэшце Свянціцкі ўбачыў Беразіну. Шырачэзная даліна разлеглася з поўначы на поўдзень, танула і знікала ў далячыні, ахутаная блакітнай дымкай. То тут, то там паблісквалі на сонцы маленькія вазёры, абкружаныя лазняком і чаротамі. У іх адлюстроўваліся белыя гурбы рэдкіх воблакаў і сіняе неба. Высокая грэбля перарэзала луг. На гэтым баку грэбля пачыналася з мястэчка, а на тым баку знікала ў густым і цёмным лесе, які расцягнуўся ўздоўж рэчкі на дзесяткі, а можа і сотні кілометраў.

Калі атрад пана Свянціцкага ўварваўся ў мястэчка, на гэтым баку ужо не засталося ніводнага чырвонаармейца. У далячыні, за ахопленым полымем драўляным мостам, уязджалі ў лес па грэблі апошнія большэвіцкія фурманкі. Пакуль жаўнеры расставілі кулямёты, іх і след прастыў.

Недзе ўверх і ўніз па рацэ біла артылерыя. Пяруновыя раскаты рэха ляталі па даліне. Кароткія выбухі снарадаў чуліся па абодвух баках ракі.

Марушэчак паслаў наперад трэцюю роту, якая да гэтага часу мала ўдзельнічала ў баях і таму мела самыя найменшыя страты. Патрэбна было прарвацца па агнёваму масту на той бок. За ёю рушылі сапёры: мост яшчэ нядаўна загарэўся і яго можна было абтушыць.

Але не паспелі жаўнеры прайсці і сотні крокаў па высокаму насыпу грэблі, як неба над іх галовамі раскалолася са сталёвым звонам і па калоне густа пырснула шрапнеллю. Некаторыя паваліліся нежывымі, жывыя ўпалі, каб хутчэй распаўзціся па адкосах. Другі снарад разарваўся над пачаткам грэблі, трэці—над самым мостам: полымя над мостам шуганула ад удару паветра ўніз, але неўзабаве зноў выскачыла наверх і забушавала з большай сілай.

Яшчэ адзін шрапнельны снарад разарваўся амаль над тым самым месцам, што і першы, а праз кароткі момант уся грэбля ад мястэчка і да шырокай істужкі ракі закіпела выбухамі фугасных снарадаў. Было відаць, што чырвонаармейская батарэя загадзя пристраляла гэты вучастак.

Нішто жывое не магло прарвацца да маста...

Сцяўшы зубы ад бяссільнай ярасці, Свянціцкі падаў загад адбою. Як толькі жаўнеры, прыгінаючыся да зямлі, рынуліся назад у мястэчка, абстрэл грэблі адразу-ж спыніўся. Гэта паказвала, што чырвоныя эканомілі снарады і што нехта, нябачны сам, наглядаў з таго боку за кожным рухам белапалякаў.

Пракляты паручнік! У гэтую хвіліну Свянціцкі гатовы быў абвінаваціць яго нават у здрадзе і расстраляць без усякага суда каля першага дрэва. Каб не затрымка па яго дзікай неўважлівасці ў гарлавіне, то хто ведае, якая велізарная здабыча магла трапіць у рукі Свянціцкага. Тым больш, што пан генерал папярэдзіў пра пераправу каля мястэчка цэлай бальшэвіцкай дывізіі.

— Гэту справу я даверяю толькі вам,—сказаў Свянціцкаму пан генерал.—Я на вас спадзяюся.

Свянціцкаму здавалася, што каб трапіўся ў гэтую хвіліну паручнік Свіда яму на вочы, ён-бы застрэліў яго з рэвальвера як сабаку. Але паручнік, быццам адчуваючы яго настрой, не трапляўся на вочы.

Нібы ўгадваючы, пра што думае пан палкоўнік, Марушэчак сказаў:

— Я, пане палкоўнік, дапытаў кожнага жаўнера, якія былі ў разведцы. Усе яны сцвярджаюць, што нічога падазронага яны не заўважылі ў гэтай праклятай гарлавіне. Заслон, відаць, прышоў пасля разведкі, альбо хаваўся ў алешніку.

— Вам, пане капітане, трэба звярнуць на разведку асаблівую ўвагу. Вы павінны ведаць, што мы знаходзімся на тэрыторыі, дзе не толькі чалавек, але і куст, кожнае дрэва—нашы ворагі. Мне здаецца, што вы залішняе давяраеце людзям, якія сустракаюцца на вашым шляху.

Марушэчак узяў пад казырок.

— Прашу прабачэння ў пана палкоўніка... Пан палкоўнік добра ведае маю лінію. Калі справа ідзе аб спакоі, я адкідваю ў бок нават нацыянальныя інтарэсы. Інтарэсы грамадства ў мяне заўсёды на першым плане. Мне здаецца, пан палкоўнік меў ласку бачыць не аднойчы, што я хаджу толькі напрасцяк.

Так размаўляючы, яны ехалі па прыцішанай вуліцы мястэчка. Нікога з грамадзянскіх жыхароў не было відаць каля варот. У многіх дамах былі зачынены акяніцы, на дзвярах крам віселі замкі. Здавалася, што насельніцтва гэтага мястэчка ўсё вымерла. Відаць была толькі цёмная вопратка жаўнераў.

На плошчы пана палкоўніка дагнаў падхарунжы Струсь. Свянціцкі нездаволена глянуў на яго барвовы і круглы, як месяц, твар.

— Што яшчэ?

— Затрыманы бальшэвікі, пане палкоўнік!

— Прывядзіце іх ў штаб!—кінуў Свянціцкі.

— Я з імі разбяруся,—пацiху, але са злавеснай ухмылкай дадаў капітан.

Яны выехалі з мястэчка і накіраваліся ў маёнтак. За кілометр ад густога бярозавага парку, у якім узвышаўся бляшаны дах памешчыцкага дома, Свянціцкага спаткаў конны раз'езд. Бязвусы, яшчэ з дзіцячым тварам паручнік, тарконуў шпорамі каня і адарваўся ад групы жаўнераў.

— Маю гонар далажыць пану палкоўніку, што дарога вольная,— бадзёра пачаў ён рапарт. У маёнтку не засталося ніводнага бальшэвіка.

— Пан паручнік упэўнены?

— Так, пане палкоўнік. Мы агледзелі ўсе будынкі ад верху да нізу: засталося адно цывільнае насельніцтва. Яны гавораць, што праціўнік пакінуў маёнтак сёння ноччу. На даху будынка застаўся толькі чырвоны сцяг. Я загадаў яго зняць...

— Знялі?

— Пры мне, пане палкоўнік.

— Пан паручнік хлусіць!—раптам ускіпеў Свянціцкі.— Гэта не да твару афіцэру жэчы паспалітай.

Паручнік пачырванеў, нібы хто абліў яго варам. Ён кароткі момант няўцямна пазіраў на пана палкоўніка і потым шпарка павярнуўся ў бок маёнтку.

— Матка боска!.. Пане палкоўнік... слова гонару...—зашапталі збялелыя вусны паручніка.

На даху, крыху ніжэй шпіля, неўгамавана трапятаўся на фоне далёкага зіхотна-белага воблака чырвоны сцяг.

Капітан Марушэчак схапіўся за рэвальвер.

— Напшуд!—зароў ён на жаўнераў.—Зняць! Яшчэ раз абшукаць маёнтак. Падазроных расстрэльвайце на месцы!

Жаўнеры, многія з якіх пачалі хрысціцца ад такой нечаканасці, зноў павярнулі коней у маёнтак.

Пакуль Свянціцкі і Марушэчак уз'ехалі на двор, чырвоны сцяг быў зноў зняты. Спешаныя жаўнеры ляталі ад хаты да хаты, шукаючы чалавека, які так нахабна пасмяяўся з іх ваяцкага гонару. Свянціцкі адразу пад'ехаў да шырокай тэрасы і паволі ўзняўся

уверх па бетоннай лесвіцы. Марушэчак і іншыя афіцэры неадступна следвалі за ім.

Перш за ўсё Свянціцкаму кінулася на вочы шыльда, напісаная агнёва-чырвонымі літарамі на кавалку белага картона: «Рэволюцыйны камітэт». Марушэчак падскочыў да дзвярэй і рвануў пакарэжанымі пальцамі за картон.

У пакоях было так, як бывае заўсёды пры спешнай эвакуацыі: на падлозе валяліся абрыўкі розных газет, кавалкі ўпаковачнага шпагату. Шуфляды сталоў, напалову высунутыя, былі пустыя. Толькі ў адной з іх, на кавалку сіняй паперы паблісквала залацістая луска тарана, ляжаў невялічкі кавалачак чорствага хлеба.

Зялёныя вочкі начальніка штаба шмыгалі ад аднаго стала да другога. У іх загарэўся той нядобры аганёк, які бачылі вераснянцы, калі Марушэчак накіроўваўся да паповага дома рабіць аблаву на Токарава. Пры такіх раптоўных выездах здараецца, што людзі часамі забываюць на дробязі, якія шмат чаго могуць даць ворагу для далейшай дзейнасці. Напрыклад, спісы надзялення сялян панскім лесам і зямлёй. Аднойчы, каля Вільні, трапілі ў рукі капітана нават спісы комуністаў, у ліку якіх былі і тыя, што асталіся для падрыўнай работы.

Пальцы капітана дрыжэлі, калі ён перакідаў паперы, старыя нумары газет «Правда», «Бедната», абшарпаныя зялёныя папкі. Яго разбірала злосць, што не было нічога такога, з чаго-б можна было пакарыстацца... Афіцэры здзіўлена наглядалі за нервовасцю, якая апанавала начальніка іх штаба. Марушэчак, забыўшыся на панскі гонар, пачаў нават поўзаць па падлозе, збіраючы і ўважліва прагля-даючы самыя дробныя паперкі. Нарэшце, яны не вытрымалі сцэны гэтай брыдкай работы і вышлі ў другі пакой. Усе яны раней не мелі ўяўлення аб тым брудзе, у якім часта даводзіцца пароцца контрразведчыку, і не ведалі, да якіх памераў апаноўвае яго страсць, калі тое, чаго ён шукае, не знаходзіцца.

Якраз у такім настроі заспеў Марушэчка начальнік раз'езду.

— Што яшчэ?—увесь барвовы ад гневу крыкнуў капітан, ускакваючы з падлогі.

Паручнік замёр каля дзвярэй.

— Маю гонар далажыць пану капітану,—прашаптаў ён, задыхаючыся.—Злавілі падазронага чалавека...

— Ну, і добра,—прамовіў пан капітан, збіваючы пальчаткамі пыл і гразь з кален.—Вы яго расстралялі?

Паручнік зноў узяў пад казырок.

— Ён не даецца, пане капітане. Ён пакусаў двух жаўнераў, якія цягнулі яго ў парк. Ён патрабуе, каб яго прывялі да пана палкоўніка... Асоба надзвычай падазроная... З'явілася, відаць, пасля таго, калі мы выехалі з маёнтка...

Марушэчак халодна зірнуў на паручыка.

— Вы не выконваеце інструкцый адносна падазроных людзей, пане паручнік. З такім рапартам вы маглі прыйсці толькі пасля таго, калі гэтыя людзі былі-б расстраляны. Ідзіце.

Паручнік казырнуў, але не скрануўся з месца. Марушэчак аслупянеў ад такога непаслухмянства.

— Ён патрабуе, каб яго прадставілі толькі пану палкоўніку...— зноў паўтарыў паручнік.—Ён успамінае матку боску чэнстахоўску. Ён раве, як жывёла, якую вядуць пад нож. Ён хоча размаўляць толькі з панам палкоўнікам. Цікавы тып...

Марушэчак з'едліва ўсміхнуўся.

— Ах, ён хоча размаўляць толькі з панам палкоўнікам. А вы, пане паручнік, прывядзіце яго ка мне.

Начальнік штаба дакрануўся рукою да браўнінга.

— Слухаю, пане капітане,—прамовіў паручнік і знік у дзвярах.

Не паспеў Марушэчак запаліць папяросу, як у калідоры пачуўся крык, прыглушаная салдацкая лаянка і тупат падкаваных абцасаў. Неўзабаве двухстворчатыя дзверы хляснулі ў бакі і жаўнеры ўцяглі ў пакой незнаёмага таўстога чалавека, пульхныя губы якога пасінелі ад страху, а вочы ледзь не выпіралі на лоб. Марушэчак каротка ўсміхнуўся ад такой сцэны. Гэта заўважыў затрыманы жаўнерамі чалавек.

— Я пратэстую!—крыкнуў ён дрыглівым голасам, стараючыся вызваліцца ад салдацкіх абдымкаў.—Я патрабую правесці мяне да пана палкоўніка.

Марушэчак звузіў бязбровыя павекі і павольна рушыў у бок незнаёмага. Той паспрабаваў адступіцца назад.

— Ах, пан хоча размаўляць толькі з палкоўнікам,—праспяваў капітан.—Які пан ганаровы! Ах, які пан ганаровы!..

Марушэчак размахнуўся і ўдарыў незнаёмага рукою па твары. Незнаёмы заскуголіў, як пабіты гаспадаром сабака, і рвануўся ў бок. Жаўнеры ледзь вытрымалі націск яго сяміпудовай тушы.

— Я пачну скардзіцца на пана капітана,—зарумзаў ён.—Я падам на пана капітана пану генералу...

У гэты час у пакой увайшоў пан палкоўнік. Коратка зірнуўшы на незнаёмага і Марушэчка, ён хацеў прайсці ў калідор. Але незнаёмы крыкнуў так, нібы перад ім з'явіўся сам пан бог:

— Пан Свянціцкі! Пане Свянціцкі!

Палкоўнік ганарыста паглядзеў на замурзаны ў сліну і гразь твар.

— Гэта я, Гамулька,—стараючыся захаваць рэшткі годнасці, прамовіў незнаёмы.—Не пазнаеце?

Пан палкоўнік ажывіўся.

— Апанас? Якім чынам?—і ступіў наперад, працягваючы руку для прывітання.—У такім выглядзе?!.

Свянціцкі грозна зірнуў на жаўнераў.

— Вон! Ах, пся ваша маць!

Жаўнераў нібы ўраганам вынесла з пакою.

Марушэчак не мог апамятацца ад здзіўлення.

Нарэшце незнаёмы пан загаварыў сваім звычайным тонам. У гугнявым голасе была і ліслівасць і крыўда.

— Ведаеце, я не спадзяваўся, што такія храбрыя жаўнеры, можна сказаць, наша вялікая надзея ў даны момант, і так няветліва мяне спаткаюць. Я нават страціў свае акуляры.

Пан палкоўнік грозна зірнуў на Марушэчка. Марушэчак яшчэ

больш грозна зірнуў на паручніка. Падхапіўшы саблю, апошні выскачыў на двор.

— Прабач за такое непаразуменне,—ужо на ты звярнуўся Свяніцкі да Гамулькі.—Вінаватыя панясуць адпаведную кару.

Гамулька скоса зірнуў на капітана. Марушэчак вельмі здзівіўся, калі замест скаргі на яго, Гамулька прагугнявіў даравальнае:

— Эт, што там, браце, гаварыць. Няхай лепей усё будзе ціха каля нашых вешніц.

Марушэчак паспакайнеў і нарэшце закурыў папяросу. У пакой увайшоў паручнік. У руках яго былі акуляры пана Гамулькі.

— Вось, шчыра дзякую,—Гамулька працягнуў руку паручніку.— Гэта іншая справа.

— Знаёмцеся. Пан міністр беларускай рады Гамулька, пан капітан Марушэчак, адзін з лепшых разведчыкаў нашага штаба.

Гамулька пачціва і далікатна пацісну руку, якая некалькі хвілін таму назад смальнула яго па твары.

— Паручнік пан Квяткоўскі.

— Вельмі рад быць знаёмым з такімі слаўнымі афіцэрамі. З такімі ваякамі ды не дайсці да абымшэлых званіц Смаленска, не дайсці да крэмлёўскіх вешніц! Гэта будзе проста дзіва! Гэта-ж такая кампаня, такая кампаня, што браце мой. Напалеон аблізаў-бы пальчыкі! Гістарычная місія! Скажу проста, сэрца маё аж плюскоча ад невымоўнай радасці. Памятаеш, Вацлаве, аб чым мы варажылі на ўніверсытэцкай лаве?

— Было,—коратка ўсміхнуўся даўнейшаму другу пан палкоўнік.

Такая блізкасць Гамулькі да пана палкоўніка прымусіла Марушэчка папрасіць прабачэння за сваю дзікую нястрыманасць. Гэтае-ж зрабіў і пан паручнік, растлумачыўшы прычыны падазрэння.

— Няўжо вы падумалі, што я магу так зрабіць? Вой-вой. Ды каб вы ў мяне запыталіся, хто гэта зрабіў, я сам-бы вам паказаў. Я, значыцца, прыехаў сюды, а мне кажуць, што нядаўна вы былі. Пакуль я распытваў, мой фурман завярнуўся напаіць каня, а потым яго і след прастыў. Дык я меў магчымасць наглядаць спадцішка, як адзін хлопец у несвядомай сваёй злосці зноў утыркнуў гэты сцяг на страсе...

Вочы Марушэчка праяснелі:

— Ён тут?

Гамулька падышоў да акна.

— Ён пайшоў у тую хату,—паказаў Гамулька рукою.—Яму год чатырнаццаць, не болей. Ён мусіць абадраў бляхай правую руку, бо ўсе пальцы былі ў крыві... Ды вунь ён!..

Гамулька ледзь не выбіў шыбіны валасатай рукой, калі ў дзвярах хаты паказаўся заўважаны ім хлопец з дзяўчынкай на руках. За ім вышла пажылая жанчына ў клетчатай спадніцы. Яна нешта наказвала хлопцу.

Марушэчак рынуўся з пакоя.

Пан палкоўнік адвярнуўся ад акна. Адвярнуўся ад акна і пан Гамулька.

— Прывітанне табе ад Гэлены. Я заязджаў да яе перад адпраўкай на фронт. Усё чакае, пакуль будзе абсталявана і ўпарадкавана

разбуранае хлопамі гняздзечка. Праўда, ёй і ў Чапскіх не сумна. Ал маючы такую паэтычную і тонкую душу, яна прагне хутчэй пабачыць мясціны свайго дзяцінства.

Страшны нечалавечы крык жанчыны пачуўся з вуліцы.

Гамулька ўздрыгануўся і адышоў яшчэ далей ад акна. Крык паўтарыўся, адзінокі і жахлівы ад гэтай адзінокасці. Следам за гэтым шыбы зазвінелі ад вінтовачнага залпу. Потым нядобрая глухая цішыня запанавала за акном.

— Я прыехаў у якасці карэспандэнта,—хуценька, нібы стараючыся прагнаць нейкія назойныя думкі, прагугнявіў Гамулька. Справа з фінансаваннем рады яшчэ не вырашана вышэйшымі коламі ў Варшаве. Мы нецярпліва чакаем тэлеграмы Пілсудскага... А пакуль што можна пісаць вершы, нарысы пра перамогі слаўнай польскай зброі. Ты не будзеш супярэчыць, калі я пачну з твайго палка? Можа, дасць бог, і мы пашлем заўтра тэлеграму ўжо з таго боку ракі? Можа заўтра папалуднуем на тым баку ў бацькавым фальварку? Гэта-ж усяго пяць вёрст ад Беразіны!

Грымнулі дзверы. У пакой увайшоў капітан Марушэчак. Ён ужо нікуды не спяшаўся. Агонь у зеленаватых вачах яго ўжо абтух. Толькі кабур браунінга быў яшчэ незашпілены.

— Я загадаў, каб нам падалі абед сюды,—прамовіў ён абыякавым голасам.—Я загадаў, каб вынеслі з пакояў усё гэта смецце. Тут больш прыемна пасядзець, чым ва ўсіх тых смярдзючых хатах... Ну, як вам тут падабаецца, пане Гамулька?

— Цудоўна, цудоўна,—прагугнявіў міністр, папраўляючы акуляры на круглым, як бульбіна, носе.—Я проста не спадзяваўся сустрэць тут такіх далікатных і чулых людзей. Буду рад прыняць вас заўтра ў скромным маёнтку майго бацькі...

## IX

Мінула больш тыдня пасля адступлення Чырвонай арміі. Увесь гэты час Верасніца жыла то ў надзеі на хуткі зварот совецкай улады, калі з боку Беразіны паказваліся доўгія абозы фурманак, нагружаных раненымі белапалякамі, то сялян апаноўваў жах, калі бачылі яшчэ большыя абозы снарадаў, вінтовак, патронаў, якія накіроўваліся на усход па часова зробленаму цераз раку масту. Спярша хадзілі чуткі, што белапалякі перайшлі раку, на якой загінула нават напалеонаўская армія, і набліжаюцца да Смаленска. Потым пачаліся гаворкі пра вялікае паражэнне захопніцкай арды вяльможнага соцыяліста Пілсудскага. Найбольш верасняцы верылі ў паражэнне акупантаў. Пачалі нават пашырацца легенды пра невядомага чырвонаармейца, які, абараняючы родную зямлю ад чужаземнага нашэсця, перарэзаў з кулямёта цэлую дывізію польскіх уланаў. Варожыя кулі не бралі гэтага адважнага хлопца, снарады абміналі яго меткі кулямёт. Чырвонаармеец з'яўляўся перад палякамі нечакана, так сама, як нечакана і ўцякаў. Аднойчы ноччу ён адзін захапіў у палон цэлы полк паноў і ўсіх да аднаго завёў у свой штаб...

— Гэта дык хлопец!—захапляўся нізенькі Буйневіч, слухаючы дзівосныя апавяданні.—Такі ўсё можа.

— Байкі!—бурчэў Поташ.—Ніколі я не чуў, каб адзін ды ўзяў у палон тысячу. Казкі для дурачкоў. Аж няёмка слухаць такія небыліцы.

Пракураны парахавым дымам сусветнай вайны, аблазіўшы з вінтоўкай у руках Карпацкія горы ён верыў толькі ў тое, што бачыў сваімі вачамі.

Некаторы час вялікай навіною для Верасніцы было з'яўленне ў вёсцы Дарафея Булынкі, пра заспакоеную душу якога маці паставіла ў царкве не адну свечку. І вось цяпер, у трывожны і пакутлівы час, паказаўся ён на пыльнай вуліцы роднага сяла.

На ім быў цёмны бастонавы касцюм і чорныя лакіраваныя камашы. Сіні, з чырвонымі крапінкамі, шаўковы гальштук сцякаў з-пад белага прыстаўнога каўнера на пікейную рубашку. Светлы капялюш быў ссунуты на патыліцу. Лёгка несучы досыць ладны чамадан, ён дапытліва прыглядаўся да хат. На твары яго было вялікае здзіўленне: здавалася ён пазіраў і не верыў, туды ён трапіў, куды яму было патрэбна, ці проста памыліўся адрасам. Вераснянцы, якія наглядалі за гэтым франтам, таксама былі здзіўлены, чаму ён, відаць, такі багаты з выгляду, смаліць пехатою, замест таго, каб развлягацца ў рэсорнай брычцы. Дайшоўшы да Жаркевічавай хаты, ён спыніўся і ўважліва, нібы стараючыся нешта прыпомніць, паглядзеў на Буйневіча і Віктара, якія сядзелі на прызьбе.

— Здарова, хлопцы!—гукнуў франт весела.—Аказваецца, на шмат вы пабагацелі без мяне.

Віктар нездаволена ссунуў калматыя, як у бацькі, бровы і сурова зірнуў на незнаёмага. Буйневіч, падумаўшы, што гэты фарсун спыніўся, каб пасмяяцца з іх, пагрозна ўстаў:

— Пабагацелі? А ты што за птушка?

Незнаёмы паставіў чамадан на зямлю і шырока ўсміхнуўся ў кароткія чорныя вусікі.

— Ваш стары знаёмы... Іш вы якія—натапыраныя. Відаць, вам цяпер пальца ў рот не кладзі...

Буйневіч, які паспеў уважліва агледзіць не толькі ўвесь нахабна-прыгожы гарнітур незнаёмага, але і яго пальцы, злосна плюнуў:

— Уваткні свае пальцы... ведаеш, куды?.. Мы цябе не чапаем, дык і ты не лезь.

Віктар скамячыў кулакі і падтрымаў свайго сябра, звярнуўшыся да незнаёмага з далікатнай прапановай:

— Паўзеш—паўзі, пакуль дагары лапкамі не палажылі.

Незнаёмы не скрануўся з месца. Нягледзячы на шматабяцаючыя прапановы, ён пачаў нават усміхацца і нарэшце працягнуў Буйневічу руку.

— Ці не пашалелі вы? Хіба не пазнаеце?

Буйневіч яшчэ зірнуў незнаёмаму ў вочы.

— Ці не Дэрах? Ці не Булынка? Браток ты мой! Адкуль-жа ты ўзяўся?

— Адтуль, куды вывезлі. З Францыі.

— А-я-яй. А матка палічыла цябе за нябожчыка... А ты вярнуўся... Бач, які прыгожы!

— У Францыю замухрышак не пасылалі,—коратка ўсміхнуўся

Булынка.—Глядзелі, каб адпаведнага росту быў, адгабляваны з твару, каб меў выпраўку. Гэта толькі вас, гламаздаватых, пакідалі ў Расіі. А такіх благародных, як я, вывезлі ў Парыж. Абмянялі на аўтамабільныя пакрышкі і магнето... Ну, як тут мая маці, бацька?

— Жывуць, як гарох пры дарозе. Немцы былі—паскублі, цяпер палякі пачалі...

— А гэта чый хлопец? Нешта не пазнаю?—запытаўся Булынка ў Буйневіча, кіўнуўшы галавою ў бок Віктара і, не чакаючы адказу, загаварыў далей:—Павырасталі тут без мяне. Хаты новыя пастаўлялі.

Віктару прыпомнілася многае, пра што гаварыў Булынка. Ён аднавіў у памяці ўсе тыя фотаздымкі, якія прыслаў Булынка з Францыі, і якімі хвалілася на ўсю вёску яго маці. Былі на тых здымках няўклюдыя акіянскія транспарты, запоўненыя маладымі бравымі салдатамі, і стройныя імклівыя мінаносцы, якія ахоўвалі гэты незвычайны жывы тавар ад нямецкіх падводных лодак. Транспарты выйшлі з Уладывастока, абагнулі паўднёвы бераг Азіі і прайшлі Суэцкім каналам у Сяродземнае мора. Гэта было незвычайнае падарожжа. Багатую калекцыю здымкаў прыслаў Булынка да хаты! Віктар падоўгу глядзеў на ўзнёслыя пад неба кроны какосавых і фінікавых пальм індыйскіх і афрыканскіх партоў, на стракатыя ўбёры цёмнатварых гандляроў бананамі і ананасамі. Яму здавалася, што ён, як жывых, бачыць загарэлых арабаў, якія скакаюць з транспарта ў мора лавіць кінутую афіцэрам срэбную манету...

Прыслаў Булынка з Францыі гэтыя здымкі, прыслаў два лісты і ацiх. Старыя салдаты, якія пасля рэвалюцыі пачалі варочацца ў Верасніцу з-пад Баранавіч і Карса, з Карпат і Румыніі прыносілі сям'і Дарафея то сумныя навіны, то радасныя надзеі. «Увесь рускі экспедыцыйны корпус быў атручаны нямецкімі газамі на Іпры»—гаварылі адны: «—Усіх да аднаго перарэзалі іх пад Вердэнам»,—папраўлялі другія. «—Не так лёганька рускага ўзяць,—пярэчылі трэція.—Рускія праявілі ў Францыі такое геройства, так дапамаглі французам, што тыя не ведаюць як іх лепш шанаваць. Так што хутка вернецца Дарафей...»

Міналі дні, месяцы, годы. Дарафей не з'яўляўся. Прытуплялася патроху ў Булынкаў вастрата страты сына, сям'ю агортвалі новыя клопаты. І вось у час, калі Верасніца, а разам з ёю і сям'я Булынкаў, пазбавіліся па шляхецкаму маніфесту і зямлі, і лесу і светлых надзей на будучыню, Дарафей, нібы нябожчык з таго свету, вярнуўся да хаты.

— Багата жывуць у Францыі!—бясконца і зайздросна аглядаючы ўбёры Дарафея, прамовіў Буйневіч.—Няўжо там усе так ходзяць?

— Бывае, што і ўсе. У іх, брат, такі прынцып: увесь з голаду апухне, а на гальштук збярэ капейчыну. Таго, што кішка марша іграе, ніхто не бачыць. Больш глядзяць на адзежу.

Неўзабаве да жаркевічавай хаты падышоў дзед Верабей.

— Дзень добры, дзядуля,—радуючыся, што нарэшце чуе свой голас у родным сяле, гукнуў яму Булынка.—Як здароўе?

Верабей павёў па зямлі вішнёвым кіёчкам.

— Нічога, унучак. Нельга грашыць богу. Толькі, не бяры за крыўду, не ведаю я, хто ты?

— Дэраха Булынку памятаеце?

— Чаму не. Колькі разоў на сваіх вішнях заставаў. Ды гэта ты той Булынка і ёсць?

— Той, дзядуля. Хлопцы вашы дома?

— Дзе ты бачыў? Уседзяць яны дома. Усё ваююць.

— Далёка дзе?

— Зміпрок на калчакоўскім фронце, а Давід нядаўна за Беразіну пашоў. Заскочыў толькі ў хату развітацца. Вельмі-ж здорава тут палякі нацыскалі... Эх, унучак, у нядобры час ты вярнуўся. Перакруцілася ўсё шыварат навыварат. Аж свет не мілы.

І, звяртаючыся да Буйневіча, Верабей запытаўся:

— Корбута вы не бачылі калі праязджаў?

— Не,—адказаў Буйневіч.—А што такое?

— Загадвае, каб палавіну ячменю аддаў. А грэчку, казаў, усю сабе забярэ. Як даспее, так і забярэ... Проста не дае дыхнуць...

— Вот сволач!—вылаяўся Буйневіч.—А вы не аддавайце. Хто сеяў, той павінен і скарыстаць. Яму праз горла прэ, а вы з голаду будзеце пухнуць?..

— Вот-жа, вот-жа!—захваляваўся Верабей.—Я яму так і сказаў. Хіба я самаўпраўна ўзяў яго зямлю?.. Урад наш, кажу яму, так пастанавіў. Мне камітэт беднаты адрэзаў чатыры дзесяціны ад яго трох валок. Па дэкрэту Леніна...

Людзей каля жаркевічавай хаты збіралася ўсё больш і больш. У вёсцы так бывае заўсёды, калі з'яўляецца новы чалавек. Тут сабраліся і проста цікаўныя і тыя, хто хацеў пачуць ад свежага чалавека свежую навіну. Буйневіч, адчуваючы сябе да некаторай ступені за героя сёнешняй падзеі, запытваў аднастайна ў многіх верасянянцаў: «Ведаеш гэтага чалавека, пазнаеш гэтага паніча?» І тым, каторыя не пазнавалі, адказваў: «Дарафей Булынка! Аж з Францыі вярнуўся!» Тыя, якія прызываліся разам з Дарафеем у армію, але асталіся ў Расіі, прыглядзеўшыся да яго твару, усклікалі: «Ці не Дэрах? Браткі мае, ці не Булынка? Ці не з Францыі?»—«З Францыі»,—адказваў альбо сам Дарафей, альбо хто з верасянянцаў: тыя, што прышлі раней і даведаліся, што гэта Булынка і што варочаецца ён з Францыі. У яго ўсе распытвалі пра Францыю, былыя салдаты распытвалі пра агульных знаёмых, якіх таксама вывезлі разам з Булынкам абараняць далёкую чужую краіну, у той час, калі іх радзіму дратавалі нямецкія полчышчы. Булынка распытваў верасянянцаў пра рэвалюцыю. Там, у Францыі, ён ведаў пра яе толькі з газет, якія пярэчылі адна адной, чуў ад людзей, якія то хвалілі, то ганілі тое, што адбылося на яго радзіме. Ён быў прыстроіўся працаваць на авіяцыйным заводзе «Іспана-суіза», бязмерна рады і шчаслівы, што выбраўся параненым, але жывым з пекла вайны. Але паволі яго разбіраў сум па абноўленай радзіме, нарэшце ён не вытрымаў і рушыў у далёкую дарогу... Дарога з Францыі на Польшчу была адкрытая. Францыя ліхаманкава гнала ў Польшчу эшалоны гармат, самалётаў, вінтовак, снарадаў... Усё гэта, як даведаўся Булынка па шляху да

дому, было накіравана супроць мірных хат маладой совецкай дзяржавы... Праклятая Францыя! Навошта ён праліваў за яе кроў?

— А як тут давалі зямлю?—запытаўся ён у верасняnцаў.— Плацілі што?

У натоўпе пачуўся дружны рогат.

Буйневіч, які ўжо нізавошта не хацеў саступіць пяршынства ў такой падзеі, як зварот чалавека, душы якога маці паставіла не адну свечку, адказаў:

— Дзівак чалавек! Каму плаціць? Самі-ж мы былі ўлада! Ніякіх тут памешчыкаў не засталося. Паўцякалі. Дык вот Ленін і напісаў дэкрэт, што ўся памешчыцкая зямля перадаецца сялянам— бясплатна. Выбралі мы тут паважаных людзей, каб яны правільна рабілі. Так, як напісаў таварыш Ленін. Яго бацька,—паказаў Буйневіч на Віктара,—быў старшынёю камітэта беднаты... У нас, брат, свая ўлада, рэволюцыйная, была... Рэўком называлася. Адзін рабочы, Токараў, быў за старшыню...

Але Булынку цікавіла больш важнае.

— А мае бацькі дасталі што?—запытаўся ён.

— Пытаецца! Было ў іх тры дзесяціны, а ім яшчэ пяць прырэзалі. Сям'я ў вас вялікая.

— Яны хаты не паставілі новай?

— Бярвення навазілі. Толькі невядома, ці дадуць паны збудаваць. У іх ужо раз адабралі. Тады, як немцы прыходзілі. Мусіць і цяпер адбяруць. Тут нам адзін ахвіцэр такі маніфест прачытаў, што ўсе аж за галаву схапіліся: чысты царскі лад вярнуўся. Мы вот ходзім каля хат і не ведаем за што брацца. Проста работа з рук валіцца. Чуў, што сказаў Корбут дзеду Вераб'ю? І цяпер усю ваколіцу з падводамі пазаразалі... То наляцяць, каб авёс ім давалі, сена, кароў. Поруцца ў кублах... Мы вот баімся, што яшчэ пачне выраблящь памешчык. Сказаў, каб напоўнілі яго хлявы коньмі, каровамі, а свірны збожжам. Казаў усіх пастраляе, калі не будзе нічога зроблена да яго звароту. Ён цяпер вельмі заняты: хоча, кажуць, аж да Масквы дапяць...

Булынка ажывіўся:

— Бачыў яго дачку ў вагоне. Ехала з нейкім тоўстым сапуном да Менска. Ішоў цэлы цягнік памешчыкаў і ўсялякіх гандляроў... Дык у іх толькі і гаворкі, каб адпомсціць мужыкам за зямлю, за лес...

Панурая цішыня запанавала ў натоўпе людзей. Гутарка з Булынкам яшчэ больш узмацніла вастрату іх перажыванняў. Яны яшчэ з большым болем адчулі, як многа, непамерна многа ім дала рэволюцыя, і як гэта ўсё яны страцілі за адзін дзень. Зноў засталіся без хат, без зямлі.

Так стаялі людзі моўчкі і нерухома адну хвіліну, другую. І раптам, відаць, паведамленая некім з верасняnцаў, з'явілася маці Булынкі. Яна імкліва ўварвалася ў круг і вочы яе, спустошаныя вялікім, даўно забытым горам ад страты сына, дапытліва зірнулі на чалавека ў такім, здавалася ёй, казачна-багатым убранні.

Губы ў Дарафея задрыжэлі. Ён, камечачы папяросу, ускочыў з прызбы. У пальцы яму запякло раскаленымі зёрнамі махоркі.

Стары Верабей раптам часта заміргаў вачамі і адвярнуўся. Можа ён успомніў сваіх сыноў, якіх нецярпліва чакаў у сваёй хаце? У гэтую хвіліну ён яшчэ не ведаў, што адзін з іх, Давід, ужо ляжыць у зямлі...

X

Які ціхі і спакойны быў той вечар! Ні адзін ліст не шавяліўся на ліпе каля Буйневічавай хаты. Агромністы раскалены дыск сонца паволі знікаў за небасхіл. У нерухомым і цёплым паветры пралящела над сялом стайка светла-крылых качак і гулка шлёпнула за гародам аб ваду. Нечым нездаволены, застракатаў бусел на Вераб'ёвым гумне. Прайшлі вуліцай, важна паглядаючы па баках, каровы з пашы. Неўзабаве хлынула ў сяло імклівая чарада авечак. Шарахаючыся ў бакі ад сабак, якія, нарэшце, знайшлі прычэпку пабрахаць, авечкі блыталі свае двары. На некаторы момант узняўся лямант ягнят і матак, якія пагублялі адно аднаго. За ўсім гэтым незвычайным тлумам флегматычна ішоў высокі пастух Давід, цягнучы за сабою доўгую пугу. Каля Давіда круцілася два басаногія падпасычы. Адзін з іх нешта шпарка гаварыў пастуху, час-ад-часу забягаючы яму наперад і паглядаючы на яго знізу ўгару. На хлапецкую балбатню Давід абыякавым голасам адказаў:

— Пайдзі да яго і перадай, што ён дурань. Толькі не кажы, што я паслаў... Ніякіх я патронаў не бачыў.

Прайшлі каровы, прайшлі авечкі; зноў асеў узняты імі пыл. І зноў паветра стала ціхім і чыстым. Доўгія цені будынкаў і дрэў расплыліся па ўсёй зямлі. Сонца знікла за небасхілам. На ўсходзе, што далей, то ўсё больш ярчэючы, высыпалі зоры. Вузкі срэбны серп месяца павіс над цёмнаю градою вецярэвіцкай пушчы.

Віктар наглядаў за ўсімі гэтымі з'явамі, стоячы каля варот. Ён чакаў, пакуль выйдзе з хаты Буйневіч.

Раптам нейчыя рукі абхапілі ззаду яго твар і закрылі пальцамі вочы.

— Змітрок?—усміхаючыся, запытаўся Віктар.—Што гэта ты надумаўся?

Змітрок маўчаў. Віктар чуў на сваёй шыі толькі чужое гарачае дыханне. Віктар шпарка асеў і рукі, якія яго ахапілі, павіслі ў паветры. Ён здагадаўся, чые гэта былі рукі. Ён схапіў іх і моцна сціснуў.

— Пусці, мядзведзь!—пачуўся ўпрашальны дзявочы голас.—Не цісні.

— А будзеш больш?

— Не.

— Глядзі-ж!—папярэдзіў ён і павярнуўся тварам да дзяўчыны. Перад ім стаяла Клаўдзя Булынка, сястра Дарафея.

— Дарафей прыдзе на вечарынку?

— Не ведаю. Ён мусіць, пашоў у Бучаціна. Хоча праведаць Насцю.

— Нябось, гасцінцаў шмат прыцягнуў?

— Прыцягнуў...—неазначальна адказала Клаўдзя.—Вечарынка дзе будзе?

— Выйдзе Буйневіч—запытаемся.

Яны селі на лаўку каля варот, балбочучы ўсялякае глупства, здаволеныя, што яны толькі ўдваіх, што яны блізка адно каля аднаго. Абое яны былі ў тым узросце, мелі такія чыстыя пачуцці, што позіркі іх азначалі большае, чым словы.

Неўзабаве паказаўся з хаты Буйневіч. На плячах ён нёс гармонік. Убачыўшы музыканта, Клаўдзя ўсхапілася з лаўкі.

— Да Вераб'я,—падаў каманду Буйневіч і пачаў паціху перабіраць лады.—А ты, красуня, чаго ўцякаеш?

Клаўдзя ўжо адыходзіла ад хлапцоў. У Верасніцы быў заведзены невядома з якога часу парадак, каб дзяўчаты ішлі на вечарынку асобнай групай, а хлопцы—асобна.

І вот Буйневіч і Віктар рушылі па вуліцы. То там—то сям выходзілі з варот і спыняліся каля хат хлопцы і дзяўчаты, прыбраныя па святочнаму. Буйневіч зайграў «златыя горы». Моладзь каля хат устрапянулася. Хлопцы яшчэ раз аглядалі свае галіфэ, ачышчалі пылок з наваксаваных ботаў.

На многіх з хлопцаў убранне было зялёнага зашчытнага колеру—адзенне, якое прынеслі з арміі альбо яны самі, альбо іх бацькі, ці браты. Было і проста купленае ў тых, хто меў спрыт нахватаць яго пра запас з палкавых цэйхгаузаў. Сярод зялёнай вопраткі мільгалі часамі цёмныя нямецкія сурдуты, якія дасталіся верасняцам у часе адступлення акупантаў. Вайна, якая на працягу пяць год грымела над краем, налажыла сваю пячаць на адзенне людзей. Усюды былі цяпер відаць яе прызнакі. Ці то ў шырокіх салдацкіх паясах, у доўгіх да пят шынелях, новых, як кажуць толькі што з іголачкі, і старых, выкачаных у гразі пінскіх балот, у рудой гліне Галіцыі. Многія набылі за час вайны скураны абутак, у большасці грубы: звычайныя боты, боты з нізенькімі, але шырокімі халявамі, якія насілі ў нямецкіх часцях, камашы з падвойнымі і непамерна тоўстымі падэшвамі.

Звычайнае, будзённае адзенне вайны зрабілася для беднай вёскі святочным убёрам. Канчалася вечарынка, нядзеля і ўся гэта вопратка знікала ў скрынях, у каморах. На плечы нацягвалася зрэбная, афарбаваная ў балотнай рудзе, рубашка, адзявалася жакетка з грубога сукна. Ногі амаль да самых кален укручваліся вераўчанымі аборкамі з лыкавых, альбо лазовых лапцей.

На двор Вераб'я Буйневіч і Віктар ужо ўвайшлі ў суправаджэнні двух дзесяткаў хлапцоў, якія паступова далучаліся да іх. Верабей жыў у старой, як і ён сам, хаце, маленькай і цеснай. У новай хаце, якая была пабудавана за дваром, на гародзе, яшчэ не было печы. Танцаваць у ёй было прасторна, ніщто ў ёй не замінала. Стары сам часта прыходзіў паглядзець, як лёгка і молада кружацца пары. Часта ён садзіўся на бярвенне, якое было нарыхтавана яго сынамі для сянец, і падоўгу размаўляў з былымі франтавікамі. Яго цікавіла, якія жывуць у далёкай старане людзі, якая ў іх зямля...

Хлопцы, чакаючы дзяўчат, размясціліся на бярвеннях. Буйневіч асцярожна паставіў на калені гармонік, але іграць не стаў. Ён некага выглядаў у натоўпе. Нарэшце яго позірк спыніўся на мужчыну

ў нямецкім ваенным сурдуце. Ён перакручваў зялёную істужку абмоткі на правайназе і не звяртаў увагі на Буйневіча.

— Васіль,—ціха пазваў яго Буйневіч.—Ці чуеш, Васіль, што я ў цябе запытаюся.

— Пытайся, дазваляю,—адказаў за мужчыну хлапец у белай вышыванай рубашцы.

— Ці праўда, што ты зноў хадзіў да Корбута ў сваты?

Усе грымнулі рогатам. Васіль вылаяўся і плюнуў.

Год пяць перад гэтым яго бацька чамусьці ўявіў, што ён зробіць добрую і выгодную справу, калі парадніцца з Корбутам. У Корбута была доўгая і худая, як таран, дачка Фэлька, вельмі ўедлівая з характару. Ёй ужо тады было больш, як трыццаць год. Ніякі хлопец не толькі з багатых, але і з бяднейшых не хацеў глянуць на такое дабро. І вот Васілёў бацька, у якога на шэсць дзесяцін было трынаццаць душ, склаў сам сабе план ашчасьлівіць старэйшага сына жаніцьбаю на Фэльцы. Ён сказаў Васілю, што Корбут дасць дзесяць дзесяцін зямлі ў пасаг, каб толькі збыць з хаты гэту старую дзеўку. Ён ужо гаварыў з Корбутам, і хутаранец даў згоду. Калі Васіль паспрабаваў пярэчыць, бацька прыгразіў яму, што прагоніць з хаты, што жыцця яму не дасць. Васіль ішоў у сваты, як цялё на бойню. Яму страшна было падумаць, як ён усё жыццё будзе звязаны з чалавекам, да якога ў яго, апрача пачуцця гідлівасці, нічога няма. Страшнай яму паказалася зямля, якое так прагнуў бацька, але якое ён не меў магчымасці набыць іншым спосабам. Бацька ішоў да Корбута наперадзе, рысуючы сыну і самому сабе планы заможнага жыцця, разважаючы пра тое, з якога боку будзе лепш атрымаць прырэзку: ад маёнтку, ці каля Верасніцы? А калі пачуўся брэх корбутавых сабак і Васілёў бацька азірнуўся, сына каля яго ўжо не было...

— Ён тады пабаяўся сабак,—падтрымаў адзін з хлапцоў Буйневічаў жарт...—Каб не сабакі, жыў-бы цяпер Васіль, як пан, на хутары. Зяць пана войта!.. Усе жаўнеры хваталіся-б за казырок перад Васілём!..

На двор увайшлі дзяўчаты. Убачыўшы іх, хлопцы прынялі больш салідны выгляд. Палезлі ў кішэні па махорку. Трымаліся незалежна, нібы дзяўчаты іх зусім не цікавілі. Толькі і чулася каля бярвення:

— Дазвольце, таварышок, прыпаліць.

— Калі ласка, калі ласка.

— Дазвольце тады і мне.

— І табе? Ну, што-ж, прыпальвай, хрэн з табою.

У хаце ўжо гарэў агонь. Буйневіч устаў і, заглушыўшы музыкай гаворку, накіраваўся да дзвярэй. І тады ўсе, нібы па камандзе, павалілі ў хату.

— Сцеражыцеся з папяросамі!—крычаў ім наўздагон Верабей.— Кругом такая суша. Нядоўга да грэху.

Але яго ўжо ніхто не слухаў. Ужо замільгалі ў вокнах пары, загрымелі аб падлогу падкаванымі абцасамі хлопцы.

— А ты-ж чаму не ідзеш?—звярнуўся Верабей да Віктара, які астаўся сядзець на бярвенні.—Цяперака самая твая пара. У такія, як мае, годы будзе не да скокаў.

Сказаў і, асцярожна намацаўшы ў змроку бярвенне, сеў побач Віктара.

— Я не ўмею танцаваць,—проста адказаў Віктар.

— Не ўмееш?! Хоць што там! Мой Зьмітро, то яго каб забіў—нічога ў яго не выйдзе. Вельмі сур'ёзны хлопец. А Давід, то я табе не хвалячыся скажу, усю Верасніцу пераскача. Хлопцы, няма чаго богу грашыць, добрыя. Ї нікому чужому вока не запарушылі.

Віктар сапраўды не ўмеў танцаваць. Ён нават і не спрабаваў навучыцца. Яму здавалася, што ён абавязкова наступіць дзяўчыне на нагу, альбо, яшчэ горш, возьме ды паваліцца. Такія здарэнні бывалі, і тады такому хлопцу доўгі час нідзе не давалі праходу.

Музыку Віктар любіў надзвычай. Нават больш, чым кніжкі. Буйневіч іграў адны і тыя-ж песні, але кожны раз яны гучэлі для Віктара неяк па новаму, неяк адменна ад таго, што ён чуў раней. У такую хвіліну сэрца яго было поўнае нейкага вялізнага пачуцця, мужнасці. У такую хвіліну вырастала да непамернай значымасці ўсё, што ён бачыў у жыцці, вычытаў з кніг. Але, разам з тым, яму хацелася ведаць, пражыць яшчэ больш як да гэтага часу...

Верабей сядзеў моўчкі. Віктару раптам стала шкада гэтага старога, самага старэйшага ў Верасніцы чалавека, на якога наваліўся учора Корбут. Ён, напэўна, цяпер думае пра тое, што давядзецца аддаць Корбуту ўвесь ураджай, думае пра тое, што няма каму за яго заступіцца.

— Дзед,—гукнуў Віктар.—Чуеш, дзед?

— Чаго, унучак?

— Вы нічога не вязіце Корбуту. А ён сам не адважыцца лезці ў ваша гумно.

— Што ты, хлопчык, што ты!—спалохана прамовіў стары.—Хочаш, каб ён мяне ў лыжцы вады ўтапіў? Ты яшчэ добра не ведаеш яго. Ты хіба не чуў, што ён робіць па другіх вёсках, па другіх хутарах?

— А што?

— Кажуць, начыста пазаразаў людзей падводамі. Людзям няма калі пасеяць жыта: кожны дзень павінны везці пад Беразіну то жаўнераў, то ўсякую другую трасцу. Кажуць, паны з усіх жыл рвуцца, каб прабіцца на той бок Беразіны. Дык няма нікому літасці ад гэтага прахвоста. А хто яго не слухаецца, на таго ён пасылае жандараў. А гэтыя, не маючы душы, сякуць людзей бізунамі. Нават, каб ім рукі паадсыхалі, жанчын збіваюць! Вот да чаго азвярэў чалавек.

— Ну, у Верасніцы, ён так не пагаспадарыць! А паспрабуе—запалку ў страху, альбо кулю ў лоб!

Верабей ускочыў з бярвення.

— Што ты надумаўся, хлопец!—прашаптаў ён з дакорам.—Паліць чалавечую працу—грэх! Забіваць чалавека—грэх яшчэ большы.

— А хіба не грэх драць з вас, жывога, скуру?

— Не, унучак, пайду я ад цябе. Ты такое недарэчнае гаворыш. Яшчэ невядома, як яно выйдзе. Можа ён толькі настрашыў, каб я не лез болей на яго зямлю.

— А, вы баіцеся яго!—крыкнуў Віктар, увесь абураны ад такой рабскай пакорлівасці.—То вы сказалі, што ён заразае людзей, то ўжо другое пляціцё! Ведаеце, што я вам скажу?

Дзед Верабей, напалоханы такім выбухам гневу гэтага хлапца, не абзываўся. Віктар падышоў да яго і прашаптаў:

— Я пайду да яго і скажу, каб ён вас не адважыўся і пальцам кранунь. А калі паспрабуе...

— Не трэба, Віцька, ці не ашалеў ты?! Хочаш, каб яны ўсё сяло ў жабракі пусцілі? Што ты, унучак... Вот я пагавару з тваім бацькам, які ты...

Ён махнуў вішнёвым кійком і знік у змроку.

Гармонік у хаце заціх. На двор пачалі выходзіць хлопцы, дзяўчаты. Клаўдзя, разгарачаная ад танцаў, адшукала Віктара, схапіла яго за руку.

— Вельмі-ж душна ў хаце. Няўжо ты адзін тут і стаяў увесь час? Давай пойдзем за сяло.

Яна пацягнула Віктара на вуліцу. Па меры таго, як яны аддаляліся, заціхаў шум і гоман вечарынкі. Адразу ў канцы вёскі ім дыхнула ў твар свежасцю ракі. Плыў у вышыні за празрыста-белай навалокай воблакаў вузкі серп месяца. Яны ішлі павольна, узяўшыся пад ручкі, прыглядаючыся да сцежкі, прыслухоўваючыся да начных шолахаў.

Неўзабаве, самі таго не заўважыўшы, яны апынуліся непадалёку да хутара. Тады яны спешна павярнулі назад, асцерагаючыся таго страшэннага гармідару, які маглі ўзняць у гэтай урачыстай цішыні корбутавы сабакі. Паспакайнелі толькі тады, калі над іх галовамі ціха зашаптала лісцё векавых бяроз на могільніку. Клаўдзя яшчэ шчыльней прытулілася да Віктара.

Тут яны раптам пачулі галасы і ўраз сталі.

— Божа мой,—Віктар пазнаў, што гаварыў Корбут.—Не магу я з вамі ехаць. Сяло во тут, пад бокам. Коней вы знойдзеце ў хлявах, а ў каго на начлезе—прывядуць, калі прыгрозіце.

— Лепш будзе, калі сам пан войт з намі праедзе,—пачуўся хрыпаты бас.—Пан войт ведае людзей. . .

Віктар толькі цяпер згледзеў у змроку цёмную масу коннікаў, якія спыніліся каля прасёлку, што вёў на корбутаў хутар.

— Хутчэй у вёску!—прашаптаў ён, рвануўшы Клаўдзю за руку.

Вечарынка яшчэ не скончылася. Буйневіч, схіліўшы галаву і прыслухоўваючыся да галасоў, іграў «лявоніху». Хата аж дрыжэла ад дружнага тупату мноства ног. Расштырхаўшы малых, якія стоўпіліся каля парогу, Віктар крыкнуў на ўсю сілу:

— Стой!

Музыка абарвалася. Буйневіч ускочыў з табурэта. Усе кінуліся да Віктара.

— Жаўнеры каля могільніку! Едуць браць коней!

Усе рынуліся з хаты. Ніхто не запытаўся ў Віктара, ці праўда гэта, можа ён жартуе. Ніхто не пацікавіўся, якім чынам ён даведаўся, што жаўнеры прыехалі іменна па коней. Нямецкая акупацыя навучыла, да чаго прыводзяць такія распыты. У такіх выпадках трэба даражыць кожнай хвілінай.

Віктар заскочыў да Вераб'я. Стары ўжо ляжаў на печы. Пачуўшы пра жаўнераў, якія прыехалі па коней, ён выбег з хаты і зарыпеў варотамі хлява.

Хвілін праз пяць па загуменню толькі і чуліся конскі тупат і прыглушаная лаянка. Неўзабаве ў канцы вёскі грымнуў стрэл. На розныя галасы забрахалі і заскуголілі сабакі па дварах.

Сцябаючы каня доўгім повадам, Віктар ляцеў у цемры па вуліцы.

— Хватайце коней!—крычаў ён.—Уцякайце!

Нешта дзвыгнула каля яго вушэй у сваім страшным лёце. Усё ў нутры хлапца ўраз пахаладзела, калі ён пачуў ззаду вінтовачныя стрэлы.

Белапалякі білі ўздоўж вуліцы. Віктар не бачыў, як злавесна ўспыхвалі за яго спіною далёкія зеленаватыя аганькі. Ён толькі адчуваў, што смерць, прагная і ненасытная, скуголіць то над яго галавою, то недзе ўнізе, збоку...

## XI

Тая раптоўнасць, з якою наляцелі белапалякі на Верасніцу, сведчыла пра нейкія важныя падзеі. Да гэтага часу ехаць у падводы звычайна загадвалі праз солтыса. Кожны дзень з Верасніцы накіроўвалася ў воласць, якую цяпер пачалі зваць «гмінай», фурманак пяць-дзесяць. Корбут, папярэджаны Віктарам, стараўся пазбегнуць вострых канфліктаў з вёскай, у якой яго хутар быў увесь на віду. Затое страшэнны цяжар панскіх шарваркаў ускінуў на далейшыя паселішчы і хутары. Некаторыя сяляне, якія некалі чым-небудзь закранулі гонар сквапнага старога, не ведалі ад гэтых шарваркаў спакою ні на адзін тыдзень. Часта Корбут прымушаў іх ездзіць па тры, па чатыры дні на тыдзень. Людзі на чыста заразалі сваіх коней дальнімі дарогамі, ламалі калёсы, рвалі збрую. А патрабаванні на падводы з боку камендантуры чыгуначнай станцыі раслі кожны дзень. Цяжка нагружаныя ваеннымі прыладамі вазы дзень і ноч рыпелі па дарозе да Беразіны.

Буйневіч крыху ведаў, чаму Корбут баяўся націскаць на Верасніцу. Пра гэта яму аднойчы падаў намёк Віктар. Але цяжка было ўгадаць, дзе можа скончыцца страх, а дзе пачнецца неўгамаванае нахабства войта. Таму Буйневіч вырашыў зрабіць сякія-такія падрыхтаванні, каб не папусціцца ў крыўду.

Ледзь толькі ён дабег спатыкаючыся ўпоцемку да свайго двара, як міма яго прагарцавалі два жаўнеры. Недзе ў канцы вёскі пачалі пальбу. Паставіўшы гармонік у сенцах і схапіўшы аброць, Буйневіч рынуўся да хлява. Калі палякі занялі вуліцу, дык яшчэ можна будзе прарвацца на загуменне.

Але выскачыць на загуменне Буйневічу не пашанцавала. Конь, відаць, напалоханы грукатам стрэлаў і тою імклівасцю, з якою кінуўся да яго гаспадар, занараўіўся. Ён нават некалькі разоў смальнуў заднімі нагамі, але, на шчасце, па загарадзі.

Буйневіч ледзь не завыў ад злосці.

У гэты момант у двор заскочыў конны жаўнер. Пачуўшы мі тусню і конскі тупат у расчыненым хлеве, жаўнер спешыўся.

— Хто тут?—гукнуў ён па польску ў чарнату будынка.

Рукі ў Буйневіча раптам абвялі. На яго найшло аслаблае заспа каенне, якое, звычайна, бывае пасля вялікага напружання...

— Хто тут?—не пачуўшы адказу, паўтарыў жаўнер і кляцну затворам вінтоўкі.

Буйневіч рушыў да выхаду.

— Гэта я, пане.

— Што робіш?—запытаўся жаўнер такім тонам, нібы пасл таго, калі Буйневіч задаволіць яго цікавасць, ён завернецца і паедз далей. Нібы толькі для таго, каб паглядзець, што робіць Буйневі у такую пару, ён і прыязджаў.

Буйневічу вельмі хацелася схапіць вілы, якія стаялі дзесьці ту каля дзвярэй, і паказаць вельмі цікаваму жаўнеру, што ён можа рабіц упоцемку. Але чорт яго ведае, адзін тут белапаляк ці ззаду, з змроку двара, стаіць яшчэ больш жаўнераў? Таму ён адказаў ла годным галаском:

— Каня браў, пане. Сказалі, што вам патрэбны падводы. Пан войт сказаў.

— Ну, бяры,—відаць задаволены пакорлівасцю Буйневіча, прамовіў жаўнер.—Толькі хутчэй!

І адышоўся з сваім канём, каб даць Буйневічу дарогу.

Праклятая скаціна! Буйневіч не стрымаўся, каб не стукнуць Андрыяна (такая была ў каня клічка) кулаком пад бок. Цяпер, якраз у гэту хвіліну, калі патрэбна было, каб ён брыкаўся найбольш люта, каб яго не мог узяць і цэлы полк жаўнераў, ён наадварот, сам падышоў пад гаспадара і рахмана падставіў цёплую морду аброці!

— Я зараз запрагу,—заспакойваў жаўнера Буйневіч.—У нас вёска дружная. Мы ніколі не супроць, калі нам загадваюць. Я сам колькі разоў едзіў. То ў Бабруйск, то ў Ігумен, то ў Менск. Невядома, ці далёка паедзем сёння?

Жаўнер, відаць не улавіў насмешкі ў голасе Буйневіча. Трымаючы за повад асядланага каня, ён сеў на ганку і запаліў папяросу.

— Можа ў пана ёсць закруць?

— Няма,—буркнуў жаўнер.—Ты хутчэй запрагай.

— Што-ж, калі няма, дык нічога не зробіш.

Буйневіч заспяшаўся. Ён часта ўваходзіў у сенцы, каб вынесці адтуль то сядзёлку, то хамут. Усё гэта—паасобку, нібы ўсё гэта, калі ўзяць разам, акажацца нязмерным цяжарам. То, ён, адчыніўшы дзверы ў хату, пытаўся ў бацькі і сястры, ці не бачылі яны лейцаў? Потым зноў варочаўся у хату і зноў дапытваўся, дзе яны падзелі пугу, вядро з каламаззю. Потым ён уголас успомніў, што яму трэба пераапрануцца ў доўгую дарогу.

— Каб пан ведаў, якое няшчасце,—уздыхаў ён, праходзячы каля жаўнера.—Нідзе не магу знайсці дугі. Прылада простая, а ніяк без яе не ўваткнеш каня ў аглоблі. Цікава, як там у вас, у Польшчы, ездзяць? З дугою, ці так сабе?

Заняты курэннем і мусіць адпачываючы гэтым часам ад гойдання ў сядле, жаўнер, здавалася, не звяртаў увагі ні на ажыўленую балбатню Буйневіча, ні на тое, што ён наўмысля зацягвае выезд. Калі-ж папяроса была дакурана, белапаляк рашуча ўстаў.

— Дзесяць хвілін тэрміну!—зароў ён.—Ты, відаць, птушка стрэляная, але мяне не правядзеш!

Неба на ўсходзе пачало шарэць. Павольна, але няўхільна вырастала, узнімалася за пушчай светлая падфарбаваная ўнізе лёгкай чырванню паласа за небасхілам. Змрок верасніцкай вуліцы радзеў і рассейваўся па меры таго, як шырылася ва ўсе бакі і ўзнімалася высока ў небе барвовая свежасць раніцы. І толькі цяпер можна было заўважыць вынікі начной панскай аблавы. Каля дваццаці падвод стаяла адна за адной пасярэдзіне вёскі. Сяляне, старыя і малыя, мужчыны і жанчыны моўчкі сядзелі на вазах. Толькі нямногія яшчэ бегалі ў сваю хату то за торбай з хлебам, то за цёплай адзежынай. Невядома, куды і наколькі давядзецца ехаць, дзе давядзецца начаваць. Было ў часе нямецкай акупацыі, калі выбіраліся толькі на дзень, а варочаліся да хаты праз тыдзень, нават і праз месяц. Часта варочаліся толькі з канём, бывала, што прыходзілі з адной пужкай.

— Калі адпусцяць, то ты сабе шляхам не едзь, а выбірай засценкі,—павучала адна жанчына хлопчыка, відаць, сына.—Не едзь сабе шляхам, а то яны зноў захопяць і павернуць назад. І каня не перасільвай, а то канец усяму будзе. Прасіся, каб яны ў меру на воз клалі.

— Добра,—адказаў малыш, на плечы якога была накінута старая бацькоўская жакетка, яна была яму ледзь не да пят.—Буду прасіцца.

Жанчына пазірала неспакойнымі роспачлівымі вачамі то на сына, то на жаўнераў, якія гарцавалі па вуліцы, шукаючы яшчэ падвод. Яна, здавалася, хацела сама накінуць на плечы гэтую старую жакетку, каб толькі не выпраўляць у невядомую дарогу, можа нават на вялікае няшчасце, гэтае малое, горкае дзіця.

— А калі што, дык хоць сабе і каня кінь. Няхай яны ім хоць задушацца сабе.

Старэнькі дзядок, апрануты ў доўгую рудую світу і падпяразаны вяроўчынаю, крычаў у хату дзяўчыне, якая прынікла да шыбіны:

— Скажы Мацвею, каб ён авёс увесь памалаціў. Што? Авёс каб памалаціў. Ага. І няхай новыя бэлькі зацягне пад столь у склепе. Што-а? Каб тутака не гулялі без мяне...

Мужчыны сярэдніх год і хлопцы, якія не чулі Віктаравага папярэджання і не маглі ўцячы, панура паглядалі на жаўнераў, якія з форсам лёталі каля вазоў. Азлобленыя гвалтам, яны ацэньвалі кожнага варожага салдата, яго вінтоўку, сілу, тое, як ён трымае за плячыма вінтоўку, альбо сядзіць у сядле. У большасці гэта была моладзь, якая лезла са скуры, каб найбольш спрытна і эфектна падлягаць да пана начальніка атрада, сівога і пахмурага афіцэра, і далажыць, што імі зроблена.

— Смаркачы няшчасныя!—вылаяўся пацíху Поташ, трымаючы ў руках лейцы.—Не пахадзіла па вас добрая бацькоўская вяроўка. Замест таго, каб рабіць самому свой хлеб, ён палез па чужы.

Поташ вельмі каяўся, што пакінуў каня ў хлеве, а не павёў на начлег. Трасцу-б яны яго там узялі! У лютай нянавісці ён, як і многія са злоўленых вераснянцаў, пастараўся ўзяць самы горшы хамут, слабенькую неакораную дугу, па якой тачыўся шашаль.

— Чаго мы стаім?—запытаўся дзядок у Поташа.—Што-а?.. Буйневіча яны чакаюць? Можа, каб хутчэй паехалі, дык-бы яны хутчэй і адпусцілі. А-а? Столькі дома работы!

І стары нецярпліва стаў прыглядацца да варот Буйневічавага двара.

Ужо ўзышло сонца, але Буйневіч усё яшчэ не выязджаў з варот.

— Такі быстры хлопец і так забавіцца!—дзівіўся дзед, папраўляючы вераўчаны пояс.—А можа яго не злавілі? Што-а?

— Злавілі,—адказаў хлопчык.

Начальніка атрада што далей, то ўсё больш разбірала злосць. Ён ужо два разы пасылаў жаўнераў да буйневічавага двара. Кожны раз жаўнер варочаўся і дакладваў, што зараз выедзе. Начальнік атрада ўсё чакаў, відаць, яму дарага была кожная падвода. Нарэшце цярплівасць яго скончылася.

— Бартэк!— гукнуў ён аднаго жаўнера.—Вазьміце з сабою Казубу і Пшыбытку. Дайце па дваццаць пяць і хлопу і Кжачкоўскаму!

Бартэк брава казырнуў і крануў шпорамі каня. За ім паскакалі яшчэ два жаўнеры.

Але не паспелі яны ад'ехаць ад афіцэра і сотні крокаў, як нарэшце, з Буйневічавага двара паказалася доўгачаканая фурманка. За фурманкай вырваўся на вуліцу конны жаўнер. Ён нешта крычаў Буйневічу і трос над ім бізуном. Буйневіч спакойна сядзеў у перадку і толькі час ад часу паціскаў плячыма, нібы дзівячыся з таго, чаго так хвалюецца жаўнер.

Белы, як снег Андрыян, праявіўшы незвычаўную бадзёрасць, каб не даццa гаспадару ўначы, цяпер ледзь перастаўляў ногі. Фурманка паволі і з нейкай урачыстасцю набліжалася да выстраенага на вуліцы абозу.

Чорныя, абсмаленыя папяросным дымам, вусы Поташа шавяльнуліся ад усмешкі. За Поташам усміхнуўся дзед, за дзедам ужо зарагатаў хлопчык. Але маці, апасліва зірнуўшы на жаўнераў, нешта яму сказала і хлопец закрыў твар рукавом, не перастаючы, аднак, смяяцца.

Буйневіч пад'ехаў ужо зусім блізка і ўсе вераснянцы ўбачылі, чаму ён так доўга і старанна выбіраўся ў невядомую, дальнюю дарогу.

Фарсістая і цяжкая дуга, пафарбаваная ў зялёны колер, гойдалася над панурай галавою белага Андрыяна. Такія дабротныя дугі ўжываюцца ў вёсцы толькі ў выключныя святы: калі едуць у сваты да любімай дзяўчыны, альбо ў рэдкія багатыя госці. Поташ згледзеў на вялікім медным кальцы нават акуратна падвязаны ружовы банцік...

Але якім вялікім кантрастам была астатняя частка вупражы! Нават у распачлівых вачах жанчыны затрапятаўся смех, калі гэты незвычайны воз параўняўся з ёю! Усе ў вёсцы, нават на ўсю воласць, ведалі, што Буйневіч можа добра перадражніць і падвесці ў

зман сапраўдных пеўняў, пераняць голас цяляці, авечак, нават паказаць, як і чый брэша сабака. Але што ён зрабіў тут—было верхам майстэрства... Патрэбна была выдумка, сапраўдная фантазія, падагрэтая нейкім пачуццём! Бо вядома, што без пачуцця, якое сагравае і росціць ідэю, нельга стварыць больш-менш удалай рэчы.

Усе ў вёсцы ведалі, што ў Буйневіча ёсць добры, з новенькімі набедрамі хамут, завідныя калёсы на жалезным ходу, якія ён перарабіў з абознай нямецкай фуры, адбітай партызанамі ў часе адступлення акупантаў. Былі мяккія сырамятныя лейцы. Наогул, як кажуць, нехапала да таго панараду аднаго: рэсор!

І вот цяпер з таго панараду ён узяў толькі бліскучую святочную дугу. Астатняе—было дрэнь, якую толькі можна сабе ўявіць. Астатняе—усё ішло ад нянавісці да гэтага фанаберыстага зброду, які ўварваўся, карыстаючыся момантам, на нашу радзіму з захаду. Гэта была маўклівая, але надзвычай арыгінальная лекцыя, як трэба выязджаць на панскія шарваркі!

Які пышны хамут красаваўся на беласнежнай шыі Андрыяна! Ад верху і да нізу ён быў неахайна абшыты рознакаляровымі суконкамі. Тут былі кавалкі са світ, сівых і агнёва рыжых, якія насілі дзед, прадзед, а магчыма і яшчэ ранейшыя продкі Буйневічаў.

Хамуціна, сшытая са зрэбнага палатна, была ў многіх месцах альбо прарвана, альбо наўмысля прарэзана нажом і праз дзіркі маляўніча вытыркаліся і звісалі ў паветры каўлакі жоўтай саломы, зялёнага моху і доўгага пер'я, таксама падабранага з адпаведным густам і, відаць, замацаванага адпаведным спосабам. Замест сырамятных гужоў тырчэлі шматлікія вузлы старых, адбеленых дажджамі і сіняватых, толькі што звітых з пянькі вяровак: неабрэзаныя і распушаныя канцы гэтых вузлоў спускаліся каню ледзь не да кален.

Нават аглоблі і тыя былі падабраны для гэтага маскарада з вялікай любоўю. Адна ўся зеленаватая ад гною, з вяроўчанай атосай, і другая, афарбаваная ў чорны колер, з атосай, звітай з алюмініевага дроту,—яны былі непамерна даўгія і на поўаршына вытыркаліся наперадзе дугі. Колы, без адзінай жалезнай шыны, рассохлыя, са збуцвелымі спіцамі, з асобнымі кавалкамі, замест суцэльных абадоў,—адхіляліся ад прамой лініі то ў адзін, то ў другі бок не менш, як на поўаршына. Прарэзліва-ядавіты віск немазаных восей звярнуў на сябе ўвагу не толькі тых, што былі на вуліцы, але нават абудзіў і прымусіў выйсці з хат усіх астатніх верасняцаў.

Буйневіч сядзеў у перадку гэтай незвычайнай калясніцы з самым сур'ёзным выглядам. Ён ужо аб'ехаў увесь радасна-узрушаны абоз верасняцаў і хацеў прыстроіцца не інакш, як наперадзе, калі раптам над яго галавою прашыпеў голас:

— Гэта яшчэ што такое?!

Буйневіч, быццам нічога не разумеючы, азірнуўся.

— Што гэта такое?—шапталі з нейкім страшэнным прысвістам, губы тоўстага афіцэра. Дзікае шаленства маланкай лятала ў яго маленькіх вочках. Наліты барвовай чырванню твар сударгава ўздрыгваў нават самай маленькай часткай.

Буйневіч вытрымаў яго позірк і недаўменна паціснуў плячыма.

— Я не ведаю, што пан хоча,—адказаў ён спакойна.

Афіцэр аж падскочыў у сядле.

— Зараз вельмі зразумееш!—ён павярнуўся да жаўнераў, якія стоўпіліся за яго спіною.—Эй, Бартэк! Узяць! Завядзіце на яго двор. Калі ў яго знойдуцца лепшыя калёсы і лепшая збруя, дык абяцаю маткай боскай вострабрамскай, што ён не пражыве і хвіліны ад маёй ласкі!

Жаўнеры падхапілі Буйневіча і пацяглі на яго двор скрозь маўклівы, напалоханы ўжо строй верасняншаў. Афіцэр усадзіў руку ў кішэню і дастаў партсігар. Рукі яго дрыжэлі ад неўтрапёнай злосці. Некалькі папярос выляцела з партсігара на зямлю.

— Ах, пся крэў!

Сонца паднялося ўжо досыць высока. Верасняншы трывожна пазіралі то на Буйневічаў двор, то на пана афіцэра, які, дакурыўшы адну папяросу, узяўся за другую. Па хлявах раўлі каровы, блеялі авечкі, якіх даўно трэба было выпусціць на пашу. Але цяпер верасняншам было не да гэтага. Кожны з іх у гэтую хвіліну вельмі хацеў, каб тыя калёсы і тая збруя, якую могуць знайсці ў Буйневіча жаўнеры, праваліліся праз зямлю, згарэла агнём. Але разам з тым усё невымоўна былі ўражаны тым знадворным спакоем і вялікай мужнасцю, з якой Буйневіч паглядаў на афіцэра, даведзенага ім ледзь не да вар'яцтва.

Праз поўгадзіны Буйневіч і жаўнеры зноў апынуліся перад афіцэрам. Жаўнер, якога афіцэр зваў Бартэкам, узяў пад казырок.

— Маю гонар далажыць пану паручніку, што нічога не знойдзена. Мы дапытвалі прысутных пры вобыску сялян. Яны сцвярджаюць, што ў гэтага хлопа нічога лепшага, як гэтыя калёсы, няма. Гэта, кажуць, вельмі бедны чалавек...

— Добра,—працадзіў праз зубы паручнік.—Няхай едзе і на гэтых. Толькі не пускайце яго наперад. І няхай толькі ён паспрабуе не даехаць, куды яму будзе загадана!

Прышпораны паручнікам конь узвіўся на дыбкі. Абоз крануўся па дарозе да станцыі. Буйневіч пачакаў, пад пільным наглядам аднаго з жаўнераў, пакуль прайшлі ўсе падводы. Тады ён, перапаможна ўсміхнуўшыся вачамі верасняншам, тарґануў каня за лейцы.

Зялёная дуга ўрачыста загойдалася з боку ў бок. Прарэзлівa-ядавіты віск зноў паляцеў ад хаты да хаты...

— Навозіць ён ім на такім возе! Ах, які хлопец, які хлопец!—у захапленні прамовіў высокі, з белаю барадою, стары.—Спамяніце мае слова: гэтая таратайка рассыплецца яшчэ да грэблі.

## XII

Шасцідзесяцітысячная армія генерала Шэптыцкага, былога аўстрыйскага шпіёна ў часе руска-японскай вайны, ішла на ўсход. Сінія тлустыя стрэлкі ўдараў, прачэрчаныя афіцэрамі французскага генеральнага штаба на карце, абрываліся толькі каля слова «Масква». Адзін з вельмі храбрых польскіх афіцэраў пастараўся намаляваць над кружком, які азначаў вялікую сталіцу вялікага рускага народа, нават бела-малінавы сцяг з арлом.

Гамулька успомніў пра гэты сцяг на карце пану Сваяніцкаму, калі яны, у супраджэнні атрада з дваццаць жаўнераў, ехалі ў штаб дывізіі для размовы з панам генералам.

— Ведаеш, што я табе, браце, скажу,—пачаў міністр з хваравітай грымасай на твары.—Давай прыцішым трохі хаду. Не прывык я ездзіць верхам на кані. Здаецца, што я сяджу не ў сядле, а на нейкіх нязручных вешніцах з вострымі лёсткамі...

Пан палкоўнік коратка ўсміхнуўся свайму сябру і стрымаў каня. Міністр параўняўся з ім і яны паехалі павольна.

Халодны вецер дзьмуў ад захаду. Неба, укрытае шэрымі хмарамі, часамі зрывалася на іх дажджом. Дробныя, калючыя кроплі секлі тады ў твар, пакрывалі непранікальным туманам акуляры Гамулькі. Міністр праціраў іх хусткай і яшчэ ніжэй апускаў на лоб шырокі казырок акантаванай белай бляхай шапкі.

* * *

Пасля прыкрага здарэння ў маёнтку, калі жаўнеры ледзь-ледзь не адправілі яго ў магілу, палкоўнік параіў Гамульку апрануць вайсковую форму. Некаторая замінка выйшла толькі з адзнакамі. Гамульку вельмі хацелася мець тыя-ж адзнакі, што і ў Свянціцкага. Але прысутнасць двух палкоўнікаў у адным палку магла прывесці да непаразуменняў.

Праўда, была яшчэ адна, вельмі важная прычына, якая не дазволіла Свянціцкаму ўпрыгожыць свайго сябра афіцэрскай формай: павышэнні і паніжэнні ў чынах рабіліся толькі панам генералам. Але гэтага можна было ўнікнуць, асабліва ў ваенны час, тым больш, што Гамулька збіраўся прабыць у яго часці не больш тыдня.

Засумаваўшы ў душы, Гамулька ўсцягнуў на сябе грубую, насычаную спецыфічным цэйхгаўзаўскім пахам, салдацкую форму.

Цэлы тыдзень прабыў ён у часці свайго сябра. За гэты час полк, падтрыманы артылерыяй, неаднойчы спрабаваў прарвацца на той бок і кожны раз гэтыя спробы канчаліся няўдачай, вялікімі стратамі жаўнераў. Здавалася, што армія, якая з ваяўнічым задзёрам і помпай прайшлася палямі Віленшчыны і Меншчыны, нарэшце натрапіла на непераможную перашкоду. Здавалася, што праціўнік нарэшце стаў на свой апошні абаронны рубеж, з якога яго мог зняць толькі адзін загад: загад смерці. Маўклівы і насцярожаны быў усходні бераг вялікай ракі. Здавалася, нікога там, у густых прырэчных лясах, няма. Ні адзін стрэл не чуўся з таго боку, ні аднаго чалавека не было відаць на стромых, падрэзаных веснавымі паводкамі, схілах гары. Польскія самалёты, якія лёталі над савецкім берагам, не заўважалі буйных частак чырвоных, не заўважалі іх батарэй.

Цяжкія крупаўскія гаубіцы кідалі ўначы на той бок смерць і зруйнаванне. Лёгка, нібы картонныя, узляталі ў паветра сялянскія хаты савецкай прырэчнай стараны. Сухая салома стрэх успыхвала ад запальваючых снарадаў, як порах. Полымя імкліва перакідалася з будынка на будынак. Агромністая лавіна агню кацілася з аднаго канца вёскі ў другі. Высока, аж пад самыя хмары, уздымалася за-

рава пажару. Вада тады ў Беразіне рабілася цяжкай і чырвонай, як кроў. Ад берагу да берагу мітусіліся і адсвечвалі зладесныя цені.

Стаіўшыся ў прыкрыцці белапольскага каманднага пункта, Гамулька, як воўк пазіраў на той бераг. Вочы яго ўспыхвалі то крывавым агнём, калі полымя пажараў шугала ў небе, то свяціліся зялёным фасфарычным бляскам, калі пажар канчаўся.

— Ну, цяпер яны не ўтрымаюцца,—гаварыў Гамулька Свянціцкаму.—Заўтра мы папалуднуем у маёй хаціне...

Але папалуднаваць Гамульку ў сваёй «хаціне» усё не выпадала. Як толькі белапалякі спрабавалі пасля доўгай артылерыйскай падрыхтоўкі пераправіцца на той бок, іх сустракалі бязлітасным кулямётным і ружэйным агнём. Аднекуль з глыбіні лесу пачынала біць бальшэвіцкая артылерыя. Снарады адзін за адным падалі каля пантоннага маста. З полымем і дымам выбухаў узляталі ўгару прырэчныя лазовыя кусты, чорная лугавая зямля, пашчапаныя кавалкі маставога насцілу. Усё неба над лугам успыхвала і свяцілася аж да самай раніцы блакітным зіхаценнем ракет. Усё тады было ў чырвонаармейцаў на віду, усё жывое і мёртвае шырокай даліны—пад абстрэлам. І ніхто з тых, што паспелі перайсці на той бок ракі, ужо не варочаўся жывым у часць пана Свянціцкага. Адна трэцяя частка людзей была выведзена са строю за дзве атакі.

— Падобна на тое, браце Вацлаў, што нехта з гэтага берага нібы папярэджвае тых, што на тым беразе, пра нашыя падрыхтаванні,—сказаў Свянціцкаму Гамулька пасля чарговай няўдачнай пераправы.—Трэба панаглядаць спадцішка за сялянамі гэтай вёскі. Мне здаецца, што яны вельмі старанна пачынаюць чысціць свае каміны напярэдадні атакі. Ці не ёсць гэта ўмоўны знак бальшэвікам? Як ты, браце, глядзіш на такое меркаванне?

— Яно правільна, Апанас. Дзякую за папярэджанне. Мы гэта праверым.

Вёска, у якой была размешчана частка жаўнераў, стаяла на гары. З таго боку ўсё ў ёй павінна было відаць, асабліва ў бінокль, як на далоні. Але чырвонаармейскія батарэі не кінулі сюды ніводнага снарада, напэўна, шкадуючы нарабіць смерці і разбурэнняў мірнаму насельніцтву.

Свянціцкі, каб праверыць страшныя меркаванні Гамулькі, вырашыў арганізаваць падманную пераправу. Потым ён загадаў аднаму ўзводу жаўнераў прадэфіліраваць з паўднёвага вучастка фронта на паўночны. Неўзабаве пасля таго, калі ўзвод размясціўся на новым месцы, нейкі стары павольна ўзлез на азярод і пачаў корпацца са снапамі аўса. Потым яшчэ адзін селянін узабраўся ўжо на страху і пачаў садзіць у комін доўгі шост вяхі.

— Ну што, браце, хіба няпраўда?!—пераможна усміхнуўся беларускі міністр.—Не казаў я табе?

Губы Свянціцкага сударгава таргануліся. Ён крыкнуў жаўнерам, якія стаялі воддаль:

— Зніміце іх! Зараз-жа! Ах...

Загрымелі бязладныя стрэлы. Стары, што перабіраў снапы аўса, схапіўся за грудзі і каменем зляцеў з азяроду. Той, што

чысціў комін, асеў на зялёны мох страхі. З-за коміна была відаць толькі схіленая на бок галава.

— Ён прыкідваецца!—прашаптаў Гамулька Марушэчку.— Загадайце, каб выстралілі яшчэ раз!

Яго апанавала вялікая злосць. Да фальварка Гамулькі аставалася толькі некалькі вёрст, але вось ужо больш як тыдзень топчацца польская армія на месцы і не можа прасунуцца далей ні на крок! І гэта, можа, па віне такіх трубачыстаў і верхалазаў! Гэта яны падаюць большэвікам сігналы пра групіроўкі польскага войска ў тым, ці іншым месцы. А тыя, вядома, падрыхтуюцца для сустрэчы свайго ворага...

— Мне думаецца, пан палкоўнік зрабіў памылку,—адказаў Гамульку начальнік штаба.—Іх трэба было ўзяць жывых і дапытаць. А яны мне то напэўна прызналіся-б у сваёй злачыннай дзейнасці.

Пасля такога выпадку ўжо ніхто з сялян не стаў лазіць на страху. Але праз некалькі дзён занялася гарэць ад сажы ў коміне адна хата. Дзьмуў моцны паўночны вецер. Агонь перакінуўся на другія будынкі. Палавіну вёскі змёў пажар менш як за дзве гадзіны.

Барацьба пана Свянціцкага з трубачыстамі не дала рэальных вынікаў, бо ўжо не было на чым арганізаваць пераправу. Большая частка гумавых балонаў была парвана снарадамі, рэшткі іх знесены вадою глыбокай ракі. У вёсках раптам не аказалася ніводнай лодкі. У дадатак выявілася, што артылерыйская частка дывізіі засталася без снарадаў. Таксама астаўся нязначны і запас патронаў, а доўгачаканага папаўнення з тылу не было.

У тылу пачало рабіцца штосьці падазронае. То раптам зніклі наспех збудаваныя цераз рэкі масты, то палявая жандармерыя ніяк не змагла знайсці патрэбную колькасць падвод...

Аднойчы апоўдні, думаючы пра ўсе гэтыя непрыемнасці, Свянціцкі ехаў верхам на кані ў размяшчэнне трэцяй роты. Гамулька нязменна гойдаўся ў сядле з ім побач. Куртаты цейс на зялёным шаўковым шнуры ўпрыгожваў ваяўнічыя грудзі міністра.

Навакол, у маладым хваёвым зарасніку, была нейкая сонная цішыня і спакой. Непарушна стаялі рэдкія на пясчаным грунце бярозкі. Там-сям пракідаліся ў іх стройнай кроне пажоўклыя лісты—напамінак блізкай восені. Гэта, відаць, настроіла чулую Гамулькаву душу на лірычны лад.

— Якая прыгажосць, якая прыгажосць!—захапляўся ён.—Паглядзі, браце Вацлаў, во на гэту бярэзінку. Гэта-ж, браце мой, стаіць сабе нібы маладая паня!.. А каб-жа ты ведаў, якое хараство на тым баку! Ну, такое ўжо хараство, што скажу проста: зірні ды памры! Ты вот паглядзіш толькі...

— Не, я яшчэ не хачу паміраць,—усміхнуўся Свянціцкі.

— Трапны, браце, адказ, трапны!—прышоў у захапленне Гамулька.

Яны пасля гэтага праехалі з хвіліну моўчкі. Раптам Гамулька ні з таго—ні з сяго зарагатаў так моцна і дзіка, што Свянціцкі трывожна паглядзеў яму ў вочы.

— Ты чаго, Апанас?

— Каб ты толькі ведаў! Што за думка, што за думка!— Прысцябаючы свайго каня бізуном, прагугнявіў Гамулька.—Прыходзіць-жа такое ў галаву. Ты вот скажы мне адкрыта: гэтая рака ёсць вялікая перашкода нашаму войску?

— Так. Значная, можа нават больш,—яшчэ не ведаючы для чаго гэта спатрэбілася Гамульку, адказаў Свянціцкі.—Калі дапусціць нават, што большэвіцкая армія ў два разы меншая па колькасці за нашу, дык яна і тады ўтрымае пазіцыі ўздоўж Беразіны. Беразіна сама па сабе вялікая натуральная перашкода для прасоўвання нашых частак далей на ўсход. А значэнне яе ў ранейшых паходах заходня-еўрапейскіх армій на Расію ты, напэўна, ведаеш і сам. Але мы возьмем гэту перашкоду, як толькі прыбудуць падмацаванні і снарады, калі будуць абсталяваны аэрадромы!..

Гамулька паспяшыў хутчэй выказаць дзівосную думку.

— Ну дык вось, браце ты мой, аб чым я падумаў. Гэта-ж каб рака Беразіна цякла не так, як цяпер, а недзе ў другім месцы, ну хоць-бы роўненька па васьмідзесятай параделі, дык-бы нам і гора мала было!.. Захацелася гэтаму праклятаму ледніку паўзці на поўдзень!

Свянціцкі няўцямна зірнуў на свайго сябра, але нічога не адказаў. Раптам міністр пачуў у вышыні гулкі стальны скрогат. Следам за гэтым у зарасніку, дзе відаць былі палаткі жаўнераў, зямля ўздрыганулася ад кораткага выбуху.

Гамулька ўціснуў галаву ў плечы і прынік да шыі каня. Свянціцкі глянуў у той бок, дзе разарваўся снарад, і губы яго пакарэжыліся.

— Ах, пся крэў!—вылаяўся ён і рынуўся з дарогі.

Гамулька выпрастаўся і паляцеў за Свянціцкім, не разбіраючы дарогі. Калючая ігліца хваёвага галля няшчадна секла яго па твары, па руках. Нарэшце яны выскачылі на вялізную палянку. І тут Гамулька ўбачыў дзівосную карціну.

Чалавек паўсотні жаўнераў мітусілася каля невялічкай, вывернутай узрывам, варонкі. На зялёнай траве ляжалі, варушачыся як жывыя, белыя невялічкія лісткі. Некалькі паперак яшчэ кружылася ў паветры, павольна зніжаючыся да натоўпу.

— Ах, пся твая маць,—люта крычаў Свянціцкі, саскочыўшы з каня.—Разыйдзіся! Зараз-жа разыйдзіся!

І пачаў сцябаць бізуном направа і налева.

— Разыйдзіся!—думаючы, што патрэбна і яго дапамога, зароў Гамулька.

Жаўнеры кінуліся ўрассыпную.

Свянціцкі пачаў падбіраць лісткі. Гамулька, цягаючы свайго каня за повад, стаў яму дапамагаць.

— Я згледзеў іх яшчэ з дарогі,—увесь барвовы ад напружання і нянавісці, прамовіў Свянціцкі, калі яны закончылі, нарэшце, сваю працу.—Спаліць! Зараз-жа спаліць!

— Бач ты іх, злыдняў, што яны робяць!—прагугнявіў Гамулька, папраўляючы свае акуляры.—Па-польску, браце, напісана. Гэта-ж ліха ведае што такое!

У лістку было:

*«Салдаты, рабочыя і сяляне Польшчы!*

Вас абманілі! Памешчыкі і фабрыканты гоняць вас на смерць за свае маёнткі, за свае фабрыкі. Вас прымушаюць забіваць і калечыць такіх-жа самых рабочых і сялян, як і вы, рабочыя і сяляне Польшчы.

Не слухайце сваіх афіцэраў! Біце іх, як ворагаў народа. Варочайцеся ў свае сёлы і гарады. Адбірайце ад сваіх памешчыкаў зямлю, адбірайце фабрыкі ад фабрыкантаў

Далоў буржуазію!

Далоў эксплаататараў!

Няхай жыве комунізм!»

Пачуўся тупат каня. Гамулька скамячыў лісток і азірнуўся. Перад ім быў Марушэчак. Капітан зірнуў на Свянціцкага і ўзяў пад казырок.

— Званілі з канцылярыі пана генерала, пане палкоўнік. Пан генерал просіць вас з'явіцца да яго заўтра а дванаццатай гадзіне дня.

— Добра,—адказаў Свянціцкі, скакаючы ў сядло.—А цяпер, я папрашу вас, пане Марушэчак, правесці вобыскі ў жаўнераў. Тут нядаўна большэвікі падкінулі снарад вось з гэтым.

Ён працягнуў пану капітану пачку лістовак. Капітан скоса зірнуў на іх і запхнуў у сваю палявую сумку.

— А-а, разумею!—бліснуў ён дробнымі зубамі.

— Я не ўпэўнены, што яны не захапілі іх з сабою. Вы павінны зрабіць так, каб іх не засталося на руках ні адной.

Марушэчак зноў узяў пад казырок.

— Будзе зроблена, пане палкоўнік.

* * *

— Нам трэба спяшацца перайсці раку,—гаварыў Свянціцкі Гамульку па дарозе ў штаб дывізіі.—Самы зручны момант дайсці да Масквы цяпер. Советы сціснуты жалезным кальцом. З Сібіры наступае Калчак. Дзенікін няўхільна набліжаецца да Масквы з поўдня. Упусціць нам такі момант—гэта было-б недаравальна. Тым больш, што нашы саюзнікі ўскладаюць на нас такія вялікія надзеі. Мы стаім блізка каля мэты, аб якой марылі і не маглі ажыццявіць яе ўсе польскія каралі. Дарога, на якой так нечакана абарвалася кар'ера Напалеона, будзе для нас дарогай перамогі. Сцяг, намаляваны на карце алоўкам, ты ўбачыш над Масквою ў натуральным выглядзе...

Акуляры Гамулькі зноў заплылі дробнымі кроплямі дажджу. Ён зняў іх і пачаў праціраць хусткай. Порсткі англійскі скакун Свянціцкага гэтым часам вырваўся наперад з раду і Гамулька як праз туман убачыў толькі сыты зад замежнай жывёлы. Нешта падобнае да крыўды ні то на сваю блізарукасць, ні то за тое, што пра яго не ўспамінаюць у далейшым развіцці захопніцкіх планаў, шавяльнулася ўнутры беларускага міністра. Ён шпарка адзеў

акуляры і толькі цяпер убачыў прамую, як палка, спіну афіцэра. Калі Гамулька параўнаўся, Свянціцкі загаварыў зноў:

— Мяне турбуе толькі адно. Мы вельмі разгарнулі наш фронт. Ён цягнецца амаль ад мора і да мора. Калі ў нас будуць такія страты, як за гэты тыдзень, мы хутка вычарпаем усе рэзервы.

Гамулька зразумеў, што пан палкоўнік гаворыць аб салдатах. Раптам яму прышла ў галаву адна цікавая думка.

— З гэтым затрымкі не будзе,—прамовіў міністр.—Вернемся са штаба, тады я і раскажу табе.

— А што такое?—хацеў даведацца Свянціцкі пра думку свайго сябра іменна ў гэту хвіліну.

Гамулька махнуў рукою.

— Ну не, браце. Гэта чысты сурпрыз. Сам Напалеон аблізаў-бы пальчыкі. Наўперад я пастаўлю такое пытанне ў совеце міністраў. Адзін, без галавы нашага ўраду, я не адважуся вытыркацца з такімі прапановамі...

Ён дыпламатычна змоўк, калі яны ўехалі ў вузкую вуліцу вёскі. Пачуўшы цокат падкоў і лязгат зброі, шалёна забрахалі сабакі па дварах. Некалькі сялян, якія павольна ішлі наперадзе, азірнуліся, але, убачыўшы жаўнераў, заспяшаліся і шпарка разыйшліся па хатах. За гародамі, у напрамку да бліжэйшага лесу, мятнулася некалькі хлапчукоў верхам на конях.

— Палякі едуць! Палякі едуць!—прарэзліва крычала жанчына дзесьці ў канцы вёскі.—Уцякайце!

Гамулька ўбачыў за гумнамі яшчэ некалькі конных сялян. Усе яны, сцябаючы коней дубцамі, імчаліся прэч ад сяла.

— Якая несвядомасць! Ах, якая несвядомасць,—прамармытаў Гамулька.—Ну, хіба культурны чалавек зрабіў-бы так? Шмат тут давядзецца папрацаваць...

— Так, бізуном!—перарваў яго Свянціцкі.—У нас з-за гэтай, як ты называеш, хлопскай несвядомасці не стала снарадаў. Вось паспрабуй цяпер знайсці тут хоць адну падводу. Усе, сволачы, у лесе!

Калі Свянціцкі ўвайшоў у штаб дывізіі, да яго падскочыў адзін з ад'ютантаў пана генерала.

— Вам пісьмо, пане палкоўнік,—прамовіў ён падаючы запячатаны канверт.

Па няроўным, жаночым почарку Свянціцкі пазнаў, што ліст быў ад сястры.

— Вы не ведаеце, пане паручнік, навошта я патрэбен генералу? Кажыце, што ведаеце.

Ад'ютант дапытліва зірнуў на тоўстага жаўнера ў акулярах. Свянціцкі зразумеў у чым справа.

— Не бойцеся,—заспакоіў ён паручніка.—Гэта наш чалавек. Памятаеце, я вам званіў?

— Так, пане палкоўнік. Мы чыталі ў беларускіх газетах карэспандэнцыі гэтага пана.—Паручнік пакланіўся Гамульку.—Пан генерал застаўся здаволены...

Гамулька паправіў акуляры і пакланіўся паручніку.

— Пра гэта пасля...—зноў зірнуў Свянціцкі на ад'ютанта.

Паручнік яшчэ раз азірнуўся ў пакоі і прашаптаў.

— Вам даюць новае прызначэнне, пане палкоўнік. Яно цесна звязана з нашым далейшым рухам на ўсход... Праз два дні вы павінны быць на месцы... У тылу...

## XIII

Пад восень, асабліва ў цёмныя ночы, добра бяруцца на шнуры мянёк і галавень.

Вярнуўшыся на другі дзень дахаты, Віктар узяў вядзёрка са снасцю, ускінуў на плечы доўгі драўляны чарпак і накіраваўся на рэчку.

На загуменні яго спаткаў Дарафей Булынка. Апрануты ў той-жа нязменны бастонавы касцюм, ён, відаць, варочаўся з Бучаціна ад сястры.

— Шнуры ставіць?—весела запытаўся ён у Віктара.—Пачакай, браток, мяне. Я толькі пераапрануся.

— Добра,—узрадаваўся новаму сяброўству Віктар.

— Ты знойдзеш мяне на плёсе. Бачыш паваленн дуб?

Булынка кіўнуў галавою. Віктар растлумачыў:

— Верацёльніц цяпер ловяць там. Каля маста нагнала пяску і яны перабраліся ў другое месца.

Віктар памятаў сам і чуў ад Клаўдзі, што Дарафей вельмі любіў лавіць рыбу. Да вайны ён праседжваў на рэчцы цэлыя дні, то стаўляючы шнуры, то закідаючы нераты.

Віктар таксама год з дзесяці пераняў ад бацькі няхітрую рыбацкую справу і цяпер ведаў не горш за старых, дзе і якую снасць закідаць у раку.

Чырвонапёрыя імклівыя галаўні сустракаліся ў большасці на пясчаным дне, непадалёку ад чорных і глыбокіх віраў. Сюды-ж часта падплывалі спакойныя і разважныя акуні. Змеяватыя шчупакі прыкідліва драмалі над навіслымі над вадою кустамі альбо ў рэдкіх вадаростах. Шэрапузыя мянькі круціліся там, дзе дно было закідана карчамі і калодкамі. У цёмных нетрах і норах гэтай завалі было ім добрае сховішча ад шчупакоў і самоў. Сюды-ж вада наносіла і пакідала ў застрэмінах усялякую рачную падлу: жаб, ракушак і верацёльніц. Усё гэта было ласай спажывай для мянькоў.

Багата рыбы ў Свіслачы! Трапляюцца часта тут трохпудовыя самы, больш як на поўпуда шчупакі. Тысячнымі стадамі ходзяць ляшчы.

— Ну як, бярэцца рыба?—запытаўся ў Віктара Дарафей яшчэ здалёку. На ім цяпер была звычайная сялянская жакетка, чорныя зрэбныя штаны і лапці на нагах. У руках ён нёс вядзёрка з рагулькамі.

— Бярэцца, але не вельмі,—адказаў Віктар.—Цы хіба не чуў, што ў часе вайны патруцілася шмат рыбы?

— Не. Хто яе патруціў?

Віктар расказаў Дарафею, што пасля таго, калі ў Менску, асцерагаючыся разгулу мабілізаваных, выбахалі ў Свіслач некалькі дзесяткаў цыстэрн спірту, страшна стала глядзець на раку. Дзень

і ноч ішлі суцэльнай лавінай паверх вады адурманеныя плоткі і акуні. Як чорныя плашкі ў гэтым патоку срабрыстай лускі пагойдваліся цяжкія самы. Тыя, якіх яшчэ не разабраў смяротны сон, заварачвалі са Свіслачы ў яе прытокі, у сустрэчныя канавы і вада ў іх бурлі' а жыўнасцю ад нізу да верху.

Адурманеную рыбу верасянцы чарпалі сеткамі, кашалямі, нават на мелкіх мейсцах падграбалі і выкідалі на бераг рукамі. Некаторыя нацягалі яе па цэламу возу, каб пасля адвезці ў мястэчка, альбо на станцыю, ці надарыць сваякоў і знаёмых з далёкіх ад ракі вёсак і хутароў.

Пасля гэтага яшчэ доўга гойдаліся, сплываючы ўніз па рэчцы, разбухлыя трупы рыб. Нястрымна востры смурод лятаў па ўзбярэжжы.

З таго часу прайшло пяць год. Рыба зноў распладзілася, папоўнілася запасамі з Беразіны. Праўда, пасля дэмабілізацыі многія франтавікі, якія прыцягнулі да хаты такія-сякія ваенныя прылады, пачалі лавіць рыбу больш навейшым спосабам. Ад ракі часта далятаў да вёскі кароткія выбухі гранат. Аглушаная ў глыбокіх нетрах рыба вымывалася на паверхню ракі, яе падхватвалі невялічкімі сеткамі. Але гранат хапіла не надоўга, а тыя, якія яшчэ не паспелі ўзарваць, Токараў пазбіраў для Чырвонай арміі. Апрача таго, ён правёў праз Рэўком пастанову: глушэнне рыбы сурова забаранялася, як драпежніцкі спосаб...

— Хто ён такі, гэты Токараў?—раптам ажыўлена запытаўся Булынка ў Віктара.—Ты яго часта бачыў?

— А што такое?—у сваю чаргу запытаўся Віктар у Булынкі.

— Нічога... Так сабе...—ухіліўся ад прамога адказу Булынка. Ён, відаць, нешта вельмі важнае ўведаў, але з тае прычыны, што Віктар быў за яго на многа маладзейшы, вырашыў нічога яму не гаварыць. Віктар быў пасаромлены і пакрыўджаны такою скрытнасцю новага сябра. Буйневіч быў з ім шчырым, ён заўсёды гаварыў Віктару пра тыя ці іншыя сакрэты і ніколі не пачынаў таго, што нельга было дакончыць.

Далей яны ўжо моўчкі, думаючы кожны сваё, даставалі лапатай сівую рачную гразь, у якой маленькімі змейкамі круціліся шэрыя верацёльніцы. Потым, кінуўшы лапату на мейсцы, яны рушылі ў процілеглыя бакі, выбіраючы найбольш выгодныя для настаўкі шнуроў мясціны.

Свіслач, больш шырокая і глыбокая, чым у Менску, цячэ каля Верасніцы, па рэчышчы, у выглядзе вялікай літары «п». Ніжнімі канцамі гэта літара даходзіць амаль да самых верасніцкіх гародаў, а верхняя папярочна аддалена ад вёскі бадай на вярсту. Тут рака, якая перад гэтым пакручвалася то ў адзін, то ў другі бок, раптам выпростваецца і цячэ па роўным, як струна, рэчышчы. Супроцьлеглы высокі бераг глядзіцца ў люстраную бездань цёмнай калматай кронай хвоек, светлазялёным лёгкім убёрам бяроз. Плывуць у бясконца сіняй глыбіні белыя, як снег, маленькія воблачкі.

І раптам ляцяць настарчма, ломяцца надвое, на безліч кавалкаў меднастволыя сосны, пачынаюць кідацца з боку ў бок зіхатлівыя воблачкі. Замест спакойнага сіняга неба імкліва разбягаюцца па

вадзе шырачэзныя кругі, б'е з глыбіні паток шумных бурбалак. Сотні жывой срабрыстай мелюзгі ашалела выскакваюць з вады, і доўга яшчэ лятае ў бары гулкае, нібы ад выбуху снарада, рэха ўсплёску вялікага шчупака. Доўга баіцца падплываць на патрывожанае ненасытным драпежнікам месца ціхманая рыба...

Паміж гэтай вадзяной стралой і вёскай—роўная, як стол, мурожная сенажаць. Сям-там узнімаюцца над ёй шматвяковыя дубы. Кара кожнага з іх разбіта і размачалена з заходняга боку. Таўшчэразныя наплывы тырчаць на магутным ствале, як агідныя скулы. Віктар толькі ў часе паводкі ўбачыў чаму на дрэвах і чаму з аднаго толькі боку такія жахлівыя раны. Аказваецца, у часе вясновых разліваў Свіслачы крыгі штогод б'юць у адно і тое-ж мейсца дубоў. Але вытрымалі гэтыя шматпакутныя дрэвы бясконцыя і злыя ўдары. У іх магутнай кроне весела шчабечуць неўгамаваныя сойкі, гулка бурболяць дзікія галубы.

У некаторых мейсцах, асабліва па нізінах, луг зарос густым лазняком, маладым альхоўнікам, у засені якога прытаіліся маліны і парэчкі. На вышэйшых грудах густа сплёўся арэшнік. Трапляюцца невялічкія азёрцы, абкружаныя густымі чаратамі.

Віктар павольна ішоў берагам ракі і час-ад-часу спыняўся, каб разматаць і закінуць у ваду шнур. Раптам ён пачуў, што ў недалёкім арэшніку нешта затрашчала. Потым да яго слыху дайшлося фырканне каня.

Віктар азірнуўся. Зноў пачуўся ў кустах трэск, падобны да таго, як трашчаць калёсы з цяжка перагружаным возам. Потым загойдаліся вершаліны высокіх арэшын. Нейкая жывёла альбо чалавек, варушыліся ў кустах.

— Хто там?—гукнуў Віктар ад берагу.

Ніхто не абазваўся.

Віктар закінуў шнур у раку і шпарка пайшоў да зарасніку. Неўзабаве сэрца яго забілася трывожна і хлуха. У галаве зашавяліліся нядобрыя прадчуванні.

Ушчаміўшыся восямі драбінак, у кустах стаяў з панурай галавою белы Андрыян. Ён толькі ледзь шавяльнуў вушамі, калі да яго прабіўся Віктар. Нідзе не было відаць ніводнага кола. Усе яны пасяяліся недзе па дарозе да гэтага адасобленага прыстанішча. Не было відаць на дузе ружовага банціка, пра які расказвалі Віктару вераснянцы. Адзін канец лейчыны адарваўся ад аброці і, пакручваючыся як змяя, знікаў у кустах. Морда каня была ў двух мейсцах разадрана і раны запякліся крывёю.

— Змітрок!—нейкім чужым голасам закрычаў Віктар.— Змітрок...

Ён як апантаны пачаў прадзірацца па арэшніку. У адзін, у другі бок. Ён выскакваў на край і абягаў зараснік наўкруга, крычаў, зваў сябра, але не пачуў ніякага голасу на свой усхваляваны заклік.

Буйневіча нідзе не было.

Віктар тады пачаў крычаць і махаць рукамі Булынку. Ужо ўдвох яны яшчэ раз аблазілі кусты. Усё было дарэмна. Тады, адпрогшы каня, яны пацягнулі яго ў сяло. І усе сустрэчныя

вераснянцы дзівіліся і распытвалі ў іх, што такое зрабілася і дзе падзеўся Змітрок Буйневіч?

Ніхто не мог адказаць, што сталася з Буйневічам. Падводы, якіх захапілі тады белапалякі, яшчэ не вярнуліся ў Верасніцу. Нават невядома, у які бок яны паехалі са станцыі. Прыпомнілі толькі, што тоўсты афіцэр паабяцаў Буйневічу жорсткую расправу, калі яго дзівацкі воз не даедзе, куды пан афіцэр загадае. А прыпомніўшы панскую пагрозу вырашылі, што так напэўна яно і было. Тым больш, што нехта (цяпер гэта цяжка было ўстанавіць, хто) чуў стрэл на грэблі. Тады многія вераснянцы адхлынулі ад аглушаных роспаччу бацькі і сястры Змітрака і пабеглі на грэблю. Кавалкі абадоў, паасобныя спіцы, калодкі хутка былі знойдзены, праўда, у баку ад грэблі. Але Змітрака не было нідзе. Людзі аблазілі ўсе зараснікі і кусты, углядаліся ў цёмную ваду азёр і ракі, падазрона агледзелі кожную гурбачку свежай зямлі. Але пярвейшы вясковы музыкант і жартаўнік загінуў без следу.

У Віктара бясконца распытвалі, як ён знайшоў Андрыяна, некаторыя хадзілі аглядаць разбітыя старыя драбінкі. Бацька Змітрака, апанаваны горам, забыўся нават прыцягнуць іх дахаты, каб выкарыстаць хоць на дровы. Усе былі ўзрушаны такой падзеяй без меры, усе выказвалі спачуванне, праклінілі бясконца гэту захопніцкую зграю, якая наляцела з захаду. Таму Віктар вельмі здзівіўся, калі яго бацька, пачуўшы пра жахлівую навіну, спакойна адказаў:

— Нарабілі гвалту, як па нябошчыку!

Віктар шпарка запытаўся:

— А хіба ён жывы? Вы ведаеце, дзе ён?

Бацька нездаволена ссунуў калматыя бровы.

— Жывы? Адкуль-жа я ведаю... Я гэтулькі ведаю, колькі і ты. Ты, вось лепш павячэрай, ды паедзеш у дарогу.

— Куды?

— У Менск. Павязеш аднаго хворага чалавека.

— Каго?

— Убачыш пасля. Толькі, брат, глядзі: задрыжыць губа, калі што якое,—загінеш і ты, загіне і ён.

## XIV

Тры дні цягнулася гэта незвычайнае падарожжа. Ехалі ў большасці ноччу, а на дзень заварачвалі ў бліжэйшыя лясы і там чакалі, пакуль не сцямнеецца. У некаторых вёсках цяжка хворы чалавек саскакваў з воза і знікаў у чарнаце начы. У мястэчку Дукора ён недзе згінуў гадзіны на тры і з'явіўся толькі тады, калі край неба на ўсходзе пачаў чырванець новым днём.

На возе ў Віктара ляжала падушка, коўдры, якімі ўкрываўся цяжка-хворы, згледзеўшы ў далячыні сілуэты конных жаўнераў, або іншых падазроных людзей. Каля Смілавіч фурманка нарвалася на атрад палявой жандармерыі. Скуласты, жаўтушны сержант схапіў Віктаравага каня за аброць:

— Хто тут у цябе на возе? Скідай к чортавай матары! Заварачвай за намі. Ну?

Віктар моўчкі палез у кішэню і дастаў акуратна складзеную паперку.

— Наце, пачытайце, пане афіцэр.

Сержант, напэўна думаючы, што гэта папера можа быць ад вельмі важнага польскага чына, ступіў да хлапца і працягнуў руку.

— Пропуск?

— Не. Даведка ад доктара. На хворага фальваркоўца Майсея Жаркевіча.

— А што ў яго?

— Нічога страшнага... Тыф. Сыпнячок...

Сержант рвануў руку назад, нібы яе апякло распаленым жалезам. А цяжка хворы блузніў у гэты час, стараўся скінуць з сябе суконную коўдру...

Але знікалі з позірку жандармы, альбо другія падазроныя людзі,—і ўсё на возе зноў рэзка мянялася. Хворы адкідаў у бок падушку і ўставаў. Віктар садзіўся з ім побач. Зноў прадаўжалася перапыненая чужым гвалтоўным наскокам гутарка.

— Бачылі, таварыш Токараў, як спалохаўся гэты жаўтляк!— смяяўся Віктар.—Хітра вы прыдумалі з даведкай.

Сівыя вусы Антона Токарава жорстка таргануліся.

— Я, сынок, хацеў-бы ездзіць па нашай зямлі без гэтых фальшывых паспартоў, без усякага крыўляння. Балюча, сынок, кланяцца кожнай сустрэчнай падле. Я мог бы перастраляць гэтых жаўнераў, як перапёлак, каб толькі не памятаў кожную хвіліну, што я яшчэ павінен страляць у самае большае.

Віктар ведаў, што Токараў, кідаючыся ў падманнай гарачцы на возе, сціскаў правай рукою схаваны пад падсцілкаю маўзер.

Некалькі дзён прабыў Токараў у Менску, але ніхто з суседзяў дома, дзе жыла яго сям'я, не заўважыў звароту старшыні рэўкома. Выходзіў ён з кватэры толькі тады, калі на горад апускаўся чорны змрок начы. Пабрыты, з фарсіста-падкручанымі вусамі, у добра адпрасаваным чорным касцюме, у капялку, ён больш быў падобны цяпер на аканома, які разбагацеў, абманьваючы не толькі мужыкоў, але і самога пана. Пры сустрэчах з ганарыстымі афіцэрамі і важнымі панамі, ён стараўся надаць сваёй фізіяноміі найбольш узрушаны выгляд. Незнаёмаму цяжка было пазнаць у ім, асабліва ў гэтым няпэўным святле ад вакон (вулічныя ліхтары ўсе былі паразбіваны кулямі), суровага падпольшчыка, аднаго з неўгамаваных арганізатараў народа супроць панскага прыгнёту.

Вядома, Токараў стараўся унікаць найбольш асветленых вучасткаў вуліцы. Магло здарыцца, што трапіць па дарозе такі знаёмы, які крыкне на ўсю вуліцу: «А, Токараў, здароў, браток!» Антон не быў упэўнены, што імя яго невядома дыфензіве, што за ім не пачалі сачыць...

Толькі на трэці дзень ён натрапіў на след двух таварышоў з менскай падпольнай арганізацыі партыі. Дапамог гэтаму Дзямід, з якім Токараў чатыры гады працаваў у менскім дэпо. Дамовіліся спаткацца на кватэры Дзяміда, за лініяй Маскоўска-Брэстскай чыгункі.

Антон Токараў вышаў з дому і накіраваўся па Міхайлаўскай

вуліцы ў бок вакзала. На вуліцы быў змрок. Там-сям чуліся толькі таропкія крокі рэдкіх прахожых. Токараў таксама паскорыў хаду, каб сваёй павольнасцю і разважнасцю не выклікаць падазрэнняў жандараў, якія, нібы злыя цені, стаялі там-сам пад густалістымі каштанамі.

Прайшоўшы прывакзальную плошчу, на якой у 1905 годзе адбылася такая жахлівая трагедыя, Токараў падняўся на высокі пераходны мост.

З захаду толькі што прыбыў пасажырскі цягнік. Токараў прыпыніўся на момант і абапёрся аб парэнчы. На асветлены электрычнасцю перон пачалі выходзіць з вагонаў пасажыры: расфранчаныя маладыя мужчыны, паненкі з тонкімі таліямі, тоўстыя прысадзістыя пані. Між фетравых капялюшоў і шэрых касматых кепак замільгалі чатырохкутнія шапкі пазнанскіх афіцэраў. Над пяронам узняўся гам і тлум, якія бываюць заўсёды пасля прыбыцця пасажырскага цягніка. Чуліся ўзрадаваныя воклічы, гучнае цмоканне губамі. Многа на пероне было такіх, якія прышлі сустракаць гэтае вяльможнае панства. Токараў толькі цяпер зразумеў, што шмат уцякло ад рэволюцыі паноў і падпанкаў, але многа іх засталося ў Менску. Старыя лакеі і аканомы, проста вартаўнікі панскага дабра, дробныя, але не менш сквапныя кампаньёны фабрыкантаў, пераапранутыя ў грамадзянскую вопратку ксяндзы,—усе яны нарэшце дачакаліся сваіх гаспадароў. Прыкрыўшыся адзежынай рабочых, падношанымі шынелькамі, альбо лапленым сялянскім кажушком, гэтыя лакеі засталіся на савецкай зямлі сцерагчы прыхаваную панскую рухлядзь. Цяпер яны скінулі свае маскарадныя касцюмы, апранулі ранейшыя прыслужніцкія транты і з'явіліся сустракаць сваіх гаспадароў. Яны нахаду лавілі і цалавалі панскія рукі, паслужліва хватаючы чамаданы і несесеры.

— Усё падрыхтавана ў доме! Мы чакалі паноў яшчэ раней!— крычаў рыжавусы, вяртлявы, як уюн, чалавек, двум высокім паням, якія паважна вылезлі з вагона, насупроць багажнага аддзялення. Рабская пакорлівасць свяцілася ў вачах гэтага лакея. Рукі трапяталіся ад найвялікшай гатоўнасці да паслуг.

Гэта сцэна выклікала ў Токарава агіду. Ён нахмурыў бровы і плюнуў.

Далей яго ўвагу прыцягнулі шматлікія составы таварных вагонаў. Імі былі забіты амаль усе пуці. Па тым, як многа хадзіла тут вартавых, ён здагадаўся, што гэта былі вагоны са зброяй. На адкрытых платформах тырчэлі з пад брэзента шырокія рылы гаўбіц. У нетрах гэтага вагоннага парку, па правы бок маста, Токараў угадаў замаскіраваныя парусінай фюзеляжы пяці самалётаў...

... Невялічкі адасоблены домік за пуцямі Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Такіх домікаў тут многа. Некаторыя з іх зроблены са шпалаў. Жывуць тут кандуктары, машыністы, слесары дэпо, насільшчыкі, перастарэлыя чыгуначнікі, якія дзесяткамі год капілі, не даядаючы, грошы на зацішны прытулак.

Токарава спаткаў прарэзлівы сабачы брэх. Следам за гэтым, як і ў вёсцы, азваліся па суседніх дварах другія сабакі. Грукат Токарава ў вакно быў заглушан гэтым гучным рознагалосым

канцэртам. У доміку было цёмна. Здавалася, ніхто не жыве за гэтымі маўклівымі вокнамі. Токараў пастукаў яшчэ раз. Толькі праз хвіліну ён улавіў насцярожаным слыхам, што нехта, грукаючы ў поцемку мэбляй, падышоў да акна і запытаўся грубым басам:

— Якога чорта каму трэба?

Токараў, пазнаўшы голас Дзяміда, шэсць разоў, праз роўныя інтэрвалы, стукнуў пальцам у шыбіну і падышоў да дзвярэй. Дзямід яшчэ з хвіліну бразгаў недзе ў доме то ўнутранымі замкамі, то шматлікімі засаўкамі.

Яны ўвайшлі ў вузкі і доўгі пакойчык, падвойныя вокны якога былі зачынены знадворку акяніцамі. Токараў зняў капялюш і сеў спіною да акна. Дзямід, агромністы, з шырокімі акругленымі плячамі і здаравеннымі ручышчамі, стаяў насупроць лямпы, пасярэдзіне пакою. Ён, здавалася, баяўся сесці на гэтую кволую мэблю—драўляную высокую канапу з тонкімі гнутымі ножкамі і такой-жа спінкай, альбо на адно з чатырох венскіх крэслаў, якія стаялі каля другой сцяны—каб не раздушыць яе сваім сакрушальным цяжарам.

Дзямід, якому было год дваццаць шэсць, працаваў цяпер на вагона-рамонтным заводзе кавалём.

— Калі прыдуць Рафаіл і Гайдукевіч?—запытаўся Токараў у Дзяміда.

— У вызначаны час, таварыш Антон.

— Добра. Давай падрыхтуемся на выпадак панскага налёту. Нібы ў нас не палітычны згавор, а простая вечарынка.

Пакуль яны адсунулі на сярэдзіну пакоя столік, пакуль ставілі бутэлькі з-пад гарэлкі і падрыхтоўвалі такую-сякую закуску, з'явіліся Гайдукевіч і Рафаіл.

Гайдукевіч, доўгі ў вузкім драпавым паліце, панура ўсунуўся ў пакой і моўчкі прывітаўся з Токаравым. На твары ў яго не было ні здзіўлення, што ўбачыў Токарава такім часам у горадзе, ні радасці. Здавалася, што да яго свядомасці яшчэ не дайшла важнасць моманту.

Гайдукевіч працаваў тэлеграфістам на чыгуначным тэлеграфе. Нягледзячы на знешнюю панурасць, гэта быў адзін з самых чулых людзей. У яго была толькі адна загана: ён не мог звязна і лагічна выказаць свае думкі. Добра распрацаваны ў галаве план прамовы з усімі коскамі і клічнікамі, ніяк не атрымліваўся, калі Гайдукевіч пачынаў гаварыць. Усё цыцэронаўскае ляцела тады дагары нагамі і замест цэлых сказаў, слухачы чулі толькі іх абрыўкі, паасобныя склады, упрыгожаныя такімі паузамі, ад якіх прыходзіла ў галаву думка, ці не задрамаў часамі прамоўца на трыбуне. У дадатак ён крыху заікаўся. Таму партыйны камітэт вызваляў яго заўсёды ад агітацыйнай работы. Затое ўсялякую іншую працу Гайдукевіч рабіў за дваіх.

Рафаіл, наадварот, уляцеў у пакой, як бомба, рассыпаючы вакол сябе выбухі смеху, кароткія ўсклікі:

— Што-а? Антон прыскочыў? Ну, ну! Дайце мне на яго паглядзець! Іш, ты! Без бародкі! Кавалер кавалерам.

Рафаіл ледзь не перакуліў лямпу, але падхапіў яе ў момант, апякаючы распаленым шклом пальцы:

— Карэту мне, карэту!..

Маленькі ўвесь, з вялізнай кучаравай капою валасоў, ён быў імклівы і неспакойны. Токараў пазнаёміўся з ім яшчэ на другой канферэнцыі бальшэвіцкіх арганізацый паўночна-заходняй вобласці і заходняга фронта, за дзесяць дзён да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Тады Рафаіл выступаў пасля Міхаіла Васільевіча Фрунзе. І ўвесь зал быў здзіўлен, якая вялізная ярасць і страсць хаваліся ў гэтай досыць шчуплай постаці. «Сапёрная рота, у якой я знаходжуся, падрыхтавана і гатова выступіць супроць буржуазіі ў любую хвіліну. Мір хіжынам, вайна палацам»—закончыў ён тады сваю прамову.

— Ну, расказвай, што там на фронце,—запытаўся, нарэшце, Рафаіл у Токарава.—Сядзім мы тут нібы ў памыйнай яме, куды паны ліюць усякі бруд. Газеты брэшуць направа і налева, асабліва гэты паршывы наццэмаўскі лісток. Ты разумееш, да чаго дакаціліся так званыя нацыянальныя дзеячы. Проста жах! Усенародна ліжуць панскі зад і тут-жа сцвярджаюць, што гэта мёд! Як табе падабаюцца такія рэвалюцыянеры?

— З іх рэвалюцыянеры, як з дзярма куля,—буркнуў Дзямід, кідаючы на стол відэльцы і нажы.—У васемнаццатым годзе яны кланяліся нямецкаму кайзеру, а пазней, калі немцы не захацелі пакдзяліць з імі награбленае, гэтыя паны-дэмакраты пачалі дамаўляцца з французамі і амерыканцамі. Цяпер яны знайшлі новых апякуноў. Як кажуць, хоць з чортам, толькі-б не з савецкай Расіяй, не з камуністамі. Што гэтым панам міністрам да таго, што белапалякі расстралялі ў першы-ж дзень прыхода больш сотні менскіх жыхароў! Што да таго, што паны звольнілі з работы восем тысяч чалавек!

— Даведцы... ксяндза прымаюць зноў на работу,—заікаючыся загаварыў нарэшце Гайдукевіч,—Хабар майстру... Дзвесце рублёў.

— Турма ўся запоўнена, як яны называюць, падазронымі людзьмі. Дыфензіва працуе дзень і ноч. Ці ведаюць пра такія факты таварышы з-за Беразіны?—запытаўся Рафаіл у Токарава.

— Ведаюць,—адказаў Токараў.—Ты вот скажы мне: ёсць у цябе знаёмыя друкары?

Рафаіл усміхнуўся.

— Ён пытаецца! У мяне знаёмых амаль поўгорада.

— Гэта добра. Шрыфты, амерыканку дапамогуць дастаць твае знаёмыя? Вось у такі іменна час?

— Божа мой! Хоць цэлую ратацыйную машыну!—усклікнуў Рафаіл.—Калі гэта патрэбна?

— Праз два дні ўсё павінна быць у Каралішчавічах. Там чакае адна фурманка з Верасніцы. Дагаварыся з таварышамі і адносна паперы.

— Ха, папера... Які ты весельчак! Друкарская машына без паперы, гэта тое самае, што кулямёт без патронаў.

Рафаіл схапіў графін і стаў наліваць у шлянку ваду.

Токараў павёў гутарку ціха, але імкліва. Ад пачатку і да канца голас яго не павысіўся ні на адну ёту, але напружанне прысутных узрастала з кожным яго словам усё больш і больш. Ажывіўся нават

пануры тэлеграфіст. У яго чорных глыбокіх вачах затрапяталіся іскры.

— З нашай групы ў горадзе пакуль што застаецца толькі Гайдукевіч. Для сувязі. Мы з Дзямідам павінны спяшаць у раён Верасніцы. Там ужо зроблена тое-сёе. Цяпер дорага кожная хвіліна...

Токараў расказаў Рафаілу, дзе і калі ён можа знайсці верасніцкую фурманку.

— Прозвішча хлапца—Жаркевіч. Гэта сын аднаго нашага партызана.

— Дзе мы сустрэнемся?—запытаўся Дзямід у Токарава.

— Каля Трох карчмаў,—сказаў Токараў устаючы.—А восьмай гадзіне вечара. Вазьмі з сабою ў мяшок паяльнік, напілкі. Зрабі выгляд, нібы ты беспрацоўны, які ідзе ў вёску на заработкі. Усё.

Калі Токараў вышаў на двор, на ўсходзе ўжо займалася зара. Пастаяўшы каля форткі і прыслухаўшыся да таго, што робіцца на вуліцы, ён накіраваўся да пераезду. Трохі пачакаўшы, вышлі пасобку з Дзямідавай хаты Рафаіл і Гайдукевіч.

*(Працяг у чарговым нумары)*

*Барыс Зубец*

# МАКОШЫНСКІЯ ЛЮБІЦЕЛІ

*(Апавяданне)*

I

Раніцай Майсей (наш слаўны «антрепрэнер» дзедзька Майсей) прыбег да нас радасна ўсхваляваны:

— Дастаў. Фу-у!.. Добры дзень!

— Што дастаў?—спытаўся я спакойна, прывычны да такіх афектаў Майсея. Маці гасцінна паднесла яму шклянку чаю з малаком:

— Выпі, Майсей, і расказвай,—дадаў я.

— П'есу, мільён чарцей, п'есу дастаў, ды якую,—зноў заляментаваў ён.

Сястра Лена спыталася:

— Чэрці... на сцэне?

— Якія чэрці?—здзівіўся Майсей.—Ах, ага. Гэта я так. Гэта мая прымаўка, хе-хе-хе... Якая п'еса!—іржаў Майсей ад захаплення.—Перл, перл...—Размахнуўшы рукамі, ён абярнуў шклянку на настольнік і збянтэжана ўсхапіўся.

— Ах, ты! Сто чарцей! Гм... Непрыемнасць,—і тут-жа змёў рукавом возера чаю на падлогу, сканфузіўся яшчэ болей і, махнуўшы рукой, кінуўся да дзвярэй і ўжо на парозе пракрычаў:

— Прыходзь у сем гадзін у тэатр, зачытаем.—Узмахнуў старэнькай кепкай і знік.

Мы моўчкі зірнулі на лужу, потым адзін на другога і... разрагаталіся.

Ленка ўльтыматыўна заявіла:

— Я таксама іду на чытку.

— Але Міцькі там не будзе,—пацвяліўся я.

— Дурань!—паследвала маланкавая адповедзь.

— Міцька—дурань?

— Ты, Валодзька, дурань, ды бадай і Міцька. Вельмі ён мне патрэбен, я з Таняй пайду.

— Валі,—махнуў я рукою і ўстаў з-за стала.

---

Я, студэнт-механік 4-га курса, і мая сястра Лена, студэнтка-медычка, гасцявалі ў мацеры ў тое прыгожае лета 1936 года. Маючы за плячыма цэлых 25 год, я ў родным сяле адчуваў сябе юнаком. Сястра Лена, якой ужо тры гады ішоў усё дзевятнаццаты год, была стварэннем ваяўнічым і самалюбным, хлапцам падабалася, і, як многія ў яе гады, выстойвала з імі ля каліткі да світання.

Я вывеў з калідора свой новенькі веласіпед, на пакупку якога былі ўкладзены мае некаторыя зберажэнні і фотаапарат, і ўзяўся старанна абціраць яго ад пылу.

Калі ўсе часткі заблішчэлі, накачаў паветра ў шыны і ўскочыў у сядло.

З двара на вуліцу трэба было праехаць праз калітку, не злазячы з машыны. Асваенне гэтага трукавага нумару некалькі дзён таму назад вывела са строю мае беласнежныя штаны, але цяпер я рабіў гэта ўсё параўнальна лёгка.

Прарулюваўшы ўдала праз калітку, я выкаціў на вуліцу і націснуў на педалі.

Павольнай язды я не прызнаваў, я любіў хуткасць і стараўся выціснуць з маёй машыны максімум магчымага.

Хутка міналіся хаты, парканы, сланечнікі. З перапуду кідаліся ў падваротні куры. Асляпляюча зіхацеў на сонцы руль, скрыпела сядло. А я, сціснуўшы зубы, што ставала сілы, націскаў на педалі. Часам па дарозе мне траляліся аднасяльчане, тады я яшчэ здалёк тузаў за шнурок, і людзі ад майго малінавага звону спалохана туліліся да парканаў, а я імчаўся паўз іх з хуткасцю пяцітоннага грузавіка. Наўздагон мне ляцелі словы:

— От, вар'ят! Бадай табе цур...

А мне здавалася, што я імчуся на чацвертай аўтамабільнай хуткасці.

Зусім нечакана з-за вугла вышла дзяўчына... Крокаў за дзесяць я рашуча затармазіў. Пад калёсамі свіснула, задняе адкінулася ў бок і я амаль скаціўся з машыны.

Зусім мокры, давячыся паветрам, я ледзь выдыхнуў:

— Добры дзень, Таня!

— Добры дзянёк, Валодзя,—адказала дзяўчына.

Я вялікімі порцыямі глытаў паветра, папраўляў каўнер сарочкі не мог сказаць болей нічога і толькі ўсміхаўся.

Вялікія таніны вочы блішчэлі смехам, на ружовых шчоках намячаліся і знікалі ямачкі, нарэшце яна рассмяялася, і ямачкі выразна заскакалі на шчоках, пушыстыя расніцы яе здрыгвалі, што я залюбаваўся.

— Ды вы зусім мокры.

— Сёння душна, Таня.

— Ну, дык ляжалі-б, Вовачка, у садзе пад дрэвам, а то ганяеце ў такую спякоту па сяле.

— Купацца еду.

— А я вось толькі выкупалася.

— Ну, і як?

— Цяпер добра, плавала цераз Дзясну.

— На той бок?—спалохаўся я.

— Я даўно збіралася і сёння адважылася. Пасярэдзіне рэкі страшнавата стала, абодва берагі далёка, ну, а назад нічога...

— Ой, Таня, асцярожней!

— Ну, чаго там, дзеці пераплываюць... Я цяпер іду ў лес, у лагер, прыходзьце ўвечары на валейбол.

Тут я ўспомніў візіт Майсея і абвясціў:

— Сёння чытка новай п'есы, Майсей дастаў.

— Якая п'еса?

— Ён не сказаў, але п'еса цікавая.

— А адкуль-жа вы ведаеце?

— Я так думаю.—Мы абое расмяяліся.

Таня ўзялася рукой за бліскучы руль, і я сябе адчуў так, быццам яна дакранулася маёй рукі. Правяла пальцамі па рулю, тузанула жартліва шнурок ад званка і спыталася:

— Павучыце можа?

— О, вядома,—у захапленні сказаў я.

— Ну, а цяпер я пайду...

Дзяўчына была ў вылінялай ад сонца шэрай касынцы, у простым сарафанчыку ў кветках, бронзавы загар зіхацеў на яе руках, босай нагой яна, размаўляючы са мною, неўпрыкметку рысавала на пяску кружочак.

Дзяўчына была прыгожай, усё ў ёй гаварыла аб здароўі, веяла ад яе свежасцю, лесам, ракою, палявымі кветкамі. Ведаў я, ішоў ёй дваццаты год.

Таня была важатым у піонерскіх лагерах.

— Усяго харошага!—усміхнулася, паправіла касынку і пайшла... На павароце азірнулася, махнула рукой і знікла за вербамі.

Я глядзеў услед, потым закурыў, задумённа крануў пальцам тое месца, дзе яна трымалася за руль... і, ускочыўшы на машыну, паімчаўся да ракі.

---

На плыту сядзеў у форменнай фуражцы доўгавязы Жорж Замукевіч і з філасофскай цярплівасцю вудзіў.

Паскакаўшы знарок па бярвеннях, я падышоў да яго.

— Цішэй ты, рыбу спалохаеш.—Жорж ляніва павярнуўся і падаў мне руку.

— А цябе, Жорж, здалёк відаць, маячыш здорава.

— Гм-м...

— Шмат налавіў?

Доўгая рука ткнулася ў іржавае вядзерца, там паміралі два малюсенькіх акунькі.

— А даўно сядзіш?—заклапочана пацікавіўся я.

— Гадзіны тры... я думаю.

— Ты іх выпусці, Жорж, рыбінак гэтых.

— Не, кату будуць,—сур'ёзна сказаў Жорж.

Потым ён паднёс мне проста пад нос тоўстага чарвяка.

— Плюнь на яго, на шчасце.

— Калі ласка.—Я плюнуў.

Ашчасліўлены чарвяк плюхнуўся ў ваду.

Жорж—мой таварыш па школе. Страсны рыбалоў. Цяпер ён жанаты, мае дваіх дзяцей і працуе на чыгунцы касірам. Жорж яшчэ захапляўся ігрой на балалайцы і ў гэтай справе дасягнуў дасканаласці, ён са здзіўляючай лёгкасцю разыгрываў на гэтым інструменце даволі складаныя творы. Мы з ім часта сыгрываліся, я яму акампаніраваў на гітары.

— Майсейка п'есу новую дастаў.
— Новую п'есу?—Жорж паклаў вудачку.
— Якую?
— Увечары чытка.
— А што, калі зноў ролі не будзе,—спалохаўся ён.
— Не ведаю, табе цяжка пад рост роль падабраць. Ну чорт з ёю, з п'есай, давай купацца.

Жорж сабраў свае снасці, некаторы час глядзеў у вядзерца, пасля махнуў рукой, выкінуў акунёў у родную для іх стыхію, і мы паскакалі па бярвеннях да берага.

II

Макошына на Дзясне. Крутыя абрывы, зарослыя лазой да самай вады, а на берагах густыя вербы і таполі, за імі не відаць дамоў. На левым-жа беразе паплавы, прасторныя, душыстыя, калгасныя паплавы, а на іх вазёры з цёмнай, ціхай вадою.

Улетку паплавы звіняць ад трэску конікаў, птушыных спеваў і вострых бліскучых кос. Уначы, лежачы на свежанакошанай траве, прыемна глядзець на зоры, прыемна адпачываць ад касьбы.

Прыемна і ў Макошынскім лесе. Ціха. Галлё соснаў сплятае над галавой зялёны шацёр. Як ціха там! Толькі пад нагамі хрусне хвоя ды зрэдку адзавецца рытмічны стук дзятла. Праляціць вецярок, і тады ў верхавінах пачуецца ціхі шум, задумлівы і спакойны. Ля лесу і вакол сяла—палі, жыта, рады сланечніку, а ўгары, ну, вядома жаўранкі.

Па галоўнай вуліцы сяла праходзіць чыгунка, а над ракой узвышаецца прыгожы і вялікі чыгуначны мост.

Праходзячыя пасажырскія паязды дзеляць макошынскія суткі на канкрэтныя часткі.

Ноч канчаецца з шасцігадзінным днепрапятроўскім поездам, да дзевяцігадзіннага харкаўскага цягнецца раніца, а час да двухгадзіннага паштовага называецца поўднем, а потым да семігадзіннага скорага мінае ўласна і дзень. Гэты скоры поезд карыстаецца асаблівай сімпатыяй макошынцаў і дачнікаў. Да яго прыходу сходзяцца на вакзал усе дачнікі і моладзь з сяла. Тут можна сустрэцца, пагаварыць, атрымаць газеты і пісьмы і сабраць кампанію для лодкі на вечар. Моладзі ў сяле шмат, ды значная частка яе прыязджае дадому на канікулы з навучальных устаноў.

Пасля адыходу скорага наступае вячэрні час, калі спадае спякота і людзі пасля рабочага дню выходзяць пасядзець на вуліцу. У гэты час вяртаюцца з пашы статкі і па вуліцы залаціцца ў заходніх промнях густы пыл.

Пасля праходу пасажырскага поезда, у 12 гадзін, пачынаецца ноч. У гэты час агні ў хатах патушаны ўжо, а ў розных канцах сяла моладзь яшчэ спявае украінскія песні.

Чароўна гэтая пара, калі вакол стаяць высокія ціхія дрэвы, з ракі далятае кваканне жаб, а скрозь празрыстыя воблакі велічна плыве месяц. Дарога ўдоўж вуліцы светлая і пустынная, а пад дрэвамі ляжаць цені. Выбеленыя хаты светлыя і толькі дзе-ні-дзе

блісне сіняваты дах... Часамі на плошчы вартаўнік ударае ў рэйку, і гэты, павольна таючы ў паветры гук, здаецца музыкальным.

— Дзе-небузь ля каліткі раздаецца ціхі дзявочы смех, чуецца неразборчывае цурчанне гутаркі, а потым грукне гэтая калітка і заблішчыць, аддаляючыся, агеньчык папяросы.

Прыемныя і душыстыя ночы ў Макошыне.

У тры гадзіны ночы ў цішыні заснуўшага сяла раздаецца грукат і па чыгунцы пралятае, ззяючы агнямі, поезд, якога называюць «поездам закаханых», бо пасля яго нават самыя пяшчотныя пары растаюцца. Сяло спіць, на ўсходзе пачынае святлець неба, на траве паяўляецца раса... Світае.

Да гэтага чыгуначнага гадзінніка часта прыстасоўваецца і грамадскае жыццё, напрыклад, сход прызначаецца на 7 гадзін, пасля скорага поезда, так і ў абвестках пішацца.

Буйна разраслося і папрыгажэла сяло ў апошнія годы. Зніклі ўросшыя ў зямлю хаткі, выраслі прасторныя калгасныя домікі. На галоўнай вуліцы з вялізнай сінагогі зрабілі тэатр.

На заднім двары тэатра, у новым мураваным будынку ўстанаўлялі магутны рухавік і дынама-машыну, даць сялу электрычнае святло рашано было даўно, на вуліцах пастаўлены ўжо былі слупы з электрычнымі ліхтарамі. Даўно нефарбаваная, аблупленая стаяла на плошчы царква, там часова быў ссыпны пункт, але намечана было яе перабудаваць у школу.

Званы ў ёй даўно ўжо знялі, пакінулі толькі самы вялікі для пажарных трывог.

III

У былым графскім парку стаяў доўгі нізкі дом. Па расказах старых, там калісьці змяшчалася графская канюшня.

У 1936 годзе там яшчэ быў наш любіцельскі тэатр. Вядома, тут ніколі не раздаваўся крык «на канюшню», публіка ведала, дзе яна знаходзіцца.

У тэатры было даволі ўтульна ад асляпляюча выбеленых сцен, малюнкаў на іх, сасновых галінак над вокнамі і дваццаці радоў звычайных лавак.

У тэатры было скромна, але заўсёды весела. Мы ганарыліся тым, што гэты храм Мельпамены быў створаны нашымі-ж рукамі.

Сцэна ў тэатры была невялікая і абстаўленая дэкарацыямі, пісанымі намі-ж на фанерных лістах, а падчас запаўнялася насечаным у парку галлём.

Аднойчы «мастак» Ціма, ён-жа студэнт Кіеўскага педінстытута, прапанаваў нам намаляваць розныя дрэвы за наш кошт, але быў асмеяны пасля першай-жа ім намаляванай бярозы. Па баках за дэкарацыямі заставаліся вузенькія цёмныя праходы, якія насілі гучную назву гардэробных, з правага боку—мужчынскіх, а з левага—жаночых. Пераапраналіся на скорую руку, азіраючыся, дзяўчаты-ж звычайна прыходзілі ў касцюмах з дому.

За задняй дэкарацыяй месца было больш; там стаяў стол, а на ім мутнае люстра ў драўлянай раме. Перад гэтым люстрам грымі-

раваліся ўсе па парадку і кожны размалёўваў сябе, як сам разумеў сваю роль. Для барод і вусоў у скрынцы заўсёды было ў дастатку воўны. Рэквізіт, неабходны для пастановак, цягнулі з дому, а лямпы для асвятлення зала і сцэны бралі ва ўстановах на кантрамаркі. З заўсёднага тэатральнага рэквізіта варта ўспамянуць аб старым выцертым крэсле малінавага бархату, трох венскіх стулах і парчовай папоўскай рызе. Малінавае крэсла называлася «барскай абстаноўкай», а аднойчы сышло за каралеўскі трон.

Месца перад сцэнай, адгароджанае рашоткай, узятай у царкве, называлася «музыкальнай», там заўсёды сядзелі родныя і знаёмыя артыстаў для адабрэння.

Успамінаючы цяпер усё гэта, я павінен прызнаць, што гэты наш тэатр, з усімі сваімі нескладанымі атрыбутамі адыграў не малую ролю ў выхаванні ў нас цёплага пачуцця да тэатральнага мастацтва. Цяпер у новым тэатры, залітым электрычным святлом, калгасная моладзь паказвае сваю самадзейнасць, маючы мастацкага кіраўніка, аднак, наш стары тэатр дораг ва ўспамінах макошынцаў, як гістарычны пачатак.

---

У 7 гадзін я накіраваўся да тэатра. Там на высокім ганку артыстычнага пад'езду (а прасцей—хода на сцэну) ужо сядзеў Майсей і вытрасаў з кішэняў апошнія крохі махоркі. Я моўчкі прапанаваў яму сваіх папярос і сеў побач.

— Так, так, так, сто чарцей! Зараз прыдуць усе і нават Анатолій Сяргеевіч.

— І Каніфолій будзе?

Мы цярпець не маглі гэтага тонканогага настаўніка, які заўсёды выконваў ролі першых палюбоўнікаў.

— Так, так, абяцаў быць.

І Майсей, жмурачыся ад задавальнення, аддаўся прыемнасцям папяроснага арамата.

Дзівак Майсей, а слаўны. Служыў ён тэлеграфістам, а вольны час дзяліў паміж сваёй вялікай сям'ёй і тэатрам. Выкапваў, невядома адкуль, нядрэнныя п'есы, развучваў і ставіў іх з намі не з выгод якіх, а праўды з вялікай любві да справы. Часам, захапіўшыся новай пастаноўкай, ён нават блытаў тэлеграмы. Хадзіў такі анекдот. Пісала жонка свайму мужу, які быў у Макошыне ў камандыроўцы: «Прыязджай Нежын. Нарадзіла малыша, крошка-хлопчык. Каця» Майсей перадаў так: «Прыязджай. Няжывога нарадзіла. Крышка хлопчыку. Каця». Аглушаны горам бацька паімчаўся першым поездам у Нежын і толькі вялікая радасць, што чакала чалавека там, выратавала Майсея ад непрыемнасці.

Выконваў Майсей пераважна камічныя ролі.

---

— Быў у іх,—дыміў Майсей.—Прыдуць: Мікалай «рыжы», Сашка, Пракоп, Людміла, Ольга Іванаўна і Таня.

— І Таня?—перапытаў я.

— А як-жа, для яе і ролька галоўная. Людмілка слаба, хоць і ламаецца, а на сцэну як выйдзе, дык сам ведаеш... палохаецца, ха-ха-ха, ну, а Таня... О!—у захапленні сказаў Майсей.

Для мяне Таня таксама была «О»! Яшчэ з мінулага году я быў тайна закаханы ў маладзенькую настаўніцу, комсамолку Таню. Вёў сябе стрымана і віду ёй не паказваў, але рэўнаваў яе к настаўніку Анатолію Сяргеевічу Буянскаму, таму, што па праву першага палюбоўніка ён абнімаў Таню на сцэне па ходу дзеі і праводзіў дадому пасля рэпетыцыі. Таня жыла пры школе, з намі ў адным доме, а настаўнік здымаў прыватны пакой каля царквы, з уборкай, з самаварам гаспадарскім, і за ўсё гэта ненавідзеў я праклятага настаўніка, бо, нават беспрыстрасна гаворачы, дрэнь ён быў чалавек, вучні не паважалі яго і, як я ведаў, пісалі ў раён заяву з просьбай аб зняцці з пасады, ну, а пакуль настаўнік працвітаў. Быў ён заўсёды надушаны, прылізаны і да прыкрасці салажавы. А Таня? Нічога такога не заўважваў я, яна нават не хацела з настаўнікам па ходу дзеі абдымацца, але хто іх разбярэ, гэтых прыгожанькіх дзяўчат.

---

З парка паказаліся хлопцы. Рыжы, высокі Мікалай, здаравенны Сашка і хударлявы маўклівы Пракоп, маленькі і нудны... Мікалай яшчэ здалёк закрычаў:

— Пачынай хутчэй, дабрадзею, праз гадзіну пайду!

— Да мілкі, ці да бутылкі?—крыкнуў Майсей весела ў адказ, робячы намёк на слабасць Мікалая да гэтых абодвых прадметаў.

Хлопцы чынна павіталіся за рукі, не спяшаючыся расселіся на сходцах ганку і ўзяліся заклапочана скручваць з махоркі цыгаркі. Хутка паваліў густы, едкі дым.

— Сто трыццаць чарцей, ну, і дымок, гадзюкі дохнуць.

З парка, пахістваючыся, ішоў Жорж Замукевіч.

— Во, маятнік!—хіхікнуў Сашка.

— А ты маўчы, твой голас тут маленькі,—абарваў яго Майсей.

— Мастак прыехаў,—абвясціў Жорж.

— Зноў будзе камедыя, мільён чарцей!

— Па Садоўскаму і Саксаганскаму,—дадаў я, пакольні і мастака я таксама не любіў за тое, што ён быў прыгажэй за мяне. Я бландын, а ён, бачыце, брунэт і дзяўчаты мелі на яго вока. А ўся яго прыгожасць была ў велізарнай кучаравай шэвелюры, чорнай, як галаччы хвост, і калі-б гэтую шэвелюру састрыгчы, то ад цімкінай красы асталася-б толькі круглая і голая, як гарбуз, галава.

— Будзем яго зноў ад дзявок адганяць каменнямі,—зларадна ўсміхнуўся Сашка.

Ленка такі з'явілася з Таняй, а ў хуткім часе прышла і Ольга Іванаўна, жонка мясцовага доктара, за вочы «мамаша», ціхая і прыемная жанчына.

Таня села непадалёк ад мяне і распачала з Ленкаю ажыўленую размову, а я сядзеў моўчкі, разгубіўшыся ад бляску яе вачэй, пявучага голасу, і ў думках падбіраў для яе ўсялякія ласкальныя эпітэты.

Настаўнік прышоў расфуфыраным піжонам, разаслаў хусцінку на ганку і сеў, прывітаўшыся з усімі адным кіўком, патрыцый праклятым.

— Ну, пачынаем!—З гэтымі словамі Майсей дастаў з кішэні

пацёртую кніжачку, абвёў нас усіх урачыстым позіркам і раптам, зірнуўшы на парк, абвясціў:

— Чатырыста сорак чарцей, мастак.

З парка ішлі Ціма і залатакудрая Людміла.

— Хутчэй, двое чарцей!—закрычаў Майсей...

— А, праўда, што двое чарцей,—заіржаў Сашка.

— Якія двое чарцей?—здзівіўся Майсей.

Мастак, усміхаючыся на ўвесь рот, заявіў:

— Як прадстаўн'к багемы, рашыў з першага-ж дня далучыцца да вас.

Сашка не вытрымаў ад смеху.

— Да Людмілы ўжо далучыўся,—сказаў я ўпаўголас, зірнуўшы пры гэтым на Таню. Яна дакорліва паківала галавой, але ўсміхнулася.

Майсей шырокім жэстам паказаў на сходцы ганка, як быццам тут ляжаў пушысты дыван.

— Сядайце, калі ласка, вельмі рады.

— І так, мы пачынаем,—яшчэ раз патрос кніжачкай Майсей.— П'еса гэтая, цудоўная «Наталка-Палтаўка» Катлярэўскага...

Узняўся шум захаплення, што аж настаўнік скрануўся са сваёй падсцілкі.

— Оперэтка, оперэтка!—верашчала Людміла.

— Знаем, знаем, бачылі...—басіў Мікалай.

— Вы знаеце, калі ў Кіеўскім тэатры...—захлёбваўся мастак.

— Цімох, прычашыся!—Гэта зноў Сашка.

— Дурань!—абвясціў мастак і пакрыўджаны сеў.

— Але тут-жа музыка, спевы,—спалохалася «мамаша».

— Дайце мне роль Наталкі, у мяне опернае сапрано!—крычала Людміла, тузаючы Майсея за рукаў.

— Сціхніце, сто чарцей,—упрашваў Майсей.—Ды памаўчыце-ж вы хвіліну, сціхніце!

Нарэшце ўсе супакоіліся і загаварыў Майсей.

— Я ўсё абдумаў, а ты, Людміла, не глушы. Тут патрабуецца сур'ёзны падыход, гэта вам не вадэвіль, гэта класіка, гэта... Гэта сто чарцей... прыгоства,—захлябнуўся Майсей ад захаплення і перадыхнуўшы прадаўжаў,—Наталку будзе іграць Таня (далікатны паклон у Танін бок).

— А я?—заікнулася Людміла.

— Ціха! Пятра спяе наш Анатолій Сяргеевіч.

Настаўнік важна самкнуў губы і выпрастаў спіну.

— Пана выбарнага...

— Буду іграць я,—безапеляцыйна заявіў Мікалай.

— Так, а пана вознага—я,—Майсей тэатральна ткнуў сябе пальцам у грудзі. Я ўжо і роль вывучыў, так. Ольга Іванаўна не адмовіць быць у ролі добрадзейнай мамашы.

— Але-ж спяваць...—спалохалася тая.

— Мамашам асабліва распяваць і не належыць,—рэзонна супакоіў Майсей.—Пракоп, Пракоп будзе казаком...

— Добра, Майсей,—пакорліва згадзіўся Пракоп.

— А я... Я!—раптам ускочыў Сашка.

— Ці-ха! Усім работа будзе. Ты будзеш галоўным распарадчыкам зала.

Тытул Сашку спадабаўся і ён здаволена ўсміхнуўся.

— Владзімір і Жорж—вядомыя музыканты, вось вам і аркестр.— І да нас:—Вы не супярэчыце?

Мы, вядома, не супярэчылі.

Людміле дасталася суфлёрская будка.

— А я, як многакратна бачыўшы гэтую п'есу...—пачаў мастак.

— Сумееш цудоўна грыміраваць,—умяшаўся я, а Майсей сцвярджальна кіўнуў галавой і, патрапаўшы Ціму па спіне, дадаў:

— Барodkі, вусікі, вочкі, носікі, броўкі, роцікі, хе-хе-хе!

На гэтым скончылася і Майсей абвясціў дзень рэпетыцыі, схаваўшы кніжачку ў кішэню.

Настаўнік устаў, склаў сваю насавую хусцінку і ўставіўся на Таню. Тут я рашыўся. З заміраннем у сэрцы я падышоў да яе і амаль шопатам сказаў: «Таня, пагаварыць трэ' было-б з вамі, карацей кажучы, пойдзем разам дадому».

Узняліся і ўпалі расніцы, на шчаках з'явіліся ямачкі і я пачуў:

— Чаму-ж не, вядома, разам.

Тут і настаўнік падыходзіць.

— Што-ж, пайшлі дадому, Тацяна Барысаўна.

Пальчыкі Таніны шпарка забегалі па краю беленькай спартыўнай блузкі.

— Ведаеце... Я яшчэ не іду дадому...

Тут я ўстаў побач з ёю, настаўнік саркастычна скрывіў губы і адышоў. Я лікаваў.

## IV

Змяркалася. Мінуўшы парк, мы вышлі на вуліцу. Там хлапчукі яшчэ з крыкам ганялі футбольны мяч. За могільнікавым гайком неба святлела, і праз некаторы час усплыў вялікі яркажоўты месяц. З гародчыкаў нёсся дурманячы пах кветак. На лаўках ля варот сядзелі людзі, чулася гутарка, смех, трынканне на балалайцы. На мосце падымалі запаленыя ліхтары.

Мы ішлі вуліцаю. Маўчалі. Раптам Таня спыталася:

— Ну, куды-ж мы?

— Пройдзем па палатну, хочаце?

— Усё адно.

У гэты момант мы праходзілі міма сінагогі, якую перабудоўвалі ў тэатр. Вялікі, двухпавярховы будынак, абстаўлены рыштаваннямі, стаяў у цішыні, шматлікія вокны яго паблісквалі ў месячным святле. У двары сярод штабялёў дошчак гарэў касцёр, а вакол яго сядзелі, вячэраючы, плотнікі, што жылі тут-жа да сканчэння будоўлі.

— Вось, Таня, і тэатр хутка будзе гатоў, сапраўдны.

— І нават з электрычнасцю.

— Электрычнасць будзе нават раней, кажуць, праз два-тры тыдні, вунь яна, электрастанцыя.—Мы зірнулі поверх агарожы на новую мураваную будыніну, яна таксама стаяла цёмнай і ціхай.

— Там устаноўлены рухавік і дынама, а неўзабаве гэты будынак

замігціцца яркімі агнямі электрычных лямп...—Я зірнуў на Таню і змоўк.

— Чаго-ж гэта вы раптам змоўклі, я толькі намерылася слухаць.

— Што-ж казаць, і так усё ясна, у нашым сяле будзе электрычнасць.

— Цікава будзе глядзець на нашы асветленыя вуліцы.

— Так, крыху непрывычна будзе спачатку, вякамі цёмна было.— Мы вышлі к палатну чыгункі і пайшлі ўздоўж яго. Уперадзе гарэла чырвонае вока семафора, а ўнізе адсвечваліся рэйкі. Некаторы час мы зноў моўчкі шагалі па шпалах. Ніць гутаркі была згублена. Я зрабіў няўдалую спробу прайсціся па рэйцы, мая няўдача была сустрэта Таніным смехам і я крыху пажвавеў.

— Аднак, вы, Валодзя, замоўклі надоўга.

— Я збіраюся з думкамі.

— Дужа яны ў вас раскіданы.

— Чаму?

— Доўга збіраеце. Кажыце хоць што.

— Ну, што напрыклад?

— Ну што-небудзь камічнае для пачатку.—Я чуў у яе голасе смех, але як на грэх у галаву не прыходзіла ні аднае «разумнай» тэмы, а хацелася чым-небудзь бліснуць, я ні на хвіліну не забываўся пра саперніка-настаўніка. Я зірнуў на месяц, потым на Таню і пачаў:

— Ну што-ж, калі пачаць з месяца, дык можна сказаць, што ён не вельмі ўжо і далёка ад нас.

— Ну, але, блізкі сусед, за вуглом у завулку...

Мы абое весела рассмяяліся. Стала неяк лепш. Я шырока ступаў па шпалах, побач старалася не адставаць стройная фігурка ў беленькай спартыўнай блузцы, і раптам:

— Не, ведаеце, Валодзя, шпалы мне не падабаюцца, давайце сойдзем на дарожку.—Мы сышлі на бок, там па краю насыпа была нешырокая дарожка.

Непрыкметна мы ўзяліся за рукі.

— Вось і парачка афармілася,—пажартавала Таня. І адразу другім тонам:

— Валодзя, мне хочацца вам нешта сказаць.

— Ну?

— Справа ў тым, што я хачу паступіць у інстытут.

— У педагагічны?

— У індустрыяльны, Валодзя.

— Што? У індустрыяльны? Гэта як-жа?

— Хачу паступіць у інстытут, скончыць яго і атрымаць дыплом інжынера. Вельмі проста.

— Сапраўды проста,—усміхнуўся я.

Я ў думках азірнуўся на свой шлях у інстытуце і яшчэ раз усміхнуўся, але тут-жа ўспомніў дзесяткі дзяўчат, што вучыліся разам са мною і задуманае Таняй пачало ўяўляцца мне ўжо ў другім святле.

— Ну, а вы рыхтуецеся?

— Вядома. Але я спадзяюся на вашу дапамогу... некаторыя цяжкія месцы, умовы прыёму, не адмовіце-ж?

— Таня!—дакорліва сказаў я.—Вы сумняваецеся?

— Я-ж яшчэ нядаўна скончыла педтэхнікум, і цяпер рыхтуюся, спадзяюся паступіць.

— У наш інстытут?

— У кіеўскі.

— Значыцца, у наш.—Я ўжо быў у захапленні.—Ну, вядома паступіце, ну, вядома-ж я вам дапамагу.

— Паступлю?

— Так.—Сказаў я такім тонам, быццам ужо залічыў яе на першы курс.

Таня рассмяялася.

Некалькі хвілін ішла моўчкі. Я прывык да таніпага інжынерства, і адчуваў ужо некаторую эгаістычную асалоду пры думцы, што яна будзе са мной у адным інстытуце.

Я зірнуў на Таню, яна была ніжэй мяне ростам і яе галава была ля майго пляча. Яна злавіла мой позірк і, нейк ігрыва кіўнуўшы галавой, сказала:

— Здзівіла вас: маленькая сельская настаўніца і раптам...

— Таня, ніколі я не лічыў вас маленькім чалавекам,—сказаў я парыўка і локцем моцна прыціснуў яе руку.

— Бачыце, пагаварылі і без дапамогі месяца.

— Чаму-ж, вунь ён які круглы, свеціць, садзейнічае ўсё-ж такі. Вам не холадна?

— Пакуль не. Але ўсё-ж пара дадому.

Мы падышлі да школы і спыніліся.

— Прысядзем?—паказаў я на лаўку,—неяк не хочацца ісці ў хату, так добра на двары.

— З прыемнасцю, Валодзя.—Мы селі.—Я часам нават люблю ў месячную ноч адчыніць акно і ўсесціся на падваконніку...

— Марыць?

— Не, думаць. Думаць пра людзей. Хочацца зразумець чалавечыя пачуцці і перажыванні, чаму любяць і ненавідзяць.

— Гэта вы зразумееце, калі палюбіце альбо зненавідзіце.

Я-ж ведаў чаму можна палюбіць.

Месяц запаўняў блакітным святлом усё. У гэтым святле ціхія стаялі дрэвы, бялелі ярка хаты. Лукавае свяціла, яно апранула Таню ў блакітную каштоўную ткань, запаліла загадачныя агеньчыкі ў вачах і накінула на валасы тоненькую срабрыстую сетку.

Я глядзеў на яе здзіўляюча прыгожы твар, бачыў ласкавую ўсмешку і спазмы захаплення казыталі мае горла.

— Аб чым вы задумаліся, Валодзя?

— Ды вось месячык...

— Так, усё ён, стары злыдзень.

— Ну і што-ж?

— Далекавата ўсё ж такі.

— Ха-ха-ха!

На развітанне Таня сказала:

— Прыходзьце заўтра да мяне, пойдзем у лес, у валейбол згуляем.

— Добра, прыду абавязкова.

Яна пайшла. Зачыніліся за ёю вялікія дзверы. Я павольна пайшоў дадому.

V

Дрыжыць пругкая сетка, хутка лятае мяч. Ударαючы яго рукамі хочацца ўскрыкнуць ад здавальнення.

Раз... Два... Я спрытным ударам зрэзваю, чуецца гулкі ўдар мяча вобземлю. Сем—нуль у нашу карысць. Вось мяч ляціць высока, але я падскакваю і маланкавым ударам мяняю яго напрамак. Мой мяч прынят, вось ён зноў на нашым баку. Жорж Замукевіч нязграбна ўзмахвае рукой і мяч ляціць у сетку. Супрацiўнікі залічваюць адно ачко, а Жорж выслухоўвае некалькі ядавітых заўваг.

— Французская школа, Жорж?

— Трэ' было лавіць, Замукевіч.

За сеткай я бачу танін расчырванелы твар, з яго не сходзіць усмешка, я любуюся яе асляпляючымі зубамі. Калі яна падскаквае, валасы яе залятаюць на лоб і тады яна адкідае іх рэзкім рухам галавы. Слаўная дзяўчына,—думаю я.

Таня вышла на пляцоўку супроць нас з піонерамі, на нашым-жа баку каманда зборная. Акрамя мяне і Замукевіча гуляе яшчэ заўхоз лагераў, худы, маўклівы мужчына, з валасатымі рукамі, вагаўшчык са станцыі, малады вясёлы хлапчына, загарэлы, як папуас і два невядомыя мне хлапчукі. Мы ўсе ўпацелі, але ніхто не думае кідаць гульню.

Раз... Два... Лятае над сеткай пругкі мяч, гулкія ўдары гарачых далоняў...

Дзесяць—чатыры ў нашу карысць. Усмешка знікла з таніных губ. Хуткімі позіркамі яна быццам-бы заклікае сваю каманду да больш актыўнай гульні.

Піонеры стараюцца ва ўсю, але ім цяжка ўстаяць супроць барадатых дзядзькоў, як яны нас называюць.

Мяняем месцы. Ля сеткі становіцца Замукевіч і за час яго прабывання на гэтым цэнтральным месцы мы прагульваем чатыры ачкі і лік амаль становіцца роўным.

— Эх, з такім ростам толькі-б рэзаць, а ты...—гаворыць дакорліва Жоржу вагаўшчык.

Жоржу, нарэшце, дапяклі.

— Ды што мы на грошы гуляем, ці што,—падумаеш—драма, калі мы прагуляем.

— З такой логікай, Жорж, лепш не гуляць зусім,—заўважаю я.

— Ты лепш у ачко гуляў-бы,—дадае вагаўшчык.

Мяч пралятае паўз самае маё вуха і падае на зямлю. Піонеры скачуць ад здавальнення і Таня усміхаецца зноў.

Далей адбываецца штосьці незвычайнае. Вясёлы мяч ударае Жоржу проста па галаве і гэта абыходзіцца нам яшчэ ў адно ачко.

Маўклівы заўхоз раптам так трахнуў мяч кулаком, што ён паляцеў на сосны.

Гульня канчаецца перамогай танінай каманды. І піонеры не могуць урымсціцца ад захаплення, а мы, барадатыя дзядзі, моўчкі ідзем з пляцоўкі.

— Эх, з такімі мазіламі гуляць...

— Высокія, а не рэжуць... Партачы...

Я падышоў да Тані, яе акружыла дзетвара, зусім маленькія.

— Цёця Таня, толькі адну партыю ў валібол,—дамагаўся чырвонаносы карапуз, год сямі.

— Цёця Таня, мы хочам гуляць.

— Цёця Таня!

— Цёця Таня!

Цёця Таня паспявала аднаму адказаць, другому паправіць гальштук, трэцяга пагладзіць па галоўцы і, нарэшце, пабегла ў лес, а за ёй накіравалася са смехам і шумам уся дзетвара.

У чаканні я ўсеўся на траву і да мяне падышоў Жорж Замукевіч.

— Пойдзем купацца?—спытаўся ён.

— Не, я заняты, Жорж.

— Чым?

— Я хачу пагаварыць з Таняй.

На шырокім твары расплылася ўсмешка.

— Ухажываць задумаў?

Я моўчкі пацісніў плячыма.

— А дзяўчына на яць,—у захапленні сказаў Жэрж,—ну, калі гэтак, замінаць не буду. Бывай, браток.—І Жорж пайшоў.

З лесу паказалася Таня з дзетварой.

---

На рэпетыцыях шмат крычалі і спрачаліся з-за жэстаў, інтанацый, кожнаму хацелася ўставіць што-небудзь сваё.

Яшчэ не асвоіўшыся з ролямі, выканаўцы часта мінутамі прастойвалі, апусціўшы рукі па швах, другія-ж бяссэнсна таўкліся на месцы.

Майсей гарачыўся.

— Сто сорак чарцей, не станавіцеся да публікі задам, ды карыстайцеся рукамі... Рукамі іграць трэба, рукі гэта таксама міміка...

Настаўнік выслухоўваў ветлівыя папраўкі, схіліўшы галаву на бок, а рабіў па свойму, за тое сам Майсей іграў з захапленнем і, гледзячы на яго, падцягваліся астатнія і прабавалі карыстацца рукамі. З кожнай рэпетыцыяй адчувалася больш упэўненасці, праца Майсея марна не гінула.

Я і Жорж важна сядзелі з інструментамі ў руках і ў патрэбныя моманты давалі тон, акампаніравалі.

Больш за ўсё надакучаў нам Мікалай, ён ніяк не трапляў у тон, злаваўся, чырванеў і заяўляў:

— Дазвольце мне спяваць без акампанемента, яны мяне збіваюць.

Але няўмольны Майсей прымушаў нас даваць тон трэці, пяты, дзесяты раз і нарэшце Мікалай крыху налаўчыўся. А ўдзень сустракаючы мяне на вуліцы, яшчэ здалёк крычаў:

— Давай ноту!

У «мамашы» аказаўся ціхенькі, але цярпімы галасок, яна ў процілегласць Мікалаю ніяк не магла пачаць співаць без акампанемента і таму Майсей распарадзіўся, кожны раз, перад пачаткам спеваў усім даваць уступны акорд.

Таня праводзіла свае сцэны з натхненнем, а настаўнік даваў свае рэплікі скорагаворкай.

— Каб не выветрыцца да пастаноўкі,—тлумачыў ён.

— Уласна кажучы... Гм,—мычаў Майсей, але ўрэшце зміраўся, баючыся, каб гэты тонканогі прэм'ер не ўздумаў закапрызнічаць.

Пасля рэпетыцый мы з Таняй звычайна ішлі разам, да гэтага прывык і настаўнік, ён ужо болей да яе не падыходзіў, затое я з кожным днём усё больш і больш пагружаўся ў блакітны туман закаханасці.

Я нават прабаваў складаць вершы, але гэта ў мяне не выходзіла, тады я браў гітару, ішоў у сад і, усеўшыся на траве, падымаў вочы ў неба, браў самыя мінорныя акорды, паслухмяны інструмант уздыхаў і сумаваў ва унісон свайму гаспадару.

Усё гэта аднак не перашкаджала мне як і раней ездзіць на веласіпедзе, купацца і гуляць у валейбол.

Пранырлівая Ленка аднойчы за абедам сказала маме:

— З нашым Валодзькам нешта дзеецца... Уздыхае, вершы піша...

— Ну, ну, сынку, што-ж з табой?

— Выдумляе яна, мама.

— А вось і не выдумляю, а хто з Таняй па палатну ўвечары ходзіць, ды на лавачцы сядзіць? Маўчы ўжо, укахаўся ты ў яе, вось што.

Я збянтэжыўся.

— А чаму-б і не?—сказала маці.—Танюша слаўная, а Валодзька малады чалавек... Нічога сабе...

— Дзякуй, мама, за камплімент, а табе, Ленка, нос.

— Ну, ну, не забывайся, вельмі ты ёй патрэбен.

Мяне ўзяло за жывое.

— А можа і патрэбен, табе што?

— Ды нічога, на здароўе, не забудзьце на вяселле запрасіць. Ха-ха-ха...

Мне стала весела. Я падскочыў да Ленкі і, схапіўшы яе за рукі, закружыў па пакоі.

— Валодзька, пусці вар'ят!

— А ты не падглядвай, не яхіднічай...

Мы ўзнялі, як заўсёды, страшэнную вазню, пакуль не ўмяшалася маці.

---

Раніцай некалькі афішак спавясцілі Макошына, што ў тэатры «праездам вядомая трупа вядомага Дабрыніна, з удзелам вядомага артыста Сагайдачнага паставіць вядомую п'есу «Гандзя».

Гастралёраў убачылі яшчэ ўдзень, калі яны ў лёгкамысленых штанах і з гальштукамі папугайных колераў паказаліся на вуліцы. Яны ўваходзілі ў двары і крычалі.

— Гэй, гаспадыня, малако і яйкі ёсць?

Здабытую такім чынам свежыну яны цягнулі да тэатра. Ясная справа, што туды ўвечары з'явіліся ўсе нашыя любіцелі, нават па куплёных білетах народу ў тэатры было шмат, мусіць гастралёры не скупіліся на кантрамаркі.

Я, Таня і Майсей сядзелі разам, шчыльна стуліўшыся, у трэцім радзе.

— Я пазнаёміўся ўжо з Дабрыніным і Сагайдачным,—заявіў нам Майсей.—Цёплыя хлопцы, мы нават расціснулі па шкляначцы, ага...

— Хутка і мы будзем на сцэне,—сказала задумліва Таня.

— Так, так, трыццаць чарцей. Праз тры дні спектакль.

— Страшна,—стулілася Таня.

— Няўжо вы баіцеся?

— Непрыемна праваліцца.

— Які правал, сто дваццаць чарцей,—узрушыўся Майсей.— Я думаю пра гастролі па суседніх станцыях, мы праграмім ад Цераховкі да Бахмача. Сноўская, Мена, Гародня паднясуць нам душыстыя кветкі, хе-хе-хе...

Час ішоў, публіка заўзята пляскала ў далоні і тупацела нагамі, але сшытая з мяшкоў заслона спакойна калыхалася перад вачыма, а са сцэны даносіліся прыглушаныя галасы і стук малатка.

— Па-ра па-чы-наць!—па камандзе крычалі хлапчукі ў першым радзе, таксама настойліва стукаў палкай аб падлогу мясцовы доктар.

Блізка 10 гадзін, перад заслонай раптам паявіўся, загрыміраваны, у сінім жупане, Дабрынін і ўсхвалявана загаварыў!

— Таварышы, увага... Пастаноўка п'есы пераносіцца на заўтра, бо артыст Сагайдачны захварэў.

У зале раздаўся неўрымстлівы свіст і крык.

У гэты момант з другога канца выскачыў Сагайдачны, таксама загрыміраваны і ў касцюме і, паэтычна стукаючы сябе кулаком у грудзі, зароў:

— Хлусня, хлусня... Сагайдачны не хворы... Не... Не, я не хворы, але Сагайдачнага жорстка абразілі, мяне жорстка абразілі, так...

Тут ён моцна пахіснуўся і ўхапіўся рукамі за заслону, каб не паваліцца, а Дабрынін, паказваючы на яго пальцам, закрычаў, як у шэкспіраўскай драме:

— Хіба вы не бачыце, што ён п'яны, ён зусім п'яны...

— Ён сам п'яны,—махнуў рукой Сагайдачны і падмігнуў,—ён вар'ят,—спакойна скончыў ён і ўсім целам прынік да заслоны.

Гледачы паўскаквалі з месц, ззаду нехта па-разбойнічы засвістаў, раздаліся крыкі.

— Напіліся, чэрці!

— Іграйце, як ёсць. Усё адно ляснулі грошы.

— Арыштаваць усіх, праверыць дакументы.

— Адно слова—гастралёры...

— Перабралі, значыцца, меру, сто сорак чарцей, не менш літра перабралі,—са спачуваннем сказаў Майсей.

— Далоў са сцэны!

Спектакль не адбыўся, а на заўтра гастралёраў ужо ніхто не бачыў.

VI

Гэтая падзея прымусіла нас адкласці пастаноўку «Наталкі-Палтаўкі» на некалькі дзён па дыпламатычных меркаваннях.

— Трэба даць час публіцы супакоіцца і забыцца,—разважліва заявіў Майсей і, ужо смяючыся, дадаў:

— Нельга цвяліць публіку.

За некалькі дзён да пастаноўкі мы ўжо ўзяліся за рэкламу. На парканах паявіліся вузкія палосы паперы з загадачнымі словамі:

АНОНС!!! АНОНС!!!

**У тэатры днямі Н. П.**

Вядома, усё сяло ведала, што таямнічае Н. П. азначала «Наталка-Палтаўка», якую мы рыхтавалі да пастаноўкі, але тым не менш анонсы спадабаліся, гэта было як у вялікім горадзе.

Яшчэ праз два дні мы з Жоржам ператварылі ў мастацкае атэльe наш пакой.

Мы рашылі здзівіць усіх грандыёзнасцю афіш і, расклаўшы па падлозе велізарныя, склееныя лісты паперы, расставіўшы банкі з разведзенымі фарбамі і сінькай, энергічна ўзяліся за работу.

Маці хадзіла, ківаючы галавой, а Ленка нават прапанавала свае паслугі.

На паперы паявіліся велізарныя рэльефныя літары, з бакоў афішы ўпрыгожыліся красачнымі віньеткамі. Мы яшчэ намалявалі дзесяць афіш папрасцей, проста, каб іх весела болей. Напярэдадні спектакля ўсе афішы былі гатовы, забег Майсей.

— О, пяцьсот дваццаць чарцей! Задамо трэску. Самую вялікую афішу—на вакзал. Няхай бачаць пасажыры, няхай ім захочацца бегчы з поезда ў тэатр, няхай тыя, хто думае ехаць, убачыўшы яе, адкладуць сваю паездку, а тыя, што прыедуць, няхай глядзяць і радуюцца,—а потым па-дзелавому ўжо дадаў:—Вось вам дзесяць квітанцыйных кніжак і пячатка, зрабіце білеты, колькасць радоў і месц вам вядомы.

Я зірнуў на круглую пячатку, пакінутую Майсеем, літары на ёй заплылі так, што немагчыма было пазнаць, якой установе яна належыла. К вечару білеты былі гатовы.

Позна ўначы мы расклеілі нашы афішы ў людных месцах.

— Жорж, такіх афіш у Макошыне, бадай, яшчэ не бывала.

— Афішкі фурорныя, што і казаць.

Уранні ля афішы збіраліся калгаснікі і служачыя.

**Народны дом, у парку**

СЁННЯ САСТАВАМ МЯСЦОВАЙ ТРУПЫ
ПАСТАЎЛЕНА БУДЗЕ

**класічная опера Катлярэўскага**

**„НАТАЛКА-ПАЛТАЎКА“**

Музыка, спевы, танцы, човы рэквізіт і дэкарацыі.
У антрактах танцы ў публіцы, пад гармонік.
Асвятленне зала—8 лямп.
Цэны ўмераны я. у зале поўны парадак і ні аднаго зайца.
Пачатак у 9 гадзін.

Удзень Майсей з мастаком беглі па сяле, збіралі лямпы, крэслы, рэквізіт. Усюды патрабавалі кантрамаркі. Майсей кляўся, успамінаў тысячу чарцей, гаварыў, што кантрамаркі ўсе раздадзены і абяцаў пусціць так.

— Знаем мы вас, настаімся пад дзвярыма. Давай кантрамарку!

Надвечар, добра пад'еўшы і напхаўшы ў кішэні з поўдзесятка яблык, я накіраваўся ў тэатр.

У касе сядзеў хмурны Жорж Замукевіч.

— Ну, як?—пацікавіўся я.

— Па 30 капеяк разабралі ўсе, а даражэй не бяруць.

— Гм. Доктар возьме ў першым радзе, начальнік станцыі таксама, старшыня кааперацыі з жонкай...

— Гэты па кантрамарцы, узялі тры лямпы.

— Шкада. Аптэкар...

— Таксама па кантрамарцы... і ветэрынар.

— А ў гэтага што бралі?

— Воўну для грыміроўкі, фарбаваную.

У гэты час падышоў нейкі хлопец, ён усунуў галаву ў акенца касы, доўга разглядаў з ухмылкай ружовыя кніжачкі білетаў і нарэшце лянiва сказаў:

— Ну, што-ж, давай два па трыццаць.

— Няма, толькі па 50.

— Што я буду пераплачваць, калі другія бралі па 30, што я табе буржуй, ці што?

— Ды разабралі-ж па 30,—пераконваў Жорж.

— Ну і не трэба, так прайду,—і хлопец адышоў.

— Гэта, брат, Федзька, Сашкі—нашага распарадчыка друг, прапусціць яго Сашка.

Далей справа пайшла лепш.

Прышлі цэлай кампаніяй дзяўчаты-калгасніцы і, пашаптаўшыся, адразу ўзялі дзесяць білетаў другога раду.

У захапленні Жорж сказаў ім ветліва:

— Вось гэта дзяўчаты нашай краіны!

Білеты прадаўжалі разбіраць і ўсмешка доўга не сходзіла з шырокага твару касіра.

Прышоў начальнік станцыі, і ў іх з Жоржам адбыўся наступны дыялаг.

— Дайце, Жорж, два білеты па 50 капеяк.

— Асталіся толькі рублёвыя,—хлусіў Жорж.

— Тады дайце па 75.

— У наліччы толькі па рублю.

— Няўжо?

— Точка.

— Гм.

— Так.

— Тады першы рад:

— Толькі трэці, першы і другі праданы.

— Так такі і няма?

— Так такі і няма.

— Ну, давайце трэці.

Я пайшоў на сцэну. За кулісамі панавала гарачка, усе былі ўсхваляваныя, спешна пераапраналіся.

Усюды разбіралі вузлы з прыцягнутым з дому рэквізітам. Тут былі вышытыя рушнікі, гаршкі, талеркі, качэргі, вёдры.

За сталом мастак Ціма грымiраваў артыстаў. З нахмуранымі брывамі і з закушанай губой, гэты геній, не шкадуючы, намазваў тлустыя слаі фарбы на фізіяноміі сваіх афяр, бесцэрэмонна варочаючы іх галовы ва ўсе бакі.

Загрымiраваныя тоўпіліся ля мутнага люстэрка і, лаючы мастака, начыста сцiралі грым і браліся зноў за гэтую справу, сваімі сіламі.

Да мяне падышоў Мікалай з даўжэзнымі рыжымі вусішчамі, густымі наклеенымі брывамі, у украінскім касцюме, так што я адразу нават не пазнаў яго.

— Што, лоўка?

— Лоўка. Мастак?

— Пайшоў ён к чорту, яму толькі парканы фарбаваць. Гэта я сам,—горда заявіў ён, распраўляючы пальцамі вусы.

— Здорава,—пахваліў я.

Да нас падбег Майсей.

— Хлопцы, дапамажыце ўстанавіць дэкарацыю, зараз публіку будзем пускаць, сто чарцей.

— Хто на дзвярах будзе?—пацікавіўся я.

— Сашка-ж.

— Ну, значыцца, зайцам свята...

— Не пусціць, ён-жа галоўны распарадчык.

Майсей пабег на сцэну.

Ззаду нехта асцярожна ўзяў мяне за локаць. Адвярнуўшыся, я ўбачыў Таню з хітраватай усмешкай на твары.

— Ух ты!—не ўтрымаўся я ад захаплення. У украінскім касцюме, з мноствам бліскучых істужак і маністаў, з блакітным касніком у валасах яна была сапраўднай красуняй.

— Прыгожая я?

— Як заўсёды, Таня.

— А як Палтаўка?

— Лепшай Палтаўкі не было.

Таня ўсміхнулася і пагразіла мне пальцам.

— А як вы сябе адчуваеце?—клапатліва пацікавіўся я.

— І прыемна і страшнавата, і цёпла і халаднавата, крышку хвалююся, Валодзя.

— Глупства, на сцэне падбадзёрыцеся.

— А як акампанемент?

— У поўнай баявой гатоўнасці, на ўвесь аркестр напялі новыя струны. Узялі тры акорды ў запас.

Яна стаяла перада мною, крыху схіліўшы галаву на бок, бліскаючы рознакаляровасцю істужак і маністаў, вясёлая і такая дзівосная, што я не ўтрымаўся і даволі гучна ўздыхнуў.

— Чаго ўздыхаеце, Валодзя?

— Гэта... так, выпадкова...

— І часта ў вас такія... выпадкі?

— Не, не часта...

— Гэта нядобра, рана нам яшчэ з вамі ахаць і охаць.

— Эх, Таня...—раптам выпаліў я і асекся.

— Што здарылася, Валодзя?—прытворна заклапочана спыталася яна.

Я, не адказваючы, глядзеў на яе, тады яна раптам стала сур'ёзнай і, узяўшы мяне за руку, сказала ласкава:

— Не трэба ўздыхаць, Валодзя, здаецца гора ў вас асаблівага няма, вось хутка вучыцца паедзем...

— Інжынерамі будзем,—сказаў я ёй у тон...

— А гэта абавязкова. Вы раней, я пазней. . . Ну, а цяпер я пайду, хутка званок будзе.

У гэты час Майсей прыняў дэкарацыю, за якой мы стаялі, узяўшыся за рукі. Убачыўшы нас, ён захіхікаў:

— Хе-хе-хе, семсот чарцей, генеральная рэпетыцыя?

Таня збянтэжылася і ўцякла, а я, падміргнуўшы Майсею, накіраваўся ў залу. У зале весела ззялі 8 газавых лямп.

На лаўках сядзела некалькі чалавек і з цікавасцю назіралі за ўваходнымі дзвярыма, толькі доктар у першым радзе сядзеў, абапёршыся падбародкам на набалдашнік сваёй тоўстай палкі, і не звяртаў ніякай увагі на наваколльнае.

Упускалі публіку. Ля дзвярэй не сціхаў шум.

Сашка штурхаў напіраўшую публіку назад і крычаў:

— На-за-а-ад! Чаго прэцеся, чэрці, усе паспееце. Уваходзь па аднаму, каторыя з білетамі. Твой білет!—схапіў ён за плячо хлопца ў вышытай кашулі.

— Кінь ты, Сашка.

— Не магу, вярніся, Федзька.

— Сашка, я пад сценачкай.

— Федзька, не магу, адно слова.

— Сашка...

— Асадзі...

— Ну, пачакай, гад, запомні гэты дзень.

Так Сашка страціў друга.

— Гэй, ты, кірпаты, пускаць хутчэй!—крычалі ззаду.

— Усе прадаў, яшчэ патрабуюць, чорт вазьмі.

У залу праціскаўся ззяючы Жорж.

— Давай яшчэ надрукуем,—прапанаваў я.

— А пячатка?

— Усё ёсць.

Мы аддрукавалі яшчэ 50 білетаў і Жорж прадаваў іх па 30 капеяк.

За заслонай Майсей званіў.

## VII

Мы з Жоржам сядзелі за левай дэкарацыяй, трымаючы ў руках настроены аркестр—гітару і балалайку. Па пустой сцэне, што малявала вуліцу украінскага сяла з калодзежам і сапраўдным слямечнікам, мітусіўся Майсей, яшчэ не апрануты і штохвіліны пазіраў у зал праз дзірачку у заслоне. У зале тупацелі нагамі, свісталі, крычалі «па-ра» і стукаў палкай аб падлогу доктар.

— Ну, ты, чарцянё, глядзі мне, як толькі Людміла Іванаўна скончыць—спушчай заслону,—вучыў спешна Майсей рабаватага хлапчука, які важна трымаўся за вяроўкі заслоны.

— Не бойся, не першы раз.

— Як аркестр?—падляцеў і да нас антрэпрэнер.

— На хаду,—запэўнілі мы.

Майсей выскачыў на сярэдзіну сцэны, падняў руку і, у момант, калі шум у зале ўзмоцніўся яшчэ болей, скамандваў:

— Пачынаем!—і пабег за кулісы.

Павольна узнялася заслона і шум пачаў хутка сціхаць. Скрозь вялікую шчыліну я ўбачыў масу людскіх галоў, кінуўся ў вочы доктар, які спакойна здымаў свой капялюш.

Сашка зачыніў дзверы.

У зале збавілі святла.

Нехта закашляўся і раптам стала незвычайна ціха. Неяк няўпэўнена Жорж пачаў уступную мелодыю, хвалюючыся і я пачаў яму акампаніраваць.

Я іграў, не зводзячы вачэй з правай дэкарацыі, адкуль павінна была выйсці Таня ў ролі Наталкі. Вось яна паявілася, з вёдрамі ў руках і я пачуў выразны шопат Майсея:

— Каромысла забылі, трыста дзесяць чарцей!

Таня падышла да калодзежа, паставіла вёдры і заспявала:

Віюць вітры, віюць буйны
Аж дэрэва гнуцца...

Яна спявала безумоўна добра, голас не вялікі, але мяккі, крыху вібрыраваў ад хвалявання, але ад гэтага выходзіла яшчэ лепш.

У зале пранёсся шумок адабрэння.

... Ой, як болыць мае сэрца,
Самі слёзы ллюцца...

— спявала Таня.

Я горда зірнуў на Замукевіча і прашаптаў:

— Вось бачыш, як мы спяваем.

— Мы пахалі,—шапнуў ён у адказ.

У сярэдзіне арыі, калі Таня ўвайшла ў ролю і спявала так хораша, што нават Замукевіч пачаў усміхацца, а ў зале запанавала ідэальная цішыня, раптам пачуўся жаласны енк.

— Сашка, пусці... Сам пайду...

Гэта заўзяты Сашка выводзіў зайца.

У публіцы раздаўся дружны смех. Урачыстасць хвіліны была сарвана і я зненавідзеў у гэты момант галоўнага распарадчыка—Сашку.

Таня дасадліва нахмурыла бровы і ўжо наспех дакончыла арыю. Тым не менш ёй дружна апладыравалі.

Выхад Майсея ў ролі вознага быў сустрэты невыказным шумам захаплення. І сапраўды, нельга было не смяяцца. Майсей пастараўся, ён наклеіў сабе даўгую і вузкую бараду, якая загіналася сярпом угору, акрамя таго ён наклеіў чырвоную шышку на нос і надзеў парык з велізарным кокам. Апрануты ён быў у нейкі доўгі

і вузкі казакін зялёнага колеру, з-пад якога відаць былі клетчатыя штаны. На шыі красаваўся аранжавы шарф з пышным бантам.

Мы таксама разрагаталіся і забылі уступны акорд. Майсей страшна павёў вачыма і зацягнуў арыю без акампанемента.

Спяваў Майсей гугнява, зацягваў словы, так што атрымоўвалася, як у дзячка.

— Як поп спявае,—пачулася ў публіцы, але выканаўца паводзіў вачыма і прадаўжаў спяваць.

З няменшым захапленнем сустрэла публіка Мікалая, які яшчэ за кулісамі зацягнуў сваю арыю.

І дзід руды і баба руда...—і вядома, без усякага акампанемента, так што нам прышлося лавіць яго тон.

Руды, па украінску азначае—рыжы, а Мікалая ўсё сяло ведала рыжым з малых год, і цяпер, калі ён заспяваў пра рыжага дзеда і бабу і паявіўся на сцэне з ярка-чырвонай фізіяноміяй і велізарнымі наклеенымі вусішчамі, публіка прышла ў захапленне, і Мікалаю пасыпаўся град апладысментаў адразу-ж пасля першага куплета. Заахвочаны Мікалай зароў на ўсё горла другі куплет.

Ішлі ляхі на два шляхі,
а татары на чатыры...

Ён што называецца, увайшоў у раж, трос галавой, размахваў рукамі і разы са два нават нагой прыстукнуў. Раптам адбылося нечуванае. Велізарныя вусы спярша адвіслі з аднаго боку, а потым адарваліся і, каўзануўшыся па яркім жупане, упалі дадолу... Пан выбарны прадаўжаў спяваць, нават не заўважыўшы катастрофы.

Зал палягаў з рогату, я бачыў, як людзі хапаліся за жываты і енчылі, не могучы далей смяяцца. Мікалай, нічога не заўважаючы, прадаўжаў сваю пякельную вакалізу.

Майсей падышоў да яго ззаду і зашаптаў:

— Вусы падымі, рыжы чорт!

Той спалохаўшыся, замоўк і, убачыўшы свае вусы доле, хутка падняў іх і сунуў у кішэню.

Гэта выклікала новы выбух рогату ў зале, і зусім разгублены Мікалай выхапіў вусы з кішэні, адвярнуўся і, пapляваўшы на іх, зноў прыклеіў на належнае месца. У зале крычалі і свісталі ад здавальнення, і раз'юшаны Майсей апусціў заслону пасярод дзеі.

— Чым ты, чорт, вусы клеіў?—крычаў Майсей.

— Чым, лакам,—збянтэжана апраўдваўся Мікалай.

— Чым, лакам! передражніў яго Майсей, ідзі зараз-жа і пераклей нанава, ды не сам, а няхай Цімох. Цімох, прышпандыр яму так, каб адарваў толькі заўтра ўвечары.

— Будзь спакойны.

Скончылі дзею ўдачліва.

У антракце я сунуўся было да Тані, але атрымаўшы рэзкі адпор, пайшоў у зал. У зале стаяў туман ад густога табачнага дыму, у якім цьмяна мігцелі сем лямп, бо ў восьмай трэснула шкло.

Каля мацеры і Ленкі стаяў мастак і распісваў пастаноўку «Наталкі-Палтаўкі» ў Кіеве. Вочкі ў Ленкі гарэлі.

Мяне абурыла ўтаржэнне мастака ў маю сям'ю і я, адазваўшы Ленку, зашаптаў ёй:

— Прагані гэтага ідыёта, а то мы яму наладзім сёння каменны дожджык.

— Папрабуй толькі што падстроіць, я табе падстрою наконт Тані.

Я скрыгануўшы зубамі адышоў.

У дзверы ламаліся безбілетныя і зусім ахрыплы Сашка малаціў кулакамі направа і налева:

— Назад!

Яму актыўна памагалі два добраахвотнікі з публікі, ахвочыя да шуму, а сядзеўшыя ў зале не адважыліся выйсці, баючыся што не пусцяць назад.

У зале залівауся гармонік і некалькі пар вытанцоўвалі кракавяк. Тут панавала сапраўдная весялосць. Паміж парамі таўкліся хлапчукі, стараючыся збіць з такту, і танцуючыя налаўчыліся на хаду даваць сваво́льнікам у каршэнь.

Нечакана гарманіст перайшоў на задорны гапак і ў круг вышлі дзяўчына і хлапец. Дзяўчына дробна перабірала нагамі і плыла, памахваючы хусцінкай, а хлапец кружыў вакол яе ўпрысядкі, спрытна выкідваючы ногі ўперад і ўбакі. Гэтую пару змяніла другая, а потым пачалі танцаваць адразу дзве пары, а публіка дружна пляскала ў далоні. Так весяліліся да пачатку другой дзеі.

---

У другой дзеі Наталка спявае тужлівую і меладычную арыю «Чагось вада каламутна»... Гэтай арыі я акампаніраваў адзін, а Жорж маўчаў са сваёй балалайкай.

Таня спявала з пачуццём, можа ў гэты момант яна думала пра мяне, можа гэтая думка пра мяне натхняла яе.

У момант, калі яна толькі скончыла спяваць і ў зале яшчэ стаяла шчаслівая цішыня, калі публіка не вышла яшчэ з летуцення, навеянага таніным голасам і словамі тужлівай арыі, у гэты благародны момант з двара раптам раздаўся немы крык:

— Пажа-а-ар!

І ў зале пачалося сталпатварэнне вавілонскае. Публіка ў страшэннай паніцы кінулася да адзіных дзвярэй і адтуль пачуўся лямант перапалоханых жанчын, плач дзяцей і мужчынская лаянка.

Найбольш хладнакроўныя гледачы палезлі на сцэну, каб выйсці праз артыстычны выхад.

На сцэну выскачыў Майсей і што ставала сілы закрычаў:

— Таварышы, ніякага пажару няма, гэта безбілетныя жартуюць. Сядайце, будзем прадаўжаць.

Гледачы недаверліва супакоіліся і пачалі садзіцца, а з двара пад шумок увайшлі ўсе безбілетныя.

Дзею пачалі нанава.

Настаў момант выхаду на сцэну Мікалая, але той чамусьці не паяўляўся. Таня і Ольга Іванаўна сядзелі моўчкі на сцэне, а Людміла хвалявалася ў суфлёрскай будцы, гучна шаптала:

— Выбарны, выбарны...

Раптам з трэскам адчыніліся дзверы і на сцэну выскачыў Мікалай, атрымаўшы ад раз'юшанага Майсея здаровага таўхіля за прапушчаны выхад. Адно імгненне ўсе бачылі антрэпрэнерскую нагу ў ярка клятчатай штаніне.

Гэты інцыдэнт разагнаў пажарны настрой і ў зале рассмяяліся.

Высвятлілася, што Мікалай слаба ведаў сваю роль у гэтай дзеі, ён сядзеў на табурэтцы, уставіўшы вочы на суфлёрскую будку, хапаючы на ляту людміліны рэплікі.

— Вы жывеце бедна,—суфліравала Людміла.

— Вы жуяце... бледна...—перакручваў Мікалай, хаця публіка, здаецца, не заўважвала і другая дзея закончылася пры дружных апладысментах.

У трэцяй дзеі на сцэну вышаў настаўнік у ролі Пятра і, крыўляючыся, як італьянскі тэнар, заспяваў арыю «Сонца нізенька» пад наш акампанемент. У час спявання ён ламаў пальцы, прыкладваў рукі да грудзей, падыходзіў да самай рампы, наогул яўна падхалімстваваў перад публікай. Яму апладыравалі, нехта свіснуў, настаўнік выходзіў кланяцца, а доктар выкрыкнуў:

— Брава, Буянскі!..

Яшчэ ў антракце Мікалай рашыў крышку выпіць для храбрасці з загадзя падрыхтаванай бутылкі. Паколькі ў трэцяй дзеі яны з Майсеям павінны былі паказваць п'яных, дык ён рэзонна разважыў, што прыкметна не будзе, што будзе нават лепш, і хапіў, што называецца. Ад духаты і хвалявання ён хутка ахмялеў і вышаў на сцэну зусім п'яным. Ясна, што паказваў ён п'янага лепш любога славутага трагіка і было вельмі рэальна, толькі праз некалькі мінут ён замест патрэбнай рэплікі панёс неўяўную бязглуздзіцу. Усе зразумелі ў чым справа, і ў зале стала весела.

— Майсей... чорт... Ты думаеш, я спяваць не ўмею... га? Ого-го... Публіка ўсё разумее... Публіка хоча выпіць... Я магу спяваць як... Са-гайдачны...—і раптам заявіў.

— Я пляваць хачу на п'есу, я хачу гуляць.

Тут ён зачапіўся нагой за табурэтку і бразнуўся на падлогу.

На вачах усіх з суфлёрскай будкі вылезла з плачам сантыментальная Людміла.

Майсей стаяў ля рампы, як статуя, а потым, сарваўшы бараду і шышку з носа, узняў руку і трагічна сказаў:

— Хуліган і п'яніца сарваў нам пастаноўку, але яго ўчынак не ганьбіць нашага калектыва. Нам гэта вельмі прыкра. Мы паставім «Палтаўку» другім разам, без гэтага рыжага п'яніцы. Да пабачэння, у новым тэатры, таварышы.

Яму бурна апладыравалі.

Рабаваты хлапчук спусціў заслону і публіка паваліла дадому.

## VIII

Скончыўся адпачынак. На клумбах адцвіталі астры, але дні яшчэ былі гарачыя і ў паветры насіліся белыя ніткі павуціння, «бабіна лета». Мы па ранейшаму купаліся і гулялі ў піонерскіх лагерах у валейбол, але ўжо адчувалася некаторая заклапочанасць, давала сябе знаць сабраная энергія, хацелася працаваць.

У апошні вечар мы, захапіўшы гітару, паехалі катацца на лодцы, хацелася развітацца з Дзясной.

На вёслах сядзеў Замукевіч, на карме кіравала Лена, каля яе прымасціўся мастак Ціма, на сярэдняй лаўцы сядзеў я з гітарай, а побач са мной, ну, вядома, Таня. Я іграў, усе хорам спявалі.

Пад лодкай булькала вада, справа на вадзе калыхаўся залаты слуп—адбітак месяца. На левым беразе цёмнай масай стаялі дрэвы...

— Ітак, вы ад'язджаеце,—сумна сказаў Жорж, калі мы скончылі спяваць.

— Але мы зноў прыедзем, Жорж, праз год,—усцешыў я.

— Ізноў будзем ставіць якую-небудзь п'есу,—дадала Таня.

Мастак яхідна ўставіў:

— Вядомую «Наталку-Палтаўку».

Я ўскіпеў.

— І гэтую, і другія паставім, чуў, набіраецца калгасны драмгурток, Майсей з імі за зіму такое падрыхтуе, што нам і не снілася. У новым тэатры, ды з электрычнасцю.

— І вядома, што ўжо без воўны, сапраўдны грым будзе,—дапамагла мне Таня.—Мяне Майсей прасіў прысланць з Кіева. Паслухайце, якіх п'ес—«Любоў Яравая», «Запарожац за Дунаем»...

— Так, мы думаем узяцца ўсур'ёз,—перарваў яе Жорж,—Макошына можа даць харошых артыстаў... Адзін Майсей чаго варты, а колькі ёсць моладзі, якая жадае...

Лодка плыла паўз бераг, чапляючыся за густую лазу... Далёка была відаць другая лодка, адтуль таксама чуліся гукі гітары... і раптам там нехта заспяваў. Дужы, упэўнены голас гулка пракаціўся паміж ціхімі берагамі, песня паляцела над вадой, над паплавамі, завінела над заснуўшымі таполямі.

... Я паглядзеў на Таню і ў гэты момант яна здалася мне неяк бліжэй чым заўсёды. Я паціху ўзяў яе за руку. Мая ласка была прынята і я ў адказ адчуў яе поціск.

Сакавік, 1939 г.
г. Гомель

---

*М. Ільінскі*

# ЧАЛАВЕЧАК У ШТОНІКАХ

*(Гісторыя аднае кар'еры)*

## I. Чалавечак

Мы маглі-б намаляваць вельмі дэталёвы яго партрэт, але, памятаючы мудры сказ: «Трымайся за асноўнае», звернем вашу ўвагу, чытач, на самую цікавую і безумоўна індывідуальную асаблівасць чалавечка—на яго ні-то мультановыя, ні-то паркалёвыя штонікі, узора дзетдома эпохі ваеннага комунізма, якія, ва ўсе перыяды рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва і ва ўсе часы года кожнага з гэтых перыядаў, нязменна матляліся на яго кароценькіх і тоненькіх ножках. Апроч своеасаблівага аблічча штонікі гэтыя ўладалі якасцю, як барометр надвор'е, паказваць настроі і адчуванні чалавечка. Кожны больш-менш уважлівы назіральнік мог, прыглядаючыся да паводзін штонікаў, беспамылкова сказаць,— што адчувае, што думае, а, нават, і што збіраецца рабіць чалавечак.

Другой, не менш індывідуальнай, але менш пастаяннай асаблівасцю чалавечка была, відаць, прыродная лятуценнасць натуры. Дзякуючы гэтай рысе характара чалавечак, стоячы што дня за стойкай памочніка правізара ў Першай і адзінай совецкай аптэцы гарадка № і, паглядаючы час-ад-часу праз прастрэленае яшчэ ў весну 17-га года саматужным анархістам Галамаўзей [1]) вакно, карыстаўся кожным выпадкам, каб унесціся на крыллях лятуцення, як кажуць паэты, у краіны казачных фантазій.

Але не падумайце, дарагі чытач, што чалавечак уладаў фантазіяй,—не. Проста кожны прахожы выклікаў у яго вузенькім чэрапе шэраг думак, якія нязменна спалучалі яго асобу з гэтым прахожым; і ў той час, калі рукі змешвалі розныя хімікаліі, ствараючы пілюлі і кроплі, свядомасць выскаквала праз войстранькія, нібы чорныя бісерынкі, вочкі і крочыла па вуліцы. Так, убачыўшы хворую хранічнай наіўнасцю грамадзянку Канапкіну, чалавечак уяўляў, што яе дзевяціпудовы муж труціцца кілбасой уласнага вырабу, а ён, ажаніўшыся з гэтай пульхнай нэпманкай, прыбірае да

---

**[1]) Гэты акт быў накіраваны Галамаўзей супроць правізара Сакаловіча, які мужна адмовіўся выдаць яму без рэцепта стопку спірытусу. На шчасце, куля з „бульдога“, прабіўшы акно, расплюскалася аб таўсты шкляны корак бутэлькі, якая стаяла паміж акном і Сакаловічам і апошні застаўся жыць і тварыць парашкі і мікстуры.**

рук кілбасную гаспадарку, наладжвае шыкознае жыццё... Фантазія нястрымна неслася ўслед за Канапкінай, але... міма акна праходзіў начальнік мясцовай міліцыі—Дужкін і чалавечак ужо ўяўляў сябе на яго месцы. Ён бачыў лятуценнымі вачамі, як, спрытна выкарыстоўваючы сваё службовае становішча і значную адлегласць ад акруговага і рэспубліканскага цэнтраў, спраўна бярэ хабары з мясцовых нэпманаў. Бачыў, як нізка і лісліва яны яму кланяюцца, але... Міма акна ішоў дзядзька Бульбянік, і мары чалавечка набывалі такі імпэт і памеры, што замест 0,6 іпекакуаны—валіў 6,0 і замест 5,0 тынктуры опія—25,0...

Вынікі атрымліваліся самыя нечаканыя. Пацыент, глынуўшы конскую дозу іпекакуаны, замест палёгкі ў кашлі,—драў козлы; другі, выпіўшы для супакаення болю ў жываце опія, засынаў і так моцна, што яго не маглі дабудзіцца і вінавацілі ў прыходзе на работу ў п'яным выглядзе...

Да часу ўсё гэта чалавечку сходзіла з рук, бо ўсе гэтыя вынікі спалучэння лятуценнай натуры з прафесіяй памочніка правізара мясцовы лекар Перапечка прыпісваў недасканаласці чалавечай натуры.

Але... «да пары збан ваду носіць». Так, аднойчы, прышла бяда і на чалавечка ў штоніках.

## II. Дужкін

Свае крыміналістычныя здольнасці Дужкін выявіў яшчэ ў семнаццатым годзе, злавіўшы з палічным аднаго бежанца, які ўкраў у яго баханак хлеба. Было гэта ў суседнім з №-і раёным цэнтры, дзе ў Дужкіна была саматужная хлебапякарня.

Паколькі хлеб пёк ён сам, пры дапамозе толькі аднаго работніка—хлапчука год шаснаццаці, які толькі таго і рабіў, што цягаў ваду, муку, калоў дровы, мясіў цеста, паліў у печы, выграбаў з яе жар, ды падмятаў падлогу, то Дужкін лічыў сябе рабочым чалавекам і патомственным пролетарыем, бо бацька яго таксама быў пекарам-саматужнікам.

Гэтае перакананне, відаць, і было прычынай знаходжання Дужкіна ў нейкай нацыянал-народніцкай, прабачце, чытач, партыі, ячэйку якой ён прабаваў стварыць у сваім родным мястэчку, але, паколькі прыхільнікаў не знайшлося, справа гэтая заглохла, а пазней ён і сам стараўся каб успаміны аб ёй зніклі з людской памяці, кажучы, што «успамін не ў пару—горш хваробы». Разам з усім гэтым Дужкін лічыў сябе кармільцам мястэчка і добрадзеям вакольных «мужыкоў», бо што сапраўды рабілі-б яны са сваім хлебам, каб не было яго—Дужкіна.

Такія высокія думы аб сваёй асобе, а, галоўнае, цвёрдыя цэны на хлеб зрабілі тое, што ён аднойчы перадаў сваю пякарню з інвентаром харчоваму аддзелу рэўкома і за такі самахвярны ўчынак атрымаў магчымасць змяніць пекарскую лапату на міліцэйскі наган.

Праслізнуўшы такім чынам на больш шырокі жыццёвы шлях, Дужкін, ездзячы аднойчы па барацьбе з самагонам, ажаніўся з

дачкой аднаго аграрыя, які раней дастаўляў яму ў пякарню муку, а зараз цісну́ў з яе самагон. І вось, пасля тыдня ўзмоцненай барацьбы з гэтым самагонам, Дужкін вярнуўся ў роднае мястэчка з апухшым тварам і маладою жонкай, якая, паводле ўсіх папярэдніх паказальнікаў, павінна была з часам дагнаць, а то і перагнаць свайго бацьку і вагой, і кемкасцю.

Ажаніўшыся, Дужкін адчуў, што яму для поўнага шчасця, а галоўнае, для ўпэўненасці ў далейшым росце і росквіце не хапае толькі адпаведнага рухавіка, які ён бачыў у... партбілеце.

Ён падзяліўся сваімі ганарлівымі марамі з жонкай і тая, з уласцівай ёй прыроднай, чорназёмнай вынаходлівасцю, параіла мужу пераехаць у суседні раён N, дзе партыйным жыццём кіраваў Бульбянік, па водзывах тамтэйшых аграрыеў, чалавек вельмі спагадны і лагодны.

## III. Бульбянік

Ён чамусьці лічыў сябе сынам народа. Магчыма, упэўненасць гэта вырастала з ранейшай прыналежнасці да нейкай нацыянал-народніцкай, прабачце, партыі, што ў часе нашага апавядання ён вельмі старанна захоўваў і ад кампартыі, у якой часова знаходзіўся, і ад падпарадкаваных яму комуністаў. Мы лічым гэта самым верагодным тлумачэннем, бо і бацькі, і дзяды, і сваякі Бульбяніка былі слуцкімі аграрыямі-хутаранамі, якія значна больш супольнага мелі з шчыра любімымі імі свінямі, каровамі, ды племяннымі жарабцамі, чымсьці з народам, на які яны глядзелі выключна з меркантыльнага пункту гледжання. І наўспрэч запэўненням нейкага даматканага філосафа: «з міру па нітцы—голаму вяроўка», казалі: «з голых па нітцы—надзетаму кашулька».

Выходзячы з гэтага эканамічнага меркавання Бульбянік быў упэўнены, што чым больш будзе голых, тым больш і надзетых, і шчыра турбуючыся аб апошніх, старанна імкнуўся павялічыць лік першых. Для гэтай мэты ён упарта даводзіў, што ні сакаўскі плуг, ні трактар не адпавядаюць прыродна-геаграфічным ды кліматычным асаблівасцям раёна. Ён захапляўся і ўсхваляў залаты век старажытнасці з яго дзедаўскай сахой, трахполкай, лазовымі лапцямі, каўтуном ды мякінным хлебам, кажучы, што без гэтых асаблівасцей народ зусім і не народ, а нешта азіяцкае. Не абмежаваўшы гэтым свае турботы аб «надзетых», Бульбянік вельмі старанна ўзіраўся на здабыткі заходне-еўрапейскай культуры і захоплены яе праявай—дацкімі хутарамі, вельмі старанна насаджваў іх на абшарах раёна; і робячы выгляд, што не чуе, як «голыя» клянуць гэтую «культуру», казаў, што не мае права супярэчыць народнаму імкненню да такой формы землекарыстання, здольнай цалкам задаволіць своеасаблівыя нацыянал-індывідуалістычныя ды індывідуал-псіхалагічныя рысы народа, пад якім разумеў выключна «надзетых»—аграрыеў.

У сваіх турботах аб гэтых «рысах» Бульбянік старанна захоўваў у народнай мове такія тэрміны, і ўзбагаціў яе такімі новатво-

рамі і варварызмамі, якія шануючы чытача і крытыку мы не рызыкуем тут прывесці.

Апроч гэтых асаблівасцей дзейнасць Бульбяніка вызначалася надзвычайнай рашучасцю і паслядоўнасцю.

Ён вельмі рашуча ліквідаваў усялякія праявы незадавальнення яго чыннасцю з боку «голых»—бясконнікаў і падпарадкаваных партработнікаў; і вельмі паслядоўна выжываў апошніх з раёна, ці шматлікімі: «паставіць на ўвагу», «абвясціць вымову», заганяў іх у казіны рог, дзе яны, альбо паныла сядзелі, альбо пацiханьку стараліся на практычнай рабоце абвергнуць тэарэтычныя і практычныя пабудовы Бульбяніка.

Праўда, знаходзіліся сярод іх і такія, што ўпарта не скараліся і зварочваліся ў цэнтр. Але Бульбянік меў там моцнае падтрыманне некаторых вельмі ў той час уплывовых асоб і ўдары, накіраваныя супроць яго, падалі на галовы тых, што накіроўвалі іх, пры чым Бульбянік казаў: «сам нагатаваў—сам і сёрбай».

Захоплены такой рашучай і паслядоўнай дзейнасцю, Бульбянік пачаў ужо бачыць у сне, што насельніцтва №-скага раёна гаворыць на такой «нацыянальнай» кондавай мове, што яго не разумее нават сам Бульбянік, не кажучы пра жыхароў суседніх раёнаў. Усе апрануты ў зрэбніну; абуты ў лыкі. На нівах больш васількоў, чым каласкоў. Няма ні сёл, ні вёсак і сам дзяржаўны муж Сталыпін, устаўшы з дамавіны ляпае яго па плячы і кажа: «малайчына, Бульбянік! Лепш не ўправіўся-б і я». Што тычыцца раённых працаўнікоў, дык яны падабраны выключна з людзей, якія цалкам падзяляюць яго погляды і пераконанні, і яму застаецца толькі сказаць: «Глядзі, адпачывай, асаладжайся!»

## IV. Трапная парада

Дужкіну не прышлося каяцца паслухаўшы жончынай парады, якая была вельмі своечасовай, бо начальнік Дужкіна ў родным раёне пачаў ужо касавурыцца, ды вельмі і вельмі старанна прыглядацца да яго міліцэйскай дзейнасці, што пагражала шматлікімі непрыемнасцямі.

І вось Дужкін, перабраўшыся ў №, вельмі шпарка давёў Бульбяніку сваю лаяльнасць да яго палітыкі і пры яго кіраўнічым падтрыманні вельмі спрытна абышоў партарганізацыю і ў вельмі хуткім часе, ужо з партбілетам у кішэні гімнасцёркі з аграмадным кольтам у кабуры, працаваў пад кіраўніцтвам Бульбяніка на пасадзе начальніка раённай міліцыі.

Так дзякуючы трапнай парадзе жонкі і прыхільнасці Бульбяніка пачаў квітнець Дужкін на фоне шматлікіх садоў №.

Квітнела і прыбывала ў вазе яго жонка. К пачатку нашага апавядання, яна пры ўсёй кволасці і чуллівасці свае натуры важыла ўжо цэнтнер і пятнаццаць кілограм, і, удасканаліўшы такім чынам свае фізічныя якасці, старанна рупілася аб удасканаленні культуры, бяручы лекцыі французскай мовы ў настаўніка мясцовай школы другой ступені.

## V. Трывога

Аднак, усё на свеце мае свой канец, і ў сям'ю Дужкіна прасякла трывога і парушыла спакой мадам Дужкінай [1]).

Не гледзячы на тое, што мадам Дужкіна лічыла першы перыяд НЭП'а канчальнай фармацыяй грамадскага ладу, народ на чале з партыяй прызнаваў такі стан рэчаў пераходным і пачаў ужо рашуча на яго наступаць. Вынікі гэтага наступу для мадам Дужкінай былі самыя непрыемныя:—яе бацьку—аграрыя, раптам, абклалі такім ураўніцельным падаткам, што, калі-б ён яго заплаціў, дык прышлося-б аддаць палову прыбыткаў. Зразумела, калі-б гэтыя прыбыткі былі нязначныя, дык—«аб чым гутарыць!», але прыбыткі былі вялікія і... «аддаць палову іх, ліха ведае за што!...»

Абурэнне мадам Дужкінай было тым больш справядлівым, што ў N-скім раёне, на чале жыцця якога стаяў Бульбянік, а на чале міліцыі—яе муж, усё было гладка, ціха, спакойна: «адны працуюць, другія набываюць—усё, як належыць». А тут побач—у суседнім раёне, ды не толькі ў суседнім, але скроз: «нейкія непрыемныя, колкія людзі пачынаюць уціскаць яе бацьку, нішчыць такое лагоднае і зразумелае жыццё, нібы зноў да ваеннага комунізма павярнуць усё хочуць!»

Мадам Дужкіна так расхвалявалася, што Перапечка вымушаны быў прыпісаць ёй кроплі.

На нашу думку кроплі гэтыя не супакоілі-б дзейнасці доччага сэрца мадам Дужкінай. Але затое нам вядома, што яны былі тым колам гісторыі, якое падхапіла чалавечка ў штоніках і закруціла яго так!.. што гэтым кроплям прыдзецца прысвяціць асобны раздзел.

## VI. Кропля кротонавага масла

Перапечка прыпісаў мадам Дужкінай страфант, а чалавечак, марачы аб тым, што-б ён рабіў, што-б еў і як-бы спаў, калі-б быў на месцы Бульбяніка, наліў у спірытус, на якім гатаваў кроплі,—кротонавага масла.

Вынік гэтай няўважлівасці быў раптоўны і патрасаючы. Не паспела мадам Дужкіна, прыняўшы кроплі прылегчы на канапу, як адчула, што ў чэраве ў яе—вулкан...

Што было далей мы не бярэмся апісаць. Можам толькі пераказаць са слоў відавочнікаў, што пасля гэтых сэрцасупакайваючых кропель яна страціла тыя пятнаццаць кілограм, якія перавышалі цэнтнер яе асноўнае вагі.

Выкліканы дамоў Дужкін, убачыўшы сваю кемлівую жонку ў такім жаласным і зняважлівым стане, у адзін момант з лагоднага хабарніка ператварыўся ў агнявік, палаючы гневам, абурэннем і помстай, і з крыміналістычнай праніклівасцю рынуўся... не да Перапечкі, у медычныя здольнасці якога ён свята верыў пасля таго, як той вельмі ўдала выціснуў скулячку на адным з невыгодных

[1]) Так называлі яе мясцовыя гандляры, прыносячы, разам з просьбай не вельмі націскаць са спагнаннем падаткаў, такія-сякія спажыўныя рэчы.

месц яго начальніцкага цела, але ў аптэку. І ў той момант, калі чалавечак, плаваючы ў прыемных хвалях чарговай мары, сыпаў у ступку замест цукровай пудры гемароідальны парашок, Дужкін хапіў яго за каршэнь і затрос перад яго збялеўшым носікам кулаком з зацятымі ў ім бутэлечкай і рэцэптам.

## VII. „Гэта не я!“

Чалавечак без слоў зразумеў у чым рэч. Штонікі яго падскочылі, затрэсліся і закруціліся жгутом. Ён так перапалохаўся, што мог толькі махаць ручкамі і галасіць: «Гэта не я! Не я, не я!».

«Не я!»—крычаў ён, пакуль яго валаклі ў міліцыю, і ў міліцыі, і на допыце, які праводзіў сам Дужкін, бачучы ў здарэнні замах на жыццё жонкі.

Гэтае бясконцае і ўпартае «не я» прымусіла Дужкіна паставіць пытанне рубам: «А хто?»

Чалавечак змоўк.

«Хто!?»—крыкнуў Дужкін і стукнуў па стале кулаком.

Крык і стук вярнулі чалавечку здольнасць разважаць. У мазгу бліснула ратаўнічая думка і ён ледзь чутна пралапатаў:

«Гэта не я—гэта Сакаловіч».

Чалавечак быў адпушчаны і пачалося следства па ўсіх правілах папяровай валакіты: з допытам, даведкамі, сведкамі, пратаколамі, з адхіленнем Сакаловіча ад работы, з падпіскай аб невыездзе.

## VIII. Вакса і чалавек

Па гарадку папаўзлі пэўныя чуткі, што Сакаловіч рабіў замах на Дужкіна, але атруту памылкова выпіла яго жонка і засталася жыва толькі дзякуючы сваёй выдатнай камплекцыі.

З прычыны такіх чутак быў скліканы тэрміновы сход мясцкома медсанпрацаўнікоў.

Штонікі чалавечка ўсё яшчэ трэсліся і прымушалі яго інтэнсіўна думаць, як адвесці ад сябе ўсялякія падазрэнні. У выніку гэтых дум прышло перакананне, што адзіны яго ратунак у далейшым абвінавачванні Сакаловіча.

І вось на сходзе медсанпрацаўнікоў чалавечак, падбадзёраны развінуўшыміся як сцяг штонікамі, удала давёў, што Сакаловіч чужы элемент, які раней, трэба думаць, быў кампаніёнам былога аптэкара і абгрунтаваў гэта тым, што такі добры правізар не мог работаць за тую мізэрную плату, якую атрымліваў ад аптэкара. Затым выказаў думку, што паміж былым аптэкарам і Сакаловічам былі нейкія патаемныя матэрыяльныя ўзаемаадносіны.

Хаця ўсе добра ведалі ранейшае жыццё Сакаловіча, дабрабыт якога ніколі не ўздымаўся вышэй фаршыраванай шчукі ў святочныя дні, але пытанне профсаюзнасці Сакаловіча павісла на валаску.

Такая ўжо, мусіць, натура чалавечая, што заўсёды прыемна бачыць сябе добрасумленным грамадзянінам, прынамсі хоць крыху лепшым, чым твой таварыш.

Не абмежаваўшыся адным Сакаловічам (апэтыт прыходзіць у

часе ежы), чалавечак абвінаваціў старшыню мясцкома Перапечку і ўсё праўленне ў бяздзейнасці і адсутнасці выхаваўчай работы; і ўсё гэта так трапна, што сход пастанавіў пераабраць праўленне. Перавыбары адбыліся на другі дзень і... чалавечак апынуўся на чале новага праўлення.

Такім чынам, дарагі чытач, хаця Кузьма Пруткоў кажа: «Вакса чэрніць для карысці, а чалавек—для прыемнасці», мы пакарыстаемся выпадкам, каб унесці папраўкі ў гэты афарызм, і ў нашай рэдакцыі гэта будзе: «Вакса чэрніць для карысці чалавечай—чалавек для ўласнай».

## IX. Вынікі і вывады

Тымчасам следства, заблытаўшыся ў сабе самом, спынілася. На нашу думку спынілася яно з тае прычыны, што мадам Дужкіна, часова забыўшыся на свае доччыя пачуцці, пачала актыўна аднаўляць страчаныя пятнаццаць кілаграм. Іменна гэты факт так спрыязна ўплыў на Дужкіна, што Сакаловіч быў вызвалены з-пад следства і мог спакойна беспрацоўнічаць.

Праўда такі стан рэчаў быў кароткатэрміновы, бо акруговае праўленне медсанпрацы адмяніла пастанову мясцкома аб выключэнні Сакаловіча з саюза, а чалавечак, заняўшы яго месца і заблытаўшыся ў рэцэптуры, дазволіў райздраву аднавіць Сакаловіча на рабоце... са зніжанай кваліфікацыяй,—на пасадзе памочніка правізара.

Што тычыцца чалавечка, то, суняўшы трасучку штонікаў, ён, як старшыня мясцкома і правізар, зрабіўся прыкметнай асобай у гарадку і быў ахоплены самымі ганарлівымі марамі, якія ўжо не спалучаліся ні з кім з мясцовых жыхароў, але былі накіраваны ў рэчышча ўласнага вылучэння. Апошняму дапамагаў шэраг каштоўных практычных вывадаў, зробленых чалавечкам з усёй гэтай гісторыі.

Чалавечак зразумеў, што зладзейскі спосаб уцякаючы крычаць: «трымайце злодзея!» можа быць шырока выкарыстаны для захавання ўласных злачынстваў. Шальмуючы таварыша можна тое-сёе на гэтым зарабіць самому і, галоўнае, «не толькі свету, што ў аконцы», і пры адпаведных намаганнях і спрыце можна выйсці ў людзі. Ажыццяўленнем апошняга чалавечак і заняўся з усёй энергіяй, на якую толькі быў здольны, кажучы: «лаві момант,—пакуль самога не злавілі».

## X. Першыя крокі

Трэба было звярнуць на сябе грамадскую ўвагу. Хаця новае праўленне мясцкома нічога не рабіла, як і старое,—у газеце пачалі рэгулярна з'яўляцца інфармацыі аб яго працы і аб дзейнасці яго старшыні. У выніку,—чалавечка пачалі запрашаць на нарады.

За першым крокам паследаваў і другі,—чалавечак пачаў падаваць у газету допісы.

Імкнучыся вылучыць свае артыкулы з шэрагу іншых, чалавечак заўсёды стараўся браць арыгінальную тэму і даць гучны зага-

ловак. І калі кляча мясцовага вадавоза захварэла на каросту, то чалавечак прысвяціў гэтаму здарэнню артыкул, у якім з вялікім пафасам, прынцыповымі абгрунтаваннямі і шырокімі абагульненнямі заклікаў грамадскасць на барацьбу з пошасцю. Артыкул быў надрукаваны ў газеце пад такім выдатным загалоўкам, што грамадзянскае сумленне і павага да чытача не дазваляюць нам цытыраваць гэты шэдэўр пошласці.

Чалавечак быў заўважаны самім Бульбянікам, які пахваліў артыкул і загаловак, а застаўшыся сам-на-сам, доўга з яго рагатаў, хапаючыся за свае моцныя бульбянікаўскія бакі.

Калі на другі дзень рэдактар вельмі ветліва сустрэў чалавечка і сказаў, што яго газетная шапка вельмі спадабалася дзядзьку Бульбяніку, то чалавечак знайшоў той пункт апоры, якога яму да гэтага часу не хапала.

«Эўрыка!»—сказаў ён—«Бульбянік!—вось рэцэпт і мікстура!» Зрабіўшы такое адкрыццё і праслухаўшы адно з рашучых і пасьлядоўных выступленняў Бульбяніка на сходзе, прысвечаным трахсотгоддзю мясцовага друку, чалавечак пачаў насычаць свае артыкулы тэрміналогіяй: «бабулька бацькаўшчына», «Адраджэнне культуры і гаспадаркі», і перавіваць іх паэтычнымі вобразамі «васількі ніў нашых», «зарунела майскімі кветкамі...»

Старанні чалавечка былі заўважаны і на імянінах мадам Дужкінай Бульбянік, пасля эннай чаркі, вельмі прыхільна спытаў чалавечка:

«А скажы, дружа, чаму ты да гэтага часу не ў партыі?»

Штонікі чалавечка падскочылі на жываце, у яго захапіла дух, ён збялеў, пасля пачырванеў і, заікаючыся, залапатаў; што ён:

«Вельмі... але... аднак... канешне...»

«Зробім!»—ляснуў яго пратэктарскі па плячы Бульбянік і, перакуліўшы яшчэ адну чарку, кракнуў, і абвёў прысутных ура-чыстым начальніцкім позіркам.

Лёс чалавечка быў вырашаны. Яму зараз-жа налілі ў чарку, замест гарэлкі, мадэры мясцовага вырабу, на талерку паклалі кавалак смажанага парасяці з начынкай, а праз месяц, дзякуючы стараньням Бульбяніка і Дужкіна, у нагруднай кішэньцы яго талстоўкі прыемна шэлясцеў новенькі партбілет, а сам ён гаварыў: «Дагаджай начальству—дагодзіць і яно табе».

## XI. Рэдактарскае крэсла

Прамінуў тыдзень і чалавек абсталяваўся на рэдактарскім крэсле «Нашага сцяга» [1]), а яго папярэднік быў адпраўлены ў распараджэнне вышэйшай партарганізацыі, якая накіравала яго ў другі раён, таксама рэдактарам, дзе ён па меры сіл і магчымасцей, стараўся праводзіць засвоеную ў №: палітыку Бульбяніка.

---

[1]) Хай чытача не шакіруе назва газеты: „Наш сцяг". Бульбянікаўцы ў гэтае „наш" укладалі сэнс „свой". Так у адным з гарадоў імі быў арганізаваны „Наш тэатр". Апроч таго ў той час яны мелі некаторыя падставы казаць: „Наша акадэмія", „Наш наркамзем", „Наш наркомасветы". Нават, кажучы, „наша партыя", яны мелі на ўвазе не компартыю, але той невялікі лік бульбянікаўцаў, якія выпадкова і часова лічыліся членамі яе.

Зрабіўшыся рэдактарам, чалавечак спачатку нават страціў здольнасць марыць аб далейшай кар'еры, а штонікі яго павіслі нерухомымі і лагоднымі складкамі, нібы кажучы сваім выглядам: «спакой і дабрабыт».

Першы пад рэдактарствам чалавечка нумар газеты вышаў з партрэтам Бульбяніка ў рамцы з паяскоў у крыжыкі і капыцікі на першай паласе. На другой—быў меншы на 12 пунктаў партрэт самаго рэдактара ў рамцы з паяскоў у елачку. Трэба думаць елачка сімвалізавала іманентнасць яго далейшага росту. Увесь тэкст газеты быў перавіты сказамі: «Мы шчырыя бульбянікаўцы... Пад кіраўніцтвам дзядзькі Бульбяніка... Наш правадыр—дзядзька Бульбянік».

Бульбянік самаздаволена ўсміхаўся—чалавечак паціраў шчупленькімі вяснушчатымі ручкамі.

Хаця, час-ад-часу чытаючы цэнтральную газету, чалавечак і бачыў, што ў N-ску робіцца зусім не тое, што ва ўсёй краіне і чаго патрабуе партыя і народ, але жаданне дагадзіць Бульбяніку прымушала яго шпаркім тэмпам напаўняць друкарскія касы газеты шматлікімі заставачкамі і канцовачкамі. Старонкі газеты з кожным днём усё больш і больш стракацелі васількамі, каласкамі, бярозкамі, паяскамі, ды іншымі прадстаўнікамі флоры раёна і вельмі хутка пачалі нагадваць засмечаную пустазеллем ніву, што цалкам адпавядала стану гаспадаркі раёна.

Чалавечак расцвітаў, паводле яго выразу, як вясновая ружа, і, нават, адважыўся ажаніцца.

Хаця ў яго была вялікая спакуса ўзяць дачку аднаго з культурных аграрыеў раёна, але мець такую відную жонку ён не адважыўся і задаволіўся касавурай машыністкай райземаддзела, адной з выдатных якасцей якой была абсалютная індэферэнтнасць да перапісваемага тэксту, дзякуючы чаму яна магла ў часе работы, амаль не блытаючы літар, марыць аб панчохах, сукенках і лодачках.

Чалавечак падцягваў штонікі і, адчуваючы сябе шчаслівым, казаў: «не было-бы шчасця, ды кротонавае масла дапамагло».

## XII. Страх

Аднойчы жонка чалавечка слухаючы ў ложку яго кар'ерыстычныя мары раптам з уласцівай ёй практычнасцю спытала:

— «Ну, а што будзеш рабіць, калі цябе выключаць з партыі?»

— «Як гэта выключаць?»—здзівіўся чалавечак і пераконана дадаў: «Гэта немагчыма».

Больш у той вечар не было сказана ні слова, бо чалавечак змоўк і задумаўся.

На другі дзень штонікі нечакана ўздрыгнулі і чалавечак хапіўся за кішэньку, адчуў пад пальцам цвёрдую вокладку білета і штонікі супакоіліся. Але з гэтага дня чалавечак пачаў сумнявацца ў непарушнасці свайго права на гэтую маленькую кніжачку, дзякуючы якой ён можа так слаўна арудаваць на рэдактарскім крэсле, і яго апанаваў страх.

Спачатку страх выяўляўся толькі ў начных кашмарах. Ён сніў,

што згубіў білет ці, што яго ўкралі, то, раптам, бачыў сябе ў кантрольнай камісіі і страшны голас пытаў: «А дзе вашы рэкамендацыі?!»

Кашмары атруцілі яму сон.

Мокры ад халоднага пота ўскакваў ён сярод начы і палохаў жонку крыкам: «Гэта не я!»

Яму пачало здавацца, што жонка знарок касавурыць, каб захаваць свой пільны назірк за яго паводзінамі.

Ён зашыў сапожнай дратвай кішэньку з партбілетам, але гэта не дапамагло—страх не праходзіў і штонікі бесперапынна трэсліся ад рання і да начы, а, аднойчы, жонка яго заўважыла, што яны трэсліся і ў начы, вісячы на спінцы ложка.

Чалавечак пачаў сачыць за кожным сваім крокам, за кожным словам. Але чым старанней ён гэта рабіў, тым больш дапускаў памылак і ў паводзінах і ў друку. І хаця ніхто гэтых памылак не заўважаў—штонікі беспарадна трэсліся і пагражалі скінуцца.

Каб зрабіць выгляд надмернай занятасці, чалавечак па два тыдні не галіўся, не мыўся і не часаўся; па два месяцы не змяняў бялізны—у рэдакцыі супрацоўнікі і наведвальнікі знаходзілі яго па паху.

Сабраныя за час пачатка ўдалай кар'еры такія-сякія грошы ён забраў з ашчадкасы і зашыў у матрац. Але і гэта не дапамагло—страх не праходзіў.

Асабліва моцна апаноўваў яго страх у часе чытання цэнтральных газет, са старонак якіх патыхала шырокім размахам жыцця з нястрымным рухам наперад, аграмадным будаўніцтвам, перамогамі, дасягненнямі і змаганнем з перашкодамі.

У такія моманты штонікі паўзлі ўніз, пад сэрцам да нудоты смактала і адчуваў ён сябе, як таракан, кінуты на лінію морскага прыбою, калі на яе коціцца чарговая хваля.

У такія моманты ён пачынаў разумець, што варта Бульбяніку пайсці на дно, як яго насягне той самы лёс. Штонікі збіраліся гармонікам, ногі рабіліся мяккія, як з ваты, у роце перасыхала і адзіны свой ратунак ён бачыў у далейшым старанным падтрыманні і ўсхваленні Бульбяніка і бульбянікаўшчыны.

У такія моманты ён падпаўзаў да акна, глядзеў на плошчу, па якой па бруха ў гразі брылі тошчыя свіні мясцовых абываталяў і па калена ў гразі,—мясцовы попік—айцец Анцілопій.

Гэты ідылічны малюнак крыху супакойваў яго, але не надоўга. Як муха ў павуцінні, біўся ён у абдымках страху, высах на лучынку, але... не меў ні сіл, ні жадання адмовіцца ад рэдактарскага крэсла, бо, бадай, не меншай за страх, была прага лезці ўсё далей, усё вышэй, дасягнуць прываблівых верхавін і там ужо, пазбавіўшыся і ад страху, і ад прагі жаданняў, сказаць: «круціся кола гісторыі,—я на калясніцы».

## XIII. Канец Бульбяніка.

Тым часам высвятлілася, што бульбянікаўшчына імкнецца ўплываць на народны рух наперад, прыблізна, як дручок усунуты паміж спіцамі—на рух колаў. Тады органы дыктатуры пралета-

рыята паставіліся да бульбянікаўскіх уплываў досыць крытычна і перасялілі бульбянікаўскіх лідараў у досыць папулярны дом адпачынку.

Вынікі такога прафілактычнага мерапрыемства ў N адчуліся вельмі хутка. На галоў Бульбяніка, страціўшага падтрыманне сяброў з цэнтра, як з меха, пасыпаліся папярэджанні, вымовы і пагрозы. Выявілася, што метады очкаўцірацельства больш не маюць сілы... Бульбянік занепакоіўся і засмуткаваў.

Яшчэ больш занепакоіліся яго раённыя апалагеты. Што тычыцца штонікаў і чалавечка, то іх непакой і страх дасяглі такіх памераў, што большымі, здавалася, ужо і быць не могуць. Жыццё аднак у хуткім часе абвергла апошняе меркаванне і здарылася гэта, калі Бульбяніка выклікалі ў цэнтр, па прыездзе куды ветліва сустрэлі, усадзілі ў машыну і проста з вакзала завезлі да кампаніі сяброў.

Тут, дарагі чытач, траццца нашы дакументальныя дадзеныя аб Бульбяніку і далейшы лёс яго цьмяны. Ды, бадай што, нам яго і не цікава ведаць. Мы ўпэўнены, што аб ім, безумоўна, вельмі ўважліва патурбаваліся, бо паводле некаторых чутак, кажуць, высвятлілася, што замілаванне Бульбяніка да нацыянал-народніцтва і заходняга культурніцтва вынікала выключна з незвычайна цесных, сяброўскіх суадносін з разведкай адной суседняй дзяржавы. Гэта сяброўства, кажуць, было настолькі любоўным і шчырым, што Бульбянік не меў ніякіх сэкрэтаў ад гэтай разведкі, а ўся яго палітыка была вынікам сяброўскага жадання як мага лепш дагадзіць ёй.

## XIV. Штонікі трымцяць

Калі вестка аб лёсе Бульбяніка дайшла да чалавечка, то штонікі ўжо не затрэсліся, але проста затрымцелі і ён перш за ўсё занядужыў на хваробу, якая некалі, дзякуючы яго неўважлівасці і кротонаваму маслу, апанавала мадам Дужкіну.

Хвароба цягнулася два дні. Газета не вышла і тут чалавечак усвядоміў, што такое сапраўдны страх, перад якім усе яго ранейшыя страхі здаваліся зараз дзіцячай гульнёй у Бабу-Ягу. Пластом ляжаў чалавечак на ложку і скамянелымі вочкамі глядзеў на штонікі, якія сударжна ўздрыгвалі пры кожным стуку дзвярмі.

Аднак прыезд новага партыйнага кіраўніка прымусіў чалавечка перамагчы хваробу, нацягнуць штонікі і ратаваць сваю кар'еру і дабрабыт.

Перш за ўсе ён забраў з друкарні ўсе заставачкі і канцовачкі і спаліў іх у сябе пад плітой. Свінец, які застаўся ад гэтага аутада-фэ, ён прадаў мясцоваму саюзу паляўнічых, а грошы, атрыманыя ад гэтай аперацыі, зашыў у матрац.

Другім мерапрыемствам быў выпуск чарговага нумару газеты, у якім, узброіўшыся марксісцкімі ведамі, набытымі з адрыўнога календара і перабудаваўшы свой светапогляд «на хаду»,—па дарозе ад дому да рэдакцыі—чалавечак з усёй пераконанасцю і непрымірымасцю, набытымі ў зносінах з Дужкіным, разграміў Бульбяніка, бульбянікаўцаў і бульбянікаўшчыну.

Аднак гэта чалавечка не супакоіла і штонікі прадаўжалі беспарадна трымцець. Прычынай паглыбляўшай страх было тое, што новы партыйны кіраўнік,—па выгляду чалавек просты і лагодны—распачаў сваю дзейнасць з партыйнай чысткі, якая ішла па ўсёй краіне і толькі ў N не распачыналася яшчэ. Вядома, штонікі трымцелі, і так выразна, што адзін мясцовы жартаўнік сказаў: «відаць, страх горш трасучкі».

## XV. Чыстка

Рэшткі памяці, якія яшчэ не паспеў канчаткова паралізаваць страх, прыгадалі чалавечку першы яго дэбют на грамадскай арэне і наступны нумар газеты быў прысвечаны партыйнай чыстцы. Тут усім успаміналіся ўсе іх памылкі і злачынствы, якія чалавечак здолеў своечасова запісаць у свой дзённік і зараз адтуль выцягнуў. Дзённік гэты быў своеасаблівым кандуітам і меў прыблізна такі выгляд:

1/III. Быў у т. А. Налічыў у яго на ложку 12 нікеліраваных галачак.
— *Разлажэнец*!
3/IV. Т. Б. у канцы сваёй прамовы сказаў: „Няхай жыве наша партыя—крыніца нашага жыцця"!—Якая партыя і аб якім жыцці кажа Б?"—*Двурушнік*.
7/IV. Т. В. у часе пяяння Інтэрнацыянала, кашлянуў.—*Пагарджае Рэволюцыю*.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзённік быў досыць пакойны і, хаця ўсе гэтыя А, Б і В належылі да ліку загнаных Бульбянікам у казіны рог,—газета атрымалася—на славу. Праўда, новы парткіраўнік заўважыў чалавечку:

— «Ты гэта, таго—перасаліў. Нельга-ж сапраўды прышываць Г. разлажэнне за чых у часе жалобнага паседжання. А можа ў чалавека катар быў...»

— «Дысцыплінаваны—стрымайся»,—адказаў чалавечак.

Вынікі партыйнай чысткі для N-скіх бульбянікаўцаў былі жахлівыя. Амаль ніхто з астаўшыхся ў раёне бульбянікаўцаў, апрача Дужкіна і чалавечка, не ўтрымаў партбілета.

Дужкіну, трэба сказаць, проста пашанцавала, бо ў камісіі, нейкім чынам, засядаў былы яго настаўнік і кіраўнік у былой, прабачайце, чытач, нацыянал-народніцкай партыі, нехта па прозвішчу Варчаковы. Як мы ўбачым далей, у яго былі наконт Дужкіна свае меркаванні, а таму ён з усіх сіл і з усёй здольнасцю, вартай заўзятага талмудзіста, абараняў яго і абараніў. Дужкін застаўся ў партыі і яму было прапанавана зараз-жа давесці сваю адданасць ёй на справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі раёна.

Што тычыцца чалавечка, то з ім справа была значна складаней. Камісія была дастаткова загружана работай і чалавечак, паспеўшы

дастаткова намуціць вады і напусціць туману, за якімі зусім схавалася яго аблічча, мог быць адносна спакойны за свой лёс. Але страх усё мацней і мацней сціскаў яго заячае сэрца, усё больш і больш руйнаваў свядомасць і чалавечак пачаў галюцыяніраваць.

Да яго прыходзіў Бульбянік. Чалавечак гутарыў з ім, папракаў, сварыўся, прасіў дарады.

Занепакоеная жонка звярнулася да Перапечкі і той з такой самай лёгкасцю, з якою, выслухаўшы селяніна праз кажух ставіў дыягназ,—выдаў чалавечку пасведчанне аб нервовым растройстве, якое мяжуе з вар'яцтвам і з'яўляецца вынікам launch ператомленасці.

Сукупнасць гэтых абставін зрабіла тое, што чалавечак вельмі лёгка, як на каньках, праскочыў чыстку і вылузаўся з яе, нават, без вымовы і з накіраваннем на работу, якая не вымагала-б нервовага напружання.

Штонікі супакоіліся, чалавечак уздыхнуў і сказаў: «круці, але ўмей і выкручвацца».

## XVI. Поспехі Дужкіна

Пасля доўгай гутаркі з Варчаковым, у часе якой быў распрацаваны дэталёвы план і метады здзеку над народным імкненнем да калектыўнага землекарыстання, Дужкін залажыў у міліцэйскі вазок варанога жарабца Ваську, які досыць даўно ўжо, разам з цесцем аграрыем, яго рухомай маемасцю і нерухомай валютай, перабраўся да Дужкіна на жыхарства; прычапіў да пояса кабуру з аграмадным кольтам, свіснуў і панёс рэканструіраваць сельскую гаспадарку далёкіх сельсоветаў Н-скага раёна.

У той час уся краіна рэканструіравала сваю сельскую гаспадарку вельмі шпарка і паспяхова там, дзе гэтай справай займаліся комуністы і неверагодна шпарка і паспяхова... да галавакружэння— дзе да яе прымазаліся варчакоўцы накшталт Дужкіна, якія валілі ўсё вясковае насельніцтва ў адзін мех з надпісам:

ВЁСКА

і рэкамендавалі трымаць гэты мех завязаным аж да таго часу, пакуль увесь свет не пратворыцца ў рай, а тады ўжо з развязанага меха мужык сам пешчом у гэты рай палезе.

Партыя дала па галаве гэтым дарадцам і іх калматагрываму ідэолагу, якога пазней і зусім выкінула з краіны, як выкідаюць якую небудзь дрэнь на сметнік... Хаця... гэтае параўнанне, бадай што, і няправільнае, бо выкінутая дрэнь, часам, ідзе ў уціль ці на ўгнаенне, гэты-ж, прабачайце, ідэолат, апынуўшыся за межамі краіны, нічога карыснага сваёй асобай не ўгноіў, а толькі псуе паветра, як перапалоханы шашок... Зноў недарэчна!—з шашка таксама карысць—шкурка...

Не, дарагі чытач! Я адмаўляюся прыдумаць якую-небудзь мярзоту, з якой можна было-б параўнаць гэтага вырадка. Хіба толькі адно слова: Троцкі; але-ж гэта не параўнанне, але сам ён.

Аднак, звернемся да Дужкіна, які карыстаючыся Васькам, як транспартам, і кольтам, як аргументам, за два тыдні калектывізаваў 4 сельсоветы, і, патаўсцеўшы на чатыры вяршкі ў поясе, вярнуўся ў раён з вазком, набітым салам, аўсом, ды іншымі спажыўнымі рэчамі, і з партфелем набітым пастановамі аб заснаванні шматлікіх калгасаў. І хаця ўнізе гэтых пастаноў было:

*А за іх непісьменных распісаўся: Пятрусь Дужкін*

... але ў той момант, калі Дужкін бразнуў перад раённым кіраўніцтвам пузаты партфель з гэтымі пастановамі, у кіраўніцтва ад такіх поспехаў закружылася галава. Гэтае галавакружэнне, праўда, хутка прайшло, бо партыя стукнула па гэтай галаве і тыцнула яе носам у вынікі дужкінскай калектывізацыі, убачыўшы якія, галава хапілася за галаву, але не за Дужкіна, які, выкліканы ў цэнтр стараннямі Варчаковага, пакінуўшы цесцю аграрыю сваю кватэру і цесцявага Ваську і захапіўшы сваю жонку і цесцяву валюту, каціў у мяккім вагоне вучыцца ў Акадэмію, аспірантам якой ён ужо лічыўся, дзякуючы стараннямі таго самага Варчаковага і яго сяброў.

## XVII. Падвойны страх

У тым самым цягніку ў цвёрдым вагоне трэсся і чалавечак, які значна раней за Дужкіна выехаў з N.

Выпараўшы з матраца грошы і зашыўшы іх у падушку, з гэтай самай падушкай пад пахай левай рукі і з правай рукой пад пахай у жонкі чалавечак улез у цвёрды вагон і на момант, нават перастаў трэсці штонікамі, небеспадстаўна вырашыўшы, што: «пакуль ёсць бруд—ёсць чым ваду муціць».

Але гэты аптымізм вельмі хутка яго пакінуў і, як толькі ён выехаў з межаў N-скага раёна, страх пачаў павольна лезці ў штонікі.

На кожнай станцыі, у кожным мястэчку, гарадку, нават у вёсцы, праз якія, ці міма якіх, яму давялося ехаць,—былі рыштаванні, цэгла, цамент, вапна... Здавалася, што ўся краіна, усё яе насельніцтва захоплены звышнадзвычайным будаўнічым азартам і толькі штонікі ды ён не прымаюць у гэтым ніякага ўдзелу, стаяць па-за жыццём і ніколі ўжо не знойдуць у ім свайго месца. Гэта палохала чалавечка, прымушала пужліва азірацца, уздрыгваць штонікамі, уцягваць у плечы галаву, нібы на яе валіцца цэгліна з гэтай будоўлі і, неякавеючы ад страху, цмянымі вочкамі глядзець усё на новыя і новыя рыштаванні, груды рэяк, жалеза, труб.

Чалавечак гатоў быў бегчы назад у N, але ўспамін аб шматлікіх газетных аркушах, пахаваных па шафах раённых устаноў, палохаў яго яшчэ больш і гнаў усё далей і далей, аж пакуль цягнік не спыніўся ля перона цэнтра.

Чалавечак вышаў з вакзала і... разрытыя вуліцы, трубы, рэйкі, траншэі, трамваі, машыны, званкі, гудкі, лёскат, скрогат і над усім гэтым рыштаванні, рыштаванні і рыштаванні..

Азіраючыся, распытваючы, трасучы штонікамі і ікаючы дабраўся чалавечак да ЦК партыі.

Спяшаючыся вылажыў ён газеты, прысвечаныя разгрому бульбянікаўшчыны і партыйнай чысткі; пасведчанне аб нервовым расстройстве, заключэнне камісіі па чыстцы, і, ветліва сустрэты,—крыху акрыяў. Але не на доўга, бо яму зараз-жа пачало здавацца, што за гэтай ветлівасцю хаваецца каварны намер хапіць яго раптам за ногі, перакуліць дагары імі і вытрасці са штонікаў. І застанецца ён раптам такі, як ёсць—шчупленькі, мізэрненькі, нікчэмненькі.

Ён пачаў падазрона і спасцярожліва азірацца па баках, недарэчна адказваць на запытанні;—яму прапанавалі паехаць палячыцца на поўдзень. Але за гэтай прапановай атручаны страхам чалавечак бачыў новы каварны ход і адмахваўся ад яе.

Ён прасіў работы без нерваў, але, ведаючы, што страх хоць якую зробіць для яго нервовай, ухіляўся ад усіх прапаноў, трос штонікамі і, адчуваючы сябе ў віры будаўніцтва, як карась, кінуты ў акварыум са шчупакамі, рынуўся назад у N, які зараз здаваўся яму зямлёй абетаванай, страчанай ім.

Такім чынам, чалавечак, перамагаючы страх перад старымі газетамі і новым парткіраўніцтвам, варочаўся ў N. Але ўжо за сем ад N станцый ён даведаўся, што, наўспрэч запэўненням Бульбяніка, у N знойдзены нейкія выкапні[1]), з якіх можна зрабіць цамент; і пясок, з якога робяць шкло, і ўжо гудзе будаўніцтва гіганцкага цаментнага завода і каласальнай на дваццаць чатыры агрэгаты гуты. Штонікі чалавечка ад такіх чутак зрабіліся зусім шэрыя, а сам ён збялеў, але зараз-жа супакоіў сябе: «не можа быць—палохае мярзотнік». Але, убачыўшы з апошняй перад N станцыі слупы пылу і будаўнічых вышак у тым месцы, дзе павінен быць N чалавечак потарч кінуўся ў сустрэчны цягнік.

Машынальна заплаціўшы штраф за безбілетны праезд, і ўстрасаючы на кожнай зазоры каляі галавой і штонікамі, бледны і потны вярнуўся чалавечак назад у цэнтр. Калі ён вышаў з вакзала, то быў да жахлівасці ўражаны новымі рыштаваннямі, траншэямі і трамвайнымі нумарамі, якія, невядома як, з'явіліся ў горадзе за час яго адсутнасці. Калі-ж нейкі чалавек у замурзанай спецоўцы і з чыгуннай рэйкай у руках, прабягаючы міма, крыкнуў проста ў твар чалавечку: «сцеражыся і не замінай!», то ён, запамятаўшы і пра жонку, і пра дочку, і пра кар'ерыстычныя мары, рынуўся пад трамвай...

Перад вочкамі чалавечка мільгануў пузаты з круглым шкляным вокам ліхтара—перад вагона... зацвырчэў званок і... за каршэнь хапіла моцная рука і знаёмы голас над вухам праказаў: «асадзі назад!»

Адкінуты назад чалавечак падняў засмужаныя жахам вочкі і... перад ім стаяў Дужкін—самы сапраўдны, такі родны і блізкі—Дужкін. Толькі замест аграмаднага і цяжкага міліцэйскага кольта на

[1]) Бульбянік запэўняў, што ў яго бацькаўшчыне няма іншых выкапняў апроч торфу і гліны, што знаходзіў вельмі мэтазгодным, бо з гліны можна рабіць саматужную цэглу, апальваючы яе саматужным торфам. З цэглы можна рабіць печкі і грубкі і паліць у іх той самы торф.

баку—на носе ў яго былі не меншыя і не лягчэйшыя акадэмічныя акуляры. Круглыя, пукатыя, бліскучыя, аграмадныя як фары аўто, глядзелі яны на чалавечка і пыталі:—«Куды цябе паперла?»—

Чалавечак мог толькі мыкаць, ды круціць галавешкай у напрамку аб'ектаў будаўніцтва. З-пад акуляраў выкрывілася пагардная ўсмешка.

— «Нічога не выйдзе... Мне, брат, Варчаковы дакладна ўсю кан'юнктуру растлумачыў...»

І нахіліўшыся да чалавечкавага вуха:

— «У адной краіне не пабудуеш... Ужо не хапае...»

— «Не хапае?»—здзівіўся чалавечак, пазіраючы на новы паверх рыштаванняў, узрослых за час іхняга спаткання.

— «Цэглы, цамента, жалеза... А хутка і хлеба...»—дадалі акуляры шэптам,—«мужык на гэтыя штучкі хлеба не дасць».

— «Штучка!..»—уздыхнуў чалавечак, пазіраючы на дзевяціпавярховую будыніну...

А акуляры падміргвалі:

— «Цяпер, дружа, устрайвайся, дзе пасыцей».

— «А-а-а ты-ты?.. Акадэмія?»—пралапатаў недаверліва чалавечак.

— «Цесць з гаспадаркай—жонка з запасам»,—самаздаволена ляснулі акуляры па пузатым партфелі...

## XVIII. „Alea jacta est“

На другі дзень, патрасаючы штонікамі і абціраючы бруднай хусткай халодны пот на гарачым ілбе і збялеўшым носіку, чалавечак выказаў жаданне зрабіцца загадчыкам сталоўкі, матывіруючы гэта сваёй ранейшай правізарскай здольнасцю змешваць розныя хімікаліі на карысць чалавечага арганізма.

Просьба чалавечка была задаволена і ён зрабіўся загадчыкам сталоўкі-рэстарана № 6.

Бадай што і не трэба казаць, як усцешылася яго жонка, даведаўшыся аб гэтым прызначэнні. Яна зараз-жа пачала марыць, як есць дармовы дэ-воляй—па кіеўскі, ніколі не гатуе абеда і ўвесь час праводзіць у марах аб панчохах, ці купляючы іх на грошы, якія прыстаюць да рук мужа ў выніку шматлікіх харчовых камбінацый.

Чалавечак-жа, успомніўшы забытую латынь, сказаў: „Alea jacta est“, што ў перакладзе на нашу мову знача: «няма куды дзецца,—рызыкуй».

## XIX. Уніфікацыя

Чалавечак, адчуўшы, што пасада загадчыка сталовай зусім не вымагае спецыяльных ведаў і партыйнасці, на некаторы час амаль вызваліўся з абдымкаў страху і, агорнуты прагным жаданнем звярнуць на сябе ўвагу грамадскасці, вырашыў выявіць сваю ініцыятыву і ўніфіцыраваў меню сталоўкі-рэстарана № 6.

У выніку гэтай уніфікацыі меню набыла раз на заўсёды стандартызіраваны, скамянела-нерухомы выгляд і не валялася ўжо дзе папала па сталах, але як ветхазаветныя скрыжалі, асталявалася на святым-святых—буфетнай стойцы,—адбітак-жа вісеў на дзвярах на вуліцы, абвяргаючы запэўненне Геракліта, што ўсё рухаецца і змяняецца.

Практычна гэтая нерухомасць была дасягнута наступным чынам:

Падпараны і падсушаны мясны фарш у форме круга, авала, ромба, квадрата, трыкутніка і фарш-так, аздабляўся, у залежнасці ад формы, бульбай мятай, цёртай, варанай, паранай і бульбай-так, і да ўсяго гэтага, у адпаведнасці з камбінацыяй гэтых форм фарша і бульбы, дадаваўся квашаны гурок; цэлы, рэзаны, сардэчкам, пластачкамі, ці гурок-так. І ўсе гэтыя камбінацыі форм былі ўпісаны ў скрыжалі меню пад назвамі: «біф-штэкс», «фі-лей», «антрыкот», «рос-брат», «шніцеля» і «біф-строган».

Пачыўшы ад гэтага тварэння чалавечак пачаў чакаць лаўраў ад местхарчпрома, але яго выдатная ініцыятыва была падхоплена шматлікімі сталоўкамі горада і лаўры яго расплыліся ў моры «шніце-лей» і «антры-котаў». Не выратавала яго і тое, што ён зараз-жа ўзбагаціў буфет рознастайнаю закускай, як-та: селядзец цэлы, рэзаны, сечаны, печаны, у качулачку, і селядзец-так, бо і гэтая патуга яго генія патанула ў акіяне селядцоў шматлікіх буфетаў. І вось, хаця буфеты ламаліся ад селядцоў, а каменна-нерухомае меню месяцамі, а, нават гадамі вісела на дзвярах усіх сталовак і парушалася поварамі толькі ў тых выпадках, калі *сам* абедаў у сталовай, ці яго прыяцель праўляў бал з прычыны нараджэння сына, ці атрымання прэміі,—не гледзячы на ўсё гэта, чалавечак засумаваў, а штонікі панылымі пухірамі абвіслі на каленях, кажучы ўсім сваім выглядам: «мы гінем бясслаўна!»

## XX. „Нуда—горш каросты“

Чалавечак пачаў выпіваць, але зараз-жа страх, у выглядзе самакрытыкі, наскочыў на яго, пагразіў стратай партбілета і чалавечак зноў стаў на рэйкі.

З нуды і са злосці на свой марны лёс ён пачаў патроху прараблнць розныя камбінацыі з мясам, салам, маслам, у выніку чаго кухцікі ламалі нажы аб жылаватыя галёнкі, а наведвальнікі сталовай—зубы аб валовыя сухажыллі і страўнасць аб маргарын трэцяга гатунку.

Гэтыя камбінацыі папоўнілі яго недатыкальны запасны фонд у матрацы і гардэроб жонкі... у шафе, бо апранацца шыкозна выходзячы з дому ёй было забаронена. Сам чалавечак прадаўжаў па-даўнейшаму хадзіць з няголенай поўсцю на твары і бруднай бялізнай на целе, што цалкам адводзіла ад яго падазрэнні ў расказаных камбінацыях. Аднак камбінацыі гэтыя не пазбаўлялі чалавечка ад нуды, бо Дужкінскае «не выйдзе» не збылося і за тры гады краіна пакрылася гмахамі новых будынін, фабрык і заводаў. З зайздрасцю пазіраў на іх чалавечак, ходзячы па новым, роўным, як пліта кухні яго сталоўкі, асфальце некалі разбэрочаных вуліц,

і падлічаў проціанты таго грамадскага капітала, які ён мог-бы нажыць, калі-б своечасова і грунтоўна прымазаўся да гэтай будоўлі...

Кар'ера чалавечка ўжо, нават, і не ліпела.

Трэба было нешта рабіць і чалавечак, прыгадаўшы першыя крокі на грамадскай арэне, пачаў пісаць у газеты. Але ні адна з іх апроч «Тружэніка» не выяўляла цікаўнасці да яго літаратурна-публіцыстычных практыкаванняў. Што тычыцца апошняй, то ў рэдакцыі гэтай газеты сядзелі лоўкія юнакі, якія так старанна апрацоўвалі кожны артыкул, кожную нататку, што з друку яны ўсе выходзілі, як блізняты. Нават цяжка было адрозніць перадавую ад фельетона. І толькі спрактыкаваныя ў чытанні газет людзі даводзілі, што перадавая, на першай паласе злева, а фельетон—на другой—справа.

Дзякуючы такой пастаноўцы рэдакцыйнай справы ўсе патугі чалавечка вылучыцца шапкамі ды стылістычнымі своеасаблівасцямі гінулі як вясновы снег пад сонцам. Да таго-ж праз адсутнасць чытачоў і пры дапамозе кіруючых органаў «Тружэнік» хутка спыніў сваё існаванне, а разам з гэтым завяла нерасцвіўшы і публіцыстычная кар'ера чалавечка.

Такая незадача прымусіла чалавечка адважыцца на рызыкоўны крок. Ён вырашыў звярнуць на сябе ўвагу кнігай, абгрунтоўваючы свой намер формулай: «Нельга цераз плот—лезь пад плот».

## XXI. Крок—„пад плот“

Напісаць кнігу?..

Але аб чым не распачні, цябе зараз-жа зловяць з палічным, ткнуць носам у тваё невуцтва і... бывай кар'ера!

Пасля доўгіх і непакойных разважанняў, якія суправаджаліся начнымі кашмарамі і даўнейшымі крыкамі: «Гэта не я!», ад чаго чалавечак нават схудаў у поясе вяршкі на тры[1]), тэма была знойдзена. Чалавечак вырашыў напісаць кнігу аб мастацтве.

— «Мастацтва!»

Хіба ёсць такая лінейка, градуснік, ці трубка Піто, якімі-б можна было-б апрабаваць мастацкі твор, ацаніць яго мастацкую вартасць?

— «Няма, дарагі чытач,—няма!»

Тут мала разумець—трэба адчуваць, і мала адчуваць—трэба разумець».

Вось на тым, што не ўсе, хто разумее—адчуваюць, і не ўсе, хто адчувае—разумеюць і быў пабудаваны разлік чалавечка.

Перш за ўсё ён выгнаў жонку з дачкой у кухню, каб не перашкаджалі яго творчым настроям і засеў за крытычны шэдэўр, які павінен быў узбагаціць чалавечую культуру яшчэ адной спробай ахапіць неахопнае.

Сорак дзён і сорак начэй прэў чалавечак над кнігай. Штонікі

---

[1]) За час загадвання сталоўкай ён патаўсцеў на дзевяць вяршкоў, што ў перакладзе на вагу цягнула 25 кгр., і выглядам сваім нагадваў той двухпудовы гарбуз на N-скай райсельгасвыстаўцы, гаспадару якога намаганнямі „Бульбяніка ў той час была выдадзена грамата „культурнага аграрыя“.

закруціліся шчыльным жгутам і не краталіся. Пот цурчэў з-пад рудых валасоў па лобе і, збягаючы паміж кусцікаў рудых бровак на войстранькі носік, кропля за кропляй, угнайваў старонкі кнігі. У выніку атрымаўся том у 20 друкарскіх аркушаў. На вокладцы стаяў шматабяцаючы загаловак:

„МАСТАЦТВА НАШАЙ КРАІНЫ"

## XXII. Крытыка

Штонікі раскруціліся, чалавечак зацягнуў пояс яшчэ на дзве дзіркі і пайшоў у сталоўку падзяліцца вынікам свае працы са старшым поварам, якога лічыў чалавекам вельмі культурным з тае прычыны, што ён заўсёды выпіваў выключна з каляліталітаратурнымі тыпамі, праз якіх досыць дакладна азнаёміўся з шматлікімі творчымі метадамі.

Пад захопленае чытанне кнігі, з неменшым захапленнем куляючы чарку за чаркай і закусваючы квасным гурком, праслухаў повар новы здабытак культуры, кракнуў, перакуліў яшчэ адну чарку і, тыцнуўшы мокрым і тлустым з чорнай наўкол пазногця каймой пальцам у загаловак прасіпеў:

— Дапішы, таварыш загадчык: «паводле метада дыялектычнага матэрыялізма».

Чалавечак вылупіў здзіўленыя вочкі.

— Так, так,—дапішы... Што—не разумееш? Я табе, таварыш загадчык, вытлумачу... Вось, напрыклад, у мяне жылаватая галёнка, а там,—тыцнуў ён пальцам у бок залы,—там сядзіць наведвальнік і чакае цялячую адбіўную...[1]) Што я павінен рабіць?—я разважаю: а ён п'е піва і чакае... Ён ужо крыху—таго і галодны, як воўк у Пілітаўку... Я смажу кавалак галёнкі і ён яе есць, аж нос у прысядкі ідзе... Тут,—куляючы яшчэ чарку, закончыў повар,—сінтэз: «Галодны—жары што даюць»... Дапішы, таварыш, падзагаловак: «Паводле метада дыялектычнага матэрыялізма»...

Чалавечак быў знішчаны логікай дыялектыкі повара, прыпісаў падзагаловак, якому, як і зместу кнігі пазайздросціў-бы любы рапавец. Рэч у тым, што пішучы свой опус, ён баяўся хваліць твор, які яму падабаўся і таму хваліў яго палайваючы, а другі, баючыся ганіць,—лаяў пахвальваючы. У выніку такога творчага метада, атрымалася такая несусветная лухта, што толькі п'яны повар, ды тагочасны дырэктар выдавецтва маглі ўхваліць яе да друку.

Аднак ішлі месяцы, а кніга з друку не выходзіла, і чалавечак пачаў успамінаць прыказку: «Смачны жабе гарох... ды зубоў не даў бог».

---

[1]) У той час пад націскам самакрытыкі чалавечку прышлося дапусціць да ўжытку парцыённыя, якія адпускаліся тым наведвальнікам, якія папярэдне заказвалі з буфета закуску поўвядра піва оптам ці куфлямі ў розніцу.

## XXIII. „Бывай, кар'ера"!

Хаця дзяржаўныя органы досыць дакладна ачысцілі краіну ад бульбянікаўцаў, але шмат іх паспелі своечасова змяніць колер і пахаваць свае бульбянікаўскія мордачкі ў каўнеры бобрыкавых паліто, дзякуючы чаму засталіся па-за ўвагай органаў. Яны згрупаваліся наўкол шматлікіх культурных устаноў, дзе, да часу, і сядзелі, як мыш пад мятлой. Але час ішоў і, пасмялеўшы, яны, карыстаючыся метадамі вылучэння, пачалі вылазіць на дырэктарскія крэслы.

Дасягнуўшы гэтага ўзвышша, такі хамелеон пачынаў арудаваць. мімікрыя прападала і... далейшы лёс яго вядомы... Аднак, нажаль, на змену аднаму такому тыпу вылазіў другі, на змену яму—трэці і так, здавалася, да бесканечча, пакуль аднойчы... Але аб гэтым ніжэй. Пакуль-жа мы спынімся толькі на тым, як усё гэта ўплыла на лёс кніжкі чалавечка. Ухваленая дырэктарам выдавецтва да друку, пасля яго ізаляцыі, яна загінула ў нетрах выдавецтва пры другім дырэктары і калі яго насяг лёс першых, то ганарар за кніжку быў выплачаны чалавечку трэцім.

У чалавечка засталася ўмова на выданне гэтага невыдадзенага шэдэўра, якую ён захаваў у бумажніку і грошы, якія зашыў... куды,—нам ужо вядома. Вядома нам і тое, што пры гэтым ён сказаў: «Бывай кар'ера—дзень добры, грошыкі!»

## XXIV. Зноў бяда

Ні штонікі, ні чалавечак цярпець не маглі, калі хто-небудзь успамінаў ім іхныя злачынствы ці памылкі. У такіх выпадках штонікі пагражаюча трымцелі, а чалавечак чырванеў, абліваўся потам і крычаў: «Хлусня!..» Унікаючы такіх самакрытычных выпадаў, чалавечак амаль заўсёды нападаў першы і іменна на таго, ад каго чакаў удара, чым паралізаваў нападаючага і з самакрытычных перапалак выходзіў бялюсенькі як навагодні снег. Аднак, здаралася, што які-небудзь мурзаты падкухцік, ад якога не чакаеш абсалютна ніякага самакрытычнага спрыту, раптам так падчэпіць, так ткне носам ва ўласныя... назавем—памылкі, што пасля чалавечку доўга прыходзілася біцца ў грудзі і рабіць выгляд, што ён іх выпраўляе.

І горш за ўсё было, што самакрытыка гэтая з кожным днём усё больш і больш уядалася ў жыццё і не было ад яе проста ратунку.

Рухомы страхам перад ёй і нянавісцю да яе, чалавечак нават стварыў афарызм: «зірні на пугу—успамінай самакрытыку».

Аднак гэтага было мала, ці, правільней кажучы, сыграла зусім не на карысць чалавечку, бо кожная афіцыянтка старалася ўхапіць гэтую пугу і падганяць чалавечка па шляху да ажыўлення скамянелага меню.

Тут чалавечак перайшоў да новага метада. Пачуўшы заяву, што наведвальнікі патрабуюць, каб антрэкот быў не з фарша, а з цэлага кавалка міжробернай гавядзіны, ён адказваў:

— «Вось як?! Міжробернай??? А чаму заўчора вы падалі

наведвальніку гэты антрэкот на халоднай талерцы?! Так вы рупіцеся аб грамадскім харчаванні?! Так-к-к!!!... А падайце заяву аб вызваленні вас ад работы?!..»

Самакрытыка прыціхала. Чалавечак урачыставаў, але...

Надышла чарговая партыйная чыстка і... цяжка знайсці словы каб апісаць, што рабілася са штонікамі—за тыдзень, напярэдадні чысткі, яны аздобліся махрамі і мелі выгляд зморany, беспарадны і знясілены.

На чыстцы чалавечак вылажыў перад камісіяй умову на выданне кнігі, з пафасам гаварыў аб сваёй культурнасці, аб сваім імкненні да мастацтва, аб немэтазгоднасці скарыстання яго талентаў у сталоўцы і шмат іншых, не вельмі пераканальных, але, здавалася, шчырых рэчаў. Камісія абмежавалася толькі вымовай за заціск самакрытыкі.

Чалавечак схаваў у бумажнік умову, абрэзаў кухонным нажом махры са штонікаў і сказаў: «Не было-б білета, ды ўмова дапамагла».

## XXV. Адчай

Час, між тым, бег, як апантаны. Наўспрэч дужкінскаму «не хапае» той самы чалавек, які, некалі, у замурзанай спецоўцы і з рэйкай у руках так напалохаў чалавечка, зараз у новенькім бастонавым гарнітуры, пасля чарговай прэм'еры дзяржаўнага тэатра заходзіў вячэраць у сталоўку і, седзячы за столікам, патрабаваў парцыённае, патрабаваў, каб сурвэта была чыстая, каб талерка была нагрэтая... І ўсім сваім выглядам і паводзінамі, здавалася, даводзіў, што заваяваў сабе права на культурнае камфартабельнае жыццё.

Чалавечка ахапіў адчай. Ён канчаткова занудзіўся і, як п'яўка крывёй, наліўся злобай да наведвальнікаў сталоўкі, якія на яго думку былі вінаваты і ў будаўніцтве, і ў пагібелі ўсіх яго кар'ерыстычных мар. Ён пачаў помстваваць ім усімі даступнымі яму спосабамі, пры чым робячы якую-небудзь пакасць зларадна казаў: «жрыце, сволачы!» Даверлівыя «сволачы» не заўважвалі дробных гадасцей чалавечка і не пратэставалі.

Але, калі труціліся квашанымі гуркамі, ці дралі козлы, наеўшыся, замест макаронаў, кінутай чалавечкам у кацёл мачалы, то тут ужо ў справу ўмешваліся органы і чалавечку прыходзілася выступаць на шматлікіх судах у якасці... сведкі па справе повара, ці кладаўшчыка, якіх яму заўсёды ўдавалася абвінаваціць яшчэ да стварэння злачынства.

Яго паказанні сведкі, не гледзячы на трасучку штонікаў, заўсёды нагадвалі пракурорскую прамову.

У часе такіх выступленняў уся яго істота раздзіралася страхам і жаданнем красавацца перад судовай аудыторыяй і адчуваў ён сябе як чалавек, які ідзе па адточанаму лязу. Але асалода ад ваксавання таварыша была настолькі вялікай, што ён ваксаваў усё чарней і чарней, а сам, па тэорыі кантраста, рабіўся ўсё бялей і бялей.

Выступленні гэтыя яму так падабаліся, што ён нават стварыў афарызм: «Злачынствуй, але абвінавачвай».

## XXVI. Мыш

Аднойчы чалавечак зрабіў чарговую пакасць і ходзячы па кухні асаладжаўся думкай, як будзе ваксаваць на судзе дзяжурнага повара, які дапёк яго сваёй самакрытыкай. У самы разгар гэтых лірычных мар убегла афіцыянтка і ледзь не трацячы прытомнасць выгукнула шэптам:

— «На сёмым століку ў талерцы наведвальніка...»

Тут яна не скончыўшы сказу голаснаікнула ад страху і ціха зарыдала ад агіднасці, а чалавечак, удаючы бязмежнае абурэнне, рынуўся ў залу, дзе, сустрэўшыся з гнеўным бляскам акадэмічных акуляр, расцвіў, як пралеска. Акуляры таксама спынілі метанне маланак і праз пятнаццаць хвілін старыя прыяцелі сядзелі ў асобным кабінеце і, пацягваючы асобы Шато-Ікем жорлі почкі-сотэ, прыгатаваныя на сапраўдным слівачным масле, а сапраўдны Дужкін расказваў аб сваёй сапраўды бліскучай кар'еры.

## XXVII. Кар'ера Дужкіна

Пад крылцам бульбянікаўцаў і варчакоўцаў, аб'яднаўшыхся ўжо на варчакоўскай платформе: «нічога не выйдзе», Дужкін вельмі спрытна, як на лыжах па добраму насту, прайшоў акадэмічную аспірантуру і, абараніўшы дысертацыю на тэму: «Ідэёвае абгрунтаванне трацкізма», набыў годнасць кандыдата навук і прафесарскую кафедру. Жонка яго ў той час ужо настолькі ўдасканаліла свае веды французскай мовы, што свайго мужа Пятруся—называла П'ерам.

Горш была справа з цесцем аграрыем, які, пакінуты вараным Васькам, пераехаў зноў на жыхарства да зяця і сумаваў без цялят, парасят, а галоўнае без Ваські, які працаваў ужо не на яго, але на народную гаспадарку, чэсна зарабляючы авёс свой на адным з случных пунктаў.

Дужкін мог-бы лічыць сябе шчаслівым, нават пры наяўнасці цесця, калі-б не тая акалічнасць, што наўспрэч яго, ды іншых варчакоўцаў, запэўненню: «не выйдзе»—усё якраз выходзіла ды так спрытна, што народ, не задавальняючыся гэтым «выходзіць» на зямлі, пад зямлёй, на вадзе, пад вадой і над вадой, палез за гэтым «выходзіць» нават у стратасферу і не без вынікаў.

Усё гэта стварыла наўкол варчакоўцаў такую атмасферу, што калі хто-небудзь з іх адважваўся сказаць, хоць-бы па-сакрэту, свае «не выйдзе», то чалавек лёгкадумны махаў рукамі, кажучы: «ці ў сваём вы розуме?!», і спяшаўся адыйсці далей; чалавек малаunion руплівы казаў: «палячыцца вам трэба... ведаеце,—лепш позна, чым ніколі...» Руплівы-ж,—зараз-жа ішоў у органы, дзе прасіў звярнуць увагу на такога і такога, моў, небяспечнага ў сваім вар'яцтве суб'екта і дадаваў: «І блыха на волі—небяспечней сабакі на ланцугу».

Каб хоць крыху задаволіць сваю варчакоўскую душу П'ер Дужкін, памятаючы, што «сільнаму фігу паказвай толькі ў кішэні», спускаў на вокнах шторы, замыкаў на завалу дзверы і, застаўшыся сам-на-сам з жонкай, пеяў на два галасы: «не выйдзе, не выйдзе, не

вы-ы-ы-й-дзе». Пасля, накруціўшы патэфон, яны, пад гэты самы спеў, танцавалі да рання факстрот.

Але ці маглі гэтыя маленькія радасці акупіць такія непрыемнасці, што нават цесць пачаў ужо выказваць меркаванне: ці не зрабіў-бы ён лепш, каб не спадзяючыся на зяцева «не выйдзе», пайшоў працаваць хоць-бы ў памочнікі да Ваські: «Усё-ткі такісякі зароблены кавалачак хлеба», а так: «ліха ведае, чым усё гэта скончыцца».

А тымчасам дужкінская бяда яшчэ толькі пачыналася і прышла яна ў выглядзе партыйнай чысткі, якою ў Акадэміі кіраваў, па думцы Дужкіна, чалавек зусім некультурны, які зусім не разумеў акадэмічнай навуковай спецыфікі, падыходзіў да ўсяго выключна з уцілітарнага пункту гледжання, вымагаў ад навукі карыснасці і, нават, Дужкінскую дысертацыю лічыў непатрэбнай і недарэчнай, кажучы, што аб ідэёвасці можна гаварыць там, дзе яна ёсць, а дзе яе няма,—няма пашто і плот гарадзіць.

У выніку такога вульгарнага, па думцы Дужкіна, падыходу, яму прышлося, страціўшы прафесарскую кафедру, застацца пры навуковай годнасці і партбілеце, аздобленым папярэджаннем з абавязкам на практычнай рабоце пастарацца яшчэ адзін і апошні раз давесці сваю адданасць партыі.

Дужкін зусім было затужыў, але якраз у гэты час прышлі інструкцыі ад Варчаковага: «як і што рабіць, каб «не вышла»; Дужкін акрыяў і па тых самых, што і чалавечак, матывах, узяўся кіраваць мастацтвам, кажучы: «яшчэ паглядзім, дзе каго пасадзім».

## XXVIII. Мыш ці карова

Нам невядома, ці расказваў Дужкін чалавечку ўсё так падрабязна, як робім гэта мы, але, калі было ўжо выпіта дзве бутэлькі Шато-Ікем і бутэлька гарладзёру пад назвай «Баян» і чалавечак расказаў аб сваім марным лёсе, Дужкін спагадна пагладзіў яго па руцэ і, праціраючы ўпрэўшыя ў прыяцельскай гутарцы акадэмічныя акуляры, сказаў:

— «Нічога. Мы гэта паправім. Пры сучаснай палітычнай кан'юнктуры нам такія людзі патрэбны. Дай тваю умову; трымайся за нас,—не прападзеш».

Чалавечак перадаў Дужкіну сваю выдавецкую ўмову, шчыра і абнадзеяна падзякаваў і загадаў падаць яшчэ дзве бутэлькі гарладзёру, спісаўшы яго на бой пасуды і сказаў: «лепш мыш у талерцы прыяцеля, чым карова ў чужым хляву».

## XXIX. Новы шлях—новы страх

Праз тры дні чалавечак штодня кіраваў адным з сектараў установы, на чале якой стаяў Дужкін, а жонка чалавечка штодня сядзела на дармовым месцы ў адным з тэатраў горада.

Хаця ў новым прызначэнні чалавечка галоўную ролю адыграла ўмова, ён усё-ж увесь свой жыццёвы поспех аддаваў мышы і казаў: «І ад мышы, часам, залежыць чалавек».

Гэтая мімавольная ўпэўненасць у сваёй мізэрнасці і залежнасці ад выпадка мусіць і была прычынай страху, які, з новай пасадай, са старай сілай наваліўся на чалавечка. Ён набыў такія памеры, што чалавечак бачыў пагрозу сваёй кар'еры не толькі ў агульнай палітычнай сітуацыі, але, нават, ва ўласным самаадчуванні. Яму здавалася: калі ўсё будзе гладка з грамадскага боку, то ён проста з прычыны якой-небудзь хваробы не дажыве да прываблівых верхавін. Чалавек пачаў прыслухоўвацца да сэрца, вантробы ды іншых частак свайго арганізма. Успамінаючы боль у страўніку, які ён адчуваў, аб'ядаючыся дармовымі філе-сотэ,—вырашыў, што ў яго язва страўніка і, узброіўшыся шматлікімі пасведчаннямі, атрымаў дармовае дыет-харчаванне.

Чалавечак пачаў яшчэ таўсцець. Але гэта страху не зменшыла, а нават, павялічыла, бо зараз перад ім паўстаў малюнак жахлівага да агіднасці, даўгагадовага фізічнага існавання на руінах кар'еры.

Падбухторваемы гэтым страхам, ад якога штонікі пацелі, як мыш у мышалоўцы, чалавечак кажучы: «лепш дзве язвы страўніка, чымсьці адно папярэджанне», рабіў усё магчымае, каб толькі ўтрымацца, лезці вышэй, расці ўверх і ўшыркі.

## XXX. „Ратуйся ад самакрытыкі!“

Перш за ўсё чалавечак пастараўся забяспечыць сябе ад самакрытыкі знізу, для чаго правёў індывідуальныя гутаркі з супрацоўнікамі свайго сектара і кіраўнікамі падпарадкаваных устаноў.

У часе такіх гутарак ён, нібы між іншым, кідаў супрацоўніку Е. «а мне пра вас казаў таварыш Д., што вы ў часе грамадзянскай вайны ўхіляліся ад прызыву ў армію»...

Усхваляваны такой заявай Е. пачынаў абурацца і даводзіць, што ён ніяк не мог ухіляцца, бо ў той час ляжаў яшчэ ў калысцы з соскай у губах і калі і не прымаў удзелу ў грамадзянскай вайне, то ў гэтым вінавата яго маці пенсіянерка... Чалавечак непахвальна ківаў галавой і казаў: «Дрэнна,—ад вас я гэтага не чакаў... Ідзіце»...

Таварышу Д. ён казаў: «Чуў ад таварыша Е., што вы былы домаўласнік»... Таварыш Д. чырванеў, ікаў і даказваў, што ён... і зараз... Але ў яго вялікая сям'я... і хаця, «ік!», яго домаўладанне дзевятнаццаць з паловай метраў... «ік!»... але ён не можа, «ік, ік!», спадзявацца атрымаць і такую жыллёвую плошчу, «ік!» пры сучасным кватэрным стане... «ік, ік, ік!»... Але ён, канешне... калі, таварыш загадчык жадае... «ік!» Тут чалавечак яго перапыняў: «Я падумаю... Ідзіце...» гаварыў ён, стараючыся надаць і голасу і фігуры сваёй, як мага больш саліднасці і вагі.

У выніку гэтых гутарак у сектары і паміж падпарадкаванымі ўстановамі стварылася такая склока!..—чалавечак мог быць зусім спакойны, што знізу да яго чыннасці нікому няма ніякай справы.

Цяпер чалавечак пачаў забяспечвацца ад верху. Тут і метады і паводзіны былі іншыя. У гутарцы з начальствам, нават па тэлефону, галасок яго рабіўся лагодны, паслужлівы, а ўся фігура мела такі выгляд, які можа прыняць толькі адно вельмі паслужлівае

чатырохногае, і то толькі ў адным выпадку, калі стаўшы на заднія лапы, пачынае пераймаць паводзіны асоб накшталт чалавечка.

Вось з такім паслужлівым выглядам чалавечак і пачаў выяўляць надмерную і непрымірымую пільнасць. Ён зволіў з работы ўсіх супрацоўнікаў, пра якіх пры адпаведным старанні можна было сказаць: «...а яго стрыечная бабка...» На іх месца ён прыгарнуў пад свае крылца асоб, якія ведалі аб яго бульбянікаўскім мінулым, ці былі круглымі ідыётамі і нічога не ведалі.

Расправіўшыся з жывымі, ён узяўся за нябожчыкаў і забараняў да пастаноўкі творы Фонвізіна і Мальера, як... рэакцыянераў. Такі-ж лёс пагражаў і А. Остроўскаму, але ў гэты час вышаў раман Нікалая Остроўскага і чалавечак схамянуўся, палічыўшы, і А. і Н. Остроўскага за адну асобу. Апроч таго ён, з ведама і дазволу Дужкіна, акуратна паведамляў кіруючыя і кантрольныя органы аб усіх вядомых ім памылках Дужкіна, які, з свайго боку, сыпаў чалавечку заўвагі і вымовы за ўсё і ўсім вядомыя яго памылкі. Гэта не перашкаджала і чалавечку, і Дужкіну, памятаючы афарызм: «Вязі прыяцеля—сам на ім выедзеш», пахвальваць адзін аднаго на розных сходах і нарадах, карусель якіх яны старанна закручвалі.

У гэтай «каруселі» чалавечак бачыў магчымасць зрабіць выгляд працы, а Дужкін—метад, якім можна так задурыць людзям галоў, што з мастацтва краіны і сапраўды, можа, нічога і не выйдзе.

Аднак, працаўнікі розных галін мастацтва, абагрэтыя народнай спагадлівасцю, працавалі самапасам, а ў цяжкія хвіліны—самапасам-жа ішлі... не да Дужкіна, у прыёмнай якога сядзела пяць сакратароў, але непасрэдна ў партыйныя арганізацыі. Тыя ім дапамагалі і мастацтва краіны не толькі расло, а нават і квітнела, што канчаткова сапсула Дужкіну страўнасць і пераканала;—пакуль на чале народа стаіць партыя—усё і заўсёды будзе выходзіць. Тут Дужкін павінен быў сам сабе прызнацца, што: «з фігай у кішэні нічога не дакажаш». І паводле варчакоўскай інструкцыі перайшоў да «палітыкі прамой чыннасці».

## XXXI. Праверка

Магчыма Дужкіну ўдалося-б і вельмі нашкодзіць, але ў гэты час распачалася праверка партыйных дакументаў і калі былі сабраны ўсе матэрыялы аб ім, то яны мелі такі выгляд:

| 1<br>Карысная дзейнасць Пятруся Дужкіна |
| --- |
| 1. Нарадзіўся ў 1893 годзе<br>2. „ „ „ „<br>3. „ „ „ „ |

А аркуш:

| 2<br>Памылкі і злачынствы Пятруся Дужкіна |
| --- |

ператварыўся ў досыць важкі том. У выніку такой нероўнамернасці, партбілет Дужкіна зрабіў кароткае, але выразнае падарожжа з дужкінскага бумажніка ў партархіўную шафу, пасля чаго Дужкін быў зняты з работы, а ў хуткім часе і... Але аб гэтым ніжэй, бо зараз мы павінны спыніцца на асноўным героі нашага апавядання.

Для чалавечка праверка не была нечаканасцю. Дастаткова спрактыкаваны на ранейшых чыстках ён перш за ўсё вылажыў адбіткі сваіх заяў на Дужкіна; затым увагі і вымовы, атрыманыя ад скампраметаванага ўжо Дужкіна і казырнуўшы сваёй пільнасцю і непрымірымасцю да жывых і нябожчыкаў выскачыў з праверкі мокры ад поту, але з партбілетам, аздобленым апошняй вымовай з папярэджаннем,—за бяздзейнасць. Пасада загадчыка сектара засталася за ім.

Аднак гэты шчаслівы рэзультат не супакоіў чалавечка, але толькі яшчэ больш ушчаміў яго ў абдымках страха, які прымушаў яго актывізавацца і распачаць ствараць наўкол сябе непранікальную сцяну туману з кляуз на ўсіх, з кім яму толькі даводзілася сустракацца. Чалавечак пісаў і прыгаварваў: «Ваксуй таварышоў і сам будзеш белы, як снег».

## XXXII. Канец Дужкіна

Тымчасам партыя вельмі яскрава і паказальна давяла, што варчакоўцы гэта ні што іншае, як звычайныя трацкісты. А іх «метад прамой чыннасці» ні што іншае, як звычайны тэрар.

Адначасова дзяржаўныя органы ўстанавілі, што дзейнасць іх цягнецца аж ад часу грамадзянскай вайны, а тэрарыстычныя іх акты абумоўлены блізкім сяброўствам з чужаземнымі разведкамі, маюць імпартную пломбачку і на сучаснай мове носяць назву—дыверсія. А ўсе, зробленыя імі падпалы, выбухі, забойствы дзяцей і старых, рабочых і чырвонаармейцаў—вынік жадання як-небудзь перашкодзіць пераможнаму руху наперад, як-небудзь павярнуць усё назад. Для задаволення прагі гэтага жадання яны гатовы былі абярнуць у руіны квітнеючую краіну, гатовы былі перамяніць савецкія пасады на лакейскія ліўрэі, якія нават, без папярэдняй прымеркі, ім ужо шылі іх замежныя прыяцелі...

Тут ужо, дарагі чытач, не скажаш: «І блыха на волі небяспечней сабакі на ланцугу». Не! Бо гэта былі самыя сапраўдныя сабакі—шалёныя сабакі, што і прымусіла дзяржаўныя органы ў спешным і тэрміновым парадку ізаліраваць гэтае небяспечнае звяр'ё. У ліку першых быў злоўлены і ізаліраваны і Дужкін.

## XXXIII. Чалавечак дыктуе

Калі вестка аб месцы знаходжання Дужкіна дайшла да чалавечка, штонікі скінуліся і ён занядужаў. Два дні ён махаў перад потным носікам халоднымі ад страху ручкамі і мармытаў толькі адзін сказ: «Гэта не я!» На трэці дзень ён пачаў дыктаваць:

Седзячы ў споднім на набітым грашовымі знакамі матрацы і падціснуўшы пад сябе халодныя ад страху ногі, ён дыктаваў жонцы

ўсё новыя і новыя заявы на ўсіх, каго ён не тое каб ведаў, але з кім калі-небудзь сустракаўся на якой-небудзь нарадзе ці канферэнцыі.

Дыктаваў ён да таго часу, пакуль стомленая жонка не заснула, не гледзячы на нашатырны спірытус, які чалавечак трымаў у яе пад носам. Ён прабаваў разбудзіць яе халоднай вадой, сапожным шылам, а, нават, і качалкай, але гэта не дало ніякіх вынікаў. Чалавечак нацягнуў штонікі і пацягнуўся ў сваю ўстанову...

Там ён перш за ўсё зволіў усіх супрацоўнікаў, якія калі-небудзь, па якой-небудзь справе былі на прыёме ў Дужкіна.

Зрабіўшы такое самастрахоўчае мерапрыемства, чалавечак засадзіў за пісанне кляуз падпарадкаваную яму машыністку. Калі яна звалілася ад стомы пад стул, чалавечак вярнуўся дамоў і прадоўжыў дыктаваць ачуняўшай жонцы. Калі жонка аслупела— вярнуўся да машыністкі, пасля зноў да жонкі, пасля да машыністкі...

Час ішоў, а чалавечак гартаў старонкі свайго дзённіка і дыктаваў, дыктаваў, дыктаваў...

Абстаноўка для такога занятка была самая падыходзячая. У кіраўніцтва ўстановы ўвесь час лезлі варчакоўцы. Яны больш усяго былі зацікаўлены, каб рабілася што-небудзь шкоднае, а калі не шкоднае, дык каб хоць нічога не рабілася.

## XXXIV. „Толькі-б утрымацца!“

Чэхарда, якая ішла ў кіраўніцтве мастацкай установы, адрознівалася ад чэхарды ў выдавецтве тым, што яна ішла не знізу уверх, але наадварот. Так, прызначаны на месца Дужкіна кіраўнік, пасля ізаляцыі свайго намесніка, заняў яго месца, а кіраўніком быў прызначаны другі, які апынуўся на яго месцы пасля яго ізаляцыі, а кіраўніком быў прызначаны трэці...

Гэтая чэхарда цягнулася-б, бадай, да бесканечча, але на наша шчасце органы выявілі пад кашулямі некаторых кіруючых асоб, якія рабілі гэтую чэхарду, імпартныя пломбачкі чужаземных разведак і перасадзілі іх з займаемых імі высокіх пасад у сваё нізкае сутарэнне. Чэхарда спынілася. У гэты час чалавечак, выкарыстаўшы ўвесь свой дзённік і цмяныя, магчыма, створаныя яго шчуплай фантазіяй успаміны, і страціўшы ўсю, набытую ім за час загадвання сталоўкай вагу, беспарадна трос штонікамі і абціраючы брудным рукавом халодны пот з ілба і таўсты пласт пылу з занядбанага загсектарскага стала, цмянымі вочкамі пазіраў на сваю мінулую і будучую кар'еру і ўвесь час паўтараў: «Толькі-б утрымацца, толькі-б утрымацца»...

## XXXV. Чалавечак загаварваецца

Выкліканы для даклада і інструктажа новым кіраўніком установы, чалавечак моўчкі яго слухаў і на запытанне:—«А вы як мяркуеце?»

Заявіў:

— «А ведаеце; Ж. у мінулым годзе ў дзень асенняга свята быў хворы на ангіну і не з'явіўся на дэманстрацыю. Ці не хацеў ён гэтым сказаць...»

Кіраўнік здзіўлена паглядзеў на чалавечка і папрасіў, абмеркаваўшы інструктаж, зайсці праз тры дні.

Тры дні чалавечак, трасучыся ад пятак і да макаўкі, сядзеў над інструкцыямі, стараючыся зрабіць выгляд, што думае. Але перад яго вачамі, як на парадзе праходзілі: кротонавае масла, асобныя артыкулы і цэлыя палосы старых бульбянікаўскіх газет, мачалкі, мышы, жылаватыя галёнкі, бочкі тухлага маргарыну, горы стэнаграм нарад і канферэнцый і, нарэшце ён сам,—такі, як ёсць— маленькі, шчупленькі, у паркалёвых штоніках на верхавіне гары, складзенай з бязлікіх кляуз, якая, здавалася яму, хістаецца і гатова вось-вось раз'ехацца пад націскам вагі яго шчуплага цела.

Праз тры дні, на пытанне аб яго думцы, ён мог толькі адказаць:

— «Гэта не я...»

Кіраўнік уважліва паглядзеў на чалавечка, папрасіў зайсці заўтра і, пасля яго ўходу, пачаў узгадняць з адпаведнай арганізацыяй яго звальненне, матывіруючы, што ў загадчыкі сектараў патрэбны працаўнікі, а не ідыёты.

## XXXVI. Канец чалавечка

Турботы кіраўніка былі ўжо лішнімі, бо на другі дзень чалавечак, прышоўшы на работу і разгарнуўшы, паводле прывычкі, цэнтральную партыйную газету (было гэта 19 студзеня 1938 года) і прачытаўшы толькі першы слупок апублікаванай там партыйнай пастановы, з крыкам: «Гэта не я! Не я! Не я!..» рынуўся з установы. «Гэта не я! Не я! не я!» крычаў ён, бягучы па даўгіх калідорах, па сходах, на вуліцы і прыбегшы дамоў.

Калі перапалоханая жонка выліла яму на галаву вядро халоднай вады, чалавечак ачуняў, загадаў сесці за машынку і прадыктаваў ёй заявы на сябе, на яе і на сямігадовую дачку.

---

*Ю. Віцьбіч*

# ЯШЧЭ ХОДЗІЦЬ НЕДЗЕ ШВАНД

„Хто былое ўспамяне, таму вока вон, але хто былое забудзе—таму два вокі вон“. *Валадарскі*

У сумежным пакоі, каля прыгожа прыбранай ёлкі, спрачаліся дзве грамадзянкі. Адну з іх—смуглаватую, чорнавокую звалі Розай, другую—яшчэ больш смуглявую, але шэравокую—Блюмай і разам ім было чатырнаццаць год. Дзеці не перашкаджалі нам гаварыць. Успамінаючы пра мінулае, мы ўвесь час чулі побач з сабою іх галасы, якія напаміналі нам аб сучаснасці.

Перш чым пачаць апавяданне, Лазар Давідавіч Ніхамоўскі прывычным рухам папправіў парожні рукаў свайго піджака і зірнуў на акно, за якім стаяла чорная, густая ноч:

Гэта здарылася якраз сто год таму назад, і іменна 10 студзеня 1906 года ў Гомелі, павятовым горадзе Магілеўскай губерні Расійскай імперыі. Не здзіўляйцеся. Я добра ведаю, што ў нас сёння 10 студзеня 1939 года і што мы знаходзімся ў Гомелі, абласным горадзе Беларускай Соцыялістычнай Рэспублікі. А ўсё-ж мне здаецца, што гэта здарылася як раз сто год таму назад.

У той дзень я сядзеў у майстэрні, схіліўшыся над сталом. Раніцой гаспадар упершыню даверыў мне рамантаваць мікраскоп. Мая прафесія—оптык. Таму, пачынаючы з дванаццацігадовага ўзросту, я тры гады няньчыў дзяцей гаспадара, потым тры гады шліфаваў лінзы і вось нарэшце мне, дзевятнаццацігадоваму юнаку, дазволілі пачыніць складаны аптычны інструмант. Вы пэўна ўжо здагадаліся, што я вельмі люблю сваю прафесію і таму разумееце маю радасць. Я сам лячыў мікраскоп, каб потым з дапамогай яго доктар змог лячыць людзей.

Перада мной ужо ляжалі асцярожна разабраныя акуляр і аб'ектыў, калі нечакана загулі званы ўсіх цэркваў.

Па Румянцаўскай вуліцы, перад самым вакном майстэрні, прайшла пахавальная працэсія. Разбіраючы лінзы аб'ектыва я заўважыў, як за труной рухаліся папы і гарадавыя, чыноўнікі і падрадчыкі. А перад труной ішлі два тлустых сальнікі і крычалі:

— Мы вам пакажам, хрыстапрадаўцы! Усе кішкі выпусцім!

У горадзе хавалі забітага правакатарам прыстава.

Калі працэсія прайшла, гаспадар сказаў сваёй жонцы:

— Рыва Мееравна, пойдзем да хаты. Мне сёння нешта нездаровіцца. Лазар тут адзін управіцца.

— Вядома, адзін упраўляюся,—заўважыў я. Справа была ў пятніцу і мне вельмі хацелася скончыць сваю работу пакуль не зойдзе шабас.

— Не, я застануся,—адказала гаспадыня, седзячы за касай.— Можа яшчэ які заказчык падыйдзе.

Нарэшце я знайшоў хворую лінзу. Нават затаіўшы подых, пачаў шліфаваць яе, што-момант спыняючыся для праверкі. Неўзаметку прабеглі чатыры гадзіны ўпартай і цяжкай працы. На вежы палаца князя Паскевіча гадзіннік прабіў тры разы, калі я зноў пачаў збіраць мікраскоп. А сабраўшы, злавіў павука і паклаў яго на прадметны столік, каб канчаткова праверыць работу інструманта.

Не ведаю, ці бачылі вы пад мікраскопам нагу звычайнага павука-крыжавіка? Я тады ўпершыню ўбачыў яе і ўздрыгнуў. Цяжка знайсці што-небудзь больш агіднае. Яна пакрыта рэдкімі і простымі як шчаціна валаскамі, канчаецца няправільнай формы кіпцюрамі. Гэта сапраўды лапа драпежніка-крывасмока. Але адразу-ж я ўсміхнуўся. Знікнуў ранейшы туман, уласцівы гэтаму мікраскопу, і кожны валасок выступаў рэльефна. Скінуўшы з прадметнага століка павука, я з той-жа самай пяшчотай, з якой маці песціць сваё дзіцянё, пачаў гладзіць рукой мікраметрычны вінт інструманта. Мяне ахапіла радасць, знаёмая кожнаму простаму чалавеку, які, зарабляючы сабе на хлеб, стварае каштоўныя агульнакарысныя рэчы.

І раптам я ўздрыгнуў. Па вуліцы ўніз пакаціліся адзін за адным гулкія стрэлы і нехта знаёмы закрычаў:

— За што?!

Адначасна нехта заварушыўся ў другім цёмным пакойчыку майстэрні, які прылягаў да двара. Здзіўлена азірнуўшыся, убачыў, што гаспадыні за касай няма. Яна, відаць, пайшла раней, не папярэдзіўшы аб гэтым мяне, а ў пакойчыку цяпер пэўна гаспадарыў пакінуты ёй нанач сабака. Я рынуўся на вуліцу, каб даведацца ў чым справа і, выскачыўшы за дзверы, адразу-ж спыніўся, спалохана прытуляючыся да паркана.

За два крокі ад мяне ляжаў на бруку, прыціскаючы да жывата акрываўленыя рукі, добра знаёмы ўсяму гораду стары ваданоша. Звалі яго—глухі Алтэр з Кагальнага Рову. Побач з ім валяўся каромысел і абернутыя вёдры. Запомніўся на ўсё жыццё яго заўсёды падперазаны вяроўкай дзіравы балахон з прышытымі да плеч анучнымі падушкамі.

Пасярэдзіне вуліцы ішлі ўсміхаючыся два звяры. Вы, магчыма, ніколі не чулі, што звяры ўсміхаюцца? А мне іх усмешка вядома. Абодва апранутыя ў салдацкія кажушкі, з салдацкімі-ж папахамі на галовах, яны трымалі ў адной руцэ аголеныя шашкі, а ў другой—рэвальверы. Аднаго з іх я адразу пазнаў. Гэта быў Шванд, немец па нацыянальнасці, дробны чыноўнік гарадскога банка. Настолькі дробны, што яго ні ў якую лупу не разгледзіш, але цяпер ён упэўнена крочыў, задраўшы ўверх галаву. З ім побач ішоў Давыдаў, буйны падрадчык, арганізатар гомельскай чорнай сотні.

— А вось і другі! Бі яго! Бі!! Ратуй ад іх Расію!!—нечакана закрычаў Давыдаў і рынуўся да мяне.

— За што?!—запытаўся я і хутка ўскочыў у майстэрню, але дзверы зачыніць не паспеў, бо таксама хутка за мной убеглі грамілы. Я толькі паспеў схавацца за касу.

Шванд адразу-ж пачаў ламаць шашкай шафы, а Давыдаў, заўважыўшы мяне, падбег да касы. Я падняў уверх абедзве рукі, каб паказаць сваю поўную бяззбройнасць і бездапаможнасць, і ў той-жа момант гад двойчы ва ўпор выстраліў у мяне. Ад стрэлаў у памяшканні зрабілася дымавая заслона. Пад прыкрыццем яе, не заўважаючы яшчэ ран, не адчуваючы болю, я пабег праз другі пакойчык да чорнага ходу. І тут толькі ўспомніў, што ён замкнуты.

Ідучы дамоў, гаспадар замкнуў чорны ход, а ключ ад яго паклаў на касу, дзе цяпер арудвалі пагромшчыкі. Выхад з памяшкання мне быў адрэзан.

— Лазар... Ратуй мяне... Я дам табе дзесяць рублёў... Нават адзінаццаць...—пачуў я нечакана і мне здалося, што гэта я пачынаю вар'яцець.

— Лазар... Дарагі мой... Ратуй... Дам дванаццаць рублёў...—працягваўся шопат. Азірнуўшыся навакол, я здзіўлена ўбачыў, што ў вялізнай скрыні ляжыць гаспадыня, куды яна схавалася пэўна пры першых стрэлах на вуліцы.

Уважліва прыгледзеўшыся да гаспадыні, я яшчэ больш здзівіўся. Яна пяшчотна прыціскала да сваіх грудзей сабаку. Магчыма вам прыходзілася бачыць, як людзі выскакваюць з ахопленай полымем хаты, трымаючы ў руках старую галошу? Пэўна гэтым тлумачылася несвоечасовае праяўленне любві да сабакі.

— Лазар... Лазар Давідавіч... Трынаццаць рублёў...

Як бачыце, нават у такіх абставінах гаспадыня ўсё расцэньвала на грошы. Я хутка закрыў скрыню крышкай, а сам падлез пад варштат і забіўся пад ім у самы кут.

Пад варштатам я прасядзеў хвілін дзесяць. Яны працягнуліся як дзесяць год, бо кожную секунду я чакаў прыхода граміл. А там звінела крохкае шкло, разбіваліся адшліфаваныя з такімі цяжкасцямі лінзы. З дзікасцю і тупасцю, уласцівай чорнасоценцам, знішчаліся шашкамі складаныя аптычныя прыборы. Але што там гаварыць аб прыборах, калі чорнасоценцы з такой-жа дзікасцю і тупасцю забівалі чалавека, які складаней за самыя складаныя аптычныя прыборы. Аб гэтым я думаў, седзячы ў кутку пад варштатам і тут заўважыў, што ў мяне ў рукавах мокра. Тады нечакана ўбачыў, што з іх цячэ кроў. Болі не адчуў і цяпер.

Калі ў майстэрні ўсё сціхла, і калі адтуль нечакана пацянула дымам, я вылез з-пад варштата. Спярша зняў крышку з скрыні, каб жанчына не задыхнулася, а потым ціха, прыціскаючыся да сцяны, пакідаючы на ёй крывавыя адбіткі пальцаў, пайшоў па ключ.

Лазар Давідавіч на момант спыніў сваё апавяданне. Відаць, што гэтыя ўспаміны яго вельмі ўсхвалявалі. Ён зноў зірнуў на вакно, за якім стаяла ноч чорная і густая, як 1906 год. Але толькі на

першы погляд ноч здавалася такой. Па вуліцы прабеглі адна за адной некалькі грузавых аўтамашын. На павароце іх бліскучыя фары асвятлілі помнік вялікаму правадыру і абезгалоўленую царкву. Далёкі гудок устрасануў паветра.

— Завод імя Кірава,—заўважыў Ніхамоўскі.—Там зараз ломка змены.

Не знайшоўшы нічога, што-б нагадвала 1906 год, ён зноў паправіў парожны рукаў свайго пінжака і тады працягваў апавяданне.

Майстэрню ўсю зацягнула дымам. Чорнасоценцы і разграмілі яе і падпалілі. Выхад на вуліцу загароджвала полымя, а калі-б і пашанцавала прарвацца праз яго на вуліцу, дык там чакалі зверы.

— Хутчэй лайдак! Давай ключ, цудрэйтэр! [1])—пачуў я ззаду голас гаспадыні і раптам пахіснуўся. Пахіснуўся не ад ран і не ад дыму, які перашкаджаў дыхаць—я ўбачыў што каса, дзе павінен быў ляжаць ключ ад чорнага хода, ператворана пагромшчыкамі ў трэскі.

— Гэта ўсё вы, маладыя! Гэта ўсё за вас!—сіпела ў другім пакойчыку гаспадыня.—Гэта нас б'юць за вашы забастоўкі, за ваша першае мая, за вашы бомбы. Не дарэмна яны цябе падстрэлілі. Ой, якія страты! Якая шкада!

Не адказваючы старой гадзюцы, я шукаў ключ. Пад мае рукі трапіў спярша вінт мікраскопа, які я толькі што з такой пяшчотай гладзіў. Потым разбітыя лінзы, якія толькі што шліфаваў, і нарэшце знайшоў ключ. Не пытайцеся ў мяне, што перажыў пакуль знайшоў яго, поўзаючы па падлозе, задыхаючыся ад дыму. У абедзвюх руках я цяпер адчуваў невыказны боль, у растрывожаныя раны набіўся пыл, звінела ў вушах.

Гаспадыня вырвала ў мяне з рук акрываўлены ключ. Адчыніўшы дзверы чорнага хода і адштурхнуўшы мяне ўбок, яна выскачыла на двор першай. Свежае паветра ўдарыла ў галаву, нібы хмель, і я пахіснуўся. Калі зрабіў яшчэ некалькі няверных крокаў, мне спярша здалося, што ва ўсіх царквах горада зноў загулі званы, потым, што да мяне адусюль працягваюцца вялізныя павучыныя лапы.

Прышоў я ў сябе ў невядомым пакойчыку, асветленым зарывам. У куту заўважыў чорны абраз, на голых сценах няма нічога, акрамя гадзінніка-ходзікаў, а пад імі вісіць вялікі ключ. Мае рукі нехта перавязаў старым, але чыстым ручніком.

— Што, ачуняў крыху?—пачуў я нечакана голас з печкі і адтуль звесілася ўніз сівая барадатая галава. Я пазнаў знаёмага дзеда-жабрака Міхея. І ўзімку, і ўлетку, з раніцы да вечару, ён стаяў на ганку Траецкай царквы з працягнутай рукой. Як нельга было ўявіць сабе Гомель без князя Паскевіча, так нельга было ўявіць яго без гэтага жабрака Міхея. Я вельмі здзівіўся і думаю: няўжо гэта я ў Міхеевай хаце? Здзівіўся таму, што ў птушкі ёсць

[1] з яўрэйскай мовы—недарэка.

гняздо, у вавёркі ёсць дупло, у крата ёсць нара, але ў Міхея сваёй хаты аніяк не магло быць.

Пачуўшы гутарку, з сенцаў увайшоў у пакой рослы, шырокаплечы, руды, добра вядомы мне дзядзька. Гэта быў Клім Балавахна, званар Траецкай царквы. З выгляду ён нагадваў мядзведзя, але ніколі я не бачыў больш забітага жыццём чалавека. Не кажу ўжо пра дарослых нягоднікаў, калі нават вулічныя падшпаркі здзекваліся з яго і, перадражніваючы царкоўны трызвон, заўсёды крычалі:

— Клім, Клім Бала-вахна!

— Ну што, чалавеча?—сказаў Клім, падыходзячы да мяне. Ён па свайму звычаю ішоў на цыпках, але палавіцы пад ім рыпелі.

— Як я да цябе трапіў, Клім?

— Га! Як? А вельмі проста,—адказаў званар.—Заўважыў я, што гарыць ваша майстэрня. Рынуўся да нашага бацюшкі, каб дазволіў ударыць у набатны саракапудовы звон. А бацюшка на мяне накінуўся, як воўк на цялё.

— Такі дурань, з мяне камілаўку здымае!—крычыць.—Гэта-ж юдзейскае гарыць. Гэта-ж свечка перад богам, а ты яе гасіць хочаш. Што толькі скажа паліцмейстар і вікарны архірэй? Усё-ж сачы, каб галаўні на царкву не ляцелі. Святая Тройца табе, змію, дапаможа.

Пайшоў я даглядаць. Бачу, на двары ляжыш ты. Вакол цябе нікога няма. Падышоў я бліжэй. Аж ты ўвесь крывёй падплыў. Іскры на цябе зверху ляцяць. Тады я схапіў цябе і перацягнуў сюды. Дачка мая, Ганкай зваць, у Лаўянава анучніцай работае, перавязала табе рукі. Вось і ўсё. Га!

Цеплыня ахутала мяне. Я ўстаў з лаўкі і падышоў да званара.

— Дзякуй табе, дзядзька Клім! Дзякуй!

— За што?—здзівіўся той.—Мы-ж у бога веруем. Вось толькі, каб бацюшка, айцец Мітрафан, не даведаўся пра гэта. Ці наш стараста Грошыкаў. Той, што гарадская галава, параходчык. Яны мяне пратураць за гэта. Га!

Людзі выратавалі мяне ад звярэй і зрабілі першую перавязку. Цяпер мне трэба было абавязкова трапіць у больніцу.

— Ты перапраніся ў Міхееву вопратку,—прапанаваў званар. Тады цябе на вуліцах ніхто не зачэпіць.

— Я-б даў яе,—заўважыў, злазячы з печкі, дзед.—Толькі ў чым-жа я заўтра пайду на паперць? Хаця—мая адзежына—адны латы, ды іншай у мяне няма.

— Тады ты, Ніхамоўскі, перапраніся ў маю,—сказаў Клім.—Ды толькі-ж і ў мяне яна таксама адзіная. Але-ж Міхей цябе праводзіць да самай больніцы, бо ты адзін не дойдзеш і яшчэ дзе павалішся. А адтуль ён прынясе маю вопратку назад. Я-б сам цябе правадзіў, ды бацюшка яшчэ заўважыць, змій даўгагрывы. Га!

Перапрануўшыся ў Клімаву вопратку і яшчэ раз яго падзякаваўшы, я пайшоў разам з Міхеем да дзвярэй, але па дарозе зава-

ліўся. Кроў, як гавораць, гэта не вада, а я яе шмат страціў у тую праклятую ноч.

— Трэба рамізніка,—сказаў званар, дапамагаючы мне падняцца з падлогі.—Ты, Міхей, вывядзі яго праз фортку на Траецкую вуліцу. Там паблізу стаіць з сваёй кабылай Патап Глыбаў. Толькі што яго бачыў. Ды ты яго, Лазар, ведаеш? Каржакаваты такі, з барадой да пупа, з маскоўцаў сам, сталавер. Га!

Мы пайшлі, але, перш чым выйсці, Міхей працягнуў мне, выняўшы з сваёй торбы, сачэнь:

— Падмацуйся, братка. Даруй, што жабрацкім хлебам цябе частую, але што ты зробіш... Лепш быць жабраком, чым злодзеем.

На Траецкай мы адразу знайшлі Патапа Глыбава. Я ведаў гэтага рамізніка раней. Не аднойчы чуў, як ён лаяў яўрэяў. Зусім нядаўна, калі Шановіч прагнаў яго з канём ад пад'езда сваёй гасцініцы «Савой», Глыбаў крычаў, што яўрэяў трэба біць. Выбару ніякага не было—прыходзілася ехаць з ім. Не сказаўшы ні аднаго слова, неяк па звярынаму спадылба зірнуўшы на мяне, рамізнік цмокнуў на свайго каня і мы паехалі да больніцы.

Мы ехалі па Румянцаўскай вуліцы. Гэта вуліца банкаў і магазінаў, ахоўваемая ад пагромшчыкаў паліцыяй, здавалася тады пустэльнай. Затое побач з ёю стогнам стагнаў Кагальны Роў. Гэты стогн чуўся з боку Амерыкі, Гарэлага Балота і іншых гомельскіх ускраін. На небе над імі дрыжэла зарыва.

— За што?!—пачуў я жудасны жаночы крык і ўздрыгнуў. Глыбаў маўчаў і, хто ведае, што ў яго ў той момант рабілася на душы. Я толькі ведаў, што ён за штосьці ненавідзіць яўрэяў.

Па вуліцах раз'язджалі драгуны. Перад самай больніцай да нас разам з драгуном падышоў граміла. Рослы, рабы, у кажусе, абсыпаным пухам, нібы снегам, ён трымаў у руках падосак.

— Каго вязеш, барада?—хрыпла запытаўся ён у рамізніка, спыніўшы каня.

Глыбаў павярнуўся да нас і пачаў брудна лаяцца.—Зараз смерць,—падумаў я, зірнуўшы на твар рамізніка і на падосак грамілы.

— Вазі тут розных паскудных ваякаў!—крычаў Глыбаў.— Пайшлі з падоскамі два недарэкі—стары ды малады ў Кагальны Роў біндзюжнікаў біць. А тыя іх так адбіндзюжылі кулакамі па пячонках ды па селязёнках, ды па руках, што не ведаю ці давязу толькі жывымі да больніцы. Ужо нічога не гавораць, вочы на лоб павыкацілі, ікаўка пачалася. Прымушаюць вось вазіць усякіх недабітых, а хто мне за іх заплоціць?—і рамізнік зноў пачаў гэтак незвычайна для старавера лаяцца.

— Дык вязі, барада, хутчэй!—сказаў граміла.—Паліцыя табе потым за іх заплоціць.

Калі мы разлічваліся з рамізнікам, ён сказаў—грывеннік трэба накінуць—а потым нечакана заўважыў:

— Ты можа думаеш, Ніхамоўскі, што я цябе за гэты грывеннік ратаваў? Дурань ты, калі так думаеш! Чысты дурань. Грывеннік мне гэты вельмі патрэбны, бо ў мяне ў Ветцы сям'я мае пяць

ратоў і я адзін на яе работнік, якая тут работа, калі кабыле маёй двух год да трыццаці не хапае? Яшчэ Александраўская кабыла, дзеда нашага цара памятае.—Пачаўшы зноў лаяцца, ён дадаў:—не тых б'юць каго трэба. Трэба Шановіча біць, а ў яго ў «Савоі» ні аднае шыбы не разбілі. Трэба магазіншчыку Добкіну ды падрадчыку Лаўянаву голавы адкруціць. Трэба гарадскую галаву Грошыкава ў Сожы ўтапіць. А ў першую чаргу трэба князя Паскевіча спаліць. Мы пад Веткай ягоную зямлю нашым потам угнойваем, грыжы на ёй зарабляем. Але найперш трэба біць аднаго нашага веткаўскага старавера. Давыдаў—прозвішча, з падрадчыкаў. Ён тут атаманам усёй гэтай шайкі. Ты яго можа часам ведаеш?

У больніцы я не знайшоў ні аднаго казённага доктара і фельчара. Мне зрабіла перавязку міласэрдная сястра. Для гэтага ёй прышлося разрэзаць рукавы сарочкі. Я заснуў. Але, перш чым заснуць, паклаў перавязаныя рукі на галаву, нібы жадаючы абараніць яе ад магчымага ўначы нападу.

І ўначы мяне разбудзіў маленькі сівы дзед. Гэта быў доктар Гелікман. Ён не быў казённым больнічным доктарам і нават у апошні час не займаўся прыватнай практыкай. Гэты дзед заўсёды аказваў першую і дарэмную дапамогу тым, хто цярпеў ад сутычак з паліцыяй і ад пагромаў. Пазнаўшы яго, я сказаў:

— Доктар, даруйце, гэта вас усхвалюе, але ўсё-ж я павінен сказаць. Ваш мікраскоп знішчылі пагромшчыкі.

— Маўчыце... Маўчыце...—адказаў, зморшчыўшыся нібы ад болю, доктар Гелікман. Старанна аглядзеўшы мае прастрэленыя рукі і пакінуўшы на стале свае медыкаменты, ён, канчаючы перавязку, заўважыў.—Што там, дружа, мікраскоп? Зараз у Кагальным Рове гінуць людзі. Простыя добрыя людзі: шаўцы, краўцы, кавалі, анучнікі, ваданошы, катрыншчыкі, жабракі. Гэта мае пацыенты. Мікраскоп павінен быў абслугоўваць іх. І яшчэ я вам скажу, дружа, вось вы з'яўляецеся афярай агіднага пагрома, зробленага «Саюзам рускага народа», але запомніце назаўсёды, што гэта пагромная банда, якая мае нахабства так называцца, не мае нічога агульнага з рускім народам. О, стары доктар Гелікман вельмі добра ведае вялікі рускі народ, каб дазволіць каму-небудзь абвінавачваць яго. Вы з'яўляецеся афярай заядлага ворага рускага народа і ўсіх народаў Расійскай імперыі.—Дзед нахіліўся нада мной і шэптам скончыў:—Вы афяра царызма, з якім сябруе рэб Шановіч.

У больніцы я праляжаў чатыры месяцы і лячыў мяне доктар Залескі. Гэты доктар атрымаў у нашым горадзе вялікую вядомасць пасля пагрома ў 1903 годзе. Праходзячы тады па гораду і заўважыўшы казакаў, якія збівалі нагайкамі краўца Сермана, ён адразу-ж спыніўся.

— Падпаліце хату гэтага яўрэя,—прапанаваў ён казакам,—а потым кіньце яго ў полымя.

Цяпер Залескаму даручылі лячыць раненых яўрэяў. Заўсёды абыякава агледжваючы мяне, ён аднойчы, гледзячы кудысьці ў бок, сказаў:

— Вам трэба неадкладна ампутыраваць абедзве рукі.

Мне тады было дзевятнаццаць год, таму вельмі хацелася, не гледзячы на ўсе перажытыя жахі, жыць і я адказаў:

— Рабіце, што хочаце, але толькі ратуйце. Я хачу жыць.

Але Залескаму не дазволілі зрабіць усё тое, што ён хацеў. Напярэдадні аперацыі ён знайшоў каля майго ложка Гелікмана, які спытаўся:

— Пане Залескі, чым вы збіраецеся ампутыраваць гэтаму хвораму рукі—сякерай ці падоскам?

— Калега,—сказаў Залескі, бяручы Гелікмана за рукаў,—тут лячу хворых я, а не вы.

— Я вам не калега,—адказаў дзед, вырываючы свой рукаў.—Ваш калега—падрадчык Давыдаў. А я доктар, вучань Пірагова.

Мне ампутыравалі толькі правую руку. Праз тыдзень пасля аперацыі, калі я прышоў канчаткова ў сябе, дык з боллю падумаў, што мая песенка, не гледзячы на мае дзевятнаццаць год, ужо прапяяна. Уперадзе мяне чакае тая самая паперць, на якой стаіць дзед Міхей.

— Лазар, не блытай мяне, калі ласка, з Гекдэшам [1])—сказаў гаспадар, калі я прышоў да яго з больніцы.—На рубель і ша.—Крыху падумаўшы, ён прыбавіў яшчэ пятак.—Табе трэба цяпер назбіраць грошай на катрынку.

Лазар Давыдавіч замаўчаў і аб чымсьці задумаўся. З гэтага задумення абудзіў яго дзіцячы смех і, радасна ўсміхаючыся, ён сказаў:

— Як бачыце, я анічым не нагадваю жабрака. Я жыццярадасны, вясёлы чалавек, я застаўся оптыкам і пачыняю складаныя аптычныя прыборы, я шчаслівы.

А з Давыдавым мне прышлося сустрэцца яшчэ адзін раз. Пасля першай нашай сустрэчы прайшло 24 гады. Шмат у старым Сожы за гэты час вады працякло, шмат у Гомелі за гэты час людзей памерла, але яшчэ больш нарадзілася новых гомельчан, якія выраслі ў зусім іншых умовах. Гэтыя новыя гомельчане часам успрымаюць апавяданні аб мінулым так, нібы яны здарыліся не на зямлі, а на месяцы. У лепшым выпадку яны адносяць іх амаль што да ледніковай эпохі. Нават для мяне самога мінулае, выціскаемае радасным жыццём, пачало зацягвацца дымкай і адсунулася на стагоддзе. Але ніколі не трэба пра яго забываць. Ніколі!

У 1930 годзе, як раз у дзень пуска Гомсельмаша, мяне нечакана выклікалі ў ОГПУ.

— Зачым гэта?—думаў я, ідучы ў ОГПУ.

Следчы запрасіў мяне ў свой пакойчык і, падсунуўшы крэсла, ветліва прапанаваў сесці. З сябе ён быў зусім яшчэ малады, але на скронях ужо засівелася. Пасля я зразумеў прычыны гэтай ранняй сівізны.

— Раскажыце, таварыш Ніхамоўскі, як і дзе вы страцілі сваю руку?—спытаў следчы.

---

[1]) З яўр. мовы—дабрачыннае рэлігійнае таварыства, якое клапацілася аб прытулку для бедных яўрэяў.

Нават здзівіўся я, бо калі гэта было, але ўсё-ж самым падрабязным чынам пра ўсё расказаў. Тады следчы запытваецца:

— А вы-б пазналі зараз гэтага пагромшчыка?

— Заўсёды-б пазнаў,—адказваю. З таго часу прайшло безмалага дваццаць пяць год, але калі-б мяне разбудзілі ўначы, дык нават спрасоння я-б пазнаў яго.

Тады следчы выцягвае з стала фотакартку і працягвае яе мне:

— Ён?

— Ён,—адразу-ж адказаў я.

Давыдаў вельмі пастарэў, бо сабакі таксама-ж старэюць, адпусціў сабе доўгую бараду, нібы збіраючыся схаваць за яе сваё подлае жыццё. А позірк застаўся былым—звярыны, бязлітасны позірк, пад вусамі моцна сціснутыя вусны, якія калісьці крычалі:

— Выматывай ім кішкі! Бі іх! Ратуй Расію!

Гэтак мірна складзеныя на каленках рукі тады трымалі добра вядомы не аднаму мне рэвальвер.

Расхваляваўся я зразумела. Следчы наліў шклянку вады і падаючы яе мне, сказаў:

— Супакойцеся, таварыш Ніхамоўскі. Усё ў парадку.

Але цяжка супакоіцца. Ужо мінулае пачало забывацца, выціскаемае з усіх кутоў шчаслівай сучаснасцю, а ён, пагромшчык, манархіст, чорнасоценец, звер, хадзіў сярод нас, дышаў нашым паветрам, чакаў першага зручнага моманту, каб усадзіць нам у спіну нож.

Калі я крыху супакоіўся, следчы расказаў мне, што Давыдава нядаўна арыштавалі на Каўказе, у Аджарыстане, каля Батумі. Ён там меў хутар з вінаграднікам і бязлітасна эксплаатыраваў наймітаў. Іменна за гэта яго і арыштавалі. А потым слаўныя чэкісты знайшлі ніці, якія вялі ад здзекаў над грузінскімі беднякамі ў сучасным да забойстваў яўрэйскіх беднякоў у мінулым.

Праз тыдзень мяне зноў выклікалі ў ГПУ для вочнай стаўкі з Давыдавым. Пасярэдзіне за сталом сядзеў таварыш следчы, а па абодвух баках стала, адзін супроць аднаго, сядзелі я і Давыдаў. Паміж намі быў не звычайны пісьмовы стол, а бяздонная прорва. І Давыдаў мяне пазнаў—гэта я заўважыў па таму, як нечакана задрыжэлі ў яго рукі.

Калі следчы пазнаёміў Давыдава з маімі паказаннямі, той з вельмі штучным здзіўленнем пацiснуў плячмі:

— Упершыню бачу гэтага чалавека. Ён хлусіць.

Не стрымаўшыся, я ўскочыў з месца і, паказваючы парожні рукаў пінжака, закрычаў:

— Вы пэўна спадзяваліся, што Лазар Ніхамоўскі даўно ўжо памёр з голаду, як жабрак, і не дачакаўся рэволюцыі? Га? Як не дачакаўся яе забіты вамі і Швандам ваданоша, глухі Алтэр з Кагальнага Рову? На вашых руках кроў дзесяткаў забітых вамі беднякоў! А колькі з іх вы зрабілі бязрукімі і бязногімі і яны памерлі жабракамі ў вашай, будзь яна проклята, Расійскай імперыі? Але я застаўся жывы і цяпер доўга буду жыць. У-у-у-у, недабітая звяруга!

— Супакойцеся, супакойцеся, грамадзянін Ніхамоўскі,—гаварыў, таксама ўстаўшы з месца, следчы. З выгляду ён здаваўся спакойным, але на яго шчаках з'явіліся ружовыя плямы і тады я зразумеў чаму ў маладога чэкіста на скронях заўчасная сівізна.

А яшчэ праз тыдзень я прысутнічаў як сведка на судзе, які імем нашай ордэнаноснай рэспублікі прыгаварыў Давыдава да вышэйшай меры пакарання. Рабоча-сялянскі суд сцёр гэтага звера з твару нашай прыгожай совецкай зямлі.

Лазар Давыдавіч скончыў сваё апавяданне. Гадзіннік на вежы палаца, які калісьці належаў князю Паскевічу, а цяпер піонерам, прабіў дванаццаць раз. Дзяўчынкі ў сумежным пакоі ўжо больш не спрачаліся.

— Дзядзя чырвонаармеец павінен стаяць пад елкай,—заўважыла чорнавокая Роза.—Ён пільнуе, каб ніхто не перайшоў праз граніцу.

— Цяпер мы можам спакойна спаць,—дадала шэравокая Блюма.—Дзядзя чырвонаармеец нікому не дазволіць нас пакрыўдзіць.

— Мае ўнучкі правы,—сказаў Ніхамоўскі.—Іх шчаслівае дзяцінства ніхто не адважыцца засмуціць. Вось бачыце?—і ён паказаў праз вакно на недалёкі будынак, усе вокны якога былі асветлены.—Гэта аддзяленне НКВД. Там ніколі не спяць. Там нашы лепшыя людзі, якія ачышчаюць нашу Совецкую краіну ад Давыдавых. Яны не спяць, бо яшчэ ходзіць недзе Шванд. Яны заўсёды на варце. А разам з імі на варце і ўвесь наш народ.

Нядаўна на сходзе членаў адной прамысловай арцелі, адстаючай ў выкананні плана, сказалі:

— Вось вы тут усе з абедзвюма рукамі і пляцецеся ў самым хвасце, а ў нас у горадзе ёсць оптык Лазар Давыдавіч Ніхамоўскі, які з адной рукой паказвае ўзоры соцыялістычнай працы.

Тут патрэбна маленькае ўдакладненне. Мая адзіная левая рука не разгінаецца да канца, але яна дастаткова моцная, каб задушыць некалькі гітлераўскіх пагромшчыкаў, некалькі Швандаў, калі яны толькі адважацца напасці на нашу соцыялістычную радзіму.

*Антон Алешко*

# АРАЯНЯ

Два гады я не быў дома.

У пачатку ліпеня высадзіўся на маленькай станцыі і, нікога знаёмага не знайшоўшы на пероне, з маленькім чамаданам і плашчом на руцэ вышаў у гарадок. Ужо было за поўдзень. Каля нафтасклада стаялі грузавыя машыны. Выпадкова каля аднае я ўбачыў знаёмага хлапца. Калісьці з ім вучыўся разам у школе. Ён нікуды далей не прабаваў паступіць, ажаніўся і жыў у суседнім пасёлку. Потым стаў старшынёю калгаса і, хоць малады, справу паставіў у гаспадарцы як належыць.

Я падышоў да яго і няўпэўнена запытаўся:

— Здаецца, Гайковіч?..

Ён мяне пазнаў і запрасіў з ім пад'ехаць.

— Ад мяне да твайго калгаса—як на гумнішча выйсці. Вось...—паціраў ён запэцканыя ў мазуту рукі.—Змітрок, аўтолу яшчэ набяры і хутка паедзем. А ты дзе зараз мераеш прасторы?—пытаўся ён у мяне.

Я ў некалькіх словах сказаў свайму былшаму аднакласніку, дзе быў, што бачыў.

Той чалавек, якому ён даручыў атрымаць аўтол, хутка выскачыў з-за бочак з вядром у руцэ.

— Атрымаў...

Шофер завёў машыну. Мы селі ў шоферскую кабіну. Было цеснавата, але нічога...

Ляцелі ўзбоч шасэ кілометравыя слупы. Мінулі прысады дзвёх вёсак і мякка гойдалі на шырокай, добра дагледжанай дарозе. Час прайшоў неўзаметку. Мы спыніліся каля хаты Гайковіча.

— У хату зойдзем... З дарогі не пашкодзіць перакусіць...

Адгаворкі не памаглі, і я мусіў зайсці. Хутка пачуўся піск сала на скавародзе і клапатлівыя крокі яго жонкі на кухні.

Сам Гайковіч вышаў. Я сядзеў у чыстай палавіне, блукаў поглядам па ўсім, што тут было. Чыстая палавіна сапраўды была чыстай, а ад яе дзверы вялі яшчэ ў якуюсьці баковачку. Усё было прыбрана і дагледжана. На гаршках вазонаў была каляровая папера, над вокнамі звісала бялюткае павуцінне цюлю.

Не паспеў я аглядзецца, як з'явіўся гаспадар і загадаў падаваць на стол. Рухавая жанчына паставіла талеркі і толькі, калі муж настаяў, вышла з кухні.

— Мне то і некалі... Работа ёсць,—сказала яна.

За падол спадніцы хіліўся чарнявы хлапчук, увесь у бацьку. Глядзеў на мяне маленькімі быстрымі вочкамі, цёр кулачком нос.

— Мой патомак,—хваліўся гаспадар.

— Усяго адзін?

— У самога ні аднаго мусіць, а ў мяне хочаш, каб дзесятак быў.

Пасмяяліся. Калі жонка вышла, Гайковіч пахваліўся сынам:

— Такі жвавы! На язык лёгкі...

Я пытаўся аб знаёмых з яго калгаса: адны служылі ў арміі, другія вучыліся і зараз былі дома на канікулах, а рэшта—хто дзе.

Успомнілі школьныя годы. Успомнілі некаторых настаўнікаў і, падзякаваўшы за ўсё, я вышаў з хаты.

Гаспадар крыху правёў і мы развіталіся за гумнамі. Уперадзе ляжаў кусок шэрае дарогі, а далей сенажаць.

Ішоў я дамоў не спяшаючыся, напоўнены невыразным спакоем, абводзіў поглядам знаёмыя палеткі, паплавы.

Тут прайшло маё дзяцінства, тут і юнацтва знаходзіла прыклажэнне ўсім здольнасцям, якімі я быў надзелен ад прыроды.

Як усё родна!

Адно скажу: зараз здавалася ўсё чамусьці мініяцюрным, ва ўсякім разе—маючым меншыя памеры, чым я сабе ўяўляў.

Магчыма, так было таму, што я меў прафесію, якая прывучала ўсё зямное бачыць у зменшаным выглядзе.

Любуючыся навакольным, прышоў дамоў.

У варотах пад ногі кінуўся клубком лахматы сабака і, адскочыўшы пад хлеў, ярасна залемантаваў. З сянец выглянула мама. Яна з хвіліну ўзіралася, потым вышла насустрач.

Да захаду сонца сядзелі мы з ёю ў садзе. Яна расказвала навіны. Потым з работы прышоў брат і мы пайшлі ў хату.

Дзён тры я сядзеў дома. Рэдка выходзіў на вуліцу. Цікавасць дому была вычарпана і аднойчы я пайшоў на сяло. Каля магазіна пагутарыў з калгаснікамі і рушыў у школу.

Перад маім ад'ездам у школе працавалі тры настаўнікі. З адным я вёў дружбу. Школа стаяла ў вялікім садзе і насустрач мне трапілася жанчына.

Я запытаўся.

Яна адказала, што мой таварыш паехаў на вучобу, а цяпер у школе застаўся на перыяд рамонту адзін Ласевіч. Я спыніўся ў роздуме: ісці ці не?

Рабіць было нечага. На мае крокі з настаўніцкай выглянуў узлахмачаны Ласевіч. Твар поўны, прадаўгаваты, з непрыемнай чырванню. Яго колер напамінаў брушка камара, калі той добра нап'ецца крыві.

Ласевіч здзівіўся майму з'яўленню і яўна ўвесь час стараўся дагадзіць.

Мы курылі. Я сказаў, што прабыў два дні і мне ўжо дома не ўсядзець, ахвота куды-небудзь пайсці і заняцца работай.

Ласевіч нахмурана паглядзеў, нейк лісліва ўсміхнуўся.

— Мы тут абвыклі і хоць бы што. Нікуды не цягне. Паедзем

на канферэнцыю ў горад і то адчуваеш сябе як у гасцях. Як-бы ні было, а я абжыўся.

Яму я не супярэчыў, прапанаваў калі-небудзь праехацца ў гарадок, у кіно. Ён згадзіўся. Згулялі дзве партыі ў шахматы. Я абгуляў і, не маючы моцнага супрацiўнiка, злажыў фігуры ў скрынку.

Мажлівасць паехаць у горад хутка прадставілася. Нейк пасля поўдня ішла калгасная машына. Везла гародніну ў горад. Мы з Ласевічам падселі. Як толькі даехалі да суседняга пасёлка, пайшоў дождж.

Я пакінуў машыну, а за мною скочыў і Ласевіч. Зайшлі ў памяшканне сельсовета.

Старшыні не было, а сакратар быў мне знаёмы. Ён абрадваўся, ціснуў маю руку.

— Чуў, чуў... Ты з Гайковічам надоечы прыехаў? Ён быў— казаў.

Я паглядзеў і вышаў на ганак. Дождж спорна сек змакрэўшы пясок вуліцы, а гарызонт быў мутны і з-за нашага калгаса даносіліся гукі далёкага грому.

«Вот табе і выехалі»,—падумаў я, нявесела паглядаючы на вуліцу.

Хат тры па левы бок стаяла на агародах, а чацвертая вытыркала на вуліцу новым лабком. За ёю віднелася хата Гайковіча.

Сакратар сказаў, што летась яны адкрылі медпункт у той новай хаце.

— Працуе ў нас фельчар-хлапец і акушэрка. Дзяўчына адным словам...—ён заглядаў у паперы на стале і змоўк.

Мне хацелася болей пачуць пра дзяўчыну, але сакратар маўчаў. Я яшчэ раз вышаў на ганак. Дождж коса сек і залiваў дошкі усходцаў. Ветрам несла прыемную свежасць і ледзь улавімую парнасць грудоў за пасёлкам.

Пакасіўся на вымачаныя жаўтлявыя дошкі лабка медпункта і цвёрда намерыўся зайсці. Аднаму было нязручна. Я папрасіў Ласевіча. Відаць было, што ён не хацеў ісці. Я пачаў дапытвацца. Ён маўчаў, пазіраючы на матавую ад пырскаў вады шыбу, цягнуў глыбей галаву ў плечы. Сакратар глянуў на мяне.

У яго поглядзе я ўлавіў нешта смяшліва-падбіваючае.

Па-ранейшаму настойваў:

— Не разумею, малады хлапец і такая апатыя. Пойдзем!

Ласевіч адышоў ад акна, на твары з'явілася ўсмешка.

— Пойдзем,—сказаў ён ціха.—Толькі, можа, там нікога няма,— гаварыў ужо на ганку.

— Чаму?—запытаўся я і, не атрымаўшы адказу, накіраваўся з ганка да медпункта.

Дзмуў вецер. Дождж хлістаў у твар. Я падтрымліваў пілотку і ўгнуўшыся спяшаўся за Ласевічам.

Абмахнуў пілотку ў калідорчыку медпункта і зайшоў направа. Пахла эфірам і яшчэ нейкімі медыкаментамі.

Агледзеліся. Нікога ў пакоі не было...

— Няма нікога, і дзверы не замкнулі,—сказаў я.

— Фельчар за плячыма тут жыве і да вечара не замыкае...

Мы стаялі з Ласевічам каля акна.

— Адкуль яна?—пытаўся я.

— Здаецца з Жлобіна...

Неахвотна гаварыў аб акушэрцы мой напарнік.

— А дзе яна жыве?

— Вунь, у той хаце...

Я паглядзеў праз мокрую шыбу.

— У той?.. У Гайковіча?

— Ну, але...

Я сумеўся ад таго, што пачуў. У Гайковіча я быў і нікога не бачыў, сам ён таксама і словам не абмовіўся. Гэта яшчэ болей зацікавіла і я сказаў Ласевічу аб сваім жаданні пайсці да Гайковіча. Ён адмовіўся.

— Тады пачакаеш мяне ў сельсовеце. Я хутка вярнуся,—і вышаў на двор.

Кругом аблажылі хмары і пайшоў праліўны дождж. Часта шэрань хмар рвала маланка і нібы аграмадныя каменні каціліся па доўгім калідоры, гэтак працягла каціўся гром у даль і глуха сцёбаў зямлю да перагрому шыб у вокнах. Гайковіч быў якраз у сенцах.

— У горад выбраўся, а заехаў у твой калгас. Дождж не пусціў...

Ён глянуў на мяне.

— Ты не вельмі і прамок. Я пакуль вярнуўся з Посечы—рубца сухога не засталося. Пойдзе яшчэ расці бульба,—смакаваў ён, стоячы каля парога.—Толькі каб вецер сціх, а то жыта зложыць. Мы зайшлі ў хату.

Гайковіч дакляраваў напаіць мяне дамашнім хмельным квасам і вышаў. Я тупаў па пакоі, па той самай чыстай палавіне, у якой мы закусвалі з дарогі і думаў запытацца пра акушэрку.

Раптам трахнулі дзверы баковачкі і ў гэтую палавіну вышла дзяўчына. Відаць, яна толькі што ўстала. На твары прыкметны быў рубец ад падушкі, валасы—аўсяны змяты сноп саломы. А адзенне, у якім яна вышла?.. На акругласці плеч ляжалі дзве малінавыя істужкі і падтрымлівалі шырокае дэкальтэ.

Дзяўчына падняла вочы і хвіліну стаяла перада мною. Потым зразумела мусіць, што я прадстаўляю зусім рэальны аб'ект, піснула і, тулячы далоні да грудзей, знікла за дзвярыма.

Я, як заведзены, зноў пачаў крочыць па пакоі і не менш яе ўсхваляваўся.

«Вось і акушэрка»,—думаў я.

Гайковіч прынёс збан квасу і наліў мне кружку.

Я выпіў. Пітво было надзвычай добрае. Халоднае—крыху кісьленькае, з рэзкім адценнем. Так і брала за нутро.

— Найлепшага гатунку,—хваліў я.—Сам рабіў?..

— Сам...

— З цябе вінакур не кепскі, маладзец...

Панізіўшы голас я кіўнуў на дзверы.

— Хто там у цябе?

— Маўчы... Там, брат, такі фрукт, што падзівуешся...—Ён падышоў да бакоўкі і пастукаў у дзверы.

— Казя Віктараўна, можна?—і схаваўся за дзвярыма. Праз хвіліну высунуўся і запрасіў мяне. Я зайшоў.

Казя стаяла каля століка, на якім гарою высілася мноства кніжак. Гайковіч пазнаёміў нас. Я зглянуў ёй у твар і апусціў вочы. Першы раз бачыў густы і гэткі строгі блакіт вачэй на прыгожым твары.

Я аглядзеў пакой.

Частку яго аддзяляў квяцісты палог. За ім была, мусіць, каравуць, на якой яна толькі што спала. На сценах віселa два малюнкі: адзін—вясна, а другі—восень. Каля стала два крэслы, этажэрка ў кутку, завешаная газетай.

— Сядайце,—сказала Казя.

Я сеў і, калі з ёю загаварыў Гайковіч, паглядзеў зноў. Светласіняя сукенка абхапіла высокі стан, ледзь не перашчыкнула пасярэдзіне, як мурашку. Уніз спадала амаль да долу шырокімі фалдамі. Высокія грудзі рэзка выдзяляліся. Уся постаць была надзіва гарманічна зложана. Каб не выдаць свайго захаплення, я пачаў глядзець на ляжаўшую газету.

Гайковіч тым часам вышаў.

Газета была на замежнай мове, я пачаў прыглядацца і ў першым-жа артыкуле прачытаў некалькі сказаў. Некаторых слоў не ведаў, але па сэнсу дагадаўся аб чым ішла рэч.

— Вы ведаеце нямецкую мову?..

— Вучыў у школе...

Я адхіліў газету.

— Як добра, калі ведаеш замежную мову, хаця адну...

— Безумоўна...

— Я другі год вывучаю. У мяне кніжак шмат, знарок газету выпісваю, а гаварыць не магу... Што за прычына?

— А з кім вы практыкуецеся?

Яна адказала не адразу.

— Вывучаю словы. Чытаю артыкулы і тады гутару сама з сабою...

Я ўсміхнуўся.

Яна спыніла блакіт вачэй на мне і ў ім убачыў я, як бліснуў на секунду фасфарычны, з адценем свежай бэзавай кветкі, агеньчык. Я адчуваў, што папаў на такую сцежку, па якой не хадзіла Казя.

— Мова—жывая рэч. Таму патрэбен жывы чалавек, з якім можна было-б гутарыць...

Яна пастаяла крыху, а потым села каля стала і, ужо не гледзячы на мяне, сказала:

— Жывы чалавек... А я адна... Дзе знайсці гэтага чалавека?..

Потым з жарам загаварыла:

— Людзей у нас хоць адбаўляй. Пісьменныя, вучацца хто дзе. А да мовы ахвотнікаў няма. Мне-ж неабходна...

— Спачуваю, спачуваю,—паўтарыў я працягла і кіўнуў на кніжкі.—У вас бібліятэка вялікая. Можа-б далі што пачытаць?

Казя была нездаволена, што я перайшоў на другую тэму і абыякава адказала:

— У мяне літаратура спецыяльная. Чытаць вам не цікава будзе аб метадах вызначэння тэрмінаў цяжарнасці, ці што небудзь з гэтай галіны?

— Усёроўна што чытаць... Засумаваў я,—не думаючы што, бухнуў я ў адказ.

Казя звузіла вочы.

— Засумаваў,—паўтарыла маю скаргу. На яе твары ледзь прыкметна лягло здзіўленне, а ямкі на шчаках ясна выдзяляліся.

— Гэтулькі работы, а вы сумаваць. Комсамолец? Ну, вось... Я, акрамя асноўнае работы, кожны дзень бываю не менш як у двух брыгадах, ды сходы... А вось,—яна паказала на кніжкі,— колькі гэта патрабуе часу. Думаеш, бывае, каб дзе-небудзь яшчэ пазычыць вольнага часу, а тут з'явіўся чалавек і—вольны як сокал... Пазычце мне часу,—пільна ўглядалася на мяне і дадала прыўзняўшы бровы:

— Вы сапраўды сокал,—яна дакранулася лётнага знака на рукаве гімнасцёркі.

Я сказаў у апраўданне:

— Я толькі прыехаў. А мне ўжо дакучыла без работы, от і сказаў...

— Прабачце,—вінавата сказала яна.—Вы з гэтага калгаса?

— Не,—я сказаў адкуль я.

— Я дагадвалася.

— Па чым гэта?

— У вас усе такія чорныя. Нават дзеці нараджаюцца і то бачу, што будуць чарней смолі. Арляняты...

У гэты момант за акном, надзвычай блізка, суха ляснуў гром. Шыбы зазвінелі ў раме, а Казя падскочыла і, каб не глядзець на мяне, прайшла па пакою да другога акна.

Глянула ў сад і весела сказала:

— Канец дажджу. Вунь светла ўжо...

Я ўстаў.

— Мне пара...

— Пасядзіце. Толькі што было часу—хоць у пазычкі нясі, а гэта—к спеху некуды...

— У сельсовеце чалавек чакае...

Я вышаў. У сенцах Гайковіч падплятаў лапці.

— Што ты надумаўся—лапці?!

— Не смейся... На балота збіраюся—стагі трэба паглядзець, каб не зацяклі. У хромавых не палезеш.

Мы пасмяяліся з дванаццацівушкавых лапцей і, на адыходзе, я запытаўся:

— Яна даўно тут працуе?

— Ужо год... А што?..

— Нішто дзяўчына.

— І-і, не кажы! А вось хлопцам носа дае, дык гэта праўда. Колькі ўжо хадзілі навакол, нават лейтэнанты з горада цалялі

і...—ён развёў рукамі і адтатуршчыў ніжнюю губу.—Гэта з табою нешта забавілася, а то адразу адшые і пайшоў хлапец не солана хлябаўшы...

Я нічога не сказаў Гайковічу, спыніўся каля парога. На дварэ цярусіў рэдкі дождж.

— Пайду...

Гайковіч прасіў не мінаць, кіўнуў у бок дзвярэй, маючы на ўвазе, як я зразумеў, Казю.

Пад нагамі чвякала гразь. У паветры вісела тугая свежасць. Я азірнуўся на вокны. У крайнім убачыў Казю. Што падштурхнула мяне—невядома, я зняў нахаду пілотку і памахаў у яе бок.

Яна ўсміхнулася і, адчыніўшы адну палавінку акна, памахала мне рукою.

У сельсовеце знайшоў Ласевіча і, мусіць, праз гадзіну мы пайшлі дамоў. У горад так і не папалі. Я касіўся на ледзь-ледзь нахіленую сцяну жыта. На каласох віслі каплі дажджу і ў праменнях заходзячага сонца іскрыліся тоўчаным шклом. Велізарны дождж абкаціў, як з вядра, дарогі, змыў пыл і зараз ляжалі яны маўклівыя, без слядоў. Я прызіраўся на тырчэўшыя ўздоўж каляіны каменчыкі і думаў аб Казі.

Гайковіч казаў, што яна недаступная, а я бачыў, што гэта не зусім так.

Мне хацелася аб гэтым пагаварыць з Ласевічам. Ён ішоў узбоч, падцягваючы ногі,—было слізка. Я сказаў:

— Бачыў вашу акушэрку.

Ён глядзеў на паплавы і нібы не чуў. Потым, мусіць, адчуў мой погляд, ці, магчыма, пауза прымусіла глянуць у мой бок. Я сустрэўся поглядам. Мне здалося, што ў вачох яго было столькі ўпрошваючага не гутарыць на гэтую тэму, што я да могілак маўчаў.

Знарок павялічыў крок, каб хоць гэтым развеяць нялоўкае палажэнне Ласевіча.

Магчыма я і памыляўся. Магчыма, нічога падобнага з ім і не адбывалася. Калі ўвайшлі ў канец вёскі, то пастух з пасёлка гнаў каровы. Мы пастаялі каля магазіна і я рушыў дамоў. Брат ляжаў у сенцах на каравацi, а ў галавах на скрыні пабліскваў рычаг патэфона.

Ён любіў народныя песні. Маё з'яўленне выклікала ўсмешку.

— Мама гаварыла, што ты ў горад паехаў. Хутка вярнуўся.

— Да сельсовета паспеў, а далей—як спусціўся дождж. Вярнуўся.

Я перакладаў пласцінкі, гаварыў, што бачыў акушэрку. Брат ахвотна загаварыў.

— Яна Ласевічу такога жару дала, калі ён хацеў пакахацца, што хлопец і сёння ходзіць як мыла з'еўшы... Глядзі, а то і табе будзе,—папярэдзіў брат.

Я не пярэчыў.

Павячэраўшы лёг у сенях. Пад суконнай коўдрай сцішыўся і думаў заснуць. Час ішоў... Магчыма гадзіну, ці можа і болей, ля-

жаў узіраючыся ў цемень вышак сянец і спаць не хацелася зусім. Думкі кружылі навакол аднаго: пышная аўсяная прычоска Казі і блакіт...

Мне ўспамінаўся адзін васенні дзень з мінулага году, калі я рабіў выпрабаванне новага самалёта на скорасць.

Матор раваў уперад шалёна, унізу ляжала медная восень, а затое край неба нібы хто старанна нацёр і згусціў фарбы блакіта.

Такі блакіт нагадвалі вочы Казі.

Доўга варочаўся і не мог заснуць. Нарэшце абрыдла мне і я сам сабе сказаў:

«Убачыў. Каб было што».

У падпавеці дружна загегеталі гусі, данёсся глухі заспаны брэх сабакі. Болей я нічога не чуў.

Назаўтра з братам пайшоў касіць канюшыну ў калгас і, прызнацца, так напрацаваўся, што ўвечары адразу заснуў. Уночы нешта блакітнае не пакідала мяне, але што, як ні сіліўся прыпомніць—не ўдалося.

Дзён два мінула і я пасігаў у суседні пасёлак. Сустрэў Казю каля медпункта, загаварыў як даўно знаёмы. Яна выслухала.

— Прабачце, бавіцца мне некалі,—і пайшла. Я пабыў у сельсовеце і з невясёлаю душою вярнуўся дамоў.

Непрыемнае ціснула свядомасць: «Вось і табе дала носа».

Я сябе супакоіў і парашыў падавіць уяўленні, што паспелі пышна расквітнець. У дадатак і тактыку рашыў змяніць. «Зачым занятага чалавека займаць пустымі размовамі? Трэба папасці ў рытм яе рабочага кроку, а тады паглядзім»...

На другі-ж дзень я пайшоў да Казі і, знайшоўшы яе ў амбулаторыі, паспешна папрасіў, каб яна дала мне апошнія нумары газеты. Я абяцаў прынесці на другі-ж дзень.

Яна ахвотна выканала маю просьбу, дала нават раман нейкага французскага пісьменніка. Я падзякаваў і быў ужо на парозе. Казя паклікала мяне.

— Не магу перашкаджаць вам. Вы так заняты, усё спяшаецеся,—сказаў я сур'ёзна.

— Цяпер я вольная.

Халат скрадваў яе стройнасць, рабіў мешкаватай. Яна кіўнула на табурэт.

— Вы мой пацыент...

— Шчаслівы той чалавек, што можа быць вашым пацыентам. Так я кажу, Казя Віктараўна?

— Так здаецца.

Я палажыў далонь на левую кішэньку гімнасцёркі.

— З сэрцам у мяне нешта... Вы не можаце мне пасобіць?

Казя выслухала мае скаргі і адчыніла шафу. Узяла фанандаскоп.

— Раздзявайцеся да пояса.

— Што вы?!

— Я выслухаю.

— Дзякую,—адпрошваўся я.—Каб сказаць балела, то не. Бывае ўбачу прыгожую дзяўчыну, скажу —вось як вы, і затрапечацца яно дробна-дробна. Разумееце?

— Які сімптом!—голасна смяялася Казя. Яна падышла да мяне.—Вы не жанаты? Не... Ну, тады зразумела. Надзвычай добры сімптом і сведчыць аб хваробе не можа. Наадварот.

Яна села за стол і нешта пісала ў вялікай кнізе. Апусціла густыя павекі. Я ўзіраўся ў яе прыгожы твар і заўважыў, як на шчаках пачаў паволі прасочвацца румянец.

— Хаця мяне не запісвайце.

— Не бойцеся.

— А што вы пішаце?

— Запісваю сёнешнюю работу. Ведаеце, на маім пункце нарадзілася за дзень трое крыкунчыкаў: два хлопчыкі і адна дзяўчынка. Такія здаровыя,—яна палажыла ручку і заглянула ў акно.—Фурманка зноў прыехала, мусіць на выезд.

Сапраўды пачуўся стук і ў амбулаторыю зайшоў чалавек гадоў пад трыццаць. Ён убачыў мяне і замяўся.

— Я да вас. Ведаеце,—гаварыў ён Казі.—У мяне жонка, ну вы паглядзіце... Падверадзілася, ці што іншае.

— Я зараз.

Казя скінула халат.

Яна была ў той-жа сукенцы і, здалося мне, яшчэ страйнейшай. Я сачыў за кожным яе рухам, потым устаў. Яна сказала з дакорай:

— Я сапраўды занята. Прыдзеце ў такі час. Пазней нельга?

— Можна,—сказаў я на ганку.

Яна села ў задок падводы і, калі конь тузануў, азірнулася.

— Няхай не трапечацца... Глядзеце.

У бліжэйшыя дні я так зрабіў: два разы прышоў пад вечар. Пазнаёміўся з Казяй зусім блізка і сказаў, каб болей мяне не звала на «вы». Смерць не люблю, калі блізкі чалавек называе мяне так. Яна згадзілася, сказала, што будзе рабіць так толькі таму, што гэтак падабаецца мне. Потым пад аблавухім клёнам на вуліцы праседжваў па-доўгу, узіраўся ў светлае неба над гарызонтам усходу і ўсё хацеў больш выпытаць у яе, зразумець чым яна жыве.

Аказалася, што Казя настойліва займаецца падрыхтоўкай і мае на мэце паступіць у інстытут.

Я падтрымаў яе думку і з размовы заключыў:

— З такой падрыхтоўкай можна паступаць.

— Я адчуваю—мала.

— Такі ўжо?

— Мінулы год мае знаёмыя трымалі экзамены, казалі, што цяжка.

— Нічога...—гаварыў я.

Мы спыніліся каля агародчыка. На градах буяла капуста, лапушыўся гарбузнік.

— Што-ж, каханая, мне пара дамоў,—узяў я за руку Казю.

Недзе ў прызбе, ці ў сцяне хаты Гайковіча, назойліва крычаў цвыркун.

— Не кажы так. Я не люблю,—сказала і, як мне здалося, прыслухалася нават, ці я пачуў.

Я нічога не сказаў і паволі прыхіліў яе да сябе, шаптаў на вуха нібы сакрэт:

— Глянь, мільгае... Якая зорка?

Яна яшчэ болей прыхілілася, узіралася на мільгаўшую над гарызонтам зорку. Я ўпэўніўся, што Казя не мела і элементарных ведаў наконт нябесных свяціл. Усміхнулася і сказала:

— Я толькі ведаю месяц. І то яго тут называюць «цыганскае сонца».

Мы смяяліся.

Казя мусіць забылася, што я выразна адчуваў яе цяплынь, хіліў усё бліжэй да сябе.

Яна нешта гаварыла мне, а ў вушах у мяне стаяў роўны звон ад назойлівага крыку цвыркуна. Нахіліўся і злавіў яе губы.

Яна ўстрапянулася і вёртка вывернулася з маіх рук. Адскочыла і прайшла па двару. Потым падышла і ціха сказала:

— Ці-ж можна так?

Яе рука зграбла мае валасы за вухам.—За гэта вось што... Вось...

У яе дакорлівым голасе чулася адваротнае. Я не чакаў пакуль скончыць, прыхіліў яе яшчэ раз і моцна пацалаваў.

— Я сур'ёзна кажу: нельга так,—казала яна, абхапіўшыся аберуч за маю шыю.

За калгасам захадзіў чырвоны месяц. Ад хаты, як і раней, чуўся манатонны крык цвыркуна.

Далей здарылася так, што я радзей пачаў сустракацца з Казяй.

У гэты час разгарнулася падпіска на пазыку і я ўключыўся ў работу. Па вечарох на суседніх пасёлках праводзіў сходы калгаснікаў. Праз некалькі дзён быў у сельсовеце і не мінуў медпункта.

Казя спаткала з халадком.

Я ўзіраўся ў яе твар, думаў, чаму яна такая. Фельчар нешта дыктаваў з вялікага аркуша паперы, а Казя пісала і ні разу не глянула, дзе я сядзеў.

Затое, як вышаў фельчар, яна перамянілася. Погляду яе я не вытрымаў, пачаў апраўдвацца.

— Афармляў падпіску на пазыку. Усе вечары быў заняты...

— Я думала, што іншае было,—складала паперы ў папку.— У мяне сёння ў «Вольнай працы» сход. Я чатыры пункты ахапіла.

Яна падышла да мяне.

— Мо сходзім разам у «Вольную працу»? Ты не заняты?

— Магу.

Калі сонца закацілася за груды, мы з Казей паўз рэчку ішлі ў «Вольную працу».

Сход быў кароткі. Нам толькі трэба было спяшацца афармляць заявы калгаснікаў. Многае я пачуў на гэтым сходзе.

Калгаснікі—тыя што падпісаліся—сядзелі водаль ад стала і гутарылі. Я чуў іх гаворку аб ураджаі, аб разліках таго, колькі атрымаюць на працадзень у гэтым годзе. Мы збіраліся дамоў, як у канцэлярыю зайшоў нізкарослы дзядзька ў балахоне з дубальтоўкай праз плячо.

— Ледзь не спазніўся,—заўважыў нехта.

— Ты і рад быў-бы,—скоса паглядзеў увайшоўшы ў бок заўважыўшага.—Сам нябось сядзіш, а каб на якую хвіліну мяне падмяніў, дык не... І я-ж хачу мецць пазыку... Дзякуй яму, старшыня калгаса адпусціў на поўгадзіны,—і ён асцепнуў шапку.

— Што дождж?

— Служба ў мяне сур'ёзная. Вы пра дождж? Пакрапаў крыху. Мусіць, скора і добры дасць... Дзе ў вас тут падпісацца на пазыку.

Казя занепакоілася, што надвор'е сапсавалася.

— Перачакаць прыдзецца...

Увайшоўшы чалавек быў калгасны сторож. Ён хутка падмахнуў на падпісным лісце сваё прозвішча і сказаў:

— Я днём ведаў, што збярэцца дождж. Вельмі сярэдзіна непакоіла.

— Яна ў цябе, дзядзька, як барометр,—усміхнулася Казя.

— Ты дакторка не думай—я не маню.

Мы вышлі з хаты. На дварэ было вельмі цёмна. З поўдня чуўся грукат грому. Памахваў халодны вецер.

— Каб хаця паспець да хаты.

— Паспеем,—супакойваў я Казю.

Вышлі на шлях. Ісці нам трэба было тры кілометры. Калі з шляху звярнуць за мастом і пайсці паўз рэчку, то на поўкілометра меней будзе. Я гаварыў Казі, што мне яшчэ два тыдні быць у адпачынку.

— Можа ізноў стала сумна?

— Я хацеў-бы прадоўжыць адпачынак.

— А-а... Я колькі не мела адпачынку—не было такога жадання. Табе добра... У цябе маці, брат...

Я пытаўся, дзе яе бацькі жывуць.

— Няма ў мяне нікога. Адна, як стаю. Добра, што дзіцячы дом выгадаваў.

Я спачуваў Казі.

— Я чуў, што ты з Жлобіна.

— Працавала там адзін год.

— Сірата ты мая,—грэў я яе локаць.

Вецер узмацняўся. У цемры ўспыхвалі залацістыя маланкі.

— Паўз рэчку бліжэй будзе,—казаў я прыбаўляючы крок.

— І добра...

Пайшлі паўз рэчку. Шумеў алешнік на беразе, гаманіў трывожна з густым чаротам. Недалёка каля сцежкі стаяў стог сена. Маланкі ўспыхвалі фасфарычным агнём. Пачаў крапіць дождж.

— Пачакаем тут,—сказаў Казі і павярнуў да стога.

За стагом было ціха. Рэдка задуваў вецер. Я натаўхнуўся на невялічкую капу сена побач з адонкам стога.

— Сядай...

— Як тут ціха,—уздыхнула Казя.

Пахла мурожнае сена.

Праз некалькі хвілін струмені ветру ўрываліся за стог да капы, дзе мы сядзелі. Думалася, схопіць вецер шапку стога і растрасс ў цемры. Справа чуўся шум дажджу. Ён паступова дайшоў і да нас. Упалі першыя кроплі, потым з шумам лінуў дождж. Маланка ас-

ляпляюча запалілася над рэчкай. Асвятліла атаўку сенажаці і блакітна задрыжэла на мокрых вяршынях алешніку, нахіленых ветрам. Трэснуў гром.

Казя ўздрыганулася.

— Не баюся, а дрыжу.

Я слухаў яе цяпло. Дурманіў пах мурагу.

Праз некаторы час шум дажджу па сенажаці аддаліўся ўправа. За рэчкай бліснула маланка. Я прыслухаўся. Зразумеў, што дождж пайшоў бокам і хацеў глянуць, але блізасць Казі не дала гэтай мажлівасці.

Вецер сціх, далёка грымеў гром.

Назаўтра пад поўдзень мы з братам ставілі антэну ў садзе. Яго марай было радыё.

Ён сядзеў на грушы і камандаваў мною. Я нацягваў шпагатавы шнур праз блок на высокім шасце, умацаваным на другой грушы.

Маё нутро пасля ўчарашняга поўнілася невыразным спакоем і было так лагодна, што калі я крыху плюшчыў вочы, паўставала навальнічная ноч і пахла мурагом.

Неўзабаве ў садзе з'явілася шустрая дзяўчынка і дала мне паперку, згорненую парашком. Я прачытаў:

«Кідай усё і прыходзь. Чакаю ў сваім пакоі.

Казя».

Калі азірнуўся, то дзяўчынкі ўжо не было. Рабоце хутка падышоў канец. Я сабраўся і пайшоў. Каля магазіна спаткаў Ласевіча. Ён пахваліўся:

— Я вучыцца паступаю.

— Рад за цябе.

Мяне мучыла ўвесь час пытанне, навошта я так экстранна спатрэбіўся Казі. Рознае думалася.

Калі пераступіў парог пакою, яна ўстала з-за стала і, закінуўшы зашчапку на кручок дзвярэй, зачырванелася.

— Не думала, што прыдзеш...

— Чаму?

— Я хачу з табою пагаварыць.

Казя пазірала ў сад і я бачыў, што нават шыя ў яе пачырванела, а слоў не было.

Я падышоў да акна.

— Прашу аба мне кепскага не думаць, не лаяць. Я прышоў да цябе з адкрытай душою. Кажы...

Казя мігам павярнулася і змерала мяне поглядам.

Я чакаў, што яна скажа.

А Казя падышла паволі, паглядзела пільна ў твар і сказала:

— З учарашняга я твая...

— Казя! Няўжо?!

— Праўда!

Я прыгарнуў яе і нешта гаварыў, абы толькі не маўчаць.

— Як магло здарыцца?—пыталася яна ў сябе.

— Кінь. Як скажаш, так і будзе.

Апошнія дні адпачынку я праводзіў напалову ў Казі, а другую палову быў у сябе дома.

Мне здавалася, мама памаладзела, а брат, думалася, так пазіраў з зайздрасцю.

Усе былі рады, а я дык болей за ўсіх.

Перад ад'ездам, памятаю, сустрэлі мы з Казяю Ласевіча. Ледзь не згарэў ад сораму хлапец. Я то нічога, ён сароміўся Казі.

Потым яна казала:

— Слабы хлапец, а вучыцца едзе. Ты мяне збіў з вучобы.

— Заедзем на мейсца і будзеш вучыцца, толькі не сумуй.

Праз тры дні я быў у часці. З'явіўся да камандзіра эскадрыльі і далажыў, што прыбыў з адпачынка. Камандзір бачыў, што я не ўсё сказаў.

— Удваіх прыехалі.

— Ажаніўся? Добра... Я зараз,—ён званіў па тэлефону. Выклікаў начальніка КЭО і, назваўшы маё прозвішча, загадаў:—Сёння даць кватэру... На другім паверсе. Так, так... Тую, што начальніку штаба рыхтавалі. Ён яшчэ не прыехаў. Што? Не будзе-ж камандзір з жонкай у суседзяў жыць... Прыедзе начштаба, знойдзем і яму мейсца. Што? Даць!

Так мы і жылі цэлы год. Летам мяне перавялі ў другі горад камандаваць атрадам эскадрыльі знішчальнікаў.

Работы было шмат. Я позна прыходзіў дамоў, рана ўставаў. Мала бачыўся з Казяй.

Яна была ў апошнія тыдні цяжарнасці.

Потым былі манеўры і дамоў вярнуўся я праз паўтара месяцы. Дайшоў да кватэры і спыніўся на ганку. Ад васьмігадзіннага пералёту шумела ў галаве; ганак, здаецца, варушыўся пад нагамі.

Я напружваў слух. Было ціха. Паволі зайшоў у кватэру. Мяне спаткала з радасцю Казя, зусім такой, якой я ўбачыў яе ўпершыню. Можа крыху толькі папаўнела. Валасы яшчэ пышней віліся на галаве.

Пераводзячы дыханне, сказала:

— Сын... Ты ўжо бацька, Алесік...

— Дзе?—Я абнімаў яе, дапытваўся.

У пакоі Казі стаяла люлька. Я на цыпачках падышоў, затаіў дыханне.

Яна падняла край пакрывала.

— Глянь...

Я нахіліўся. Разглядаў ружовы тварык.

— Мой толькі нос. Усё астатняе тваё... Сапраўднае арляня будзе,—гаварыла Казя.

Цяжка было разабрацца, чый быў нос у сына: мой, ці Казі, але калі яна так сказала—я паверыў. На маленькім лобіку, добра прыглядзеўшыся, я заўважыў блакітную жылку. Мяне ўсяго напоўніла невыразная радасць. Дзе і дзявалася ўтома! Я глянуў на задаволеную Казю.

— Дзякуй за сына... Арляня, кажаш? Няхай...

Мы вышлі з пакоя, дзе спаў сын і селі вячэраць.

Сакавік, 1939 г.

---

*Эля Каган*

# ЛЮСТЭРКА

Сам я не памятаю гэтай гісторыі, бо яна адбылася сто год таму назад, а мо' і больш, а гэта мне апавядала мая прабабка, і мабыць сапраўды так было, бо маёй прабабцы было сто пяць год, калі яна мне расказвала гэту гісторыю. Ніяк не магу сабе ўявіць, каб такая старая бабуля пачала выдумляць перад смерцю небывалыя бабульчыны казкі.

Адбылося гэта ў мястэчку Бібачанах—там сама бабулька мая жыла. Тых, хто жылі ў Бібачанах, звалі «бібачанскімі дурнямі»—бо мястэчка стаіць на гары, а студня знаходзіцца ўнізе (у гары нельга капаць вельмі глыбока). Бібачан абзывалі дурнямі таму, што з пустымі вёдрамі, калі лёгка насіць, яны ідуць з гары ўніз, а з поўнымі, цяжкімі вёдрамі, яны ідуць на гару ўверх.

Яны мабыць сапраўды былі не з вялікіх разумнікаў, канешне, апрача маёй прабабкі. Яна якраз была разумная жанчына. На тое, каб пражыць сто шэсць год, трэба мець розум.

З таго, што я вам зараз раскажу, самі пабачыце, што бібачане былі дурнямі.

У Бібачанах жыў чалавек, звалі яго Екель разумны, бо ён быў самы разумны ў мястэчку ды ўмеў рахаваць, ведаў колькі гэта тры разы па чатыры. Вось таму-ж ён хадзіў па вёсках з клункам розных тавараў. Пярсцёнкі прадаваў, іголкі, сцізорыкі, хусцінкі і падобныя рэчы.

Аднаго разу ён пайшоў пехатой пяцьдзесят вёрст (тады яшчэ не было чыгункі) па тавар у бліжэйшы горад.

— Я маю для вас зусім навюткую штучку,—сказаў яму крамнік Міхель з вялікага гораду.—Зірніце.

Екель узяў у рукі гэту штучку, падобную да шкляной дошчачкі. Ён у яе ўтаропіўся і адразу схапіўся за галаву.

— Уй, рэб Міхл, гэта-ж мой бацька!

У шкляной дошчацы ён сапраўды ўгледзеў чалавека з вялізнай доўгай барадой, якраз яго бацька—ну проста жывы. Ён яшчэ ніколі ў жыцці люстэрка не бачыў, таму ён нават не ведаў як ён сам выглядае. Але бацьку свайго ён памятаў, а ён сам быў падобны да бацькі.

Крамнік адразу ўцяміў, што мае справу з бібічанінам, дык ён усміхнуўся.

— Чуеце, рэб Міхл,—ускапіўся Екель,—вы павінны мне пра-

даць майго бацьку, гэта застанецца ў мяне памяткай назаўсёды. Скажэце, адкуль вы маеце яго твар?

Хітры быў крамнік—адразу прыдумаў небыліцу.

— Разумееце, рэб Екл,—сказаў крамнік,—ваш бацька, светлы яму рай (так даўней гаварылі, калі ўспаміналі нябожчыка), прыязджаў у наш горад, а ў нас тут ёсць рэб Шмелка, дык ён вялікі штукар маляваць людзей, вось ён і адмаляваў вашага бацьку.

— Даю вам рубель і аддайце мне майго бацьку (люстэрачка гэта тады каштавала дзве капейкі).

— Рубель? Ачмурэлі ці што? Гэта-ж рэб Шмелка на гэтым цэлы год працаваў, трэба-ж было кожны волас паасобку маляваць. Вы-ж нават не разумееце колькі гэта варта!

— Два рублі!

— Навошта малоць языком, калі цаны не ведаеце!

— Пяць рублёў!

— Навошта малоць языком, калі ўцяміць не можаце, што гэта за каштоўнасць?

Пятнаццаць рублёў выманіў у яго крамнік за двухкапеечнае люстэрачка.

На развітанне крамнік загадаў яму нікому гэта не паказваць— бо калі доўга ў гэта глядзець, дык яно адгледжваецца—псуецца. Хітры крамнік. Калі яшчэ хто зірне, дык яшчэ дазнаюцца, што ён абмануў Екеля.

Праз усю дарогу дамоў Екель, тоечыся, каб ніхто не запрыкмеціў, дзівіўся ў люстэрачка. Тата—цюцелька ў цюцельку!

Прышоўшы да хаты, ён схаваў бацькаў твар у камодзе, а ключ трымаў у кішэні. Што дня ён употайку паглядаў на бацьку... Наглядзецца не мог. Кожны волас паасобку намаляваны—волас у волас! Аднаго разу ён нават заўважыў, што бялее лапша на барадзе. Ён ткі помніць, што яго бацька вельмі любіў лапшу і заўсёды хадзіў з лапшынамі ў барадзе.

Ажно жонка яго, Нэха разумная (яе звалі разумнай толькі таму, што мужа яе звалі разумным) запрыкмеціла нешта няладнае: дзень-у-дзень Екель тупаецца ля камоды, нешта адтуль выцягвае і таропіцца ў гэта ўпотайку. Яна вельмі зацікавілася, што гэта за яно. Калі не паказвае, дык трэба самой паглядзець. Якія-ж гэта могуць быць сакрэты ў мужа ад жонкі?

Аднаго разу, калі ён спаў, яна выняла ў яго з кішэні ключ, выцягнула з камода шкляную дошчачку і пачала ўзірацца. А як пачала ўзірацца, дык спынілася на месцы, глядзела ды глядзела. Екель ужо даўно ўстаў, а яна ўсё глядзіць.

— Чаго так доўга лыпіш вочы,—запытаўся Екель, еўшы лапшу, ды ірвануўся да яе,—яшчэ ўсё выглядзіш, сапсуеш.

— Нішто сабе муж,—зазлавалася Нэха, зачырванелася як бурак і схапіла Екеля за бараду,—муж, які мае жонку і дзяцей, прывёз сабе з горада красуню і казерыць у яе бельмы дзень-у-дзень. Што ты сабе думаеш, агіднік. Уй, дзеткі мае,— залемантавала Нэха,—чуеце, дзеткі, сіроткамі вы засталіся. Няма ў вас бацькі. Каб мяне толькі ліханька не ўзяла. Ён нейдзе там у

горадзе знюхаўся з нейкай чужой бабай—каб гадочкі мае маладыя пропадам не прапалі!

— Якая баба, якія тры чверці да смерці! Што за чартаўшчына! Гэта-ж бацька мой адмаляваны!

— Бацька твой,—усхапілася Нэха,—вы толькі палюбуйцеся на бацьку без барады і без вусоў і з навушніцамі ў вушах, ды з хусткай на галаве—нішто сабе выгляд у твайго бацькі! О, нешчаслівы бацька твой, нешчаслівая я, авохці мне!

— Вочы вылезлі ў мяне ці што,—увайшоў у злосць Екель,—ці-ж я не бачу? З барадой і з вусамі, а вунь бачыш і лапшынка на барадзе!

— Лапшынка, шыпшынка, шынка! Не ведаю, хто з глуздоў з'ехаў, я, ці мае ворагі, пабягу да людзей, хай людзі скажуць!

Нэха пачала грукатаць у сцяну да суседкі:

— Златка, Златка, залаценькая, заходзьце, злітуйцеся, на міласць божую, заходзьце!

Суседка Злата, якая мае вялікі гуз на ілбе, зайшла.

— Златка-золатца, я засталася нешчаслівай, горкай удавою. У мяне ўжо няма мужа. У мяне ўжо ёсць нядоля. Зірніце-ж сюды ды скажыце мне, ці з вусамі ці без вусоў, ці гэта бацька ці баба. Вы толькі зірніце на жанчыну, з якою здружыўся мой лагодны мужанёк.

Злата зірнула у люстэрка ды адразу пазнала сябе, бо яна добра ведала, што апрача яе тут у мястэчку ні ў каго няма гуза на ілбе. Спачатку яна пачырванела, пасля пажаўцела, потым пазелянела, урэшце яна ўголас заплакала:

— Я нічагусенькі не ведаю, што вы маеце да мяне. Я з вашым мужам ніколі, нічога, ніякага. Не сустракалася з ім і сустракацца не хачу. Што за кепікі вы з мяне строіце? Якім гэта чынам папаўся да яго мой твар? За што вы здзекуецеся з чэснай і ціхай жанчыны? Вы-ж наводзіце на мяне ганьбу, паклёп, а божанька.

А таму, што яна ўспыхлівая як запалка, ды хутка пачынае злавацца, яна кінулася біцца.

— Эге-е,—усхапілася Нэха.—На злодзеі шапка гарыць, я зусім не пазнала, я зусім не здагадалася, што гэта ты сама сябе выдала. Вось табе! Маеш! Во! Цяпер будзеш ведаць як залабутваць ды адбіраць мужа ў жонкі і дзяцей!

Жанчыны ўрэпіліся адна адной у парыкі (даўней яўрэйскія жанчыны астрыгалі ўласныя валасы і насілі парыкі), сарвалі іх ды засталіся з голымі галовамі. Потым яны схапілі адна адну за пасы, затым яны кусалі адна адну, драпаліся і казыталіся. Екель таксама ўлез у бойку і атрымліваў штурханцы. Пасля бойкі ў Нэхі засталіся два гузакі на ілбе, а ў Екеля—вялікая балдавешка на носе.

Пры гарачай бойцы люстэрка разбілася на дробныя кавалачкі, але калі Нэха падняла асколак люстэрка, дык убачыла там сябе.. Цяпер яна сябе добра пазнала—двух гузакоў на ілбе ніхто ў мястэчку не мае. Екель падняў кавалак люстэрка і таксама пазнаў сябе—ні ў каго ў мястэчку няма балдавешкі на носе.

Тады яны парашылі, што ўсё што было, пропадам прапала, ветрам панясло, вадой сплыло. Гэта было, ратуй божа, чараўніцтва, грэх пра гэта і слова вымавіць.

Пасля гэтага яны абодвы пражылі жыццё прыстойна і пачэсна, і Екель таксама дажыў да дзевяноста год. Аднак разумнейшым ён не стаў. У тыя старадаўнія часы можна было пражыць сто год і памерці ўсё роўна дурнем. Мая бабуля толькі выпадкова ўдалася разумніцай.

*З яўрэйскай мовы пераклаў З. БЯДУЛЯ.*

*Мікола Ткачоў*

# НА БЕРАЗЕ СОЖА

*(Апавяданне)*

## 1

З-за лесу паказалася велізарная хмара і, уздыхаючы раскатамі грома, папаўзла проста к Сожу. Па зямлі прабеглі апошнія цені, затым адразу сцямнела. Спалохана закракалі вароны. Ластаўкі выпісвалі петлі над вадою і неўгамонна шчэбяталі. Рэчка зморшчылася, гнеўна загушкалася, выплеснула на пяшчаны бераг першыя хвалі.

З-пад разгалістага дуба вышаў чалавек, паглядзеў усцяж ракі, на нізкае неба. Ён быў каранасты, смуглы, злы і суровы, як тая хмара, што ішла насустрач яму. Кепскай пагоды ён не хацеў, але прырода не разгадвала яго думак і жаданняў. Дажджавыя слупы былі не так ужо далёка. Чалавек сплюнуў, заклаў рукі ў кішэні скуранай тужуркі і засігаў к дубу.

— Фу, няўдача... Даўно чакаем, а яго ўсё нямашака.

— Дарэмна мы спяшаліся. Трэба было прасядзець дзень дома, а вечарам прыйшлі-б.

— Страшнавата... Усякая трасца магла-б наскочыць,—адказаў каранасты і паглядзеў на ручны гадзіннік з залатой апраўай.

— Колькі цяпер часу?—пачуўся з-пад дуба голас рыжага хлапца, які прачышчаў ствол вінтоўкі.

— Чатыры,—раздражнена буркнуў каранасты і зноў паглядзеў на неба.—Навальніца, братва, будзе вялікая, здарава можа насаліць нам.

— Нічога... Шалаш у нас даволі шчыльны. Усё перанясе, а свайго дачакаемся,—прабасіў рыжы.

Ліў буйны дождж. Было чутно, як грахаталі лясныя нетры, як вецер-асілак скрыпеў стогадовымі дрэвамі і як бязлітасна ён кідаў рачныя хвалі на бераг. Нават птушкі, якія прарочылі буру і дождж, пахаваліся і маўчалі, а на беразе Сожа час-ад-часу можна было бачыць чалавека, які стаяў хвілінамі і позіркам шукаў чагосьці ў рачной далячыні.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У хаце Лук'яна Сандыргайлы ўчора пад вечар было занадта шумна. На шырокім стале стаялі бутэлькі, недапітыя чаркі, талеркі са скрылямі мочаных агуркоў і смажаным салам. Ганарлівы гаспадар сядзеў на ўслончыку, а побач з ім яго дваццаціпяці-

гадовы сын Анціп—каранасты і смуглы хлапец. Насупроць іх на лаве—яшчэ тры чалавекі. Адзін з іх семнаццацігадовы Алёшка Піскуноў. Ён піў менш за ўсіх, але ап'янеў першы і цяпер яму здаецца рабым не толькі яго сусед рыжы Грышка Копацеў, а нават чысты і беласнежны твар Гардзея Здора. Усе яны гулялі другі дзень па поваду ўдалага заўчарашняга налёта на сельскі кааператыў.

— Што, яшчэ мо' глынём?—звяртаўся да ўсіх Лук'ян.

— Лі, бацька! Піць дык піць. Праўда, братва?

— Што за размова? Калі мы з табой не згаджаліся? Высушым па чарцы, а там пабачым,—прабасіў Копацеў, што піў гарэлку, як ваду ў спякоту.

У гэты час раздаўся стук у вароты. Лук'ян насцярожана падскочыў к акну. Усе падняліся з месцаў:

— Хто там?

— Ша... Гэта камітэтчык Лядаў.

— Чаго ён напроці ночы?

— Відаць, з разверсткай сваёй. Палічылі, што ў мяне дзвесце пудоў хлеба лішняга. Каб не вязаліся, я пяцьдзесят пудоў завёз, а болей не хачу.

Стук паўтарыўся, толькі больш настойлівы.

— Схавайцеся, братва. Пусці яго, бацька. Прыдзе—задушым і ў балота зацягнем.

Алёшка шмыгнуў на печ, Грышка з Гардзеем схаваліся за шафу, а Анціп з сякерай у руках стаў за палавінкай дзвярэй.

Гаспадыня тымчасам згрэбла ўсё са стала. Тады Лук'ян пайшоў адпіраць вароты, стараючыся не боўтацца ўбакі.

— Запоры вашы моцныя—ніяк не дастукацца. Заняты былі, ці што?—сказаў Лядаў, калі Лук'ян адчыніў калітку.

— Спаў, Адрэй Власавіч, нічагусенькі не чуў.

— Гэта не так важна. Скажэце, хлеб завезлі на ссыпны пункт?

— Запрашаю ў хату, Андрэй Власавіч. Там пагутарым.

— Нічога. Чаму-ж не выканалі заданне?

— Я хварэў, а бабу прасіў-прасіў ды і язык успацеў. Праўда, завітаем у хату, Андрэй Власавіч.

— Ды не турбуйцеся. Чаго-ж вы не завезлі? Ці можа ад сына смеласці набраліся?

— Якога сына?

— Вашага, Анціпа.

— Адкуль вы гэта выкапалі, Андрэй Власавіч? Ён жа ў Арміі Чырвонай.

— Людзі ведаюць у якой ён арміі. Кажуць, шайку сваю арганізаваў, уцягнуў у яе сына дзяка Грышку, канакрада Гардзея, дызертыра Яўмена, ды яшчэ некалькі падобных ім.

— Толькі слухайце людзей, дык яны вам набрэшуць, Андрэй Власавіч. Дапраўды, няўжо ў нас хаты няма, што мы тут стаім?.

— Залішне не турбуйцеся. Мне ў вашай хаце няма чаго рабіць. Я пайду дамоў, а вас папярэджваю апошні раз, каб заўтра адвезлі хлеб. Сыну-ж парайце пакінуць промысел разбойніка, інакш галаву яму знясуць хутка.

— Пра сына я нічога не ведаю, а што пра хлеб, то яго ў мяне больш няма.

— Глядзі, Лук'ян, вароты ў цябе жалезныя, а іголкі папрасі, то пэўна скажаш: няма. Такая ўжо ваша натура, ведаем мы вас. Вось так і з хлебам. У падобных выпадках савецкая ўлада не цацкаецца,—адсек Лядаў і пайшоў з двара.

Злым Лук'ян вярнуўся ў хату, яшчэ з парога закрычаў:

— Хлеб праклятым давай і баста!

— Ні фунта, бацька! Спалі, закапай у гразь, але не вязі.

Усе зноў сабраліся к сталу, толькі адзін Алёшка храпеў з посвістам на печы. Калі гаспадыня завесіла фіранкі і запаліла лямпу, па-ранейшаму пачалі піць і размаўляць.

— Бацька, я адчыняў акно і слухаў, як вы размаўлялі. Ён і мяне нешта памінаў.

— Прачулі, гады, у якой ты арміі.

— Што-ж, шыла ў мяшку не ўтоіш. Не доўга і яны пратрымаюцца. Хутка ім Польшча зацісне горла. Тады наша возьме верх. А пакуль што нажывайся, братва. Заўчора наляцелі на кааператыў, а заўтра—на касу парахода, а галоўнае—судно са строю.

Не адну бутэльку давялося яшчэ высушыць, але больш за ўсяго малолі языкамі: выхваляліся, расказвалі анекдоты, абяцалі слухацца свайго атамана. Так загуляліся, што забылі нават пра сон.

Пачынала світаць. Вёска спала моцным сном. Спявалі трэція пеўні, калі чатыры ўзброеныя бандыты выходзілі з выгана і накіроўваліся да Сожа, прыкрываючыся полагам хісткай прадранішняй цемры.

2

Начальнік павятовай Чэка Якаў Карпавіч Ключавы падскочыў з пасцелі, падышоў да стала і ў цемры нашчупаў тэлефонную трубку. Званіў дзяжурны. Голас яго слаба быў чуцен, і Ключавому даводзілася напружваць слых.

— Стралялі?.. Так-так... Загадваю разбудзіць атрад... Ага... Я зараз буду там.

Ключавы запаліў лямпу, мімаходзь паглядзеў на зліпшыяся на лічбе «3» дзве стрэлкі гадзінніка, апрануўся і выскачыў з пакоя, не адказваючы на пытанні праснуўшайся жонкі.

Начальнікам Чэка Якаў Карпавіч працуе некалькі месяцаў. Раней ён жыў у Гомелі, працаваў фармаўшчыкам на адным невялічкім ліцейным заводзе. А потым, як лепшага комуніста, яго паслалі на працу ў Чэка.

На дварэ было ціха і цёпла. Ключавы хутка ішоў па дашчатаму тратуару, перайшоў вуліцу, узышоў на ганак драўлянага дому. На калідоры стаялі падрыхтаваныя чэкісты, нехта ў кутку пазяхаў, на ўслончыку, пабач з вядром вады, сядзеў селянін Карней Скіба. Ключавы прывітаўся з ім, адамкнуў свой кабінет і запрасіў Карнея Скібу расказаць аб налёце бандытаў на параход. Скіба пачаў апавядаць:

— Сядзім мы, гамонім і раптам—як трэсне штосьць. Падняўся

крык, суматоха. Параход прычаліў к берагу і я ўбачыў атамана шайкі—Анціпа Сандыргайла, родам ён з суседняй вёскі. З ім было яшчэ пяць бандытаў. Двух я пазнаў, ад Лоева яны ехалі з намі. Яны-ж забілі чэкістаў, што ахоўвалі параход, і зброяй прымусілі капітана прычаліць к берагу. Нас дваццаць пяць пасажыраў паставілі ў шарэнгу. Спачатку распраўляліся з комуністамі, а затым—з яўрэямі. Здзекваліся, людаеды, як самі хацелі. Тады затапілі параход, а нас, некалькі тутэйшых, адпусцілі. Вось і махнуў я к вам...

Праз некалькі хвілін, калі быў складзен план дзеянняў, з двара выехалі чатыры верхавыя і дзве рэсоркі, на якіх сядзела восем чэкістаў, а ззаду, на сваёй варaной кабыле, рысіў Карней Скіба.

Меншая палова ночы прайшла ў дарозе. Сонца сустрэла атрад Ключавога недалёка ад вёскі Брылёўка. Вакол дарогі над балотамі і лагчынамі зыбка-бялясай плёнкай слаліся туманы. Някошаныя лугі і недаспеўшыя яшчэ палеткі пілі буйную расу. Птушыная сям'я радавалася надыходзячаму дню па-свойму, і Якаў Карпавіч Ключавы не мог стрымаць сваіх пачуццяў:

— Ай-яй... Вось спяваюць майстэрскі! Такія даюць канцэрты, што дзівіцца варта. Ведаеш, Райчук,—звярнуўся ён да свайго суседа,—я гляджу, ды думаю: цудоўны наш край! Не здарма-ж закішэлі ворагі, пачынаючы ад Пілсудскага і канчаючы яго прыхваснямі, накшталт Сандыргайлы. Ключавы нахаду саскочыў з рэсоркі, даючы палёгку каню, які пачаў карабкацца на крутую горку. Услед ішоў Карней Скіба. У повадзе ён вёў сваю кабылу. Ключавы пачакаў яго і пайшоў побач з ім. Скіба быў высокага росту, худы і сутулавата-згорблены. Каб паглядзець яму ў вочы, Ключавому трэба было задзіраць галаву.

— Кляча ваша не вельмі-то. Ішак ды толькі...

— Здыхліна, сорамна проста. Раней у мяне быў конь—во!.. з мяне ростам, спраўны, пугі век не бачыў. А як арудвалі палякі, дык забралі яго. Адступілі яны, а я без каня застаўся. Каб вы ведалі, колькі я перанёс нуды ды журботы. Але вось аднойчы пайшоў я на паляванне, бачу: чарнеецца нешта пад гумном, падышоў і зразумеў, што здыхае вось гэта кабылка. Я грамаду склікаў, паднялі жывёліну на ногі, стаў гадаваць і даглядаць яе—вось і ачуняла крыху...

Спыніўся атрад у Скібы. Карней скасіў на агародзе лужок травы для коней, а маўклівая Карнеіха згатавала тым часам снеданне. Па просьбе Ключавога Скіба схадзіў за поўвярсты ў суседнюю вёску Загібайлаўку па камітэтчыка Лядава. Ключавы свядома туды не паехаў, ведаючы, што там жыве бацька атамана банды.

Лядаў прышоў хутка. Гэта быў шырокаплечы, стройны, сярэдняга росту чарнявы мужчына. Ён прынёс свежую і вельмі важную навіну: гэтай раніцою з іхнай вёскі хадзілі жанчыны ў лес па грыбы, двух дзяўчат бандыты адлучылі і згвалцілі. Спытаўшы Лядава сёе-тое пра бацьку атамана, Ключавы даў яму некаторыя ўказанні і затым развіталіся.

Каля поўгадзіны прайшло на распрацаванне плана далейшых дзеянняў. Спачатку рашылі зрабіць выведку. Вось тут Карней

Скіба і праявіў сваю мудрасць. Ён быў паляўнічым, у яго толькі адна стрэльба, а патрэбна было дзве. Карней Скіба збегаў да свайго брата, узяў у таго ўсё паляўнічае прычандалле, сам сабраўся і Ключаваму дапамог. У шэрых піджаках і лёгкіх лазовых лапцях, са стрэльбамі за плячыма, яны вышлі праз агарод на выган. Неўзабаве з двара выехаў увесь атрад, дагнаў паляўнічых і разам даехалі да леса. Затым Ключавы і Скіба пайшлі ў сваю дарогу, атрад-жа заехаў у хмызняк і размясціўся там, чакаючы вынікаў выведкі.

Лес быў не вельмі вялікі. Нашы паляўнічыя павольна ішлі паўз выгары. За гэты час застралілі ўжо тры мацёрых качкі і двух рабчыкаў. Выгары скончыліся і, перайшоўшы заросшы крапівай, папараццю і блёкатам роў, яны вышлі на невялічкую паляну. Тут не было ветра, і сонца прыпякала мацней, чым на чыстым полі. Трава тут была мяккая, на пнях былі відны клубкі распараных вужоў.

У гэты час з-за куста вырваўся голас:

— Стой! Рукі ўгору... Хто такія?

— Без слоў, здаецца, відаць,

— Гэта вы стралялі?

— Мы, а што?

— Нічога. Марш вось сюды!

Яны не супраціўляліся. Услед за імі ішлі два бандыты з абрэзамі ў руках. Прабірацца давялося па густому ельніку. Лапкі драпаліся, пакідалі на твары павуцінне, за каўнер сыпалася гліца.

Спыніліся на ўзгорку. Пад дрэвам стаяла нязграбная палатка: на чатыры сошкі былі напяты дзве-тры дзяругі. Каля маленькага кастра, на якім нешта варылася ў кацялку, сядзеў рыжы бандыт. У палатцы было трое. Яны пералічвалі папяровыя грошы, а калі ўбачылі прышоўшых, кінулі сваю працу.

З закладзенымі за спіну рукамі, наперад вышаў атаман:

— Зноў папаўся, дзядзька Карней?

— Зноў, Анціп Лук'янавіч.

— А гэта хто з табой?

— Зяць мой, Якаў Агнёў, родам з Дзярноўя. Тут у выгарах дзічы водзіцца ладнага, дык мы і згаварыліся заглянуць сюды.

— А зяця твайго я нешта не ведаю.

— Ды ён з Сібіры не так даўно вярнуўся.

— Ладна, а што новага ў вёсках?

— Ат, што можа быць новага? Парэзалі вы ўчора людзей на параходзе, дык цяпер толькі і таўкуць аб гэтым языкамі. Хто хваліць, а хто судзіць.

— А як начальства?

— Як?... Вельмі проста. Сёння атрад чэкістаў прыязджаў у Дзярноўе, распытвалі пра вас. Во, Якаў усё ведае, раскажы, ты-ж сам гаварыў мне гэта,—таўкануў Скіба пад бок Ключавога.

— Што я буду гаварыць? Казалі людзі, дык і я табе казаў,— знарок неахвотна, з адценкам злосці і дакукі ў голасе сказаў Ключавы.

У гэты час зашыпеў касцёр: цераз берагі кацялка пацёк закі-

пеўшы суп. Гэта прыцягнула агульную ўвагу. Ключавы тым часам непрыкметна заглянуў у палатку. Узаду яе ляжалі туга набітыя мяхі, клункі, два чамаданы, ля іх—папяровыя грошы, раскладзеныя ў грудкі па вартасці. Ключавы прыкінуў у галаве, што іх будзе сама менш поўмільёна. Ён, мусіць, і надалей-бы разглядаў бандыцкае багацце, каб раптам не загаварыў Сандыргайла:

— Вось што, дзядзькі, ваша кроў мне не патрэбна. Табе, Карней, усё роўна: мы, ці савецкая ўлада. Усе вы хутка будзеце ў маёй арміі, будзем біцца за адно. А пакуль што ў мяне да вас просьба. У нас малы запас патронаў, а іхныя атрады могуць зрабіць аблаву. У майго бацькі ёсць патроны. Я-б сам схадзіў, або хтонебудзь з маёй братвы, але напэўна ля двара будзе стаяць сакрэтны. Табе, Карней, зрабіць гэта лепш. Згодзен?

— Складаная штука, Анціп Лук'янавіч, але нічога не папішаш. Вы ўсіх парэзалі на параходзе, а мяне нават пальцам не кранулі. Я вам павінен адплаціць за тэта, трэба выручыць з такой крутой бяды. А яшчэ я вас спытаю, ці не можна так, каб замест мяне пайшоў Якаў? Ён маладзейшы, на нагі лягчэйшы, прынясе хутчэй.

— А ведаеш, Якаў, дзе жыве мой бацька?

— Уга! Малым яшчэ ведаў. Аднойчы ўпусціў у шкоду кароў, а бацька твой забраў іх. Я пайшоў прасіць, дык ён бясплатна аддаў, толькі прыгразіў, каб я лепш пільнаваў,—схлусіў Ключавы.— А калі-ж гэта прынесці патроны?

— Сёння, гадзіны праз дзве. Цесць твой застанецца тут заложнікам. Не прыдзеш—не бачыць табе яго, а праз нейкі час і самога сябе. Зарубі гэта на носе. Вось табе пісулька, перадасі яе бацьку і ён цябе зразумее. Зробіш добра—атрымаеш грошай. Ну, ідзі!

Ключавы рушыў ад палаткі. Крокаў за дваццаць яго дагналі Карнеевы словы:

— Спяшайся, Яшка!

На твары Ключавога, як маланка, бліснула ўсмешка.

## 3

Ішоў ён хутка, часамі ў падбежку. Мінуў паляну, роў, выгары і вышаў на ўскрай лесу. У хмызняку пасвіліся стрыножаныя коні. Быў поўдзень, авадні і сляпні здорава дазалялі жывёле. Пад кароткім ценем клёна ляжалі чэкісты. Убачыўшы Ключавога, яны абступілі яго і ён расказаў аб усім.

Праз некалькі хвілін ад леса паскакалі ў вёску два коннікі. З правага боку цягнуўся лес, а з левага, крокаў за трыста ад дарогі, серабрыстай істужкай разлёгся Сож. Ад яго, як абламаныя сукі на дрэве, адыходзілі куцыя затокі. Па лузе былі раскінуты лагчыны і кулдобіны.

Спыніліся каля хаты Лядава. Ён нешта майстраваў пад паветкай, а калі праз шчыліну сцяны ўбачыў знаёмых людзей, хутчэй пайшоў адпіраць вароты. Коней паставілі ў хлеў, падкінуўшы ім бярэма травы. Ключавы вышаў на вуліцу і засігаў к двару Лук'яна Сандыргайлы, а Лядаў і Райчук пайшлі ў хату. Дома нікога не было. Двое сыноў і маці пасвілі ў полі вясковае стада

Райчук прысеў на лаўку, пазнаёміў Лядава з усімі справамі і паставіў перад ім задачу: зараз-жа сабраць пяць-шэсць хвацкіх хлапцоў-актывістаў.

А Ключавы гэтым часам адчыняў Сандыргайлаву калітку. Два здаровыя чорныя сабакі з брэхам кінуліся да яго, цягнучы за сабой бразгатлівыя ланцугі.

— Пайшлі вон, воўкарэзіны,—замахнуўся Лук'ян на іх граблямі, якія рамантаваў к сенакосу.—Хваліся, чалавеча, адкуль і якая няволя прынесла цябе?

— Прачытай во і зразумееш,—выняўшы з шапкі запіску, Ключавы сунуў яе ў потныя рукі Лук'яна.

— Дык і ты ў яго атрадзе?—спытаў Лук'ян, скончыўшы чытаць.

— Як бачыш.

— А скуль ты родам?

— З-пад Кіева. Служыў некалі ў Пятлюры, а як нас разбілі там, сюды махнуў. На параходзе з вашым сынам сустрэўся, да яго падаўся.

— Ну, дык сядзь вось тут на калодку, пасядзі, а я пайду, падрыхтую ўсё.

Лук'ян пайшоў на агарод. Праз калітку пуні было відаць, як ён выняў з пустога пчалінага вулля торбу. Калі Ключавы ўзяў яе ў свае рукі, дык адчуў, што яна, пэўна, заважыць болей як поўпуда. Усе патроны перасыпалі ў паляўнічую сумку.

— Добры гасцінец прынясу вашаму сыну.

— Нясі і спажывайце на здароўе.

— А яшчэ ваш сын прасіў перадаць, каб вы адвезлі хлеб, інакш вам астрога або смерці не мінаваць.

— Што ён з глузду з'ехаў? Казаў адно, а цяпер другое... Не павязу! Спалю, затаплю, але не здам большэвікам.

— Дарэмна. Будзе ліха. Сын вам не вораг. Ён не дурань і ведае, што параіць.

— Ладна, пабачым...

Ключавы і Райчук выехалі за вёску. На талоцы каля алешніка пасвіўся вясковы табун коней. Адтуль скакала зараз сем коннікаў. Ключавы і Райчук пачакалі іх і разам памчаліся к лесу.

Па гушчарніку прабіраліся павольна, асцярожна, нібы паляўнічыя к палахліваму зверу. Уперадзе ішоў Ключавы, за ім крокаў на дваццаць ззаду Райчук, а ўслед, такім-жа парадкам, увесь атрад. Спыніліся ў ельніку. Сажняў на шэсцьдзесят ад іх быў відзён ясень, а пад ім палатка, ля якой пахаджваў адзін бандыт і штосьці невыразнае мармытаў. Астатнія-ж бандыты, як канюхі на начлезе, ляжалі вакол дуба.

— Вось што, хлопцы,—зашаптаў Ключавы ўсяму атраду,—наша задача без боя ўзяць бандытаў. Для гэтага іх акружым.

На цыпачках разышліся ў бакі. Хвілін дзесяць пачакаў Ключавы, а потым сам пайшоў к палатцы. На асінавым кругляку сядзеў Карней Скіба і пыхцеў люлькай. Убачыўшы Ключавога, ён падняўся і пайшоў яму насустрач. Вартавы пачаў будзіць бандытаў.

Першым прачнуўся атаман. Убачыўшы Ключавога, ён раззлавана раўнуў:

— Прынёс патроны?

— Прынёс добры гасцінец. Слухайце-ж. Я імем Совецкай улады загадваю здацца!

— Што?!—выхваціў атаман з-пад пояса абрэз і рушыў на Ключавога.

— Кінь дурыцца. Я таксама магу страляць,—спыніў Сандыргайлу Ключавы сваім рэвальверам.—Выходзь, хлопцы!

З усіх бакоў з вінтоўкамі напагатове вышла восемнаццаць байцоў.

— Рукі ўгору!

Першым падняў Алёшка, які ад сполаху ліхаманкава закалаціўся, а за ім і ўсе сандыргайлаўцы. Апошнім здаўся атаман. Ён падымаў рукі цяжка, нібы выжымаў імі трохпудовыя гіры.

— Ну, Карней Пятровіч. Ты са сваімі хлапцамі страляў трапна. Будзем, брат, трымацца побач, дык ніякі чорт нас не зломіць,—задаволена сказаў Ключавы і ўдзячным позіркам паглядзеў на Скібу.

*Пётр Дудо*

# ПРАФЕСАР

Я сядзеў на камені пад зялёным кіпарысам, углядаўся ў далёкую марскую сіняву, куды адплыў параход. Ззаду за мной, быццам старажытныя муры, высока, пад самае неба ўздымаліся скалістыя горы. Над морам кружыліся чайкі. Мора аддзялялася ад гор нізінаю. Ля падножжа гор, як шэрая вужака, звівалася шасейная дарога. Нязмерна пякло сонца.

Пад другім кіпарысам стаяў пажылы мужчына і выціраўся белым рушнікам. Ён выцер спярша лоб, плечы, пахі, а пасля пачаў выціраць грудзі, уздоўж і поперак спаласаваныя рубцамі і пабітыя ў раны. Месцы каля ран ён выціраў ледзь дакранаючыся да іх і моршчыўся ці то ад болю, ці то ад прыкрасці. На спіне ў яго былі чорныя плямы.

— Што гэта за чалавек? Ці не рамяні кроілі з яго цела?— падумаў я і жахнуўся, мароз прабег па скуры.

З-за гор цяжка выплылі сівыя воблакі і засланілі сонца. Мора павеяла на бераг прахладай, захвалявалася. Мужчына ўзняў вочы, зірнуў на воблакі,—ён мусіць забаяўся дажджу,—і хутка пачаў апранацца.

Каля гор па дарозе снавалі аўтамабілі. Цёмна-сіняя «эмка» павярнула да мора, пакаціла да мужчыны і спынілася. Мужчына, спяшаючыся, закурыў папіросу, узяў на руку плашч, прытка адчыніў дзверцы, сеў у машыну.

А я доўга яшчэ стаяў ля мора, глядзеў на яго неабсяжную велічыню, дзівіўся яго сіле.

Увечары я сустрэў мужчыну ў кафэ санаторыя. Ён сядзеў за маленькім столікам, піў какао. Людзей у кафэ было мала. Я некалькі разоў прайшоўся па залі і сеў да яго за столік. Ён не звярнуў на мяне ўвагі.

Покуль чарнявая афіцыянтка падавала мне чай, я знаёміўся з кніжкай прафесара Лікерта «Тайны атамнага ядра», якую мне прыслаў таварыш з Масквы. Кніжка толькі што вышла з друку.

Раптам я адчуў на сабе прагны позірк мужчыны. Мужчына ўтаропіўся ў мяне вачыма так, што я сумеўся, пачырванеў, быццам вінаваты перад ім. А праз секунду ў яго на вачах заіскрыліся слёзы, і ён з плачам кінуўся да мяне. Ніколі яшчэ ў жыцці я не бачыў такіх слёз, якія ліў гэты стары чалавек. Яго слёзы не падобны былі ні на слёзы жанчыны, жыццё якое разбілася няшчасцем, ні на слёзы малога дзіцяці, моцна пакрыўджанага на

вуліцы,—яны мелі свае асаблівасці, спалучалі вялікае гора з бязмежнай радасцю.

Я ледзь вызваліўся ад яго.

— Дайце мне кніжку!—дрыжачым голасам папрасіў ён.—Дзе вы ўзялі яе? Гэта мая кніжка!

— Ваша?.. Мне толькі сёння прыслалі яе з Масквы.

— Вы не зразумелі мяне. Я—аўтар кніжкі.

І ён зноў, хвалюючыся паімкнуўся абняць мяне, але я не даўся. Ён аберуч схапіў кніжку, пачаў гартаць яе, быстра прабягаць вачыма па загалоўках і тэксту.

— Яна... Мая кніжка... выдана... убачыла свет... знайшла чытачоў,—радаваўся ён.

Я стаяў ля століка супроць яго. Цяпер мне хацелася кінуцца яму на шыю, абняць, як самага блізкага чалавека.

— Вы—прафесар Лікерт?

— Але.

Мы разам вышлі з кафе на марскі бераг. Паветра пахла прыемнай свежасцю. Вечар быў цёплы, усыпаны безліччу яркіх зорак.

— Вы не рускі, прафесар?

— Немец я,—сказаў ён і змоўк, здавалася, гатовы зноў заплакаць. Цяжка было яму гаварыць.

— Я нарадзіўся і жыў у Берліне. Бацька мой быў настаўнікам гімназіі...

— Даўно вы з Германіі?

— З 1935 года. Гітлеру не спадабалася мая кніжка—вось гэта самая—«Тайны атамнага ядра». Цэнзура рукапіс,—дзесяцігадовую маю працу,—знішчыла, а мяне Гітлер загадаў накіраваць у канцэнтрацыйны лагер,—сказаў ён, а потым зрабіў паузу.—Праз шэсць месяцаў я ўцёк ва Францыю... Сляды гітлераўскай гуманнасці нашу і цяпер на сваім целе...

Некалькі крокаў мы ішлі моўчкі. Я не адважыўся распытваць падрабязнасцей, але прафесар сам, расчулены, гаварыў далей. Голас яго гучэў глуха, быццам з-пад зямлі, сіла адчувалася ў ім.

— З Францыі я пайшоў у рэспубліканскую армію Іспаніі. Толькі зброяй можна знішчыць фашызм!.. У перарывах між баёў я аднаўляў сваю кніжку па памяці і па чарнавіках. Ох, Іспанія, Іспанія,—цяжка ўздыхнуў ён.—Кожны іспанец—гэта герой! Іспанцы самыя храбрыя людзі! Не здаюцца яны! Ніколі я не забуду пра Ліну Одэна. Я два разы сустракаўся з ёю на фронце. Вось і цяпер, быццам жывую, бачу перад сабой. Вясёлая, смелая, у скуранай куртцы, армейскіх ботах, з вінтоўкай у руках—кідаецца яна на ворага, наперадзе салдат... Так, як яна памерла, умеюць паміраць толькі іспанцы... Вы чулі пра яе смерць?..

— Чытаў.

— Кожны сумленны іспанец паўтарае словы сваёй Даларэс: «Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях». Ніхто не пераможа іспанскі народ. Не сёння дык заўтра ён распрастае свае магутныя плечы, возьме за горла фашызм, і ўсіх здраднікаў раздавіць, як гадзюку.

Па роўнай алеі мы прышлі ў скверык, селі на лаўку. Было ўжо

гадзін дванаццаць ночы. На слупе ярка гарэла электрычная лямпа. Прафесар, як школьнік, гартаў сваю кніжку, любаваўся ёю.

— Не ведаў... нават, каб хто сказаў мне, што твая кніжка выдаецца ў Совецкім Саюзе, вырвана з клыкастых зубоў фашызма, не паверыў-бы... Як здарылася гэта?.. Пад Тэруэлем мяне раніла асколкамі снарада ў жывот. Адзін, сцякаючы крывёю, я ляжаў на полі. Свайго жыцця я не шкадаваў ужо, але рукапіса кніжкі, які быў пры мне, шкада было: трапіць ён у рукі мяцежнікаў—загіне, спаляць на агні, абвясціўшы крамолай. Сілы з кожнай хвілінай слабелі, уваччу бясконца мітусіліся рознакаляровыя кругі... Недалёка быў кусцік, я дапоўз да яго, разгарнуў траву, паклаў рукапіс і, напісаўшы на першай старонцы «друкаваць дазваляю ў любым выдавецтве», прыкрыў сухой галінкай. Больш нічога не ведаю, бо страціў прытомнасць, і ачнуўся ўжо ў фашысцкім палоне... Рэспубліканцы адступілі з таго месца.

— Вас потым абмянялі з палону?—запытаў я.

— Партызаны вызвалілі. Дваццаць кілометраў неслі на руках, хворага... Праз усё жыццё не забудуся пра іх. Одэсу совецкую не забуду, якая вылячыла мяне.

Прафесар змоўк і пачаў чытаць заўвагу ад выдавецтва на першай старонцы кніжкі. Я ўважліва прыслухоўваўся да кожнага яго слова. Вялікую пашану, блізасць адчуваў я да яго.

«Кніжка «Тайны атамнага ядра» напісана эмігрантам з Германіі, байцом Інтэрнацыянальнай брыгады іспанскай рэспубліканскай арміі, прафесарам Лікерт. Аўтар ранен у баю і ўзят мяцежнікамі ў палон. Далейшы лёс аўтара выдавецтву невядомы. Рукапіс кніжкі знайшоў на полі іспанскі селянін і, перайшоўшы да рэспубліканцаў, перадаў яго карэспандэнту совецкай газеты. Просьба да чытачоў, калі хто ведае лёс аўтара, паведаміць выдавецтву»,—прачытаў ён і заспяшаўся.

— Ехаць! Ехаць! Хутчэй у Маскву ехаць!

Ён устаў, развітаўся са мной і пайшоў.

— Ганарар я пералічу іспанскім бежанцам,—дадаў ён.

Ціхая, прыгожая ноч, якая бывае толькі на поўдні, таямніча маўчала. Далёка на моры мігалі агні маяка.

---

*Владзімір Шахавец*

## Байкі

### ЗІМА

Такое жудаснай зімы не бачылі даўно:
Мяцеліца высокія сугробы навявае,
Мароз мацней становіцца што ноч
І з наступленнем дня нікольві не сціхае.
Да дна глыбокія павымярзалі рэкі,
Зажыва рыбы пахаваны ў тоўстым льду.
Замёрла ўсё; нідзе не стрэнеш чалавека,
І птушкі качанеюць на ляту.
Баяцца людзі паказацца з хат
І ад натопленай не адыходзяць печы;
Асмеліцца не можа брата брат
Адведаць у зімовы доўгі вечар.
І толькі чалавек адзін не мог згадзіцца,
Што ён зімы баіцца.
Бо аб сабе высокай думкі быў.
І што-б ён ні рабіў,
Яму здавалася, што ён за ўсіх мацнейшы,
За ўсіх храбрэйшы.
І вось, надзеўшы безліч кажухоў,
Ён на мароз пайшоў.
Ды ледзь ступіў па вуліцы тры крокі,
Адчуў, што анямелі шчокі,
Правёў рукой па іх і адваліўся хрупкі нос;
І крока больш ступіць не мог, як ні хацеў,
Як быццам да зямлі прырос —
І цераз пяць хвілін акачанеў.

---

Авантурысты міжнароднага маштаба
Мінулага урокі помняць слаба
І выпаўзаюць на мароз,
Забыўшыся пра нос;
Але ў ціскаx вайны
Загінуць і яны.

# „АРЦЕЛЬ“

Лагодным летнім адвячоркам
За чаркай «рускай горкай»
Сабраліся сябры.
Гадзіны, мабыць, тры
Займаліся гаворкай.
І ўсе сышліся на адным,
Што справай важнаю заняцца трэба ім;
Карысць народу даць:
З вадзіцы масла выраблять.
Ваду таўчы ўзяліся дні і ночы —
Уласных не шкадуюць сіл:
Ажно на лоб вылазяць вочы
І свет не міл.
Таўкуць, таўкуць і ўсё-ж — бяда —
Не масла, а вада.
Ды зноў работа закіпела:
Падвозяць цэглу, піляць лес —
Арцель іх захацела
Механізіраваць працэс.
(Варушаць ўсе мазгамі
Як бы рабоце памагчы).
І сталі ўжо машынай, не рукамі
Ваду таўчы.
Таўкуць, таўкуць і зноў — бяда —
Не масла, а вада.

---

Ёсць людзі ў нашых установах,
Якія кожны раз гатовы
Прамоў пустую сакавітасць
Плясці ад вечара да дня;
У іх не дзелавітасць,
А — балбатня.

Красавік 1939 г.

*Аркадзь Гейне*

# Вершы аб Кітаі

## ДРУГ

Ён калісьці быў тут, у Маскве,
І тады мы на розных мовах
У кароткіх, ды шчырых размовах
Быць сябрамі кляліся навек.

А нядаўна пісаў ён з Кітая
«Нанкін вогнішчамі палае,
Грабяць ворагі нашы абшары...
Не сцярпеў я, не мог, таварыш...»
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... На студэнцкім стале ля акна
Трэпле «Алгебру» вецер лёгкі,
І, як памяць аб другу далёкім,
На ёй—імя ягонага знак.
Ён пайшоў, каб прыйсці ізноў
З вечным правам на кнігу гэту...

Так—я помню — мой бацька ішоў
У Кастрычніка дні за Советы...

---

## ЛЕГЕНДА

Прамяністае сонца ходзіць
Над вялікай зямлёй Кітая...

Ёсць легенда ў кітайскім народзе,
Як зямля і як сонца старая.
І сівыя дзяды унукам
Той легенды гаворяць словы:
Як пранёсся страшэнны грукат,
Як дракон чатырохгаловы,

Заравеўшы з усёю моцай,
Праглынуў сваёй пасткай сонца.
Ĭ зямля, апранутая змрокам,
Станавілася нежывою...

Але ходзіць сонца высока
Над вялікай кітайскай зямлёю
Ĭ народу праменнямі свеціць
Ĭ цяплее яно штодзённа...
Толькі маюць яго на прымеце
Кіпцюры самурая-дракона.
Ды не ўдасца заморскаму зверу
Агарнуць Кітай цемнатою!—
Я у гэта заўсёды веру,
Верыць свет чалавечы са мною.

Будзе час — і у даль пакаленняў
Пройдуць новай легенды словы:
Як згарэў ад гарачых праменняў
Той дракон самураягаловы...

---

## САКРЭТ

Праўляла банкет самураяў арда.
Са стадам багатых, падмазаных дам
Гулялі вайскоўцы. Раптоўна між іх
З'явіўся кітаец; ён цудаў любых
Аматар вядомы у горадзе быў;
Хадзіў ён, выкрыкваў, як сабляй рубіў:
— «Купіце, купіце, купіце сакрэт,
Не мала, не многа — пятнаццаць манет!..»
Ĭ вось ля кітайца часінаю той
Ішоў афіцэр з генеральскай дачкой.
Пацешыць хацеў ён нявесту сваю:
— Для вас я сакрэт у кітайца куплю.
Яму ён пятнаццаць манет заплаціў.
Паперку з латка папугай ухваціў
Ĭ ў дзюбе сваёй кручкаватай паднёс
Вайсковаму чыну пад самы пад нос.
Паперку чырвоную ўзяў афіцэр;
Ды толькі зірнуў, — стаў адразу, як звер,
За саблю схапіўся, шалець ён пачаў,
У злосці нагамі паперку таптаў...
Кітаец уцёк і прапаў яго след,
Ён выдаў вядомую рэч за сакрэт:
Там быў намалёван разбіты вянец
Ĭ надпіс пад ім:
«Самураям — канец!»

---

*П. Раманішка*

## РАДЗІШЧЭЎ

Жыццё ў Расіі бы хаўтуры,
Бізун па спінах люду свішча.
Маўчаць пакорныя натуры —
Не сцерпеў Александр Радзішчэў.

Ў сваім бунтарскім «Падарожжы»
Ён праўду выказаў без страху.
Паноў расправаю ўстрывожыў,
Шлях паказаў царам на плаху.

Жахнулася Екацерына:
— Радзішчэў горш за Пугачова.
Расправай дзікаю, звярынай
Спыніла праўды чыстай словы.

Барацьбіта ў Сібір пагналі
Дарогаю даўно знаёмай.
Вакол прыгонныя стагналі
Ў палях, на паншчыне шалёнай.

Пад свіст вятроў і непагоды
Гібеў Радзішчэў у Ілімску.
Патраціў у выгнанні годы
Ўдалі ад родных і ад блізкіх.

Гарэў к народу ён любоўю,
З народам падзяляў пакуты,
Шляхі яго паліты кроўю,
Якімі ён хадзіў закуты.

«Патомкі за мяне адпомсцяць!»—
Было яго апошнім словам.
Чаканая збылася помста —
За ўсё адпомсцілі сурова!

*А. Рудой*

# ПАВОДКА

Апалі зімнія аковы,
Ў палях растаялі снягі,
Рака ўзарвала мост лядовы
І з шумам вышла на лугі.

Як звер раз'юшаны, з-за кратаў
На волю вышаўшы удзень,
Яна бушуе каля хатаў
Гамоніць, пеніцца, гудзе.

Які разліў... Гуляюць хвалі,
Шумяць, бурляць на ўсе лады,
Сарвала мост і толькі палі
Ледзь выглядаюць з-пад вады.

Затоплен луг, здаецца мора,
Зямлі шматочка не відаць.
Глядзіш—далёкія прасторы—
Адна сінеючая гладзь.

І толькі зрэдку куст ракіты,
Ці дуб маячыць над вадой.
Вясна... Усё святлом заліта
І дыша сілай маладой.

А па вадзе шыбуюць лодкі
Плывуць з сяла, плывуць ў сяло.
Такой вялікае паводкі
Яшчэ ніколі не было.

## МІКІТА

Сёння ў Мікіты свята,
Поўна гасцей у Мікіты.
Чыста прыбраная хата
Сонечным бляскам заліта.
Госці спяваюць, гамоняць —
Свята ў Мікіты сягоння.

Радасны ходзіць Мікіта,
(Так не хадзіў ён ніколі)
Чыста прыбраны, пабрыты,
Выгляд вясёлы, саколлі.

Ходзіць з гасцямі, гамоніць,
Ў чаркі віно налівае.
«Вып'ем, галубе Сымоне,
Дружбу навекі з'яднаем,
«Юрачку» потым станцуем,
Дружбу навекі змацуем».

Любіць Мікіта смяяцца,
Музыку, песні і жарты,
Любіць і ў радасных танцах
Даць адмысловага гарту.

Сёння-ж, у дзень такі важны,
Нельга пакінуць застолле;
Ходзіць Мікіта паважна,
Выгляд вясёлы, саколлі.

Ходзіць і смех рассыпае
Чысты, як дні на прадвесні:
«Насця, мая дарагая,
Спой мне любімую песню».
Насця смяецца, жартуе,
Песню пяе ды не тую:
«А дзе-ж той Мікіта,
Што на ім шэра світа»?
А Мікіта на хату выходзіць,
Сваю песню Мікіта заводзіць:

«Э, не той перад вамі Мікіта,
Што насіў калісь шэрую світу.
У Мікіты бліскучыя боты,
Ды калгаснага майстра работы.

У Мікіты прасторная хата
І Мікіта сягоння багаты.
Як я рад, што жыву гэтым часам,
Што жыву не адзін, а з калгасам.
Рад табе, старшыня, наш Антоне,
Рад табе, стары дружа Сымоне,
Рад усім вам, любімыя госці.
Дык спяём, каб паддаць весялосці,
Што са свечкай не знойдзеш Мікіту,
Які носіць 'шчэ шэрую світу.
Перад вамі сягоння Мікіта,
Што забыўся на шэрую світу».

---

*Алесь Бачыла*

## ПУШКІН НА КАЎКАЗЕ

Прыроду дзікую Каўказа:
Абрывы, горы, шумы рэк —
Прыняў узрушаным адразу
Чуллівы гэты чалавек.

І дні і ночы, аж да рання,
Забыўшы сон і позні час,
Ён слухаў дзіўныя паданні,
Багат якімі быў Каўказ.

Успамінаў ліцэй. Старыя
Сябры праходзілі прад ім,
І дні маленства, бы жывыя,
Ўставалі самым дарагім.

І сум, як змрок, такой парою
Настрой і думы ахінаў,
А недзе ціха пад гарою
Падоўгу плакала зурна.

Ён бег да мора і стыхіі
На сум душэўны наракаў,
Аб гэтым ведала Марыя —
Раеўскіх мілая дачка.

Яна падходзіла, пытала,
А ён тужліва наглядаў,
Як шумна ў пырсках вал за валам
На сонны бераг наступаў,

Як хмары ў даль ішлі начныя,
І гаварыў, бы ў першы раз:
Мне штосьці сумна тут, Марыя,
А я люблю, люблю Каўказ.

*А. С. Пушкін*

# ЕЎГЕНІ ОНЕГІН

(*Урывак з шостай главы*)

## XV. XVI. XVII

Зноў Ленскі бачыць вобраз мілы,
Зноў перад Ольгаю сваёй
Сядзіць, але не мае сілы
Учорашняе ўспомніць ёй;
Ён думае: «дзяўчыны долю
Ахоўваць буду, не дазволю,
Каб спакушалі сэрца ёй
Ані ўздыханнем, ні хвальбой;
Каб мог чарвяк атрутны, едкі
Лілеі падтачыць сцяблі;
Каб, ледзь расцвіўшы, ўжо маглі
Двухранкавыя гінуць кветкі.»
І гэтым ён сцвярджаў, сябры;
Страляцца буду на зары.

## XVIII

Каб ведаў ён якая рана
Таццяны сэрцайка пякла!
Каб толькі ведала Таццяна,
Каб толькі знаць яна магла,
Што заўтра мае быць няўхільны
Бой у сяброў за склеп магільны;
Магчыма, што яе любоў
Іх прывяла-б да згоды зноў!
Ды пачуцця яе такога
Ніхто, вядома, знаць не знаў.
Еўгені наш пра ўсё маўчаў;
А Таню мучыла трывога;
Вось толькі няня знаць магла,
Ды не здагадлівай была.

## XIX

Наш Ленскі—сумны і маўклівы,
Ці зноў—вясёлы, гаваркі,—
Не дзіўна,—музы сын шчаслівы,

Зазначым мы, заўжды такі.
Садзіўся ён за клавікорды,
Ї спрабаваў адны акорды;
Шаптаў: шчаслівы я? ці так?
Ды позна; ехаць час. Ї сэрца,
Учуўшы ростань, ад тугі,
Як закавана ў ланцугі,
Вось-вось на часткі разарвецца.
У вочы любай глянуў ён.
«Што з вамі?»—«Так.»—і выбег вон.

XX

Дамоў прыехаў, пісталеты
Праверыў ён, пасля паклаў
Ізноў у скрыню іх, раздзеты
Пры свечцы Шылера чытаў;
Ды вобраз перад ім адзіны
Лунае ў гэтыя хвіліны,
Жаданай вабячы красой—
То вобраз Ольгі маладой.
Владзімір кнігу забывае,
Бярэ пяро; радкі яго
У славу вобраза таго
Гучаць і льюцца. Іх чытае
Паэт, забыўшы ўсё амаль,
Як Дэльвіг, трапіўшы на баль.

XXI

Радкі натхнёныя ўцалелі;
Я захаваў іх; вось яны:
«Куды, куды вы адляцелі,
Дні залатой маёй вясны?
Што дзень наступны мне гатовіць?
Яго дарэмна позірк ловіць?
Глыбока ў змрок схаваны ён.
Дарэмна: ёсць адзін закон.
Ці я загіну пад стралою,
А ці яна мяне міне,
Няхай: у дзейнасці і ў сне
Усё змяняецца чаргою;
Благаславен і дзень турбот,
Благаславен начы прыход.

XXII

Зноў ранак выблісне прыгожы
Ї заіскрыцца дзень вакол;
А я—яго не ўбачу, можа,
Сышоўшы ў таемнічы дол,

Ĭ памяць юнага паэта
Павольная паглыне Лета,
Забудзе свет мяне; а ты,
Ці прыдзеш, дзева пекнаты,
Слязу праліць над ранняй урнай
Ĭ думаць: ён мяне кахаў,
Ён мне адзінай прысвячаў
Маркотны свет душы віхурнай!..
Жаданы, шчыры вобраз мой,
Прыдзі, прыдзі: навек я твой!..»

XXIII

Пісаў ён цьмяна і таемна
(Што рамантызмам мы завем,
Хоць праўду кажучы, дарэмна...
Лепш гэтых не кранацца тэм).
Ён перад самаю зарою
На стол схіліўся галавою,
Заснуў на слове ідэал,
Выдаткаваўшы ўвесь запал;
Прыемным сном сваю трывогу
Ледзь адагнаў,—ужо сусед
Ідзе ў маўклівы габінет
Ĭ кліча Ленскага з парогу:
«Пара ўжо: сёмы час.
Онегін зачакаўся нас.»

XXIV

Ды памыляўся ён: Еўгені
Спаў мёртвым сном у гэты час.
Ужо начы радзеюць цені
Ĭ певень кліча ў трэці раз;
Онегін спіць сабе глыбока.
Вось сонца коціцца высока
Ĭ пералётная мяцель
Ĭ ззяе і віецца; Лель
Еўгенія не пакідае,
Над ім яшчэ лунае сон.
Прачнуўся неўзабаве ён,
У бок заслонку адкідае;
Глядзіць—і бачыць, што пара
Даўно ўжо кіраваць з двара.

XXV

Ён хутка звоніць. Прыбягае
Слуга француз Гільо. Свае
Ён справы загадзя ўжо знае—
Халат, бялізну падае.

Пачаў Онегін апранацца,
Гільо ў дарогу рыхтавацца
Сказаў,—і зброю ўзяць з сабой,
І ўсё, што ў скрыні баявой.
Гатовы санкі бегавыя.
Ён сеў, ён шпарка паімчаў.
Вось млын, Гільо ён загадаў
Лепажа вырабы страшныя
Узяць, а коням адпачыць
У полі, дзе дубок стаіць.

## XXVI

І нецярплівы, і суровы
Даўно ўжо Ленскі іх чакаў;
Між тым, механік наш вясковы,
Зарэцкі жорны асуджаў.
Онегін просіць прабачэння.
«Дзе-ж,—запытаў не без здзіўлення
Зарэцкі,—дзе ваш секундант?»
Ў дуэлях класік і педант,
Дакладнасцю здзіўляў ён многіх,
І чалавека распластаць
Не проста мог ён дазваляць,
А ў правілах мастацтва строгіх
І звычай помнячы былы
(За гэта варты ён хвалы.).

## XXVII

«Мой секундант? Вы не знаёмы?
Monsieur Cuillot хоць ён у нас
Не вельмі чалавек вядомы,
Ды выбар мой не здзівіць вас,
Хоць, можа быць, і не захопіць,—
Ён, слоў няма, сумленны хлопец.»
Зарэцкі змоўк, замармытаў.
Онегін Ленскага спытаў:
«Пайшлі?»—і ўперад рушыў лена.
«Пайшлі.»—сказаў паэт. Ідуць
За млын. Пакуль згавор вядуць
Зарэцкі і хлапец сумленны—
(Ім трэба ўсё абмеркаваць),
Маўкліва ворагі стаяць.

## XXVIII

Маўкліва! Ці даўно гулялі
Удвох шчаслівыя сябры?
Адны іх думкі хвалявалі,
Адны і справы, і піры.

Часы юнацкай весялосці!
У спадчыннай, нібыта, злосці,
На ўсё забыўшыся яны
Цяпер стаяць каля труны...
Пракляўшы свой запал ваяцкі,
Ці не ўсміхнуцца-б разам ім,
Ці не адкінуць назусім
Л е п а ж а жудасныя цацкі?..
Хлуслівым гонарам цяпер
Скаваны шчыры іх намер.

## XXIX

Вось пісталеты ўжо мільгнулі.
Грыміць аб шомпал малаток.
У ствол гранёны ўбіты кулі
І цокнуў першы раз курок.
На скрыню порах шэраваты
Паціху сыплецца. Зубчаты
З курком на ўзводзе крэмень зноў.
Гільо нясмела адышоў
За пень. Онегін, Ленскі разам
Кідаюць на зямлю плашчы.
І крокаў трыццаць два, лічы,
Зарэцкі ім адвёў тымчасам,
Сяброў развёў на крайні след
І кожны ўзяў свой пісталет.

## XXX

«Сыходзьцеся.»
І немінуча
Не цэлячыся, пачалі
Яны сыходзіцца рашуча,—
Чатыры крокі перайшлі,
Маўкліва, цвёрдаю хадою.
Тады Еўгені сваю зброю,
Не кідаючы наступаць,
Стаў першы ціха падымаць.
Вось крокаў пяць яшчэ ступілі
Два ворагі. У гэты час
Стаў Ленскі цэліць—ды якраз
Онегін стрэліў... І прабілі
Часы апошнія: паэт
Свой ураніўшы пісталет,

## XXXI

Кладзе на грудзі ціха рукі,
У затуманеных вачах
Пячаць смяротная, без мукі.

Ён падае. Так у гарах,
Пад сонцам ззяючы, спаўзае
З вяршыні глыба снегавая.
Абліты холадам ураз
Падбег Онегін, доўгі час
Глядзіць і кліча... сэнсу мала:
Скасіў яго смяротны ўдар—
Загінуў малады песняр!
Дыхнула бура, кветка звяла,
Заўчасна звяла на зары...
Няма ўжо Ленскага, сябры!

XXXII

Ён камянеў, таемна цьмянай
Была пячаць яго чала.
Прабіты куляй грудзі; рана
Крывёй дымілася, цякла.
Таму назад адно імгненне
У тым сэрцы білася натхненне,
Надзея, гонар і любоў,
Цвіло жыццё, кіпела кроў:
Там, як у доме апусцелым,
Цяпер нічога не чутно;
Пакінута зусім яно.
Забіты вокны, крыжам белым
Закрэслены. Усё як след.
А гаспадыня? Знік і след.

XXXIII

Прыемна эпіграмай злоснай
Вам ворага увесці ў злосць;
Стаіць ён перад люстрам грозна—
Усё як трэба: рогі ёсць
І ён глядзіць на іх з дакорам—
Пазнаць сябе самога сорам;
Ды прыямней, сябры мае,
Калі сябе ён пазнае!
А прыямней яшчэ, маўкліва,
Яму сумленна рыхтаваць
Труну, на трыццаць крокаў стаць
І ў грудзі цэліцца цярпліва.
А каб забіць яго—у тым
Прыемнага няма зусім.

XXXIV.

А што, як друг загіне часам
Забіты вашаю рукой,
Які пагардлівым адказам,
Ці іншай дробяззю якой

Змог вас зневажыць нечакана,
Ці, нават, сам, усхвалявана,
Вас горда выклікаў на бой,
Скажыце: вашаю душой
Якое пачуццё кіруе,
Калі маўкліва на зямлі
Ляжыць таварыш ваш, калі
Ён камянее і не чуе
Ні вашай роспачы, ні слоў,
Хоць клічаце вы зноў і зноў?

XXXV

Тугой ахоплены Еўгені,
Рукой сціскае пісталет,
Глядзіць на Ленскага ў зняменні.
«Ну, што-ж? памёр»,—сказаў сусед.
Памёр!.. Бязлітаснае слова
Забойцу прыгняло сурова,
Онегін клікаць слуг ідзе.
На сані Ленскага кладзе
Зарэцкі—скарб свой зледзянелы.
Дамоў вязе ён скарб страшны.
І труп пачуўшы, скакуны
Храпуць і б'юцца, пенай белай
Пакрыты цуглі,—да сяла
Імчацца коні, як страла.

XXXVI

Шкада паэта маладога,
Сябры!—у росквіце надзей,
Яшчэ не здзейсніўшы нічога,
Пакінуў ён зямлю, людзей,
Завяў! Дзе палкае натхненне,
Дзе чыстае душы імкненне,
Пачуццяў, думак маладых,
Высокіх, кволых, дарагіх?
Дзе нецярплівае каханне,
І прага вершаў, працы, кніг,
І баязлівасць спраў благіх,
Дзе мары ўзнёслай парыванне,
Ты, што лунала над зямлёй,
Ты, сон паэзіі святой!

XXXVII

Магчыма, для дабра людскога,
Ці славы, нарадзіўся ён;
І спеў паэта маладога
Узняць магутны, гулкі звон

Мог у стагоддзях. Мо' паэта
Чакала на вышынях света
За ўсіх вышэйшая ступень.
А мо' яго пакутны цень
У цёмны дол панёс з сабою
Слоў таямніцу, і для нас
Загінуў песень мудры сказ,
Слоў таямніца—пад зямлёю:
Не дойдзе да натхнёных слоў
Гімн пакаленняў і вякоў.

## XXXVIII. XXXIX

А можа й так: яго чакала
Пустая доля без акрас.
На ўсё забыўся-б ён нядбала,
Агонь душы-б юнацкай згас.
І шмат бы ў чым паэт змяніўся,
Пісаць пакінуў, ажаніўся,
У вёсцы-б жыў, рагатым быў,
Так, як ўсе халат насіў;
Жыццё-б зазнаў на самай справе,
У сорак год падагру-б меў,
Чах і нудзіўся, піў і еў,
І ўрэшце на смяротнай лаве
Ляжаў-бы, як і ўсе без слоў,
Сярод дзяцей і лекароў.

## XL

Зазнаўся-б з доляй ён якою?—
Якую з іх тут не адзнач,
Але сяброўскаю рукою
Цяпер забіты ён, чытач!
І там, дзе жыў паэт натхнёны
Ёсць за сялом куток зялёны,
Зрасліся сосны ў месцы тым
У дрэва-волат, а пад ім
Бяжыць, звініць ручай сцюдзёны,
Заходзіць адпачыць туды
Араты, і набраць вады
Прыходзяць жнейкі ў час паўдзённы;
Здалёк, пад засенню сасны,
Абрысы помніка відны.

## XLI

Пад ім (як пачынае капаць
Вясновы дождж на рунь палёў)
Пастух пляце стракаты лапаць,
Пяе пра волжскіх рыбакоў;

Ï гаражанка маладая,—
(Што ў летні час адпачывае
У той мясцовасці)—яна,
Па полю скачучы адна,
Каня ля помніка стрымае
Ï флер ад шляпы адвядзе,
Вачыма сумна павядзе
Ï просты падпіс прачытае,
Ï пачуццёваю слязой
Жаль затуманіць вочы ёй.

XLII

Ï ціха едзе ў чыстым полі
Аж на далёкі край нябёс;
Душу хвалюе мімаволі
Паэта недарэчны лёс;
Ï думае: «Што з Ольгай стала?
Ці доўга сэрца сумавала,
Ці слёз мінулася пара?
А дзе цяпер яе сястра?
Дзе злосны адшчапенец света?
Ці тут? Ці збег адгэтуль сам?
Дзе вораг модны модных дам
Забойца юнака-паэта?»
Чакайце, неўзабаве вам
Пра ўсё адказ дакладны дам;

XLIII

Ды не цяпер. Хоць я сардэчна
Люблю Еўгенія майго,
Хоць развітаўся ненавечна,
Ды мне цяпер не да яго.
Да прозы з часам стаў хіліцца
Ï я, і рыфму жартаўніцу
Прэч гоняць сталыя гады,
За ёй цягаюся з нуды.
Няма ранейшае ахоты
Займацца вершамі пяру;
Другою марай я гару,
Другія, строгія турботы—
Ці тлум зазнаю, ці спакой—
Трывожаць сон душы маёй.

XLIV

Чуў голас іншых я жаданняў,
Зазнаў я новую тугу;
Няма для першых упаванняў,
Забыць старое не магу.

О, веліч мар! дзе ваша радасць?
Дзе, вечная ёй рыфма, маладасць?
Няўжо яе і тэрмін сцёк—
Завяў, завяў яе вянок?
Няўжо мне ў тым прызнацца варта,
Што без элегій, сумных слоў
Вясна ўжо не вярнецца зноў
(Што жартам я сцвярджаў упарта)?
Няўжо надзеі на зварот
Няма,—і мне ўжо трыццаць год?

XLV

Але, і трэба мне прызнацца—
Мой поўдзень блізка, бачу я.
Ды, так і быць: час развітацца,
О юнасць лёгкая мая!
Я дзякую за асалоды,
За сум, за любыя нягоды,
За шум, за буры, за піры,
За ўсе, за ўсе твае дары;
Я дзякую табе, з табою
Шчаслівыя пражыў я дні,
І больш не трэба мне... ані;
Даволі! З яснаю душою
Іду,—мне новы шлях ляжыць,—
Ад дзён мінулых адпачыць.

XLVI

Бывай, вячысты шум прыроды,
Дзе дні мае плылі ў глушы,
Сярод жаданае ляноты
І сноў задумлівай душы.
А ты, юнацкае натхненне,
Хвалюй, хвалюй маё ўяўленне,
Санлівасць сэрца ажыўляй,
Часцей у кут мой залятай,
Не дай застыць душы паэта,
Зрабіцца жорсткай, агрубець,
І пад канец акамянець
У мёртвым, цёмным тлуме света,
У тлуме тым, у тым віры,
Дзе з вамі гінем мы, сябры!

*Пераклад А. КУЛЯШОВА*

---



М. Е. САЛТЫКОЎ-ШЧЭДРЫН
(1826—1889).

*Н. Шчэдрын*

# *Казкі*

## КАРАСЬ—ІДЭАЛІСТ

Карась з яршом спрачаўся. Карась гаварыў, што можна на свеце адною праўдаю пражыць, а ёрш сцвярджаў, што нельга без таго абысціся, каб не схітраваць. Што іменна разумеў ёрш пад выразам «схітраваць»—невядома, але толькі кожны раз, як ён гэтыя словы вымаўляў, карась з абурэннем усклікваў:

— Але-ж гэта подласць!

На што ёрш пярэчыў:

— Вось убачыш!

Карась—рыба смірная і да ідэалізма схільная: недарма яго манахі любяць. Ляжыць яна больш на самым дне рачнога плёсу (дзе зацішней) альбо сажалкі, закапаўшыся ў твань, і выбірае адтуль мікраскапічных ракушак для свайго харчавання. Ну, натуральна, паляжыць-паляжыць, ды што-небудзь і выдумае. Часам нават і вельмі вольнае. Але таму што карасі ні ў цэнзуру сваіх мыслей не прадстаўляюць, ні ў участку не прапісваюць, дык у палітычнай неблаганадзейнасці іх ніхто не падазрае. Калі-ж часам і бачым, што ад часу да часу на карасёў наладжваецца аблава, дык зусім не за вольнадумства, а за тое, што яны смачныя.

Ловяць карасёў, пераважна, сеццю альбо невадам; але каб лоўля была ўдалай, неабходна мець спрыт. Вопытныя рыбакі выбіраюць для гэтага час зараз-жа пасля дажджу, калі вада бывае каламутная, і потым, заводзячы невад, пачынаюць пляскаць па вадзе канатам, палкамі і наогул ствараць шум. Пачуўшы шум і думаючы, што ён абвяшчае ўрачыстасць вольных ідэй, карась падымаецца з дна і пачынае даведвацца, ці нельга і яму як-небудзь прыладзіцца да ўрачыстасці. Тут вось ён і трапляе ў вялікай колькасці ў матню, каб потым зрабіцца ахвяраю чалавечай абжорлівасці. Бо, паўтараю, карасі ўяўляюць з сябе такую смачную страву (асабліва засмажаныя ў смятане), што прэдвадзіцелі дваранства ахвотна частуюць імі нават губернатараў.

Што да яршоў, дык гэта рыба ўжо зачэпленая скептыцызмам і прытым калючая. Калі яе зварыць у юшцы, яна дае непараўнаны бульён.

Якім чынам здарылася, што карась з яршом сышліся,—не ведаю; ведаю толькі, што аднаго разу, сышоўшыся, зараз-жа заспрачаліся. Паспрачаліся раз, паспрачаліся другі, а потым і да смаку дайшлі,

спатканні адзін аднаму пачалі прызначаць. Сплывуцца дзе-небудзь пад вадзяным лапухом і пачнуць разумныя рэчы размаўляць. А плотка-белабрушка гарэзуе ля іх і уму-розуму набіраецца.

Першым заўсёды зачэпліваў карась.

— Не веру,—казаў ён:—каб барацьба і сварка былі нармальным законам, пад уплывам якога нібыта суджана развівацца ўсяму, што жыве на зямлі. Веру ў бяскроўнае прэўспеванне, веру ў гармонію і глыбока пераконаны, што шчасце—не марная фантазія лятуценных розумаў, але рана ці позна зробіцца агульным здабыткам!

— Чакай!—іранізіраваў ёрш.

Ёрш спрачаўся адрывіста і неспакойна. Гэта рыба нервовая, якая, відаць, памятае нямала крыўдаў. Накіпела ў яе на сэрцы... ах, накіпела! Да нянавісці пакуль што яшчэ не дайшло, але веры і наіўнасці ўжо і ў спаміне няма. Замест мірнага жыцця, яна ўсюды сварку бачыць; замест прагрэса—усеагульную адзічэласць. І сцвярджае, што той, хто мае прэтэнзію жыць, павінен усё гэта ў разлік браць. Карася-ж лічыць «блажэнненькім», хоць у той-жа час разумее, што з ім толькі і можна «супачыць душою».

— І дачакаюся!—адгукнуўся карась:—і не я адзін, усе дачакаюцца. Цемра, у якой мы плаваем, ёсць параджэнне прыкрай гістарычнай выпадковасці; але таму што цяпер, дзякуючы навейшым даследванням, можна гэтую выпадковасць па костачках разабраць, то і прычын, што не парадзілі, нельга ўжо лічыць неадхільнымі. Цемра—факт, які адбыўся, а святло—чаканае будучае. І будзе святло, будзе!

— Значыць, і такі па твойму, час прыдзе, калі і шчук не будзе?

— Якіх такіх шчук?—здзівіўся карась, які быў да таго наіўны, што калі пры ім гаварылі: на тое шчука ў моры, каб карась не драмаў, дык ён думаў, што гэта што-небудзь накшталт тых ніксаў і русалак, якімі малых дзяцей палохаюць і, вядома, ні крышачку не баяўся.

— Ах, фафан ты, фафан! Сусветныя задачы вырашаць хочаш, а аб шчуках разумення не маеш!

Ёрш пагардна пашавельваў плавальнымі пер'ямі і плыў дадому; але, праз малы час, субяседнікі зноў дзе-небудзь у зацішным месцы сплываліся (у вадзе-ж нудна) і зноў пачыналі дыспутыраваць.

— У жыцці найпершую ролю дабро іграе,—раздабарваў карась:—зло—гэта так, па непаразуменню дапушчана, а галоўная жыццёвая сіла ўсё-такі ў дабры замыкаецца.

— Трымай кішэню!

— Ах, ёрш, якія ты недарэчныя выразы ўжываеш! «Трымай кішэню»! хіба гэта адказ?

— Ды табе, па-сапраўднаму, і зусім адказваць не след. Дурны ты—вось табе і сказ увесь!

— Не, ты паслухай, што я табе скажу. Што зло ніколі не было стваральнай сілай—аб гэтым і гісторыя сведчыць. Зло ціснула, душыла, спусташала, аддавала мячу і агню, а стваральнай сілай з'яўлялася толькі дабро. Яно імкнулася на дапамогу прыгнечаным, яно вызваляла ад ланцугоў і кайданаў, яно абуджала ў сэрцах

пладатворныя пачуцці, яно давала ход узлётам розума. Каб не было гэтага сапраўды ствараючага фактара жыцця, не было-б і гісторыі. Таму што, па сутнасці, што такое гісторыя? Гісторыя—гэта аповесць вызвалення, гэта апавяданне аб трыумфе дабра і розума над злом і шаленствам.

— А ты, відаць, дасканала ведаеш, што зло і шаленства абняслаўлены?—пасміхаўся ёрш.

— Не абняслаўлены яшчэ, а будуць абняслаўлены—гэта я табе праўду кажу. І зноў-жа спашлюся на гісторыю. Параўнай, што некалі было, з тым, што ёсць,—і ты без цяжкасці згодзішся, што не толькі знешнія прыёмы зла змякчыліся, але і самая сума яго прыкметна зменшылася. Вазьмі хаця-б нашу рыбную пароду. Раней нас ва ўсякі час лавілі, і пераважна ў часе «хода», калі мы, як ачмурэлыя, самі проста ў сець лезем, а цяпер іменна ў часе «хода» таго і лічыцца шкодным нас лавіць. Раней нас, можна сказаць, самымі варварскімі спосабамі знішчалі—у Урале, кажуць, у часе лоўлі восцямі, вада на шмат вёрст ад рыбяй крыві чырвоная стаяла, а цяпер—шабаш. Невады ды венцяры, ды вуды—больш каб ні-ні! Ды і аб гэтым яшчэ ў камітэтах разважаюць: якія невады? з якога выпадку? на якія прадмет?

— А табе, відаць, не ўсё адно, якім спосабам у юшку трапіць?

— У якую такую юшку?—здзіўляўся карась.

— Ах, каб на цябе ліха! Карасём называецца, а пра юшку не чуў! Якое-ж ты пасля гэтага права са мной размаўляць маеш? Яно-ж, каб спрэчкі весці і думкі бараніць, трэба, па малай меры, з акалічнасцямі справы наперад пазнаёміцца. Аб чым-жа ты размаўляеш, калі нават такой простай ісціны не ведаеш: што кожнаму карасю наперад нарыхтавана юшка? Брысь... закалю!

Ёрш натапырваўся, а карась шпарка, наколькі дазваляла яго няўклюдасць, апускаўся на дно. Але праз суткі сябры-праціўнікі зноў сплываліся і новую размову пачыналі.

— Надоечы ў наш плёс шчука заглядвала,—абвяшчаў ёрш.

— Тая самая, пра якую ты надоечы спамінаў?

— Яна. Прыплыла, заглянула, прамовіла: штосьці быццам вельмі ўжо тут ціха! мабыць, тут карасям лахва?.. І з тым паплыла.

— Што-ж мне цяперака рабіць?

— Рыхтавацца—толькі і ўсяго. Ужо, як прыплыве яна, ды ўтаропіцца ў цябе вачышчамі, ты луску ды пер'і падбяры пашчыльней, ды проста і лезь ёй у зяпу!

— Навошта-ж я палезу? Каб я быў у чым хаця вінаваты...

— Дурны ты—вось у чым твая віна. Ды і жырны ўдадатак. А дурному ды жырнаму і закон загадвае шчупы ў зяпу лезці!

— Не можа такога закона быць!—шчыра абураўся карась.— І шчука задарма не мае права глытаць, а павінна перш тлумачэнняў патрабаваць. Вось я ёй і растлумачу, усю праўду выкладу. А праўдай я яе да сёмага пота прашыбу.

— Казаў я табе, што ты фафан, і цяпер тое-ж самае паўтару: фафан! фафан! фафан!

Ёрш канчаткова ўзлаваў і даваў сабе слова на будучы час

устрымліваццa ад усякіх зносін з карасём. Але праз некалькі дзён, глядзіш, прывычка зноў узяла сваё.

— Вось каб усе рыбы паміж сабою дамовіліся...—загадкава пачынаў карась.

Але тут ужо і на самога ярша находзіла ўтрапенне. Аб чым гэта фафан гаворку заводзіць? думалася яму:—таго і глядзі, наманіць, а тут галавень недалёка пахаджвае. Бач, і вочы ўбок, нібы не яго справа, скасавурыў, а сам, бач, прыслухоўваецца:

— А ты не кожнае слова вымаўляй, якое табе ў галаву ўзбрыдзе!—угаварваў ён карася:—няма для чаго пашчу раззяўляць; можна і шапаткам, што трэба, сказаць.

— Не хачу я шаптацца,—казаў карась спакойна:—а кажу проста, што калі-б усе рыбы паміж сабой дамовіліся, тады...

Але тут ёрш груба перапыняў свайго прыяцеля.

— З табой, відаць, гароху наеўшыся, гутарыць трэба!—крычаў ён на карася і, навастрыўшы лыжы, плыў ад яго дадому.

І прыкра яму ды і шкада карася было. Хоць і неразумны ён, а ўсё-такі з ім адным па душах пагаварыць можна. Не прагаворыцца ён, не прадасць—у кім цяпер якасці гэтыя знойдзеш? Слабы цяпер час, такі час, што на бацьку з маткай пакладацца нельга. Вось плотка, хоць і нельга аб ёй проста што-небудзь благое сказаць, а ўсё-такі таго глядзі, не разумеючы, прагаварыцца! А пра галаўнёў, язёў, лінёў і іншую чэлядзь і гаварыць няма чаго! За чарвяка прысягнуць пад званамі гатовы! Бедны карась! ні за грош ён паміж іх загіне!

— Паглядзі ты на сябе,—казаў ён карасю;—ну, якую ты, калі што якое, абарону з сябе паказаць можаш? Бруха ў цябе вялікае, галава малая, на выдумкі не прыдатная, рот—малюпаткі. Нават луска на табе—і тая не сур'ёзная. Ні рухавасці ў табе, ні спрыту—як ёсць цюхцяй! Кожны, хто хоча, падыйдзі да цябе і еш!

— Ды за што-ж мяне есці, калі я не правініўся?—па-ранейшаму ўпіраўся карась.

— Слухай, дурная парода! Ядуць-жа хіба «за што»? Хіба таму ядуць, што карацъ хочуць? Ядуць таму, што есці хочацца—толькі і ўсяго. І ты, бадай, ясі. Нездарма носам-жа ў твані капаешся, а ракушак вылаўліваеш. Ім, ракушкам, жыць хочацца, а ты, прастафіля, імі мамону з раніцы да вечара напакоўваеш. Кажы: якую такую яны віну перад табою зрабілі, што ты іх штохвілінна караеш смерцю? Памятаеш, як ты надоечы казаў: вось каб усе рыбы паміж сабой дамовіліся... А што, калі-б ракушкі паміж сабой дамовіліся— ці салодка-б табе, прастафілю, тады было?

Пытанне было такое прамое і так непрыемна пастаўлена, што карась сканфузіўся і крыху пачырванеў.

— Але ракушкі—гэта-ж...—прамармытаў ён замяшана.

— Ракушкі—ракушкі, а карасі—карасі. Ракушкамі карасі ласуюцца, а карасямі—шчукі. І ракушкі ні ў чым не вінаватыя, і карасі не вінаватыя, а і тыя і другія павінны адказ трымаць. Хоць сто год пра гэта думай, а нічога іншага не выдумаеш.

Схаваўся пасля гэтых яршовых слоў карась у самую глыб твані і пачаў, час маючы, думаць. Думаў, думаў і, між іншым, ракушак

еў ды еў. І што больш есць, то больш хочацца. Нарэшце, аднак-жа, дадумаўся.

— Я не таму ем ракушак, каб яны вінаватыя былі—гэта ты праўду сказаў,—растлумачыў ён яршу,—а таму я іх ем, што яны, гэтыя ракушкі, самой прыродай мне для ежы прызначаны.

— Хто-ж табе гэта сказаў?

— Ніхто не сказаў, а я сам, уласным назіраннем, дайшоў. У ракушкі не душа, а пара; яе ясі, а яна і не разумее. Ды і створана яна так, што ніяк немагчыма, каб яе не праглынуць. Пацягні рылам ваду, а ў валяку ў цябе ўжо безліч ракушак кішыць. Я і не лаўлю іх—самі ў рот лезуць. Ну, а карась—зусім іншае. Карасі, брат, ад дзесяці вяршкоў бываюць,—дык з гэткім старым яшчэ пагаварыць трэба, перш чым яго з'есці. Трэба, каб ён сур'ёзную пакасць зрабіў—ну, тады, вядома...

— Вось як шчука праглыне цябе, тады ты і даведаешся, што трэба для гэтага зрабіць. А да гэтага часу лепш маўчаў-бы.

— Не, я не буду маўчаць. Хоць я зроду шчук не бачыў, але толькі магу меркаваць па расказах, што і яны да голасу праўды не глухія. Змілуйся—скажы; ці можа такое злачынства здарыцца! Ляжыць карась, нікога не чапае, і раптам, ні дай, ні вынесі за што, да шчукі ў бруха трапляе! Нізашто ў жыцці я гэтаму не паверу.

— Дзівак! Ды надоечы-ж, на вачах у цябе, манах цэлых два невады вашага брата з плёса выцягнуў... Як ты думаеш: любавацца, ці што, ён на карасёў тых будзе?

— Не ведаю. Толькі гэта яшчэ бабуля надвое сказала, што з тымі карасямі сталася: ці то іх з'елі, ці то ў сажалкі пасадзілі. І жывуць яны там прыпяваючы на манастырскіх хлябах!

— Ну, жыві, калі так, і ты, прайдзісвет!

Праходзілі дні за днямі, а дыспутам карася з яршом і канца не было відаць. Мясціна, у якой яны жылі, была ціхая, нават крыху зялёнай цвіллю пакрытая, самая для дыспутаў спрыяючая. Аб чым ні раздабарвай, якімі марамі ні захапляйся—беспакаранасць поўная. Гэта да такой ступені абадзёрыла карася, што ён з кожным сеансам усё больш і больш тон сваіх экскурсій у галіну эмпірэяў узвышаў.

— Трэба, каб рыбы любілі адна другую!—распінаўся ён:—каб кожная за ўсіх, а ўсе за кожную—вось калі сапраўдная гармонія ажыццявіцца!

— Хацеў-бы я ведаць, як ты са сваёй любоўю да шчукі пад'едзеш!—расхаладжваў яго ёрш.

— Я, брат, пад'еду!—стаяў на сваім карась:—я такія словы ведаю, што хоць якая шчука ў адну мінуту ад іх у карася ператорыцца!

— А ну-ж, скажы!

— Ды проста спытаюся: ці ведаеш ты, маўляў, шчука, што такое добрадзейнасць і якія абавязкі яна ў адносінах да блізкіх накладае?

— Здзівіў, няма чаго сказаць! А хочаш, я табе за гэта самае пытанне іглой жывот пракалю?

— Ах, не! зрабі ласку, ты гэтым не жартуй!

Або:

— Толькі тады мы, рыбы, свае правы асвядомім, калі нас, з малых гадоў, у грамадзянскіх пачуццях выхоўваць будуць!

— А на якое табе ліха грамадзянскія пачуцці спатрэбіліся?

— Усё-такі...

— То-ж бо «ўсё-такі». Грамадзянскія пачуцці толькі тады да месца, калі перад імі прастора адкрыта. А што-ж ты з імі, у твані лежучы, рабіць будзеш?

— Не ў твані, а наогул...

— Напрыклад?

— Напрыклад, манах мяне ў юшцы захоча зварыць, а я яму скажу: не маеш, отча, права без суда на такое жахлівае пакаранне мяне кідаць!

— А ён цябе, за грубасць, на скавараду, альбо ў попел у гарачы... Не, дружа, у твані жыць, дык не грамадзянскія, а ёлапеньскія пачуцці трэба мець—вось гэта правільна. Схаваўся дзе пагусцей і маўчы, ёлапень!

Або яшчэ:

— Рыбы не павінны рыбамі жывіцца,—брэдзіў уяве карась.— Для рыб'яга харчавання і без таго прырода многае мноства смачных страў прыгатавала. Ракушкі, мухі, чарвякі, павукі, вадзяныя блохі; нарэшце, ракі, змеі, лягушкі. І ўсё гэта дабро, усё на патрэбу.

— А для шчук на патрэбу карасі,—аццеражаў яго ёрш.

— Не, карась сам сабе даўлее. Калі прырода яму не дала абарончых сродкаў, як табе, напрыклад, дык гэта значыць, што трэба асаблівы закон, у мэтах забеспячэння яго асобы, выдаць!

— А калі той закон выконвацца не будзе?

— Тады трэба настаўленне распублікаваць: лепш, маўляў, зусім законаў не выдаваць, калі оныя не выконваць.

— І добра будзе?

— Думаю, што шмат хто ўсароміцца.

Паўтараю: дні праходзілі за днямі, а карась усё брэдзіў. Другому за гэта хоць шчаўчка ў нос далі-б, а яму—нічога. І раздабараў-бы ён такім парадкам арыдавы вякі, калі-б хоць крышачку асцярогся. Але ён так ужо пра сябе высока думаў, што зусім з разліку вышаў. Прыпускаў ды прыпускаў, як раптам да яго галавень з павесткай: заўтра, маўляў, шчука мае ласку ў плёс прыбыць, дык ты, карась, глядзі!—толькі развіднее, адказ трымаць з'явіся!

Карась, аднак-жа, не спалохаўся. Па-першае, ён столькі рознастайных водгукаў пра шчуку чуў, што і сам пазнаёміцца з ёю меў цікавасць; а па-другое, ён ведаў, што ў яго такое магічнае слова ёсць, якое, калі яго сказаць, зараз-жа самую лютую шчуку ў карася ператворыць. І вельмі на гэта слова спадзяваўся.

Нават ёрш, бачачы такую яго веру, задумаўся, ці не вельмі ён ужо далёка зайшоў у адмоўным кірунку. Можа і сапраўды шчука толькі таго і чакае, каб яе палюбілі, добрую параду ёй далі, розум і сэрца яе прасвятлілі? Можа яна... добрая? Ды і карась, бадай, зусім не такі прастафіля, якім з выгляду здаецца, а, наадварот, з разлікам сваю кар'еру абладжвае? Вось заўтра з'явіцца ён да

шчукі ды проста і бахне ёй самую існую праўду, якой яна зроду ні ад каго не чула. А шчука возьме ды і скажа: за тое, што ты мне, карась, самую існую праўду сказаў, узнагароджваю цябе гэтым плёсам; будзь ты над ім начальнік!

Прыплыла назаўтра шчука, як піць дала. Глядзіць на яе карась і дзівіцца: якіх яму пра шчуку плётак ні наплялі, а яна—рыба як рыба! Толькі рот да вушэй ды зяпа такая, што якраз яму, карасю, пралезці.

— Чула я,—прамовіла шчука:—што вельмі ты, карась, разумны і раздабарваць майстар. Хачу я з табой дыспут мець. Пачынай.

— Аб шчасці я больш думаю,—скромна, але з годнасцю адказаў карась.—Каб не я адзін, а ўсе былі-б шчаслівыя. Каб усім рыбам ва ўсякай вадзе вольна плаваць было, а калі якая ў твань схавацца захоча, дык і ў твані няхай ляжыць.

— Гм... і ты думаеш, што такой справе стацца магчыма?

— Не толькі думаю, але і ўсечасна гэтага чакаю.

— Напрыклад: плыву я, а побач са мною... карась?

— Дык што-ж такое?

— Першы раз чую. А калі я павярнуся ды карася таго... з'ем?

— Такога закона, ваша высокасцепенства, няма; закон гаворыць проста: ракушкі, камары, мухі і мошкі хай будуць для рыб харчаваннем. А акрамя таго, пазнейшымі рознымі ўказамі да стравы прылічаны вадзяныя блохі, павукі, чарвякі, жукі, лягушкі, ракі і іншыя вадзяныя абываталі. Але не рыбы.

— Малавата для мяне. Галавень! няўжо такі закон ёсць?—звярнулася шчука да галаўня.

— У занядбанні, ваша высокасцепенства!—спрытна выкруціўся галавень.

— Я так і ведала, што не можна такому закону быць. Ну, а яшчэ ты чаго ўсечасна, карась, чакаеш?

— А яшчэ чакаю, што справядлівасць будзе ўрачыставаць. Дужыя не будуць прыгнятаць слабых, багатыя—бедных. Што знойдзецца такая агульная справа, у якой усе рыбы свой інтэрас будуць мець і кожная сваю частку рабіць будзе. Ты, шчука, за ўсіх дужэйшая і спрытнейшая,—ты і справу на сябе пабольшую возьмеш; а мне, карасю, па маіх скромных здольнасцях, і справу скромную вызначаць. Кожны для ўсіх, а ўсе для кожнага—вось як будзе. Калі мы адзін за другога стаяць будзем, тады і падкузьміць нас ніхто не зможа. Невад той яшчэ дзе пакажацца, а ўжо мы драла! Хто пад камень, хто на самае дно ў твань, хто ў нару ці пад корч. А юшку, бадай што, відаць, кінуць прыдзецца!

— Не ведаю. Не вельмі любяць людзі кідаць тое, што ім смачным здаецца. Ну, ды гэта яшчэ калісьці будзе. А вось што: дык значыць, па твойму, і я працаваць буду павінна?

— Як іншыя, так і ты.

— Першы раз чую. Ідзі, праспіся!

Праспаўся карась, ці не, але розуму ў яго, ва ўсякім разе, не прыбавілася. У поўдзень зноў ён з'явіўся на дыспут, і не толькі без усякай нясмеласці, але нават супроць ранейшага весялейшы.

— Дык ты думаеш, што я працаваць стану, і ты ад маёй працы ласавацца будзеш?—проста паставіла пытанне шчука.

— Усе адзін ад другога... ад агульнай, узаемнай працы...

— Разумею... «адзін ад другога»... а між іншым, і ад мяне... гм! Думаецца, аднак-жа, што ты гэта ганебныя словы гаворыш. Галавень! як, па цяперашняму, такія словы называюцца?

— Сіцылізмам, ваша высокасцепенства!

— Так я і ведала. Даўненька я ўжо чую: бунтаўскія, маўляў, словы карась гаворыць! Толькі думаю: дай, лепш сама паслухаю... Аж вось ты які!

Прамовіўшы гэта, шчука так выразна шчоўкнула па вадзе хвастом, што які просты ні быў карась, але і ён здагадаўся.

— Я, ваша высокасцепенства, нічога,—прамармытаў ён у замяшанні:—гэта я па прастаце...

— Добра. Прастата горш ад зладзейства, гавораць. Калі-б дуракам волю даць, дык яны разумных са свету зжывуць. Нагаварылі мне пра цябе з тры кашы, а ты—карась як карась—толькі і ўсяго. І пяці мінут я з табой не размаўляю, а ўжо да смерці ты мне абрыдаў.

Шчука задумалася і неяк так загадкава на карася паглядзела, што ён ужо і зусім зразумеў. Але, мабыць, яна яшчэ пасля ўчарайшага абжорства сытая была, і таму пазяхнула і зараз-жа захрапела.

Але на гэты раз карасю ўжо не так шчасліва абышлося. Як толькі шчука змоўкла, яго з усіх бакоў абступілі галаўні і ўзялі пад варту.

Увечары, яшчэ не паспела сонейка зайсці, як карась трэці раз з'явіўся да шчукі на дыспут. Але з'явіўся ўжо пад вартай і прытым з некаторымі калецтвамі. А іменна: акунь, дапытваючы, пакусаў яму спіну і частку хваста.

Але ён усё яшчэ бадзёрыўся, таму што ў запасе ў яго было магічнае слова.

— Хоць ты мне і супрацiўнік,—пачала зноў першай шчука:— ды, відаць, гора маё такое: страшэнна дыспуты люблю! Будзь здароў, пачынай!

Пры гэтых словах карась раптам адчуў, што сэрца ў ім загарэлася. У адзін міг ён падабраў жывот, затрапятаўся, зашчоўкаў па вадзе рэшткамі хваста і, гледзячы шчуцы проста ў вочы, на ўсю сілу гаркнуў:

— Ці ведаеш ты, што такое добрадзейнасць?

Шчука раззявіла рот ад здзіўлення. Машынальна пацягнула яна ваду і, зусім не хочучы праглынуць карася, праглынула яго.

Рыбы, што былі сведкамі гэтага здарэння, на міг утрупелі, але зараз-жа апамяталіся і паспяшаліся да шчукі даведацца, ці шчасліва яна павячэраць мела ласку, ці не падавілася. А ёрш, які ўжо загадзя ўсё прадбачыў і прадсказаў, выплыў наперад і ўрачыста апавясціў:

— Вось яны, дыспуты нашы, якія!

---

# ВЯСКОВЫ ПАЖАР

*(Ні-то казка, ні-то быль.)*

У вёсцы Сафоніха, блізка поўдня, заняўся пажар. Гэта здарылася ў самы разгар чэрвеньскага ворыва. І мужыкі, і бабы былі ў полі. Казалі: ішоў міма вёскі салдацік, прысеў на прызьбу, пакурыў люлечку і пайшоў. А следам за ім загарэлася.

Вёска згарэла дашчэнту. Толькі той рад, дзе былі гумны, уцалеў напалову. Мужыкі за адну гадзіну страцілі ўсё і зрабіліся жабракамі. Згарэла бабуля Праскоўя, ды яшчэ Тацянін хлопчык Пецька. Мужыкі і бабы, убачыўшы густы дым, беглі з поля, як ачмурэлыя, пакінуўшы сохі і коней. Але ратаваць не было ўжо чаго. Добра, што жывёлы не было дома, ды гной быў толькі што вывезены, а то прышлося-б зусім хоць паміраць. Малалеткі, якія, у мінуту пажару, гулялі на вуліцы, ратаваліся ў рацэ і страшэнна раўлі. Дзяўчынкі-падросткі, з малюткамі на руках, спалохана выглядвалі на абвугленыя хаты і аголеныя оставы печак.

Цётка Тацяна была бадзёрая і яшчэ маладая бабылка. Год шэсць назад у яе памёр муж, але яна сама даглядала гаспадарку. Плаціла грамадзе за палову надзела, сама арала, касіла і жала. У яе быў адзіны сын, Пецька, гадоў васьмі, якога яна вельмі любіла і ў якім ужо бачыла будучага мужыка. Ён і сам бачыў у сабе мужыка, і казаў:

— Я, мама, буду мужык... хрэсьянін.

Уся вёска яго любіла. Хлопчык быў шустры і ласкавы, і ўжо хадзіў ў школу. Бывала, ідзе па вёсцы міма старых:

— Ну, што, мужычок, пасабляеш мамцы?—пытаюцца старыя.

— Пасабляю.

Тым часам, вуліца запружвалася розным мужыцкім ламаччам; мужыку ўсё дарага, усё патрэбна. Гаспадары, акружаныя хатнімі, брадзілі кожны па свайму попелішчу і цягнулі ўсё, што траплялася на вока: старую падошву, іржавы цвік, абрывак шлеі, абломак сашніка і інш. У некаторых уцалелі кладоўкі пад падлогай; але таму што час быў галодны (Пятроў пост), дык кладоўкі былі пустыя. Адзін вядомы ўсім жабрак, які год дзесяць хадзіў «з торбаю», кідаўся і крычаў:

— Дзе мой глячок? дзе? хто забраў? кажыце: хто?

Бабуля Аўдоцця хадзіла з канца ў канец па вуліцы і ўсім паказвала два абгарэлых выйгрышных білеты ўнутранай пазыкі. Абгарэлі берагі; сярэдзіна з некалькімі купонамі засталася цэлай.

— Пэўна, выдадуць!—суцяшаў яе стараста Міхей:—бач, і нумары відаць (на ўцалелых купонах); пані ў Піцеры пахадайнічае. [1])

---

[1]) Факт. У 1872 годзе прыходзіла да аўтара сялянка вёскі Заазер'я (Угліцкага павета) і паказвала два ці тры абгарэлых з берагоў білеты, але так, што на ўцалелых пасярэдзіне купонах відаць было і № білета, і серыі. Я прасіў некаторых добрых знаёмых хадайнічаць у банку. Усім здавалася справа пэўнай; але п. Ламанскі, тагочасны ўпраўляючы банкам, вырашыў інакш. Ні аднавіць білеты, ні нават выдаць за іх назоўную цану аказалася немагчымым. Гэта, бачыце, карысць банка. Вось як сапраўдныя саноўнікі ахоўваюць інтарэсы казны! (*заўвага Н. Шчэдрына*).

Старыя сабраліся ў гурт і абмяркоўвалі грамадскую бяду. На ўсіх тварах была напісана душэўная пакута; у некаторых з вачэй каціліся слёзы. Вырашылі: ісці ўсёй грамадой, пакланіцца суседняй аднавотчыннай вёсцы, каб дала прытулак пагарэльцам, пакуль будуць збудаваны хоць якія часовыя памяшканні. Потым выправілі старасту конна ў горад, у управу, за дапамогай і страхавымі.

Прышоў сельскі бацюшка і, пахаджваючы між мужыкоў, суцяшаў іх.

— Хто даў?—бог!—казаў ён:—хто ўзяў?—бог! Няўжо-ж ён не ведае?

Мужыкі моўчкі яму пакланіліся.

— А вы не тужыце!—казаў далей бацюшка:—з якога права? Чаму? як? хто дазволіў? Жывёла—пры вас, земляробчыя прылады цалюткія, гной вывезены—чаго яшчэ земляробу трэба? А вы наракаеце! Вось управа на пабудову грошай дасць; памешчыца—маючым патрэбу хлеба прышле; і я таксама... хіба я не малюся за вас? Я не толькі за вас, але і за ўсіх малюся. «І ўсіх праваслаўных хрысціян»—вось як.

Зноў пакланіліся мужыкі, а словаахвотлівы бацюшка казаў далей:

— Калі страх божы будзеце ў сэрцах мець ды храм божы старанна наведваць, дык і не ўбачыце, як бог у стократ узнагародзіць. Збожжа сёлета абяцае жніво багатае. Азімыя выдатныя; яравыя, бог дасць, папраяцца. Скосіце ўжо ў пані атаву—вось вы і з сенам. Павязеце па вазку, па другому—бач і грошыкі ў кашалі завяліся; а там азімае, жытцо на рынак павязеце—зноў грошы; а, нарэшце, і аўсяцо—таксама грошы. У будучым-жа годзе і не ўбачыце, як на месцы знішчаных няўмольным полымем хацін будуць красавацца новыя дамы, выгодныя і прасторныя, і ўсе вы зажывеце ў іх, кійждо пад смакоўніцаю сваею, і ўсерадасна і ўсецэла падзякуеце госпада вашага за ніспасланае вам дабрадзейства. Вось убачыце.

А цётка Тацяна бездапаможна хадзіла па свайму попелішчу, зграбала тлеючае бярвенне і выкліквала:

— Пецъ, а Пецъ, дзе ты, мілы? Адгукніся!—І не чула, як старэнькі Калістратыч казаў ёй:

— Глядзі, ці не ў лес ён уцёк? Надоечы бачыў я яго. Сядзеў я ля гумна на прыступцы, як ваша хата акурат загарэлася. Гляджу: кружыць Пецька па святліцы, кашулькай раздзьмувае. Я яму крычу: штурхні, мілы, дзверы, штурхні! Толькі кружыў ён, кружыў, а потым і нічога не стала відаць. Пэўна, уцёк у лес з перапуду.

Але Тацяна нічога не адчувала, акрамя таго, што сэрца яе рвецца на часткі.

— Пецъ, а Пецъ! дзе ты, мілы? Адгукніся!—чуўся яе лемант сярод агульнага гоману вясковага народа.

Нарэшце, чалавека два зжаліліся над ёю і прышлі на дапамогу. Разгарнулі абваленую столю і пад дымеўшымі абломкамі яе знайшлі труп хлопчыка. Увесь бок цела і твару, павернуты ўгору,

уяўляў з сябе страшную чорную масу; але той, які прылягаў да падлогі, застаўся некрануты.

Тацяна пахіснулася, у вачах пацямнела, і з грудзей на ўсю вёску вырваўся ўзрушаючы яе лемант:

— Божухна! ці бачыш?

Гэты лемант пачуў і бацюшка, і, вядома, паспяшаў з суцяшаннем:

— Наракаеш?—казаў ён з ласкавай дакорай:—а Іова памятаеш? Не? Дык я табе напамяну! Ён быў багаты і славуты, меў дзяцей, стады і скарбы—і раптам, з дазвалення богава, усё было ў яго адабрана: і дзеці, і жывёла, і прыяцелі, а сам ён быў надзелены пракazаю, выгнаны з горада і ляжаў ля гарадской брамы, на гнойным сметніку. Псы лізалі яго раны... псы! Але і за ўсім тым, ён не токмо не наракаў, але найпачэ ўзлюбіў госпада, што стварыў яго. І бог, бачачы такую яго адданасць, узрэў на яго. Праз кароткі час Іоў быў і здаровы, і багаты, і славуты больш ад ранейшага. Стады прыўмножыліся, дзяцей нарадзілася даволі, адным словам, усё...

Аднак, і бацюшкавы настаўленні даходзілі да Тацяны ў форме цмянага і назольнага шума. Яна ўтаропіла вочы на тую лінію, якая падзяляла ўцалелую частку Пецькінага твара ад абвугленай, і ціха шаптала:

— Божухна! ці бачыш?

У маёнтку, у гэты час, добрая пані, Анна Андрэеўна Капейшчыкава, святкавала дзень свайго нараджэння. Сабралося небагата, але шчырыя прыяцелі: прэдвадзіцель Кіпяшчэў з жонкаю, іспраўнік Шыпяшчэў з пляменніцаю, ды яшчэ Іван Іваныч Глаз, партыкулярны чалавек, пра якога казалі, што пры ім язык за зубамі трымаць трэба. Хаця, таму, што тут былі ўсё людзі, пры якіх таксама трэба было язык трымаць на прывязі (сама Анна Андрэеўна казала, што яна недзе «служыць»), то Іван Іваныч адчуваў сябе ў гэтай кампаніі вельмі выгодна. Прысутнічаў тут і бацюшка з пападзёй.

Анна Андрэеўна была генеральская ўдава, гадоў сарака з лішкам, яшчэ прыгожая і асабліва прыкметная раскошным бюстам на балах і вечарах, дзе абавязковым было дэкальтэ і дзе яе бюст прыцягваў да сябе ўзрокі людзей усіх узростаў і ўсіх збрей. Але яна раз назаўсёды сказала сабе: ni-ni-c'est fini, [1]) і ўсю сябе аддала сваім дзецям. За гэта ў грамадстве пра яе казалі: c'est une sainte, [2]) а за патрыятызм: c'est une fière matrone [3]) Як і ўсе рускія дамы, яна гаварыла па-французску, ведала un peu d'arithmetique, un peu de geographie et un peu de mythologie (cette pauvre Leda!) [4]) доўга жыла заграніцай, а ў апошні час зрабі-

1) Ні-ні—гэта скончана.
2) Гэта—святая.
3) Гэта цвёрдая патрыцыянка!
4) Крышку арыфметыкі, крышку геаграфіі і крышку міфалогіі (ах, гэта бедная Леда!)

лася патрыёткай і палюбіла «добры рускі народ». Тры гады назад яна наведала роднае Гарбілева і з таго часу ездзіла туды кожнае лета. Паставіла ў садзе маўзалей нябожчыку мужу і кожны дзень малілася. Ні з кім не знаёмілася, акрамя выпрабаваных «прыхільнікаў парадку», гаспадаркі не вяла, а аддавала зямлю мужыкам з палавіны і відаць эканомнічала. У яе быў сын Сярожа, праваед год шаснаццаці, і васемнаццацігадовая дачка Верачка, шустрая асоба, якая таксама ведала un peu d'arithmetique et un peu de mythologie.

Паны ўжо вярнуліся з царквы і сядзелі за снеданнем, калі прыбеглі сказаць, што Сафоніха гарыць. Бацюшка ўміг выправіўся настаўляць: іншыя пабеглі да вокнаў і глядзелі. За велізарнай хмарай дыму не было відаць полымя, але дым проста ляцеў па ветру на маёнтак, і адчуваўся ў пакоях горкі пах яго. Людзей таксама не было відаць, але па дарозе беглі да пажарышча натоўпы суседніх сялян і дваровых.

— Як вы хочаце, панове,—сказала, нарэшце, Анна Андрэеўна:— а я не магу заставацца роўнадушнай назіральніцай. Яны-ж—мае. Злыя людзі разлучылі нас,—спадзяюся, часова,—але я ўсё-такі памятаю, што яны мае.

Але ёй не далі адной зрабіць подвіг самаахвярнасці і ўсёй кампаніяй падахвоціліся суправаджаць яе.

— Ды і наогул гэта наш абавязак,—казала Анна Андрэеўна:— калі-б нават гэта былі і не мае сяляне, усё-такі наш свяшчэнны абавязак—быць там, дзе пакутуюць. Мы збяднелі, мы пакрыўджаны... але мы ўсё забылі. Мы памятаем толькі, што да нас звяртае ўзрокі пакутуючы меншы брат!

Даведаўшыся, што ў гэты дзень пяклі хлябы для рабочых і дваровых, яна загадала разрэзаць некалькі на кавалкі і занесці пагарэльцам.

— А заўтра зноў напячэце хлеба для сваіх... трэба-ж! Ды не забудзьце соллю пасыпаць!

Адным словам, зрабіла ўсё, што было ў яе ўладзе, і, нарэшце, узяла партманэ, сказаўшы: гэта на выпадак! І Верачка, па прыкладу мацеры, узяла кашалёк з заветнымі светленькімі манетамі.

Кампанія спынілася ля ўвахода ў вёску, але Верачка і мамзель Шыпяшчэва не сцярпелі і пайшлі ўглыб па вуліцы.

— Скажыце мужычкам, што я ім дзве чэцверці жыта ахвярую!—крыкнула ім васлед Анна Андрэеўна.

Мінут праз пяць Верачка прыбегла назад, уся ў слязах.

— Ах, мамачка!—абвясціла яна:—там ёсць бедная жанчына, у якой згарэў хлопчык-сын! Ах, як страшна... Што з ёю робіцца! Бацюшка настаўляе яе, а яна не слухае, толькі паўтарае: божухна! ці бачыш? Мамачка! гэта жахліва, жахліва, жахліва!

— Шкада беднай; але якая ты, аднак, нервовая, Вера!—папракнула яе Анна Андрэеўна.—Гэтак нельга, мой друг! Усюды промысел—гэта перш за ўсё трэба памятаць! Канешне... гэта вялікая страта; але бываюць і не такія, а мы скараемся і церпім! Памятаеш: крах Баймакова і наш бягучы рахунак... Даваў 6%... і што-ж! Хаця, салаўя байкамі не кормяць. Панове!—праказала яна

да акружаючых:—зробім маленькую калекту [1]) на карысць беднай пакутніцы-мацеры! Хто колькі можа!

Яна трапяткою рукою вынула з партманэ дзесяцірублёвую паперку, паклала яе на далонь і працягнула руку. Верачка зараз-жа паклала туды ўвесь свой кашалёк; госці таксама вынулі некалькі дробных асігнацый. Толькі Іван Іваныч Глаз адвярнуўся ў бок і пасвістваў. Назбіралася блізка трыццаці рублёў.

— Ну, вось, занясі ёй!—сказала Анна Андрэеўна дачцы:—скажы, што свет не без добрых людзей. Ды напамяні мужычкам наконт жыта... дзве чэцверці! Ды ці прынеслі хлеб? Скажы, каб раздалі! Гэта, каб прагнаць першы голад.

Верачка шпарка пабегла. Ёй уяўлялася ў гэту мінуту, што яна—ангел-збавіцель і лунае срэбранымі крыламі ў нябёсным блакіце з трыццацю рублямі ў руках. Яна застала Тацяну ўсё ў тым-жа становішчы. Апошняя стаяла з шырока раскрытымі вачамі, машынальна шавяліла губамі, без усякай адзнакі самаадчування. Бацюшка па ранейшаму стаяў каля яе і расказваў прыклад з гісторыі першых мучанікаў часоў лютага цара Нерона. Тацяне яшчэ не ўяўлялася: што з ёю будзе? ці патрэбна ёй хата, поле і наогул усё, што дагэтуль напаўняла яе жыццё? ці яна павінна будзе туляцца па белу-свету ў батрачках?

І раптам—ангел-збавіцель.

— На табе, мілая! мамачка прыслала!—казала Верачка, працягваючы грошы.

Тацяна нічога не зразумела, нават не глянула на міластыню.

— Бяры, непакорная!—угаварваў яе бацюшка:—добрыя паны ахвяруюць, а ты грэбуеш!

Нават мужычкі зацікавіліся і пачалі ўгаварваць:

— Бяры, цётка Тацяна, бяры, калі даюць! на хату згадзіцца... бяры!

Тацяна не варухнулася.

Верачка пастаяла, паклала грошы на зямлю і пайшла засмучаная. Бацюшка падняў іх.

— Ну, калі ты не хочаш браць,—сказаў ён:—дык я імі на ўпрыгожанне царквы ўскарыстаюся. Вось у нас панікадзіла кепскаватае, дык мы старэнькае ў лом аддадзім, ды разам з гэтымі грашыма і ўзбадзёрым новае! Засведчыце, праваслаўныя!

— Мамачка, яна не ўзяла!—казала Верачка са слязамі ў голасе.

Здзівіліся.

— Аднак, душок гэты ў іх яшчэ ёсць! не выбілі!—загадкава праказаў Глаз.

Але на гэты раз Анна Андрэеўна не згадзілася з ім.

— Ёсць душок—гэта праўда; але не след траціць з пад увагі глыбіню яе гора! Толькі сэрца мацеры можа зразумець, што значыць страціць... сына!

---

[1]) La collecte—збор ахвяраванняў.

Прадсказанне бацюшкава збылося. Гады праз два я праязджаў міма Сафоніхі і ўбачыў сапраўдную метамарфозу. На месцы старога попелішча стаяў рад новых дамоў, высокіх і параўнаўча прасторных. Стрэхі, праўда, былі крытыя саломаю, але пад шчотку, так што вока не засмучалася ні махрамі, ні вісячым клоччам. Новыя зрубы блісцелі на сонцы, як аблупленае яечка. Толькі на месцы Тацянінай хаты валяліся непрыбраныя галавешкі, а сама яна сышла з вёскі невядома куды. Мабыць, па святых мясцінах вандруе, хрыстовым імем. Мужыкі жылі дружна, і, значыць, спраўна. Старанна працавалі, плацілі выкупныя і грамадскія плацяжы без нядоімак, адбывалі павіннасці; рэкруцкую, падводную і дарожную. Калі-ж патрабавалася звыш таго, дык і гэта выконвалі з гатоўнасцю.

Ісправнік Шыпяшчэў не нахваліцца імі.

— Гэта вёска ў мяне—у першым нумары!—гаворыць ён. Бог помач, рэбята!

*В. Кірпоцін*

# САЛТЫКОЎ-ШЧЭДРЫН—ВЯЛІКІ РУСКІ САТЫРЫК

## I. Метад творчасці

Своеасаблівая, выключна-арыгінальная творчасць Салтыкова-Шчэдрына была падрыхтавана гістарычнымі асаблівасцямі развіцця Расіі і папярэднімі рускімі пісьменнікамі. Не толькі па зместу, але і па мастацкаму метаду сатыра Шчэдрына была з'явішчам заканамерным, вырасшым у працэсе развіцця перадавой рускай літаратуры. Пушкін заклікаў «музу агністай сатыры», каб зганьбаваць подласць сучаснага яму рэакцыйнага грамадства. «Гісторыя сяла Гарухіна» была знешне гістарычнай, а на справе—злобадзённай сатырай на прыгонніцкі лад. У гэтых адносінах, ды і па завойстранасці паказа тыпаў і палажэнняў «Гісторыя сяла Гарухіна» з'яўляецца правобразам «Гісторыі аднаго горада». Лермантаў, які эвалюцыяніраваў ад суб'ектыўнага пратэсту да соцыяльна-палітычнай крытыкі нікалаеўскай Расіі і пакінуў цэлы цыкл выкрываючых сатырычных вершаў,—зрабіў прамы ўплыў на першыя літаратурныя вопыты Салтыкова-Шчэдрына. Асабліва вялікі ўплыў на Салтыкова-Шчэдрына быў з боку Гогаля. Гогаль завяршыў і ўмацаваў перамогу рэалістычнага, крытычнага і сатырычнага кірунку ў рускай літаратуры.

Гогаль зрабіўся сцягам перадавога і рэволюцыйнага лагера рускага грамадства. У Гогалю бачылі аснавальніка «натуральнай» школы, г. зн. выкрываючага рэалізма. Салтыкоў-Шчэдрын, услед за Чэрнышэўскім, лічыў Гогаля «Найвялікшым з рускіх мастакоў». Гогаль задавольваў імкненне да «сапраўднасці», так характэрнае для матэрыялістычнага і дэмакратычнага лагера рускай грамадскасці. Сатыра існавала ў рускай літаратуры і да Гогаля, яшчэ ў XVIII стагоддзі. Карэнным недахопам дагогалеўскай сатырычнай літаратуры была абстрактнасць. Дагогалеўская сатыра не закранала палітычнага і соцыяльнага ладу, з якога выраслі парокі, якія яна праследавала. Гогаль першы стварыў галерэю вобразаў, бічаваўшых рэальныя недахопы канкрэтнай рэчаіснасці. Яго героі былі не схемамі абстрактных парокаў, а тыпамі рускіх памешчыкаў і рускіх чыноўнікаў. Гогаль паказваў патрасаючую карціну беднасці і пошласці зняволенага рабаўласніцкага грамадства. «Рэвізор» і «Мёртвыя душы» мецілі не ў паасобных людзей, меўшых права не пазнаваць сябе ў выдуманых фігурах, што дзейнічаюць у выдуманых абставінах, а ў самадзяржаўную і прыгонніцкую Расію. Гогаль не выдумляў, не станавіўся на хадулі. Ён, як адзначыў Белінскі, сурова трымаўся сферы «жыццёвай сапраўднасці».

Сатыра Гогаля была жыццёвая і пераканаўчая, яна абагульвала шматлікія факты, з якімі меў справу кожны. Гогаль пісаў аб звычайных людзях, аб штодзённых здарэннях. Чытаючы Гогаля, нельга было ўскласці віну на зло і недахопы рэчаіснасці на асобных людзей. Усё жыццё было заражана, усё грамадства было няправільна пабудавана. Каб пазбавіцца ад пошласці, беднасці, уродлівасці, каб звярнуць людзям чалавечае аблічча, трэба было змяніць палітычны і соцыяльны лад—такі вывад рабіў чытач, незалежна нават ад намераў самога аўтара. Рэалістычная сатыра Гогаля была саюзнікам і памочнікам рэволюцыйна-дэмакратычнага кірунку рускай грамадскасці.

Салтыкоў-Шчэдрын, які прышоў у літаратуру і сфарміраваўся ў спелага пісьменніка пад уплывам Петрашэўскага, Белінскага і Чэрнышэўскага, зачытваўся творамі Гогаля. Гогаль задавольваў і яго імкненні к рэчаіснасці, і яго патрэбу ў выкрыцці існаваўшага парадка. Гогаль і пасля шасцідзесятых гадоў прадаўжаў быць пісьменнікам актуальным. Самадзяржаўе і дваранства засталіся пануючымі сіламі краіны. Гогалеўскія персанажы надзелі новыя гарнітуры і знадворна засвоілі больш цывілізаваныя манеры, але яны захавалі стары змест, прадаўжаючы дзейнічаць і ў змененых умовах. Жыццё не стаяла на месцы. Яно нараджала новыя тыпы. З'явіліся «Драпежнікі», з'явіліся адвакаты, і земцы «Балалайкіны». Бюракратыя страціла старую патрыярхальнасць і пачала з цынічнай ярасцю абараняць рэжым, якому пагражала рэволюцыя, аднак, гогалеўскае выкрыццё прадаўжала быць абавязковым для літаратуры.

Шасцідзесятыя годы і наступныя дзесяцігоддзі не зменшылі, а павялічылі вялікую неабходнасць сатырычнага кірунку ў літаратуры. Людзі школы «Современника» напаміналі аб гэтым заўсёды. Дабралюбаў пісаў:

> Не льстивый бард, не громкий лирик,
> Не оды сладеньких певцов,
> А вдохновенный злой сатирик—
> Поток правдивых горьких слов—
> Нужны России.

Салтыкоў-Шчэдрын, ды яшчэ Некрасаў, з'яўляліся тымі пісьменнікамі, якія задаволілі нарастаўшую грамадскую патрэбу ў сатырычнай літаратуры.

Салтыкоў-Шчэдрын прайшоў праз школу Гогаля. Гэта не азначае, што ён быў яго паслядоўцам. Салтыкоў-Шчэдрын зусім арыгінальны пісьменнік, нават у параўнанні з Гогалем. Гогаль дапамог яму больш іншых рускіх пісьменнікаў выпрацаваць мастацкую манеру, але выпрацоўваў ён яе сам, толькі апіраючыся на папярэдні вопыт Гогаля.

Ні Гогаль, ні Шчэдрын не былі скептыкамі. Яны адмаўлялі не дзеля самаго адмаўлення, а ў імя станоўчага ідэала. У «Адзнаках часу» Шчэдрын пісаў, што энергічная бязлітасная дасціпнасць вялікіх сатырыкаў, падобных Гогалю, накіроўвалася на прадмет асмейвання «ў імя цэлага ладу разуменняў і ўяўленняў, процi-

леглых тым, што апісваюцца». Для вялікіх сатырыкаў не было абавязковым раскрываць у кожным з напісаных імі твораў змест прынятай імі станоўчай праграмы. Што і як яны адмаўлялі— дастаткова сведчыла дзеля чаго яны адмаўлялі. Гогаль бічаваў парокі і недахопы сучаснікаў дзеля маральнай мэты. Яму здавалася, што станоўчыя яго лятуценні змогуць рэалізавацца ў даным акружаючым яго палітычным і соцыяльным ладзе. Рэалізм Гогаля знаходзіўся ў супярэчнасці з яго светапоглядам. Аб'ектыўны сэнс яго вобразаў быў вастрэй і злей, чым яго суб'ектыўныя замыслы. Рэалізм Гогаля быў абвінаваўчым актам супроць самадзяржаўя, бескантрольнага чыноўніцтва і прыгоннага ладу. Дэмакратычная крытыка глядзела на творы Гогаля, як на сродак прапаганды рэволюцыйнай нянавісці да існуючага ладу дзеля замены яго другім ладам, які павінен быў прыйсці ў якасці гістарычнай змены нізвергнутаму парадку. Гогаль-жа думаў, што розныя ступені дасканаласці ўтвараюцца не ў працэсе гістарычнага развіцця, а існуюць адначасова, як розныя маральныя тыпы. У другой і трэцяй частцы «Мёртвых душ» ён хацеў паказаць галерэю станоўчых вобразаў, існуючых адначасова з Чычыкавымі і Каробачкамі ў той-жа нікалаеўскай Расіі. Гэта была невыканальная задача, і Гогаль, колькі ні намагаўся, але не мог яе рашыць. Рэалізм Гогаля апіраўся на рэчаіснасць, але ідэал яго быў антыгістарычны. Таму ён не ўскрыў тэндэнцый развіцця рускай рэчаіснасці, хоць ён і верыў у будучую веліч Расіі.

Адмаўленне Салтыкова-Шчэдрына не толькі па аб'ектыўнаму сэнсу напісанага, але і па свядомаму адпраўному пункту насіла палітычны і соцыяльны характар. У нарысе «Глупаў і глупаўцы», першапачатковым накідзе «Гісторыі аднаго горада» Шчэдрын так фармуліруе адпраўны пункт сваёй сатыры: «Мяне цікавіць не хатні парадак Сідорычаў, пра гэта і без мяне даволі пісалі, але паводзіны і справы іх як расы, існуючай палітычна». Сатыра Шчэдрына стваралася з мэтай выкрыць і дыскрэдытыраваць самадзяржаўе—і не толькі самадзяржаўе, але і ўсіх тых, хто ў якой-бы то ні было ступені падтрымліваў рэжым абсалютызма. Салтыкоў-Шчэдрын сістэматычна, на працягу ўсяго свайго пісьменніцкага шляху, здзекваўся з лібералаў. Сатырычны абстрэл лібералаў быў падпарадкаван у яго строга прадуманай палітычнай ідэі. З самадзяржаўем нельга было змагацца, не разаблачаючы лібералаў, таму што ліберады, не гледзячы на гульню ў апазіцыйнасць, былі самымі аўтарытэтнымі прапагандыстамі неабходнасці захавання рэжыма. Адкрытым рэакцыянерам ужо не верылі, ім заставалася дзейнічаць толькі гвалтам. Ліберала̃м яшчэ верылі, яны маглі пераконваць. Салтыкоў-Шчэдрын даказваў, што відомасць бескарыслівасці ліберальнай прапаганды была самай подлай формай прыстасавання да запатрабаванняў абсалютызма.

Салтыкоў-Шчэдрын крытыкаваў прыгонніцтва як уласніцка эксплаатататарскі лад. Прыгоннік быў драпежнікам. Ён сістэматычна рабаваў падуладных яму сялян. На змену прыгонніцтву прышоў капіталізм. Дзеруновы, Разуваевы і Калупаевы рабавалі не менш

бессаромліва, чым «дзікія памешчыкі» і Дракіны. З узнікненнем капіталізма Шчэдрын накіраваў агонь сатыры і на праявы новай формы эксплаатацыі.

Адмаўленне Салтыкова-Шчэдрына натхнялася не ідэяй маральнага ўдасканальвання, а ідэяй палітычнай свабоды і соцыяльнай роўнасці. Толькі пасля змены палітычнага і соцыяльнага ладу магчыма было-б з надзеяй на поспех заняцца і маральным перавыхаваннем чалавецтва.

Гогаль пісаў у часы палітычна і грамадска менш спелыя, чым Шчэдрын. У шасцідзесятых, сямідзесятых і васьмідзесятых годах нельга ўжо было проста паўтараць Гогаля. Спроба пасля Гогаля ўтрымацца на пазіцыях толькі маральнага выкрыцця магла-б завесці сатыру ў тупік. Шчэдрын быў верны духу гогалеўскай творчасці, таму ён не спыніўся на ступені дасягнутай яго вялікім папярэднікам, а пайшоў уперад. Салтыкоў-Шчэдрын не раз выказваў сваю любоў і сваю павагу да Гогаля. Ён лічыў яго найвялікшым рускім пісьменнікам. Але ў той-жа час ён добра разумеў і розніцу паміж сабой і Гогалем. «Гогалеўская сатыра была сільнай выключна на глебе асабістай і псіхалагічнай,—пісаў ён у рэцэнзіі на «Смешныя песні» А. Івалгіна,—цяпер-жа арэна сатыры настолькі пашырылася, што псіхалагічны аналіз адышоў на другі план, уперад-жа выступіла сіла рэчаў і align="" рознастайныя адносіны да яе чалавечай асобы. На гарызонце рускага жыцця перыядычна з'яўляюцца свайго роду моравыя пошасці і паглынаюць цэлыя масы людзей. Успомнім язву лібералізма, язву марнаслоўя, язву лёгкадумнасці; успомнім недарэчную і нікчэмную барацьбу так званых добранамерных бацькоў супроць дзяцей нігілістаў. Кожная з гэтых моравых пошасцей дзейнічае не на Івана ці Пятра, але на цэлыя масы Іванаў і Пятроў і вырысоўвае новыя старонкі на скрыжалях расійскай гісторыі».

Салтыкоў-Шчэдрын даводзіць, што сатырык абавязан займацца толькі вялікімі, палітычнымі і соцыяльнымі з'явамі, якія закранаюць жыццё мас. Пасля Гогаля, пасля ўсяго перажытага рускім грамадствам і рускім народам у наступныя дзесяцігоддзі, сатырык, які спрабаваў выкрываць на глебе існуючага рэжыму, у межах дазволенага абсалютызмам і ідэяй прыватнай уласнасці, ператвараўся ў своеасаблівага рэпарцёра дзённіка здарэнняў і толькі. Такой іменна «сатыры» хацелі і ўрад і дваранска-буржуазныя лібералы. «Яны патрабуюць,—пісаў Салтыкоў-Шчэдрын у «Круглым годзе», каб сатырык вёў нешта накшталт дзённіка здарэнняў: «такога-та, маўляў, чысла раніцой (дазваляецца апісанне раніцы) калежскі рэгістратар Псеўданімаў (дазваляецца апісанне яго агіднага выгляду) украў з латка булку». І толькі. Але пры гэтым, вядома, не забараняецца дадаваць, што пільнае начальства злавіла яго на месцы злачынства і не пакінула без спагнання».

Сатыра «дзённіка здарэнняў», сатыра кур'езаў, сатыра задняга чысла і казённага кляйма, не гледзячы на балтунства і крыклівасць, была формай праяўлення рабскага маўчання літаратуры. А Салтыкоў-Шчэдрын, як у свой час Гогаль, стаяў на чале перадавой літаратуры, якая гераічна служыла справе вызвалення народа.

Шчэдрын прадоўжыў сатыру Гогаля і ўзняў яе на больш высокую ступень. Ідэал Шчэдрына заключаўся не ў маральным удасканальванні, а ў імкненні да ўстанаўлення новага палітычнага і грамадскага ладу. Ён выкрываў глебу, якая параджала паказваемых ім адмоўных персанажаў. Тым самым сатыра Шчэдрына выяўляла гістарызм метада. Гістарызм Шчэдрына быў свядомы і змяшчаў у сабе ўпаўне жыццяздольныя элементы дыялектычных адносін да рэчаіснасці. Рэчаіснасць у вачах вялікага сатырыка не была чымсьці нязменным, раз назаўсёды дадзеным. Яна праходзіла рад ступеняў развіцця, прычым як-бы рэзка ні выяўлялася новая ступень, Шчэдрын ведаў, што наперадзе яе ішла ўнутраная падрыхтоўчая работа. «Гісторыя мае свае павароты,—пісаў ён у «Прытулку Монрэпо», якія немагчыма змяніць, а тым менш адхіліць. Гэта, вядома, не сляпы фаталізм, перад якім не застаецца нічога іншага, як пракланяцца і не самавольства, якому людзі падпарадкоўваюцца, таму што за ім стаіць цэлы легіён цёмных сіл, але ўсё-ж такі гэта закон, і іменна закон паслядоўнага развіцця адных з'яў з другіх. З'явы прыходзяць на арэну гісторыі як-бы крадком і амаль не выяўляючы сваёй унутранай падрыхтоўкі—вось чаму яны ў большасці выпадкаў здаюцца нам раптоўнымі ці адвольнымі. Але падрыхтоўка гэта несумненна існавала, толькі мы, ашаламлёныя спрадвечнай рэпутацыяй нязменнасці, якой карысталіся папярэднія з'явішчы, прагледзілі яе».

Шчэдрын быў вельмі чуткі да гістарычных змен. Нараджэнне новага ён умеў заўважаць у самым зародышы. Вось чаму яго творчасць, разам узятая, з'яўляецца надзвычай добрай мастацкай гісторыяй Расіі, пачынаючы з шасцідзесятых гадоў і канчаючы васьмідзесятымі. Трыццаць год рускага жыцця адлюстраваны ў яго кнігах, як у раздзелах аднаго паслядоўнага мастацка-навуковага твору. Пазнавальная каштоўнасць сатыр Шчэдрына вялікая. Ні адзін гісторык XIX стагоддзя не можа абысціся без іх. Для ўсякага цікаўнага чытача, яны з'яўляюцца як-бы жывым летапісам, які тлумачыць сэнс падзей ад пачатку разначынна-дэмакратычнага перыяду рускай рэволюцыі да выступлення рабочага класа ў якасці самастойнай палітычнай сілы. Па творчасці Салтыкова-Шчэдрына можна вывучаць эволюцыю пануючых тыпаў розных класаў рускага грамадства. Героі «Губерскіх нарысаў», пампадуры, ташкентцы, Федзенька Неугодаў, з «Круглага года»—усё гэта не толькі розныя тыпы рускіх бюракратаў, але і гісторыя рускай бюракратыі ў творах. Пазухін, Дзеруноў, Калупаеў і Разуваеў—таксама і розныя тыпы і ўвасабленне розных ступеняў капіталізма ў Расіі. Шматлікія свае мастацка-сатырычныя доследы аб эволюцыі рускіх лібералаў сатырык сам звёў у адно кароткае рэзюме—казку «Ліберал». Мастацка-публіцыстычныя назіранні Салтыкова-Шчэдрына над эволюцыяй рускай вёскі каштоўней, чым шматлікія соцыялагічныя і гістарычныя «навуковыя» работы народнікаў. Яны паслужылі вялікую службу і Плеханаву і Леніну ў барацьбе супроць народніцтва. Само разуменне рэалізма было для Шчэдрына неадлучна ад разумення гістарызма.

«Пачынаючы ўзнаўляць які-небудзь факт,—пісаў ён,—рэалізм не мае права ні абысці маўчаннем яго мінулае, ні адмовіцца ад даследвання (можа і гадальнага, але тым не менш упаўне натуральнага і неабходнага) будучага лёсу яго, таму, што гэта мінулае і будучае, хоць і закрыты для няўзброенага вока, але тым не менш зусім настолькі-ж рэальныя, як і цяперашняе».

Каб правільна ўзнавіць гістарычныя перамены неабходна мець пункт гледжання, які дае магчымасць правільна арыентравацца сярод шматлікіх з'яў рэчаіснасці і правільна ацаніць тэндэнцыі яе развіцця. Гэты пункт гледжання забяспечваўся сатырыку соцыяльнай і палітычнай пазіцыяй сялянскага дэмакрата.

Салтыкоў-Шчэдрын глядзеў на праходзячыя перад ім карціны жыцця з пункту гледжання прыгнечаных і эксплаатуемых соцыяльных нізоў, з пункту гледжання сялянскай дэмакратыі, якая абуджалася да рэволюцыйнага пратэсту. Нават тады, калі ён, здаецца, цалкам пагружаецца ў гарылападобны свет «ташкентцаў», ён кожнай літарай сваёй сведчыць, што бесперастанна думае аб становішчы «чалавека, які корміцца лебядой».

Ускрыць бесчалавечы твар абыдзёнага жыцця прыгонніцкага і капіталістычнага грамадства Салтыкоў-Шчэдрын мог толькі таму, што на абыдзёнае, з пункту гледжання пануючых класаў, ён глянуў з пазіцый тых, што адказвалі за «нармальную» плынь гэтай абыдзёнасці сваімі бакамі. Бізуны і мардабойства былі будзённай неабходнасцю штодзённай практыкі кіравання з пункту гледжання правіцеляў. Пакрывала будзёнасці з гэтай практыкі спадала, як толькі да яе падыходзілі з пункту гледжання катаванага чалавека, гэта значыць чалавека нізоў, селяніна, масцеравога рабочага.

Ліберальныя рацэпты і проста думкі адукаваных абываталяў Шчэдрын мысленна прыкладваў да найбольш шматлікай часткі народа—да сялянства, да ўмоў яго жыцця—і глядзеў, што з гэтага выходзіла. Пасля шасцідзесятых гадоў вельмі важнае месца ў грамадскім жыцці займала так-званае жаночае пытанне. Разглядалася яно звычайна прыстасоўна да адукаванай і заможнай часткі грамадства. Адказы на яго былі палавінчатыя, у духу неглыбокага буржуазнага рэфармізма. Шчэдрын-жа глянуў на справу такім чынам, каб шуканае жаночае раўнапраўе распаўсюдзіць і на жанчыну—працоўную. У яго пастаноўцы выявілася, што вырашыць жаночае пытанне магчыма толькі правёўшы поўную дэмакратызацыю ўсяго соцыяльнага парадку.

«Мы ставім жаночае пытанне»,—пісаў ён у «Круглым годзе»,—зусім не на тую глебу, на якую яго ставіць належыць, г. зн. разглядаем яго, у пераважнасці, у культурным асяроддзі...» Тады, калі-б мы перанеслі яго ў асяроддзе працавітых, дык уяўленне аб «атурах» адпала-б само сабой, і жаночае пытанне з'явілася-б перад намі ў сваім чыстым безатурным выглядзе.

Так, толькі там можна ўявіць сабе жанчыну, упаўне незалежна ад «атуров», толькі там палавым адрозніваннем даецца іх натуральнае, не дражнячае значэнне.

Калі жанчына ідзе шаг у шаг побач з мужчынай, калі яна яўляе

з сябе неабходнае дапаўненне рабочага цягла, дык яна з'яўляецца ўжо не ўцехай, не «ўпрыгожваннем» і нават не памочніцай, а проста на проста раўнапраўным чалавекам».

Жаночае пытанне было часткаю агульначалавечага пытання. Стварыўшы належныя ўмовы для існавання чалавека можна-б было на справе ўнядрыць у жыццё жаночае раўнапраўе. Аналіз праблемы з пункту гледжання працоўных вызначаў падбор тыповых адзнакаў і вырашэнне сюжэтных калізій у сатыры Шчэдрына.

Асвятленне і мастацкае ўзнаўленне рэчаіснасці з пункту гледжання сялянскай дэмакратыі мела свае небяспекі. Народніцкае крыло сялянскай дэмакратыі ідэалізіравала адсталыя бакі сялянскай гаспадаркі і сялянскага жыцця. У асобе ліберальных народнікаў ідэалогі ўласніцкага сялянства траплялі ў палон да буржуазна-дваранскага лібералізма. Салтыкоў-Шчэдрын займаў найбольш перадавыя пазіцыі, якія толькі былі магчымы ў яго эпоху, да пераходу гегемоніі ў рэволюцыйным руху к марксізму. Сатырычная проза Салтыкова-Шчэдрына мела больш шырокае значэнне і рабіла больш моцны ўплыў, чым артыкулы Міхайлоўскага не таму, што мастацкая літаратура чытаецца лягчэй публіцыстыкі, а таму, што яна была вышэй па свайму ўзроўню. Дэмакрат Шчэдрын паралізаваў, наколькі гэтае толькі было магчыма, абмежаванасць сялянскага пункту гледжання падпарадкаваннем усёй сваёй творчай працы ідэалу, які ён прапагандзіраваў. «Каб сатыра была сапраўды сатыраю,—пісаў Шчэдрын,—і дасягала сваёй мэты, неабходна, па-першае, каб яна давала адчуць чытачу той ідэал, з якога выходзіць яе творца, і падругое, каб яна ўпаўне ясна сазнавала той прадмет, супроць якога накіравана яе жала».

Народнікі, нават сямідзесятых гадоў, заўсёды хісталіся ў бок лібералаў. Народнікі васьмідзесятых гадоў не саромеліся спадзявацца на цара. Шчэдрын быў непамерна больш паслядоўны. Яго сатыра не рабіла выключэнняў для лібералаў і не ведала патуранняў ні для каго ў лагеры рэакцыі. Крытыка яго не пакідала сумненняў, што ён адмаўляе ў імя ідэала, выпрацаванага ўсёй папярэдняй рускай думкаю,—у імя дэмакратыі і соцыялізма. Непаслядоўнасці і абмежаванасці ідэала ён не дараваў і сваім саюзнікам-народнікам.

Шчэдрын добра разбіраўся ў розніцы, якая існуе паміж мастацкім і публіцыстычным словам. Аднак-жа Шчэдрын ахоўваў палітычную прынцыповасць усяго таго, што выходзіла з-пад яго пяра ў якасці пісьменніка, у якасці рэдактара. Супярэчнасці паміж абодвума гэтымі палажэннямі няма. Мастацтва—не публіцыстыка, яно дзейнічае на чытача іншымі сродкамі, але значныя творы мастацтва заўсёды ідэйныя, і ідэі іх заўсёды апіраюцца прама ці ўскосна на палітыку.

«Я дваццаць год усё у адным духу пісаў»,—з гордасцю заяўляў Шчэдрын аб лініі сваёй творчасці Энгельгардту. Шчэдрын не даруваў ідэйна-палітычных промахаў і памылак у літаратуры. Ён лічыў за лепшае зусім адмовіцца ад надрукавання таго ці іншага твора, чым допускаць скажэнні прынцыповай лініі журнала нават у яго мастацкім аддзеле. Шчэдрын не рабіў пры палітычнай ацэнцы ма-

стацкага твора скідак на талент. Гэта не перашкаджала яму сурова адносіцца да мастацкіх дэфектаў нават прыемлемых для яго па палітычных тэндэнцыях твораў.

Погляд Салтыкова-Шчэдрына на сатыру вызначаў выбар тэматыкі яго твораў. Яго ідэалам, мэтай яго дзейнасці было вызваленне народа, прадметам яго нянавісці былі прыгнятальнікі і эксплаататары.

Пераважная большасць яго твораў прысвечана высвятленню «становішча мінуты», палітычнай і сацыяльнай злобе дня, якая вызначаецца панаваннем заможных, рэакцыйных класаў, і абмалёўцы тыпаў народных прыгнятальнікаў. Тэмай сатыры Шчэдрына былі пераважна самадзяржаўе і дваранска-бюракратычная, капіталістычная Расія. «Прыступаючы да азначэння глупаўцаў, як расы існуючай палітычна,—пісаў ён яшчэ ў шасцідзесятых годах,—я, відавочна, магу гаварыць толькі аб Сідорычах, бо што-ж я магу сказаць аб людзях, паходзячых ад вільгаці» (г. зн. аб Іванушках, аб эксплаатуемым і прыгнечаным народзе). «І так,—зноў падкрэслівае Шчэдрын,—прадметам маіх пошукаў былі і будуць выключна Сідорычы» (г. зн. пануючыя). «Сідорычаў» Салтыкоў-Шчэдрын ацэньваў з пункту гледжання «Іванушак». Перавага ў творах сатырыка тыпаў і карцін адмоўных—натуральная і само сабою зразумелая. Ён змагаўся са злом, а мастак не можа змагацца са злом не выяўляючы яго. Салтыкоў-Шчэдрын быў сатырыкам, а матэрыял для сатырычных вобразаў ён чэрпаў з асяроддзя тых, хто заціскаў жыццё і не даваў яму свабодна развівацца. Сатырычныя тыпы Шчэдрына належалі да меншасці рускага народа, які распараджаўся лёсам большасці. Салтыкоў-Шчэдрын бачаваў меншасць для свабоды і шчасця большасці. Вядома, Шчэдрын не адмаўляўся зусім ад паказу людзей з нізоў. Яны заўсёды ўсплываюць у яго творах, пачынаючы з «Губерскіх нарысаў». «Гаспадарлівы мужык» і Грышка з «Дробязей жыцця», хлопчык без штаноў з «За рубяжом», селянін-юбіляр з «Сна ў летнюю ноч», партрэты прыгонных з «Пешахонскай старыны» і г. д.—адносяцца да шэдэўраў Салтыкова-Шчэдрына. Нават тады, калі Салтыкоў-Шчэдрын прама не выводзіць людзей нізоў, ён спасылаецца на іх, ён увесь час бачыць іх, і чытача прымушае не забываць пра іх. Аднак большасць тыпаў сатырыкам узята з асяроддзя прыгнятальнікаў і эксплаататараў—паразітычнага нарасту на народным арганізме. Мэта сканцэнтравання ўвагі сатырыка на адмоўных тыпах дыктавалася жаданнем выгнаць, адхіліць іх ад палітычнага і сацыяльнага жыцця. Уключэнне ў асноўную тэму сатырычнай эпапеі вобразаў працоўных паказвала, хто і як павінен быў ліквідаваць змрочную галерэю шчэдрынскіх адмоўных тыпаў. Самай адмоўнай уласцівасцю мас Шчэдрын лічыў цярпенне. Ён імкнуўся абудзіць свядомасць народа і падрыхтаваць яго да барацьбы, таму, што народу, які асвядоміў свае інтарэсы і свае сілы, вызваліўся ад спрадвечнай загнанасці, належала прагнаць і «граданачальнікаў» і «пампадураў» і «драпежнікаў».

Station: Станоўчыя тыпы рэдка з'яўляюцца на старонках Шчэдрына. Станоўчым тыпам быў для пісьменніка змагар за праўду, рэволю-

цыянер. Рэволюцыянераў было не так ужо многа ў яго час. Не яны вызначалі пануючы характар грамадскай атмасферы. «Што робіць другі—«новы чалавек»,—пісаў Шчэдрын, заканчваючы «Дзённік правінцыяла»,—пакуль невядома, ды і не ён дае тон жыццю». Не дазвалялі паказваць «Новага чалавека» і цэнзурныя ўмовы.

Салтыкоў-Шчэдрын быў сатырыкам. Сатырык па самаму роду свайго жанра з'яўляецца выкрывацелем. Казённы друк не раз абвінавачваў яго ў зламысным адмаўленні ад паказу станоўчых бакоў рускага жыцця. Пад паказам станоўчых бакоў разумелася падтрымка ўрадавай палітыкі.

У самадзяржаўнай Расіі сцвярджаючая літаратура адносілася проста да разраду казённай рэптыліі. «А на маю думку,—растлумачваў сатырык,—займацца складаннем хадульна-двудушніцкіх і вымучаных дыфірамбаў куды больш працізаконна, чым практыкавацца ў нядрэннай сатыры». «Дыфірамбы» супярэчылі праўдзе і тым самым законам мастацтва, «нядрэнная сатыра», не гледзячы на асаблівасць жанра, была ўпаўне рэалістычна. Салтыкоў-Шчэдрын быў перакананым і паслядоўным рэалістам. Ніколі ён не афяроўваў ісцінай дзеля большай выразнасці літаратурнага прыёму. Шчэдрын лічыў рэалізм вышэйшым кірункам у мастацтве, толькі адзіна-здольным крануць чалавечае сэрца, выклікаць спачуванне або антыпатыю. Разам з тым сатырык лічыў рэалізм найцяжэйшым родам мастацтва. Цяжкасць рэалізма заключаецца ў тым, што ён не церпіць выключнасці, аднабаковасці. Рэалізм паказвае якасную асаблівасць з'явішча ў цэлым, ахопліваючы ўсе яго бакі. «Сапраўдны рэалізм,—пісаў Шчэдрын,—не толькі не патурае выключнасці і аднабаковасці, але нават зусім варожы ім. Такім чынам, маючы на ўвазе чалавека і яго справу, ён бярэ яго з усімі яго вызначэннямі, бо ўсе гэтыя вызначэнні роўна рэальны, г. зн. роўна законны і роўна неабходны для тлумачэння чалавечай асобы».

Можа паказацца, што ўласная творчасць сатырыка супярэчыць толькі што працытыраванаму вызначэнню. Шчэдрына не адзін раз абвінавачвалі ў пераўвелічэннях, нават у карыкатурнасці і шаржыраванні. Героі Шчэдрына ствараюць уражанне арыгінальнае, рэзкае, незвычайнае. Не толькі граданачальнік з арганчыкам замест галавы, але і фігура любога другога «граданачальніка» выпісана пры дапамозе павышаных выяўленчых сродкаў. Аднак, павышаная выразнасць ужываемых Шчэдрыным сродкаў у параўнанні з Тургеневым ці з Талстым тлумачыцца толькі розніцаю жанраў. Тургенеў і Талстой не былі сатырыкамі, а Шчэдрын быў сатырыкам. Тыя-ж павышаныя прыёмы знадворнай выразнасці мы знаходзім і ў сатырычных творах Гогаля. Выключнасць і аднабаковасць, супроць каторых выступаў Шчэдрын, не мелі нічога агульнага з надворнай выразнасцю і рэзкай характэрнасцю. Пад выключнасцю і аднабаковасцю вялікі сатырык разумеў ператварэнне другарадных бакоў ці дэталей у галоўнае вызначэнне. Сатырычная характэрнасць у Шчэдрына ніколі не была самамэтай, яна была сродкам для выражэння дамініруючага сэнса паказваемага з'явішча.

Ужыванне сатырыкам павышаных выразных сродак было сурова

законамерна і выходзіла з палітычнай і соцыяльнай своеасаблівасці самой рэчаіснасці. Тое, што крытыкі Шчэдрына называлі пераўвелічэннем, на справе часамі з'яўляецца сатырычным інасказаннем. Салтыкоў-Шчэдрын сам указваў на інасказальны характар некаторых сваіх вобразаў: «інасказальны сэнс таксама мае права грамадзянства,—пісаў ён...—Калі-б, замест слова «арганчык» было пастаўлена слова «дурак», дык рэцэнзент, напэўна, не знайшоў-бы нічога ненатуральнага...» Аднак, рэальнае значэнне сатырычных вобразаў Шчэдрына тлумачыцца вядома не інасказаннем. Перад непадрыхтаваным вокам рэчаіснасць паўстае ў выглядзе стракатай рознастайнасці, у якой цяжка адразу выявіць, што з'яўляецца галоўным і, што другарадным, паўтараючымся. Чалавек прызвычайваецца да з'явішчаў, якія паўтараюцца штодзённа і траціць здольнасць класіфіцыраваць іх.

«Няма нічога больш небяспечнага,—справядліва зазначае Шчэдрын,—чым абыдзёнасць, іменна таму, што да яе прызвычайваецца наш позірк».

Новыя адмоўныя з'явішчы нярэдка збіраліся паступова і бралі жыццё ў палон без барабаннага бою, паціхеньку, спакваля. Наогул «парок» (г. зн. палітычнае і соцыяльнае зло), тлумачыць Шчэдрын, рэдка «з'яўляецца чымсьці акамянелым, не толькі немаючым ніякай прыцягальнай сілы, але нават проста адштурхваючым». Па ўсіх гэтых прычынах адмоўныя з'явішчы набывалі для звычайнага чалавека «загадкавую» форму. Не адрозніваючы суровых граніц паміж з'явішчамі, маючы справу са змешваннем благога са звычайным, «сярэдні чалавек» не мог заняць выразнай пазіцыі ў стракатым калейдаскопе жыцця. Вось тут і павінна прыйсці на дапамогу чытачу літаратура.

«Літаратура ведае,—тлумачыць Шчэдрын,—такія чалавечыя дзеянні, якія заключаюць у сябе вядомую ступень загадкавасці і адносна каторых публіка знаходзіцца яшчэ ў неўразуменні, парочныя яны ці дабрадзейныя».

Задача сатырыка—раскрыць адмоўна-тыповы, адмоўна-істотны змест абыдзёнасці. Працэс гэты вельмі складаны. Ён пад сілу толькі вялікім дараванням, узброеным мастацкім талентам, грамадзянскай страсцю і перадавым ідэалам. Сатырык вызваляў істотнае, галоўнае з-пад кары прывычных жыццёвых дробязей. Ён выкрываў зло і паказваў яго ў такім выглядзе, што чытач ужо не мог аднесціся да яго як да чагосьці прывычна-нейтральнага. Сатырык аналізіраваў рэчаіснасць і адкідваў павярхоўнае, другараднае, ствараў новы мастацкі сінтэз, у каторым асноўныя бакі рэчаіснасці выступалі ў рэзкім асвятленні, без поўтонаў.

«Глядзіце ўважлівей,—вучыў сатырык,—і, напэўна, вы зробіце такія адкрыцці, якія абавязкова прынясуць карысць. Ад нас не схаваюцца ні сударажныя паторгванні рук, ні блукаючыя агеньчыкі, якімі часамі іскрацца мутныя вочы, ні імгненныя перакаты голаса; адным словам, нічога з таго, што вы да гэтай мінуты лічылі дробяззю. Гэтага дастаткова будзе, каб узбагаціць ваш розум ведамі, раскрыць змест з'явы, дагэтуль загадкавай. Вы прывучыцеся

назіраць за сабою, вы не дадзіце падкупіць сябе простадушнай абыдзёнасцю».

Аналіз—першы шаг сатырыка ў разуменні грамадска-палітычнага сэнсу звычайных жыццёвых будняў.

Аднак, шлях сатырыка не абмяжоўваецца толькі аналізам. Ствараючы тып, сатырык, як і кожны мастак, спалучае аднародныя рысы, групіруе з'явы, узмацняе галоўнае і істотнае выяўленае аналізам і вызваляе ад зацямняючай сілы абыдзёнасці. Сатырык абагульняе. «Зразумець вядомае з'явішча,—значыць ужо абагульніць яго,—растлумачвае свой мастацкі метад Салтыкоў-Шчэдрын,—значыць ажыццявіць яго для сябе не ў адной якой-небудзь прыватнасці, а ў цэлым радзе такіх, хоць-бы яны, калі глядзець споверху, і мелі паміж сабою мала агульнага. Зразумець-жа з'явішча шкоднае, парочнае—значыць на палову перасцерагчы сябе ад яго. Вось чаму я прашу чытача пераканацца, што назву «ташкентцы» ні ў якім разе не след прымаць у літаральным сэнсе... Ці-ж мы можам указаць напэўна, дзе пачынаюцца граніцы нашага Ташкента і дзе яны канчаюцца? Ці не жывуць паны ташкентцы сярод нас? Ці не шныраюць яны стадамі па вёсках і гарадах нашых?

І аднак-жа ніхто, ніхто не лічыць іх за ташкентцаў, а ўсе бачаць толькі дабрадушных мальцаў, якім да смерці хочацца есці»...

Сатырыкі «Дзённіка здарэнняў», здаралася, таксама падбіралі ў адзін пучок аднародныя з'явішчы. Аднак-жа мастацкі сінтэз не атрымсўваецца пры дапамозе падбора з'яў па аднаму знадворнаму падабенству. Тып—з'ява арганічная, а не калькасная групіроўка адзнак. Правільнасць аналіза і правільнасць сінтэза правяраецца тэндэнцыяй грамадскага развіцця. Мастацкае мышленне, якое вызначаецца гістарычным чуццём і ўменнем прадбачыць будучае, сплаўляе сабраныя матэрыялы ў тып, які ўладае сурова вызначанай і рэальнай фізіяноміяй. Уменне пранікнуць у тэндэнцыю развіцця дапамагае выявіць за абыдзёнай рэчаіснасцю другую непамерна больш рэальную рэчаіснасць, «якая хоць і рэдка выбіваецца наверх, але мае не менш правоў на прызнанне, як і самая грубая, б'ючая ў вочы канкрэтнасць».

Сатыра ёсць род слоўнага мастацтва. Прадбачанне будучага ў сатыры носіць не адцягнена-рассудкавы, а вобразны характар. Шчэдрын выяўляў тэндэнцыю развіцця, папярэджваючы будучыя паводзіны вобраза, або аналізуючы яго паводзіны ў чыстым выглядзе. Ён разглядаў як апісваемы ім характар, як даследуемы ім тып праявіў-бы сябе, калі-б ён быў вызвалены ад сцясняючых ці процідзейнічаючых яму ўмоў. «Літаратурнаму даследванню,—расказвае Шчэдрын аб сваім мастацкім метадзе,—падлягаюць не тыя толькі ўчынкі, якія чалавек бесперашкодна робіць, але і тыя, якія ён бясспрэчна рабіў-бы, калі-б умеў ці асмеліўся. І не тыя адны словы, якія чалавек гаворыць, але і тыя, якія ён не вымаўляе, але думае. Развяжыце чалавеку рукі, дайце яму свабоду выказаць усю сваю думку—і перад вамі ўжо ўстане не зусім той чалавек, якога вы ведалі ў абыдзёным жыцці, а крыху інакшы, у якім адсутнасць сцясненняў, накладваемых двудушнасцю і іншымі жыццёвымі ўмовамі, з надзвы-

чайнай яркасцю выкліча наверх уласцівасці, якія заставаліся дагэтуль незаўважанымі, і, наадварот, адкіне на задні план тое, што на павярхоўны погляд складала галоўнае вызначэнне чалавека. Але гэта будзе не пераўвелічэнне і не скажэнне рэчаіснасці, а толькі выкрыццё той другой рэчаіснасці, якая любіць хавацца за абыдзёным фактам і даступна толькі вельмі і вельмі пільнамуназіранню. Без гэтага выкрыцця немагчыма ўзнаўленне ўсяго чалавека, немагчымы праўдзівы суд над ім. Неабходна дакрануцца да ўсіх гатоўнасцей, якія хаваюцца ў ім і даведацца, наколькі жывуча ў ім імкненне рабіць такія ўчынкі, ад якіх ён, у абыдзёным жыцці, мімаволі адмаўляецца. Вы скажаце: што нам да таго, па сваёй ці не сваёй волі ўстрымліваецца пэўны суб'ект ад пэўных дзеянняў; для нас дастаткова і таго, што ён не робіць іх... Але сцеражыцеся! Сёння ён сапраўды ўстрымліваецца, але заўтра абставіны паспрыяюць яму, і ён абавязкова зробіць усё, што калі-небудзь песціла таемная яго мысль».

Разуменне тэндэнцыі развіцця давала сатырыку магчымасць узмацніць адлюстраванне сёнешняга з'явішча на строга рэальных падставах. Узмацненне пры гэтых умовах адбывалася не ад самавольства пісьменніка, а ад уласцівасці самой рэчаіснасці. Мастак, які не пранікае ў сэнс рэчаіснасці, можа грамаздзіць вобраз на вобраз, гіпербалізіраваць адзнаку за адзнакай, і ўсё-ж такі не даб'ецца пераканаўчага выніку. У мастака-ж, які правільна заўважае, куды ідзе жыццё, фантастычнае толькі выпярэджвае будучае і таму правільна растлумачвае сучаснае. Характар выкарыстання фантастычных пераўвелічэнняў вызначаецца ў Шчэдрына жанрам сатыры і логікай развіцця антынароднай палітыкі рэакцыі. Шчэдрын вызваляў свой аб'ект ад жыцейска-прывычнай шкарупіны і шляхам пераўвелічэння выяўляў яго страшэнную недарэчнасць, шкоднасць, антычалавечнасць. У руках Шчэдрына гэта быў упаўне законны, упаўне рэалістычны прыём, таму што ён не збядняў рэчаіснасць, не зводзіў яе да шаржа, да схемы, а выяўляў яе сутнасць у шматгранных яе праявах. Чуткі да нараджэння новага,—Шчэдрын па-мастацку абагульняў такія з'явішчы рэчаіснасці, якім вучоныя і соцыялогі яшчэ не надавалі значэння. Народнікі заставаліся ў спакойнай упэўненасці, што ў Расіі яшчэ няма капіталізма, а вялікі сатырык ужо стварыў рад тыпаў капіталістычных драпежнікаў, усіх гэтых Дзеруновых, Калупаевых і Разуваевых. Салтыкоў-Шчэдрын да таго глыбока пранікаў у логіку рэакцыі, у логіку падаўлення і рабавання народа, што змог стварыць тыпы, якія прадказвалі медаты сучаснага нам фашысцкага разбоя.

«Не спыняйцеся на сучаснай мінуце,—вучыў Шчэдрын чытаць свае творы,—але ўглядайцеся ў будучае. Тады вы атрымаеце цэлую карціну чараўніцтваў, якіх, можа быць, яшчэ няма ў сапраўднасці, але якія бесспрэчна прыдуць... Як-бы там ні было, але паўтараю,—адводзіў ён абвінавачванне недальнабачных крытыкаў—карыкатуры няма... апрача той, якой з'яўляецца сама рэчаіснасць».

Пампадуры, ташкентцы і глупаўскія «граданачальнікі», пенказдымацелі і малчаліны, хлопчыкі ў штанах і без штаноў, заўзятыя

начальнікі і г. д. і г. д.—усё гэта тыпы, абагуленае вобразнае ўвасабленне вялікіх груп людзей, якія адыгрывалі важнейшую ролю ў палітычным і соцыяльным жыцці, а не карыкатуры, таму што рэчаіснасць, як-бы яна ні была ўродлівай, не можа быць карыкатурай. Уродлівая рэчаіснасць—прыкры факт, але факт, з якім неабходна было лічыцца. Смех Шчэдрына забіваў, таму, што ён меў выключна важнае пазнавальнае значэнне. Сатырычныя персанажы яго твораў растлумачвалі канкрэтную сапраўднасць. Салтыкоў-Шчэдрын і патрабаваў ад рэальнага мастацтва, каб яно адлюстроўвала чалавека з усімі яго вызначэннямі. Сатырык меў справу з людзьмі, «гатоўнасці» якіх выяўлялі фантастычныя памеры чалавеканенавісніцтва.

Паказваючы гэтыя «гатоўнасці», ён узнаўляў «усяго чалавека», ён ствараў праўдзівы суд над імі. Фантастычнасць сатырычных тыпаў Шчэдрына цалкам вызначаецца канкрэтным зместам жыцця эпохі рэакцыі і канкрэтнай фізіяноміяй дзеячоў рэакцыі. Гэта вядома для кожнага, хто не атоесамляе канкрэтнасці з эмпірычнай разрозненасцю адзінкавых фактаў. «Канкрэтнасць» у сэнсе раз'яднанага паказу рассыпаных фактаў з'яўляецца асаблівасцю ліберальнага мышлення. З цягам часу эмпірызм мышлення лібералаў усё павялічваўся. І гэта не магло быць інакш. Лібералы думалі, як казаў Шчэдрын, аб паляпшэнні быта бяздзеліцы, ён-жа словам мастака заклікаў да нізвяржэння палітычнага і соцыяльнага ладу. «Пенказдымацель» безустанна гаворачы аб канкрэтнасці,—пісаў Шчэдрын,—разумее зусім не канкрэтнасць, а разрозненасць, а таму ўсё, што мае выгляд абагульнення, што напамінае аб адносінах і сувязі—усё гэта ўжо не падыходзіць да яго разумення аб канкрэтнасці і звальваецца ў адну кучу, якой даецца назва «утопія». Наш час—не час шырокіх задач! Гаворыць ён без усякага сораму: не расплывайся! не зарывайся! не раздражняй! Глядзі старанна на тое, што ў цябе ляжыць пад носам і далей не дзерзай! Узіранне ў тое, што ляжыць пад носам у літаратуры вяло да самага вульгарнага натуралізма. Тое, што лібералы называлі «утопіяй», было разуменнем, што ў Расіі спее найвялікшая за ўсю гісторыю чалавецтва рэволюцыя. Пераўвялічаныя тыпы Шчэдрына перадавалі з надзвычай добрай нагляднасцю згрупаванне сіл, варожых рэволюцыі, тупую ўпартасць тыпаў рэакцыі, нарастанне іх супраціўлення народнаму націску—і іх бессэнсоўнасць, іх асуджанасць у святле ідэалаў гуманізма і гістарычных перспектыў. Рэалізм Шчэдрына вытрымліваў самую суровую праверку,—праверку часу. Гістарычнае развіццё пацвярджала правільнасць шчэдрынскага паказа рэчаіснасці. Тое, што сёння ўспрымалася як пераўвелічэнне, на заўтра было будзённай праўдай. Гісторыя пацвярджала не толькі палітычную зоркасць Салтыкова-Шчэдрына—яна яскравымі вобразамі даказвала рэалістычны характар яго сатыры. Сатыра Шчэдрына ганьбіла сучаснае і выяўляла тэндэнцыі развіцця рэакцыі. Палітычная сапраўднасць пацвярджала самыя сумныя прадчуванні пісьменніка. У 1876 годзе пад шум «славянскага пытання» і падрыхтоўкі вайны з Турцыяй быў выдан закон, які дазваляў губернатарам выдаваць абавязковыя пастановы. «У мяне быў паказан пампадур—з горкім здавальненнем пісаў у су-

вязі з гэтым Шчэдрын Аненкаву (1 лістапада 1876 г.), які меў вялікую ахвоту да законадаўства і пісаў сярэднія законы, між іншым «статут аб пячэнні пірагоў» («забараняецца пячы пірагі з пяску, гліны і іншых будаўнічых матэрыялаў»)—цяпер гэты пампадур будзе ўзноўлен у самім жыцці. Вось так жыццё часам ідзе наперабой самай непраўдападобнай сатыры. Хто мог думаць, што я ў гэтым выпадку буду прарокам, а вось, аднак-жа, вышла, што я ўсё гэта прадбачыў і паказаў».

«Быць прарокам», гэта значыць прадбачыць будучае, можа толькі чалавек, які правільна разбіраецца ў сучасным. Шчэдрына абвінавачвалі (у тым ліку нават такі чалавек, як Пісараў), што яго творы—«кветкі нявіннага гумару». Жыццё даказала, што сатыра Шчэдрына ўвасабляла ў сабе глыбокі аналіз сучаснасці і грознае папярэджанне аб характары бліжэйшага будучага.

Мерапрыемствы рэакцыі пацвярджалі бязглуздыя праекты сатырычных персанажаў Шчэдрына. У рэвалюцыйнай газеце «Начало» была нават змешчана з гэтай прычыны (у № ад 15 красавіка 1878 г.) жартаўлівая аб'ява з просьбай, звернутай да сатырыка, не падказваць царскім міністрам праграмы дзейнасці. «Некалькі асоб—сказана было ў аб'яве—звяртаюцца да пана Шчэдрына з просьбай пісаць сатырычныя артыкулы ў больш абстрактнай форме, бо яны пры сучаснай ступені іх рэальнасці служаць, як відаць, матэрыялам і узорам для дзяржаўных распараджэнняў п. міністра ўнутраных спраў».

Метад абагульнення не дазволіў Салтыкову-Шчэдрыну ўкласці свае творы ў рамкі традыцыйных літаратурных форм. Вялікі сатырык ніколі не адносіўся да ўстаноўленых у мінулым літаратурных форм, як да чагосьці застыглага і недатыкальнага. «Па сутнасці я ніколі не сцясняўся формаю, і карыстаўся ёю настолькі, наколькі лічыў гэта патрэбным,—пісаў ён у праекце пісьма ў рэдакцыю «Вестника Европы»... І мне здаецца, што з прычыны тых мэт, якія я маю на ўвазе, такія свабодныя адносіны да формы ўпаўне дазвольны».

Салтыкоў-Шчэдрын лічыў, што ў эпоху, калі передавыя людзі прышлі да разумення неабходнасці знішчэння і палітычнага прыгнёту і эксплаатацыі чалавека чалавекам, стары «сямейны» раман траціць пад сабою глебу. Драма пагібелі ад палітычнага сваявольства ці ад голаду заслугоўвае большай увагі пісьменніка, чым любоўна-сямейная трагедыя. Літаратура і ў сваіх тэмах і ў сваіх сюжэтах павінна ставіць карэнныя соцыяльныя праблемы века ва ўсю іх шырыню, з мэтай дапамагчы вызваленчай барацьбе прыгнечаных і эксплаатуемых, з мэтай дапамагчы «чалавеку, які корміцца лебядою».

Соцыяльная драма, растлумачваў Шчэдрын новыя прынцыпы мастацкай творчасці, высунутыя рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратурай, «існавала бясспрэчна і заключала ў сабе ўзоры барацьбы куды больш выдатныя, чым тыя, якія прадстаўляў наш ранейшы раман. Барацьба з-за нездаволенага самалюбства, барацьба за абражанае і прыніжанае чалавецтва, нарэшце, барацьба за існа-

ванне—усё гэта такія матывы, якія маюць поўнае права на вырашэнне праз смерць. Паміраў-жа чалавек з-за таго, што яго мілая пацалавала свайго мілага, і ніхто не знаходзіў дзікім, што гэта смерць называлася вырашэннем драмы... Тым з большай падставай дазвольна думаць, што і другія, нікольвкі не менш складаныя вызначэнні чалавека таксама могуць даць змест для драмы вельмі грунтоўнай. У гэтым выпадку я магу спаслацца на найвялікшага з рускіх мастакоў Гогаля, які даўно прадбачыў, што раману належыць выйсці з' рамак сямейственасці.

Раман сучаснага чалавека вырашаецца на вуліцы, у публічным месцы,—усюды, толькі не дома, і прытым вырашаецца самым рознастайным, амаль непрадбачаным парадкам. Вы бачыце: драма пачыналася сярод утульнай абстаноўкі сямейства, а скончылася бог ведае дзе; пачалася пацалункамі двух кахаючых сэрцаў, а скончылася атрыманнем выгаднай пасады, Сібір'ю і т. п. Гэтыя рэзкія перарывы і пераходы здаюцца нам нечаканымі, але між тым у іх бясспрэчна ёсць свая строгая паслядоўнасць, толькі ўскладнёная мноствам розных матываў, якія і да гэтай пары яшчэ ўнікаюць ад нашай увагі або няправільна лічацца намі недраматычнымі. Прасачыць гэтую нечаканасць так, каб яна перастала быць нечаканасцю—вось, на маю думку, задача, якая стаіць перад геніяльным пісьменнікам, які мае стварыць новы раман».

Рэволюцыйнае асвятленне падзей, соцыяльна-палітычная тэматыка, паказ прадстаўнікоў пануючых класаў з пункту гледжання прыгнечаных і прымусілі Шчэдрына, як мастака, прыбегнуць да зброі сатыры. Тыпы і сюжэты Шчэдрына выяўлялі заўсёды агульнае, а не прыватнае значэнне тэмы, якую ён распрацаваў. Як-бы ні быў разлічан маштаб ахопа рэчаіснасці ў творчасці Шчэдрына, яна заўсёды па-мастацку абагульняла грамадска-палітычны сэнс з'явішча, а не інтымна-асабістыя яго асаблівасці.

Мастацкі вобраз, які абагульняе толькі «хатні парадак» Сідорычаў, быў характэрны для дваранскай літаратуры, якая апіралася на акружаючы яе соцыяльна-палітычны лад, як на нешта дадзенае. Крытыка рэчаіснасці знутры, з боку «хатняга» цячэння спраў, была крытыкай толькі другарадных прыватнасцей ладу, выяўляла імкненне не да ажыццяўлення ідэала, а да «паляпшэння быту бяздзеліцы». «Калі бяздзеліца адыдзе на другі план,—здзекваўся Шчэдрын над літаратурай «з добрымі намерамі»,—аб чым будуць трактаваць раманісты? Што ні кажы, як ні прыкідвайся раманіст—публіцыстам і грамадзянінам, яму ніколі не схаваць, што сапраўдная балячка яго сэрца—гэта ўсё-такі паляпшэнне быта бяздзеліцы. Не будзе дзяўчын, якія томяцца пад засенню купчастых ліп, чакаючы кавалераў, не будзе дам, якія знемагаюць у дарэмнай барацьбе з адзюльтэрам, не будзе і рамана...»

У перапетыях любоўнага рамана Шчэдрын бачыў мнімы рух падзей, бо ён не выяўляў палітычнага і грамадскага сэнсу рэчаіснасці, бо ён апіраўся на палітычнае Status quo (існуючае становішча рэчаў).

Шчэдрын лічыў, што нават ненаўмыснае пранікненне ў мастацкае

апавяданне «палітычных і соцыяльных элементаў» робіць паслугу «сюбверсіўнай», гэта значыць рэволюцыйнай, прапагандзе. Натуральна, што ён сам, як мастак імкнуўся к завостранаму «палітычнаму і соцыяльнаму» вобразнаму паказу рэчаіснасці, не дазваляючы сабе зацямняць сутнасць адлюстраваных з'яў добранамеранай любоўнай тэматыкай. Гэта не значыць, што Шчэдрын наогул у сваёй творчасці не закранаў тэмы любві. Але Шчэдрын бязлітасна зрываў двудушнае рамантычна-прыгожае пакрывала, накінутае на каханне ў прыгонніцкім і капіталістычным грамадстве. Па-мастацку распрацоўваючы тэму кахання, выходзячы з прымата грамадскіх з'яў над уласна-індывідуальнымі, ён умеў праз любоўны сюжэт лішні раз паказаць усю дзікасць і безчалавечнасць уласніцка-паліцэйскага ладу. Шчэдрын высмейваў і чыста-псіхалагічны раман, як коўзанне па паверхні, як клопаты аб бяздзеліцы. «Раман можна з усяго зрабіць,—думае герой «Сучаснай ідыліі» Глумаў,—нават калі няма ў аўтара дадзеных для сапраўднага зместу. Возьмем чатырыпяць галоўных дзеючых асоб (стацкі саветнік, два ўбіенныя начальнікі, адзін начальнік караючы і экзекутар, ён-жа і казначэй), дадаў да іх у якасці другарадных асоб некалькі канцылярскіх чыноўнікаў, кур'ераў і вартаўнікоў; для любоўнага элемента ўвядзі парачку прасіцельніц, скампануй рад любоўных сцэн (паміж стацкім советнікам і начальнікам з аднаго боку, і начальствам і прасіцельніцамі з другога), дадай некалькі практыкаванняў у апавядальным духу, змачы ўсё гэта псіхалагічным аналізам, пастаў у лёгкі дух і чакай, пакуль зарумяніцца».

Умеючы праз кожны аб'ект сваёй сатыры пранікаць ва ўсеагульную сувязь з'яў і рабіць яе відавочнай для чытача, Шчэдрын паказаў усю глыбіню грамадскага зла, перажыўшага сябе прыгонніцтва і абсалютысцкага рэжыма.

З адмаўлення Шчэдрыным бытавога і псіхалагічнага рамана з любоўным сюжэтам не трэба рабіць вывада, што ён адмаўляў самую форму рамана, ці не разумеў значэння сюжэта, як маляўнічага сродка абагульнення ў мастацтве. Шчэдрын вельмі злаваў на папрокі, што нібыта яго творы маюць фельетонна-нарысны характар. Папрокі ў нарыснасці, у фельетоннасці мелі на мэце звычайна знізіць, а то і зусім звесці на нішто мастацкае значэнне самога Шчэдрына. Калі з падобнымі ацэнкамі ў сувязі са з'яўленнем «Сучаснай ідыліі» выступіў у «Вестнике Европы» Арсеньеў, Шчэдрын палічыў неабходным даць адказ, тым больш, што ён гэты артыкул прыпісваў Пыпіну. Ён напісаў Пыпіну пісьмо (1-га лістапада 1883 г.), якое мае вельмі вялікае значэнне для ацэнкі і «Сучаснай ідыліі» і сутнасці сатырычнага метада Шчэдрына. Шчэдрын пачынае пісьмо з падзякі за спачувальны водгук, «які асабліва мне дораг у гэты час, калі руская журналістыка лічыць за лепшае ўмоўчваць аб маіх кнігах». Тым не менш,—прадаўжае Шчэдрын, разбіваючы ліберальную аргументацыю Арсеньева,—лічу не лішнім даць некаторыя тлумачэнні па наступных двух пунктах. Па-першае «Сучасная ідылія» названа «зборнікам», але чаму—зусім не разумею. Гэта рэч зусім звязная, прасякнутая з пачатку да канца адною думкаю, якую пра-

водзяць адны і тыя-ж «героі». Рэч гэта мае і пачатак і канец, і калі заканчваецца не зусім звычайна выхадам на сцэну сораму, дык на маю думку, права гэта нікольکі не менш натуральнае, чым вырашэнне шляхам выхаду замуж ці ў манастыр. Калі стаць на пункт гледжання «Вестника Европы», дык і «Запіскі Піквікскага клуба», «Дон Кіхот», «Мёртвыя душы» давядзецца назваць «зборнікамі».

Па-другое, страшэнна крыўдны папрокі ў фельетоннасці і вадэвільнасці. Не па сутнасці крыўды, бо вадэвіль можа быць разумней за бабарыкінскую драму, а па звязанаму з гэтымі выразамі ўяўленню аб нікчэмнасці і лёгкадумнасці. Бурэнін, калі хоча ўразіць, заўсёды карыстаецца гэтымі выразамі. Тут, мусіць, змешваюцца фантастычнасць з вадэвільнасцю. Успомніце, што Рэдзедзя Сербію вызваляць хадзіў, усю Расію *ўзбаламуціў*—няўжо-ж гэта не трагедыя, а вадэвіль? Вазьміце XIV т. «Звода законаў» і параўнайце з «Статутам аб благанадзейнасці»—няўжо і гэта вадэвіль? Не магу я да такіх з'явішчаў адносіцца з «належнай сур'ёзнасцю», бо нічога, апрача пагарды, да іх адчуваць нельга ды і не належыць».

Шчэдрын быў пісьменнік скромны. Ён не зазнаваўся сваімі літаратурнымі заслугамі. Ён ведаў недахопы сваіх твораў і нярэдка аб іх гаварыў разумней за многіх ліберальных журналістаў, але ў той-жа час ён разумеў сваю ролю, сваё значэнне ў літаратуры. Спробу адвесці яму мейсца ў асяроддзі звычайных нарысістаў ці фельетаністаў Шчэдрын адводзіў без фанаберыстасці, але цвёрда і ўпэўнена. І тут-жа Шчэдрын каротка але яскрава тлумачыць, чаму Арсеньеў не праў у сваім дактрынёрстве. «Сучасная ідылія»— не зборнік нарысаў і вадэвіляў, а складаная сюжэтная рэч. Яе жанравыя асаблівасці не толькі цяжка вызначыць, але зусім немагчыма. Гэта сатыра, сатырычны раман. Арсеньеў гэтага не бачыць таму, што ён прывык да пануючай, самай распаўсюджанай формы рамана, у аснове якога ляжыць любоўная інтрыга. Звычайны раман заканчваецца альбо шлюбам, у выпадку шчаслівага кахання, альбо уходам у манастыр, у выпадку нешчаслівага кахання, як напрыклад «Дваранскае гняздо» Тургенева. Такі сюжэт для мэтаў Шчэдрына нягодны. Шчэдрын выводзіў на ўсеагульнае ганьбаванне не асобныя грамадскія недахопы, а цэлы лад палітычны і соцыяльны. Яму і патрэбен быў сюжэт не любоўны, а сурова соцыяльны. Сюжэт Шчэдрына прыводзіць да незвычайнай развязкі, да абуджэння пачуцця сораму. Але гэта незвычайнасць строга апраўдана—людзі рэакцыі ў сваім палітычным пасібіялізме страцілі пачуццё грамадзянскага сораму, дайшлі да бессаромнасці,—Шчэдрын імкнуўся абудзіць у іх пачуцці сораму, як сродку іх грамадзянскага абуджэння. Шчэдрын быў пісьменнікам арыгінальным, ён быў наватарам. Але і ён адчуваў літаратурны ўплыў, і ён апіраўся на пэўныя літаратурныя традыцыі, пра што забыў Арсеньеў у сваім літаратурным дактрынёрстве. Некаторыя з гэтых традыцый Шчэдрын напамінае свайму крытыку—гэта традыцыі «Дон Кіхота», «Піквікскага клуба» і, вядома, «Мёртвых душ».

Шчэдрын—мастак. Як кожны вялікі мастак, ён карыстаецца фантазіяй, як адным з самых магутных сродкаў мастацкага абагуль-

нення. Шчэдрын—сатырык. Элементы фантастычнага ў творах Шчэдрына вызначаюцца яго жанрам. Ён аналізіруе свой суб'ект, вызваляе яго ад жыццёва-прывычнай шкарупіны і шляхам пераўвелічэння выяўляе яго жудасную недарэчнасць. У руках Шчэдрына гэта быў упаўне законны, упаўне рэалістычны прыём. Арсеньеў гэтага не зразумеў. Шчэдрын фактамі доказваў яму сваю правату. Сатыра Шчэдрына адрознівалася ад кожнадзённых фельетонаў яшчэ і па свайму каларыту. Юмар Шчэдрына насіў трагічны характар. Шчэдрын ніколі за сваю доўгую літаратурную дзейнасць не зубаскаліў. Сурова абураючыся і злуючы, ён маляваў карціну пераджыўшага сябе палітычнага рэжыма і грамадскага парадка.

Задача пісьменніка—служэнне ідэалу, служэнне чалавецтву. Салтыкоў-Шчэдрын паўставаў супроць усіх кірункаў у літаратуры, якія аддаюць ідэал на забыццё. «Чыстае мастацтва» ён называў «матылькова-чыжыкавай» паэзіяй. Ён здзекваўся з ідэалістычных тэндэнцый чыстага мастацтва, ён ненавідзеў яго за рэакцыйнасць, за антынароднасць. Галоўным ворагам ідэйнага мастацтва для свайго часу Салтыкоў-Шчэдрын лічыў натуралізм. Яно так і было на справе. Пасля Гогаля і аж да канца стагоддзя ў рускай літаратуры панаваў рэалізм. Аднак рэалізм у пісьменнікаў, належачых да ліберальнага лагера, нават калі яны і мелі дараванне, лёгка выраджаўся ў натуралізм. Так было з Пісемскім, напрыклад, творчасці якога Салтыкоў-Шчэдрын даў суровы прыгавор.

Пісемскі меў агульна-прызнаную рэпутацыю рэаліста. Яго адносілі да гогалеўскай школы. Аднак,—указваў Шчэдрын,—падабенства паміж Пісемскім і Гогалем было чыста знешняе. Да Гогаля, як да роданачальніка новай рускай літаратуры, «воляю ці няволяю, далучаюцца ўсе пазнейшыя пісьменнікі, якое-б адценне не прадстаўлялі сабою іхныя творы». Пісемскі належыў да ліку тых пісьменнікаў, якія далучаліся да Гогаля толькі па знешняй манеры, а не па сутнасці. Найменне рэаліста, лічыў Шчэдрын, ужывалася ў адносінах да яго няправільна, таму што рэалізм не мае нічога агульнага з грубым, механічным спісаннем з натуры, як разуменне аб матэрыялізме не мае нічога агульнага з фізічнай сытасцю. Рэалізм па Шчэдрыну «даходзіць да таго інтымнага сэнсу, таго ўнутранага жыцця, якія адны толькі і могуць даць факту сапраўднае значэнне».

Рэалізм пранікае ў гісторыю факта і шукае тэндэнцый яго далейшага развіцця. Рэалізм ідэйны, натуралізм безыдэйны і зняважлівы для чалавека.

Заняпад грамадскіх настрояў у эпоху рэакцыі значна садзейнічаў папулярнасці натуралізма ў сярэдніх і ніжэйшых звеннях рускай літаратуры. Мода на натуралізм у рускай літаратуры ўзмацнялася ўздзейнічаннем Захаду, асабліва Францыі, дзе Заля тэарэтычна абгрунтаваў яго сваёй тэорыяй эксперыментальнага рамана. Шчэдрын лічыў Заля пісьменнікам «бясспрэчна таленавітым», але тэорыю яго—ілжывай і згубнай для мастацтва, а літаратурныя творы яго—яскравым доказам выраджэння французскай буржуазіі. У рэвалюцыйныя перыяды гісторыі Францыі ў яе літаратуры «панавала белетрыстыка ідэйная, гераічная. Яна запальвала сэрцы і

хвалявала розумы...» Жорж Занд, Віктор Гюго, нават Эжэн Сю чыталіся нарасхват, усюды распаўсюджваючы прапаганду ідэалаў будучага ў самай агульнадаступнай форме. «Нават у Бальзака,— пісаў Шчэдрын у духу вядомай ацэнкі Энгельса,—нягледзячы на яго соцыяльна-палітычны індэферэнтызм, мімаволі прасачвалася тэндэнцыйнасць, таму што ў той тэндэнцыйны час не толькі людзі, але і камені лемантавалі аб гераізме і ідэалах».

У часы Напалеона III і асабліва пасля Парыжскай Комуны безыдэйная абмежаванасць апанавала французскай літаратурай, якая стваралася для кожнадзённага буржуазнага ўжытку. Літаратура гэта абурала Шчэдрына, выклікала ў яго агіду і гнеў. «Памеры нашага рэалізма,—пісаў ён—крыху іншыя, чым у сучаснай школе французскіх рэалістаў (пад гэтым найменаваннем ён меў на ўвазе натуралістаў). Мы ўключаем у гэту галіну ўсяго чалавека з усёй рознастайнасцю яго вызначэнняў і рэчаіснасці; французы-ж галоўным чынам цікавяцца торсам чалавека і з усёй рознастайнасці яго паводзін з найбольшай стараннасцю спыняюцца на яго фізічнай праваздольнасці і на любоўных подвігах».

Натуралізм на словах адмаўляўся ад тэндэнцыйнасці, на справе-ж ён выконваў функцыі ідэалагічнага сцвярджэння панавання буржуазіі, якая згубіла апошнія рэшткі гераічнага мінулага і смяротна баялася будучага. Шчэдрын бічаваў сучаснае, але ўсёй істотай сваёй ён быў накіраван у будучае. Ён быў прыхільнікам тэндэнцыйнага мастацтва, для якога ісціна паказа рэчаіснасці арганічна звязана з ідэалам разняволення чалавецтва. «Здавалася-б,— пісаў ён,—што няма поваду ні для абурэння, ні для спачування, калі ўжо раз прызнана, што ва ўсякім палажэнні галоўным зодчым з'яўляецца гісторыя. Між тым мы не можам устрымацца, каб адных не абвінавачваць, а другіх не ставіць на п'едэстал, і адчуваць, што, робячы гэта, мы робім зусім разумна і законна».

Салтыкоў-Шчэдрын, як сатырык, рабіў аб'ектыўны суд і расправу над сучаснасцю і прапаведваў ідэалы будучага. Суд Шчэдрына апіраўся на інтарэсы большасці і адчуваў важныя тэндэнцыі гістарычнага развіцця. Тэндэнцыя ў Шчэдрына не толькі не супярэчыла рэалізму, а, наадварот, надавала рэалізму выключную сілу і перakанаўчасць.

Як мастак, Шчэдрын не паўтараў старых рэалістаў, у тым ліку нават Гогаля. Ён быў наватар, які дасягаў геніяльных вынікаў. Для сапраўдных знаўцаў мастацтва мастацкая дасканаласць творчасці Шчэдрына не выклікала ніякіх сумненняў. «У вас ёсць усё, што трэба,—пісаў яму Л. Н. Талстой,—сціслая, моцная, сапраўдная мова, характэрнасць, якая засталася ў вас адных, не юмар, а тое, што выклікае вясёлы смех і па зместу любоў і таму веданне сапраўдных інтарэсаў жыцця народа».

Непраціўленец Талстой не мог правільна ацаніць смех Шчэдрына. Творчасць вялікага сатырыка гарэла нянавісцю, але правы Талстой быў у тым, што нянавісць гэта была выклікана любоўю да народа, як і праў ён быў у ацэнцы вартасці Шчэдрына, як мастака.

Новыя, нетрадыцыйныя мастацкія шляхі, якімі ішоў Шчэдрын,

дадавалі да яго пісьменніцкага подвіга яшчэ асаблівыя цяжкасці чыста фармальнага парадку. Нягледзячы на гэтыя цяжкасці, Салтыкоў-Шчэдрын стварыў шэдэўры сусветнай сатырычнай літаратуры, тым больш здзіўляе скромнасць, з якой Салтыкоў-Шчэдрын расцэньваў сябе як пісьменніка. Больш за ўсё цаніў ён карысць, якую прыносілі яго творы справе грамадскай барацьбы. У якасці-ж мастака ён разглядаў сябе толькі як «збіральніка матэрыялаў» для будучага. Сёння няма ніякай патрэбы і даказваць, што Салтыкоў-Шчэдрын быў і застаецца не «збіральнікам матэрыялаў», а класічным пісьменнікам рускай і сусветнай літаратуры.

## II. Значэнне творчасці

Смерць Салтыкова-Шчэдрына выклікала ўсеагульны смутак... Усе сумленныя чытаючыя людзі аплаквалі апостала гуманізма, ворага самадзяржаўя, абаронца працоўных. Чэхаў пісаў: «Мне шкада Салтыкова. Гэта была моцная, сільная галава. Той сволачны дух, які жыве ў дробным, змашэннічаўшымся душэўна рускім інтэлігенце сярэдняга пашыбу, страціў у ім самага ўпартага і назольнага ворага». Усеагульнае спачуванне сатырыку і яго творам злавала казённы друк. Ахраніцельная прэса спрабавала ачарніць памяць Шчэдрына і зменшыць значэнне яго літаратурнай дзейнасці. Аднак-жа словы гэтай прэсы гучэлі нярэдка, як мімавольная пахвала. «Московские ведомости» адносілі памершага пісьменніка да легальных дзеячоў рускай рэволюцыі. «Ці не з твораў Шчэдрына,— пісаў рэнегат Л. Ціхаміраў,—усё больш выносіш тое фальшывае перакананне, нібы ўсё навокал нас дрэнна, гніла і неразумна? Ці не творамі Шчэдрына зачытвалася і зачытваецца, нажаль, значная частка нашай моладзі? Ці не на Шчэдрыну таму ляжыць цяжкая доля адказнасці за тых няшчасных юнакоў, якія аддадзены былі на з'яднанне рэволюцыйным тэорыям».

«Московские ведомости» і Леў Ціхаміраў не ведалі больш страшнага абвінавачвання, чым удзел у распаўсюджванні рэволюцыйных ідэй.

Вядома, чаму ўлада глядзела з баязлівасцю на ўсякае выражэнне спачування памёршаму пісьменніку. На зборы сродкаў для ўшанавання памяці Шчэдрына і на ўдзел у паніхідах па нябошчыку-пісьменніку яны рэагіравалі, як на рэволюцыйныя дэманстрацыі.

У выражэнні жалю аб страце вялікага пісьменніка прынялі ўдзел прадстаўнікі рабочых. Гэта было зусім новае з'явішча, якое выявілася ўпершыню на пахаванні Некрасава ў 1878 годзе. У ліку людзей, якія неслі труну паэта, былі і піцерскія пролетарыі. Глеб Успенскі ў 1887 годзе ў дні дваццаціпяцігадовага свайго юбілея атрымаў прывітальнае пісьмо ад пятнаццаці ўральскіх рабочых. Некаторыя з спачувальных тэлеграм і пісем, атрыманых удавой Салтыкова-Шчэдрына, былі падпісаны друкарамі і наборшчыкамі. А з Тыфліса на імя Е. А. Салтыковай прышоў адрас, напісаны групай рабочых, указаўшых у якасці свайго прадстаўніка рабочага С. Кузавова. «Смерць Міхаіла Еўграфавіча,—пісалі тыфліскія про-

летарыі,—засмуціла ўсіх шчыра жадаючых дабра і шчасця сваёй радзіме. У асобе яго Расія страціла лепшага, справядлівага і энергічнага работніка праўды і свабоды, змагара супроць зла, якое ён сваім моцным розумам і словам забіваў у самым корані. І мы, рабочыя, далучаемся да агульнага смутку аб вялікім чалавеку... За яго любоў да нас і да ўсяго чэснага і справядлівага, мы пасылаем яму сваё спачувальнае, развітальнае слова, і як чалавека з благароднай любячай душой, друга прыгнечаных, змагара за свабоду, праважаем глыбокім смуткам. Не пачуць нам больш яго добрага, смелага слова, але дух яго заўсёды будзе жыць паміж намі ў яго бессмяротных апавяданнях: будзе ўзнімаць нас на добрую агульную справу, на барацьбу супроць зла, прыгнёту і на пошукі праўды і святла. І на магіле вялікага роднага пісьменніка, у вянку славы, пастаўленым патомствам, будзе і наша кветка, няхай бачаць і ведаюць, што мы, рабочыя, любілі і цанілі яго».

Водгукі рабочых на смерць сатырыка былі сімптомам глыбокіх змяненняў, што адбыліся ў народным жыцці. Гэта было адной з праяў абуджэння рабочага класа, які складваўся ў самастойную палітычную і культурную сілу. Расійскі рабочы клас, з першых-жа сваіх самастойных крокаў, выступаў, як абаронца чэсці і годнасці пераважнай большасці рускага народа. Для правіцеляў і пануючага класа царскай Расіі Шчэдрын, як і Некрасаў, як і Успенскі, не былі сапраўднымі пісьменнікамі. Лібералы прызнавалі значэнне Шчэдрына, таксама, як і Некрасава і Успенскага, нехаця; у іх пахвалах заўсёды заключалася затоенае неўхваленне. Першыя-ж рабочыя чытачы змаглі ацаніць Шчэдрына ўпаўне па годнасці, як вялікага рускага пісьменніка. Рабочы клас з самага пачатку сваёй гісторыі выступаў як наследнік скарбніцы нацыянальнай культуры і як творац новых яе каштоўнасцей.

Тыфліскія рабочыя пісалі, што творчасць Салтыкова-Шчэдрына ўзнімала іх на барацьбу. Творы Салтыкова-Шчэдрына сапраўды аблягчалі выспяванне самастойнага палітычнага мышлення расійскага пролетарыята. Яны не толькі заклікалі на барацьбу з самадзяржаўем, але і абуджалі крытычныя адносіны да народніцтва, аблягчалі тым самым засваенне марксізма. М. С. Ольмінскі расказваў, што Шчэдрын прымусіў яго «задумацца як народавольца» і дапамог яго эволюцыі рэволюцыйнага дэмакрата. Асабліва моцны след на яго светапоглядзе пакінула чытанне «Дробязяў жыцця» з іх крытыкай абшчыны і гаспадарлівага мужычка. Ленін, пачынаючы з першых-жа сваіх баявых выступленняў супроць народніцтва, нязменна карыстаўся творамі Салтыкова-Шчэдрына, як надзвычай добрым дапаможнікам палемікі. Рэалізм, мастацкая праўда Шчэдрына ў палітычнай барацьбе тых год пацвярджалі правату марксізма, хоць сам ён не быў марксістам. У 1912 годзе Ленін вельмі адмоўна выказаўся аб артыкулу Ольмінскага «Культурныя людзі і нячыстае сумленне», у якім былі трапна выкарыстаны шчэдрынскія вобразы. «Добра-б наогул час ад часу ўспамінаць,—пісаў ён у сувязі з ім у рэдакцыю «Праўды»,—цытыраваць і растлумачваць у «Праўде» Шчэдрына і іншых пісьменнікаў «старой»

народніцкай дэмакратыі». (т. XXIX ст. 74—75). Пад «старой» народніцкай дэмакратыяй, у адрозненне ад народнікаў сямідзесятых і пазнейшых гадоў, Ленін падразумяваў рэволюцыйных асветнікаў,—такіх як Белінскі і Герцэн, Чэрнышэўскі і Дабралюбаў, якіх ён лічыў папярэднікамі расійскай соцыял-дэмакратыі. Вучэнне рэволюцыйных асветнікаў, дэмакратаў і ўтапічных соцыялістаў было глебай, на якой вырасла і развілася ідэалогія Шчэдрына, як мастака і грамадскага дзеяча. Вернасць традыцыям сваіх настаўнікаў засцерагла яго ад ідэйнага і палітычнага ўплыву народнікаў, якія ўпарта закрывалі вочы на факты і сустрэлі марксізм у штыкі. Шчэдрын быў непрымірымым ворагам і кансерватараў і лібералаў. Разам з Некрасавым, а пасля смерці Некрасава адзін, ён працягваў лінію Чэрнышэўскага. «Яшчэ Некрасаў і Салтыкоў,—пісаў Ленін у артыкуле «Памяці графа Гейдэна»,—вучылі рускае грамадства адрозніваць пад прыглажанай і напамажанай знешнасцю адукаванасці прыгонніка-памешчыка, яго драпежныя інтарэсы, вучылі ненавідзець двудушнасць і бяздушнасць падобных тыпаў» (т. XII, стар. 9).

Леніна абуралі спробы лібералаў схавацца за аўтарытэт Шчэдрына. Не з лібераламі, а з Чэрнышэўскім, рэволюцыянерам і ворагам лібералаў,—было звязана імя сатырыка, як і імя Некрасава. «Асабліва нясцерпна бывае бачыць,—пісаў Ленін у артыкуле «Яшчэ адзін паход на дэмакратыю»,—калі суб'екты накшталт Шчэпетава, Струве, Грэдэскула, Ізгоева і іншай кадэцкай брацііі, хапаюцца за фалды Некрасава, Шчэдрына, і да т. п. Некрасаў вагаўся, будучы асабіста слабым, паміж Чэрнышэўскім і лібераламі, але ўсе сімпатыі яго былі на баку Чэрнышэўскага... А Шчэдрын бязлітасна здзекваўся з лібералаў і назаўсёды заганьбаваў іх формулай «прыстасоўна да подласці» (т. XVI, стар. 132).

Усе сімпатыі Некрасава былі на баку Чэрнышэўскага—гэта значыць, што ўсе сімпатыі яго былі на баку сялянскай рэволюцыі. Гэтак сама і ўсе сімпатыі Шчэдрына былі на баку тых, хто заклікаў да рашучай расправы над царызмам. Таму ён і змог так правільна і бязлітасна асудзіць лібералаў.

Салтыкоў-Шчэдрын—вялікі пісьменнік. Творчасць яго займае вялікае мейсца ў гісторыі рускай літаратуры і сусветнай сатыры. Творы Салтыкова-Шчэдрына—надзвычай добры падручнік пры вывучэнні гісторыі дзевятнаццатага стагоддзя ў Расіі. Творчасць вялікага сатырыка мае, аднак, не толькі пазнавальнае значэнне. Яна да гэтага часу ўладае надзвычай добрай дзейнічаючай ачышчальнай сілай, якая дапамагае нашай сённяшней барацьбе за комунізм.

У трэцяй пяцігодцы СССР уступіў, «у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, калі рашаючае значэнне набывае справа комуністычнага выхавання працоўных, перамаганне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей—будаўнікоў комунізма». (Тэзісы даклада тав. Молатава на XVIII з'ездзе ВКП(б).

Праграма стварэння комуністычнага ладу патрабуе барацьбы з уласніцкімі перажыткамі ў свядомасці людзей. Салтыкоў-Шчэдрын вёў упартую барацьбу з эгаістычнай заскарузласцю, са шкурным

самазахаваннем, з безыдэйнасцю. Ён ненавідзеў уласніцкую абмежаванасць, ён развіваў у сваіх чытачоў разуменне агульных інтарэсаў і вучыў іх узаемнай падтрымцы супроць абнаглеўшых сіл рэакцыі. Шчэдрын называў «дробязямі жыцця» звычайную мараль уласніцкага свету, закон, які фармуліруецца словамі: «Кожны за сябе, адзін бог за ўсіх». Рэвалюцыйная барацьба за знішчэнне эксплаатацыі і палітычную свабоду разрывала ліпкае павуцінне ўдушаючых дробязей, выратоўвала годнасць чалавечай асобы, выводзіла яе на свежае паветра калектыўных інтарэсаў і рэвалюцыйных перспектыў. Сацыялістычная рэвалюцыя, калектывізацыя сельскай гаспадаркі, перамога соцыялізма ў СССР падарвалі самыя корні дробязей жыцця. Воўчая мараль уласнікаў разбіта нагалаву, ёй на змену прышла новая—комуністычная мараль, мэта якой—трыумф соцыялізма ва ўсім свеце.

Разуменне вялічэзнасці гістарычных пераваротаў, якія адбыліся з таго часу, як пісаў Салтыкоў-Шчэдрын, не павінна нас, аднак, прыводзіць да мыслі, што ўлада «дробязей жыцця» падае аўтаматычна, самацёкам. Гэта не так. З часу Кастрычніцкай рэволюцыі мінула два дзесяцігоддзі, ва ўласніцкіх нечыстотах чалавецтва жыло тысячагоддзі. Ва ўмовах соцыялізма чалавецтва жыве толькі на адной шостай частцы зямнога шара, на большай частцы нашай планеты пануе яшчэ капіталізм і яго ідэалогія.

Дробязі ўласніцкага жыцця і з падарванымі карэннямі могуць жыць доўга ў псіхалогіі і свядомасці людзей. Масы ўзняліся, чалавек змяніўся, але гэта не выключае існавання радзімых плямаў цяжкага мінулага. Ці-ж мы не бачым да гэтага часу выпадкаў, калі побач з надзвычай добрымі прыкладамі працы соцыялістычных работнікаў, інтарэсы справы замяняюцца часам мізэрнымі інтарэсамі? Хіба не ведаем мы выпадкаў фармалізма, чванства, сямейственасці, склокі, падхалімства, кар'ерызма, абмана соцыялістычнай дзяржавы? А гэта-ж усё пережыткі тых самых дробязей жыцця, якія ненавідзеў і праследваў Шчэдрын.

Падуладнасць чалавека рэчам у быту, сямейныя, сваяцкія, суседскія звадкі, няўвага да дзяцей душэўная скарэднасць, адсутнасць чалавечай годнасці, незалежнасці і раўнапраўя ў паводзінах,—кожнае з гэтых з'явішчаў само па сабе дробязі, але гэтыя дробязі перашкаджаюць росту людзей, ствараюць перашкоды ў агульнай соцыялістычнай рабоце.

Усюды, дзе мы бачым раўнадушнасць да агульнай соцыялістычнай справы, крохаборніцкую бесперспектыўнасць, адсутнасць арыентыроўкі на масы, мы маем справу з дробязямі жыцця, з перажыткамі мінулага.

У барацьбе з перажыткамі капіталістычнай свядомасці літаратурная спадчына Шчэдрына можа і павінна адыграць вялікую ролю. Сатыра Шчэдрына ўладае яшчэ і сёння вялічэзнай ачышчальнай сілай. Збіраючы ў адзіны фокус разрозненыя рысы ўласніцкага свінства, Шчэдрын умее паказаць цёмныя сілы мінулага з такой яркай сілай, што выклікае нянавісць нават да іх рэштак, што выклікае сорам за іх праяўленне ў нашай краіне. Такая нянавісць і такі

сорам з'яўляюцца добрым памочнікам у соцыялістычнай творчасці рабочага класа.

Раўнадушнасць да агульнай соцыялістычнай справы і ігнарыраванне мас выяўляецца вельмі ярка ў бюракратычным фармалізме. Бюракратызм нярэдка з'яўляецца знадворным выражэннем дзейнасці прытоеных ворагаў. Бюракраты тармозяць творчую ініцыятыву мас, бюракраты не даюць выкарыстаць каласальных рэзерваў, якія ёсць у нетрах нашага ладу. Бюракратызм—небяспека, якую ні ў якім разе нельга выпускаць з-пад увагі ва ўсіх галінах нашай работы.

Бюракрат шкодзіць справе і ў прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы, ён становіцца ўпоперак дарогі і ў культурным будаўніцтве. Бюракрат не церпіць праверкі выканання—ён усё зводзіць да канцылярскай перапіскі. Бюракраты—гэта не толькі старыя чыноўнікі, якія там-сям сядзяць яшчэ да гэтага часу і працуюць па-чыноўніцку. Існуюць бюракраты і новыя савецкія, сярод якіх ёсць і камуністы, «якія канцылярскімі распараджэннямі і «дэкрэтамі», у сілу якіх яны вераць, як у фетыш, імкнуцца падмяніць творчую ініцыятыву і самадзейнасць мільённых мас рабочага класа і сялянства». (Сталін, «Пытанні ленінізма», стар. 401).

Партыя і ўрад вядуць бязлітасную барацьбу з бюракратамі і бюракратычнымі метадамі кіраўніцтва.

Творчасць Салтыкова-Шчэдрына з'яўляецца да гэтага часу надзвычай добрай зброяй супроць бюракратызма. Яго сатырычныя тыпы дапамагаюць разаблачаць і высмейваць і савецкіх бюракратаў. «Бюракраты,—пісаў Шчэдрын у «Пісьмах аб правінцыі»—кожную агульную справу звязваюць з сваімі асабістымі інтарэсамі і ўсюды бачаць пасяганне на іх уладу». Хіба і савецкія бюракраты не бачаць у кантролі мас, у кантролі партыі пасягання на іх кампетэнцыю, на іх уладу. Хіба і яны нячэсным і злачынным спосабам не злоўжываюць сваім службовым становішчам для асабістай карысці. «Яшчэ на вачах у начальства,—пісаў Шчэдрын аб бюракратыі,—яна і туды і сюды, але як толькі начальства за дзверы, яна адразу-ж язык высуне, і сама з сябе смяецца». Бюракрат—гэта не няўмелы, не нявопытны работнік, а нядобрасумленны і часта злачынны чалавек, які ведае, што парушае законы савецкай дзяржавы і абманвае масы. Партыя ў барацьбе з бюракратызмам часта звярталася за дапамогай да шчэдрынскіх вобразаў. Таварыш Сталін параўноўваў савецкага бюракрата з шчэдрынскім пампадурам. У прамове «Аб задачах гаспадарнікаў» ён параўноўваў папяровае кіраўніцтва, якое сустракаецца яшчэ і ў нашых установах, з помпадурскай дзяржаўнай мудрасцю. «У нас нярэдка думаюць,—гаварыў таварыш Сталін,—што кіраваць—гэта значыць падпісваць паперы. Гэта сумна, але гэта факт. Часам міжвольна ўспамінаеш пампадураў Шчэдрына. Памятаеце, як пампадурша павучала маладога пампадура: не ламай галаву над навукай, не ўдумвайся ў справу, няхай другія займаюцца гэтым, не твая гэта справа,—твая справа кіраваць, падпісваць паперы. Трэба прызнаць, нам на сорам, што і сярод нас, бальшэві-

коў, ёсць не мала такіх, якія кіруюць шляхам падпісвання папер». (Пытанні ленінізма, стар. 443).

Тав. Л. Кагановіч, выкрываючы на XVII партыйным з'ездзе сутнасць бюракратычных скажэнняў кіраўніцтва, успомніў стацкіх саветнікаў з «Стракатых пісьмаў» Сямёна Міхайлавіча Неаслабнага, Пятра Самойлавіча Прэлестнікава і Нікадзіма Лукіча Перадрагіна, з якіх першы загадваў аддзяленнем завязвання вузлоў, а другі—аддзяленнем развязвання іх. «Сумеснае існаванне абодвух аддзяленняў,—цытыраваў тав. Кагановіч,—уяўлялася надзвычай карысным, таму што як толькі, бывала, Сямён Міхайлавіч завяжа вузялок, дык Пётр Самойлавіч зараз яго развяжа *(гамерычны рогат)*, а потым Сямён Міхайлавіч зноў завяжа, а Пётр Самойлавіч зноў развяжа. А пакуль яны рабілі сваю справу, Нікадзім Лукіч пахаджваў і адзначаў: вузел першы, вузел другі і т. д. *(смех)*. І калі адзнакаў збіралася дастаткова, дык з іх складалася статыстыка вузлоў, колькі іх завязана *(смех)* і колькі развязана. А для чаго—невядома. *(Выбух смеху, апладысменты)*. У заключэнне-ж падводзіўся баланс: прыбытак з выдаткам верны, і ў касе нічога... *(Выбух смеху, апладысменты)*. Усе ўтрох жылі душа ў душу, і ўсе ўтрох былі шчаслівыя і павышэння варты *(смех)* у гэтым чароўным свеце...»

Шчэдрынскія вобразы дапамагаюць вызначыць тыповыя асаблівасці і совецкіх бюракратаў. Параўнанне з імі выклікае гамерычны—выкрываючы і знішчаючы смех. Творы Шчэдрына з'яўляюцца важным дапаможнікам у барацьбе з бюракратызмам па сёнешні дзень.

Шчэдрын ненавідзеў здраднікаў. Самыя злыя словы, самыя бязлітасныя праклёны накіраваны ім па адрасу рэнегатаў і здраднікаў.

Здрадніцтва—улюбёны сродак гаспадароў уласніцкага свету для таго, каб разлажыць і падарваць рэволюцыйны рух знутры. Чым мацней робяцца пазіцыі соцыялізма, чым выразней робіцца асуджанасць капіталізма, тым з большай сударгавасцю хапаюцца ворагі рабочага класа за атручаную зброю здрадніцтва. Шпіянаж і шкодніцтва аб'ядналі фашысцкіх контр-разведчыкаў з троцкісцка-бухарынскімі бандытамі. Мастацкія вобразы Шчэдрына да гэтага часу дапамагаюць выводзіць на свежую воду прытоеных здраднікаў. У той час, як большэвікі падрыхтоўвалі надыходзячую перамогу рэволюцыі, вялі барацьбу на два франты—супроць меншавікоў, і супроць адзавістаў, Троцкі падтрымліваў ліквідатараў і ствараў рэнегацкі жнівеньскі блок. «Іменна ў гэтыя годы Ленін назваў яго «Іудушкай Троцкім» («Гісторыя ВКП(б)»—131 стар.) Далейшая гісторыя паказала, што «Іудушка» несправімы, што ён стаў цэнтрам прыцяжэння другіх «іудушак». У адрозненне ад ворагаў, якія дзейнічаюць адкрыта, Іудушкі прыкрываюцца елейна-фарысейскімі словамі адданасці соцыялізму і працоўным. Прадаючы радзіму, яны робяць выгляд, што клапоцяцца аб лёсе бацькаўшчыны. У артыкуле «Аб узыходжанні на высокія горы» Ленін так вызначыў розніцу паміж метадамі адкрытых ворагаў і метадамі здраднікаў. «Адны злараднічаюць адкрыта, нацкоўваюць, крычаць: зараз сарвецца, так яму і трэба, не вар'яцей! Другія стараюцца схаваць сваю зларад-

насць, дзейнічаючы пераважна па ўзору Іудушкі Галаўлёва; яны смуткуюць узводзячы вочы горэ. Нажаль, наша непакойства апраўдваецца... калі мы так горача асуджалі вар'ята і перасцерагалі ад наследвання і дапамогі яму, то мы рабілі гэта выключна з любві да вялікага плана ўзыходжання на даную гару, каб не скампраметаваць гэты вялікі план наогул». (т. XXVII, стар. 198).

Пакорлівы выгляд такіх смуткуючых іудушак прымалі і трацкісцка-бухарынскія здраднікі, крытыкуючы ленінска-сталінскі план будаўніцтва соцыялізма. На справе яны смуткавалі аб немінучай пагібелі капіталізма, абманную маску яны надзелі па прамой указцы сваіх фашысцкіх гаспадароў. Яны—адзін з відаў «складных душ», якія ненавідзеў Шчэдрын. Нянавісць вялікага сатырыка ўладае дзейснай сілай і ў вялікай барацьбе сучаснасці. Яна ганьбуе здраднікаў, якія здраджваюць соцыялізму ў схватцы, што вырашае лёс чалавецтва.

Творы Салтыкова-Шчэдрына з'яўляюцца вельмі добрай зброяй і супроць сучаснага фашызма. Пры жыцці Салтыкова-Шчэдрына не было фашызма. Фашызм—спецыфічны прадукт фінансавага капітала, імперыялістычнай буржуазіі пасляваеннай эпохі. Злучаючы ў абагуленую карціну з'явішчы сучаснай яму рэакцыі, Салтыкоў-Шчэдрын стварыў тыпалогію, якая шмат у чым папярэджвае тыпалогію фашызма. Сучасная Шчэдрыну рэакцыя арудвала, ігнарыруючы законы гісторыі і прыроды, наперакор навуцы і здароваму сэнсу. Рэакцыя была антынародная, угрунтавана на гвалце, самавольстве, казарменнай нівеліроўцы і задушэнні чалавечай мыслі. Яна мела на мэце павялічыць эксплаатацыю, выціснуць з працоўных усё, што толькі магчыма і нават больш магчымага. Рэакцыя вяла раз'юшаную нацыяналістычную дэмагогію. Салтыкоў-Шчэдрын паказваў тыпы рэакцыі ў чыстым выглядзе, ён даводзіў іх да «матэматычнай» грані. Шчэдрын, дабіваючыся выпукласці і выразнасці паказу, папярэджваў іх будучае. Гэта быў строгі, законамерны і рэалістычны метад, які даў сатырыку магчымасць паказаць цэлую галерэю тыпаў рэакцыі і прыёмы іх дзейнасці. Соцыяльная і палітычная прырода фашызма іншая, чым прырода рускага царызма, але прыёмы яго—толькі ў шмат разоў павялічаныя і абвостраныя прыёмы ўсякага антынароднага рэжыма. Таму шмат што ў дзейнасці тыпалогіі фашызма поўнасцю супала з рэзка акрэсленым малюнкам вялікага сатырыка. Вельмі часта сучасныя фашысты нават перавышаюць сатырычную фантазію Шчэдрына.

Шчэдрынскі Угрум-Бурчэеў—увасабленне самавольства і ўвасабленне бесчалавечнасці. Яго ідэал—казарма, яго сістэма—недавер'е і гвалт у адносінах да кожнага чалавека. Учынкі фашызма здаюцца спісанымі з хмурнай фантастычнай карціны, створанай Шчэдрыным. Часам здаецца, што евангеллем фашызма з'яўляюцца старонкі з «Гісторыі аднаго горада», прынятыя ўсур'ёз, як адкравенне, як кіраўніцтва да дзеяння. Фашысты кожны жылы дом разглядаюць, як аб'ект назірання шпіянажа. Кожны жыхар-фашыст абавязан сачыць за суседзямі і даносіць на іх. «Усякі дом ёсць ні што іншае, як пасялёная адзінка, якая мае свайго камандзіра і

свайго шпіёна...» Правіла гэта дакладна адлюстроўвае парадак жыцця ў фашысцкіх гарадах і вёсках, а сфармуліравана яно Шчэдрыным раней фашысцкіх статутаў.

Фашысты ператварылі працу ў пракляцце. Праца ў падуладных ім краінах непасільна цяжкая, не пакідае чалавеку ні гадзіны для сябе і па-казарменнаму рэгламентыравана. Працоўная павіннасць і працоўныя лагеры фашызма нагадваюць катаргу. Гітлер як-бы задаўся мэтай увасобіць у жыццё ідыётычную рэгламентацыю Угрум-Бурчэева: «Пасля прыняцця стравы (людзі) выстрайваюцца на плошчы ў карэ, і адтуль пад прэдвадзіцельствам камандзіраў, па-ўзводна разводзяцца на грамадскія работы. Работы праводзяцца па камандзе. Абывавалі разам нагінаюцца і распраствоюцца, блішчаць лязы кос, узмахваюць граблі, стучаць лапаты, сохі бараздзяць зямлю,—усё па камандзе. Зямлю аруць, стараючыся вырысоўваць сохамі вензелі, якія выяўляюць пачальныя літары імёнаў тых гістарычных дзеячоў, якія найбольш праславіліся няўхільнасцю. Ля кожнага рабочага ўзвода мерным шагам ходзіць салдат са стрэльбай, і праз кожныя пяць мінут страляе ў сонца».

Гэта цытата з Шчэдрына і ў той-жа час амаль не ўтрыраванае апісанне працы ў фашысцкай Германіі, якая суправаджаецца славаслоўямі ў гонар фюрэра і заўсёднымі пагрозамі ўзброеных галаварэзаў. Фашысты, як вядома, вызначаюцца вялікай прыстраснасцю да парадпасцяў і шэстваў. Іх святы суправаджаюцца ўзмоцненай маршыроўкай. У Шчэдрына сказана: «ад будняў гэтыя святы адрозніваюцца толькі ўзмоцненымі практыкаваннямі ў маршыроўцы». Фашызм адкрыта заяўляе, што вышэйшая дабрадзейнасць чалавека—салдацкая дысцыпліна і што ідэал будучага—вайна. Фашысты ператварылі ўжо некалькі багатых і асвечаных у мінулым краін у казармы. Яны выхваляюцца, што ўвесь свет ператвораць у казарму. «Гэтыя пасялёныя адзінкі, гэтыя ўзводы, роты, палкі,—прадбачыў сатырык думкі сучасных чалавеканенавіснікаў,—усё гэта, узятае разам, ці не намякае на нейкую прамяністую даль, якая пакуль што яшчэ зацягнута туманам, але з часам, калі туманы рассеюцца і калі даль адкрыецца... Што-ж гэта, аднак, за даль? што хавае яна?

— Ка-за-р-рмы!—зусім выразна падказвала ўзбуджанае да гераізма ўяўленне».

Расавы брэд фашызма ўрываецца ў самыя інтымныя чалавечыя прывязанасці. Фашысты разлучаюць жаніхоў і нявест, абвяшчаюць несапраўднымі шлюбы, гвалтоўна вызначаюць узаемаадносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Расавы брэд сучасных Угрум-Бурчэевых супадае з вар'яцкай рэгламентацыяй шчэдрынскага Угрум-Бурчэева: «Жанчыны маюць права раджаць дзяцей толькі зімой... Саюзы між маладымі людзьмі наладжваюцца не інакш, як згодна росту і складу цела, бо гэта задавольвае патрэбнасці правільнага і прыгожага фронта». Шчэдрын нават прадбачыў племянных маладых людзей, адборам якіх так зацікаўлены сучасныя фашысцкія ідэолагі і правіцелі. Шчэдрынскі Федот Архімедаў прапаведваў: «таму, што састаў і ўласцівасці будучых пакаленняў знаходзяцца ў блізкай залежнасці ад саставу і ўласцівасцей цяпер дзейнічаючага маладога пакалення,

то каб удасканаліць першае, неабходна зрабіць у апошнім такі падбор людзей, які даваў-бы бясспрэчную заруку ў сэнсе добранадзейнасці. Ні гаворачы мовай навукі, неабходна, поруч з іншымі ўзнікшымі ў апошні час інстытутамі, стварыць яшчэ інстытут племянных маладых людзей».

«Ідэі» і сама фігура Архімедава выклікалі выгук «бязглуздзіца», але то было ў часы Шчэдрына. У сучаснай Германіі і сучаснай Італіі гэта бязглуздзіца слова ў слова супадае з афіцыйнай навукай і афіцыйнай праграмай дзяржаўнай дзейнасці, а сам Федот Архімедаў быў-бы прызнаны мужам навукі і кіраўніцтва.

Сатыра Шчэдрына паварачваецца сёння сваім вастрыём супроць фашысцкага чалавеканенавісніцкага брэда. Ці-ж можна сабе ўявіць больш здзіўляючую карціну—сатыру, увасобленую ў рэальнай дзяржаўнай практыцы? Сатыра, якая выклікала з боку ворагаў Шчэдрына заўсёдныя абвінавачванні ў пераўвелічэннях, утрыроўцы, шаржы, выглядае, як першакрыніца праграмы і практыкі сусветнага фашызма. Гэта вельмі красамоўны доказ канца, вычарпанасці сусветнага капіталізма.

Калі Совецкі Саюз усенародна абмяркоўваў праект новай Канстытуцыі, германскі фашысцкі афіцыёз паспрабаваў яго дыскрэдытыраваць, абвясціўшы, што ён не мае ніякай цікавасці, бо СССР, моў, не дзяржава, а «геаграфічнае паняцце». Таварыш Сталін, каб паказаць бяссэнсную тупасць фашысцкіх самадураў і непераможную сілу новага совецкага жыцця, выкарыстаў у сваім дакладзе Шчэдрынскі вобраз заўзятага начальніка.

«У адным з сваіх казак-апавяданняў,—гаварыў таварыш Сталін,—вялікі рускі пісьменнік Шчэдрын дае тып бюракрата-самадура, вельмі абмежаванага і тупога, але да крайнасці самаўпэўненага і заўзятага. Пасля таго, як гэты бюракрат навёў ва «ўверанай» яму вобласці «парадак і цішыню», знішчыўшы тысячы жыхароў і спаліўшы дзесяткі гарадоў, ён глянуў навакол і заўважыў на гарызонце Амерыку, краіну, зразумела, малавядомую, дзе ёсць, аказваецца, нейкія свабоды, якія муцяць народ, і дзе дзяржавай кіруюць іншымі метадамі. Бюракрат заўважыў Амерыку і абурыўся: што гэта за краіна, адкуль яна ўзялася, на якой такой падставе яна існуе? *(Агульны смех, апладысменты)*. Вядома, яе выпадкова адкрылі некалькі вякоў таму назад, але хіба нельга яе зноў закрыць, каб духу яе не было зусім? *(Агульны смех)*. І сказаўшы гэта, налажыў рэзалюцыю: «Закрыць зноў Амерыку» *(агульны смех)*. Мне здаецца, што паны з «Дэйтшэ Дыпламатыш-Палітышэ Карэспандэнц» як дзве кроплі вады падобны на шчэдрынскага бюракрата. *(Агульны смех, апладысменты, адабрэнне)*. Гэтым панам СССР даўно ўжо намазоліў вочы. Дзевятнаццаць год стаіць СССР як маяк, заражаючы духам вызвалення рабочы клас усяго свету і выклікаючы шалёнства ў ворагаў рабочага класа. І ён, СССР, аказваецца, не толькі проста існуе, але нават расце, і не толькі расце, але нават прэўспявае, і не толькі прэўспявае, але нават стварае праект новай Канстытуцыі, праект, які ўзбуджае розумы, усяляе новыя надзеі прыгнечаным класам. *(Апладысменты)*. Як-жа пасля гэтага не абу-

рацца панам з германскага афіцыёза? Што гэта за краіна, лемантуюць яны, на якой такой падставе яна існуе *(агульны смех)*, і калі яе адкрылі ў кастрычніку 1917 года, то чаму нельга яе, зноў закрыць, каб духу яе не было зусім? І сказаўшы гэта, пастанавілі: закрыць зноў СССР, аб'явіць каб усе пачулі, што СССР, як дзяржава, не існуе, што СССР ёсць не што іншае, як простае геаграфічнае паняцце! *(Агульны смех)*.

Кладучы рэзалюцыю аб тым, каб закрыць зноў Амерыку, шчэдрынскі бюракрат, нягледзячы на ўсю сваю тупасць, усё-ж знайшоў у сабе элементы разумення рэальнага, сказаўшы тут-жа сам сабе: «Але, здаецца, сіе ад мяне не залежыць» *(выбух вясёлага смеху, бурныя апладысменты)*. Я не ведаю, ці хопіць розуму ў паноў з германскага афіцыёза здагадацца, што «закрыць» на паперы тую ці іншую дзяржаву яны, вядома, могуць, але калі гаварыць сур'ёзна, то «сіе ад іх не залежыць»... *(Выбух вясёлага смеху, бурныя апладысменты)*.

Казка Шчэдрына аб заўзятым начальніку адыграла ролю істотнага дапаможніка ў крытыцы таварышам Сталіным фашысцкіх выпадаў супроць Канстытуцыі СССР. Казка выклікала гамерычны смех з'езда Советаў. Разам са з'ездам смяялася ўся краіна, увесь свет. Усе ўбачылі, што сучасныя фашысты вельмі падобны на шчэдрынскіх ідыётычна-тупых заўзятых начальнікаў.

Усе ўбачылі, што, як-бы ні палалі злосцю заўзятыя начальнікі— ім не асіліць СССР, не асіліць дэмакратыі і соцыялізма, аплотам якіх з'яўляецца Совецкі Саюз. Казка Шчэдрына ў дакладзе таварыша Сталіна сведчыла аб тым, што, колькі-б ні стараліся фашысты павярнуць гісторыю назад,—гэта ім не ўдасца, як не ўдалося заўзятаму начальніку закрыць Амерыку. Звар'яцеўшая тупасць можа праліць многа крыві, можа прынесці многа шкоды, але яе ярасць— ярасць бяссілля.

Жыццё непераможна, народ вечны і незнішчальны, праўда і справядлівасць пераможа ва ўсім свеце.

Такая ўся творчасць Шчэдрына. Яна выкрывае звар'яцеласць, тупасць, лютасць асуджаных пануючых класаў. Яна сцвярджае сілу, жыццёвасць і немінучасць перамогі ідэалаў дэмакратыі і соцыялізма.

---

*Ю. Дворкіна*

# МАКСІМ ГОРКІ І ЗАХОДНЯЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

Славуты французскі пісьменнік-рэвалюцыянер Анры Барбюс, вітаючы А. М. Горкага ў дзень яго 70-годдзя, пісаў: «У наш час Горкі—вялікі светач, які адкрывае новыя шляхі ўсяму свету». І сапраўды, значэнне Горкага невымерна вялікае, не толькі таму, што ён быў выдатным мастаком, які выразіў ідэі і імкненні рускага рэвалюцыйнага пралетарыята. Яго значэнне каласальна і таму, што ў асобе Горкага выступаў актыўны антыфашысцкі змагар, які зрабіў вялікі ўплыў на сусветную гуманістычную інтэлігенцыю, энергічны арганізатар згуртавання сусветнай дэмакратычнай інтэлігенцыі ў адзіны, народны антыфашысцкі фронт.

Руская літаратура на Захадзе стала вядомай толькі к канцу XIX стагоддзя. Пачатак гэтай вядомасці паклаў Тургенеў, які быў цесна звязан з гуртком Жорж Занд, затым з гуртком натуралістаў—Флаберам, Ганкурамі, Додэ, Мапасанам і Заля. У той час на Захадзе яшчэ мала ведалі аб Расіі. Так, Заля лічыў Тургенева вялікім аўтарытэтам па пытаннях рускага рэвалюцыйнага руху, што і адбілася на стварэнні вобраза Суварына ў «Жэрміналі».

К канцу XIX стагоддзя руская літаратура заваёўвае сабе вялікае месца на Захадзе. Талстой і Дастаеўскі становяцца любімымі пісьменнікамі сярод інтэлігенцыі Захада. Істэрычны крык адчаю Карамазавых і Раскольнікавых, іх бясплоднае бунтарства знайшлі водгук сярод пэўнай часткі заходняй інтэлігенцыі, падаўленай капіталістычным светам, задыхаючайся ва ўмовах загнівання гэтага свету і не знаходзіўшай выйсця.

Уплыў Талстога ледзь не перавышаў уплыву Дастаеўскага. Некаторая частка гуманістаў Захада ўхапілася іменна за талстоўскія ідэі аб непраціўленні злу насіллем, аб уседаравальнай любві чалавека да чалавека, г. зн. за рэакцыйную яго пропаведзь. Дробнабуржуазны гуманіст Захада, які баяўся аднолькава і рэвалюцыйнага і контррэвалюцыйнага насілля, наіўна марыў прымірыць змагаючыяся класы, замяніць ідэі класавай барацьбы салодзенькай ружовай вадзіцай абсалютнай любві і ўседаравання, гэты гуманіст тыпа Гюго і Дзікенса—ухапіўся за талстоўства, як за якар выратавання. Уплыў талстоўства выключна моцна праявіўся на творчасці Ралана і Франса. У прыватнасці, ідэі Талстога вельмі выразна адчуваюцца на «Драмах рэвалюцыі», «Трагедыях веры» і на канцы «Жан-Крыстофа» Ралана. Суб'ектыўна, гуманісты тыпа Франса і Ралана

кіраваліся лепшымі намерамі; яны натхняліся прыгожымі ідэаламі аб брацтве ўсяго чалавецтва, аб любві чалавека да чалавека, і г. д. Але аб'ектыўна, іх ідэі з'яўляліся рэакцыйнымі, адцягваючы рабочы клас ад барацьбы за свае правы, за пролетарскую рэволюцыю. Лепшыя людзі культурнага Захада, вельмі глыбока крытыкуючы разлажэнне буржуазнага грамадства і дэградацыю буржуазнай культуры, кідаліся ў пошуках выйсця, траплялі ў тупікі дробнабуржуазнага гуманізма, у палон талстоўскага вучэння аб непраціўленні, уседараванні і г. д.

Горкі прышоў на Захад, як змагар за прагрэсіўнае чалавецтва, як вястун новага, рэволюцыйнага светапогляду. Горкі прышоў як носьбіт ідэй пролетарскага гуманізма, гуманізма барацьбы і перамогі. Ён супроцьпаставіў дробнабуржуазнаму гуманізму Захада гуманізм народнай сілы, веры ў лепшае будучае чалавецтва, якое можа быць набыта толькі ў барацьбе. Горкі прышоў на Захад, як пролетарскі пісьменнік, і ён сказаў сваё новае слова ў літаратуры. Поспех твораў Горкага на Захадзе быў выключны.

У 1899 годзе ўпершыню паявіліся ў Германіі яго два зборнікі апавяданняў. У 1901 годзе ўжо творы Горкага выходзілі ў некалькіх выдавецтвах. Так, у адным і тым-жа годзе паяўляецца сямітомнае берлінскае выданне твораў Горкага, і пяцітомнае лейпцыгскае. Творы Горкага перакладаюцца і на англійскую, французскую, італьянскую і інш. мовы. Аб Горкім паяўляюцца крытычныя манаграфіі (Брандэс, Вогюэ, Парыцкі).

Калі першыя творы Горкага прынеслі яму сусветную славу, дык яна яшчэ ў шмат разоў павялічылася ў сувязі з пастаноўкай яго п'есы «Мяшчане» і «На дне» на еўрапейскіх сцэнах. Прэм'ера «На дне» ўпершыню адбылася 23 студзеня 1903 года ў Берлінскім «Малым тэатры». Рэжысер Макс Рэйнгардт змяніў назву п'есы, замест «На дне», назваўшы яе «Начлежка». Па сведчанню сучасніка Артура Kahane (Berliner Tageblatt)* гэта пастаноўка прынесла тэатру выключны поспех і доўгі час не сыходзіла са сцэны. За два годы, з 1903 па 1905 г. адбылося 500 спектакляў. П'еса «На дне» праходзіць з трыумфам па сцэнах Еўропы.

Ужо ў адносінах «Мяшчан» і «На дне» у заходняй крытыцы выявіліся супярэчлівыя думкі і погляды. Найбольш дэмакратычная, левая частка друку, захапляючыся мастацкім майстэрствам твораў Горкага, адзначала і іх вялікае ідэйнае значэнне для ўсёй сусветнай літаратуры.

Радыкальная нямецкая крытыка ўказвала, што вобразы, якія выведзены ў «Мяшчанах» і «На дне», надзвычай тыповыя не толькі для Расіі, але і для Германіі. Ацэньваючы пастаноўку «Мяшчан» у Вене і Берліне, крытыка адзначала, што Горкі глыбока верыць у сілу народа і ў яго будучае.

У нямецкай газеце «Tägliche Rundschau указвалася, што «На дне»—«дакумент ганьбы нашай эпохі, пляма на нашай культуры», у „Magdeburger Zeit" крытык заяўляў, што «Сцэна ў Горкага

*) Груздзёў, „Сучасны захад аб Горк'м".

ператвараецца ў трыбунал, які асуджае буржуазную цывілізацыю». Славуты нямецкі пісьменнік-антыфашыст Генрых Манн пісаў у 1928 г. аб пастаноўцы «На дне», успамінаючы свае ранейшыя ўражанні: «Горкі астаўся ўсім сэрцам звязаным з лёсам прыгнечаных і змагаючыхся за вызваленне. Гэта захавала яму творчыя сілы і забяспечыла неўміручасць яго творам... Перад гледачом выразна ўстала соцыяльнае значэнне п'есы. Гледачу здавалася, што вялікі мастак Горкі, які напісаў гэту п'есу задоўга да падзей апошніх 15 год, усё ведаў, усё зразумеў яшчэ тады і хацеў даць адчуць падзеі, што набліжаюцца».

Нямецкі пісьменнік Эрых Мюзам, замучаны ў фашысцкіх засценках, пісаў: «Калі Дастаеўскі выкрываў усе тайны чалавечай псіхікі, калі затым Талстой паставіў перад гэтай псіхікай дзіўна-строгія этычныя патрабаванні, дык Максім Горкі паказаў людзей у цвярозай рэальнасці, без заблытаных складанасцей душы і паводзін, акрамя тых, якія абумоўлены соцыяльнымі прычынамі. Ён ставіць перад намі рускага чалавека такім, якім ён яго бачыў,—і вялікая каштоўнасць творчасці Горкага ў тым, што ён шукае сваіх герояў не на вышынях арыстакратычнага і буржуазнага грамадства, а на дарогах Расіі, у трушчобах, у начлежках, у масах. Паказваючы нам рускага чалавека, які інстынктыўна цягнецца да рэволюцыі, селяніна, рабочага, бадзягу, паказваючы іх такімі, якія яны ёсць сапраўды ў сваім асяроддзі, Горкі вучыць нас лепш разумець сутнасць і ход рускай рэволюцыі, чым могуць зрабіць гэта акадэмічныя тлумачэнні і наследванні гісторыкаў рэволюцыі.» *)

Але ўзняла свой голас і іншая крытыка, крытыка рэакцыйна-буржуазная, якая адразу адчула ў асобе Горкага небяспечнага ворага, вястуна ідэй класавай барацьбы, страснага буравесніка рэволюцыі. Рэакцыйны друк, асабліва ў Англіі, папракае Горкага ў «амаральнасці», у «гразі», у імкненні парушыць парадак. Французскі крытык дэ-Вогюэ ў журнале „Revue de deux Mondes“, нямецкая пісьменніца Гофман у „Zukunft“ і рад іншых буржуазных крытыкаў Англіі, Амерыкі і г. д. папракаюць Горкага ў ідэалізацыі басякоў, у павышанай цікавасці да «падонкаў грамадства». Крытык Бранд характарызуе герояў Горкага, гаворачы, што яны «смярдзяць потам, брудным рыззём, гарэлкай, жабрацтвам і самым наглядным чынам выяўляюць недахоп мыла і вады ў сваім ужытку».

Калі ў 1907 годзе з'явіўся твор «Маці», буржуазны друк адвярнуўся ад Горкага, бо класавая сутнасць яго творчасці вызначылася тут найбольш выразна. Пісьменнік-большэвік, паплечнік і друг Леніна паказаў усяму свету светлыя вобразы рабочых рэволюцыянераў, вобраз жанчыны-маці, якую прывяла да рэволюцыйнай дзейнасці сіла мацярынскай любві. Вобразы Паўла Власава і Нілаўны сталі любімымі героямі рабочых усіх краін. Калі Горкі і страціў «увагу» буржуазных кругоў, дык затое ён набыў творам «Маці» любоў і сімпатыі шырокіх мас працоўных Еўропы і Амерыкі.

Рабочыя ўсіх краін зачытваліся аповесцю, знаходзячы ў ёй шмат

*) Цытаты па кнізе Груздзёва „Сучасны захад аб Горкім“.

агульнага з сваім жыццём, чэрпаючы ў вобразах рускіх рэволюцыянераў сілу і мужнасць для барацьбы.

Так у газеце «Русское слово» у 1908 г. у артыкуле «Горкі ў Італіі» указваецца, што галоўным чытачом Горкага з'яўляецца культурны італьянскі рабочы. Французская пісьменніца Андрэ Віоліс, у сваім водгуку на смерць Горкага пісала аб выключным значэнні аповесці «Маці». «Чытанне «Маці» з'явілася для мяне ў дні юнацтва патрасаючым адкраеннем. Я знайшла там нешта іншае і большае, чым пакутніцкая жаласць Талстога і чым хваравіты, здзеклівы бунт Дастаеўскага. Там было гарачае пачуццё братэрства, якое ў мінуту самай смяротнай небяспекі аб'ядноўвае ўсіх, хто змагаецца за хлеб, за мір, за свабоду; там была сіла, устаяць супроць якой было немагчыма, сіла, якая арганізуе масы, не гледзячы на самае лютае падаўленне, і было полымя, якое, перакідваючыся з сэрца ў сэрца, запаліла потым і самыя простыя сэрцы. У гэтай кнізе было ўсё, гэта дало магчымасць ажыццявіцца соцыялістычнай рэволюцыі 1917 года, у ёй была ўся надзея чалавецтва як учорашняга, так і заўтрашняга дня».

А. В. Луначарскі ў кнізе «Артыкулы аб Горкім» пісаў: «Рабочая прэса, галоўным чынам, нямецкая, ды часткова французская і італьянская, падхапіла гэту аповесць і панесла яе як дадатак да газет літаральна ў мільёнах экземпляраў. Для еўрапейскага пролетарыята кніга «Маці» зрабілася настольнай кнігай».

Дацкі крытык Бробі Іогансен, адзначаючы цвярозы рэалізм Горкага, які спалучаецца з высокім гуманізмам і верай у чалавека, пісаў: «Горкі сваім непадкупным і бязлітасным вокам назіральніка ў кожнай чалавечай істоце, нават самай жалкай, жорстка пакалечанай лёсам,—нават асабліва ў такіх,—у самой яе глыбіні бачыць чалавека, аганёк, які, можа, ледзь цепліцца, але не гасне, і, якраз пры спробе пагасіць яго можа ўспыхнуць яркім полымем.

Гэту сваю веру ў чалавека ён выявіў у тым творы, аб якім я хачу асобна ўпамянуць тут: у рамане «Маці»... Гэтай велічна-смуткуючай песняй аб маці-работніцы Горкі паклаў апошні масіўны камень таго фундамента, які ён складваў для чалавецтва з трох прынцыпаў: імкнення да ісціны, нястомнага, як вечнае цурчанне роднай яго ракі; непахіснай веры ў народ, у беднату ўсяго свету, і непахіснай волі давесці да канца імклівы палёт чалавека да універсальнай ісціны».

На «Маці» выхоўваліся на Захадзе лепшыя рэволюцыйныя пісьменнікі. Дацкі пісьменнік Мартын Андэрсен-Нексе, які ў сваім рамане «Пелле—заваявальнік» заклікаў рабочы клас заходняй Еўропы вучыцца ў сваіх рускіх таварышоў, указаў: «Ідэі Леніна я пазнаў праз знаёмства з творамі Горкага». Такім чынам, у самым пачатку нашага века, Горкі ўжо карыстаецца сусветнаю славаю. Захад знаёміцца з Горкім—вялікім майстрам слова, з пісьменнікам, які сказаў новае слова, прынёс новы, бадзёры, жыццясцвярджаючы струмень у літаратуру.

Новае слова, сказанае Горкім, заключалася ў тым, што ў яго творах загаварыў на ўвесь голас рэволюцыйны рабочы, які сцвяр-

джае сваё права на жыццё. І да Горкага, у Расіі і на Захадзе, пісьменнікі паказвалі ў сваіх творах жыццё рабочых, цяжар працы, нястачы і пакуты працоўных. Але ва ўсіх гэтых творах рабочы клас трактаваўся, як пакутнік, да якога патрэбна жаласлівасць і літасць. Горкі, выкрываючы капіталізм, эксплаатацыю, малюючы дно буржуазнага грамадства, адлюстраваў рэвалюцыйную барацьбу пралетарыята. Ён паказаў рускага рабочага вартым не жаласцівасці, а павагі, ён паказаў актыўнага змагара, які не просіць літасці, а патрабуе сабе месца ў жыцці. Горкі ўклаў у вусны героя дня з п'есы «На дне» словы аб тым, што «чалавек—гэта гучыць горда» і гордасцю, годнасцю чалавечай, гарачай прагай барацьбы і перамогі насыціў ён сваіх герояў.

У гэтым аптымістычным жыццясцвярджэнні народа заключалася навізна твораў Горкага, у гэтым было іх абаянне, у гэтым было іх найвялікшае сусветнае інтэрнацыянальнае значэнне.

Паказваючы агідны твар капіталістычных драпежнікаў Расіі, Горкі тым самым выкрываў і капіталізм Захада; малюючы рускае мяшчанства, ён ствараў вобразы, тыповыя для ўсіх капіталістычных краін. Нарэшце, паказваючы гераічную барацьбу рускага рэвалюцыйнага пралетарыята, вялікі буравеснік рэвалюцыі натхняў на барацьбу за свае правы пралетарыят усяго свету. Горкі быў для Захада агністым агітатарам ідэй большэвізма, страсным вястуном будучай рэвалюцыі. Бяссільнаму дробнабуржуазнаму гуманізму інтэлігенцыі Захада супроцьпаставіў Горкі актыўны гуманізм змагара-рэвалюцыянера.

Яшчэ перад з'яўленнем «Маці», заходняя інтэлігенцыя пазнаёмілася не толькі з Горкім-мастаком, але і з Горкім-змагаром супроць царызма, энергічным грамадскім дзеячом, мабілізуючым усе сусветныя дэмакратычныя сілы на барацьбу супроць самадзяржаўя. У сувязі з адозвай, напісанай пад уражаннем падзей крывавага дня 9 студзеня, Горкі быў арыштован і пасаджан у Петрапаўлаўскую крэпасць. У часе допыта, жандарскі падпалкоўнік Коніскі, які вёў справу Горкага, прагаварыўся пісьменніку: «Аднойчы я з-за вас пацярпеў ужо, ды вось і цяпер таксама, здаецца, будзе: арыштам вашым Еўропа занепакоена»! І сапраўды, арышт Горкага ўскалыхнуў усю грамадскую думку Еўропы. Царскі ўрад Нікалая крывавага стаў атрымоўваць безліч пратэстаў з Германіі, Францыі, Італіі, Іспаніі, Бельгіі, Амерыкі і інш. краін. Заходняя інтэлігенцыя і працоўныя арганізавалі мітынгі ў абарону Горкага, дэманстрацыі перад рускім пасольствам і г. д. Горкі быў вызвален. Па заданню партыі ён быў паслан у Амерыку для збора грошай агітацыяй і ў студзені 1906 года ўжо выехаў за граніцу.

Царскі ўрад, які пацярпеў буйнае паражэнне ў руска-японскай вайне, адчуваў патрэбу ў грошах для барацьбы з рэвалюцыяй. Ён звярнуўся да краін Еўропы з просьбай аб пазыцы. Рускія рэвалюцыянеры добра разумелі мэты і назначэнне гэтай пазыкі. Горкі публікуе ў радыкальным замежным друку і ў заграінчных рускіх выданнях артыкулы і адозвы, у якіх патрабуе адмовіць у пазыцы.

У сваіх выступленнях за граніцай на мітынгах і ў друку Горкі

заклікае не даваць пазыкі царскаму ўраду, не купляць аблігацыі, растлумачвае, на што пойдуць гэтыя грошы.

Адозва «Не давайце грошай рускаму ўраду» была надрукавана ў красавіцкім нумары парыжскага журнала «Чырвоны сцяг» за 1906 г. і ў перакладзе на французскую мову ў „Humanite“, газеце Жорэса. У гэтым артыкуле Горкі выкрывае камедыю з Думай, паказвае ігнарыраванне Думы народнымі масамі Расіі. Горача заклікае Горкі: «Не давайце ні граша рускаму ўраду—ён не мае сувязі з народам, мільёны сэрцаў ужо яго асудзілі на пагібель».

Звяртаючыся да яўрэйскіх банкіраў Захада, Горкі ўскліквае:

«Ці разумеюць яўрэйскія банкіры Еўропы, што яны даюць грошы ў Расію на арганізацыю яўрэйскіх пагромаў? Калі яны гэта разумеюць,—іх злачынства роўна хіба толькі іх прагнасці да нажывы. Гісторыя, я ведаю, падрыхтуе для іх заслужаную імі цяжкую аплявуху. Не, не трэба даваць грошай той анархічнай партыі, якую Еўропа, па непаразуменню, прадаўжае лічыць рускім урадам,—гэтыя грошы пойдуць на забойствы... Не давайце грошай гвалтаўнікам над духам і целам рускага народа...

Не давайце Раманавым грошай на забойствы».

Ён звяртаецца з пісьмом да вядомага левага пісьменніка Анатоля Франса, арганізатара «Таварыства сяброў рускага народа» з заклікам агітыраваць паўсямесна супроць пазыкі. „У пісьме да Франса гучыць зноў і зноў вера ў сілу рускага народа. Страсна гучаць словы Горкага: «Больш свабоды народам, калі мы хочам бачыць жыццё вартым чалавека, прыгожым і радасным! Вось лозунг для ўсіх, хто любіць жыццё.

Мая радзіма—краіна страшэнных, ашалелых, зверскіх насілляў над чалавекам, мая радзіма становіцца кашмарам свету...

Я ведаю рускі народ і не схільны пераўвялічваць яго вартасці, але я пераконан, я веру—гэты народ можа ўнесці ў духоўнае жыццё свету нешта своеасаблівае і глыбокае, нешта важнае для ўсіх.

Прыціснуты да зямлі своекарыслівымі імкненнямі Раманавых уцвердзіць сваю ўладу, расхістаную іх бяздарнасцю і лютасцю, цяпер мой народ уздымае галаву, ён хоча адкрыта змагацца за сваю свабоду са зверамі—уладарамі яго лёсу.

Ён зразумеў, нарэшце, што, калі будзе моўчкі цярпець і далей,—ён загіне, з яго высмакчуць усю кроў, раздушаць яму грудзі, заб'юць сэрца».

У такім-жа духу звяртаецца Горкі да Англіі, ён звяртаецца праз галаву ўрадаў да французскага і англійскага пролетарыята.

Горкі заклікае да інтэрнацыянальнай салідарнасці працоўных усяго свету, ад імя рускага народа папярэджвае ён аб гатоўнасці да барацьбы супроць самадзяржаўя, аб тым, што «калі ўлада будзе ў руках народа, яму напомняць аб банкірах Францыі, якія дапамагалі сямейству Раманавых змагацца супроць свабоды, правоў, праўды, за сваю ўладу, варварскую, антыкультурную ролю якой ясна разумеюць і бачаць усе чэсныя сэрцы і вочы Еўропы.

Я ўпэўнен, што рускі народ не зверне банкірам Францыі пазык, ужо аплочаных ім сваёю крывёю.

Не зверне!» (Адкрытае пісьмо п-ну Олару).

На зварот Горкага адгукнулася лепшая частка заходне-еўрапейскай інтэлігенцыі. У прыватнасці «Таварыства сяброў рускага народа» правяло рад мітынгаў, на якіх выступаў Анатоль Франс, заклікаючы французаў байкатыраваць пазыку. У сваіх прамовах, сабраных у зборніку „Jour leeuple russe“ А. Франс папярэджваў, што пазыка не будзе аплочана, што аб гэтым прама заявіў лепшы прадстаўнік рускага народа, вядомы пісьменнік Максім Горкі.

Калі пазыка была ўсё-ж прадстаўлена Расіі французскімі банкірамі, Горкі выпускае свой памфлет «Цудоўная Францыя», у якім звяртаецца са словамі гневу і пагарды да банкірскай Францыі. Ён плюнуў у твар гэтым агідным рыцарам нажывы, той Францыі, якая «цяпер жыве толькі трэпетам за свой спакой і цэласнасць франкаў». І калі буржуазныя журналісты ўзнялі вой аб «няўдзячнасці» Горкага, ён прама і цвёрда заявіў ім, што «чэсны пісьменнік заўсёды...—вораг тых, хто абараняе і апраўдвае скваπнасць і зайздрасць, гэтыя асноўныя ўстоі сучаснай грамадскай арганізацыі...» Шчыра кажу вам: «мне, соцыялісту, глыбока абразліва любоў буржуа».

Нездарма ў Амерыцы Горкаму ўчынілі не адзін скандал урадавыя чыноўнікі. Справа дайшла да таго, што ні ў адным отэлі не прынялі Горкага на той нібы падставе, што ён не павенчаны з сваёй жонкай М. Ф. Андрэевай. Амерыканскую капіталістычную рэчаіснасць Горкі заганьбіў у сваёй кнізе «Горад жоўтага д'ябала».

Імперыялістычную вайну Горкі сустракае з абурэннем, адразу-ж заняўшы паражэнчаскую пазіцыю, пазіцыю інтэрнацыяналізма.

Такім чынам, к году Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі, імя Горкага карысталася найвялікшым аўтарытэтам сярод сусветнай дэмакратыі, як імя актыўнага змагара за справядлівасць, за шчасце народаў. Эпітэт «сумленне Еўропы», далучаемы да імя Рамэн Ралана, з такім-жа, калі яшчэ не з большым правам, мог быць прыкладзен да імя Горкага.

У першыя годы рэволюцыі Горкі ўключаецца ў актыўную работу па прыцягненню культурных сіл краіны да працы на карысць рэволюцыі. У 1918 годзе, друкуючы рад артыкулаў у журнале «Комінтэрн», Горкі ўжо звяртаецца ў іх да міжнароднай інтэлігенцыі і да сусветнага пролетарыята з заклікам зразумець вялікае значэнне падзей, якія адбываюцца ў маладой совецкай рэспубліцы. Ён заклікае ўсе дэмакратычныя сілы свету не даць задушыць маладую совецкую ўладу.

У артыкуле «Учора і сёння» ён піша: «Чэснае сэрца не вагаецца, чэсная мысль чужда спакусе ўступак, чэсная рука не стоміцца працаваць, пакуль б'ецца сэрца,—рускі рабочы верыць, што яго браты па духу не дадуць задушыць рэволюцыю ў Расіі, не дазволяць уваскрэснуць усяму, што смяротна паранена і здыхае». Тое, што Максім Горкі пайшоў з Кастрычніцкай рэволюцыяй, тое, што ён заклікаў падтрымліваць совецкую ўладу—гэты факт зрабіў вялікае ўражанне і ўплыў на розумы заходняй інтэлігенцыі. Сімпатыі да Совецкага Саюза, выражаныя ў годы інтэрвенцыі і блакады такімі

пісьменнікамі, як Анатоль Франс, Ралан, Барбюс, Эптон Сінклер і інш., дапамога, арганізаваная галадаючым раёнам Расіі праз галовы інтэрвентаў і ўсякіх унутраных і знешніх ворагаў—гэтыя факты цесна звязаны з імем А. М. Горкага, чый голас з'явіўся голасам сумлення ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Але асабліва ўзмацніўся ўплыў Горкага на сусветную інтэлігенцыю з 1928 года, года яго звароту з Сарэнта ў Савецкі Саюз. Горкі, Ралан і Барбюс становяцца духоўным сцягам усяго лепшага, што ёсць сярод міжнароднай інтэлігенцыі. Яшчэ жывучы ў Сарэнта, Горкі заўсёды быў у курсе жыцця савецкага народа і савецкай інтэлігенцыі, адгукаючыся на ўсе падзеі. У артыкуле «Дзесяць год», адзначаючы дзесяцігоддзе савецкай улады, ён падрабязна спыняецца на велізарных дасягненнях краіны ў барацьбе з разрухай, цяжкай спадчынай бескультур'я і г. д.

Палемізіруючы з Італіі з белаэмігранцкім друкам, выкрываючы яго агіднае змяінае шыпенне на савецкую краіну і мярзотнасць паклёпаў, Горкі знаёміць Захад з культурнымі дасягненнямі краіны, з развіццём літаратуры, пабудовай фабрык і заводаў, разняволеннем жанчыны, выхаваннем дзяцей, перавыхаваннем злачынцаў праз грамадска-карысную працу і г. д. Так, калі паміж Бальмантам і Буніным—з аднаго боку і Рамэнам Раланам—з другога ўзнікла палеміка аб выданні класікаў у СССР, Ралан звяртаецца да Горкага ў лютым 1928 года за даведкамі. Белыя эмігранты К. Бальмант і Ів. Бунін, атрымаўшы якоесьці паклёпніцкае «пісьмо з Расіі» аб тым, што ў СССР нібыта забараняюцца выданні класікаў, патрабавалі ад Ралана, каб ён далучыўся да іх пратэста. Але Рамэн Ралан ужо добра ведаў цану гэтым вымыслам і, для падмацавання сваёй пазіцыі, звярнуўся да Горкага. І Аляксей Максімавіч у пісьме да Ралана намаляваў яркую карціну развіцця савецкай літаратуры, друку, выдання рускіх і заходніх класікаў, прагі савецкага народа да культуры.

Горкі пісаў 16 лютага 1928 года Ралану з Сарэнта: «Так, цудоўная літаратура жыве і расце цяпер у Расіі. І, захапляючыся ёю, я засмучоны тым, што Еўропа так мала звяртае ўвагі на гэты вялікі рух, што яна старанна адшуквае там благое, праяўляючы так многа варожасці, не ведаючы таго, што там ёсць добрага».

І ў сваёй публіцыстыцы Горкі, асабліва пасля свайго пераезду ў краіну Советаў, ставіць перад сабою ўдзячную задачу пазнаёміць сяброў на Захадзе з нашымі дасягненнямі, поспехамі, культурнымі заваяваннямі. Аб гэтай велізарнай рабоце Горкага пісаў Рамэн Ралан у сваім юбілейным прывітанні Горкаму:

«Горкі—змагар, паборнік чалавечых правоў, глава пролетарскай інтэлігенцыі, якая будуе новы свет. Гэты Горкі, амаль адзіны чалавек у Еўропе, ва ўсякім выпадку першы, які паказаў прыклад таго, як карыстаючыйся громкай вядомасцю ў свеце мастацтва пісьменнік, чалавек глыбокага розуму, нясе свой талент і сваю славу на поле рэволюцыйных баёў і з таго боку барыкад звяртаецца з заклікам да заходняй інтэлігенцыі. Я таксама перайшоў праз гэту барыкаду і паціскаю яму братнюю руку» (артыкул «Горкі—ударнік»).

Аб гэтым пісаў да 60-годдзя М. Горкага нямецкі пісьменнік Іоганес Р. Бехер: «Максім Горкі, пісьменнік найглыбокага і найшырокага ўздзейнічання на масы. Ён не толькі пісьменнік 160-мільённага насельніцтва Савецкага Саюза, ён—пісьменнік міжнароднага пралетарыята і яго саюзнікаў».

Анры Барбюс пісаў, што «прыклад Горкага вучыць інтэлігента, як трэба рэагіраваць на грамадскую драму». Іменна Горкаму належыць пачэсная роля аб'яднання вакол Савецкага Саюза лепшай часткі сусветнай інтэлігенцыі, перавыхавання яе ў духу актывізацыі і гатоўнасці да барацьбы. Горкі не проста быў знаёмы з культурай Захада, ён уздзейнічаў на яе. Ён выкарыстоўваў усе магчымасці для рэвалюцыянізіравання свядомасці гуманістаў Еўропы і Амерыкі.

Не толькі сваімі творамі, але і сваёй перапіскай, артыкуламі, зваротамі, адозвамі Горкі знаёміў Захад з жыццём Савецкай краіны, ярка адлюстроўваючы перавагу соцыялістычнай сістэмы над капіталістычнай, разбураючы розныя старыя забабоны інтэлігента, змагаючыся за яго актывізацыю. У цытыраваным вышэй артыкуле, Рамэн Ралан пісаў: «У адносінах да нас, заходнікаў, я надаю вялікае значэнне тым артыкулам, у якіх Горкі выступае ў ролі настаўніка савецкіх рабочых, навучае і падбадзёрвае іх. Ён праслаўляе задачы дня і тое цудоўнае жыццё, якое адкрываецца наперадзе і якое стварае новае чалавецтва. У адказ усім тым, хто смуткуе аб знікненні такіх старых буржуазных ідалаў, як лібералізм і індывідуалізм, ён у моцных словах выражае сутнасць сапраўднай індывідуальнасці і свабоды». І Ралан выказвае ўпэўненасць, што словы Горкага «дапамогуць рассеяць страхі заходніх інтэлігентаў.» Якія-ж бакі ідэалогіі гуманістаў Захада крытыкаваў Горкі, змагаючыся за іх пераход на бок рэволюцыі? Заходні гуманіст, дробна-буржуазны змагар-адзіночка часта ўпадаў у гіпербалізацыю ролі асобы, не разумеючы ўзаемаадносін асобы і калектыва. Гіпертрофія асобы, індывідуалізм часта не дазвалялі такому інтэлігенту правільна ўспрымаць рэволюцыйныя падзеі. Тэма ўзаемаадносін асобы і грамадства заўсёды з'яўлялася надзвычай актуальнай для заходняга інтэлігента. Яна прагучала ў прамовах замежных пісьменнікаў на Першым усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў, яна была пастаўлена спецыяльным пытаннем на Міжнародным Кангрэсе абароны культуры, які адбываўся ў 1935 годзе ў Парыжы. Горкі выкрывае пустату індывідуалізма, славутую «вежу з слановай косці». Горкі ў радзе сваіх артыкулаў («Аб Салітэры», «Гісторыя маладога чалавека», «Аб разумніках» і інш.) указвае, што сапраўдны гуманізм варожы індывідуалізму, бо індывідуалізм з'яўляецца параджэннем буржуазнага эгаізма ў подленькай канкурэнцыі чалавечых асабей. Горкі выкрывае тэорыю, нібыта мастак абсалютна не залежыць ад капіталістычнага грамадства. У артыкуле «Аб культурах» пісьменнік указвае, што гэта толькі ілюзія інтэлігента: «Некаторыя з іх яшчэ не развіталіся з наіўнай ілюзіяй «духоўнай» незалежнасці, хоць яны поўнасцю залежны ад рэдактароў, якія цалкам залежаць ад выдаўцоў-банкіраў, лордаў, фабрыкантаў зброі». Інтэлігенцыя нідзе не з'яўляецца надкласавай; у буржуазным грамадстве яна служыць капіталістам.

Крытыкуючы такія погляды аб свабодзе асобы ў буржуазным грамадстве, Горкі рэзка бічаваў штырнераўскіх «адзіных», даказваў, што сапраўдныя, сумленныя мастакі Захада (як напрыклад Ралан) заўсёды варожы гэтаму грамадству. Эгаістычнаму, абыякаваму індывідуалізму «непаўторнай асобы», гіпертрафіруючай сваё «я», Горкі супроцьпаставіў усебаковае развіццё чалавечай індывідуальнасці ў краіне соцыялізма, дзе чалавек пазбавіўся ад прыгнёту «расавых, нацыянальных, класавых забабонаў».

«Індывідуалісты» існуюць, але гарманічная індывідуальнасць магчыма будзе толькі тады, калі інтэлектуальнае і эмацыянальнае развіццё асобы не будзе абмяжоўвацца, скажацца ідэямі нацыі, класа, царквы, умовамі непарыўнай і бязлітаснай барацьбы ўсіх з усімі, умовамі жыцця сучасных рабоў капіталістычнага ладу». («Гісторыя маладога чалавека»).

Барацьба з індывідуалізмам, безумоўна, мела вялікае значэнне ў справе перавыхавання свядомасці заходняга інтэлігента. Гэты-ж працэс адлюстраваў Рамэн Ралан у «Зачараванай душы», паказваючы шлях Марка Рыв'ер ад індывідуалізма к ідэям антыфашысцкай барацьбы.

Вялікі пролетарскі гуманіст, імкнучыся актывізіраваць свядомасць міжнароднай інтэлігенцыі, наблізіць яе к рэволюцыйнай дзейнасці, у радзе сваіх артыкулаў бязлітасна выкрывае і пасіўнасць дробна-буржуазнага гуманізма, гуманізма «жаласці» і непраціўлення. Гэты гуманізм і непраціўленне і ўседараванне, імкненне прымірыць варожыя класы, даўным даўно набыў ужо рэакцыйны характар. У артыкулах «Гуманістам», «Адказ інтэлігенту», «Аб культурах», «З кім вы, майстры культуры», «Аб мяшчанстве», «Аб цынізме» і інш. Горкі бічуе гэты бясплодны гуманізм, абсалютна нястрашны для імперыялістычных драпежнікаў, які адцягвае народы ад задач класавай барацьбы. Ён выкрывае «ўсечалавечую праўду любві», указваючы, што нельга любіць ката і яго афяру, насільнікаў і прыгнятаемых, забойцаў і забіваемых. Горкі навучае заходняга гуманіста таму, што нельга любіць чалавецтва, не адчуваючы нянавісці да яго ворагаў. Толькі той з'яўляецца сапраўдным прыяцелем народаў і прагрэса, хто ненавідзіць яго ворагаў, хто актыўна змагаецца супроць яго прыгнятальнікаў. У адказе сваім амерыканскім карэспандэнтам Горкі пісаў: «Папракаючы мяне ў тым, што я «прапаведваю нянавісць», вы раіце мне «прапагандыраваць любоў». Вы, мабыць, лічыце мяне здольным унушаць рабочым: палюбіце капіталістаў, бо яны жаруць сілы вашы, палюбіце іх, бо яны бязлітасна знішчаюць скарбы зямлі вашай, палюбіце людзей, якія трацяць ваша жалеза на пабудову гармат, знішчаючых вас, палюбіце нягоднікаў, па волі якіх дзеці вашы здыхаюць з голаду, палюбіце знішчаючых вас дзеля спакою і сытасці сваёй.» Так ясна і проста раскрываў Горкі рэакцыйную сутнасць дробнабуржуазнага гуманізма. У артыкуле «Аб культурах», звярачваючыся да пісьменнікаў-антыфашыстаў, удзельнікаў Парыжскага кангрэса, Горкі супроцьпаставіў гуманізм мяшчанства рэволюцыйнаму пролетарскаму гуманізму: «Гуманізм мяшчан, пра-

паведваючы спачуванне, вучыць прымірэнню з тым зневажаючым болем, які выклікаюць нібыта неадхільныя, навекі вякоў дадзеныя адносіны класаў, ганебнае дзяленне людзей на вышэйшыя і ніжэйшыя расы, на белых арыстакратаў і «каляровых» рабоў. Гэтым дзяленнем ускладняецца рост усведамлення працоўным чалавецтвам адзінства яго інтарэсаў, для чаго яно і ўстаноўлена.

Гуманізм рэволюцыйнага пролетарыята просталінейны... Яго мэта: вызваліць пролетарыят усяго света ад ганебнага, крывавага, шалёнага прыгнёту капіталістаў...

Гуманізм пролетарыята патрабуе незгасальнай нянавісці да мяшчанства, да ўлады капіталістаў, іх лакеяў, паразітаў, фашыстаў і катаў, здраднікаў рабочага класа, нянавісці да ўсяго, што прымушае пакутваць, да ўсіх, хто жыве на пакутах соцень мільёнаў людзей.»

Гэта пропаведзь актыўнага, дзейснага, рэволюцыйнага гуманізма абуджала розумы лепшых прадстаўнікоў еўрапейскай інтэлігенцыі, штурхала іх на перагляд сваіх пазіцый. Такі пісьменнік-гуманіст, як Рамэн Ралан, які заўсёды шчыра шукаў шляхоў абароны шчасця прагрэсіўнага чалавецтва, усё больш пераконваецца ў тым, што «праў Ленін, а не Гандзі», і пераходзіць на пазіцыі рэволюцыйнага гуманізма. А з 30-х гадоў пачынаецца масавы паварот сусветнай інтэлігенцыі к ідэям Совецкага Саюза.

30-я годы XX стагоддзя—гэта годы найглыбейшага эканамічнага крызіса ў капіталістычных краінах.

Добрадушныя інтэлігенты пераканаліся ў тым, што эканоміка грамадства мае каласальны ўплыў на ўсё яго духоўнае жыццё. Эканамічны крызіс выклікаў і найглыбейшы крызіс культуры. Людзі разумовай працы, прафесары, урачы, музыканты, пісьменнікі, мастакі, настаўнікі і г. д. масамі выкідваліся на вуліцу, адчуваючы на уласным сумным вопыце ўвесь жах загнівання буржуазнай культуры. А. М. Горкі звяртаецца да гэтай інтэлігенцыі з заклікам стаць на шлях дружбы з Совецкім Саюзам, змагацца супроць капіталізма, які разбурае культуру і цывілізацыю. Горкі энергічна займаецца арганізацыяй антыфашысцкага адзінага фронта інтэлігенцыі і працоўных. У сваіх артыкулах і адозвах Горкі ўказвае: «Вы, «інтэлектуалісты», дарожыцеся культурай, агульначалавечае значэнне якой бясспрэчна. Так? Але на вашых вачах капіталізм штодзённа і безупынна разбурае гэту дарагую вам культуру ўнутры Еўропы» (Адказ Інтэлігенту). Ён рысуе акты варварства сучаснага фашызма, які разбурае і губіць культуру і цывілізацыю. Ён даказвае варожасць буржуазіі культуры, навуцы і прагрэсу.

У сваёй выдатнай адозве «З кім вы, майстры культуры»? Горкі з поўнай акрэсленасцю заяўляе, што ў сучасны момант культура расцвітае толькі ў Совецкім Саюзе, краіне вызваленага чалавецтва, што толькі ў краіне Советаў да культуры падымаюцца сотні, тысячы і мільёны тых людзей, якія ў капіталістычным свеце былі асуджаны на гібенне ў цемры і невуцтве.

Палкі змагар супроць фашызма і яго мерзасцей, Горкі заклікае інтэлігенцыю згуртавацца ў барацьбе супроць фашызма, які нясе

страшэнныя пакуты чалавецтву, нахабна разбурае цывілізацыю, фізічна знішчае лепшых майстроў культуры і навукі, лепшых сыноў чалавецтва. Горкі проціставіць культуру Краіны Советаў духоўнаму збядненню Еўропы.

«Якое права на ўладу мае сучасная буржуазія, якая ўжо адмаўляе асновы сваёй культуры, развучылася гаспадарыць, бессаромна грабіць для мэтаў вайны сялян, рабочых, калоніі,—якое права існаваць і ўладарыць мае клас, які бессэнсоўна знясільвае рабочую і творчую энергію ўсяго свету, клас колькасна мізерны, якасна заганны і злачынны?»—усклікае Горкі, раскрываючы перад вачыма інтэлігенцыі і працоўных Захада ўвесь жах гніення буржуазнага грамадства, агідны твар фашызма, працэс разлажэння буржуазнай культуры. Горкі ў сваіх артыкулах даказвае, што гэта з'ява не выпадковая, што такая логіка гісторыі, што клас буржуазіі даўным даўно перажыў стадыю сваёй маладосці і цяпер ужо з'яўляецца страшэнным трупам, мерцвяком, які хапае жывых.

І Горкі паказвае адзіна правільнае выйсце. «Існуе краіна, дзе воля і розум усёй масы рабочых, сялян узбуджаюцца і выхоўваюцца дзяржаўна неабходнай працай, роўна карыснай для кожнай рабочай адзінкі і дзе ўся маса працоўнай энергіі ўцягваецца ў рознастайную работу стварэння новых умоў жыцця, г. зн. новай соцыялістычнай культуры.

Дзе пролетарыят, следуючы вучэнню Маркса-Леніна і кіруемы Іосіфам Сталіным, вызваліў сялянства ад ідыётычнай «улады зямлі», ад пакорлівага падпарадкавання капрызам прыроды, ад уродуючага ўплыву ўласнасці, дзе пролетарыят зрабіў дробнага ўласніка калектывістам. Дзе пролетарый, чорнарабочы буржуазнага грамадства, даказвае, што будучы ўзброеным ведамі, ён поўнасцю здолен быць выдатным майстрам культуры і тварцом яе.

Дзе культурная работа асобы ацэньваецца ўсёй масай працоўнага насельніцтва так высока, як яна ніколі яшчэ і нідзе не цанілася, і дзе гэта ацэнка непарыўна павышае рост асобы і гераізм яе работы». («Аб культурах»).

Горкі знаёміць сусветную інтэлігенцыю з вялікай будовай, якая адбываецца ў краіне соцыялізма, адказвае на шматлікія пытанні людзей з Захада. Так, артыкул «Адказ інтэлігенту» з'яўляецца адказам на адно пісьмо, у якім карэспандэнт пісаў Горкаму: «Многія з інтэлігентаў Еўропы пачынаюць адчуваць сябе людзьмі без бацькаўшчыны, і ўвага наша да жыцця Расіі расце, але ўсё-ж для нас незразумела: што адбываецца ў Расіі?» І Горкі без стомы растлумачваў, пераконваў, дакумантыраваў у сваіх артыкулах усю веліч будаўніцтва соцыялізма. Перад пагрозай фашысцкай небяспекі, перад фактамі гніення і разбурэння буржуазнай культуры, Горкі звярнуўся з простым і бязлітасным пытаннем да ўсёй інтэлігенцыі Захада і Амерыкі «З кім вы, майстры культуры?» Ён заклікаў усю прагрэсіўную інтэлігенцыю пайсці з народам, з працоўнымі, дзейсна ўключыцца ў народны антыфашысцкі фронт. Ён даказваў, што ў нашу эпоху ўсякая нейтральнасць, усякая апалітычнасць з'яўляецца простым пасобніцтвам ворагу.

Гаворачы аб лёсе культуры, процістаўячы расцвітаючую культуру соцыялістычнага грамадства загніваючай культуры буржуазіі, Горкі выкрывае і ілюзію дробна-буржуазнага гуманіста аб тым, што ісцінная культура ствараецца толькі інтэлігенцыяй. Горкі заяўляе, што культура перш за ўсё ствараецца працоўнымі масамі.

«Тры чалавекі будуюць культуру: вучоны, мастак, рабочы. Перадавы рабочы клас, якім з'яўляецца наш, совецкі, павінен ведаць, што няма працы, якая-б не мела культурнага значэння, што чым мацней любоў да працы—тым вышэй культура і што да поўнай, усеагульнай перамогі над старым светам ён прыдзе хутчэй, калі добра зразумее рашаючае значэнне навукі, мастацтва, працы.» (Артыкул «Яшчэ аб механічных грамадзянах»). Ён указваў у сваім дакладзе на Ўсесаюзным з'ездзе совецкіх пісьменнікаў, што «найбольш глыбокія і яркія, мастацка дасканалыя тыпы герояў створаны фалькларам, вуснай творчасцю працоўнага народа. Дасканаласць такіх вобразаў, як Геркулес, Праметэй, Мікула Селянінавіч, Святагор, далей—доктар Фауст...—усё гэта вобразы, у стварэнні якіх гарманічна спалучаліся рацыё і інтуіцыё, мысль і пачуццё. Такое спалучэнне магчыма толькі пры непасрэдным удзеле творца ў творчай рабоце рэчаіснасці, у барацьбе за абнаўленне жыцця.» Так заклікае Горкі інтэлігенцыю света да барацьбы за сапраўдную культуру, культуру працоўных, культуру прагрэсіўнага чалавецтва.

«Калі-б інтэлігенты Еўропы і Амерыкі замест таго, каб слухаць навушнікаў, верыць здраднікам, сур'ёзна і чэсна ўдумаліся ў гістарычнае значэнне працэса, які развіваецца ў Саюзе Советаў, яны зразумелі-б, што сэнс гэтага працэса—асваенне сто шасцідзесяццю мільёнамі народа неспрэчных каштоўнасцей агульначалавечай культуры, зразумелі-б, што гэты народ працуе не толькі на сябе, але і на ўсё чалавецтва, паказваючы яму цуды, якія стварае разумна арганізаваная воля да жыцця» («Адказ інтэлігенту»). Змагаючыся за соцыялізм, за прагрэсіўнае чалавецтва, Горкі нястомна выкрываў фашызм, заклікаючы ўсе дэмакратычныя элементы света актыўна змагацца супроць фашысцкага ізуверства.

Калі да Горкага звярнуўся адзін амерыканскі пісьменнік з просьбай напісаць пару суцяшальных слоў, каб узняць настрой людзей у эпоху крызіса, вялікі гуманіст рэзка заявіў, што няма чаго суцяшаць людзей. Ён патрабаваў, каб людзі паглядзелі праўдзе ў твар, каб людзі ўсвядомілі, што няма паратунку капіталізму. Некалькі слоў суцяшэння—гэта палітыка страуса, які ў мінуту небяспекі хавае сваю галаву пад крыло і думае, што яго ніхто не бачыць. Горкі гаварыў не словы суцяшэння, а словы няўмольнай праўды. Буржуазнае грамадства гіне, буржуазная культура гіне, у капіталістычным свеце ўсё расце страшная пагроза фашызма і вайны. Не хавацца за прыгожымі фразамі, а вызначыць сваё месца ў страю змагароў,—вось чым напоўнены артыкулы Горкага, накіраваныя да заходняй інтэлігенцыі.

«Мы выступаем у эпоху ўсеагульнага адзічэння, азвярэння і здчаю буржуазіі—адчаю, выкліканага адчуваннем яе ідэалагічнага

бяссілля, яе соцыяльнага банкроцтва, у эпоху яе крывавых спроб вярнуцца, шляхам фашызма, да ізуверства феадальнага сярэднявечча»,—гаварыў Горкі на з'ездзе пісьменнікаў. Выкрываючы мерзасць усякіх расавых тэорый, выкрываючы іх варожасць гуманізму і культуры, Аляксей Максімавіч энергічна выкрываў і ваенныя замыслы фашызма, бічаваў іх спробы ўцягнуць свет у новую імперыялістычную вайну. Агітацыя супроць фашысцкіх агрэсіўных планаў, заклікі да інтэлігенцыі света перашкодзіць ажыццяўленню гэтых варварскіх планаў фашызма—гучаць амаль у кожным артыкуле Горкага («Дэлегатам антываеннага кангрэса» і іншыя цытыраваныя ўжо артыкулы). Але, выкрываючы фашызм, раскрываючы сапраўдны сэнс імперыялістычнай бойні, Горкі вельмі трапна крытыкаваў і дробна-буржуазны пацыфізм, як адну з істотных рысаў дробна-буржуазнага гуманізма. Гуманісты надзвычай верылі ў сілу слова, яны імкнуліся ў сваіх антываенных раманах выклікаць слёзы і жаласлівасць да няшчасных афяр вайны. У артыкуле «Дэлегатам антываеннага кангрэса» Горкі ўказвае на тое, што ніколі пацыфісцкая пропаведзь не аказвала ніякага рэальнага ўздзеяння на падрыхтоўку і ўзнікненне новых войн. «Усе вы памятаеце, вядома, што пасля разгрома Прусіяй Аўстрыі і Францыі, на працягу 43-х год пацыфізм прапаведваўся безупынна, і што ў ліку іншых славутая кніга Берты фон Зутнер «Прэч зброю!» была ўхвалена і прачытана інтэлігенцыяй усяго света. Але ні гэта кніга, ні пропаведзь Льва Талстога і ніхто наогул не мог перашкодзіць капіталістам знішчаць мільёны людзей у барацьбе за авалоданне калоніямі, наладзіць паход на Пекін і абрабаваць сталіцу Кітая, не мог перашкодзіць узнікненню балканскіх войнаў і агульнаеўрапейскай самай ганебнай бойні». Гэтыя словы даюць характарыстыку твораў сучасных нам пацыфістаў тыпа Рэмарка, Олдынгтона і інш., толькі заклікаючых да жаласлівасці. Горкі навучае пісьменнікаў-гуманістаў, што адзіна правільны шлях барацьбы з вайною—шлях ператварэння імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую, у барацьбу за соцыялістычную рэволюцыю. Вельмі чутка адгукаўся Горкі на антываенныя выступленні і кнігі заходнеяўрапейскіх пісьменнікаў.

Ён напісаў выключна яркую прадмову да кнігі Анры Барбюса «Агонь», у якой Барбюс «глыбей, чым хто-небудзь з пісьменнікаў да яго, глянуў у сутнасць вайны і паказаў людзям бяздонне іх заблуджэння». У гэтай прадмове Горкі паказвае на адрозненне пацыфізма ад актыўнага сапраўднага выступлення супроць вайны. «Гэта не парадная кніга геніяльнага Льва Талстога, геній якога сузіраў вайну ў далёкім мінулым, гэта не жаласлівы твор Берты Зутнер «Прэч вайну»!—твор напісаны з добрым намерам, але няздольны ніколі і ні ў чым пераканаць, ці пераканаць у адваротным». Творам бяссільнага пацыфізма Горкі проціставіць кнігу Барбюса. «Кожная старонка яго кнігі—удар жалезнага молата праўды па ўсёй той масе ілжы, крывадушнасці, лютасці, бруду і крыві, якія наогул завуцца вайной. Змрочная кніга яго страшна сваёй бязлітаснай праўдай, але ўсюды ў змроку паказваемага ім свецяцца аганькі новай свядомасці,—і гэтыя аганькі, мы верым,

хутка разгарацца ў сусветнае полымя ачышчэння зямлі ад бруду, крыві, ілжы і крывадушнасці створаных Д'явалам Капітала.»

Уплыў Горкага на пісьменнікаў Захада можна прасачыць на многіх прыкладах. Герой цыкла «Зачараваная душа» Марк прахо-дзіць шлях развіцця, аб якім Горкі гаворыць у сваіх артыкулах. На апошнім творы чэшскага пісьменніка-антыфашыста Карэла Чапека «Маці» адчуваецца ўплыў «Маці» Горкага. Такія прыклады можна, вядома, памножыць.

Выключная сіла ўплыву Горкага заключалася і ў тым, што ён заўсёды быў гатовым абараняць справядлівую справу, падымаць свой голас пратэста супроць прыгнятальнікаў. Так, у сваіх успамінах нямецкі пісьменнік Бехер расказвае аб сваім арышце. За выданне рамана «Люізіт» ён быў абвінавачан у дзяржаўнай здрадзе і апублікаванне Горкім пратэста было адной з важнейшых прычын зняцця абвінавачвання.

Узрушаючым прыкладам любві да Горкага з боку пісьменнікаў Захада і Ўсхода, з'явілася прамова пісьменніцы-кітаянкі Зулан-Чы. Яна сказала, што заўсёды разам з сваімі таварышамі марыла ўбачыць Горкага. Яна яго ўбачыла, а таварышы да гэтага не дажылі. Іх жывымі закапалі ў зямлю. Слёзы выступілі на вачах у Горкага. Вялікі прыяцель усяго прыгнечанага чалавецтва адчуваў брацкую сувязь паміж сабою і замучанымі сынамі кітайскага народа.

Горкі праводзіў, такім чынам, гіганцкую работу не толькі сярод савецкіх пісьменнікаў, але і сярод інтэлігенцыі света. Нястомны арганізатар антываенных і антыфашысцкіх кангрэсаў, разам з Барбюсам і Раланам ён збіраў распыленыя сілы гуманістычнай інтэлігенцыі для сумеснай барацьбы супроць фашызма і ваеннай небяспекі. Капіталістычныя ўрады Еўропы баяліся яго агністых прамоў і мыслей. Так, напрыклад, галандскі ўрад забараніў Горкаму, дэлегату і арганізатару Амстэрдамскага антываеннага кангрэса, уезд у Галандыю. Але «Прамова, якая не была сказана,» агністыя радкі Горкага дайшлі да дэлегатаў кангрэса. Ён быў натхніцелем міжнароднага кангрэса абароны культуры ў Парыжы, і імя Горкага на кангрэсе часта з вялікай любоўю і павагай успаміналася пісьменнікамі Захада.

На з'ездзе пісьменнікаў Горкі адзначыў вялікае значэнне гэтай работы. «Нам нядрэнна ўдаецца работа над аб'яднаннем усіх сіл радыкальнай, антыфашысцкай інтэлігенцыі, і мы выклікаем да жыцця пролетарскую, рэволюцыйную літаратуру ва ўсіх краінах света.» Але, указваючы на поспехі, Горкі заклікаў да далейшага разгортвання гэтай работы па кансалідацыі сіл дэмакратычнай інтэлігенцыі света.

На самым з'ездзе ён прапанаваў ім вялікую калектыўную работу над адлюстраваннем «дня буржуазнага света», што з захапленнем было прынята іншаземнымі пісьменнікамі, якія прысутнічалі на з'ездзе.

Горкі памёр на баявым пасту. Тройчы праклятыя трацкісцка-бухарынскія вырадкі, агенты міжнароднага фашызма бачылі ўсю

грандыёзнасць работы, якую праводзіў Горкі. Ён быў небяспечным ворагам для фашысцкіх гадаў. Блізкі прыяцель вялікага Сталіна, Горкі пад кіраўніцтвам партыі і яе геніяльнага правадыра праводзіў гэту гіганцкую, антыфашысцкую работу, прыцягваючы сімпатыі ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва да Савецкага Саюза. І мярзотныя агенты фашызма хітра, з-за вугла абарвалі вялікае самаафярнае жыццё. Але гэта не магло спыніць работы, распачатай Горкім. Працэс збліжэння сусветнай дэмакратыі з савецкім народам, з сацыялістычнай культурай ніхто ў свеце не можа спыніць. З пачуццём глыбокага суму ўспрынялі лепшыя людзі света вестку аб смерці Горкага.

На жалобным мітынгу тав. Молатаў выказаў пачуцці ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва, сказаўшы: «Пасля Леніна смерць Горкага—самая цяжкая страта для нашай краіны і для чалавецтва».

Уся дэмакратычная прэса Захада і Амерыкі ўсхвалёвана адгукнулася на смерць Горкага.

Прыяцель Горкага Рамэн Ралан пісаў: «Я толькі адзін з мільёнаў, для якіх смерць Горкага найвялікшая страта чалавецтва з часу смерці Леніна. Горкі быў першым найвялікшым з сусветных мастакоў слова, які расчышчаў шлях для пралетарскай рэвалюцыі, аддаў ёй усе свае сілы, прэстыж сваёй славы і багаты жыццёвы вопыт чалавека, з дзіцячых год пазнаўшага тую галечу і знявагу, якія з'яўляюцца лёсам прыгнечанага пралетарыята. Падобна Дантэ, Горкі вышаў з пекла... Але ён вышаў адтуль не адзін. Ён вывеў за сабою, ён выратаваў сваіх таварышоў па пакутах. Ні адзін вялікі пісьменнік не адыгрываў больш высокай ролі... Ён аддаў свой шырокі розум і сваю бязмежную дабрату савецкаму ўраду, які глыбока паважаў яго і правадыры якога былі яго асабістымі прыяцелямі... Учора ўвечары са сціскаючымся ад болю сэрцам я слухаў па радыё з Масквы сумны пахавальны марш Бетховена і строгія словы, абвяшчаўшыя аб смерці Горкага. І я адчуваў сябе ў Маскве сярод мільёнаў мужчын і жанчын, ахопленых сумам. У мыслях усю сёнешнюю ноч прастаяў я ў пачэсным карауле ля труны заснуўшага сябра. Заўтра я буду адчуваць на сваіх плячах цяжар яго труны, якую я нёс-бы, калі-б быў у Маскве».

Вядомы нямецкі пісьменнік Ліон Фейхтвангер пісаў: «Смерць Горкага глыбока параніла мяне. Яна павінна параніць усякага, сэрцу якога блізка новая Расія. Праз гэтага пісьменніка Расія гаварыла нам аб сабе больш чотка, больш выразна, больш востра, чым шляхам любых, самых яркіх інфармацый... Максім Горкі сваім жыццём, сваёй воляй і сваімі працамі стаў адным з вялікіх вястуноў новай, маладой Расіі».

Француз Поль Гзэль указваў: «Горкі заўсёды пісаў, каб дапамагчы вызваленню і перамозе мас. Ён быў прарокам савецкай рэвалюцыі і, значыцца, сусветнай рэвалюцыі, якая павінна адбыцца. Яго благароднае імкненне да справядлівасці і дабраты вяло масы да лепшай будучыні». Андрэ Віоліс пісала, гаворачы аб Горкім, як аўтары «Маці». «Хіба можа калі-небудзь памерці чалавек, які напісаў такую кнігу?»

Жан Рышар Блок, Эптон Сінклер, Бернард Шоу, Жан Касу, Люк Дзюртэн, Віктор Маргерыт, пісьменнікі ўсяго света адгукнуліся на смерць Горкага, як на смерць свайго блізкага сябра.

«У асобе Максіма Горкага СССР і ўвесь свет страціў прарока новых часоў, самага чалавечнага і самага народнага пісьменніка. Увесь літаратурны свет, а таксама свет працоўных цалкам далучаецца да жалобы вялікай Совецкай Рэспублікі...

Ї такая перавага вястуноў—мёртвыя, яны ўсё-ж бяссмертны. Їх геній ніколі не перастае жыць. Яны робяцца назаўсёды светачамі. Яны працягваюць узбагачаць скрытыя скарбы народаў. Горкага няма. Няхай жыве ў вяках яго імя»—усхвалявана пісаў Віктор Марконт.

Пачуццямі суму і любві, сцвярджэннем бяссмертнасці Горкага, імкненнем следваць прыкладу яго гераічнага жыцця, якое заўсёды будзе натхняць да барацьбы і перамогі—так адгукнулася прагрэсіўнае чалавецтва на смерць буравесніка рэволюцыі, арганізатара і настаўніка сусветнай інтэлігенцыі.

*А. Кучар*

# „ПАГІБЕЛЬ ВОЎКА“

12 мая 1939 г. Першы Беларускі Дзяржаўны Драмтэатр паказаў прэм'еру п'есы Эдуарда Самуйлёнка «Пагібель воўка». На прэм'еры прысутнічалі выдатныя людзі сталіцы—рабочыя, інтэлігенцыя, мастакі, пісьменнікі—таварышы Эдуарда. Глядач жыва рэагіраваў на падзеі, што адбываліся на сцэне, юмар Самуйлёнка захапляў.

Адсутнічаў толькі аўтар!

Ніхто з гледачоў не мог сабе ўявіць нават, што гэту красачную п'есу, поўную юмара, пісаў Эдуард паміраючы! Да таго была вялікая вера ў жыццё ў гэтага пісьменніка. І мы адчувалі яго на прэм'еры побач з сабою—з жывым бляскам вачэй, схованых за акуляры.

Але гэта было толькі ўяўленне.

Адсутнасць Эдуарда як-бы штурхала кожнага з нас стаць на хвіліну на мейсца аўтара і праверыць, ці ўсё зрабіў тэатр, каб увасобіць у сцэнічныя вобразы герояў, намаляваных Самуйлёнкам.

П'еса «Пагібель воўка»—выдатны твор совецкай драматургіі. Яна з вялікай праўдзівасцю паказвае сучасны беларускі пагранічны калгас. Цудоўныя, мяккія, ледзь адцененыя юмарам фарбы ўжыў аўтар для паказа дадатных людзей калгаса. Мірон, Язэп, рыбак Анісім—усе гэтыя героі сучаснай вёскі не мысляць свайго існавання па-за калгасам. Ворагі народа—з'яўляюцца іх асабістымі злейшымі ворагамі. З вялікай сілай выразіў Самуйлёнак у простанародным складзе развагі Язэпа пра тое, «што такое вораг».

Найбольш ярка характар юмара Эдуарда Самуйлёнка праявіўся ў вобразе рыбака Анісіма, які прагнуў «увабраць сома» для калгаснага свята і нарэшце такі «ўвабраў яго». У Самуйлёнка Анісім паказан да скульптурнасці рэльефна. Такімі фарбамі намаляваны характар дае вялікія мажлівасці актору глыбока працаваць над роляй.

Вобразы ворагаў Харкевіча і Абабуркі, вобразы тыповыя. Гэта не карыкатурныя ворагі. Гэта ворагі, якія выклікаюць у нас велізарную нянавісць. Твор Самуйлёнка ўзбройвае нас на змаганне з ворагамі.

Наогул, трэба сказаць, што драматургічны талент Эдуарда Самуйлёнка быў вельмі значны. І п'еса «Сержант Дроб» і, асабліва, «Пагібель воўка» разам з сюжэтнай напружанасцю, насычанасцю ўнутранай драматургічнай дзеяй—даюць нам багата яскрава нама-

ляваных характараў. Вось чаму нашы тэатры так ахвотна працавалі з Самуйлёнкам і захапляліся яго драматургічнымі творамі.

Як можна ахарактарызаваць ідэю п'есы «Пагібель воўка»?

Яе можна ахарактарызаваць як ідэю нараджэння новых пачуццяў, новых маральных і эстэтычных поглядаў у людзей соцыялізма.

Гэтыя людзі ўжо не пра кавалак хлеба дбаюць, або аб тым, каб сыта пад'есці. Не! Аб гэтым ужо ніякага клопату ў іх няма. Ёсць клопат аб тым, каб высока трымаць сваю чалавечую годнасць у дачыненні да другіх людзей, выступаць маральна чыстымі перад сваімі таварышамі па працы. Таму Мірона Бокуця, які ўвасабляе ў сабе філасофію п'есы, найбольш непакоіць вось што:

«Тут напісана, што ў калгасе «Чырвоная ніва» завёўся злодзей. Што мы скажам гасцям нашым, калі яны спытаюць: А ці можна ў вас коней добрых без апаскі паставіць, збрую багатую на ваш догляд пакінуць? А ці знайшлі вы злодзея, які хлеб ваш змарнаваў, абкрадае вас і нам бяды можа нарабіць. Дык што-ж мы гасцям сваім адкажам?»

Такім чынам гэты злодзей разумеецца Міронам, як вырадак, што пляміць чэсную працоўную сям'ю.

Эстэтычныя і маральныя погляды гэтых людзей з'яўляюцца поглядамі людзей соцыялізма. Арка, якая будуецца калгаснікамі, увасабляе гэтыя эстэтычныя перакананні. І тут ізноў у словах Мірона знаходзяць адлюстраванне новыя пачуцці—благародства, гасціннасць—характэрныя рысы чалавека савецкай эпохі.

Вось што кажа Мірон:

«Брама—гэта ёсць гаспадарскі прывет, шырока адкрытыя дзверы ў гасцінную хату. Зробім браму такую, каб відаць было, што калгас наш недарма дзесяць год пражыў, што багацце мае і гасцям сваім рады. Браму зробім чыстай рэзьбай, з такарнай тонкай аздобай, з карнізам і па рысунку.»

Другая душа нарадзілася ў селяніна: замест варожасці да людзей—гасціннасць, замест брам з запорамі і замкамі, якія аддзялялі аднаго селяніна ад другога і з'яўляліся неад'емнымі ва ўласніцкім свеце—брама, як сімвал гасціннасці і шырока адкрытых дзвярэй у хату.

Максім Багдановіч цудоўна выразіў сілу межаў і платоў, якія адгараджвалі чалавека ад чалавека ў старым свеце:

Вось хату шчыльна абышлі
Парканы з вострымі цвікамі,
Пасыпаныя бітым шклом.
. . . . . . . . . . . . .
... а чалавек
Мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век.
Хаваўся ў іх як ліс у норы
І жыў пужліва сам-адзін,
Дрыжачы, як лісцё асін,
Зласлівы, бессардэчны, хцівы.
Такі здрадлівы,
Для ўсіх чужы, зусім чужы,
Вакол яго—платы, мяжы.

І вось замест гэтых платоў і межаў, якія адгараджвалі аднаго чалавека ад другога—цяпер адкрытая душа ў дачыненні да людзей.

З гэтай праблемай звязана і другая асноўная праблема п'есы Эдуарда Самуйлёнка: пагібель воўка, як канчатковая смерць уласніцкага пачуцця ў душы селяніна і як смерць воўка—ворага народа.

Эдуард Самуйлёнак ускладняе праблему: смерць воўка-ворага канчатковая і абсалютная. Нават дзеці пакідаюць яго. І тут адна з самых драматычных калізій п'есы.

Эдуард Самуйлёнак даў сваёй п'есе даволі традыцыйную інтрыгу: пошукі шпіёна, які перайшоў граніцу. Дзякуючы шматлікім драмаробам, якія сваімі скораспелымі п'есамі скампраметыравалі тэму выкрыцця шпіёнаў і шкоднікаў, у нас за апошнія часы ўстанавіліся даволі такі пагардлівыя адносіны да п'ес на тэму аб ворагах.

Але справа зразумела тут не ў тэме, якая быццам-бы скампраметыравана, а ў якасці твора.

І тым больш хвала Эдуарду Самуйлёнку, што ён у гэту традыцыйную інтрыгу ўклаў столькі пачуцця, насыціў яе такімі моцнымі вобразамі, што рамкі гэтай, здавалася-б, банальнай інтрыгі, пашырыліся і пісьменніку ўдалося стварыць хвалюючы па сваіх праблемах твор.

Аднак, калі адна з асноўных праблем п'есы Эдуарда Самуйлёнка,—праблема пагібелі воўка арганічна ўваходзіць у самую аснову сюжэта п'есы, дык праблема нараджэння новых пачуццяў у людзей соцыялізма і вобразы, звязаныя з гэтай праблемай (Мірон, Язэп, Анісім, Даніла, Сцепаніда) засталіся па-за сюжэтам п'есы.

Як-жа пастаноўшчык п'есы, рэжысер К. Саннікаў вырашыў на сцэне складаныя праблемы п'есы «Пагібель воўка»?

К. Саннікаву ўдалося стварыць рэалістычны спектакль, данесці да гледача адну з асноўных ідэй п'есы—ідэю пагібелі чалавека-воўка, на аблаву якога паўстае ўвесь народ. К. Саннікаў паставіў у цэнтры спектакля вобраз Харкевіча. Карціны, звязаныя з гэтым вобразам, распрацаваны найбольш дэтальна і пераканаўча. (Сустрэча Харкевіча з Вырвічам і Міколам у трэцяй карціне, Харкевіча і Абабуркі ў чацвертай карціне і, нарэшце, Харкевіч і Насця ў шостай, драматычна найбольш патрасаючай карціне, у якой Харкевіч канчаткова губляе дачку).

Саннікаў правільна зрабіў, што паставіў праблему пагібелі воўка—ворага ў цэнтр п'есы. Недарма сам аўтар назваў п'есу «Пагібель воўка», ды і падзеі, звязаныя з Харкевічам, складаюць аснову сюжэта п'есы.

Але пастаноўшчык не зусім зразумеў таго, што ў назву п'есы аўтар уклаў і ідэю пагібелі воўка ў сэрцы кожнага чалавека—пагібелі ўласніцкага пачуцця. Тое, аб чым якраз гаворыць у заключным маналогу Мірон:

«Кожны ў душы воўка насіў, кожнаму смага нажывы сэрца смактала... І прышла-ж пагібель воўка. Вось мы тут дружнай сям'ёй. Нам няма з-за чаго сварыцца... Мы вольныя совецкія земляробы, багатыя ад працы сваёй... Мы зямлю сваю, вольную радзіму любім,

смагі нажывы мы не ведаем, багаццю прыяцеляў сваіх не зайздросцім, а радуемся...»

Вось гэта ідэя шырока-адчыненай брамы ў гасцінную хату, шырока адкрытай душы ў дачыненні да свайго брата савецкага чалавека,—засталася нераскрытай пастаноўшчыкам.

Яно і зразумела. Ідэя гэта і людзі, звязаныя з ёю ў п'есе, бадай цалкам знаходзяцца па-за сюжэтам, і ўвасабленне гэтай ідэі на сцэне прадстаўляла значныя цяжкасці.

Тыя вобразы, якія на першы погляд здаюцца толькі бытавымі камедыйнымі вобразамі (накшталт Язэпа), не зразуметы пастаноўшчыкам, як вобразы, увасабляючыя мараль чалавека соцыялізма. Успомнім тут цудоўныя развагі Язэпа аб ворагах, дарэчы, часткова апушчаныя ў спектаклі:

«Я да таго трацкіста, чорта яму нанач,—кажа Язэп,—слова не сказаў, а ён мяне са света звесці хоча.»

Гэтым-жа імкненнем пакінуць па-за спектаклем вобразы, якія ўвасабляюць новыя адносіны людзей соцыялізма да сваіх таварышоў і ворагаў, тлумачыцца той факт, што патрасаючы маналог Нічыпара аб саве і пажары апушчаны ў спектаклі.

Або які значны сэнс заключаны ў мімаходзь кінутых словах Анісіма аб сваім сыне:

«Ужо да гары нагамі лётае, мёртвая пятля празываецца!»

Не кажучы ўжо аб Міроне, які цалкам увасабляе мараль чалавека новай эпохі.

Вось гэты бок філасофіі п'есы застаўся нераскрытым, дзякуючы значным сцэнічным цяжкасцям, якія паўставалі ў вырашэнні гэтай несюжэтнай праблемы п'есы.

Канцоўка п'есы ў Эдуарда Самуйлёнка засталася намечанай толькі ў агульных рысах, яна не распрацавана да драматургічнага гучання. Пастаноўшчык спрасціў і гэтую канцоўку п'есы. Выкрыццё ворагаў, якое ў Самуйлёнка звязана, бадай, з апошнім акордам п'есы, цяпер перанесена чамусьці ў пачатак карціны. Трэба зразумець, які значны сэнс набываюць наступныя словы Мірона, сказаныя ў прысутнасці Харкевіча:

«Ворагаў народа працоўнага не баімося, а яны баяцца нас!»

І зусім іншы сэнс маюць гэтыя словы, калі Харкевіч ужо выкрыты. Тут драматычная напружанасць маналога Мірона зніжаецца.

Думаю, што патрэбна было-б аднавіць апошнюю карціну ў такім выглядзе, у якім яна напісана Эдуардам Самуйлёнкам.

Адзначаючы спектакль «Пагібель воўка», як рэалістычны спектакль, трэба аднак заўважыць, што разуменне рэалізма ў пастаноўшчыка часамі абмежаванае. Рэалістычнае часамі разумеецца ім як абыдзеннае. Гэта абыдзеннасць, адсутнасць усяе тае страсці, унутранага пафасу, які закладзены ў п'есе, адчуваецца ў многіх карцінах. У залежнасці ад гэтай абыдзеншчыны знаходзіцца няроўны, часта замедлены рытм спектакля, разгортванне ўнутранай дзеі п'есы.

А між тым, такія людзі, як Бокуць, Харкевіч, Мікола, Насця—вельмі ўдзячныя вобразы для раскрыцця пафаса твора.

Адчуваецца ў спектаклі нераспрацаванасць масавых сцэн, асаб-

ліва гэта мы бачым у заключнай карціне. Тут дае сябе знаць тое, што бадай заўсёды суправаджае спектаклі ў беларускіх тэатрах. Абыякавае стаўленне да масавых сцэн. Ніводзін з маладых і старэйшых актораў не бліснуў у гэтых сцэнах якой-небудзь дасціпнай выдумкай, яркай дэталлю. Відаць, акторы беларускіх тэатраў не засвойваюць вялікіх традыцый такіх тэатраў, як МХАТ, дзе выкананне кожнай ролі, ад малой да вялікай, з'яўляецца справай свяшчэннай.

* * *

Пяройдзем да характарыстыкі асобных вобразаў п'есы, як яны зразуметы пастаноўшчыкам і акторамі.

Пачнем з Харкевіча.

У чым сутнасць вобраза Харкевіча і як яго зразумеў актор?

Вобраз Харкевіча знаходзіцца ў аснове сюжэта п'есы, як вобраз дзейнічаючы і рухаючы сюжэт п'есы наперад. Гэта драматургічны вобраз у сапраўдным сэнсе слова. Бо, рухаючы наперад сюжэт, ён не з'яўляецца падстаўной фігурай, праз якую ў будучым будзе развязан адзін з вузлоў п'есы. Не! Ён сам раскрываецца ў развіцці п'есы, як характар, як вобраз. Таму так і прыкоўваюць увагу гледача карціны, у якіх дзейнічае Харкевіч.

Што такое Харкевіч па замыслу аўтара?

Халуй. Але халуй пераконаны, упарты. У ім ёсць пафас халуйства. За дваццаць год яго здрадніцкай работы характар яго адносін да Шабінскіх змяніўся. Раней ён быў у залежнасці ад іх і баяўся іх. Але цяпер, што для яго гнілы Шабінскі, калі сам Абабурка яго пабойваецца. Дык чаму Харкевіч так аддан Шабінскаму, што грозна гаворыць Абабурку:

«Я ў крыўду гэтага чалавека не папушчу!»

А справа ў тым, што цяпер у дачыненні да Шабінскіх Харкевіч адчувае сябе лакеем высокага палёта. Ён ужо не проста служыць роду Шабінскіх, ён бачыць сваю місію ў апякунстве над гэтым родам. Яму відна ўся нікчэмнасць маладога Шабінскага, але-ж бацька некалі вынес на веранду маленькага Шабінскага і прасіў Харкевіча служыць яму верай і праўдай. І ён служыць, не за грошы, а з пачуцця халуйства прыроджанага. Цяпер Харкевіч стаіць ужо значна вышэй Шабінскага. Ён разумее сваю задачу ў тым, каб накіроўваць Шабінскага ў жыцці.

Вось асноўныя рысы вобраза Харкевіча так, як яны намаляваны Эдуардам Самуйлёнкам.

Праўда, Эдуард Самуйлёнак, баючыся ўпасці ў схему, не дае намёкамі гэтыя рысы Харкевіча, а імкнецца намаляваць шматгранны і разнастайны характар ваўка. Таму ў аўтара не зусім акрэслена асноўная страсць, якой жыве Харкевіч.

Для заслужанага артыста БССР тав. І. Глебава роля Харкевіча— вялікая творчая ўдача. Глебаў вядзе сваю ролю спакойна, не ўпадаючы ў схему, імкнучыся раскрыць шматстайны вобраз Харкевіча. Глебаў правільна зразумеў, што Харкевіч—не проста халуй Шабінскіх, а халуй пераконаны, у якога ёсць пафас халуйства. У кабінеце Абабуркі Харкевіч адчувае сябе гаспадаром і гэта вельмі яскрава

перадае Глебаў праз невялікую дэталь: Харкевіч садзіцца ў крэсла Абабуркі і адчувае сябе ў ім надзвычай добра.

Адзін з самых складаных момантаў у характары ворага Харкевіча—гэта яго ўзаемаадносіны з дачкой. У адной з цэнтральных карцін п'есы Харкевіч нават заплакаў, каб пераканаць дачку, што ён чэсны чалавек.

Нямала ёсць ахвотнікаў звесці гэты момант у характары Харкевіча да схемы. Харкевіч з пачуцця самазахавання, з пачуцця маскіроўкі заплакаў—так, кажуць, павінен быць інтэрпрэтыраваны гэты момант на сцэне. Але гэта пярэчыла-б замыслу аўтара.

Мы можам упэўнена сказаць, што Харкевіч заплакаў не толькі з пачуцця самазахавання і маскіроўкі. Іграе значную ролю і гэта пачуцце, але яго ўзаемаадносіны з дачкой больш складаныя, а да дачкі сваёй Харкевіч не абыякавы. Ён любіць яе, як воўк любіць ваўчанё. Ён ненавідзіць яе за яе вар'яцкі, як ён кажа, характар, які яна ўнаследвала ад сваёй маці. І вось ён заплакаў не толькі з мэты маскіроўкі, а і шчыра з прычыны тае, што губляе дачку—у тым сэнсе, што яна савецкі чалавек і пайшла ў варожы яму свет.

Так разумна і тактычна інтэрпрэтыруе гэты момант у пастаноўцы Глебаў.

Ёсць у Харкевіча незвычайны па сіле маналаг аб тым, як ён некалі пакідаў дзіцем дачку адну ў хаце, ідучы ў лес:

«Іншым разам... бяжыш з абходу, снег па калена, брыдзеш—проста сілы няма, а сэрца як з грудзей не выскачыць: як там яна, сіраціна бедная, адна ў хаце, пад замком? Мала што?.. Агонь, віхор, ліхі чалавек... Ажно глядзіш—у ваконцы галоўка беленькая...»

Глебаў-Харкевіч гаворыць гэтыя словы і раптам глядзіць на дачку сваю Насцю, якая знаходзіцца побач з ім. На хвіліну твар яго як-бы праясніўся: перад ім тая самая белая галоўка, якую ён любіў, калі дачка была дзіцем. Але твар Харкевіча праясніўся толькі на імгненне, а потым зноў хмурасць. Гэта ўжо не тая Насця, гэта варожы чалавек, якога яму не ўбачыць больш, які асудзіць яго.

І гэта дэталь, знойдзеная Глебавым, выдае ў ім майстра тонкага, наглядальнага.

Харкевіч паўстае нават перад намі як «лірык». Ён гаворыць, што прытуліў зайчыка-марцовіча, які застудзіўся. Вельмі-ж шкадуе малых звяркоў! Але гэта рыса яго характару, як смелы і яркі кантраст, яшчэ больш абнажае яго агіднае аблічча.

Трэба, аднак, адзначыць, што Глебаў часамі залішне спакойна вядзе сваю ролю. Актор павінен вылучыць у сваёй ролі пункты найбольш яркага праяўлення страсці ў Харкевіча і выявіць гэту страсць з усёй сілай. Часамі ў Глебава атрымліваецца крыху залішне «звычайна», абыдзенна, што называецца, «як у жыцці».

І яшчэ адно пярэчанне можна было-б высунуць у дачыненні да выканання Глебавым ролі Харкевіча. У карціне сустрэчы ў яме з Шабінскім ён выступае слабым, як вораг. Ён залішне прэсмыкаецца перад Шабінскім. Харкевіч сам павінен накіроўваць Шабінскага ўладарнай рукой, а ён у гэтай карціне пакорна цалуе яго ў плячо.

Больш суровасці павінна быць у гэтай карціне, дзе акрамя таго засл. арт. БССР К. Быліч зноў дзейнічае штампам «дэманічнага» ворага.

Як адмоўнае ў дачыненні да гэтай карціны, трэба адзначыць і тое, што рэжысер і мастак унеслі ў яе пэўныя элементы авантурнасці,—таямнічы выгляд ямы, прыслухоўванне да шолахаў над зямлёй, прыпаданне Шабінскага і Харкевіча на колькі хвілін да зямлі і г. д.

Гэта ўжо дэталі не з рэалістычнага спектакля «Пагібель воўка», а з нейкай другой, авантурнай пастаноўкі.

У завяршэнне можна сказаць, што адзін з цэнтральнейшых вобразаў п'есы—вобраз ворага Харкевіча знайшоў добрага выканаўцу ў асобе заслужанага артыста БССР І. Глебава.

Адной з найбольш хвалюючых карцін у спектаклі «Пагібель воўка» з'яўляецца карціна ў кабінеце Абабуркі. Поспех яе абумоўлены не толькі яе драматургічнымі якасцямі, а і выкананнем ролі Абабуркі народным артыстам БССР В. Уладамірскім.

У вобразе Абабуркі Эд. Самуйлёнак выключна праўдзіва паказаў адну з рознавіднасцей ворагаў, якіх не мала было прабралася на кіруючыя пасады ў БССР. Гэта тупы, малапісьменны тып, шчэдрынскі пампадур, які існуе выключна падтрымкай вышэйшага начальства. Аб сваіх здольнасцях ён трымаецца вельмі высокай думкі. Ён творыць суд «правы» і скоры, ён дзейнічае па ўсіх правілах, характэрных для такога роду суб'ектаў. Тып гэтага ворага—паклёпніка, нахабнага да крайнасці ў сваіх дзеяннях (успомніце з якой лёгкасцю ён «давёў», што Лук'ян Рабічка вораг і выклікаў «чалавечка» з пракуратуры)—вельмі жывучы. Іменна сярод паклёпнікаў трэба шукаць асіныя гнёзды яшчэ невыкарчаваных ворагаў народа, указываў тав. Жданаў на XVIII з'ездзе ВКП(б).

Уладамірскі красачна іграе ролю Абабуркі. Ён даводзіць свой вобраз аж да гратэска, але тым не менш вобраз не траціць сваёй жыццёвай праўды. Уладамірскі знаходзіць шмат незвычайна характэрных, чыста «начальніцкіх» рысаў і дэталей для свайго вобраза. Успомнім тут чыста начальніцкае падцягванне халяў, заклапочаны выгляд працы ў часе прыходу калгаснікаў (ручка ўпоперак рота), шматлікія, вар'іраваныя на розныя лады з рознымі адценнямі, размовы па тэлефону (цудоўна знойдзеная дэталь заікання па тэлефону), перапуг ад гудка машыны, жэст, які суправаджае словы «Абабурку капаюць»... і г. д.

Можна сказаць, што ў сэнсе пошукаў яркіх дэталей Уладамірскі працаваў больш, чым другія акторы і дабіўся немалых поспехаў.

Але Уладамірскага і тут яшчэ часткова суправаджае яго заўсёгдашні спадарожнік: пераігрыванне. Пачуцце меры—вялікая справа ў мастацтве, а іменна ім слаба валодае Уладамірскі. Адсутнасць пачуцця меры, паўтарэнне адной ярка знойдзенай дэталі некалькі разоў—характэрныя асаблівасці яго выканання. Вельмі доўгім выглядае шлях Абабуркі па кабінету, калі ён даведваецца аб арышце высокага начальніка. Там, дзе трэба даць толькі намёк у жэсце,

Уладамірскі дае столькі падрабязнасці і падкрэсленасці, што жэст траціць свой сэнс.

Больш скромнасці, сцісласці, больш разумення таго, што часамі ціха сказанае слова, скромны жэст, з'яўляецца больш выразным, чым падкрэсленасць, якая выглядае, як навязчывасць.

Мы ўжо гаварылі вышэй, што ў п'есе Эдуарда Самуйлёнка ёсць група персанажаў, якія непасрэдна не ўваходзяць у сюжэт п'есы, знаходзяцца па-за сюжэтам, але тым не менш напісаны ярка і красачна.

Неразумна было-б не бачыць таго, што героі гэтыя ад таго, што пазбаўлены дзейных функцый у сюжэце, шмат трацяць у драматургічным сэнсе. Яны страцілі адну з галоўнейшых якасцей—драматургічную дзею і ў іх засталося адно: надзіва дасціпны і яркі тэкст. Гэта такія вобразы, як Мірон, Язэп, Сцепаніда, Даніла і другія. Сюжэт мінае іх, ён праходзіць захопліваючы галоўным чынам Харкевіча, Насцю, Абабурку, Міколу, Вырвіча. І вось аказалася, што, паміма ўсяго іншага, у спектаклі не знайшлося актораў камедыйнага плана, здольных увасобіць хаця-б у бытавым плане (мы ўжо не гаварым аб раскрыцці ідэйнай сутнасці) вобразы, накшталт Данілы, Сцепаніды.

У Сцепаніды ў выкананні засл. артысткі БССР Л. Ржэцкай—мала натуральнасці, адчуваецца наіграная камедыйнасць, якая дасягаецца галоўным чынам крыкам, непамернай мітуслівасцю, усім тым, што ідзе ад знадворнай камедыйнасці.

Даніла, хоць больш натуральны і просты ў выкананні арт. І. Счэнсновіча, але, тым не менш, не даходзіць да гледача. Проста, актор выконвае неўласцівую яго дараванню ролю.

Тут-жа трэба сказаць аб культуры слова ў нашым драматычным тэатры. У п'есе «Пагібель воўка» упершыню за многія годы тэатр сустрэўся з сапраўды цудоўным тэкстам. Кожнае слова мае свой захаваны сэнс. Гэта слова шліфавана майстрам Самуйлёнкам і пастаўлена на грань. Яно свеціць рознымі колерамі, але на пэўнай, аўтарам пастаўленай грані, бляск яго дасягае самай вялікай сілы. Няўмелае абыходжанне з словам, паварот з гэтай грані—і бляск цямнее, або слова зусім губляе колер. Эдуард Самуйлёнак цудоўна валодае так-званым шматзначным дыялагам, гэта значыць, уменнем гаварыць пра рэчы, якія-б, здавалася, непасрэднага дачынення да справы не маюць, а тым не менш выражаюць многае. Дыялаг Самуйлёнка надзіна красачны, перасыпаны трапнымі, юмарыстычнымі зваротамі. Вось узоры гэтага яркага і перасыпанага юмарам дыялага.

Харкевіч кажа аб настаўніцы: «Каб маладыя мне гады, я тут каля школы яму капытамі выбіў-бы».

Вырвіч гаворыць: «Я ўдзень і ўночы, як мыш у карабе кідаюся... галава раскідаецца. Баба яшчэ завяла фіцгармонік—з хаты ўцёк. Вышаў на людзі, і тут цябе ледзьве не тое, што з кіямі па вуліцы гоняць. Хоць ты ідзі ўтапіся, пакуль яшчэ рэчка не перасохла!»

Харкевіч яму адказвае: «Ты пра гэта не бядуй. Для цябе вады і ў жбане хопіць.»

Вырвіч: «А што ты думаеш! Абы вусы памачыў—і гатоў. Колькі таго чалавека, а жыць яму не даюць!»

Той-жа Вырвіч кажа: «Журавінкай займаюся. Падснежная... Ах, кіслая шэльма, аж у вушах пішчыць! Трэба-ж, каб такая кіслая фрукта на балоце ўрадзілася».

І ён-жа гаворыць да Мірона: «Што ты ездзіш, як п'яны цыган па возеру!»

Харкевіч апавядае аб Міроне: «Тады Мірон як спляжыў, дык з таго Збышкі і пара вон... З год ці два пакашляў Збышка і ляснуў да сцяны».

Басавітая аграмадзіна Сцепаніда гаворыць аб мужы: «А ён як тхор, ён рады птушанятка беднае прырэзаць. Ах ты, гад ты! Як гэта я за цябе замуж ашалеўшы вышла?»

Даніла-ж кажа пра свайго бычка: «Каб ён столькі хлеба з'еў, колькі твае індыкі, ён рогам неба дастаў-бы.»

«Анісім: Толькі нікому не кажы, акрамя ўсяго сома хачу ўвабраць.

Язэп: Ну? А дзе ён?

Анісім: Ля лужка ў віры, пад абрывам. Шэсць пудоў, а можа і болей. Не бярэцца!

Язэп: На папяровага гусака браў?

Анісім: Не бярэ.

Язэп: А на баранняе лёгкае?

Анісім: Не бярэ.

Язэп: То паспрабуй на курыныя кішкі. Толькі не на ўсю курыцу, а чыста на кішкі...

Анісім: Усяк спрабаваў...

Язэп: А на смажаную жабу?

Анісім: І глянуць не хоча!»

Даніла кажа да Сцепаніды: «Упоперак музыкі пяеш», а Сцепаніда адказвае яму: «Ты не крычы, Даніла браток».

А вось узоры шматзначнага дыялага:

«Вецер павеяў, гром загрымеў, ляснiку клопат.»

«Ах, жыта грыміць! Аўсы якія, лён узышоў і разлапушыўся, што канюшына.»

Вырвіч пытае Харкевіча: «Ты хто такі, д'явал ты ці чалавек?!» Той-жа Вырвіч кажа: «А пасля размінемся, каб чубы не блытаць. Хай яно згарыць.»

Мікола гаворыць пра сябе: «Харкевіч яму і за бацьку і за матку. І лес, і балота, і ночка цёмная, і куля ў лоб—нічога!»

Калі Абабурка і Французевіч вывозяць шпіёна, Харкевіч ледзьве не моліцца за поспех справы і вось як гэта выражана ў яго словах: «Ні то машына шуміць, ні то гэта вецер... Яны ўжо на бальшаку цяпер. Што гэта? Ні-то крыкнуў нехта... Божа мой, божа! Не... мусіць здалося...» І ў другім месцы: «Кроў рушылася. Спачатку нічога, а цяпер зашумела ў галаве. Выпіць хіба яшчэ. Ну, дык заўтра за ўсё разбярэмся... за дабрачынцаў маіх, за дабрадзеяў высбкародных, заўтра я вам адплачу...»

І вось на спектаклі «Пагібель воўка» з болем заўважаеш, што

гэты сапраўды цудоўны тэкст далёка не заўсёды даходзіць да гледача з усімі асаблівасцямі яго гучання, з усёй сваёй шматзначнасцю, шматграннасцю. І часамі тая фраза, якая павінна навеяць гледачу вялікае пачуццё, застаецца толькі фразай, таропка і невыразна выказанай акторам. Актор не заўсёды сам разумее, а рэжысер не дапамог яму ў разуменні таго, якія з слоў з'яўляюцца найбольш ударнымі, важнымі, вырашальнымі. Сам-жа актор часта пазбаўлены адчування прыгаства мовы таму, што культура беларускага слова ў нашых тэатрах стаіць яшчэ на даволі нізкім узроўні.

Растрачваюць, не даносячы да гледача цудоўны тэкст не толькі Язэп, Даніла, але і Вырвіч, вобраз якога цалкам пабудаваны на вострым слове.

Толькі Мікола ў выкананні засл. арт. БССР Б. Платонава складае тут прыемнае выключэнне. Ён з вялікім пачуццем і глыбокім адчуваннем тэкста чытае цудоўны, выключна дзейсны ў сюжэце маналог аб пагранічніках:

«Сёння на заставе пагранічнікі мяне чаем частавалі... Частуюць, гавораць... А самім, відаць, горка... Парушальнік збег... Тэлефоны гудуць, той туды, той сюды... А мяне частуюць, а я для іх—першая сволач... Я сяджу і ўсё ведаю... Як і што... А яны мне вераць... Чаму я не такі, як людзі?..»

Праўда, Платонаў, які стварыў вельмі моцны вобраз дыверсанта Міколы, вядзе сваю ролю на грані са штампам. Ён не перайшоў яшчэ тэтай грані, але патрэбна вельмі нямногае, каб яе перайсці. Гэтаму яшчэ дапамагае звычная нервовасць, надрыў, які заўсёды быў уласцівы Платонаву, як актору.

У другога выканаўца ролі Міколы акт. І. Шаціла больш адчуваецца вобраз вясковага бандыта з усімі манерамі, уласцівымі такому тыпу, але Шацілу не хапае таго майстэрства і бляску, з якім вядзе ролю Платонаў (успомнім, як абыгрываецца Платонавым нож у шостай карціне).

Што можна сказаць аб Вырвічу ў выкананні акт. В. Былінскага?

Ён стварыў вобраз адэкватны таму, які дадзены ў п'есе Самуйлёнка. Баязлівы, але прагны чалавек, ён стаў ахвярай каршуна Харкевіча. Уся яго істота імкнецца быць такой, каб яе не заўважалі, ён як-бы стараецца стаць меншым. Прагнасць яго зусім выключная! Вельмі добра перадае Былінскі роспачны выкрык Вырвіча, калі ён даведваецца ў якія лапы трапіў: «Плаці мне зараз-жа і колькі захачу!»

Аднак Былінскі, як і іншыя акторы, вельмі часта губляе цудоўны тэкст свайго героя, не даносячы яго да гледача. Акрамя таго, сляды пераўвасаблення ў Былінскага відны нам як на далоні. Актор вельмі напружаны, яму няёмка ў сваёй ролі. Можа гэта толькі ў першых спектаклях будзе адчувацца, а надалей актор зжывецца з сваім вобразам, але пакуль што гэта напружанасць вельмі і вельмі прыкметна. Тут можна было-б прывесці цікавы прыклад. Карэнін у выкананні Хмелёва ў МХАТ знаходзіцца ў самай неймавернай па напружанню постаці, але ў нас застаецца такое ўражанне, быццам актор усё сваё жыццё знаходзіўся ў гэтай постаці—да таго ён вольна

адчувае сябе ў ёй. Мы не параўноўваем тут Былінскага з Хмелёвым. Але ў даным выпадку Хмелёў узор, да якога павінен імкнуцца артыст.

Прыемнае ўражанне пакідае засл. арт. рэспублікі Г. Грыгоніс у ролі дзеда Анісіма. Радуе нас таксама знадворны рысунак ролі і вельмі ўдалы грым, адзенне. Чырвонаармейскі шлем адразу падкрэслівае, што ў сям'і Анісіма ёсць напэўна ваякі! А акуляры! Рыбак у акулярах! Гэта вельмі дасціпна прыдумана!

Такое-ж добрае ўражанне пакідае В. Краўцоў у ролі Лук'яна Рабічкі. Краўцоў стварае вобраз у нейкай меры падобны да нашага слаўнага Батоўкіна.

Яшчэ дзве дзейныя асобы спектакля «Пагібель воўка» патрабуюць спецыяльнай увагі. Гэта Мірон Бокуць і Насця.

Уся складанасць гэтых вобразаў заключаецца ў тым, што яны раскрываюцца як характары, галоўным чынам, не праз свой тэкст, а праз тэкст другіх дзейных асоб. За плячыма Насці і Бокуця біяграфія. Іх характары трэба стварыць пры даволі скупым тэксце, пры частковым пазбаўленні гэтых вобразаў дзейных функцый у п'есе.

Мірон—вобраз, які вельмі ў малай ступені раскрываецца праз уласныя вусны. Затое ён раскрываецца праз вусны другіх дзейных асоб.

Гэты вобраз варты выканання вялікага актора. Мірон маўклівы чалавек, які 12 год цягаў ланцугі толькі за тое, што не сцярпеў зневажэння яго чалавечай годнасці. Ярчэй за ўсё яго характарызуе Харкевіч:

«А Мірона сагналі ў Сібір. Там ён 12 гадкоў і адзваніў. Не жыў тут пасля катаргі: толькі на магілу бацькаву крыж дубовы з панскага лесу паставіў, узяў сякеру пад паху, сказаў, што праўду нейкую пойдзе шукаць. І як сышоў—дык толькі перад самым калгасам з'явіўся. Гэты ў крыўду не папусціцца».

Тут вельмі скупыя дэталі характара Мірона. Ніхто не ведае, што перадумаў Мірон, пасля таго, як прыбіў урадніка Збышку. Дубовы крыж, ды яшчэ з панскага лесу, які Мірон паставіў на магілу бацькі, раскрывае нам таксама характар Мірона. Але актору трэба зразумець, чаму Мірон зышоў з вёскі, дзе ён быў і што ён мог рабіць у часы свайго вандравання. Усяго гэтага няма ў п'есе. Але гэта павінна дамалёўваць фантазія актора.

На вялікі жаль, мы мала знойдзем у беларускіх тэатрах актораў такой сілы, якія-б змаглі ў скупы тэкст укласці біяграфію героя, яго жыццё. Трэба, каб кожны жэст Бокуця быў магутны. Гэта-ж адна з нямногіх суровых і рамантычных фігур у п'есе. Пра яго сказана: «Але-ж Мірон! Як устаў—проста страх. Я ўжо думаў згняце Сільвестру пад ногі!»

Якія-ж жэсты, які выраз твару патрэбен, каб паказаць магутны гнеў Бокуця. Гэтыя жэсты павінны быць нешматлікімі, а сапраўды страшнымі.

А перад намі ў выкананні засл. арт. БССР В. Дзядзюшкі звычайны, абураны стары, які грозіць Вырвічу. Не знайшоў актор не-

паўторных і магутных рухаў, не даволі ён прадумаў усё жыццё Бокуця, каб зразумець, як мог паступіць чалавек, які за абарону сваёй чалавечай годнасці 12 год катаржныя ланцугі цягаў. І толькі ў кабінеце Абабуркі, дзе Бокуць уваходзіць непасрэдна ў сюжэтную плынь п'есы, дзе ён стаіць твар у твар з агідным для гледача Абабуркам—словы Бокуця выклікаюць сімпатыю ў публікі.

Тое-ж, прыкладна, трэба сказаць і аб вобразе Насці.

Яна раскрываецца ў словах, якія належаць не ёй. Харкевіч параўноўвае яе з маці, якая кінулася ў пробуб і дадае, што Насця яшчэ мудрэй за матку. Але гэта толькі адна яркая дэталь у характары Насці. Характар Насці—характар чалавека з вялікай унутранай сілай. Яна маўклівая (Харкевіч аб ёй кажа «маўчыць, як сцяна»), пачуцці накопліваюцца ў яе душы паволі, але завяршаюцца страшэннай сілы псіхалагічным выбухам).

Высокаадаронай артыстцы І. Ждановіч не ўдалося па нямногіх дэталях характара Насці аднавіць усё яе аблічча. Таму яна невыразная ў сваёй асноўнай страсці. Мы не бачым гэтых страшных па сваёй сіле, псіхалагічных выбухаў у паводзінах Насці. Здавалася-б, што Ждановіч, артыстцы ярка-рамантычнага даравання, якраз і падыходзіць роля Насці. Але справа ў тым, што Ждановіч нервознасць праяўляе пакрысе на працягу ўсёй ролі, не скоплівае ўнутры пачуцці, якія павінны выявіцца з вялікай сілай у пэўны момант. Адзіным выключэннем з'яўляецца эпізод, у якім Насця-Ждановіч з магутнай унутранай сілай падымае руку супроць бацькі.

Артыстка Л. Шынко—выглядае больш земнай і спакойнай у ролі Насці, таму і пачуцці праяўляюцца ў яе ў патрэбных месцах даволі акрэслена, але ўсё-ж няма ў яе вачах у часы гневу таго страшнага агню, якога так баіцца Харкевіч. Характэрна, што Харчевіч, відаць, прыкмеціўшы гэты агонь у вачах Насці, гаворыць бадай са страхам: «Ганна, уся Ганна, чыста вар'яцкага роду». А ў гэты час твар артысткі бадай спакойны.

Смерць перашкодзіла Эдуарду Самуйлёнку дапісаць у п'есе вобразы Усенка і Дабрыніна, хоць з гэтымі вобразамі звязаны і асноўны парок п'есы—яны бадай не ўваходзяць у яе сюжэт. Аднак, мы не сумняваемся, што талент Самуйлёнка знайшоў-бы патрэбныя фарбы для больш яркай абрысоўкі гэтых персанажаў, калі-б смерць не вырвала пяра з рук пісьменніка.

Цяпер-жа ў п'есе яны мала гавораць, а больш дзейнічаюць, прычым другія героі п'есы апавядаюць нам пра іх дзейнасць.

Ствараючы гэтыя вобразы, Эд. Самуйлёнак па прыроджанаму вялікаму мастацкаму чуццю ўсяляк ухіляўся ад надання шаблонных рыс гэтым двум лепшым прадстаўнікам большэвіцкай партыі. Ён пазбавіў гэтых герояў асабістай лініі ў п'есе. Мог ён, зразумела, па ўзору некаторых аўтароў «завярцець» любоўную гісторыю «пагранічнага характару» паміж Усенка і Насцяй, але адчуваючы наколькі гэта было-б пошлым, ён адмовіўся ад такой зацеі. Таму, не знайшоўшы другой сапраўды мастацкай калізіі, ён пакінуў у п'есе вобразы Усенка і Дабрыніна дзейнічаць толькі ў іх службовай

функцыі. У якасці такіх іх і выконваюць—Усенку—арт. Б. Кудраўцаў і Дабрыніна—засл. арт. БССР С. Бірыла.

Наогул-жа несправядлівымі трэба лічыць сцверджанні, што ў п'есе «Пагібель воўка» няма дадатных герояў. Гэта і Насця, і Мірон, і Язэп, і Сцепаніда, і дзед Анісім.

Яны—непартыйныя большэвікі, якія сваімі рукамі здабывалі сваё шчасце і не аддадуць яго ніякім ворагам, ніякім ваўкам.

Спектакль «Пагібель воўка» добра прымаецца гледачом. П'еса цікавая, сюжэт яркі і ён адразу захоплівае гледача. Аднак, тэатр, які рыхтуе гэты спектакль для дэкады беларускага мастацтва ў Маскве, не павінен заспакоіцца над зробленым. Трэба зразумець, што да такога спектакля мы прад'яўляем найвышэйшыя патрабаванні, якія наогул прад'яўляюцца да нашага мастацтва.

З гэтых установак мы і выходзілі ў артыкуле пры ацэнцы асобных выканаўцаў.

Увесь багаты сэнс п'есы Эдуарда Самуйлёнка цалкам яшчэ не раскрыт тэатрам. Трэба шмат працаваць над асобнымі вобразамі, над раскрыццём тэкста.

Спектакль «Пагібель воўка» павінен увайсці на многія годы ў рэпертуар нашых тэатраў.

---

*М. Клімковіч*

# ПЯТРО ГЛЕБКА

Паэт Пятро Глебка нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Уса, Уздзенскага раёна. Бацькі яго былі сялянамі-серадднякамі. Дзіцячыя гады паэта прайшлі ў звычайнай вясковай абстаноўцы. У 1922 годзе ён скончыў Уздзенскую сямігодку, у 1927 годзе— Менскі Педагагічны тэхнікум, а ў 1930 годзе—лінгвістычнае аддзяленне Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта. Літаратурныя творы пачаў пісаць будучы ў тэхнікуме. Выхадцу з сялянскага асяроддзя, навучаючамуся за сродкі савецкай дзяржавы, яму ў літаратуры была адна дарога—простага і шчырага служэння свайму народу, служэнне новаму соцыялістычнаму ладу, які так шырока адчыніў перад ім дзверы жыцця і навукі. Але літаратурнае асяроддзе таго часу было вельмі засмечана людзьмі, якія былі варожымі гэтаму ладу. Неіставым лямантам пра нейкія «асаблівыя» задачы беларускай літаратуры, якія, моў, адрозніваюць яе ад другіх братніх савецкіх літаратур, фальсіфікацыяй гісторыі народа і яго літаратуры і сцвярджэннем пра яе нібыта большую блізасць да заходне-еўрапейскай культуры, чым да рускай культуры, нацыяналісты таго часу збівалі з пуці маладыя пісьменніцкія кадры. Асаблівым нападкам падвяргалася палітычная паэзія, на чале якой стаяў Владзімір Владзіміравіч Маякоўскі. Яе вострая палітычная накіраванасць, трапнасць яе ўдараў па ворагах народа і ўсё пашыраючаяся ўплывовасць на пісьменніцкія кадры—прыводзіла ў шаленства беларускіх нацыянал-фашыстаў і яны ўсімі сіламі намагаліся супроцьставіць ёй упадніцкую лірыку Есеніна, кволую пачуццёвасць сімвалістаў, а то і проста багемную «безвыходнасць» і «афяраванасць». Маладому паэту ў гэтых абставінах было трудна зразу знайсці правільны шлях, тым больш, што і палітычная паэзія на Беларусі ў той час была засмечана варожымі людзьмі, якія скарыстоўвалі трэскучыя фразы аб сваёй адданасці савецкаму ладу для прыкрыцця яўна антысавецкіх спраў. Да гэтага далучалася яшчэ і тое, што большасць прадстаўнікоў гэтага тыпу «літаратараў» аб'яднаўшыхся ў «Маладняк», былі яўна бяздарнымі і літаратурна непісьменнымі. З гэтае прычыны ў 1926 годзе П. Глебка выступае з «Маладняка» і пераходзіць у «Узвышша», абмануты яго фальшывым лозунгам барацьбы за «высокае чыстае мастацтва». Таленавіты юнак пападае з агня ды ў полымя. Падхалімская нацыяналістычная крытыка старанна расхвальвае ўсе яго палітычныя зрывы, падштурхоўвае на шлях нацыяналістычнага разумення

рэчаіснасці, услужліва падсоўвае затрапаныя і замызганыя нацыяналістычнымі паэтамі літаратурныя вобразы—ад калючай шыпшыны (цвяты якой павінны былі сімвалізаваць нацыяналістычную інтэлігенцыю) да вясковай дзяўчыны, якую зламаў і выкінуў на панель «крыважэрны» горад. З другога боку яна з усёй катэгарычнасцю вытручвае з паэзіі савецкую тэматыку, нават само ўпамінанне пролетарскай рэволюцыі, а калі гэта стала немагчымым, накіроўвае ўвагу паэзіі на ценявыя бакі рэволюцыі.

Літаратурнае выхаванне, літаратурнае асяроддзе—вялікая рэч, асабліва тады, калі маладым неспакушаным кадрам, некалькі адарваным ад народных мас, прыходзілася на свой страх і рыск знаходзіць сваю літаратурную дарогу, бо ворагі народа, праваўшыся на кіруючыя пасты ў Беларусі, рабілі ўсё магчымае, каб засланіць ім адзіна правільнае разуменне пролетарскай рэволюцыі. Таму нас не павінна здзіўляць не толькі тое, што першыя вершы П. Глебкі, сабраныя ў зборніку «Шыпшына», але і паэмы «Арлянка», «Арка над акіянам» і значная частка твораў у зборніку «Хада падзей»—носяць у сабе сляды гэтага «узвышэнскага» «выхавання» паэта, носяць сляды няправільнага, скажонага разумення рэчаіснасці. Ясней за ўсё гэта відаць у паэмах «Арка над акіянам» і «Арлянка». Не гледзячы на суб'ектыўныя намеры аўтара, які відавочна хацеў гэтымі творамі разарваць варожае кола, якое ўтварылі вакол яго узвышэнцы, хацеў выйсці на шлях актуальнага служэння рэволюцыі (пра што сведчыць і актуальная тэматыка, якая амаль упершыню распрацоўваецца ў беларускай літаратуры П. Глебкам і вострая палеміка з нацыяналістамі на самых асноўных пытаннях нацыянальнай палітыкі)—у гэтых творах правільнага паказа рэчаіснасць не атрымалася. Замест жывых вобразаў савецкай інтэлігенцыі—у «Арцы над акіянам»—аказаліся вобразы—сімвалы, бясплотныя ўвасабленні ідэі, прычым недастаткова прадуманай і ўсвядомленай. Галоўны герой паэмы інжынер—Яновіч—рабочае паходжанне якога абсалютна нічым не апраўдана ў паэме, на справе праводзіць лінію сабатажа асушкі балота, пакрываючы дыверсанта Яцыну, паказан, як мірны лятуценнік, які адарваў тэорыю ад практыкі і за гэта скончыў жыццё самагубствам. Паэт хацеў сказаць, што нейтральнасці ў класавай барацьбе не можа быць, якой-бы высокай матэрыяй гэта нейтральнасць не пакрывалася, але недастатковая палітычная зрэласць паэта штурхнула яго на шлях ваплашчэння гэтай нейтральнасці ў далёка не нейтральным чалавеку. Варта ўспомніць хаця-бы смерць Яновіча: ён, пакрыўджаны тым, што рабочыя адхілілі яго «светлую паэтычную мару»—пабудовы нікому непатрэбнай «аркі над акіянам» балота, а проста і груба асушылі гэтае рэальнае балота, пакрыўджаны здрадай падхаліма дыверсанта Яцыны—вешаецца на арцы, якую пабудавалі рабочыя, закончыўшы асушку балота. Гэта далёка не нейтральны учынак і не простае пакаранне сябе за памылку. Гэта актыўна варожы акт, як актыўна варожымі былі лятуценні Яновіча і яго практычная работа на пабудове торфзавода. Жаданні аўтара, задуманы ім вобраз не саўпалі з тым, што атрымалася на справе, бо гэтаму перашкодзіла дрэннае веданне

совецкай рэчаіснасці, скажонкае разуменне яе з прычыны ўплыву акаляючага яго літаратурнага асяроддзя. Таксама не саўпаў з жаданнем аўтара і вобраз жонкі Яновіча—Алісы, увасабляючай вобраз хістаючайся часткі інтэлігенцыі, якая нарэшце прыходзіць да пролетарыята. Аліса, пакінуўшы свайго бога дзеля Яновіча, не выдае совецкай уладзе дыверсанта Яцыну, віноўніка вар'яцтва яе мужа, толькі таму, што паклялася тым самым богам выпадкова знойдзенаму ёй у лесе Яцыну—захоўваць яго тайну. Усе яе сумненні, паказаныя ў паэме, ідуць не ад жыцця, а ад намаганняў паэта максімальна пашырана паказаць «ваплашчэнне ідэі». Гэтыя намаганні прыводзяць да адваротных вынікаў: станоўчы па замыслу аўтара вобраз становіцца непрыймальным для чытача, а «шматграннасць» вобраза і глыбіна перабудовы яго характара становяцца фальшывымі, не пераканальнымі. Падобная метамарфоза атрымліваецца і з вобразам сакратара партарганізацыі—рабочага Гафрона. Па замыслу аўтара ён павінен увасабляць волю рабочага класа, даводзіць да практычнага канца практычна-карысныя справы, адкідаючы ў бок «нейтральныя летуценні і мары» і разбураючы козні ворагаў. А на справе ён дае палітычна няправільную ацэнку дзейнасці Яцыны, не змагаецца за пераход лепшай часткі інтэлігенцыі на бок пролетарыята, самаўхіляецца ад канфлікта паміж Яновічам і Яцынам і ў канцы паэмы праяўляе мяшчанскі «гуманізм» у дачыненні да заклятых ворагаў народа. У гэтым-жа плане пададзен і вобраз дыверсанта Яцыны, яго дзеянні абстрагіраваны, адарваны ад сапраўднай рэчаіснасці: як бясплотны дух з'яўляецца ён у кантору завода, падпальвае завод, на ваччу ў народа і Яновіча кідае ў агонь планы яго «аркі над акіянам» і знікае ў лес, нікім не затрыманы. Гэтыя вобразы нельга назваць схематычнымі: яны досыць грунтоўна распрацаваны, паказаны праз нарастаючыя канфлікты і ўзаемадзеянні, праз псіхалагічныя перажыванні. Але дзякуючы недахопам свайго тагочаснага светапогляду паэт не здолеў пературарыць іх у вобразы жывых людзей, якія не толькі па замыслу аўтара, але і сваім эмоцыянальным уздзейнічаннем на чытача і логікай сюжэта павінны сцвярджаць правільныя і патрэбныя нам ідэі.

Паэма «Арлянка» напісана значна лепш. У ёй менш сімволікі, вобразы людзей больш рэалістычны, маецца рад мейсц, якія сведчаць аб правільным разуменні паэтам нацыянальнай палітыкі партыі і здрадніцкай ролі нацыянал-фашыстаў. З мастацкага боку паэма таксама значна вышэй: яна мае добра распрацаваны сюжэт з радам высока-драматычных палажэнняў. Сцэна спаткання Арлянкі—з сваім любімым Азорычам, якога палякі пасадзілі ў свіран, злавіўшы, як чырвонага разведчыка, сцэна допыту самой Арлянкі, папаўшай у засаду, сцэна мнімай здрады Азорыча, сцэна, у якой паўстаўшы полк патрабуе выдачы яму Арлянкі, западозранай у здрадзе—поўны такога драматычнага напружання. Нажаль паэма пабудавана на негатыўным моманце з гераічнай барацьбы Чырвонай Арміі, за вызваленне Беларусі ад белапалякаў: на паўстанні аднаго з чырвонаармейскіх палкоў. Гэта пазбавіла паэта, не гледзячы на яго суб'ектыўныя намеры, магчымасці паказаць са-

праўдны гераізм Чырвонай Арміі ў яе барацьбе з ворагамі, а пагоня за драматызмам і псіхалагічнымі перажываннямі герояў—наклала налёт фальшывасці на рад палажэнняў і рад станоўчых вобразаў. Азорыч у жыцці ніколі-б не заявіў белапалякам аб сваім намеры здрадзіць Чырвонай Арміі перад натоўпам сялян, якія стойка выносілі ўсе катаванні белапалякаў, не выдаючы партызан. Так комуніст зрабіць не мог, хаця-б і маючы на мэце абмануць сваіх ворагаў і вырвацца на волю тым больш, што такая магчымасць для Азорыча была сугуба праблематычнай. Арлянка ў жыцці ніколі-б не згадзілася прызнаць сябе, чэсную партызанку, здрадніцай і шпіёнкай і ісці на расцярзанне натоўпа для таго, каб заспакоіць узбунтаваўшыйся полк. Сам полк так лёгка не мог-бы ўзбунтавацца з прычыны зусім бязглуздай плёткі, пушчанай шпіёнам Пагоцкім. Чырвонаармейцы, якія так ветліва былі прыняты сялянамі спаленай белапалякамі беларускай вёскі не маглі так хутка ператварыцца ў заядлых нацыяналістаў і здраднікаў. Недастатковае веданне фактычнага матэрыяла і людзей і ўплывы акаляючага на паэта літаратурнага асяроддзя і тут паміма волі падвялі П. Глебку. Паэт не толькі ўступае ў спрэчкі з нацыяналістамі, выкрываючы іх сапраўдную ролю ў справе вызвалення Беларусі, але і яго ўласныя намеры і палітычныя перакананні ўступаюць у спрэчкі з колам прывычных вобразаў і навязаным яму поглядам на рэчаіснасць у часе яго прабывання ў «Узвышшы». Да гэтай тэмы і з тымі-ж вынікамі ён варочаецца яшчэ раз у паэме «Трывожны сігнал», у вершы «Хада падзей» і нават у паэме «У дарогу». Спрэчкі з «нялюбым паэтам, нацыяналістам—есенінцам», (якога на справе трэба было-б спапяліць сваёй ненавісцю) і поруч з гэтым паказ чырвонаармейскай часткі, гатовай у паніцы на здраду, рэалістычны,—з адценнем лёгкага юмару—паказ частак года, як апасрэдстваванне палітычных падзей, звязаных з чысткай савецкага апарату і поруч з гэтым—досыць блытаная канцоўка ў стылю першага перыяда творчасці паэта, паказ нацыянальнага і соцыяльнага прыгнёта ў Заходняй Беларусі і абсалютна туманныя ўяўленні тых сіл, якія здольны скінуць гэты гнёт—усё гэта сляды той унутранай барацьбы, якая адбывалася ў творчасці Глебкі ў перыяд 1929-1932 г.г., сляды пошукаў правільнай дарогі, сляды барацьбы з варожымі ўплывамі на яго творчасць. Пераломнымі ў гэтай справе з'яўляюцца паэмы «Героіка нашых дзён» і «Крывавая нядзеля». У паэме «Крывавая нядзеля» паэт правільна паказвае тыя сілы, якія сапраўды тварылі рэволюцыю. Ён пачынае разумець, што сапраўдная рэволюцыйная сіла, гэта не адзіночкі-рэволюцыянеры з сялянскай інтэлігенцыі, якія збіраюцца, каб «падлічыць сілы», а рабочы клас ва ўсёй сваёй масе, які не «падлічвае», а дзейнічае ўжо раней падлічыўшы сілы і ўзвесіўшы абставіны праз сваю партыю і яе кіраўніцтва. Паражэнне, у якім захован пачатак перамогі,—крывавая нядзеля, як адзін з асноўных момантаў «генеральнай рэпетыцыі» пролетарскай рэволюцыі—прыкавалі к сабе ўвагу паэта. Нажаль мастацкія сродкі,—якімі апераваў паэт да гэтага часу—як напрыклад: «роспачы чорнай абломаныя крылля», «туманы хараства», «вятры і цвятлівасць»—і няўменне паказаць масу праз асобыя яркія

акрэсленыя вобразы—не далі магчымасці паэту поўнасцю падняць гэтую тэму. Але работа над гэтай паэмай паказала самому паэту на неабходнасць рашучай перабудовы і сваёй тэматыкі і сістэмы вобразаў, на неабходнасць удасканалення сваіх мастацкіх сродкаў, падначальвання іх задачам сапраўднага рэалістычнага атабражэння рэчаіснасці. І ён паспрабаваў гэта зрабіць у паэме «Героіка нашых дзён». Ён ламае прывычную структуру верша, шукае і находзіць новыя, не прывычныя для сябе, рыфмы, ужывае аратарскія звароты мовы, строфы-лозунгі, ён адкрыта і рашуча ідзе на выучку к Маякоўскаму. У другой сваёй паэме «Эма» ён ваплашчае гэты пералом у мастацкі створаны вобраз вясковай дзяўчынкі, якая вырываецца з індывідуалістычнага сялянскага жыцця і становіцца калгасніцай, поўнапраўным і свядомым членам соцыялістычнага грамадства, дбайным гаспадаром новай соцыялістычнай маемасці. Праўда, нахіл да абвастрэння канфліктаў і да паказа глыбокіх псіхалагічных перажыванняў падказаў П. Глебку не зусім удалы сюжэт (абагульненне апошняй каровы—дзявочага пасага), але гэта паэма стала сапраўды пераломнай у творчасці паэта, стала пачаткам свядомага і правільнага адлюстравання савецкай рэчаістасці. Асобыя зрывы ў гэтым сэнсе («Кармэнсіта», «Апошняя стрэча», раздзел «Чужая спадчына») не ў лік, бо асноўныя творы, змешчаныя ў двух апошніх зборніках—«Чатыры вятры» і «Мужнасць» цалкам адпавядаюць гэтаму палажэнню.

Было-б беспадстаўным і шкодным для паэта захваліваннем аднесці ўсе творы паэта апошняга перыяда да выдатнейшых і беззаганных. Паэт знаходзіцца ў працэсе росту, у працэсе ўдасканалення свайго паэтычнага майстэрства. Часамі ён яшчэ не дасканала ведае канкрэтную рэчаіснасць, пра якую піша, недастаткова глыбока пранікаецца думамі і настроямі сваіх герояў. І тады ён трапляе на няправільны шлях: або ідзе па лініі гіпербалізацыі, або па лініі развагі і рыторыкі. Шматслоўе, рытарычныя заклікання, эпітэты ў самай высокай ступені («вельмі багатая зямля», «вузкі занадта шлях», «найбольшая навала»), недахоп канкрэтных вобразаў,—высоўванне на першы план тэмы, а не вобразаў—звычайная з'ява ў падобных вершах. Але такіх вершаў у апошніх зборніках П. Глебкі не шмат. Абсалютная большасць вершаў з актуальнай шырока ўзятай тэматыкай, мастацкі дасканала апрацаванай, з нахілам да філасофскіх абагульненняў. У гэтым сэнсе, як і ў сэнсе дасканаласці формы—яны пераклікаюцца з вершамі Ф. І. Тютчава а з сучасных паэтаў з вершамі Н. Тіханава, вылучаючыся ад апошняга большай прастатой і даступнасцю ўспрымання.

Асноўнай тэмай паэта ў гэтых двух зборніках вершаў з'яўляюцца думы і настроі савецкага чалавека, яго законная гордасць пераможцы («Мой шлях», «Дужасць», «Парад Чырвонай Арміі»), новыя адносіны да працы, да вытворчасці («Сяброўства», «Пачатак вясны», «Перамога»), новыя адносіны да дзяўчыны, як да таварыша, да сястры (верш «Вернасць»); савецкі патрыятызм («Провады», «Пагранічныя песні»). Гэтая тэма распрацоўваецца паэтам пераважна ў лірычным плане цёпла і задушэўна. Мастацкія сродкі паэта самыя рознастайныя. Шмат чаго ён бярэ з народнай твор-

часці. Гэта датычыцца ў першую чаргу рыфмы яго вершаў. Падобна народным песням і сказанням П. Глебка не прытрымоўваецца поўнай гучнай рыфмы, ён аддае перавагу асанансавай рыфме. Гэта дае большую магчымасць працей і глыбей выказваць свае думкі, дае магчымасць не паступацца зместам ва ўгоду слову, а гэта аблягчае яму задачу паглыблення зместу верша, унікання трафарэтаў і збітых мейсц. Паэт відавочна аддае перавагу зместу над формай—ён не ўнікае рыфмаваць «радасць і радасць» «табе і цябе», не збягае паўторных рыфм, калі гэта вымагае толькі змест, а не архітэктоніка верша. Гэта не адзнака неахайнасці ці слабасці паэта, гэта прадуманы паэтычны прыём, які досыць часта спатыкаецца ў вершах Глебкі.

„І калі ёсць такая радасць,
Не развеюць якой вятры,
Я нясу гэту добрую радасць,
Як усмешку маёй сястры".

У мэтах пасілення эмоцыянальнасці верша Глебка часта ўжывае паўтор. Гэта ўласціва і народнай творчасці. Паўторы—то абрамліваюць невялікі лірычны верш, з'яўляючыся пачаткам і канцом яго, то падкрэсліваюць асноўную думку ўсяго верша, у незалежнасці ад таго, дзе ўжыты першы раз паўтараючыйся радок, у пачатку, або ў сярэдзіне верша. Прыклад першага тыпу можна знайсці ў вершы «Пра сваё жыццё», прыклад другога парадку ў вершах «Мой шлях», «Чырвонай Арміі парад» і др. Апошні верш цікавы яшчэ і тым, што ў ім паўтор напамінае аб чаргаванні ўсіх відаў зброі ў часе парада, аб працягласці дэманстрацыі, аб шматлікіх чырвоных сцягах, якія рэчкай цякуць міма трыбун Урада. Такі паўтор, не пералічваючы празаічна частак войск, стварае не толькі ўражанне магутнасці Чырвонай Арміі, але дапамагае чытачу намаляваць у сваім ваабражэнні ўсю карціну дэманстрацыі. Часамі паўтор распалагаецца ў Глебкі так, што ствараюць уражанне прыпева, хаця сам верш не прадназначан для спева (верш «Чатыры вятры»). Гэты прыём развіваецца Глебкам потым у сапраўдных песнях у зборніку «Мужнасць» («Песні аб граніцы», «Провады», «Песні прыгону»). Дарэчы ў гэтых песнях—Глебка адыходзіць ад сваей, стаўшай для яго паэтычным почаркам асанансавай рыфмы і пераходзіць да гучнай, поўнай рыфмы. З народнай творчасці чэрпае Глебка і сваі паралелі (верш «Провады»—ст. 48 зборніка «Мужнасць»). Досыць часта спатыкаюцца ў Глебкі народныя выразы і сталыя эпітэты, як напрыклад: «выжары—руіны», «ноч-у-ноч», «па ўсёй, па маёй па краіне вятры», «па ўсіх ды на тых па краінах вятры», «нядоля чорная», «жыцце ліхое», «вораг злы», «густыя бары», «дужыя плечы». Не рэдкі ў Глебкі і звароты да сваёй думкі, да сваёй песні, да сваёй краіны, зробленыя ў народным плане.

Аднак трэба сказаць, што Глебка мае адчуванне меры, наследоўваючы народнай творчасці, ён не стылізуе свае вершы пад народныя (за выключэннем бадай што аднаго выпадку ў вершы, «Провады»), ён выбірае з народнай творчасці каштоўнейшыя прыёмы яе, каштоўнейшыя звароты і ўжывае іх з вялікім разборам. Часта ён да сталага народнага эпітэту дадае свой літаратурны («Густыя і заду-

менныя бары»), тады сталы эпітэт «прыжываецца», не гучыць зношаным і трафарэтным. У вершах П. Глебкі кідаецца ў вочы арганізаванасць і прадуманасць мастацкіх сродкаў, я бы сказаў, правільнае вядзенне паэтычнай гаспадаркі. Ён не аддае перавагі эпітэтам над метафарамі (што здараецца вельмі часта з маладымі пісьменнікамі), ён не вылучаецца падкрэсленымі пошукамі новай дэталі, новага несказанага слова, новага ўскладненага радка. Гэтыя якасці былі ў першых яго творах і часта прыводзілі да зусім адмоўных вынікаў: рэдкія словы, архаізмы і наватворы—яўна не зразумелыя не толькі для радавога чытача, але і для выкладчыкаў мовы—абцяжарвалі верш і аддалялі яго ад народа. У апошніх зборніках гэтага ўжо не назіраецца. Правільнае вядзенне «паэтычнай гаспадаркі», некаторая рацыяналістычнасць яе—не робіць лепшыя вершы Глебкі сухімі і не-эмоцыянальнымі. Можна было-б падаць рад мейсц, дзе паэт, выкарыстоўваючы асобныя паэтычныя прыёмы, дасягае сапраўды вялікай сілы. Абмяжуемся некаторымі прыкладамі.

Вось малюнкі чырвонаармейскага парада, у якім паэт знаходзіць трапную дэталь:

„Да самай ночы ад світання,
Ад самых ранішніх зарніц
Паўзуць жалезным брухам танкі,
Аж стогнуць сцены камяніц.
Імчацца конніцы калоны,
Рыпяць марозна капыты,
Храпуць успуджаныя коні
І падымаюць снежны пыл“.

Сцiслымі, скупымі словамі—знаходзячы меткую дэталь—паэт з выключнай сілай малюе карціну прахода Чырвонай Арміі. Перад гэтым, двума эпітэтамі ён ажывіў і зрабіў абсалютна наглядным і прахаджэнне двух відаў войск і іх розніцу.

„Ідзе суровая пяхота,
Выведкі лёгкі эскадрон“.

Паміж іншым, гэты паэтычны прыём—пастаноўкі поруч двух процілеглых паняццяў ці нечаканае спалучэнне двух вобразаў, уласцівы паэзіі Тютчава. Ён сустракаецца і ў Глебкі не так рэдка і добра запамінаецца чытачу.

„Гарачы дзень, ад лютай спекі
Згубіўшы прыкры сорам свой,
У рэчку чыстую глыбока
Упала сонца з галавой.
А там, высока па над намі,
У сінь, халодную як лёд,
Не страпянуўшыся крыламі
Плыве празрысты самалёт“

Для параўнання прывядзем прыклад з Тютчава:

„Пламя рдеет, пламя пышет
Искры брызжут и летят,
А на них прохладой веет
Из-за речки темный сад“.

«Лютая спёка» і «сінь, халодная як лёд», «сонца, упаўшае ў рэчку» і нечаканая празрыстасць самалёта—прыдаюць гэтаму малюнку сапраўды высокую паэтычнасць.

Падобная-ж процілегласць двух эпітэтаў маецца ў вершы «Пра сваё жыццё»:

Каб не засціла
Чорная памяць
Маладога жыцця
Агні.

Вось другі прыклад нечаканага аб'яднання вобразаў

Я праходжу, мая краіна,
Ланцугі тваіх дзён і гор.
(*„Пра сваё жыццё“*).

Падобныя спалучэнні надаюць глыбіню вершу і робяць яго эмоцыянальным. На гэтым паэтычным прыёме пабудаваны вельмі ўдалы верш «Пачатак вясны». Вось некалькі вытрымак з яго:

„Пасля з грымотамі і звонам
Вада шчапала крохкі лёд,
Складалі кайстры плытагоны
І шыкаваліся ў паход...

... Галодныя каровы гвалтам
Будзілі вусціш веснавы,
Ламалі дзверы на кавалкі
І ў поле йшлі шукаць травы“.

Пастаўленыя поруч «Грымоты» і «крохкі лёд», «вусціш, і гвалт», «Чорная памяць і маладое жыццё» акрыляюць верш, даюць яму шырокі размах і глыбіню, ён добра запамінаецца сваёй навізной. Гэты мастацкі прыём мы часта спатыкаем у Тютчава. Вось прыклад процістаўлення вобразаў у вершы аб восенскай прыродзе «Обвеян вещею дремотой»

„Как увядающее мило,
Какая прелесть в нем для нас,
Когда, что так цвело и жило
Теперь так немощно и хило
В последний улыбнется раз“.

або:

„Так узник эллинский порою,
Забывшись сном среди степей,
Под скифской вьюгой снеговою
Свободой бредит золотою
И небом Греции своей“.

Наследуючы гэтым мастацкім прыёмам Тютчава Глебка разам з гэтым унікнуў неакрэсленасці і змрочнасці яго настрояў. Паэзія Глебкі—паэзія совецкага пісьменніка, яна поўна радасці і бадзёрасці.

У «паэтычнай гаспадарцы» П. Глебкі значнае месца займаюць метафары, сярод якіх ёсць рад вельмі запамінаючыхся як напрыклад: «Настоены змрок», «дрэвы стомленыя спяць», «як ходзіць вецер над палямі», «каб ветла смяялася шчасце», «аплакаў дождж» ды інш... Трэба адзначыць, што гэты прыём усё больш і больш заваёвывае мейсца ў творчасці Глебкі і ўзбагачвае гэтую творчасць.

Пейзажныя зарысоўкі ў творчасці Глебкі не рэдкая з'ява, але не складаюць характэрнай рысы яго паэзіі апошніх лет. Яны, як і ў ва многіх сучасных паэтаў, толькі дапаможны сродак для выяўлення дум і настрояў (спашлюся хаця-б на некалькі спрошчанае ўжыванне пейзажнай зарысоўкі ў вершы: «Ноч у вайсковых лагерах»). Для рада вершаў Глебкі з'яўляецца характэрнай адзнакай глыбокая філасофская думка: верш «Сяброўства», верш «Летні дзень» і др.

„Слава людзям дружнай працы,
Слава ім! Мінуць вякі,
Будзе так-жа выгінацца
Шкло празрыстае ракі,
Будзе мак цвесці на градах,
Будзе ў сэрцы з веку ў век
Несці творчай працы радасць
Непакорны чалавек".

Тэматыка апошніх твораў П. Глебкі досыць шырокая—ён адгукваецца на палітычныя падзеі дня, (у гэтым зусім відавочан ўплыў Маякоўскага, наследуючы якому Глебка дае рад прапагандысцкіх вершаў, напрыклад верш пра пазыку, і рад строф-лозунгаў), ён паказвае настроі совецкіх людзей, ад пагранічніка да калгасніцы-дзяўчыны. І ўсё-ж далёка не ўсе вершы П. Глебкі пайшлі ў народ, запомніліся чытачу. У чым тут справа? Справа разумеецца не толькі ў некаторай рацыяналістычнасці манеры пісьма Глебкі, не толькі ў недахопе эмоцыянальнасці некаторых вершаў Глебкі. Справа хутчэй усяго ў некаторай абстрактнасці і агульнасці рада паэтычных твораў Глебкі. Недастатковае веданне канкрэтных спраў, канкрэтнай работы новага совецкага чалавека—перашкаджала паэту, нават пры яго мастацкай спеласці, у кожным сваім вершы стварыць вобразы, якія-б хвалявалі чытача, урэзваліся яму ў памяць, рабіліся-б любімымі для шырокіх мас. У радзе вершаў П. Глебку не хапае шырыны размаха, вялікай тэмы. У гэтым сэнсе вялікім крокам наперад былі дзве паэмы П. Глебкі—«Мужнасць» і «У тыя дні».

Паэма «Мужнасць» напісана Глебкам у 1934 г. Яна прысвечана дзесяцігоддзю з дня смерці Уладзіміра Ільіча Леніна. Асаблівай вышыні дасягае паэтычны голас Глебкі ў першай часці паэмы, у раздзелах, прысвечаных паказу ўсенароднага гора ў час пахавання Леніна і клятве таварыша Сталіна над труной Леніна. Тут паэт падымаецца, як народны трыбун, каб выказаць думы і пачуцці совецкага народа, з якім яго яднае, злівае ўсенароднае гора і ўсенародная вера ў пабеду. Кароткімі, ударнымі штрыхамі намаляваўшы карціну жалобнага шэсцвія бліжэйшых саратнікаў Леніна за яго труной з Горак на станцыю, рух жалобнага цягніка, кінуўшы позірк на жыццёвы шлях Уладзіміра Ільіча і партыі, сфармуляваўшы яго канчатковыя мэты—Глебка разгортвае паказ народнага шэсцвія да труны Ільіча.

„Мы ідзем і падзёнщчык і токар,
І шахцёр, і марак, і гарбар,
І студэнт, малады і высокі,
І пануры сівы качагар.
Мы ідзем ў палапленых світках,
У шынелях, падраных з вайны,

У падшытых вятрамі намітках,
Мы ідзем да ягонай труны.
... Мы прышлі і паўсцяж зарыдала
Насцярожаная цішыня...
... Чалавечага плачу сіла
Горы змыць векавыя магла.

Голас паэта становіцца сапраўды простым і суровым. Паэт пакідае ў баку ўсе паэтычныя прыкрасы, абмяжоўвае сваю мову некалькімі найбольш яркімі, выхвачанымі з агульнага моманту жалобнага шэсцвія, дэталямі—(студэнт малады і высокі, пануры сівы качагар, шынелі падраныя з вайны, насцярожаная цішыня, плач, які мог змыць векавыя горы)—каб намаляваць суровую і простую карціну тых сіл, якія яднаў ленінскі геній для перамогі рэвалюцыі, карціну еднасці правадыра і народа, карціну ўсенароднага гора.

І ніколі не знойдзеш ні ў якіх
Летапісных аналах пяра,
Каб народ гэтак горка плакаў
Над магілай правадыра.

Карціна ўсенароднага гора пададзена паэтам па народнаму сурова і па народнаму проста. У вершы адчуваецца цяжкі раздумчывы шаг мільёнаў, якія перажываюць сваю найвялікшую ўтрату, думаюць над лёсам краіны, якую аставіў на іх адказнасць памершы правадыр. І паэт—следуючы за іх думкай пераходзіць к вобразу тав. Сталіна.

Але вырасла мужнасць класа,
Падняла нас ізноў на бой
Над палётам планет, над часам,
Над праклятай суровай зімой
Над снягамі, над горам, над жалем,
Над законамі смерці і жыцця
Паднімаецца ленінец Сталін,
Узнімаючы ленінскі сцяг.

Далей следуе клятва тав. Сталіна—у адпаведнасці з гістарычнай яго прамовай на з'ездзе советаў. Перад паэтам паўстала адна з найцяжэйшых задач: укласці ў паэтычныя радкі вядомую кожнаму грамадзяніну Совецкага Саюза прамову таварыша Сталіна. Сама прамова—найглыбейшая па сіле пачуцця, па свайму эмоцыянальнаму ўздзейнічанню, па сіле слова, па глыбіне думак. Паэт зрабіў-бы абсалютна правільна цалкам працытаваўшы яе ў сваім вершы. Але і тое, што зрабіў Глебка—паспрабаваўшы захаваць у вершы сталінскія думкі, сцісласць мовы, яе ўрачыстую клятвеннасць і народную прастату—заслугоўваюць пахвал. На дапамогу паэту прышло яго добрае веданне беларускай мовы, яго вучоба ў Маякоўскага, перавага сэнса над формай—уласцівая для Глебкі гэтага перыяда, аратарскі голас паэзіі Глебкі пасля адыхода ад захаплення рамантыкай. Таму прамова правадыра, перакладзеная ў верш, гучыць узнята, пераканаўча і перадае асноўныя рысы самой гістарычнай прамовы. Захаваць адзінства партыі, узмацняць дыктатуру пролетарыята і яе асноўную ўмову—саюз рабочага класа з сялянствам, узмацняць дружбу народаў, узмацняць Чырвоную Армію, умацоўваць Комінтэрн—гэтыя асноўныя заветы Ільіча і клятва

тав. Сталіна, якую ён даваў за ўсю партыю, за ўвесь совецкі народ—перададзена паэтам досыць поўна і добра. Яны падымаюць паэму на высокую ступень вялікіх паэтычных абагульненняў, прыдаюць ёй вялікую грамадскую палітычную карыснасць і гучанне.

Гэта дае магчымасць паэту стварыць незабываемы малюнак пахавання Ільіча.

„І вось наступіла хвіліна,
Адна з найцяжэйшых хвілін
І сэрца бязмежнай краіны
Замерла на пяць хвілін.
У роспачы сціснуўшы зубы,
Мы чулі, як стогнуць гудкі,
Як горка рыдаюць трубы,
Як ціха стаяць палкі.
Як страшна равуць сірэны,
Як віхрам імчыцца зямля,
Як стынуць нямыя сцены,
Высокія сцены Крэмля,
Як гулка цяжкія гарматы
Апошні салют аддаюць,
Як плача над страшнай утратай
Совецкіх Рэспублік Саюз.

Гэтае мейсца ў паэме—адно з найбольш эмоцыянальна напісаных, адно з найбольш высокіх у мастацкіх адносінах. Думкі паэта прыкованы да жалобнай карціны пахавання найвялікшага правадыра—у гэтую найцяжэйшую хвіліну—імчацца сапраўды віхровым узлётам над зямлёй, сэрца яго б'ецца, як сэрца народа, вобразы адлюстроўваюць і цяжкі смутак рыдаючых заводаў і нямую сілу ціха стаячых палкоў. Ён сапраўды чуе, «як стогнуць нямыя сцены, высокія сцены Крэмля», падкрэсліваючы гэтым унутраныя глыбокія перажыванні, звязаныя з гэтай мінутай. Адным паэтычным узлётам думка паэта адбірае самае характэрнае з усяго таго, што адчувае і перажывае народ у мінуту пахавання правадыра, кожны радок, кожнае слова сваё Глебка напаўняе гэтым пачуццём і стварае велічную, незабыўную карціну.

Можа таму наступныя радкі гэтага раздзелу—прысвечаныя мужнасці, якая ўзняла працоўных ад жалю і смутку па пахаваным правадыру гучаць ужо не з такой сілай, як-бы гэта хацелася.

„Тугу разагналі клапоты
І дружна рабочы клас
Пайшоў да штодзеннай работы,
Каб здзейсніць ягоны наказ.

Другая частка паэмы, прысвечаная ажыццяўленню ленінскага наказа і сталінскай клятвы, разгортваецца Глебкам больш павольна. Яна мае свае ўзлёты шырокіх палітычных і паэтычных абагульненняў, аднак мае і свае больш слабыя мейсцы. Апошнія ідуць часамі ад паэтычнай цвятлівасці і рытарычнасці, часамі ад недастатковай канкрэтнасці таго матэрыялу, які падае паэт. Да такіх мейсц можна аднесці такія выразы:

«Мы кляліся... пасці трупамі, стаць на касцёр, каб жыццё дыктатуры працы берагло рэспублік жыццё». «Кожны край надзялілі пасагам, гарадамі, садамі, зямлёй», «Мы кляліся трымаць высока

сцяг, асвечаны яркай зарой», у якасці перафразіроўкі слоў тав. Сталіна аб клятве высока трымаць годнасць члена партыі.

Недастатковая канкрэтнасць адчуваецца ў раздзелах, прысвечаных выкананню клятвы аб Комінтэрне, аб умацаванні Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у раздзеле, прысвечаным характэрным рысам вобліка Леніна.

Але ў асноўным і гэтая частка паэмы захоўвае суровы голас паэта, яго сціслую строгую манеру пісьма ў адпаведнасці з той адказнейшай задачай, якую ён узяў на сябе. Сурóў пачатак гэтага раздзелу.

Мінаюць гады за гадамі,
Суровыя нашы гады,
Наперад крутымі шляхамі
Краіну вядзе правадыр.
І гэтай нязменнай дарогай
Праверыць здабыткі свае,
Адзначыць свае перамогі
Прыходзіць семнаццаты з'езд.

Сурова і велічна карціна, калі

Зноў наступае хвіліна.
Схіляемся ўсе, як адзін,
І сэрца бязмежнай краіны
На пяць замірае хвілін,

І ў гэтай напружанай цішыні раздаецца голас тав. Сталіна, правадыра народаў, на плечы якога гісторыя ўсклала ўвесь цяжар адказнасці за справу Леніна.

„Устань, саюз семі рэспублік...
Прайдзі каля яго труны...
Ударная брыгада класа,
Рабочым свету дай адказ,
Ці здзейсніла як ты клялася
Вялікі ленінскі наказ?

Вялікім мастацка-палітычным абагульненнем гучыць вобраз:

„З трыбуны ўсіх сямі рэспублік
даюць адказ большэвікі“

— у той-жа напружанай цішыні замершай на пяць хвілін краіны Советаў:

„І ніхто не пакажа справы,
Ад якой адступіў большэвік
Як геройства, як гонар, як славу,
Мы праносім штандар баявы.
Апалосканы дымам і кроўю
На франтах грамадзянскай вайны,
Ен узняўся над нашай будоўляй.
Самай стромкай дасяг вышыні“.

Народным гераічным эпасам дыша вобраз партыі, змагаючайся з бруднымі гадзінамі апазіцыі:

Процьма хіжых галоў упарта
Падымалася з брудных лагчын,
Мы гramілі іх, „левых“ і правых,
Адсякалі нявчадна з пляча,
Каб аматары чорнае справы
Не скрывілі дарог Ільіча.

Удалай метафарай абагулена «шахцінская справа» і яе водгук на Беларусі, паказана контррэвалюцыйная сіла, супроць якой прышлося змагацца партыі:

Ад наддэмаўскіх збродных шаек,
Ад прадажных служак Рамзіна
Выпаўзала, ішла глухая,
Наступала на нас вайна.
Кожны хутар, абнесены садам,
Па дарозе да нашых мэт—
Гэта дваццаць чатыры засады
На адзін усяго кіламетр.

Вымушаны сцісла падаваць велічныя справы партыі за дзесяцігоддзе, Глебка часта прыбягае да гіпербалы:

Па калгасных палях (аж рэха
Векавыя калыша бары)
Ходзяць нашы надзейныя шэфы—
Сталінградскія трактары.

або:

... Аж на дол прыпадаючы ніцма
Пад цяжарам зярна каласы.

Ці ў другім месцы, паказваючы магутнасць Чырвонай Арміі:

Самалёты ідуць, аж вецер
Прыгінае галовы лясоў.

Арганічна вырастае з пададзеных малюнкаў вобраз партыі і вобраз таварыша Сталіна, як нязменных, велізарнейшых арганізатараў нашых перамог:

Як кавалак адменнае сталі,
Загартованы сёння рады,
Гартаваў іх таварыш Сталін—
Першы ленінец наш правадыр.

Арганічна вырастае нязменнасць і прадаўжанне справы Леніна ў мудрым кіраўніцтве таварыша Сталіна, нязменнасць палітыкі партыі і ўрада, непахіснасць памяці Леніна ў сэрцы народа, непахіснасць яднання народа з вялікімі правадырамі народа і рэвалюцыі, з вялікімі геніямі чалавецтва.

І кожны з нас глыбока ў сэрцы
Часціцу Леніна нясе...
... І мы ніколі не прыстанем
Ні ў цяжкай працы, ні ў хадзе,
Бо з намі наш любімы Сталін,
Бо з намі партыя ідзе.
Бо чуем кожнае імгненне
І кожнай кропляю крыві—
Вялікі і магутны Ленін
Сярод жывых ідзе жывы.

У гэтых палітычных і паэтычных абагульненнях, у паказе вобразаў двух кіраўнікоў рэвалюцыі, двух самых любімых людзей працоўных усяго свету, з якіх адзін здолеў падняць на бой мільённыя масы, здолеў арганізаваць гэтыя масы і прывесці да перамогі, другі—будучы яго верным саратнікам у справе арганізацыі рэвалюцыі, здолеў павесці гэтыя масы ў далейшыя баі за комунізм і давесці іх да поўнай перамогі—у адлюстраванні гэтых людзей—зна-

чэнне і сіла паэмы. Прастата пабудовы паэмы, прастата мовы, суровасць і народнасць мовы, дзве ідэі, якія пранізваюць і аб'ядноўваюць усе карціны паэмы і тым выкупляюць яе недастатковую сюжэтнасць—усё гэта робіць паэму высокім мастацкім творам.

Паэма «У тыя дні», з'яўляючыся па сваіх задачах уступленнем у паэму «Мужнасць»—напісана пазней—у 1937 г. Па сваёй форме яна з'яўляецца хранікальнай паэмай, з радам лірычных адступленняў. Паэма крок за крокам перадае падзеі, якія абумовілі лютаўскую рэволюцыю, перадае ход самой рэволюцыі, падрыхтоўку да Кастрычніка і самую Кастрычніцкую рэволюцыю. Сваёй асноўнай мэтай яна ставіць паказ таго як таварышы Ленін і Сталін вялі працоўных Расіі да пролетарскай рэволюцыі, паказ на матэрыялах падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай рэволюцыі—вобразаў кіраўнікоў рэволюцыі.

У паэме ёсць і недахопы. У ёй менш эмацыянальнай метафарычнасці, менш свежых мастацкіх прыёмаў, яна больш публіцыстычна, чым паэма «Мужнасць». У асобных мясцінах адчуваецца разрыў паміж формай і зместам (раздзел 6, дзе форма падражання сатырыка-гіранічнай народнай песні зусім дарэчы ўжыта пры паказе пасяджэння запалоненага меншавіцкімі аратарамі І-га з'езда советаў, але для наступнай гістарычнай прамовы тав. Леніна лепш было-б ужыць другі размер верша; раздзел ІІ-гі, дзе суровыя рысы таварыша Сталіна, ідучага на пасяджэнне VІ-ага з'езда—патрабавалі-б больш суровага рытма). Але агульная ацэнка паэмы павінна быць дадзена высока-станоўчая: па-першае, паэт паставіў перад сабою вельмі адказную і патрэбную для беларускай совецкай літаратуры тэму, па-другое, узяўшы шырокае па матэрыялу палатно—у параўнальна невялікай паэме—досыць сцісла ўклаў гэты матэрыял, даючы рад карцін, якія дапамагаюць шырокаму масаваму чытачу ўспомніць падзеі папярэднія Кастрычніку. Па-трэцяе—у асноўным уся паэма напісана з высокай мастацкасцю ў стылі лепшых твораў Глебкі. Рад мясцін паказваюць далейшую сталую вучобу паэта ў класікаў літаратуры, у прыватнасці ў Пушкіна, Лермантава, Шэўчэнка. Аб гэтым сведчыць адно з лепшых месц у паэме, паказваючае любоў Леніна да радзімы, да рускага народа:

І Ленін кожны дзень нанова
Шукае сцежак і дарог.
Туды, туды... дзе супраць здрады
Мільёны рушаць у паход,
Дзе на крывавых барыкадах
Змагаецца яго народ.
Радзіма! Доўгімі начамі
Ты снілася ў кароткіх снах
З тваімі ціхімі палямі,
З маркотным шумам па лясах,
З тваім народам працавітым,
Гатовым на рашучы бой,
Каб імператар і бандыты
Не панавалі над табою
Ты блізка, родная!.. Вагоны
Мінаюць пагранічны рад,
Салдаты рускія гамоняць
І Ленін слухае салдат.

Працуючы над перакладам твораў класікаў рускай літаратуры, Глебка ўпітвае ў сябе іх любоў да народа, да дэмакратыі і гэта не можа не сказацца ў некаторай пераклічцы формы яго твораў і самога зместу твораў з творамі перакладаемых аўтароў. Гэтая пераклічка тым больш дарэчы, што яна падкрэслівае і блізасць гэтых аўтароў да нашага шматнацыянальнага совецкага народа, іх, так сказаць сучаснасць, і любоў Леніна да рускай літаратуры. Таксама нельга не бачыць пераклічкі з Шэўчэнкам у наступных радках:

Чыясьці згорбленая маці
Збірае шчаўе на лугах.
Чыясьці жонка парабчанка
Чужое поле аручы,
Спявае сыну калыханку,
Ї горка плача, пяючы,
Чыесьці скрыўджаныя дзеці
Їдуць па сёлах жабраваць...

Відавочна вучоба ў Маякоўскага ў радзе месц паэмы. Нават рыфмы, створаныя «па вобразу і падабенству» Маякоўскага, сведчаць пра гэта:

Дружным націскам збіты аковы,
Але новыя ладзяць народу кайданы
У часовым урадзе—паны Мілюковы,
У советах рабочых—прадажныя Даны.
Не для гэтага мерлі таварышы нашы,
Не для гэтага бура імперыю трэсла,
Каб змяніць рэволюцыю мірненькім маршам
Ад прэстола цара да прем'ерскага крэсла.

Ці ў другім месцы:

Зноў ударыў з гармат браніраваны крэйсер,
Дробным шротам пасыпаўся белы карніз,
Ї міністры з высокіх наседжаных крэслаў—
Недаступных вышынь—апаўзаюць наніз.

Надзвычай цёпла і мастацкі глыбока пададзена першае лірычнае адступленне—пачатак паэмы:

У тыя дні, мае сябры,
Крывёй гарэла неба.
У тыя дні былі жадны
Скарынцы чэрствай хлеба.
У тыя дні, мае сябры,
Цямнелі грозна далі.
Ў тыя дні жалезным сном
Пад сцюжай засыналі.
У тыя дні, мае сябры,
Мы вельмі мала мелі:
Вінтоўку, шаблю, кулямёт
Ї шэрыя шынелі.

Мастацкія паўторы, народныя звароты, разам з яркімі і абсалютна скупа адабранымі дэталямі—даюць запамінаючуюся карціну, якая характарызуе перадкастрычніцкія дні, аб якіх засталіся «успамін і песні мужнай славы». Такімі-ж яркімі штрыхамі рысуе Глебка ваенны час, хаця тут ён дапускае некаторае ізлішаства ў прыведзеных асобных рысункаў. Даволі было-б абмежавацца найбольш яркімі дэталямі: адзінокімі застыўшымі фабрыкамі, апусцелымі палямі,

гулам гармат над жытнімі палямі, якія топча кавалерыя, старымі зруйнаванымі гасцінцамі, на якіх цягнулі бежанцы свой убогі пажытак, не чуючы «ні слова спагады». Гэта было-б зусім дастаткова для паказу жахаў імперыялістычнай вайны.

У гэтым стыле павінны былі-б быць пададзены сцэны, рысуючыя ўплывы вогненных заклікаў Леніна і Сталіна: «міра і хлеба», «далоў імперыялістычную вайну», «зямля сялянам, фабрыкі рабочым», якія рашылі лёс старога ладу і ўрада Керэнскага. Вобразы жывых людзей, (а не многалікай, але не акрэсленай масы), якія на справе праводзілі рэволюцыю, паказ масы праз вобразы асобных людзей—далі-б большую мастацкую эфектыўнасць, чым яна ёсць у паэме. Такія вобразы далі-б магчымасць паэту больш выпукла паказаць сувязь тав. Леніна і тав. Сталіна з народам, з яго канкрэтнымі патрэбамі і жаданнямі. Адмовіўшыся ад гэтага шляху—Глебка, нават даўшы рад вельмі яркіх народных сцэн (напрыклад сцэна сустрэчы Леніна з піцерскімі рабочымі на Фінляндскім вакзале), пазбавіў сябе магчымасці замацаваць у памяці чытача гэтыя сцэны назаўсёды, вымушаны быў у радзе месц расцягнуць паэму награмаджэннем адной масавай сцэны на другую, у радзе месц вымушан быў расказваць, а не паказваць. Не гледзячы на гэтыя недахопы, Глебка ўсё-ж пераканаўча паказаў, як авалодвалі ідэі Леніна—Сталіна масамі, як яны станавіліся дзякуючы гэтаму непераможнай сілай:

Леніна слова мільёны збірала,
Сталіна слова на бітву вяло!

Таксама ўдала паказаны адносіны да Леніна царскай ахранкі і здраднікаў рэволюцыі, паказ рыкавых, бухарынцаў, верных псоў буржуазіі:

У ноч, у падполле ідзе правадыр,
У бедных хацінках шукае прыстанку,
І нюхаюць доўга на бруку сляды
Халодныя ноздры сабак і ахранкі.

І другое месца:

Паўстанне блізіцца. Ужо ЦК
На вырашэнне дзень і план выносіць,
А ворагаў прадажная рука
Ахранкам шле на партыю даносы.

«Праклён вам, здраднікі, жыць будзе век!»... хочацца сказаць разам з паэтам, успамінаючы чорную, нямаючую сабе роўнай у гісторыі, здраду трацкісцка-бухарынскіх падонкаў чалавецтва. Ужо ў самым пачатку рэволюцыі, яны хацелі абязглавіць рэволюцыю, выдаўшы Леніна на расправу азвярэўшай буржуазіі:

Не, здраднікі і гандляры, не выйдзе,
Ад вашых рук і ненавісці злой
Дзяржынскі і Серго Орджанікідзе
Яго заслоняць радасна сабой.
На варце Леніна мільёны сталі,
Запаленыя гнеўным пачуццём,
І першы ленінец таварыш Сталін
Аддасць за Леніна сваё жыццё!
Яго дарогамі, яго шляхамі

Ён павядзе на бой рабочы клас,
Ён—ленінская мудрасць паміж намі,
Ён—ленінская воля сярод нас.

Гэта адно з лепшых месц у паэме па сіле пачуцця, па сваёй сугучнасці з пачуццямі народа. Нажаль, расцягнуўшы першую частку паэмы, паэт пазбавіў сябе магчымасці поўна і ярка даць рысунак самой Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ён абмежаваўся кароткім, хаця і выразным малюнкам штабу рэвалюцыі і перадачай аднаго з загадаў таварыша Сталіна—аб атацы Зімняга палаца.

Усю паэму, як і паэму «Мужнасць» пранізвае ідэя еднання народа і яго правадыроў, думка аб тым, што ў правадыроў рэвалюцыі не было другога клопату, як клопат аб шчасці народа. Гэта надае паэмам філасофскі характар, у гэтым вялікае выхаваўчае значэнне паэм.

Самі паэмы з'яўляюцца вялікім творчым дасягненнем паэта і ўсёй беларускай літаратуры. Яны, як і лірыка П. Глебкі, паказваюць, што ў асобе П. Глебкі мы маем сталага паэта, упарта працуючага над мастацкім словам, над вобразамі, над вялікімі патрэбнымі савецкаму народу тэмамі. Удзел паэта ў напісанні трох лепшых у беларускай літаратуры калектыўных паэм «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну», «Дванаццаць песень аб Чырвонай Арміі», «Радзіме і правадыру», удзел у перакладзе «Кабзара» Шэўчэнка на беларускую мову, удзел у грамадска-палітычным жыцці краіны—поруч з уласнай высока-каштоўнай творчасцю—паставілі П. Глебку ў рады лепшых паэтаў Беларусі. Гэта было адзначана партыяй і ўрадам—узнагародай П. Глебкі ордэнам «Знак почета». Гэта высокая ўзнагарода і папярэдняя творчасць Глебкі дае права спадзявацца, што паэт у бліжэйшыя часы дасць новыя шырокія мастацкія палотны, у якіх будуць не толькі захаваны ўсе дадатныя якасці паэзіі Глебкі, але яны будуць памножаны на цікава распрацаваны сюжэт, на вялікую тэму, на глыбокую эмацыянальнасць. У гэтым упэўняе нас работа Глебкі над новай п'есай «Над Бярозаю ракой», у якой выведзен незабыўны вобраз Серго Орджанікідзе і яго слаўная абарона гор. Барысава ад белапалякаў.

---

*Г. Бярозкін*

# ВЕРШЫ ПІМЕНА ПАНЧАНКІ

Гэта вельмі радасна: сярод бясконцага канвеера «гладкіх» амаль механічна складаемых радкоў, якімі нас нярэдка частуюць асобныя маладыя паэты, знайсці кнігу вершаў, якія прыцягваюць да сябе ўвагу сваёй сапраўднай, не паспеўшай астынуць лірычнасцю, добрай назіральнасцю, глыбокім і арганічным аптымізмам мыслі. Я гавару пра кнігу вершаў Пімена Панчанкі «Ўпэўненасць».

Ужо ў самай назве кнігі выражана яе асноўная паэтычная мысль. Яна можа быць зведзена да наступнага: ва ўмовах нашага соцыялістычнага грамадства чалавек нязменна адчувае сябе вольным і ўпэўненым распарадчыкам свайго уласнага лёсу, які непарыўна звязан з вялікім і слаўным жыццём краіны.

Кніга радуе той натуральнасцю і свабодай, з якой у ёй сказваецца паэт і чалавек. Яна адрозніваецца ад вершаў многіх маладых, і не толькі маладых паэтаў, сваёй праўдзівай сутнасцю і ўдалым адыходам ад штампаванай мовы, вялікай непасрэднасцю і чыстатой.

Малады чалавек соцыялізма ўвайшоў у вершы Панчанкі такім, якім ён ёсць: прамым, чэсным, бязмежна адданым радзіме, не страціўшы асаблівасцей сваёй чалавечай індывідуальнасці. Ён не ведае, што значыць адносіцца да грамадскай справы, як да нечага проціластаўленага яго асабістым прывязанасцям і інтарэсам. Ці-ж справа радзімы, справа краіны не з'яўляецца і яго асабістай справай? Для яго соцыялістычная радзіма—увасабленне лепшых надзей і помыслаў. Гэта яго лёс, яго шчасце, яго любоў.

> Бо на гэтай зямлі малаком мяне маці карміла,
> Тут хадзіць я вучыўся і першыя кнігі чытаў.

У сваіх паэтычных зваротах да таварыша Сталіна Панчанка зноў і зноў апявае паўнату быцця, адчуванне глыбокай здаволенасці жыццём, якое ніколі і нідзе не нагадвае ціхамірнага добрабыту альбо сузіральнай самаздаволенасці.

У далёкім кутку памяці паэт захаваў трагічны вобраз дзедахадака, які некалі хадзіў «па зямлю і законы» і памёр, не ўбачыўшы ні зямлі, ні справядлівых законаў. Гэты вобраз ахоўвае маладога паэта ад таго наігранага прыпляса, які многія называюць аптымізмам у паэзіі. Гэты вобраз замучанага дзеда, вобраз крыві, якая не прапала марна і проціпастаўлены яму вобраз новага чалавека—«гаспадара сваёй краіны» надаюць вершам Панчанкі сапраўдны аптымізм мыслі, які нараджаецца ад уважлівых і ўдумлівых адносін да з'яў

жыцця, для якога непрахадзяча і значна ўсё жывое, уваходзячае ў наш савецкі быт.

У Панчанкі ёсць слабыя вершы. Гэта тыя, у якіх ён адмаўляецца ад сваёй індывідуальнасці лірычнага паэта, у якіх ён вельмі дэкларацыйна, не пацвярджаючы асабістым пачуццём, гаворыць аб сваёй адданасці краіне. Тое, што павінна натуральна і законамерна выцякаць з верша з кожнага яго радка, у вершах гэтага роду навязваецца звонку, «дапісваецца», уносіцца механічна. Аднак, такіх вершаў у кнізе Панчанкі значна менш, чым вершаў сапраўдных аптымістычных, адзначаных жывой і непасрэднай сувяззю з акружаючым. Аб гэтых сапраўдных вершах мы і гаворым. У іх, як ужо сказана, выказана пачуццё поўнацэннага і шчаслівага быцця, прычым без таго назольнага дыдактызму, які губіць большую частку вершаў нашых маладых паэтаў і які ў значнай меры яшчэ сказваецца і не некаторых вершах Панчанкі.

У лепшых яго вершах аптымістычнае самаадчуванне шчаслівага і некалькі нават расчуленага, нялоўкага ў сваім шчасці чалавека, выказваецца свабодна і натуральна, не выпячваючы і не дэманструючы сябе.

Лірычны герой паэзіі Панчанкі адчувае сябе гаспадаром жыцця. І, як сапраўднаму гаспадару, яму не трэба штогадзіны захапляцца сваім пабудаваным і абжытым домам, у якім ён жыве, працуе, вучыцца, любіць. Гэта яго нармальная абстаноўка, у якой ён рос і развіваўся. Апрача таго, ён валодае ўласцівасцю бачыць вялікае ў малым, у яго зоркае, пільнае вока і чуткае вуха. Ён прыкмячае, як «стаіць, падпёршы дзюбай сонца бусел», як «на пашы рыжыя чмялі загаспадарылі між кветак, з маленькіх гладышоў пілі пахучы мёд—ласунак лета», як «ваўкі халодныя насы ўзнялі на сонейка густое і спрабуюць ціха галасы».

Перавага вершаў Панчанкі перад многімі творамі маладых паэтаў у іх апісальнай сіле, у дакладнасці назірання і, нарэшце, у індывідуальнасці паэта, індывідуальнасці яго думак, яго інтарэсаў.

У нас вельмі многа вершаў, хоць і распрацоўваючых самыя хвалюючыя з'явы жыцця, у якіх паэт, аднак як-бы скрывае свой уласны погляд на рэчы, свой удзел у тэме, свой уласны паэтычны стан. Да гэтых вершаў і паэтаў цалкам могуць быць прыменены словы М. І. Калініна сказаныя ім на сходзе настаўнікаў:

«... Людзі будуць мала верыць таму, што вы гаварылі. І не таму што гэта няправільна, не таму... Я вам скажу прама: у вас было шмат прыгожых слоў, а душы не адчувалася... той унутраны стан, які ў вас сапраўды ёсць, вы імкнуліся выразіць хадзячымі формуламі. Унутраныя-ж пачуцці жывы чалавек выказвае звычайна сваім простым словам, не карыстаючыся гатовымі фармуліроўкамі...»

жыццё якога не падагнана пад нейкую благачэсцівую схему, а цалкам захавала сваю непасрэднасць, прастату, праўдзівасць характару.

«Я спакойны юнак, можа нават крыху сарамлівы»—заяўляе Панчанка. Ён глядзіць на свет сваімі ўласнымі вачыма, свежа і непасрэдна. Прырода—яго блізкі сардэчны друг. Не вельмі шмат у нас такіх чоткіх і ясных радкоў:

Каля лесу б'е крынічка,
срэбрам зззяе
Ды каменьчыкам на ўцеху
воды гоніць.
Тут медзяныя арэхі
ціха звоняць.

І зараз-жа пасля гэтага чоткага і назіральнага апісання без усякай нацяжкі паэт уносіць у свой бестурботны лірычны стан пачуццё граніцы, пачуццё мабілізацыйнай гатоўнасці. Паэт звяртаецца да прыяцеляў:

Толькі вы, сябры, не верце
Супакою,
Бо заходні пахне вецер
Чадам боек.

Пачуццё поўнацэннага жыцця зусім не процістаіць другому пачуццю—пачуццю пастаяннай гатоўнасці к паходу. Паміж імі існуе поўнае ўзаемадапаўняючае адзінства. Нават уласная аўтахарактарыстыка «спакойнага і сарамлівага юнака» прымае такі нечаканы, але зусім законамерны зварот:

Але тых, хто жадае напасці на край мой шчаслівы,
Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць.

Для вершаў Панчанкі вельмі характэрна іх лірычная насычанасць, якая прымушае па-новаму ўспрымаць цэлы рад матываў і сітуацый, безжаласня засушываемых рамеснікамі ад паэзіі. Возьмем для прыкладу такую сітуацыю: малады пагранічнік уходзіць на граніцу і пакідае ў родным сяле каханую дзяўчыну. У нас шмат вершаў на гэту тэму. У большасці з іх здзіўляе адсутнасць жыццёвай праўды, хаця і іх аўтары не мала клапоцяцца аб тым, каб стварыць бачымасць адхілення схемы, ілюзію сапраўднага жыцця. Уражанне ствараецца такое, нібы адзін паэт спісвае ў другога і спісвае пасіўна, не зацікаўлена, ляніва. У Панчанкі-ж тая самая сітуацыя набывае сваю першапачатковую жыццёвую пераканаўчасць.

У вершы «Вішня» малады пагранічнік, развітваючыся з каханай, саджае «вішню ў гонар сяброўства», што і дае магчымасць закончыць верш нечакана, лірычна, не парушаючы ўнутранай логікі любоўнага матыву:

Будзь гардай! Стаю я ў дазоры
З сябрамі і ноччу і днём.
На шлемах гарацъ нашы зоры
Той вішні чырвоным агнём.

Ці ў вершы «Зварот байца» чырвонаармеец, звярнуўшыся ў родны калгас, уступае ў інтымную размову з рэчанькай, у многім

нагадваючай характар і стыль народнай песні. Чырвонаармеец пытаецца:

Адкуль і ці надоўга?—
Раскажы!
Я, рэчанька,
У арміі служыў.
У чыстым полі
Грозны танк вадзіў,
Быў задаволен
Мною камандзір...

Герой вершаў Панчанкі аптымістычны, калі пад аптымізмам разумець не павярхоўнае пачуццё, а глыбокую чалавечую якасць. Перад намі свет, шырокі і адкрыты, багаты ў сваіх праявах. Ён атрымлівае нейкую невычарпальную чыстату і асаблівую абаяльнасць маладосці і прастаты. У ім кожная дробязь пейзажу, пачуцця, мыслі адзначаны нейкай асаблівай чалавечнасцю.

«Каня хлопец трымаў на тугім паваду», «конь напіўся, а ён як заснуў...» Хлопцу сумна. Ён-жа не жыве па якойсьці загадзя створанай норме благапрыстойных паводзін, аднолькава прыгоднай для ўсіх выпадкаў і абставін жыцця. «Можа ўспомніў далёкага сябра свайго? Можа, успомніў, юнак, пра вёску?» Чалавек, які па-сапраўднаму любіць жыццё, не можа сароміцца сумнай мінуты... Але вось здарылася нешта вельмі нечаканае: «Гэтым часам дзяўчына мінала масток».

Каля хлопца прайшла—хлопец нібы ажыў,
Бліснуў промень у сініх вачах.
Ён, здалося, ніколі зусім не тужыў—
Услед за ёй на кані паімчаў.

Гэты верш Панчанкі—сапраўдны савецкі твор, хоць у ім і няма гучных фраз аб соцыялізме і Савецкай уладзе. Сама па сабе атмасфера чыстаты і чалавечнасці з'яўляецца адрозніваючай адзнакай сапраўднай паэзіі соцыялізма.

Ці ўзяць к прыкладу верш «У дарозе». Тут ужо хочацца цытіраваць літаральна ўсё, кожны радок, кожнае слова. Раніца. Цішыня. Паэт у дарозе з дзяўчынай.

Не паспелі мы нагаварыцца,
А ўжо птушкі першыя звіняць.
Засыпай і ты, мая сястрыца...
Што-ж ты не спяваеш? Задрамала?
Ціха, гаю, ціха!..

У вершы «Зажынкі»:

Мы крочым у хустачках белых
Туды, дзе шуміць збажына.

І на гэтай непрыкметнай, на першы погляд апісальнай падрабязнасці сказваецца той-жа прыстальны і ўважлівы зварот да ўсіх дробязей акружаючага. Ці ў вершы «Яблыня» Панчанка расказвае аб тым, як адзінокую яблыню, якая «стаяла ля вёскі, як падарожнік між дарог», перанеслі ў калгасны сад. Так замест агульных дэкларацый аб заможным жыцці калгаса, Панчанка паказвае асобныя дэталі, падрабязнасці калгаснага жыцця і тым самым дамагаецца станоўчых рэзультатаў.

Панчанка валодае паэтычным поглядам на рэчы. Ён піша аб тым, што варта верша, варта паэзіі, і адхіляе тое, што можа быць без усякай страты выказана двума-трыма радкамі празаічнага пераказу. Панчанка ўдала ўводзіць у верш праўдзівасць, непасрэднасць размоўнага звароту («толькі вы, сябры, не верце супакою», «вам весела таксама, сябры, праўда?»; «Вось прыпякло, дык прыпякло!—сказаў пастух»). Справядлівасць патрабуе адзначыць, што ў цэлым радзе вершаў Панчанка збіваецца на залішне-празаічнае гучанне верша. Канцоўка верша «Красавіцкая навальніца» гучыць недаравальна-нудна, празаічна:

Я па ўсіх прыкметах бачу—будзе
Сёлета багаты ўраджай.

Увесь лад верша «Вясновыя мары»—расхістаны, мала выразны:

Ураджай стаханаўскі—не жарт.
Змагацца будзем—і уродзяць
Дзівосныя жыты, аўсы,
Цяжкія будуць каласы
На працаднях нашых ляжаць.

У многіх вершах Панчанка здраджае дакладнасць і вастрыня яго назіранняў. Там з'яўляецца абязлічанае вызначэнне, ні да чаго не абавязваючы эпітэт. Так у Панчанка безліч разоў паўтараецца слова «малады»: «як гул навальніц маладых», «маладыя сады», «у сэрцы маладым»—гэта ўсё ў адным вершы, а вось яшчэ ў другіх: «радзіма маладая», «вачамі маладымі», «зямлю маладую», «песнямі маладымі», «стан малады», «пілот—малады і адважны як сокал» і г. д. Частка паэтычных вызначэнняў Панчанка з'яўляецца носьбітам толькі вонкавакаляровых адзнакаў. Слова «рыжы» ў кнізе паўтараецца шмат разоў («снапы, як рыжыя браты», «сонца цела рыжае (?) варушыць», «рыжыя чмялі»). Наогул, «каляровых» эпітэтаў у вершах Панчанка вельмі шмат: «зары малінавая стужка», «зямлі зялёны твар», «сонца жоўты круг» (як бачыце, тут яшчэ сказваецца і аднастайнасць сінтаксічнай структуры); «неба цёмнасіняе», «сіні смутак», «сіні ранак», «сінія пралескі», «у сініх вачах» і г. д.

Як адмоўную рысу некаторых вершаў Панчанкі трэба адзначыць іх нязначнае эмацыянальнае напружанне, адсутнасць строгай падуладнасці верша актыўнай волі паэта. Здараецца гэта таму, што часамі Панчанка нядбайна адносіцца к вершу, павярхоўна і нядбайна зарыфмоўвае верш («работы—народаў», «апошні—зніштожыць», «крыштальнай—прывіталі», «народа—водгук»). Механічныя адносіны к вершу і няўменне трымаць свой паэтычны арганізм у творчым валявым напружанні жорстка адплачваюць за сябе. Так узнікае тая лірычна-«прыблізная» манера, якая, нажаль, умацавалася ў творчасці многіх нашых маладых паэтаў, што імітырые «задушэўнасць»,

Ці

На небе. Дожджык цёплы
Асеў у глыб травы.

А потым звон старанна
Гудзеў, і выў млынар... —

усё гэта вельмі нагадвае па характару страфы і рытма аналагічныя месцы з «Гарбуна» і «Людзі прагнуць».

У многіх месцах «Сувей» збіваецца на просты пераказ падзей замест іх адлюстравання, часта верш робіцца вельмі «газетным», малавобразным («Дакуль-жа будзем, братцы, прыгнечанымі жыць? Пара за стрэльбы брацца, пара паноў паліць!»)—а галоўнае, ва ўсёй паэме адсутнічаюць жывыя людзі з іх паводзінамі, свядомасцю, мовай. А гэтага ўжо даволі, каб сказаць, што паэма «Сувей» Панчанку не ўдалася.

Агульны вывад: зборнік «Упэўненасць»—добрая паэтычная кніга. У асобе П. Панчанкі беларуская совецкая паэзія набыла таленавітага, шпарка растучага лірычнага паэта.

---



АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 20-831**

## ЗМЕСТ

*Стар.*



---

Рэдактар *М. Лынькоў*.

Здана ў набор 17/I-39 г. Падпісана да друку 2/VII—39 г. Аб'ём $17^{3}/_{4}$ друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера $62 \times 94/_{16}$. Тыраж 4.900 экз. Зак. № 643
Уп. Галоўліта БССР № 414.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку.

